БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

# ПАЭТ І КАЗАЧНІК З АЗЁРНАГА КРАЮ

Яна Баршчэўскага нездарма называюць адным з самых першых сярод пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Ужо ў 1809 годзе вершамі на беларускай мове распачаў ён свой творчы шлях. На жаль, друкаваць гэтыя вершы не было дзе, бо ў яго часы не выходзіла ў нас ніводнага беларускамоўнага перыядычнага выдання, наогул не існавала яшчэ беларускага друку. Таму Ян Баршчэўскі вымушаны быў перайсці на польскую мову — тагачасную літаратурную мову Беларусі. Але і на гэтай мове ён праявіў сябе як шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны.

На выключна беларускі характар твораў Яна Баршчэўскага першы звярнуў увагу яго сучаснік, выдатны беларускі крытык, публіцыст і выдавец Рамуальд Падбярэскі. «Тое, што піша пан Баршчэўскі прозай, — зазначаў ён больш чым паўтара стагоддзя назад у артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі», — не датычыць непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але мае сувязь з нечым больш важным, а менавіта з духам і паэзіяй народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабою народ, часта з усёй прывабнасцю ягоных яшчэ паганскіх фантазій, якія апраменьвае сваім, так бы мовіць, беларускім гафманізмам. Як у баладах ён імкнуўся паказаць пачуццёвы бок паэзіі народа, так у апавяданнях — яго творчасць і нейкую філасафічнасць паняццяў пра быт, авеяных ягонай фантазіяй. У гэтых апавяданнях, якія памылкова называюць аповесцямі (але метафізічнасць выразу не мае значэння) , толькі адно ядро належыць простаму народу, увесь малюнак — фантазія аўтара, сатканая на аснове нацыянальных колераў».

І сапраўды, як ніхто раней, Ян Баршчэўскі здолеў выдатна паказаць у сваёй творчасці беларуса, раскрыць яго характар, расказаць пра родны край. Ён клікаў любіць і шанаваць сваю Плачку-Беларусь, не адракацца ад роднага беларускага народа. Пісьменнік верыў, што будзе і на вуліцы беларусаў свята. І як мог, набліжаў гэтае свята.

* * *

Нягледзячы на шматлікія намаганні даследчыкаў, год нараджэння Яна Баршчэўскага з поўнай дакладнасцю высветліць пакуль што не ўдалося. Адны з іх называюць 1790, другія — 1794, трэція — 1796 і 1797 гады. Аўтар гэтых радкоў на падставе знойдзеных дакументаў падаў у друку яшчэ адну дату — 16 снежня 1799 года. Але, як пераканаўча давёў Генадзь Кісялёў, гаворка ў тых дакументах ішла пра іншага Яна Баршчэўскага (Полымя. 1995, № 11). Такім чынам, пытанне пра год нараджэння пісьменніка застаецца адкрытым.

Паходзіў Ян Баршчэўскі з беднае беларускае шляхты. На падставе некаторых фактаў можна меркаваць, што ягоны бацька быў уніяцкім святаром у невялікай вёсцы ці засценку Мурагі на беразе возера Нешчарда (цяпер — Расонскі раён). Гэта дало магчымасць будучаму літаратару наладзіць спрыяльныя адносіны з езуітамі, якія апекаваліся уніяцкаю царквою. Так Ян Баршчэўскі апынуўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, пачаў спасцігаць там азы навук. Дапамогі ад бацькоў ён не меў, таму мусіў зарабляць на жыццё, выхоўваючы дзяцей заможных гаспадароў. Там, у калегіі, Ян Баршчэўскі праявіў сябе як паэт. Каханне да паненкі Максімавічанкі паспрыяла з'яўленню першага вядомага яго верша «Дзеванька», напісанага на беларускай мове ў 1809 годзе і апублікаванага толькі ў 1843 годзе, а таксама невядомай сёння паэмы «Пояс Венеры». А вось верш «Рабункі мужыкоў» Ян Баршчэўскі пісаў ужо будучы студэнтам Полацкае езуіцкае акадэміі: цар Аляксандр I у 1812 годзе, яшчэ да вайны з Напалеонам, падпісаў загад, згодна з якім Полацкая езуіцкая калегія пераўтваралася ў акадэмію.

Адолеўшы неўзабаве пасля вайны 1812 года шосты, перадапошні клас гэтай навучальнай установы, Ян Баршчэўскі атрымаў званне кандыдата акадэміі і збіраўся працягваць вучобу ў Віленскім універсітэце. Нават ужо накіраваўся ў Вільню, але ў апошні момант прыняў прапанову свайго знаёмага і заняўся гувернёрствам. Некалькі гадоў служыў ён у «шаноўных людзей», а ўвесну 1817 года падаўся ў сталіцу Расійскай імперыі — Санкт-Пецярбург. Там паэт уладкаваўся на дзяржаўную службу ў марскім ведамстве, што дало яму магчымасць пабываць у многіх краінах Еўропы, у тым ліку ў Англіі, Францыі, Фінляндыі. Але, як расказвае пра гэты перыяд жыцця паэта Рамуальд Падбярэскі ў згаданым артыкуле, «палымянае замілаванне да навукі і цалкам паэтычная натура, якая прымушала яго імкнуцца да незалежнага спосабу жыцця, былі прычынаю таго, што Баршчэўскі хутка пакінуў службу і зноў заняўся гувернёрствам. Даваў, такім чынам, урокі ў прыватных дамах Пецярбурга, а пасля ў некалькіх дзяржаўных установах... Больш за дзесяць гадоў Баршчэўскі выкладаў грэцкую і лацінскую мовы».

У 20-я гады ў жыцці Яна Баршчэўскага адбылася яшчэ адна надзвычай важная падзея: сустрэча ў Пецярбурзе з Адамам

Міцкевічам, які ўпершыню прыехаў туды 6 лістапада 1824 года і знаходзіўся ў сталіцы да 24 студзеня 1825 года. І хоць А. Міцкевіч меў пэўныя дачыненні з ліцвінска-беларускім зямляцтвам, перадусім з мастаком Юзафам Аляшкевічам, але хутчэй за ўсё з Я. Баршчэўскім сустрэцца ён мог толькі напрыканцы 20-х гадоў, калі, спрабуючы наладзіць выданне часопіса «Irys», прыязджаў і жыў у сталіцы імперыі з 6 снежня 1827 да 27 студзеня 1828 года, а таксама ў красавіку 1828 года, калі зусім перасяліўся ў Пецярбург, дзе знаходзіўся да 15 мая 1829 года — дня выезду за мяжу. У дзённіку Канстанціна Сербіновіча, калегі Я. Баршчэўскага па Полацкай езуіцкай акадэміі, занатаваны звесткі пра частыя кантакты абодвух суайчыннікаў. Пэўна, у часе аднае з сустрэчаў і меў месца факт, які прыгадаў у артыкуле-некралогу Юльян Барташэвіч: «Быў тады якраз у Пецярбурзе знакаміты аўтар «Конрада Валенрода» і «Гражыны», які раптам заззяў на небасхіле польскае паэзіі як зорка першае велічыні. Маладыя літаратары прыносілі Адаму плён свае працы, туліліся пад крылом вестуна. Баршчэўскі прынёс таксама сшытак паэзіі. І любіў потым паўтараць перад маладзейшымі, што аўтар «Гражыны» чытаў яго вершы, пахваліў іх і сваёй рукою паправіў некаторыя. Баршчэўскі захоўваў гэтыя аркушы як дарагую памятку. Праўкі, аднак, не закраналі саму паэзію — недасканаласць формы, а не духу папраўляў знакаміты мастак».

Перыпетыі жыццёвага шляху Я. Баршчэўскага другой паловы 30-х гадоў, апрача артыкулаў сучаснікаў паэта, зафіксаваны ў ягонай карэспандэнцыі да Юлі Корсак, якая жыла ў маёнтку Рудня каля Невеля.

Ліпень 1838 года Я. Баршчэўскі правёў на Беларусі, а ў Пецярбург вярнуўся 2 жніўня. І адразу заняўся сваімі абавязкамі. Літаральна праз некалькі дзён ён піша ліст да Юлі: «Калі я вяртаюся дадому на адпачынак, мае думкі лятуць далёка і толькі там хочуць быць, дзе могуць сустрэць погляд сястры ды пачуць яе гаворку».

Гэтым жа летам Я. Баршчэўскі пазнаёміўся на Невельшчыне з Юзафам і Аўстэрбертай Буйніцкімі, што звычайна жылі ў маёнтку Ігнаполле ці фальварку Панова, але зрэдчас прыязджалі ў Пецярбург. Шчырае сяброўства доўгі час будзе лучыць паэта з гэтаю сям'ёю. Тым больш, што прывязанасць да Буйніцкіх мела і Юля Корсак. З гэтага часу літаральна ў кожным лісце Я. Баршчэўскі згадвае сваіх новых знаёмых: ён то сустракаецца з Юзафам у Пецярбурзе, то дзякуе Юлі за ліст, перасланы праз Буйніцкага, то перадае прывітанне ў недалёкі ад Рудні фальварак Панова. Сяброўства з Буйніцкімі знайшло водгук і ў паэзіі: у часе сваіх прыездаў да іх Я. Баршчэўскі напісаў верш «Маламу Буйніцкаму» і санет «Для В.П. Буйніцкай».

У другой палове 30-х гадоў Я. Баршчэўскі не надрукаваў чамусьці аніводнага твора, хоць пісаў даволі многа, пра што сведчаць ягоныя лісты да Юлі Корсак, у якіх прысылаў ёй і свае вершы. На працягу 1837 — 1839 гадоў у шаснаццаці лістах іх было змешчана васемнаццаць — больш за 700 вершаваных радкоў. Сёе-тое будзе пазней надрукавана ў «Niezabudce», але большасць з іх так і застанецца ў неадшуканым да сённяшняга дня рукапісным архіве Яна Баршчэўскага. Напрыклад, вершаваная аповесць пра напад татараў, што «можа заняць сем і болей аркушаў», толькі пачатак уступу да якое паэт надрукаваў у трэцім томіку свайго альманаха.

Напрыканцы 30-х — пачатку 40-х гадоў Я. Баршчэўскі сустракаўся ў Пецярбурзе з Тарасам Шаўчэнкам. Перадусім, у нас няма падстаў не верыць вядомаму бібліяфілу ды калекцыянеру Рамуальду Зямкевічу, які, маючы архіў літаратара сярэдзіны XIX стагоддзя Ігната Легатовіча, у адной з сваіх публікацый у «Нашай Ніве» (1911. № 8) пераказвае ліст Вінцэнта Газдавы-Рэвута: «Першым з украінцаў, каторы зацікавіўся пачаткамі беларускага літаратурнага адраджэння, быў вялікі Кабзар Украіны Т. Шаўчэнка. Жывучы ў Пецярбурзе, пазнаёміўся Шаўчэнка ў 1839 гаду з беларускім пісацелем Я. Баршчэўскім. Каля Баршчэўскага сабраліся тады і другія беларусы, і вось яны пад уплывам Баршчэўскага сталі цікавіцца беларушчынай і пастанавілі друкаваць свае творы. Шаўчэнка пазнаёміўся з усімі гэтымі беларусамі, прасіў іх, каб чыталі яму свае беларускія творы, і асабліва зацікавіўся народнымі беларускімі песнямі. Адзін з маладых беларусаў, Р. Падбярэскі, знаў многа песень; ён прапяяў іх Шаўчэнку і апроч таго чытаў яму ўсе беларускія творы Баршчэўскага і пераклад Манькоўскага ўкраінскай «Энеіды» Катлярэўскага. Шаўчэнку народныя песні спадабаліся, штучныя літаратурныя творы беларускіх пісацеляў ён крыху пакрытыкаваў, кажучы, што ў іх мала чыста народнага элементу. Аб «Энеідзе» Манькоўскага Шаўчэнка заўважыў, што гэты твор мае найбольш чыста беларускага элементу і што дзеля таго ён найбольш цікавы для яго. Пасля гэтага Шаўчэнка заахвочваў беларусаў, каб не пакідалі сваёй працы для народу, бо гэта іх абавязак, а праца іх, нягледзячы на цяжкія варункі, не прападзе дарма, і сляды гэтай працы застануцца. Вось і ўсё, што вядома нам аб Шаўчэнку. Ведамасці гэтыя мы маем з прыватнага ліста Вінцука Рэвута да Легатовіча».

Як пацвярджэнне факта сустрэч Я. Баршчэўскага з Т. Шаўчэнкам можа служыць тое, што ў сярэдзіне 40-х гадоў XIX стагоддзя Р. Падбярэскі меў пэўныя кантакты з украінскім Кабзаром. Таксама і ідэйна-тэматычная накіраванасць творчасці Яна Баршчэўскага шмат у чым пераклікаецца з паэзіяй Т. Шаўчэнкі.

Увосень 1839 года пецярбургскія студэнты, што паходзілі з Беларусі, Літвы і Польшчы, заснавалі свой друкаваны орган. Назвалі

яго — «Niezabudka», як напамін пра родны край. Яны звярнуліся да Яна Баршчэўскага з просьбаю прыняць на сябе абавязкі выдаўца альманаха, бо ў царскай Расіі студэнты не мелі права займацца камерцыйнай дзейнасцю. У выніку з'явілася паведамленне ў № 84 (15 лістапада) «Tygodnika Petersburskiego» за 1839 год: «Хутка будзе аддадзены ў друк альманах «Niezabudka». Выдавец Ян Баршчэўскі, які вядомы дасюль толькі ў коле знаёмых ды прыяцеляў, цешыць сябе думкаю, што чытацкай публіцы спадабаецца, з якім густам зроблены ў ім падбор твораў». І паэт, апрача сваёй штодзённае выкладчыцкае працы, клапатліва ўзяўся за збіранне падпіскі. Ён меў шмат знаёмых у Пецярбурзе, нават сярод арыстакратаў, але асабліва шырокія сувязі былі ў яго на Беларусі. Сярод падпісчыкаў на зборнік мы бачым імёны Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Рамуальда Падбярэскага, кампазітара Антона Абрамовіча. (На другі томік падпішацца Адам Міцкевіч, які знаходзіўся тады ў эміграцыі.) Шмат дапамагае Яну Баршчэўскаму Юля Корсак ды Гаўдэнты Шапялевіч: яны знаходзяць на Невельшчыне і Полаччыне шматлікіх будучых чытачоў пецярбургскага альманаха.

Напрыканцы лютага 1840 года «Niezabudka» выйшла з друкарні Кароля Края і шчаслівы выдавец адразу ж дасылае яе асобнікі вядомым польскамоўным літаратарам Міхалу Грабоўскаму ды Юзафу Ігнату Крашэўскаму, спадзеючыся пачуць іхнія водгукі: усё ж пяць сваіх твораў паэт упершыню аддаў на суд чытацкае публікі. І хоць асаблівае пахвалы Я. Баршчэўскі не дачакаўся, аднак прыязна ацэненая Тамашом Буцельскім з Масквы ды Ю. Крашэўскім «Niezabudka» атрымала санкцыю на далейшае існаванне.

Калі для першага томіка студэнцкіх твораў было дастаткова, дык другі не выратоўвалі ні 16 — Вінцэнта Давіда, ні 7 — выдаўца. Патрэбны былі маладыя, перадусім, невядомыя нікому літаратары. Дык Я. Баршчэўскі звяртаецца да сваіх знаёмых на Беларусі ды ў Пецярбурзе з просьбаю напісаць штокольвечы для ягонага альманаха. Асабліва ўдала атрымалася з Людвікам Штырмерам, пачынальнікам псіхалагічнае прозы ў польскай літаратуры. Вось успаміны пра гэта жонкі Людвіка Элеаноры Штырмер: «Выдавец пецярбургскага альманаха п. Баршчэўскі быў нашым штодзённым госцем і прыяцелем. Не ведаю, адкуль яму прыйшла думка прасіць мяне напісаць які-небудзь артыкул у альманах. Мой муж, будучы сведкаю ягонае просьбы, а мае адмовы, сказаў жартам: «Будзь спакойны, Баршчэсю, даю табе слова, што будзеш мець аповесць». Сапраўды, з'явіўся «Пантопель». Аповесць мела поспех...». Дзякуючы творам Л. Штырмера, альманах збіраў значную колькасць падпісчыкаў, а ягоны выдавец меў заробак. Сам Л. Штырмер тлумачыў Ю. Крашэўскаму, што толькі жаданне прыйсці на дапамогу Яну Баршчэўскаму схіліла яго да напісання сваіх твораў: «Вядома Пану, што альманах — гэта цыстэрна для няспелых літаратурных

задум, у якіх, аднак, трэба цаніць добрыя жаданні моладзі ды чыстыя яе памкненні. Скажу таксама Пану, што высакародны Баршчэўскі апрача альманаха не мае (як мне здаецца) іншага заробку, каб мець на пражыццё ў сталыя гады. Ведаючы яго здаўна, лічу сваім абавязкам быць яму, паводле мае мажлівасці, карыснаю (ліст Людвік Штырмер піша ад імя свае жонкі Элеаноры. — *М.Х.*). Вось найважнейшая прычына, дзеля якое перамагаю сваю нясмеласць ды ляноту да пісання і, як Пан мовіш, на 24 гады аддала свае працы п. Баршчэўскаму... Трэба было ўсяе мужчынскае ды настаўніцкае адвагі майго мужа (бо ён запаліў першую паходню ў цемры мае галавы), трэба было такога, даўно знаёмага, такога цярплівага ды настойлівага чалавека, як п. Баршчэўскі, каб прымусіць мяне ўзяць пяро ў руку. Пасля напісання «Пантопля» дванаццаць месяцаў я асцерагалася падобнага граху, пакуль высакародны старац зноў мяне не збаламуціў».

Аповесць Людвіка Штырмера — найбольш цікавая публікацыя «Niezabudki», але і творы самога Яна Баршчэўскага дастаткова высокага ўзроўню.

У чэрвені 1842 года Я. Баршчэўскі адпачываў у сваёй любімай Рудні, фальварку Гаўдэнтага Шапялевіча і Юлі Корсак, а ў Пецярбург вяртаўся праз Полацак і Асвею. Гэтае сваё падарожжа ён выкарыстоўвае дзеля збору падпіскі на «Niezabudkę», дзеля сустрэчаў з сябрамі ды новых знаёмстваў. Так, у Асвеі паэт знаёміцца з Валяр'янам, Клеменсам і Юльянам Грымалоўскімі ды Казімірам Буйніцкім, беларускімі літаратарамі, што рыхтавалі да выдання альманах «Rubon».

У Пецярбурзе Ян Баршчэўскі адразу ж пачынае клапаціцца пра трэці томік «Niezabudki»: Вінцэнт Давід, галоўны ініцыятар і рэдактар выдання, закончыўшы ў 1841 годзе універсітэт, вярнуўся ў Варшаву, таму цяпер увесь цяжар рэдактарскае ды выдавецкае працы кладзецца на паэта. Дапамагае яму Станіслаў Аўгуст Ляховіч, які пісаў да Ю. Крашэўскага: «Niezabudka» цалкам перайшла пад рэдакцыю Баршчэўскага і апынулася на новай дарозе. Тое, што гэтая новая дарога давядзе яе да заняпаду — няма нічога больш пэўнага. (...) Баршчэўскі неспадзявана ды міжволі неяк, без аніякіх літаратурных прынцыпаў рэдагуе гэты альманах, напіхваючы яго ўласнымі вершамі, якіх і ў тым годзе было шмат у рукапісе «Niezabudki», а што не ўбачылі яны свету — чытач абавязаны толькі мне, апошняму з даўніх супрацоўнікаў, спадкаемцу Давіда. Але і так з прычыны ўпартасці выдаўца засталося іх вельмі многа. Грахоў гэтых не бяру на сябе» (Рукапісны аддзел Ягелонскае б-кі ў Кракаве. Сігнатура 6457 IV. Арк. 12. Ліст С.А. Ляховіча да Ю.І. Крашэўскага).

Вядома, С. А. Ляховіч быў незадаволены, што альманах перайшоў не да яго, «спадкаемца Давіда», а да Яна Баршчэўскага.

Вось і выказвае крыўды Ю. Крашэўскаму, адгароджваецца ад «слабых» твораў паэта. Але акурат гэтыя «слабыя» вершы ды балады Я. Баршчэўскага прыцягваюць увагу Міхала Грабоўскага, уплывовага тагачаснага крытыка і эстэтыка: «Балады паэта заснаваныя на народных беларускіх традыцыях, гэтыя традыцыі маюць сваю прыгажосць і не варта перапісваць іх на ўзор літаратурных баладаў, а лепей бы даць у першапачатковай чысціні» (Tygodnik Petersburski. 1842. № 46).

Не адзін М. Грабоўскі бачыў недахопы паэзіі Я. Баршчэўскага. Пецярбургскія сябры і знаёмыя ўжо даўно настойвалі, каб ён заняўся больш адпаведнаю працаю. Асабліва Л. Штырмер, І. Галавінскі ды Р. Падбярэскі. Апошні, прыехаўшы ў маі 1841 года ў Пецярбург, хутка наладзіў стасункі з мясцовымі літаратарамі. Больш за тое, ён робіць спробы актывізаваць літаратурнае жыццё ў сталіцы імперыі. Асабліва ўдала атрымалася з гуртком беларускае інтэлігенцыі: беларусаў Р. Падбярэскі як «сусед-зямляк» заахвочвае да творчасці, заклікае болей паказваць народны дух; урэшце, звяртае ўвагу на адметнасць ды самабытнасць беларускага краю і люду. Жаданне стаць выдаўцом альманаха ці часопіса вымушала яго прасіць творы ў слынных польскамоўных пісьменнікаў — Ю.Крашэўскага, М. Грабоўскага, Г. Ржавускага ды інш. Я. Баршчэўскі не ўваходзіў у іх лік, але Р. Падбярэскі знаходзіць, якім чынам выкарыстаць і яго: «Пан Баршчэўскі заняўся больш адпаведнаю для сябе працаю: ён узяўся за апісанне ўсіх класаў пецярбургскага грамадства, у яго ёсць цікавы артыкул пра літаратурныя суполкі. Ён заўсёды мае на мэце нашых землякоў, а беларусам дасталося больш за ўсіх — ужо ў палове твора. Сама душа Баршчэўскага праяўляецца на кожнай старонцы, але шкада, што праца ягоная не шмат мае прывабнасці, бо пэўна, толькі вершам умее пісаць. Аднак гэтая асаблівасць не перашкаджае маляваць сцэны найарыгінальнейшым спосабам, зусім не простым. Для мяне ён піша «Нарысы Беларусі», бо не ведаю, ці ёсць дзе другі чалавек, які б так усебакова ведаў Беларусь. Калі ёсць, дык гультай які, не здольны да пяра. Адкрыўшы гэту якасць у Баршчэўскім, я стараўся адвабіць гэтага 50-гадовага дзядульку ад вершаскладання. А гэта — найпрыстойнейшы арыгінал. Рукапіс ягоны называецца «Пан Тузальскі», твор, у якім выявіўся ўвесь Баршчэўскі са сваёй паэзіяю, розумам, практычнай дасведчанасцю і разуменнем свету. Ён мае дзве заслугі: знаходка таленту п. Штырмер і напісанне «Тузальскага», у якім паказаў самабытнасць сваіх землякоў. Тут ёсць і мая не апошняя роля, бо абудзіў ад сну лайдака» (Рукапісны аддзел Ягелонскае б-кі ў Кракаве. Сігнатура 6457. Арк. 244. Ліст Р. Падбярэскага да Ю.І. Крашэўскага).

Пра надзвычай напружаную творчую працу Яна Баршчэўскага канца 1841 — пачатку 1842 гадоў знаходзім звесткі ў лістах да

Ю. Корсак: «Цяпер я вельмі заняты: апрача карэктуры альманаха «Niezabudka» пішу «Нарыс Паўночнае Беларусі» для «Дзённікаў» пана Падбярэскага; да таго ж літаратурныя вечары, на якіх бываю ў асобных рускіх выдаўцоў, ладзяцца так часта і доўжацца часам да трэцяе гадзіны пасля поўначы, што вельмі стамляюць» (ліст ад 28.01.1842 г.).

Відаць, Я. Баршчэўскі ўжо пакінуў невыносную для яго выкладчыцкую працу, цалкам прысвячае сябе літаратуры ды знаёміць сяброў са сваімі творамі. Невыпадкова ксёндз Ігнат Галавінскі, што добра ведаў свайго парафіяніна, у лісце да М. Грабоўскага напіша: «Пан Баршчэўскі паўстае перад намі самым дасканалым выразнікам простанароднае фантастычнасці ды звычаяў беларускага народа. Я ўпэўнены, што ён не саступіць Сапліцы (Апавядальнік у гістарычным рамане Г. Ржавускага «Успаміны Сапліцы» — *М.Х.*). Пачаў ён прозай пісаць аповесці: не магу табе перадаць сваё вялікае ўражанне. Усё там выканана па-майстэрску пад выглядам найвялікшае прастаты. Гэта не збіральнік народных паданняў; у яго ёсць усе патрэбныя ды незвычайныя для гэтага ўмовы. Шчыры беларус, не цяпер, а з самага дзяцінства правёў ён усё жыццё з народам. Яго твар, загарэлы, не кабінетны, гаворыць, што гэта — чалавек дзеяння, не спекуляцыі; выхоўваўся ён у езуітаў, але гэта не пазбавіла яго пачуцця і прастаты; поўны глыбокай веры ў тое, пра што піша, а гэта немалая вартасць, бо з верай кожнае апісанне непараўнальна жывейшае ды праўдзівейшае; Беларусь ён ведае дасканала, бо разоў трыццаць абышоў усю яе пешшу і цяпер штогод наведваецца на Радзіму з Пецярбурга, і ўсюды ён там жаданы, усюды яго міла прымаюць, бо як бард таго краю апавядае няспынна — показкі, аповесці сыпле як з рукава. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў, амаль нічога свайго не дадае, а ўсё — яго ўласнасць: голая казка не мела б аніякае вартасці, але ён аздабляе яе іншымі паданнямі, дасканала драматызуе, і раптам вырастае нешта суладнае, поўнае простанароднае праўды і самага сапраўднага жыцця. Я ведаю адно апавяданне «Пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем». А будзе гэта збор апавяданняў на якія чатыры томікі, накшталт «Тысячы і аднае ночы», але з далёка лепшаю завязкаю, бо яна ўзята з рэчаіснасці. На вялікім возеры Некарысцень ёсць маленькі астравок; там жыў досыць заможны шляхціц; калі зімою замерзне возера, дык едуць па ім людзі, каб скараціць шлях; а з прычыны частых завірухаў сяляне ды падарожныя блудзяць, дык ён вывешвае на жэрдцы ліхтар, каб людзі маглі знайсці ягоную хату; усіх ён прымае бясплатна, але хоча, каб яму баялі казкі, бо толькі так прызвычаіўся засынаць. Гэта завязка, згодна з якою падарожныя адзін за адным апавядаюць рознымі вечарамі казкі. Выдатна і сябе паказаў там аўтар: ён прыехаў на Каляды з езуіцкіх школ ды таксама мусіць апавядаць байкі,

але іх не ведае, дык пераказвае «Адысею». І, ведаеш. меркаванні шляхціца пра тыя паганскія казкі слаўныя ды пададзены з адпаведнага боку. Казка пра «Цмока» — гэта сапраўдная паэма, заснаваная на глыбіннай практычнай філасофіі. Я мог бы пераказаць табе яе змест, але не хачу пазбаўляць цікавасці. Кранула мяне першнаперш сцэна сялянскага вяселля, поўная дзівосаў, праўды, а таксама апісанне жахаў, вельмі драматычнае, майстэрскае. Мова зусім простая, не польская, а беларуская — у кожным слове быццам чуеш беларуса. Малюнкі краявідаў простыя, але чароўныя, маляўнічыя ды праўдзівыя. Словам, вялікі скарб атрымае наша літаратура, калі выйдзе колькі томікаў такіх выдатных апавяданняў, як гэтае. Друкавацца яны будуць з малюнкамі ў Пецярбурзе» (Pielgrzym. 1843. T. II. Czerwiec).

Увосень 1842 года, вярнуўшыся з падарожжа на Беларусь, паэт зноў заглыбляецца ў творчыя клопаты. Яму больш даспадобы засяроджвацца на сваіх думках, чым «быць на літаратурных вечарах і часта сядзець да трэцяе гадзіны пасля поўначы, слухаючы лухту розных разумнікаў» (ліст да Ю. Корсак ад 20.12.1842 г.). Прыязныя адносіны з Р. Падбярэскім спрыяюць таму, што выдавец «Rocznika Literackiego» ў першы томік свайго альманаха ўключае артыкул Я. Баршчэўскага «Нарыс Паўночнае Беларусі», а таксама і ягоны партрэт: «Пан Жукоўскі намаляваў мяне ў нейкім рамантычным стылі. Я стаю ля ракі Нява, у капелюшы, засяроджаны ў думках, абапёршыся на прыбярэжны граніт; перада мною ўзносяцца вежы сталіцы. Пэўна, гэты сюжэт ён запазычыў з майго апісання Беларусі, дзе я згадваю, што мае думкі часта адлятаюць ад берагоў Нявы да роднае зямлі, дзе столькі мілых успамінаў. А партрэт мой (...) занадта прыхарошаны і таксама мала падобны, бо (...) ён маляваў па памяці» (ліст ад 20.12. 1842 г.).

Пра «Нарыс...» захоплена выказаўся М. Грабоўскі, прапануючы выкарыстаць яго ў якасці ўступу да зборніка фантастычных апавяданняў: « У «Нарысе Паўночнае Беларусі», дзе, прынамсі, малюнак краю, здалося нам, выкананы выключна таленавіта і з пачуццём, бачым мы ўступ да тых фантастычных апавяданняў, заснаваных на паданнях ці, хутчэй, на забабонах беларускага люду, якія, паводле прыватных паведамленняў, могуць абудзіць цікавасць. Яшчэ ў мінулым годзе, кажучы пра «Niezabudkę», я раіў п. Баршчэўскаму, каб даў нам адно змест сваіх баладаў, і цяпер паўтараю, каб паданні, нават апрацаваныя вершам, перадаў прозаю. Спадзяюся, што ў творы, пра якія нам паведамлена і якія, здаецца, будзе называцца «Апавяданні беларуса Янкі», убачым у дзеянні тыя малюнкі народнае беларускае фантазіі, якія гэтым разам у агульны толькі абраз звёў аўтар «Нарыса...» (Tygodnik Petersburski. 1843. № 54).

У тым жа томіку «Rocznika Literackiego».Р. Падбярэскі змясціў два беларускамоўныя вершы Я. Баршчэўскага — «Ах, чым жа твая,

дзеванька, галоўка занята?» і «Гарэліца» — з нотамі Антона Абрамовіча. Праўда, пададзены яны як народныя песні: пэўна, з-за цэнзуры выдавец не адважыўся яшчэ павесці гаворку пра літаратуру на малавядомым «наречии».

У чацвёртым томіку «Niezabudki» Я. Баршчэўскі надрукаваў чатырнаццаць сваіх твораў, рэцэнзуючы якія, Гервазы Бомба (псеўданім Людвіка Штырмера) палічыў неабходным падкрэсліць: «Пра балады з беларускіх паданняў слушна сказаў п. М. Граб..., што лепш было б іх не рыфмаваць, а даць у той арыгінальнай прастаце, у якой між людам кружляюць (...). Смела выказваем гэтую думку пра вершаваныя творы п. Б., бо мелі мажлівасць чытаць ягоную празаічную аповесць паводле беларускіх паданняў пад назвай «П. Завальня», якая (калі толькі будзе крыху прыгладжана) забяспечыць яму знакамітае месца ў нашай літаратуры» (Tygodnik Petersburski. 1843. № 61).

Літаратурная грамадскасць чакала шырока разрэкламаванага твора, а Я. Баршчэўскі не спяшаўся пускаць яго ў людзі, хоць Р. Падбярэскі яшчэ ў 1843 годзе меў намер выдаць «Шляхціца Завальню». Аднак да студзеня 1844 года выдаць кнігу не ўдалося, бо толькі вясною1844 года быў завершаны першы томік.

А сам Я. Баршчэўскі ў гэты час мог трапіць у бяду. Вінцэнт Давід, былы рэдактар альманаха «Niezabudka», у 1843 годзе быў абвінавачаны ў Варшаве ў напісанні забароненых вершаў. Змушаны, відаць, следчымі, ён залішне шчыра апавядаў пра патрыятычныя настроі ў асяроддзі палякаў ды беларусаў у Пецярбурзе і пра асабліва значную ролю ў жыцці зямляцтва Я. Баршчэўскага: «А больш за ўсё захапляў мяне Баршчэўскі» (Rewolucyjna konspiracja w Królewstwie Polskim w latach 1840 — 1845. Edward Dembrowski. Wrocław, 1981. S. 294). Гэта ён увёў В. Давіда ў дамы выхадцаў з заходніх губерняў імперыі: « А калі Баршчэўскі пазнаёміў мяне з Абрамовічамі, а пазней з домам Асташкевічаў, я нібы акунуўся ў памыі дурнога патрыятызму. Калі прыходзіў хто незнаёмы, не рэкамендавалі мне яго інакш, толькі як добрага патрыёта, а ён адразу выкладваў мне ўсё, што ведаў. Фатальныя вершы, якія мне даў Казлоўскі, абудзілі ў мяне жаданне патрыятычнае творчасці, тым больш, што мне заўсёды прапаноўвалі новыя вобразы то калегі, то Абрамовічы сваімі апавяданнямі ды показкамі» (тамсама. С. 299). Гэтыя прызнанні В. Давіда выдатна характарызуюць атмасферу, у якой жыў і якую нават ствараў Я. Баршчэўскі. І толькі дзякуючы нейкай шчаслівай акалічнасці ён не быў арыштаваны, хоць жандары звычайна пільна сачылі за пецярбургскімі палякамі ды беларусамі.

Мажліва, пазбегнуць непрыемнасцяў паэт змог таму, што ўлетку 1843 года зноў паехаў на Беларусь, каб сустракацца з сябрамі, распаўсюджваць чацвёрты і збіраць падпіску на пяты томікі «Niezabudki». Вярнуўшыся 18 жніўня ў Пецярбург, ён заняўся аль-

манахам, «карэспандэнцыяй, а вечарамі — аповесцямі» (ліст да Ю. Корсак ад 10.09.1843 г.). Па просьбе Ю. Крашэўскага восенню 1843 года Я. Баршчэўскі даслаў у «Athenaeum» адно апавяданне («Пра Чарнакніжніка і пра Цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем»), якое было надрукавана ў першым томе часопіса за 1844 год пад назвай «Шляхціц Завальня». А вось для свае «Niezabudki» на 1844 год пісьменнік падрыхтаваў яшчэ адзін твор — аповесць «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта». Відаць, напісаўшы шэраг апавяданняў, ён вырашыў тэматычна падзяліць іх на два творы: адзін з іх спадзяваўся выдаць асобна, а другі — прызначыў для свайго альманаха. Праўда, непрыхільная крытыка аповесці невядомым рэцэнзентам «Niezabudki», а таксама тое, што Я. Баршчэўскі перастаў выдаваць альманах, сталі прычынаю таго, што працяг «Драўлянага Дзядка і кабеты Інсекты» з'явіўся толькі ў 1847 годзе ў «Rubonie» Казіміра Буйніцкага.

Актыўная творчая праца Я. Баршчэўскага была ў полі зроку Р. Падбярэскага: для другое кніжкі «Rocznika Literackiego» (1844) ён атрымлівае ад пісьменніка «Успаміны пра наведванне роднага краю», заўвагі да публікацыі якіх сведчаць пра ягоную дасведчанасць у справе падрыхтоўкі «Шляхціца Завальні»: «Гэта вынятка з вялікага твора, у якім малюецца Беларусь, пад назвай «Шляхціц Завальня, або Аповесці беларускага люду, пададзеныя ў яго фантастычных уяўленнях».

Пяць гадоў выдаючы альманах «Niezabudka» па падпісцы, Я. Баршчэўскі так і не здолеў сабраць грошай, каб выдаць свой галоўны твор. «Niezabudka» яго карміла» (Р. Падбярэскі), але прыбытку не прынесла. Аб'явіць падпіску на шматтомнае выданне Я. Баршчэўскі не адважыўся, дык мусіў шукаць выдаўца для свайго твора. Ім стаў Ян Эйнерлінг, які закончыўшы выдаваць творы М. М. Карамзіна, за свае сродкі ўзяўся друкаваць апавяданні свайго знаёмца яшчэ па Полацкай езуіцкай акадэміі. У лістападзе 1844 года выходзіць першы томік, а ў газетах з'яўляюцца абвесткі наступнага зместу: «У класічнай кнігарні (яна належала Яну Эйнерлінгу. — *М.Х.*) на Неўскім праспекце, у доме лютэранскае царквы св. Пётры на трэцім паверсе (сходы, дзе цукерня Дамeніка) наступны новы твор п. Яна Баршчэўскага — «Беларусь у фантастычных апавяданнях» — будзе выходзіць томікамі, такімі ж як і першы, кожны з якіх будзе каштаваць 50 кап. срэбрам. Перад Новым годам я маю намер выдаць 2-гі томік, перад месяцам маем — 3-ці, а ў снежні — чацвёрты і так увесь твор завяршыць. Ян Эйнерлінг».

Другі томік «Шляхціца Завальні», як і абяцаў выдавец, выйшаў перад новым 1845 годам, а вось далей пайшло не так гладка. Выдаўшы ў другой палове 1845 года трэці томік, Ян Эйнерлінг перадаў справу Я. Баршчэўскаму, мажліва, каб той меў які заробак перад сваім ад'ездам з Пецярбурга. Зрэшты, маглі быць і нейкія

непаразуменні між былымі школьнымі сябрамі, у выніку чаго іхняе супрацоўніцтва спынілася . На такую думку наводзіць той факт, што чацвёрты томік «Шляхціца Завальні» выйшаў пасля 22 сакавіка 1846 года не ў друкарні Кароля Края, як папярэднія (а таксама пяць томікаў альманаха «Niezabudka»), а ў Эдварда Праца.

Р. Падбярэскі, змушаны акалічнасцямі адмовіцца выдаваць «Шляхціца Завальню», не адмовіўся ад супрацоўніцтва з Я. Баршчэўскім. 8 верасня 1844 года ён завяршае вялікі артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі» — фактычна першы нарыс беларускае літаратуры новага часу.

Яшчэ да выхаду «Шляхціца Завальні» з друку крытыка горача вітала новы твор Я. Баршчэўскага. Але толькі Р. Падбярэскі здолеў даць (наколькі гэта было мажліва ў падцэнзурным артыкуле) грунтоўную і аб'ектыўную характарыстыку кнігі пісьменніка. Іншыя рэцэнзенты звычайна звярталі ўвагу толькі на асобныя аспекты творчасці Я. Баршчэўскага. Вядомая тагачасная пісьменніца рэлігійна-кансерватыўнага кірунку Элеанора Зяменцкая адзначыла: «Вобразы ўсіх гэтых апавяданняў — дакладна народныя, маркотныя, чуллівыя ў сваёй прастаце. Табе здаецца, што ты з гэтым людам, што ты дзеліш перасцярогі, радасць і гора, якія па чарзе праходзяць у гэтым наіўным апавяданні. Так, паўторым, Ян Баршчэўскі — гэта з'ява, вартая найвялікшае ўвагі» (Pelgrzym. 1845. T. I. S. 205).

Ідэйная канцэпцыя кнігі Я. Баршчэўскага ўжо тады выклікала пэўнае непрыняцце асобнымі па-прапольску настроенымі публіцыстамі. Напрыклад, Вінцэнт Пракаповіч рашуча запярэчыў аўтару: «П. Баршчэўскі, злоўжываючы сваім становішчам між намі і людам, частуе нас сяды-тады апавяданнямі, якія маюць выразна іншы характар, чым народны. Гэта яго ўласныя творы, што з'яўляецца перш-наперш святатацтвам, бо народныя паданні — нешта святое, пакінутае нам мінуўшчынаю, а яны, паўтару, — непрыемная неспадзяванка чытачу, якога адштурхоўвае ад іх адсутнасць мастацкасці... Гэта такія, як «Сын Буры», «Пакутны Дух», «Белая Сарока» ды іншыя» (Tygodnik Petersburski. 1845. № 74). Польскія літаратуразнаўцы, што жадалі бачыць у творы беларускія фальклорныя матывы, а таксама знайсці ў падтэксце выяўленне польскага (ці рэчыпаспалітаўскага) патрыятызму, былі расчараваны: беларускі рэгіянальны патрыятызм Я. Баршчэўскага быў цалкам пазбаўлены агульнапольскіх пачуццяў. «Шляхціц Завальня», наскрозь прасякнуты беларускасцю, так і не стаў здабыткам польскае літаратуры.

Закончыўшы выдаваць «Шляхціца Завальню», Я. Баршчэўскі недзе ўвосень 1846 года назаўсёды пакідае «паўночную сталіцу». Ю. Барташэвіч, які інфармацыю пра апошнія гады жыцця пісьменніка атрымаў ад Генрыка Ржавускага, аб прычынах пераез-

ду кажа так: «Апрача Беларусі, Баршчэўскі зусім не ведаў іншыў ваяводстваў даўнейшае Рэчы Паспалітае. Настаўніцкая праца яму ўрэшце надакучыла, і ён захацеў на старасці адпачыць. Літаратар з шырока ўжо вядомым імем, ён марыў пабачыць іншыя куткі роднае зямлі. Выказаў гэтае жаданне пані графіні Юлі Ржавускай, якая якраз выпраўлялася з Пецярбурга ў свае маёнткі на Валыні. Баршчэўскі быў ужо колькі гадоў у доме графіні амаль сваім чалавекам. Пані Ржавуская вельмі ўзрадавалася і запрасіла яго з сабою ў Цуднаў».

Па дарозе на Валынь Я. Баршчэўскі наведаўся ў Рудню, каб яшчэ раз сустрэцца з Юляй Корсак ды пакланіцца магіле Гаўдэнтыя Шапялевіча. Меў ён таксама нейкія справы ў Вільні ды іншых мясцінах Беларусі. Урэшце спыніўся ў Цуднаве (сёння г. Чуднаў) у доме графаў Ржавускіх. Прыязныя адносіны гаспадароў, наяўнасць вольнага часу дазволіла Я. Баршчэўскаму вандраваць па наваколлі, сустракацца са старымі ды новымі знаёмымі, сябрамі. Відаць, у часе адной з такіх вандровак пісьменнік наведаў маёнтак Аляксандра Грозы Салагубаўку. Літаратары маглі сустракацца і раней. Перадусім, напачатку 40-х гадоў, калі А. Гроза стала жыў на Беларусі, а Я. Баршчэўскі штолета прыязджаў з Пецярбурга на Бацькаўшчыну. Але якраз цяпер Я. Баршчэўскі стаў для гаспадара Салагубаўкі нечаканым госцем. Іхняя сустрэча, апавяданні Я. Баршчэўскага пра сваё юнацтва, а таксама творы беларускага пісьменніка натхнілі А. Грозу на напісанне фантастычнае аповесці «Нечаканы госць», вытрыманай у стылі «Шляхціца Завальні». А вось вандроўка ў мястэчка Янушполь і знаёмства з Францам Савічам (ці, хутчэй, з людзьмі, якія ведалі яго) ужо самога Я. Баршчэўскага падахвоціла напісаць аповесць «Душа не ў сваім целе».

«Усюды, куды ён прыходзіў, яго міла прымалі і ён гасцяваў па колькі дзён і тут і там, — пісаў Юльян Барташэвіч у артыкуле «Ян Баршчэўскі». — То вучыў панскіх дзяцей, то гутарыў з бацькамі. Не ленаваўся працаваць, заўсёды быў здаровы і бадзёры. Нарэшце, вясковы спакой і свабода перамаглі. Калі пані Ржавуская вярталася ў Пецярбург, Баршчэўскі ўжо не хацеў з ёю ехаць; так упадабаў Цуднаў і жыхароў гэтае ваколіцы, што марыў назаўсёды застацца ў вясковым доміку графіні, хацеў пражыць тут рэшту жыцця і нават памерці ў гэтым шчаслівым вясковым кутку. (...) Толькі аднойчы з'ездзіў ён з Цуднава ў Адэсу, а астатні час бавіў у Кёлераў. (...) У студзені гэтага года ён смяртэльна занядужаў. Сумны канец прадбачыў Кёлер і сам Баршчэўскі. Поўны веры, праз увесь час хваробы аўтар «Завальні» думаў толькі пра Бога. Колькі разоў спавядаўся і прымаў Цела Збавіцеля. У дзень перад смерцю сам папрасіў пра апошняе памазанне Святым Алеем і прыняў гэты сакрамант у поўнай свядомасці, пасля чаго ўсё больш і больш пачаў слабець. Графіня Ржавуская і Кёлеры былі пры ім да апошняе хвіліны. Уладальніца Цуднава падала яму апошні кубак пітва, а

праз дзве гадзіны Баршчэўскі сканаў на руках у Кёлера — 11 сакавіка 1851 года.

Чатырнаццатага сакавіка Баршчэўскага пахавалі на могілках у Цуднаве. Канстанцін Піятроўскі спрыяў таму, каб гэты сумны абрад меў адпаведную ўрачыстасць. Яму належыць падзяка ад літаратурнае брацііi».

* * *

Славу «вершапісца» Я. Баршчэўскі займеў у Полацкай езуіцкай калегіі. «Там пры кожнай урачыстасці выступаў ён з вершам, арацыяй, так што была гэта постаць святочная, урачыстая, якую няраз узнімалі да годнасці лаўрэата. Вось тады ён напісаў знакамітую паэму «Пояс Венеры», у якой наракаў на адсутнасць кахання ў навейшыя часы і, прыгладзіўшы яе на класічны ўзор, атрымаў воплескі ад сваіх таварышаў», — расказвае Р. Падбярэскі. Ю. Барташэвіч пры напісанні некралога пра Я. Баршчэўскага шырока выкарыстоўваў, пераказваў артыкул Р. Падбярэскага, але часта дапаўняў яго сваімі ўспамінамі: «Не толькі ў школе, але і на вёсцы ў бацькоў ці ў засценках у суседзяў, у свята альбо на ўрачыстасць, на вакацыях вылучаўся ён сваімі паэтычнымі здольнасцямі. (...) А часам, калі пакідаў засценкі, цягаўся Баршчэўскі па беларускіх кірмашах: Арцейкавічы, Галубова, Межава і Галоўчыцы. То шляхціц Урвойскі зловіць паэта і як дарагі скарб возіць па кірмашах, то Латышэвіч падарожнічае з ім ад мястэчка да мястэчка. Смяяліся, спявалі песенькі, якія складаў для іх малады паэт. Гэтыя песенькі вывучалі напамяць засцянкоўцы браты Заленскія, Праленскія, Юрагі, Урвойскія і Сівохі. Ідучы такім шляхам, Баршчэўскі мог зрабіцца паэтам простага люду ці ўласна народным, калі б адчуў у грудзях сапраўднае натхненне вяшчуна. Сярод вёсак забыў бы ён класічныя формы і спяваў бы не дзеля літаратуры, а дзеля Беларусі на мове яе народа».

Як вядома, Я. Баршчэўскі не застаўся ў родных ваколіцах і не «спяваў» усё жыццё па-беларуску. Але тры ягоныя творы, што ўзніклі ў маладыя гады дзякуючы пэўным акалічнасцям, захаваліся і былі надрукаваны ў 40-х гадах XIX стагоддзя. Верш «Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?» напісаны ў адпаведнасці з паэтыкай класіцызму. Бясспрэчна тое, што малады паэт ведаў сатырычныя творы польскамоўнае літаратуры XVIII стагоддзя (Адама Нарушэвіча ды ягоных наступнікаў) і паспрабаваў у сваіх вершах адлюстраваць мясцовыя полацкія праблемы ды з'явы, перадусім тыя, якія ён ведаў, якія пераказваліся з вуснаў у вусны. Удала «адлітыя» ў паэтычную форму, полацкія здарэнні трывала і надоўга зафіксаваліся ў свядомасці народа. Сцвярджэнне Р. Падбярэскага, што верш напісаны «з нагоды залётаў да маладое панны Максімавічанкі», трэба лічыць адно толькі літаратуразнаўчым тлумачэннем, пэўнай

містыфікацыяй. Бо сапраўды дзіўным было б, каб закаханы паэт, шляхціц, асуджаў дзяўчыну-сялянку за тое, што яна кахае хлопца не са свайго асяроддзя.

Можна разглядаць беларускамоўныя вершы Я. Баршчэўскага і як своеасаблівую рэакцыю на г.зв. «эротыкі» ды «анакрэонтыкі» Францішка Князьніна. У адпаведнасці з народнай мараллю Я. Баршчэўскі падае свае дыдактычныя перасцярогі («Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?») ды з пазіцый класіка парадзіруе сентыментальную пачуццёвасць. І ў першую чаргу паэт асуджае сваю гераіню за жаданне «выйсці» за межы ўласнага асяроддзя.

А вось персанаж «Гарэліцы» паказваецца «знутры». Прычым, у адрозненне ад «анакрэонтыкаў» XVIII стагоддзя, якія апявалі віно ды п'яныя ўцехі, увага засяроджваецца на негатыўных, непрывабных момантах з гледзішча чалавечае маралі («жонцы — вяроўка», спроба ашукаць пана). «Грубаваты досціп, характэрны для краю» (Р. Падбярэскі) як нельга лепш падыходзіў для такіх мэтаў.

Верш «Бунт сялянаў» (Р. Падбярэскі, пэўна, улічваючы цэнзурныя патрабаванні, называў яго «Рабункі мужыкоў») напісаны «з нагоды вядомага ў ваколіцы выпадку ў маёнтку пана Маліноўскага ў Шнітаўках, за 50 вёрст ад Полацка, у 1812 годзе». Сучаснікі лічылі гэты твор народнай паэмай, пра якую, «апрача (...) шляхты, ніхто дагэтуль не ведаў, што гэта твор Баршчэўскага. Гэтая паэма, калі хочаце, — помнік беларускае гаворкі — ставіць яго нароўні з Манькоўскім на чале сапраўды народных беларускіх пісьменнікаў» (Р. Падбярэскі). Відавочна, Я. Баршчэўскі не ставіў перад сабою мэты апаэтызаваць сялянскі бунт, хоць і імкнуўся выказаць незадавальненне новымі панамі, а «старых», якія «нас у некруты не бралі» і пры якіх немагчымым быў такі бунт, ухваліць. У першую чаргу паэт выказвае патрыятычныя думкі, погляды, якімі жыла тагачасная шляхта: «Стала і нас карціць, як бы то Польшчу звараціць». Прычым, падобныя думкі аўтар укладвае не толькі ў вусны апавядальніка, але надзяляе імі і кіраўніка сялянскага бунту: «Трэба нам за калы брацца, старой Польшчы дабівацца». Пэўна, рэчыпаспалітаўскія парадкі былі больш прымальнымі і для сялянаў. А ў выніку бунт супраць «цяперашняга» пана (ці аканома) перарастае ў выступленне супраць прыгону ўвогуле: «Хоць мне паб'юць штаны, ды ужо не будуць паны».

Што да польскамоўнай паэзіі Я. Баршчэўскага, то яшчэ ў 40-я гады нашага стагоддзя Навум Перкін слушна падзяліў яе на тры групы. Першая — гэта творы суб'ектыўна-лірычнага плана; другая — балады літаратурна-рамантычнага характару; трэцяя — балады, напісаныя паводле беларускіх народных легендаў і паданняў. Большасць твораў першай групы Я. Баршчэўскі адрасаваў канкрэтнаму чалавеку — Юлі Корсак, а пазней, дапрацаваўшы,

друкаваў гэтыя творы на старонках альманаха «Niezabudka». Значнае месца ў паэзіі Я. Баршчэўскага займаюць вершы-рэфлексіі, вершы-разважанні на рэлігійна-філасофскую тэматыку. «Навакольнае жыццё не задавальняе, не вабіць да сябе паэта; гэта, на яго думку, крыніца ўсялякага зла і пакут, доўгі ланцуг выпрабаванняў для чалавека, цяжкая і суровая неабходнасць. Яму здаецца, што ў сучасным грамадстве людзі парушылі першапачатковы закон, папсавалі ідэал, пакпілі з яго. І толькі ў некранутай, першабытнай натуры, дзе няма фальшу і штучнасці, можна знайсці заспакаенне ад жыццёвых нягод. Гэтак узнікае адзін з асноўных матываў усёй творчасці Баршчэўскага — супрацьпастаўленне натуры цывілізацыі» (Н. Перкін). Найбольш яскравыя творы падобнага плану — «Смутак», «Да Станіслава Юр'евіча», «Вясна ў сталіцы», «Пачаноўская гара», санеты. Гэтыя вершы «падрыхтавалі» балады Я. Баршчэўскага, якія ён пісаў на ўзор літаратурнае традыцыі. Так, напрыклад, у «Фантазіі» адчуваецца ўплыў «Свіцязянкі» А. Міцкевіча, у баладзе «Ніна» (у лісце да Ю. Корсак твор пададзены пад назвай «Цэлесціна») — «Святланы» В. Жукоўскага. Як наследаванне заходнееўрапейскае «паэзіі магіл» можна разглядаць балады Я. Баршчэўскага «Роспач» і «Курганы».

Але не было ва ўсёй гэтай вершаванай творчасці, як меркаваў Ю. Барташэвіч, «натхнення, а толькі выкутая на стары лад, па-класічнаму, рыфма. І не гэтай дарогай павінен быў ісці Баршчэўскі, каб набыць імя ў літаратуры. Неўзабаве ён заўважыў гэта, а можа яго перасцераглі». Пад уплывам, магчыма, Т. Шаўчэнкі ці М. Гогаля, паэт піша шэраг баладаў паводле беларускіх народных легендаў ды паданняў — «Русалка-спакусніца», «Дзве бярозы», «Дзявочая крыніца», «Зарослае возера». З'яўленне гэтых твораў сталася значнай падзеяй у тагачасным літаратурным жыцці. Трэба заўважыць, што літаратурная грамадскасць яшчэ не ведала баладаў Я. Чачота. Толькі была, як выключэнне, публікацыя асобных баладаў Т. Зана («Цыганка»), А. Ходзькі («Маліны»), а таксама А. Грот-Спасоўскага. Балады Я. Баршчэўскага з іх падкрэслена рэгіянальным, полацкім каларытам выклікалі захопленыя водгукі ў тагачаснай перыёдыцы. Нават М. Грабоўскі, які дастаткова крытычна ставіўся да апрацовак беларускага фальклору А. Грот-Спасоўскім, на гэты раз не меў ніякіх пярэчанняў, адно што рэкамендаваў Я. Баршчэўскаму перадаць змест беларускіх паданняў прозаю.

«Шляхціца Завальню, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях» справядліва называюць галоўнаю кнігаю Я. Баршчэўскага. Гэта паўнавартасны мастацкі (а не фальклорны альбо напаўфальклорны зборнік — як часта без усялякае аргументацыі сцвярджаецца ў нашым літаратуразнаўстве) твор, вобразна-выяўленчыя сродкі якога накіраваны на выяўленне беларускае нацыя-

нальнае ідэі. Якраз там, у Пецярбурзе, у асяроддзі беларускае інтэлігенцыі, выспела нацыянальная думка. Я. Баршчэўскі і ягоныя сябры добра ведалі пра пашыраны ў расійскай гістарычнай навуцы і публіцыстыцы погляд на Віцебшчыну і Магілёўшчыну як на беларускія землі (г.зн., не літоўскія і не польскія). Ведалі яшчэ з дзяцінства, бо выхоўваліся ў надзвычай лаяльных да царызму езуітаў. Прадстаўнікі ж гэтага ордэну ў знак удзячнасці Расіі за права жыць на яе землях ( пасля выгнання іх з усіх іншых краінаў) актыўна замацоўвалі праз развітую сетку школаў ды калегіяў у грамадскай свядомасці думку, што імперыя не захоплівала польскіх ці літоўскіх земляў, а толькі вярнула свае — беларускія, ці нават беларасійскія. Гэта, па-сутнасці, быў шлях, які пазней, у 60-я гадыператворыцца ў «западно-руссизм». Але на пачатку XIX стагоддзя пад уплывам патрыятычных ідэй адраджэння Рэчы Паспалітае, ідэй якіх прытрымліваліся амаль усе грамадзяне былога Вялікага Княства Літоўскага, фармуецца беларуская нацыянальная думка, у аснове якое — сцвярджэнне рэгіянальнае адасобленасці Беларусі, этнаграфічнае адметнасці гэтага краю.

«Шляхціц Завальня», аднак, не публіцыстычны, а мастацкі твор. Зрэшты, у той час, калі нават саму назву «Беларусь» было забаронена ўжываць у афіцыйных паперах (Мікалай I не меў, як ягоная бабка Кацярына II, патрэбы «апраўдвацца» перад Еўропаю за падзелы Рэчы Паспалітае), выступаць у друку з прапагандаю беларускіх (ці нейкіх іншых) незалежніцкіх ідэй не выпадала. Адзінай магчымасцю выказаць ідэі, якія вызнавала невялікая група беларускае інтэлігенцыі, заставалася ўвасабленне іх у мастацкім творы. Гэта дазволіла б пашыраць іх у грамадстве, якое стаяла на парозе нацыянальнага самавызначэння. І Я. Баршчэўскі выдатна справіўся з пастаўленаю жыццём задачаю. У «Шляхціцы Завальні» пісьменнік закранае ўсё кола пытанняў, звязаных з беларускаю нацыянальнаю думкаю. Ім робіцца спроба геаграфічнага апісання краю, яго гісторыі і нават эканамічнага стану. Яшчэ з большаю паўнатою Я. Баршчэўскі падае своеасаблівасці нацыянальнага характару беларуса, ягоны светапогляд, раскрывае ўнутраную прыгажосць ягонае душы. Пры дапамозе сістэмы вобразаў-сімвалаў выказваецца асноўная думка кнігі: Беларусь — гэта край, які мае сваю гісторыю; гэта край, мінулае якога было куды шчаслівейшае, чым сённяшні дзень; гэта край, насельніцтва якога — асобны народ, які можа і павінен жыць без дыктату з боку суседзяў, жыць паводле законаў ды традыцый сваіх продкаў, а не па звычаях ды парадках іншых народаў. Беларусам трэба адно толькі ўспомніць сваё слаўнае мінулае, тых, хто загінуў за волю ды незалежнасць Бацькаўшчыны; каб іхнія сэрцы прасякліся мужнасцю, гонарам за сваіх продкаў, што дасць ім адвагу ісці сваім, а не падказаным суседзямі шляхам. Найбольш яскрава

ідэю кнігі Я. Баршчэўскага выяўляе сімвалічны вобраз Плачкі. Пераасэнсаваўшы галоўны вобраз «Трэнасу» М. Сматрыцкага, пісьменнік надае яму значэнне галоўнага ідэйнага стрыжня твора, што звязвае разрозненыя апавяданні-прытчы ў цэласны малюнак нацыянальнага жыцця беларусаў. Толькі згадаўшы пра Яе ў першым томіку (чатыры першыя апавяданні), Я. Баршчэўскі робіць Плачку цэнтральным вобразам ва ўсіх астатніх. Цяпер Яна так ці інакш будзе з'яўляцца ў кожным апавяданні, а адно з іх — шостае — цалкам прысвечана гэтай гераіні. Плачку бачаць толькі на Беларусі, на месцах знакамітых бітваў, на могілках, дзе пахаваны славутыя героі краю. Яна прыносіць сюды кветкі, плача па сваіх дзецях, якія — трэба думаць — або загінулі, або ім Яна не можа «даверыць таямніцу свайго сэрца». Просты люд з прычыны свае неадукаванасці, а шляхта ды паны з-за свае неразумнасці ды палахлівасці не могуць зразумець Плачку. А гэта з'яўляецца прычынаю Яе слёз. Забытая амаль усімі Плачка-Беларусь мусіць апрануць сялянскі строй, бо вышэйшыя класы беларускага грамадства адвярнуліся ад Яе, ім непатрэбна Яе Жывая вада, што, пэўна, не аднаму б абудзіла ягоную нацыянальную самасвядомасць. Паны і шляхта нічога не хочуць ведаць пра Плачку, пагардліва глядзяць на сялянскую сірату. Наадварот, яны звязваюцца з Чарнакніжнікамі, аддаюць свой край пад уладу Белае Сарокі, гаспадыні Паўночнае краіны (выдатны алегарычны вобраз Кацярыны II!), а самі ў вобліку мядзведзяў вартуюць яе багацці; яны наводзяць на Беларусь асташоў, якія нішчаць нашу прыроду ды псуюць норавы люду.

Малюнак, створаны Я. Баршчэўскім, адпавядаў рэальнаму стану нацыянальнага жыцця на Беларусі. Нацыянальна свядомых людзей былі толькі адзінкі. Але яны былі, і пісьменнік верыць у лепшае будучае свайго краю, свае Беларусі, спадзяецца, што паны і шляхта павернуцца да мясцовых праблемаў, мясцовага жыцця, мясцовых традыцый. Для гэтага трэба расказаць пра мінулае краю, што будзе спрыяць узнікненню нацыянальнага светапогляду, пачуцця павагі і любові да Беларусі. Ужо ёсць людзі (Сын Буры, Пакутны Дух), якія ведаюць, хто такая Плачка, якія сваёй дзейнасцю імкнуцца пашыраць веды пра Яе. Шляхціц Завальня і асобныя яго госці таксама разумеюць Плачку.

Кніга Я. Баршчэўскага, напісаная на польскай мове, адрасавана адукаваным землякам, якія не ведаюць роднае мовы, адцураліся ад яе. А выракшыся свайго народа, чалавек не можа ведаць ягоных традыцый, звычаяў, яго душу, не можа зразумець ягоную філасофію. Такія людзі звысока, з пагардаю глядзяць на ўсё сваё; яны не ведаюць свайго і не прызнаюць за ім аніякае вартасці. Я. Баршчэўскі ж сваім творам імкнуўся пазнаёміць суайчыннікаў з уяўленнямі простага люду, з філасофіяй яго паняц-

цяў. Пісьменнік спрабуе давесці, што народ, які стварыў такую высокамастацкую, паэтычную культуру, заслугоўвае іншых адносінаў да сябе.

Кампазіцыйна «Шляхціц Завальня» складаецца з трыццаці васьмі частак: апавяданняў-прытчаў, устаўных навел, лірычных адступленняў і ўспамінаў. Звязваюцца яны пры дапамозе шырокавядомага са старажытнасці прыёму: увядзення вобраза слухача і каментатара народных апавяданняў — шляхціца Завальні. Пэўнае значэнне ў кампазіцыйнай структуры твора мае і вобраз пляменніка пана Завальні — Янкі. А вось даручыўшы ролю асноўнага апавядальніка розным асобам — сялянам, падарожным, шляхціцам і нават цыгану, — пісьменнік мае мажлівасць пазнаёміць чытача з рознымі сацыяльнымі пластамі насельнікаў Беларусі, з іх уяўленнямі, настроямі, і ў той жа час паказаць, што асноўная ідэя твора выводзіцца з усяе сукупнасці апавяданняў, г.зн., любоў да роднага краю, да спрадвечных звычаяў ды традыцый уласціва прадстаўнікам усіх гэтых пластоў.

Выкарыстоўваючы творчы вопыт А. Міцкевіча, гнасеалагічную і эстэтычную сістэмы рамантыкаў, Я. Баршчэўскі развівае «фальклорна-міфалагічную лінію» (В. А. Каваленка) вялікага «ліцвінскага» песняра. Як і А. Міцкевіч, Я. Баршчэўскі для свае творчасці ўзяў не збор асобных тэкстаў — паданняў, легендаў, песняў, а ўсю вуснапаэтычную культуру народа — фальклор. Я. Баршчэўскі зразумеў, што якраз там, у фальклоры, у першапачатковай чысціні захаваліся спрадвечныя ісціны, тое разуменне дабра і зла, якое характэрна для беларускага народа. У фальклоры Я. Баршчэўскі здолеў разгледзець светапоглядную сістэму свайго народа ды імкнуўся стварыць яе паэтычны эквівалент у «Шляхціцы Завальні». Ягоны зварот да мінуўшчыны — гэта не імкненне ідэалізаваць яе. Гэта, у першую чаргу, разуменне таго, што акурат там, у патрыярхальным ладзе жыцця знаходзяцца карані тых асноў, якія абумоўліваюць, прадвызначаюць экзістэнцыю народа. Для Я. Баршчэўскага і ягонага асяроддзя, што ўжо прайшло этап нацыянальнае самаідэнтыфікацыі, гэты аспект быў надзвычай важны. Іхняя думка не згаджалася з тым, што народ, прадстаўнікамі якога яны з'яўляюцца, мусіць раствáрыцца ў масе суседняга народа. У разлік яшчэ не бралася мова: у той час здавалася неверагодным, што мова народа можа знікнуць. Істотнай лічылася страта нацыянальных звычаяў ды традыцый. Вось чаму ў «Шляхціцы Завальні» адзін з асноўных аб'ектаў крытыкі — гэта Чарнакніжнік ды асташы. Тыя, хто спустошыў амаль усе азёры, навучыў моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным песням. Тыя, хто знішчае і кпіць са звычаяў ды традыцый беларусаў.

Я. Баршчэўскі, як і А. Міцкевіч, імкнуўся адлюстраваць у мастацтве космас беларуса, сцвердзіць ягоную годнасць, абудзіць гіста-

рычную памяць. Але калі А. Міцкевіч праз космас беларуса імкнуўся да агульначалавечых вышыняў духу, дык Я. Баршчэўскі, наадварот, канцэнтраваў сваю думку на рэгіянальным, не ўзнімаўся вышэй нацыянальнага. У адпаведнасці з гэтымі задачамі выкарыстоўваў пісьменнік і патэнцыял фальклорна-рэлігійнае міфалогіі беларусаў. Характэрна, што ўжо ў той час усведамлялася ўся складанасць такое з'явы, як беларуская міфалогія: «Дзяды нашыя маюць тую асаблівасць, што паганскі абрад змешаны з уяўленнямі хрысціянскае рэлігіі» (А. Міцкевіч). Уся беларуская міфалогія ёсць сімбіёз двух сістэм — свае, спрадвечнае і хрысціянскае. Прычым, дамінуе свая; хрысціянская ж толькі дастасавалася, нязначна змяніўшы яе.

Здавалася б, выхаваны ў езуітаў, аўтар павінен быў выразна размяжоўваць паганскі і хрысціянскі пачаткі, павінен быў, асуджаючы паганскі светапогляд беларуса, узвялічваць хрысціянскую ідэалогію. Аднак у такім разе Я. Баршчэўскі знаёміў бы чытача не з беларусамі, а з прадстаўнікамі нейкага іншага народа. Знітаванасць паганскае міфалогіі з хрысціянскаю дагматыкаю ў беларусаў была настолькі моцнаю, што ў чыстым выглядзе гэтыя дзве сістэмы ніколі не існавалі. І гэты эклектызм — галоўная адметнасць беларускага нацыянальнага светапогляду, асноўныя рысы якога Я. Баршчэўскі адлюстраваў у «Шляхціцы Завальні».

Сярод асноўных тэмаў «Шляхціца Завальні» з'яўляецца і тэма сацыяльнага пратэсту. Часцей у алегарычнай, аднак часам і ў адкрытай публіцыстычнай форме пісьменнік асуджае прыгнятальнікаў люду, «новых паноў», што дзеля ўласнага дабрабыту шматкроць узмацняюць прыгон, забываюць пра міласэрнасць і спагаду, зневажаюць ды кпяць з традыцый народа, які з'яўляецца асноўным захавальнікам нацыянальнага менталітэту. Рамантык Я. Баршчэўскі з уласцівай усім рамантыкам энергіяй адмаўляе новы грамадскі лад, які нясе яго народу не толькі пагаршэнне ўмоў жыцця, але і разбурэнне спрадвечных ісцін, нацыянальнага светапогляду, а, урэшце, і «знікненне» самога народа.

З'яваю ў літаратурным жыцці краю 40-х гадоў XIX стагоддзя стала аповесць «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта». Папулярныя ў той час успаміны (перадусім, «Домік майго дзядулі» Ігната Ходзькі) падштурхнулі паэта паспрабаваць свае сілы ў гэтым жанры. А праца над «Завальням» напоўніла гэтыя ўспаміны дзівоснаю народнаю фантастыкаю. Гэтыя празаічныя творы Я. Баршчэўскага ўзніклі прыкладна ў адзін час, іх аб'ядноўвае тэматычная ды ідэйная еднасць, шэраг сімвалічных і алегарычных вобразаў, а таксама асоба самога аўтара. Дзеянне ў абодвух адбываецца на Беларусі. Вось толькі калі ў «Шляхціцы Завальні» гэта 1816—1817 гады — час развітання апавядальніка з родным краем перад далёкім падарожжам «на поўнач», дык у «Драўляным Дзядку» — сярэдзіна

30-х гадоў, як герой пасля семнаццацігадовае адсутнасці вяртаецца на Бацькаўшчыну.

У аповесці «Душа не ў сваім целе», як і ў ранейшых творах пісьменніка, выяўляюцца рамантычныя тэндэнцыі. Усе тры персанажы падыходзяць пад вызначэнне рамантычнага героя. Напачатку аўтар стварае вобраз «пераўтваральніка прыроды» Гайнара, заснавальніка незвычайнага саду. Характэрна, што Я. Баршчэўскі апавядае пра Гайнараў сад пасля таго, як ягоны герой наведаў славутую Сафіеўку, апетую паэтамі XVIII—XIX стагоддзяў. Жывое супрацьпастаўляецца мёртваму. Пісьменнік нібы кажа: мастацтва павінна служыць роднаму краю. Яно можа быць простым, без аздобаў-упрыгожанняў, але мусіць мець практычную карысць. Невыпадкова, трэба думаць, змешчана тут і сімвалічная сцэна з габрэем-музыкам: выдаткаванне велізарных сродкаў на стварэнне Сафіеўкі — гэта з працы прыгонных, гэта вынішчэнне свайго ўласнага народа. Гайнар, у адрозненне ад музыкі, — здаровы і моцны. Ягоны сад, ягоная праца, ягонае наследаванне прыродзе — гэта першая прыступка ў іерархічнай перамідзе служэння Бацькаўшчыне. Гэта той мінімум, якім можа (ці нават павінен) займацца кожны.

А вось у «таямнічага вучонага» пана Рыльца мэты больш складаныя. Яму нават жыць даводзіцца інкогніта. Ягоная праца (невыпадкова, трэба заўважыць, немагчымая без працы Гайнара) — уваскрашаць мінуўшчыну, уваскрашаць дапатопны час, г. зн., час да падзелу Рэчы Паспалітае, каб мець мажлівасць параўноўваць мінулае ды сучаснае, каб выхоўваць гістарычную памяць суайчыннікаў. Пан Рылец абураецца сваімі землякамі, якіх цікавіць толькі камерцыйны інтарэс, якія не разумеюць яго і ягоных паплечнікаў. Няшмат яшчэ тых, хто можа смела сказаць: «Няхай славіцца Саламандра!», хто верыць, што Саламандра адродзіцца, бо яна не можа загінуць.

Як і Гайнар, пан Рылец ведае абсяг свае дзейнасці і лічыць, што за межы гэтага абсягу выходзіць нельга. Яшчэ, маўляў, не прыйшоў час іншае працы, іншага віду барацьбы.

На трэцюю, самую высокую прыступку іерархічнае піраміды служэння Бацькаўшчыне Я. Баршчэўскі ставіць свайго галоўнага героя — «лекара» Саматніцкага. Прайшоўшы «навуку» ў Гайнара і Рыльца, ён выбірае іншы шлях, чым ягоныя настаўнікі. Няспешна ісці да мэты — гэта не для яго. Ён хоча сучаснасць ператварыць у рай. А гэта патрабуе адпаведных сродкаў і нават ахвяравання сабою. Трагічны фінал аповесці як адлюстраванне рэальнага становішча ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе, зусім заканамерны. Гінучы, герой прагне, каб пра яго ведалі і памяталі ў родным краі, на Бацькаўшчыне, якою ён трызніў усё свядомае жыццё і народ якой не разумеў свайго сына.

Думаецца, што ўсіх сваіх герояў Я. Баршчэўскі «заўважыў» у рэальным жыцці. Ідэя служэння Бацькаўшчыне была даволі папулярнаю ў тагачасным грамадстве. І пісьменнік па-мастацку абагуліў пошукі лепшымі людзьмі краю шляхоў служэння Беларусі. Што датычыць вобраза Саматніцкага, дык ён (як слушна заўважыў яшчэ ў 60-я гады Адам Мальдзіс) шмат у чым «спісаны» з беларускага паэта-выгнанца Франца Савіча. Верагоднасць сустрэчы Я. Баршчэўскага з Ф. Савічам вялікая: у другой палове 40-х гадоў яны жылі ў суседніх мястэчках на Валыні.

У тым, што аповесць «Душа не ў сваім целе» нешта большае, чым апісанне незвычайных дзівосаў ды фантазій, пераконвае надзвычай наважнае стаўленне Я. Баршчэўскага да літаратурнае працы, разуменне ролі літаратуры ў грамадскім жыцці. Ва ўсіх ягоных празаічных творах змест пераважае над формаю, а алегарычнасць і сімвалізм фактычна пертвараюць асобныя іх часткі ў навелы-прытчы.

Зусім верагодна, што ў аснову паэмы «Жыццё Сіраты» пакладзены рэальны выпадак, які меў месца на Полаччыне ў маёнтках Лоўжа, Мосар ды мястэчку Сіроціна (сёння гэта Шумілінскі раён Віцебскае вобласці). Тыя мясціны Я. Баршчэўскі добра ведаў, бо ў маёнтку Мосар на пачатку 40-х гадоў XIX стагоддзя жыў супрацоўнік ягонага альманаха «Niezabudka» беларускі літаратар Вінцэнт Газдава-Рэвут, які, як сведчыць Генадзь Кісялёў (мажліва, якраз у сярэдзіне 40-х гадоў) страціў сваю маёмасць.

Праўда, паэт не абмежаваўся адлюстраваннем у паэтычным творы сумнае гісторыі сіраты-дзяўчыны, якую апякун давёў да вар'яцтва ды завалодаў яе маёнткам. Гэтая жыццёвая гісторыя пад пяром Я. Баршчэўскага перарастае ў алегарычны малюнак нешчаслівае долі нашага краю, нашае Беларусі. Сірата — гэта той самы персанаж, які мы сустракалі ў «Шляхціцы Завальні», гэта тая гераіня, што з'яўлялася ў сялянскім строі на вяршыні Пачаноўскае гары ды дапамагала сумленным людзям стаць беларусамі. Гэта тая ж Плачка-Беларусь, якая смуткуе па сваіх неразумных дзецях, што забыліся пра Яе, адракліся ад Яе, аддалі на здзек чужым людзям. Як і ў «Шляхціцы Завальні», сімвалічны вобраз Беларусі выступае ў драматычнай паэме «Жыццё Сіраты» ў розных абліччах: апрача Сіраты, гэта і Альма. Ужо само імя нясе важную сэнсавую нагрузку: па латыні *alma* — карміліца; тая, што корміць. У выніку розныя абліччы вобраза з розных бакоў характарызуюць яго. Так, пра Сірату — галоўны вобраз твора — мы даведваемся, што Яна мела добрых бацькоў, за якімі някепска жылося падданым; сяляне і цяпер услаўляюць іх, моляцца за іх. Усё змянілася, калі Цэлінка (у беларускім перакладзе — Геленка) трапіла пад уладу Апекуна: падданыя «ў старасці жабруюць кавалак хлеба (...), палі зарастаюць дзікай травою, раскашуецца бяда й галеча». Апякун праз нейкі час выдае Цэлінку замуж за

такога ж як сам недавярка Собаля і разам з ім ужо па закону авалодвае набыткам Сіраты, якая не ў стане супрацьдзейнічаць гэтаму. Як лагічны канец — смерць Сіраты, і яна,

Як Анёлак, з малітвай у неба ўзляцела.
(...)
Там гарыць над чалом з зор карона жывая.

Паралельна паэт паказвае іншае аблічча гэтага вобраза. Калі Сірата — гэта мінулае, дык Альма — гэта сённяшні дзень, гэта павадырская зорка для нешматлікіх абраных (накшталт Музыкі). Яна зрэдчас нагадвае ім:

Хай хоць азяблыя ў снах успаміны
Дух твой суцешаць загнаны...

Так, няхай хоць памяць пра былую веліч прынясе палёгку, прынясе надзею:

Хто спазнаў пазнаку духу,
Сам як дух непадупалы,
Здужае любую скруху.
І пярун не зрушыць скалы.
Бура скорыцца аблокам,
Бо святло смялей яснее,
Не цялесным бачыць вокам
Будучыню і надзеі.

Яна, Альма, верыць у вялікую сілу мастацтва, што можа абудзіць ад летаргічнага сну народ.

Другі цэнтральны персанаж твора — Севярын-Музыка, вобраз, што можна разглядаць як працяг такіх герояў «Шляхціца Завальні», як Сын Буры, Пакутны Дух, Летуценнік Севярын; тых, хто зразумеў і ведае, хто такая Плачка, хто такая Сірата, хто такая Альма. Музыка, як і ягоныя папярэднікі, не можа знайсці спакою на гэтым свеце, не можа зміры́цца з тым, што чыніцца ў ягоным краі. Ён не можа «звыкнуцца» з светам, як раіць яму таварыш па полацкай школе Казарын. Ён у роспачы, бо ягоныя песні разбіваюцца аб каменныя сэрцы адукаваных землякоў, а просты люд «стогне (...) ад непасільнае працы». Музыка можа яшчэ скалануць асновы несправядлівага ладу (як, напрыклад, напрыканцы першае часткі ягоная песня выклікае разбурэнне дома Апекуна), але змяніць яго карэнным чынам ён не здольны. Дык невыпадкова «гук» ягонае «арфы канае». Рэчаіснасць не давала Я. Баршчэўскаму падстаў для аптымізму.

Паэтыка драматычнае паэмы «Жыццё Сіраты» — рамантычная. Прычым, спосаб асэнсавання народнае архаікі на ўзровень вышэй, чым у «Шляхціцы Завальні». Бо хоць Я. Баршчэўскі і пісаў, што «не пераймае формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія», але для пабудовы гэтага твора шырока

выкарыстоўвае літаратурныя прыёмы ды літаратурныя традыцыі. Колісь Адам Мальдзіс (дарэчы, адзіны, хто зрабіў кароткі аналіз «Жыцця Сіраты») пісаў пра ўплыў другое часткі «Дзядоў» А. Міцкевіча на асобныя фрагменты паэмы. Сёння можна ўпэўнена сцвярджаць, што і Міцкевічава «сяганне ў Краіну Духа» перанёс Я. Баршчэўскі ў свой твор.

* * *

Чытаючы Яна Баршчэўскага, мы спасцігаем сваю гісторыю, спасцігаем светапогляд беларуса першае паловы XIX стагоддзя, спасцігаем саміх сябе. Бо пісьменнік дастаткова поўна адлюстраваў у сваёй мастацкай творчасці космас беларуса, філасофію ды светапоглядную сістэму народа.

У той час, калі расійскі цар Мікалай I сваім загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакументах тэрмін «Беларусь» (1840 год), г. зн., «аб'явіў» пра пачатак працэсу поўнае русіфікацыі беларусаў, Я. Баршчэўскі змяшчае гэты тэрмін на тытульным аркушы свае кнігі. Беларусь для яго адно толькі ў марах, уяўленнях, «фантастычных апавяданнях», але яна ўжо ёсць, яна ўжо існуе. Выказаная аднойчы ідэя не знікае; тым больш, што гэтая ідэя матэрыялізавалася ў мастацкім творы. Дзякуючы Я. Баршчэўскаму вобраз Беларусі становіцца сакральным, а беларуская ідэя — набыткам літаратурнае грамадскасці. Але пройдуць дзесяцігоддзі, перш чым знойдуцца ў Я. Баршчэўскага наступнікі, якія ўвасобяць у жыццё мары і надзеі пісьменніка.

*Мікола Хаустовіч*

# ДЗЕВАНЬКА

Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?
Ці табе не напрыкрылася чужая хата?
На каго ж ты павяраеш,
Сваё сэрца прыкланяеш?
Не будзе тут пуці.

Прывучыла ж ты двух хлопцаў, як пташак у сеці.
Яны к табе ўдзень і ўночы рады прыляцеці.
І ты к ім лятаеш,
Панскі двор пабуджаеш
На вялікі смех.

Прывучыла ж ты лоўчага, ён жа і стралец,
І дудар быў некалі, і рускі пявец.
А стралец і дудар —
Не вялікі гаспадар,
Будзеш без хлеба.

Палюбіла садоўніка, і гэта не ў пуць.
Ды ён жа слуга госпадскі, асцярожна будзь:
Мадамай табе не быць,
Дзяцей табе не ўчыць,
Віць ты не ўмееш.

*[1809]*

## ГАРЭЛІЦА

Ах ты ж, мая гарэліца, мая весялуха,
Цераз усю мяне ночку мучыла сукруха.
Ці мне ж было гэта лоўка, што я ўсю ночку
Толькі відзеў ува сне парожнюю бочку?

А цяпер жа я даждаўся, вот тут загуляю,
Гуга, гуга! — загукаю і запаклікаю.
Ці мне ж у галаве хатка, ці дзеткі, ці жонка?
Яшчэ ж у мяне з грошыкамі бразгае машонка.

Слава ж Богу, што даждаўся. Вот тут загуляю!
Гуга, гуга! — загукаю і запаклікаю.
Калі ж пойдзе уся хатка, дык жонцы — вяроўка,
А мне з панам разбірацца не будзе то лоўка.

А я ж пану пакланюся: панок, маё гора,
Жыта касіў, сена грабіў цэлы дзень учора.
Вот тут пан прасціць і міласць пакажа,
Яшчэ хлопцу гарэліцы мне прынесць прыкажа.

*[1809]*

## РАЗМОВА ХЛОПАЎ

От то мае вы браціхны,
Хоць не адной маціхны,
Скажу я вам адну рэч,
А хто не ўверыць — пайшоў прэч.

Калісь французская сіла
З-за Нёмана наступіла;
Стала і нас карціць,
Як бы то Польшчу звараціць.

А мы сядзім ціха,
Покуль прынесла ліха.

Яны ў наш двор,
Ну-тка і мы дзяліць здор.

А так мяса наварылі,
Што б мы іх угаварылі
Свірны ў дварах паразбіваць,
Паноў у лес паразганяць.

Першы Хам сеў за стол,
Глядзіць у кут, як сакол;
А як ногі разапрэць,
То хоць шасцярнёю едзь.

А як зачаў гадаць
І рэч распрастраняць —
Яны раты паразявалі
І вушы панастаўлялі.

— Дзецюкі! Худа нам жыць!
Пакіньма прыгон служыць!
Зробім вольнасць і урэч
Нас ураднік не будзе сеч!

Ці мы людзі не такія?
Што нам пагрозы усякія?!
Ідзеш у двор і баішся,
Пакуль к пану прыступішся.

Да яшчэ на том не канец:
Палажы на стол дзесяць яец.
І так яшчэ страх бярэ,
Што мой панок запяе.

Э! Ужо з таго не лады,
Худыя нашы гады.
Помніце вы, дзецюкі,
Тыя вякі, як жывалі палякі?!

Што то за паны бывалі!
Нас у некруты не бралі;
А розуму у іх ці мала?

Хоць чупрынка зверху мала,
Хоць валасоў на лбу нет,
Да ўжо вусы на ўвесь свет!

А як харашо хадзілі!
Сукні, бы жар, насілі,
Два рукавы красныя,
А два ззаду запасныя.
А заднія палы у тых паноў —
Цяперашнія шыюць па семера штаноў!

А гэтыя і самі згалелі
І нас з душамі паелі!
От, бачыце вы, дзеці,
Якія цяпер паны на свеце.
Трэба нам за калы брацца,
Старой Польшчы дабівацца.

Як гэтак Хам сказаў,
Усім ахвоты дадаў.
Першы Даніла,
У каторага вялікая сіла,
Сказаў:
— Хоць мне паб'юць штаны,
Ды ужо не будуць паны.

А так пілі і гулялі,
Разам паноў разбівалі.
Цыну і срэбра браў як хто мог,
Каб абліць дуду і рог.

Сукні бралі на вяроўкі,
Што б пашыць жынкам шнуроўкі,
А так скора завярнулі,
Дворы ў пусткі абярнулі.

*[1812]*

## ДА ЮЛІ

Дагарае агністая знічка з самоты,
А на вуліцах лямпы палаюць упарта.
Дзе-нідзе толькі чуць капытовы грымоты,
Дзе-нідзе чуйна крыкне сталічная варта.

Гэта час на спачын, а мяне скрушыць скруха,
Марна вочы заплюшчыць імкнуся ў бяссіллі.
Адлятае бяссонная думка-шчыруха
Ў край, дзе колісь сплывалі жыцця майго хвілі.

Помню кляштарны звон, што гучэў пакрыёма,
Ён склікаць маладых аднадумцаў быў рады,
Не было яшчэ сэрца з журбою знаёма.
Я не ведаў ні свету, ні лёсу, ні здрады.

Час змяняўся й змяняў дабрачыннасці долі.
Знікла радасць сапраўдная, як летуценне.
Змоўк і кляштарны звон, каб не ўчуцца ніколі,
Толькі ў думках звініць, як жалобы трымценне.

Я на мора бурлівае гэтага свету
Меў уплыў не на тое, каб стаць багацеем,
Ці ўслаўляць утрапёна жыцця свайго мэту,
Проста плыць кожны мусіць па хвалях не ценем.

А калі неба яснае хмары схавалі,
Зашумелі глыбіні ў пагрозным уздыме,
Хмар апалу адрынула зорка ў запале,
Гэта першаспатканне з вачыма тваімі.

Меркаваў — зорка лёсу паслала дарогу,
Па якой плыць шчасліва мне без перастану.
Асмялеў, што дастану сваю перамогу,
Грозьбы мора скару, ў ціхім порце прыстану.

Толькі не для мяне зорка ў бэзавым дыме,
Закацілася ў змрок, лопнуў якар надзеі.
Перш чым, лёсу пакорніка, дол мяне прыме,
З ласкі буры плыву. Вір чакае й шалее.

*[1837 — 1839]*

## СМУТАК

Зноў снежань прывёў знекуль ночы даўгія.
У доме за поўнач ужо. Цішыня.
Мароз — на ўсіх шыбах. Сяджу пры агні я,
Бы вязень, у думак палоне да дня.

Мой смутак нязбытны выразна малюе
Крутую, у цернях жыцця каляю.
У вір горкіх згадак няўпынна кіруе
Наноў разварушаных думак брую.

Ды вось у акно зазірнула дзянніца
З-пад хмарак, што чырванню ранняя гараць.
Над горадам — безліч дымоў. Глянеш — быццам
Устала там казачных волатаў раць.

Дзень — госць мімалётны: адкрыецца воку
І знікне у хмарах да новай зары.
Зноў — чорнае неба, зямля — зноў у змроку
І, снег метучы, скрозь шалеюць вятры.

Люблю гэту цемень, начныя часіны,
Мяцеліц шаленства, снягоў каламуць.
Да родных дарог даўніх дзён успаміны
Мяне тады з поўначы сцюжнай нясуць.

О Юля! У час вечаровы пахмуры,
Як вецер усходзіцца ў нашай глушы,
Успомніш мяне ты: во гэткія ж буры
Шугалі ў яго неўтаймоўнай душы.

*1839, Пецярбург*

## ПАДАРОЖЖА

Я ў дарозе! Ў сонцы — гоні!
Фурман лейцы ўскіне з маху,
І — звініць званок па шляху,
Мчацца сокаламі коні!

Ледзь лаўлю я вёрсты вокам.
Міма — нівы, хаты сёлаў.
З-пад капытаў — гром, з-пад колаў —
Пыл услед клубком высокім!

Вечар. Выйшлі ў неба зоры.
Халадок нам лашчыць твары.
Змрок ахутвае абшары,
Серабром між ніў — азёры.

Жураўлёў ляціць грамадка.
Села ў лог — у змроку тоне.
Ноч яе прыспіць на лоне,
Бы дзяцей уласных матка.

Не засну я. Дні былыя
Промень памяці вяртае.
Быццам кнігу, зноў гартае
Сны дзяцінства залатыя.

Думкі рояцца ў прасторы.
Бачу добра сэрца зрокам
Хвілі ўсе мае за змрокам —
Мне яны зіхцяць, як зоры.

Вочы любай, шэпты гаю,
На світанні развітанне,
І сяброўства, і каханне —
Я ў адзін вянок сплятаю.

Там майго юнацтва мроя
Свеціць ранішняй расінай,
Аж пакуль сваёй часінай
Не спадзе з маёй зарою.

Выплыў месяц з-за вярбіны
І заліў бальшак сваёю
Белізною незямною,
Крыж адкрыўшы ля даліны.

О магілка! Шлях канечны
Падарожнага, што мроі

Тут схаваў у супакоі.
Ён знайшоў начлег тут вечны!

Чую — гром! Бы ў небе брама
Расчынілася! Віхура!
Дождж і град! Бушуе бура
Ў лесе і ў душы таксама.

Цемра — дзе тут гай, дзе гоні?
І ці цэлы ў колах спіцы?
Скрозь грамы ды бліскавіцы
Мчацца сокаламі коні!

*[1839 — 1841]*

## МАТЧЫН НАКАЗ

Некалі ў Польшчы, не вельмі далёка,
Ціха жыў шляхціч пачцівы —
Домік ля Нёмана радаваў вока.
Хоць быў бядняк, ды шчаслівы.

Добрая жонка з ім працу пыніла,
Вечна ў клапоце, ў турбоце.
Рос і сынок у іх. Матка вучыла
Хлопчыка веры і цноце.

Слаўны быў Юзік, разумны, дасужы,
Бачыў усюды загадку.
Вось пры акне заглядзеўся на ружы —
Кліча, дапытлівы, матку:

«Мама, зірні на такое здарэнне:
Ружа раскрылася й нібы
Ловіць пялёсткамі сонца праменне,
Хіліцца ў ласцы да шыбы».

«Добры твой прыклад, ты й кажаш талкова —
Я адказаць табе рада,

Хай будзе ў сэрцы тваім маё слова,
Матчына гэта парада:

Глянь зноў на ружу — найлепшую з кветак.
Быць і табе такім трэба.
Як яна рвецца да сонейка — гэтак
Думкі ты ўзнось свае ў неба.

Я паліваю тут ружу бясконца —
Кветка мне сэрца мілуе.
Цягнецца к сонейку, бо яе сонца
Колерам гожым малюе.

Я над табою дрыжу, сын мой гожы,
Ліха ганю ад парогу.
Бог даў жыццё табе. Ты за дар Божы
Дзякуй малітваю Богу.

Хай жа, бы ружы, цябе ўквецяць цноты,
Бліжнім сваім будзь зычлівы.
Род свой шануй, свет любі і жыццё ты —
Будзеш спакойны, шчаслівы».

Рады той Юзя трымаецца строга —
Матку штодня ўспамінае.
Гляне на ружы, памкнецца да Бога,
І ўжо сляза з воч спадае.

Тут жа хапае анёл кроплю тую,
Мчыць з ёй да самага Бога.
Бог дом бацькоў — праз слязіну святую —
Сам сцеражэ ад ліхога.

Дня аднаго наплылі знекуль хмары,
Вецер узвыў — навальніца!
Загрукатала па небным абшары
І перуна калясніца.

Цэлілі ў дахі агняныя стрэлы —
Попелам вёска ўся стала.
Юзевых толькі бацькоў дом быў цэлы:
Неба яго захавала.

Юзя быў прыкладам цноты заўсёды
І меў у доме дастатак.
Даць свету цэламу добрыя ўсходы —
Роля высокая матак.

*[1839]*

## САНЕТ

Для В. П. Буйніцкай

Калі ўначы вятры на неба гоняць хмуры,
І дзе-нідзе агеньчык зоркі за аблокам
То стухне, то здалёку бліснe перад вокам, —
Душу агорне ў смутак гэты від пануры.

І ў калаўроце тым, калі няшчасцяў хмуры
Спакойнасць думкі апануюць сваім змрокам,
Шляхетная душа, ты бліскаеш прад вокам,
Нібы з вышыняў зорка ў часе цёмнай буры.

Але калі суровых лёсаў прызначэнні
Мяне закінуць аж на край зямлі чужое,
Сагрэюць памяць дабрыні твае праменні.

І ў мыслях усплыве маіх тады былое,
Скажу, калі няроўны лёс дадасць мне бедаў:
Я шчырасць знаў і дабрыню душы я ведаў.

*[1839]*

## ПАЧАНОЎСКАЯ ГАРА

Узнесена волатаў праца высока.
Пабачыў гару, што ўчароўвае вока.
Ёй поймаў зялёных прырода пад ногі
Паслала кілімы, пабраныя ў кветкі,
Пабачыў я вёскі, лясы ды палеткі,

Як стужкі расплеценыя, дарогі.
Азёры, дзе лётае промень дрыготкі,
Нібы па люстэрку, набытым журбою.
На ёй чалавек зніч паставіў зіхоткі,
Каб свету тэатр бачыць перад сабою,
За светачам гэтым арол наглядае,
На ветразях крылаў лунае высока.
На светач падчас, як на мачту, сядае,
Да хмараў звяртаючы быстрае вока.

Гара найчароўная! Цацка тварэння,
Цябе першы раз напаткаў незнарокам,
Былосці вякі ахінуліся змрокам,
Упаўшы ў забыўлівы сон задумення.
Ляжаць гарады, каралеўствы ў магіле,
Гром смерці ніколі цябе не злякае.
Магчыма глынута тут сіла людская,
Вялікія тут перамогі хадзілі,
Ніводная кніга аб тым не згадае.

Граніт, пры якім атабарыўся ельнік,
Нібыта заглыблены ў думкі пустэльнік.
І зноў пакаленне дубоў маладое
Сказ чуе яго пра цябе, пра былое.
Стаіш ты ў маўчанні вясковым адвечным
Укрытая ад гаманы і трывогі,
Нібыта мудрэц той, які ў быстрацечным
Жыцці сваім розныя зведаў дарогі,
Не раз ён жахаўся, здзіўляўся, журыўся,
Пакуль яго досведу свет не адкрыўся,
І выбраў жытло на лясное паляне,
Каб думаць пра Бога і наканаванне.

Гара найчароўная! Ты аглядаеш
Прыроды разважлівай раскашаванне.
Як хто на вяршыню высокую стане,
Яму ты пра неба й зямлю нагадаеш.
Калі свет аздобіцца весняй пакорай,
Ты слухаеш спевы салоўкавы ўранні,
У зялёным вяночку, ў квяцістым убранні
Стаіш ты вясёлай багіняю Флорай.
Прыходзіць любы да цябе без трывогі,
Лагодай таго ахінаеш, хто ў горы.

Ты злосці не тоіш, як іншыя горы,
Што ўзносіцца выглядам жудасным любяць,
І гоняць пажар ад сябе на разлогі,
Здаецца, ўвесь свет, скалануўшы, загубяць.

Не гэтак як Альпы — ўчарнела аблокі
Іх аперазалі, там зімы вякуюць,
Там згуба жыве, снег ільдзее глыбокі,
На сцежках крутых пілігрымы бядуюць.
Сцюдзёныя Альпы, яны, як і тая
Душа, што ні енк, ні сляза не кранае.

Гара Пачаноўская, славай малая
Яшчэ ты, бо свет толькі тыя ўзвышае,
Дзе золата досыць і ўладам пашана,
Ты скарбаў не маеш, ад свету схавана.

І толькі пастушка вясёлая часам
Наведае ў траўні пад ясным блакітам,
Каб красак у росах набраць самапасам,
Чало ацяніўшы вянком самавітым.
Пастух на спіну тваю стане высока,
Старонкаю роднай насычвае вока.

І я там пабыў — і цяпер успаміны
Няраз пра цябе перахопяць здзіўленне.
Высокая, лёс, пэўна, ў гэтым павінны,
Што позірк мой лепшай гары не сустрэне.

*[1840]*

## ДА СТАНІСЛАВА ЮР'ЕВІЧА

Наш дом быў на гары — увесь у дрэвах,
У шуме лісця, у птушыных спевах.
А пад гарой — Няшчорда: звеку хвалі
Пясчаны бераг ціха падмывалі.
Ты помніш, як па роўнядзі азёрнай
Плылі з табой мы пад зарой вячорнай.
Як лодка хвалю, бы дэльфін, сабою
Разрэзвала — вір віўся за кармою.

Вось так Калумб калісьці свет нязнаны
Адкрыў быў, плывучы праз акіяны.

Часцей у час пагодлівы, святлісты
Няшчорды вабіў нас крышталь празрысты.
Якія краявіды там удала —
Што той мастак! — прырода малявала.
Як там вада вірыла ў час разліву,
Б'ючы наўзмах аб жоўты мур абрыву!
Там, помніш, вольна ластаўкі ляталі
І да вады, гарэзы, прыпадалі.

Дзе сонца весела на дне гуляла,
Дзе барва кветак бераг аздабляла,
На водмелі здаўна сярод блакіту
Край вартавалі глыбіны граніту.
Там птах лунаў не раз, нібы застылы,
Ды ў возера, як камень, склаўшы крылы,
Ляцеў — аж пырскі ўгору маляўніча! —
І з дна ўзмываў са срэбнаю здабычай.
А ўвечар від які, калі палае
Агнём рубінавым паўнебакрая!
Пажар той у вадзе з лісцём ракіты,
З чародкай хвой да рыскі быў адбіты.

Там выбягала з возера, з затокі,
Рака, кіруючыся ў край далёкі —
То срэбрам бліскала, то смоллю ззяла,
Калі, бы ў ноч, у лес густы ўбягала.
У лесе там, дзе дрэў стагодніх цені, —
І думкі нашы ўсе, і летуценні.
І ўдзень там змрочна, цішыня ў той гушчы,
З дупла хіба жыхар крылаты пушчы
Парушыць цішу. Свету таямніцы
Адкрыў там Бог. Там чысціні крыніцы.
Душы людской дае больш лес той дзікі,
Чым бляск палацаў залатых, іх зыкі.
Сюды ўваходзіш, нібы ў храм высокі.
Рой думак. Пра жыццё, свае вытокі.

Ты помніш, у той лес, у густалісце
З табой ішлі мы з кніжкамі калісьці.
Там згадвалі пад пошум ліп ды хвояў

Славутых лірнікаў, вучоных, вояў.
Яны, бяссмертныя, праз часу морак
Нам свецяць, бы святло ўжо згаслых зорак.
Пяском няпамяці у сонцаходзе
Сляды іх не засыплюць і стагоддзі.

Ты помніш, Станіславе, час далёкі,
Дні маладосці — хуткія аблокі?
Праходкі нашы, гульні, летуценні —
Усё ў мінулым. Памяці імгненні.
Крані іх — і як быццам зноў былая
Пра шчасце арфа многаструнна грае.

*1841. 23 чэрвеня. Пецярбург*

## ДЛЯ ІАГАНЫ А...ВІЧ [1]

Між стэпаў альгерскіх, у сонечны сквар
Ідзе пілігрым па пясчыстай дарозе.
Ні думкі — адно толькі ўтомы цяжар,
А тут яшчэ льва чуе рык у трывозе
Ды бачыць гіенаў сляды на пяску,
Ля нораў — жахлівую змеяў луску.

Раптам — вецер! Проста ў вочы —
Песчугой! Схавацца дзе б?
Міг — і цёмна, нібы ўночы.
Ураган! Бушуе стэп!
Пілігрым з віхурай б'ецца —
Ці жывы хоць застанецца?

Ды бура прайшла, зніклі гады, звяры,
Зефірык наўкол, бы ў раі, павявае,
І райская птушка, зляцеўшы з гары,
На пальму садзіцца, шчасліва спявае.
У птушкі той пер'е гарыць, нібы жар,
А спеў яе райскі — чаруе абшар.

Пілігрыма спеў дзівосны
Захапіў, і ён ураз
Пра свой шлях забыў нязносны,

Бы вярнуўся ў іншы час.
Гэты спеў на крылах мары
Думкі ўзнёс яго за хмары.

Дзяўчына! Калі я згадаю цябе,
Калі зноў пачую гук роднае мовы,
Забуду я час той, як быў у журбе,
Са мною зноў радасць, зноў ранак вясновы.

І душа ўся ажывае,
Бы анёл над ёй лунае.
А прысню, як на раялі
Грала ты й з-пад мілых рук
Тоны дзіўныя ўсплывалі,
Быццам райскай птушкі згук,
Свет тады я забываю,
Між нябёс жыву, лятаю.

*[1841]*

## ДА МОЛАДЗІ

Дарога жыцця твая толькі пачата,
Найвабнейшай кнігай — наперадзе свет.
Шукае там кожны свой ключык прыўзнята,
Ды нехта й не знойдзе мо шчасця сакрэт.

Што там эгаіст адшукае? Бы ліха,
Ў ім дух незычлівасці толькі сядзіць.
Яму перашкодай — ягоная пыха,
З ёй, бы ў лабірынце, яму век блудзіць.

Лепш будзе таму, хто сваё прызначэнне
Як след зразумее, хто бліжняму рад,
Хто слухае Неба святое вучэнне,
Каму кожны смертны на свеце — як брат.

Да мэты сваёй ты ідзі без хістання —
Хай сівер у вочы, хай град, ураган.
Шмат будзе наперадзе выпрабаванняў,
Бо свет наш — бурлівы, без сну акіян.

Грымяць навальніцы, б'юць гнеўныя хвалі,
Ды нават калі ззяе слава твая
І сонца гуляе па водным крышталі,
Цябе ўсё ж чакае дзесь здрады змяя.

Стаіўшыся ў схове, снуе свае сеці —
О шмат хто з даверлівых трапіў у іх!
Хай думка лунае твая па сусвеце,
Сягае да зор, да міроў незямных.

Сам творца жыве там, у зорных вышынях,
Ён даў, каб жыццё й на зямлі расцвіло.
Пазнай жа яго там, у далечах сініх,
І людзям адкрый боскай праўды святло.

*[1841]*

## БРАТКІ

(Для...)

У Сібіры, за Сібірам,
Пры рацэ далёкай Лене,
Хатка стала па-над вірам,
Між сцюдзёнага камення.

На акне ў вазоне краскі,
Ў іх і пурпур, і блакіты,
А сукенкі, апаяскі —
Ў іх з барвовых аксамітаў.

Як нябёсныя вясёлкі,
Пазіраюць задумёна
На лясы, пад шатай золкай,
На сцюдзёныя адхоны.

Адубеўшы ў сцюжы лютай,
Атлумеўшы ў суме горкім,
Людзі неслі крыж пакуты
Ад узгорка да ўзгорка.

Раптам сталі ўсе бадзягі
Каля гэтай сціплай хаткі,
І адразу, без развагі,
Закрычалі:
— Браткі!
— Браткі!

Гляньце, як цвітуць прыгожа,
Быццам дзе у нас вясною
Каля Нёмна, на разложжы,
Ці над роднаю Дзвіною!..

Залатыя успаміны
Ім прынеслі тыя браткі,
Нібы моц дала Айчына,
Каб змагацца да астатку...

Так і я з душой нязбытай,
На сваім шляху жыццёвым
Бляск вачэй тваіх блакітных
Прывітаў сардэчным словам:

— Вось яна, вясёлка тая,
Што асвеціць шлях у змроку!
Дзень мінулы — дагарае,
Новы, светлы — недалёка!

*1 лістапада 1842 г.*

## ЗАЧАРАВАНЫ КРАЙ

Па небе хмаркі плывуць, як пух,
А з імі разам лятункаў дух.

Праменне месяц пляце ў касу,
Калыша ў хвалях шкляных красу.

За хваляй хваля — на беражок,
А там — бялейшы, чым снег, — пясок.

Сваволіць ветрык, каханак руж,
Ля спадабанак зусім нядуж:

Ён у вяночку пялёстак іх
Укалыхаўся, замоўк, заціх...

Над гаем ходзіць паўночны сцень,
Ён абваколіў там кожны пень.

Русалка кружыць і вабіць так,
Каб закахаўся ў яе юнак:

То сядзе ў лісцік, то скача з дрэў,
Як салавейкі пяшчотны спеў.

Гуляе з кветкай, а кроплі расы,
Як перлы, ніжа у валасы.

Зноў над люстранай глыбінёй
Туліцца скронню яна сваёй

І падслухоўвае вохкі крышталь —
Музыку ракавін, сны караль.

Зорны начолак, нібы паўлін,
Ізноў купае ў расе галін.

Збірае з красак чароўны пах,
Сном спавівае бяссонны птах.

Але чароўны не гэны край,
Стакроць пякнейшы праўдзівы рай,

Дзе захаплення красуе куст,
Маёй багіні дзе родны кут,

Бо між смяротных дачок — адна
Найпрыгажэйшая ў свеце яна,

Бо паміж самых прыгожых зор
Самы найлепшы — яна узор.

І назаўсёды з маёй душой,
Ява і сны мае — ў ёй адной...

*1 лістапада 1842 г.*

# *САНЕТЫ*

1

## ЛЕТНЯЯ НОЧ У ФІНЛЯНДЫІ

Сонца толькі зайшло, ўжо і ўсход прамяніцца,
Спіць затока Фінляндская, лона ўздыхае.
Ноч у белай сукенцы, нібы маладая
Пад вянцом, ёй прыемнае мройліва сніцца.

Небу хоча адкрыцца сама таямніца,
І святло бледнату аддае небакраю,
Позірк зор пад заслонаю белай знікае,
Дзе-нідзе хмарка моўчкі спяшае напіцца.

Пазіраю на блізкіх, там, можа, высока
Гэтай зоркі праменне ў блакіце яснее.
Летуценка нам колісь была за надзею.

Ах! Блуканца жыццё ні яснюткае вока,
Ані промень надзеі ўжо не з'асалодзіць.
Аднак жа — і сонца ўсходзіць.

2

## НЯВА

Як увосені ў ноч свет раптоўна ўцякае,
Выгляд дзіўны Нявы і ўзбярэжжа граніты,

Цуг палацаў жалобаю водаў пакрыты
Ўзорыцца ў глыбіні — светла вокнамі ззяе.

Быццам граюць агні, а вада ледзяная,
І не дзівяць раку залачоныя пліты,
Ні сталіцы паўночнае бліск знакаміты,
Мусіць згінуць у моры — плыве і знікае.

Моўкне й мокне блуканец, стаіць сярод ценю.
О, Нява! На цябе ён падобны ў бяссіллі,
Чорным крэпам пакрыты ў яго летуценні.

Горад крыкам вясёлы, ён сумны ў бяскрыллі.
Дзе надзеі яго? Дзе ўспамінаў трымценне?
Ах! Далёка ўспаміны, надзеі ў магіле.

3

## ТРЫ СОНЦЫ

Ноч мінула. Марозна, вятрыста, імгліста.
Ўся прырода маўчыць, быццам сніць сон бясконцы.
Глянь на ўсход — тры слупы, гожа-дзіўна, агніста
Над Нявою палаюць — усходзяць тры сонцы.

Край паўночны, калі ўсё жывое абвяне,
Ў туманах пад снягамі заснуўшы ціхутка,
Мроіш ты аб трох сонцах у хмурым маўчанні,
Дзе не грэе й адно, і згасае дзень хутка.

Так няшчасны, калі яго лёс забівае
І крывяніцца сэрца ў цяжкім неспакою,
Ён былосць успамінам datkліва люляе.

Прыгажосцю былосці насыціўшы мрою,
Шчасце райскае сніць, а яму не спрыяе
І хвіліна адна, — жыццё маю такое.

### 4

## ЖАЛЕЗНЫ ВЕК

Бачыў вежаў святыні — о, страта святая,
Смутак засціў муры — сэрца скрушыць трывога.
Ах! Анёл, што насіў модлы продкаў да Бога,
Больш з высокіх нябёсаў туды не злятае.

Бачыў труны бацькоў, іх пяском замятае,
Быццам здзьмула людзей бура з подзьмуху злога.
Для нячулых дзяцей зарасла ўжо дарога.
Дзікі куст толькі смела сукі развінае.

Той, каму за віну валачы загадалі
Кайданы, праклінае свой вырак суровы.
А нявіннага сумна аплакваюць далі.

Як душу яго ціснуць жалобы аковы,
Спіць сумленне яго, ён віну сваю хваліць.
Ах! Калі ўжо аковы сляза мукаў спаліць.

### 5

Хмара з поўначы йдзе, ценем свет пакрывае,
Неба гасне, цямнее хваль чорных заслона.
Безупынна грыміць буравейнае лона,
Стылым жахам прыроду ўсю перасмыкае.

Звон касцельны трывогу душой адчувае,
Дым ад зёлак свянцоных займаецца сонна,
Кулі граду лятуць, і пабожны спаконна
Аратай перапуджаны Бога гукае.

І мацнеюць вятры ад усходу-заходу,
За Лапландскія скалы адносячы хмару,
І рассейваюць рэшткі па выгарбах лёду.

Дзе не можа змяніць сіла свет праз ахвяру,
Змогуць слёзы, малітва і вера народу.
Той, хто верыць, цуд бачыць...

6.

Хмары рвала маланка, раўлі буравеі,
Пространь водаў пакрылі ўначэлыя цені.
Човен мой несла доля, як сон аб збавенні,
Дно прадоння адчуць меўся якар надзеі.

Вобраз дзіўны спаткаў — твар зарою яснее,
Ззяе люстра вады, хмары зніклі ў імгненне,
Пала ў ногі Анёлу нябёсаў скляпенне
І мільёны планет — свет наўкол маладзее.

Дужа мала трывала надвор'е такое,
Знікла постаць нябёсная, свет сцяўся хмура,
Выюць люта вятры, грозіць страшная бура.

Завірыла мой човен узбухлай вадою.
Хоць плыву, ды куды, я ўжо не прыкмячаю.
Недзе там захлыне мяне хваля адчаю.

*[1843]*

## РУСАЛКА-СПАКУСНІЦА

З прастанародных паданняў

Ноўгарад умураваўся
Непадступнымі мурамі.
З тых краёў дамоў вяртаўся
Малады паніч з дарамі.
А каштоўныя з пашанай
Вёз дары сваёй каханай.

Вось і край бацькоўскі блізка.
Родныя палі, як песні.
Спёка спала, сонца нізка,
Салавей — музыка весні —
Гукі светлыя губляе,
Дзівіць, смуціць, захапляе.

Мчыць паніч, змрок, як залева,
Дрэвы, горы залівае.
Перабег дарогу злева
Заяц — варажба благая.
Стой жа! Конь твой беланогі
Здрыгануўся ад трывогі.
Скрушыцца й стралец не кожны,
Як здабыча мкне з дарогі.
Не стралец я, падарожны.
Рушым, коню! Прэч трывогу.
Сілу маем на дарогу.

Едзе-едзе — ноч спрыяе,
Выплыў маладзік з-за хмаркі.
Ліс улева прабягае
І знікае ў гушчы шпаркі.
Стой жа! Конь твой беланогі
Здрыгануўся ад трывогі.
«Прэч, праява! — ці ж у змроку
Мне разбойніка баяцца?
Шабля вострая пры боку,
Каб з нахабным лбом спаткацца!
Рушым, коню! Прэч трывогу.
Сілу маем на дарогу»

Пачарнела хустка ў ночы,
Легла на лясы, на горы.
Ды на дрэве злевабочы
Крук закрумкаў чарнапёры.
Што за знак? Ах, воля Бога!
Конь захроп. Не спіць трывога.

Едзе — маладзік двухрогі
Цені з дзіваў адганяе.
Бач, на лузе ля дарогі
Прыгажуня маладая!
А з касы на здзіў дзівосаў
Абтрасае перлы росаў.
Мне чароўнае здарэнне
Шчодра пасылае неба!
Гляньма зблізку на стварэнне,
Коню, пудзіцца не трэба.
Конна, збочыўшы з дарогі,
Скача вершнік колькі змогі.
Прыгажуня ўецца лёгкай
Ластаўкай, бары мінае.
Коню, капытамі кохкай,
Тут дарога незямная.
Маладзік знік, ды дзяўчына
Скача прад вачмі няспынна.
Чорных соснаў шум начэе,
Смелы конь ляціць стралою.
А яздок не разумее
Здрады стараны чужое.

Поўнач поўная ўтрапення
Надыходзіць, конь у пене.

Зноў на луг ступае панна,
Як бы ў зморы ледзь жывая.
Пазірае закахана,
Сумна на траву сядае.
І паніч да панны збочыў,
Бег стрымаў, з сядла саскочыў.

Гожы твар, стан, як сцябліна,
Рысы блізкімі здаліся.
Ці не перад ім дзяўчына
Тая, што кахаў калісьці.

— Марна страх твой шэжыць пер'е,
Не разбойнік я, павер мне.
— Едзеш з Ноўгарада рана,
Дабрадзейнасцю славуты.
Як там маладая панна,
Там, дзе страціў галаву ты?
Звабіў бліск яе адзення,
Полыск перлаў ды камення.
— Ці ж у тых краях бывала,
Дзе гацяць світаннем гаці,
Дзе сталіцы месца мала,
Дзе цячэ ракой багацце,
Дзе кабеты ўбраны, ўвіты
Ў золата ды ў аксаміты?

— Ах, адкрыць свайго жадання
Не магла я горкай долі,
І ад рання да змяркання
Пралівала слёзы ў полі.
Пасвіла вачыма ў скрусе
Неба, дзе ляцелі гусі.

«Гускі, гускі, — волю енку
Я давала са слязамі, —
Скіньце пёрак на сукенку,
Каб ляцець у вырай з вамі.»
Гусі ўчулі плач мой горкі,
Скінулі з-пад хмараў пёркі.

І абмылася слязамі,
І ўзвілася ў неба смела,
І крыло ў крыло з гусямі
Я на поўнач паляцела.
Бачыў зірк мой задуменны
Ноўгарад белакаменны.

Ластаўка там лёгкакрыла,
З белай грудкай, з чорнай спінкай,
Лётала — я й папрасіла
Ўбор пазычыць той хвілінкай.
І ў жалобе гэтай смела
Да цябе пад дах ляцела.

Мухай лётала ў пакоях
І яе — аж глухла ў гудзе —
Бачыла ў багатых строях.
Кленчыў, цалаваў ёй грудзі.
Кляўся ў вечнай ёй мілосці,
Я сканаць хацела ў злосці.

— Ах, мне трэба павініцца! —
І паніч падаўся жвава.
— Я русалка-чараўніца,
Ха, ха, ха, ха, брава, брава!
Хто мілосць спакусай студзіць,
У лясах хай вечна блудзіць!

Ха, ха, ха, ха! — ноч глухая
Носіць рэха ў перапудзе.
У бары паніч блукае,
Так блукаць ён вечна будзе.
Згэтуль, дзе вятры начуюць,
Ха, ха! — ў лесе людзі чуюць.
Людзі кажуць, як хто ходзіць,
Ягад ці грыбоў шукае,
Дык русалка смехам зводзіць,
Малады паніч блукае,
Горка плача, наракае.
Кожны, дрыжучы, ўцякае.

*[1840]*

## ДЗВЕ БЯРОЗЫ*

З народных паданняў

Ведае вёска: так шчыра Марылю
Ясь, маладую, кахае!
З Полацка возіць ёй стужкі штохвілю,
Брошкі для мілай купляе.

Сёння — ці будзе вось толькі да густу? —
Хлопец прывёз для каханай
Неба кавалак — блакітную хусту
З макаў гірляндай агнянай.

Мроіцца Ясю ўжо: тварык дзявочы
Радасцю шчырай зардзее.
Шмат скажуць хлопцу адданыя вочы,
Сэрца сагрэе надзея.

Ды што за кропка вунь бачыцца воку?
Голуб ляціць у блакіце!
З весткай якой ён спяшае з высоку?
Што, што нясе ён, скажыце?

Вось перад ганкам ён сеў, шызапёры,
Ясю, як ёсць, дакладае,

* У Полацкім павеце ёсць возера Шэвіна, пры ім на ўзгор'і стаяць дзве бярозы, якія люд называе «Дзявочыя слёзы» і на якія дзяўчаты вешаюць вянкі з кветак «Іван ды Мар'я». (Заўвага аўтара.)

Быццам Марыля, знябытая ў горы,
Слёзы адна праліває.

Бы сірату з нешчасліваю доляй
Мачаха ў пушчу паслала,
А каб адтуль не вярнулася болей,
Пушчу ўсю зачаравала.

Блудзіць па лесе Марыля. Цень ночы
Тут агарнуў сіраціну.
Крык пугачовы, ваўчыныя вочы
Страшаць да смерці дзяўчыну!

Стала між хвояў, дрыжыць, як асіна,
Просіцца, ледзьве жывая,
Літасці ў неба самога дзяўчына,
Ды — цішыня там нямая.

Ясь вестуна слухаць болей не здолеў,
Весткай нядобрай працяты.
Сеў на каня і штосілы праз поле
Мчыць да Марылінай хаты.

Мачаха злосна сустрэла хлапчыну:
«Падчарка дзе? Дзесь блукае!
З дому ўцякла. Ці ж я знаю прычыну!
Шмат вельмі гонару мае!»

Ясь больш не мог слухаць здрадныя словы,
Ныла душа па дзяўчыне.
Кінуўся ў лес, хоць быў час вечаровы:
Не, ён яе не пакіне!

Хлопца сустрэў бор нявеtлівы, дзікі,
Цемра глыбокая пушчы.
Соваў нябачных жахлівыя крыкі
З чорнай даносяцца гушчы.

Цэлую ноч у гушчэчы той блудзіць,
Кліча Марылю, гукае.

Глуха. Хіба толькі птушку дзе спудзіць,
Звера ў бярлозе злякае.

Бы пасвятлела — паловаю твару
Месяц зірнуў з паднябесся.
Ды зноў схаваўся за цёмную хмару,
Зноў стала вусцішна ў лесе.

Лес патанае ў счарнелым тым змроку —
Як жа знайсці тут Марылю?
Бліснула зорка іскрынкай з высоку,
Бліснула й згасла праз хвілю.

Ды ўжо зара паміж дрэваў яснее
За асаковай палянай.
Зноў узгараецца ў сэрцы надзея:
Знойдзе мо след хоць каханай.

Выйшаў на ўзгорак. Там з-за вербалоззя —
Гола, бязлюднае поле.
Толькі самотная ў лозе бяроза —
Плачкай над нейчаю доляй.

Нізка схілілася, быццам ад жалю —
Росы на голлі ці слёзы?
Белая, белая — нібы з паркалю
Дзіва-сукенка ў бярозы.

А каля шыі яе лебядзінай —
Газа[1] зялёнай лістоты.
Ветрык гуляе з той лёгкай тканінай,
Поўны нязнанай пяшчоты.

Раптам на Яся, здалося, яскрава,
Глянулі тут з-за галінкі
Сінія вочы Марылі ласкава
З чыстаю кропляй слязінкі.

Ясь аж застыў быў ад дзіўнага дзіва —
Як жа тут люба, як гожа!

Так і глядзіць на бярозу шчасліва
І адарвацца не можа.

Чуе, зязюля кукуе́ на вуха:
«Ясю, і праўда: тут тая,
Што ты шукаеш, па кім твая скруха,
Любай душа тут жывая.

Просіць яна цябе з ласкай, з пяшчотай
Стаць у цяньку яе, з ёю,
Шчыра табе ўсё раскажа лістотай,
Быць яна хоча з табою».

І прыхінуўся да любай у жалю
Ды і застыў з ёй хлапчына.
Толькі апошняю кропляй крышталю
З вейкі зляцела слязіна.

Дзень ён стаяў, бы якая падпора,
Бледны, нібы мармуровы.
Вось ужо й сонца пагасла над борам,
Тлее і захад барвовы.

Ноч завіхурыла свет навальніцай.
Д'ябальскі посвіст стыхіі.
Ды ўжо не верне й пярун з бліскавіцай
Яся цяпер з летаргіі.

Лес аж гудзе, вецер дрэвы згінае,
Б'ецца, шалее віхура.
Гром паднябесны зямлю скалынае,
Ноч усю носіцца бура.

Раніцай сціхла. Зіхоткія высі.
Сонца плыве над палямі.
Бачыць пастух: дзве бярозы спляліся
Голлем, як быццам рукамі.

Нібы ў вянку, пад нябёс сінізною,
Над лугавінай расянай

Шэпчуцца лісцем яны між сабою,
Так, як каханак з каханай.

Хутка заўважылі цуд гэты людзі,
З вёсак сюды заспяшылі.
Гляньце ж усе: дзе яшчэ такі будзе
Шлюб, як у Яся й Марылі?

Вырасла побач і дзіўная зёлка:
Гэта — зусім не на згубу —
Ім, маладым, сем калёраў вясёлка
Падаравала да шлюбу.

Што ні вясна — зёлка зноў неўпрыкметку
Тут расцвітае пад ранне.
«Ясь і Марыля» — назвалі так кветку
Людзі у знак іх кахання.

Ну, а бярозы? Спяваць ім купчастай
Кронай адзінай сваёю.
Мачахі ж дом паглынула пад час той
Возера з чорнай вадою.

*13 ліпеня 1841 г.*

## РОСПАЧ

Там, дзе бор па ўсім абшары
Плоціць ветру й сонцу плату,
Елкі ценяць, быццам хмары,
Чарнакніжнікаву хату.
Чарнакніжнік з твару шэры
Хоча з пекла слуг склікаць,
Кнігу ўзяў, а на паперы
Чорнай белы друк відаць.
Ён упоўнач пеклу штосьці
Кажа таямнічым словам.
Праз вакно ўлятае ў госці
Чорт з абліччам кажановым.
Тхне ад чорта духам зяблым,
Чорны чорт увесь, як крук.
Чарнакніжнік мовіць з д'яблам,
Хтось у дзверы грук, грук, грук.
— Хто там гэткі безгаловы?
Спяць звяры лясной сям'ёю.
Сну не маюць толькі совы.
Што табе такой парою?
«Тут перад табой баярын,
Роспач мой спакой падсекла.
Ты над пеклам валадаран,
Мне патрэбна помач пекла.
Я гуляў у карты, страты
І даўгі лічу на мілі.
Мой маёнтак і дукаты
Прыяцелі падзялілі.

І яшчэ абразы зношу,
Позіркі, што горш ад дзідаў.
Не хачу адпрошваць грошы,
Што я тысячамі кідаў.
Жонку я шукаю, раптам
З ёй забагацею смела,
Хоць страшыдлішчам была б там,
Золата каб толькі мела.
За гарамі, за барамі
Ваявода замак мае,
Важыць золата мяхамі,
З ім дачушка маладая.
Пекла да тваіх паслугаў.
Заплачу табе не мала.
Так зрабі, каб лёс паслухаў,
Каб маёю Альда стала.
Хай жа Альда — а не ўпотай —
Выбар скажа свой, хай ціша
Ў схоў за золата з ахвотай
І маю душу запіша».

Ценіцца над кнігай пража
З неспасціжных словаў, рухаў.
Крэсліць кола, штосьці кажа,
Кліча з пекла ўладцу духаў,
Кажа: «Раз непалахлівы,
Роспач зніме як рукою.
Тут вось чорны кот мурклівы.
Забірай ката з сабою.
Кроч дарогай — ля дарогі
Ёсць капліца, што ўчарнела,
Да капліцы без трывогі
Кроч і ў дзверы грукай смела.
Хтось адчыніць дзверы сцяты,
Дасць далонь — не прэчся ў спудзе,
На далонь яму ката ты
Пакладзі, чакай, што будзе.
Рупся, бо як заспявае
Певень, духі згубяць змогу».
Страх баярына сціскае,
Ды з катом ідзе ў дарогу.

3 Зак. 909

Лес густы дарога ніжа,
Жахі ўпотай шчэраць ляпы.
Кот глядзіць на рукі хіжа,
Свецяць вочы, як дзве лямпы.
Метэораў бліскавіцы
Нішчаць ценяў панаванне.
Вось цвінтар каля капліцы
І магільнае маўчанне.
Толькі й чуць, як вецер ніцы
Выгінае сук, як лук.

Тут баярын да капліцы
Падыйшоў і — грук, грук, грук.
Страшна — аж дрыжаць пашчэнкі,
Хтосьці дзверы адмыкае
І далонь дае з-за сценкі.
І ката бярэ й знікае.
Сеў баярын на каменне.
Навакол крыжы, магілы.
Ён чакае ў задуменні
Знакаў ад нячыстай сілы.
Дужка месячка худая.
Зоркі ходзяць самапасам.
Ён чакае ды гадае,
Што за дзіва гэткім часам?

Дзе самотнай думцы дзецца?
Страх расце нечалавечы.
Нехта стаў за ім, здаецца,
І кладзе руку на плечы.
Як бы ў страх ён апрануўся,
Апынуўшыся ў нябыце.
Раптам зірк — і схамянуўся:
Побач Альда ў аксаміце!
Цела ў перлах, з апаяскі,
З галавы зіхціць праменне —
Бліск рубінаў, быццам з казкі
У чараўніковай жмені.
І ў Баярына пытае:
«Што ты хочаш? Позна. Глуха.
Я, нібыта здань, блукаю,

Бо паслана сілай духу».
«Альда, не лічы, ўмаляю
Ветраным маё старанне,
Як ніхто цябе жадаю
І кахаю да сканання!
Альда, ты мяне скарыла,
Быць з табой хачу штохвілі!
Вось зялёная магіла,
Сядзьма разам на магіле.
Адняло ў магілы памяць,
Камень, што над ёй, сурова
Не падслухае, не ўцяміць
Нашыя з табой размовы».
«Прэч адсюль, тут крыж драўляны
Бачу я, а значыць гіну.
Крыж мне, што кінжал на раны,
Іншую знайдзі мясціну».
— Вось і ўзгорачак пад дрэвам
Гожа зёлкамі засланы.
Альда, што ты тлееш гневам?
Чым настрой твой сапсаваны?
«Зірк мой ледзь трывае здзекі —
Бліск планет да болю сіні.
Зоркі згаснуць хай навекі,
Твар маладзіковы згіне».
— Хмара маладзік акрые,
Зорны смех агорне смутак.
Што ж далоні ледзяныя?
Спалатнеў твой твар чаму так?
«Зябка ўночы, вецер вее,
Апаві мяне каханнем,
Хай тваё цяпло сагрэе,
Ажыві мяне дыханнем».
— Ах! Ах! Жах, змяя якая,
Дзе твой стужка стан сціскала,
Там змяя яго сціскае,
Да грудзей яна прыпала.
«Гэта скарб мае аздобы
На трывогу даў прычыну?
Як табе не даспадобы,
Пояс дарагі адкіну».

— А не жомчугі на шыі —
Чэрві плоймай точаць цела.
Там, дзе косы, змеі злыя,
Вочы свецяцца ўлюцела.
Кроў ад страху ўхаладзела.
«Звар'яцеў твой вераб'іны
Позірк, глянь нарэшце смела —
Гэта жомчугі, рубіны».
— Альда, здані, быццам хмары,
На цвінтар найшлі ўначэла.
І адкуль яны, пачвары.
Наваколле ўсё ўнямела.
«Страх адкінь свой, не зашкодзяць,
Падарожжа ўночы мелі,
Да магілаў зноў прыходзяць
На вільготнай спаць пасцелі.
Хутка ўжо залямантуе
Певень, што імга ўцякае.
Мушу йсці ў краіну тую,
Дзе мой цесны дом чакае».
Мовіла — й пачвараў зграя
Узгадала пра сняданне.
І баярын здаўся здані.

*Пецярбург,*
*1841 г. 14 кастрычніка.*

## КУРГАНЫ

У дарозе цяжка ў спёку,
Коней сціш, тут цень і холад.
Коней падганяе голад,
Дай спачыць ім, дай аброку,
Дый вада тут недалечка,
Ля карчмы смяецца рэчка.

Пехатой ідуць аблокі
З возера вады напіцца.
Пад гарой звініць крыніца,
На раўніне дуб высокі.
Лесам курганы прыспаны.
Касцёл блізка мураваны.

Вось ідзе падданец кія
З поля на дарогу й крэкча,
«Ці не скажаш ты, старэча,
Гэта курганы якія?
Можа, крыжакоў магілы?
Ці спачынак іншай сілы?»

— Звеку кажуць і даводзяць,
Гэта крыжакоў магілы.
Тут капаюць дол астылы,
Зброю ржавую знаходзяць.
І сказаў мне пра здарэнне
Жудаснае да зняменя.

Тут калісьці ў нашым краі
Жыў якійсьці чужаземец,
Ці француз ён а ці немец,
Аніхто ўжо не ўзгадае.
Ні ў нядзелю, аніколі
Не бываў ён у касцёле.

І не меў, вядома, шаны
У суседзяў, бо нібыта
З чортам ладзіў сябравіта,
Дый памёр неспавяданы.
Твар меў жудасны на подзіў —
Кожны позірк свой адводзіў.

Страшныя астанкі звычна
Грамада ў труну хавае,
Свенціць ксёндз вадой, спявае
Requem eternam зычна.
І труну пад голас звона
У касцёл нясуць сцюдзёна.

Ля касцёла за ракою
У суседзях з курганамі
Жыў юнак за туманамі,
Не даваў усім спакою.
Зухаваты, дзёрзкі, ўпарты
І са зданяў строіў жарты.

Пахваліўся: «Перш чым зграю
Уначэлых цёмных жахаў
Пеўняў крык прагоніць з гмахаў,
Жарт з нябожчыкам сыграю,
Волас выстрыгу з вусішча,
Хай жа здань мне ўслед пасвішча».

Як сказаў такія словы,
Адступацца недарэчна,
Гонар страціць небяспечна.
Хлопец быў на ўсё гатовы.
Дзверы кутыя паволі
Адамкнуў — і ўжо ў касцёле.

Ды сама найшла трывога,
Глуха скрозь, глядзіць з ваконца
Маладзік — заступнік сонца.
Ён малітву ўзнёс да Бога,
Ўзяўшы з алтара распяцце,
Каб прагнаць вякоў закляцце.

З крыжам хлопец пасмялелы
Да мярца йдзе без супыну,
Адмыкае дамавіну —
Бачыць чорны труп згарэлы.
Вочы ўпалыя, як днішчы,
Сівыя тырчаць вусішчы.

Ён за вус, а здань рукою
Вус хапае ды вачамі
Зырыць, склыгае зубамі,
І ўстае, і галавою
Круціць. Хлопец стаў, як хворы —
Дзверы ён забыў на хоры.

І на сходцы крыж узмашны
Ён паклаў; бяжыць нябожчык,
Зірк на крыж — і глухне пошчак,
Крыж асуджанаму страшны.
І жахлівае аблічча
Пасярод касцёла кліча:

«Вырачэнцы-душы, ўстаньце,
Вашы жыцці свет жахалі,
Тут вас курганы прыспалі.
Хоць на свет здзічэлы гляньце.
У крыжацкай непакоры
Штурмам возьмем, возьмем хоры».

Задрыжэла ўсё наўкола,
Гэткі голас быў пагудны,
Быццам бы труба у дзень судны.
Курганы як раскалола.
У глухой цвінтарскай тхлосці
Грукаюцца труны й косці.

Падымаюцца шкілеты,
У іх з насоў, з ратоў нялюбы
Сыплецца пясок праз зубы;
Труны, ржавыя стылеты,
Бач, нясуць, хадою шпаркай
Крочаць, месік знік за хмаркай.

Лярвы кідаюць дакоры
І касцёл перапаўняюць,
На труну труну ўскладаюць,
І па трунах аж на хоры,
Як па сценах пары-ў-пары
Лезуць страшныя пачвары.

Ксціўся ён анёльскім сказам.
Як імя Езуса ўчулі,
Паляцелі долу ў гуле
Косці з узбраеннем разам.
Труны падалі вясёла,
Ноччу гром грымеў з касцёла.

Зоркі йшлі сваёй дарогай,
Ды ўцяклі хутчэй за хмары.
Зрэдку маладзік паджары
Пазіраў на ўсё з трывогай.
Там над цвінтаром без жалю
Совы крыллем лапаталі.

На нагах ужо шкілеты,
На труну труну ўскладаюць,
Штурм нанова пачынаюць,
Мечы ржавыя, стылеты
Помста ўзносіць перад бітвай —
Не памогуць крыж з малітвай.

Ксціўся ён анёльскім сказам.
Як імя Езуса ўчулі,
Паляцелі долу ў гуле
Косці з узбраеннем разам.
Труны падалі вясёла,
Ноччу гром грымеў з касцёла.

Рана бліснуў дзень праменнем,
Молячыся за памерлых
Асвячонай веры верных,
Ксёндз заходзіць са здзіўленнем
У касцёл, і лоб ягоны
Пакрывае пот сцюдзёны.

І прыбеглі з вёскі людзі,
Як пабачылі шкілеты,
Труны, ржавыя стылеты,
Спалатнелі ў перапудзе.
Сэрца ў кожнага дрыжэла.
Роспыты пайшлі нясмела.

Узнялі на хоры вочы —
Там юнак знямелы, белы.
Ён пасля, паздаравелы,
Распавёў пра жахі ночы.
І прыгадваў з дрыжыкамі
Пра сустрэчу з крыжакамі.

Змоўк стары. Найшло сутонне.
І зірнуў на курганы я,
І згадаў часы былыя,
Загадаў запрэгчы коні.
Едзьма! Час вячорны можа
Залагодзіць падарожжа.

*[1841]*

## ЗАРОСЛАЕ ВОЗЕРА

Балада з народных паданняў

Поўняць на захад ад Неўля прастору
Вобразы дзікай прыроды:
Лесам, як ценем, укрытыя горы
І ў берагах цёмных воды.

Зелень травы скрозь ды чырвань тут моху
Роўна даліну заслалі;
Ёсць пасяродку яе вады троху,
Што як люстэрка з аддалі.

Возерам колісь была роўнядзь тая,
Лодкі рыбацкія мела;
Ветрам узнятая хваля крутая
Ля берагоў тых шумела.

Час (ён спаўняе заўжды прызначэнне)
Хвалі пазбавіў свабоды;
Зверху раскінуў з траў дзікіх скляпенне,
Сціснуўшы возера воды.

Возера-вязня схавала цямніца,
Толькі ў малое ваконца
Месяца твар час ад часу глядзіцца,
Промень ад зоркі праб'ецца.

Ціша магільная там ужо будзе,
Толькі ў вячэрнім тумане
Чутны крык качак, пра возера ж людзі
Гэткае помняць паданне:

Снег ішоў, зорка згасала пры зорцы,
Вецер і цемра густая,
Возера ўнізе, вёска на горцы,
Люд у карчме ўжо гуляе.

Шум за сталом, кожны куфаль трымае,
Хто каго хоча частуе;
Тут у дуду дзьме музыка, іграе,
Моладзь ахвотна танцуе.

Дзед, які з палкаю ледзь ставіў крокі,
Быццам набыў спрыт юначы,
Сціснуў дзяўчыну, пасля рукі ў бокі
І казака ў гурце скача.

Смех у натоўпе і плясканне ў ладкі,
Весела ўсюды народу;
Раптам рыбак, снег атросшы з апраткі,
Стаў і гаворыць ля ўходу:

«Брацця, спачніце ад скокаў хвіль колькі,
Рыбы на ловах замнога,
Скача з-пад лёду, і ў невадзе столькі,
Што трэба будзе падмога».

Тут як зароў хтось: «Ой, страта якая!» —
Потым на печы заахаў;
Раптам пачвара на двор вылятае,
Людзям падкінуўшы страхаў.

Кожны на дзверы глядзіць у спалоху,
Танцаў ацiхла стыхія,
Хрысцяцца разам адныя патроху,
Пацеры шэпчуць другія.

Люд уцякае, ў карчме парадзела,
Больш тут не цешыць нічога;
Толькі стуль моладзь спяшаецца смела
Да рыбакоў на падмогу.

Вось цягнуць невад, з вады ўжо дасталі,
Разгортваюць невад шырока;
З дзіркаю быў ён: як быццам парвалі,
Рыбы ж нідзе ані вока.

Гэта жарт чортаў, і думка ўзнікае:
Як толькі ранак засвеціць,
Возера ксёндз, можа, хай пасвянцае,
Потым закінуць зноў сеці.

Злы дух падслухаў нараду й размовы,
Што будуць клікаць плябана.
Выдумаў жарт яшчэ гэтакі новы,
Што толькі ў духу шайтана.

Цёмная ноч апусцілася нізка,
Зоркі знікаюць у хвалі;
Дом на гары каля возера блізка,
Шчэ ў ім агні не стухалі.

Моўчкі сядзіць там рыбак ва ўтрапенні,
Жонка і дзеці ўжо спалі;
Думку спыніў ён на дзіўным здарэнні,
Стратах, што іх напаткалі.

Бура бушуе, лес крышыць уночы,
Віхры нясуцца па свеце;
Вые сабака, ў ката гарацць вочы,
Як ліхтары ў цемры свецяць.

Дух недалёка — рыбак знервавана
Пот на ілбе выцірае;
Жонку хацеў разбудзіць нечакана —
Хтосьці ў акно зазірае:

«З просьбай, сусед, да цябе я прыходжу,
Дай мне вазок дзяцей везці;
Хутка вярну, за дабро ўзнагароджу,
Як толькі ранак засвеціць».

«Цёмна, і вецер, бы мора, іграе,
Што ж, як патрэба такая!» —
«Бура нічога, ды час не трывае,
Мэта мяне падганяе».

Глянуў рыбак, насцярожыў ён вуха,
З віхрам сусед нестрыманы
Хутка прапаў, і адна завіруха
Снежныя ўзносіць туманы.

Бура аціхла, замоўклі віхуры,
Ветры кудысь пазнікалі,
Вынырнуў месячык ясны з-за хмуры,
Зоркі на небе заззялі.

Думку рыбак не адводзіць ад дзіва,
Ды ўжо агонь дагарае;
Спаць ён улёгся, і зноўку пудліва
Думка снавалася тая.

Хатнія ўсталі, агонь ужо свеціць,
Працу сабе ўсе займелі;
Хто ўе вяроўкі, а хто пляце сеці,
Ўстаў і рыбак тут з пасцелі.

Ранак на ўсходзе гарэць пачынае,
Іней апаў на бор сонны;
Просьбу суседа рыбак узнаўляе,
Згадвае клопат ягоны.

З хаты выходзіць, і здзіў нечуваны
Зноў яго стрэў ля дварышча;
Бачыць вазок свой, ён лёдам скаваны,
А на вазку — шчупачышча.

Жонка і хатнія выйшлі ўжо з дому,
Што тут, ніхто з іх не знае,
Ён жа нічога не кажа нікому,
Быццам штось мысляй чытае.

І заспяшаўся на возера, сцяты,
Сець там была ўжо гатова;
Між рыбакамі пра дух той праклятый
Ціха вялася размова.

Зблізку й здалёку збягаюцца людзі,
Той тому кажа, што знае,
Кожны цікавіцца, што гэта будзе,
Ксёндз на санях пад'язджае.

Богу старанна пачаўшы маліцца,
Службу святую там справіў;
Высвянціў невад і тую вадзіцу,
Працу на добрасць уславіў.

Кожны, свае далучаючы сілы,
Разам працуе з народам;
Невад, свае распраўляючы крылы,
Пространь займае пад лёдам.

Сетка па лёдзе ужо слізгацела,
Воды бурлілі глыбока,
Невад дасталі, і ў невадзе цэлым
Рыбы не бачаць ні вока.

Сталі над сеткаю ўсе ў задуменні:
Нечага тут перайначыць;
Хтосьці азваўся ў людскім зграмаджэнні:
«Вам я скажу, што ўсё значыць.

Сёння, на сходзе ўжо ночы глухое,
Рыбу здабыўшы з-пад лёду,
Чорт перавёз яе ў месца другое —
Вось яго доказ народу».

Кажа ён, як чорт вазка расстараўся,
З віхрам ляцеў, з непагодай,
Як да яго праз вакно ён звяртаўся,
Сані вярнуў з нагародай.

Слухалі людзі аповед жахлівы,
Сцятыя цяжкай жальбою,
І разышліся па хатах маўкліва,
Невад забраўшы з сабою.

Тая мясціна нібы ўчаравана,
Кожны яе абмінае;
Тая вада, што даўно нечапана,
Мохам, травой зарастае.

Выкляты дух, дзе ні ступіш у дзеі,
Там адны беды, руіны;
Дзе былі замкі, там водзяцца змеі,
Там апусцелі краіны.

*[1842]*

# ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ,
# *або Беларусь у фантастычных апавяданнях*

## КОЛЬКІ СЛОЎ АД АЎТАРА

Сярод беларускага люду захоўваюцца яшчэ і цяпер асобныя паданні даўніх часоў, якія, пераходзячы ад чалавека да чалавека, зрабіліся такія ж цьмяныя, як і міфалогія старажытных народаў. Жыхары гэтага краю — Полацкага, Невельскага і Себежскага паветаў, — спрадвеку пакутуючы, зусім змяніліся характарам; на іх тварах заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасць. У іх фантазіях увесь час блукаюць нядобрыя духі, якія, аднак, служаць злым панам, чараўнікам і ўсім непрыяцелям простага люду.

Я нарадзіўся там і вырас, іх скаргі і журботныя апавяданні, як гоман дзікіх лясоў, навявалі на мяне заўсёды змрочныя думкі і з дзяцінства былі маёй адзінаю марай.

Некаторыя з гэтых родных успамінаў я прыгадаў у баладах; гэта быў мой самотны напеў. Балады былі пачаткам таго, пра што я меў намер сказаць падрабязней. Гэта ў чалавечай натуры — ад песні пераходзіць да апавядання пра тое, што нас найбольш займае. Павінны выйсці адзін за адным шэсць[1] томікаў гэтых аповесцяў, якія малююць пераважна мясціны паўночнае Беларусі, бо гэты куток зямлі заўсёды выклікае ў мяне наймілейшы ўспамін.

Я не пераймаю формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія; лічу, што чужаземнае не будзе пасаваць негаваркому жыхару Беларусі. Узяў я форму з самое прыроды. Сірата штодзённа наракае на сваю нядолю, апавядае пра розныя пакуты, якія ён мусіў трываць на гэтым свеце, і яго скаргі

на працягу ўсяго жыцця зліваюцца ў адну аповесць, хоць ён і не думаў сёння пра тое, што будзе апавядаць заўтра.

*Ян Баршчэўскі*

*Пецярбург, 1844, 8 верасня*

## НАРЫС ПАЎНОЧНАЕ БЕЛАРУСІ

Той, хто падарожнічае з поўначы ў бок Беларусі, бачыць перад сабою велізарныя вёскі накшталт мястэчак, белыя мураваныя касцёлы і камяніцы двароў* , шырокія засеяныя палі, сямтам невялічкі хваёвы бор або бярозавы гай, чуе не раз працяглы і гучны спеў селяніна, які далёка, наколькі сягае вока, разносіцца па палях або пералятае горы і даліны з мелодыяй пастухоўскага ражка. У нядзелю, калі сонца набліжаецца да захаду, сустракае ён вясковых дзяўчат у святочных паркалёвых, а часам і ў ядвабных саянах у атачэнні юнакоў-залётнікаў; водзяць яны карагоды, спяваючы народныя песні, а старыя, седзячы на прызбах, разважаюць пра мінулыя і сённяшнія часы...

Аднак калі ён набліжаецца да межаў Себежа і Невеля, то бачыць перад сабою разлеглыя цёмныя пушчы, якія, быццам хмары, навісаюць на даляглядзе, паміж лясоў — саламяныя стрэхі бедных жыхароў; дзе-нідзе позірк сустракае вытырклы паміж хвоямі жалезны крыж пакрытае мохам каплічкі, перад дзвярыма якой на двух хваёвых слупах вісяць або два, або тры званы; па ваколіцах раскіданы магільныя крыжы і камяні.Рэдка натрапіш там на прыстойна збудаваны панскі дом; няшмат і касцёлаў такіх, дзе можна было б бачыць густ архітэктара або выдаткі багатага фундатара; і гэты выгляд зямлі, змрочны і дзікі, пачынаючыся ад ракі Ловаць, распасціраецца да берагоў Дзвіны, дзе канчаюцца Палата і Дрыса.

На ўсім гэтым абшары вузкія камяністыя дарогі, пераразаючы гарыстыя мясціны і мінаючы дзікія берагі азёраў, хаваюцца ў пушчах. У бедных вёсках у святочныя і будзённыя дні заўсёды пануе нейкая панурая цішыня; рэдка адгукнецца песня

---

* Гэтак тамтэйшы люд называе мураваныя дамы маёнткаў (Тут і далей заўвагі Я. Баршчэўскага).

жняца або ратая, і па гэтым спеве можна лёгка зразумець яго заклапочаныя думкі, бо няўрод часта ашуквае тут надзеі працавітага земляроба...

У гэтых краях прайшлі дзіцячыя мае гады. Тут я пасля таго, як разлучыўся з маладымі сваімі таварышамі па Полацкай акадэміі, не могучы мець пры сабе іншых кніг, апрача некалькіх лацінскіх і грэцкіх класікаў, блукаў у прыемных марах дзе-небудзь у цёмнай пушчы або па бязлюдным беразе возера; любіў чытаць у кнізе прыроды, калі вечаровай пароюадкрыецца старонка, на якой мільёнамі зіхоткіх угары зорак напісана Божая ўсемагутнасць. На зямлі, пакрытай безліччу раслін і жывёл, я чытаў аб міласэрнасці і волі Творцы. Гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуццям лепей, чым сённяшнія гаваркія крытыкі, якія чужыя пачуцці і розныя здольнасці, дадзеныя чалавеку ад Бога, хочуць, быццам фрак, перашыць на сваю фігуру.

Апавяданні старых пра розныя здарэнні ў іх народных аповесцях, якія перайшлі ад чалавека да чалавека са старадаўніх часоў, былі для мяне гісторыяй гэтае зямлі, характару і пачуццяў беларусаў.

Пасля таго як лёс закінуў мяне ў далёкія мясціны, як жа часта самотныя думкі мае з берагоў Нявы вяртаюцца ў гэты край, дзе прайшлі лепшыя гады майго жыцця, дзе столькі мілых успамінаў малюе мне памяць! Успамінаю недалёкія ад Невеля ваколіцы Рабшчызны, дзе прырода ўзняла высокія горы, быццам паверхі велізарных гмахаў, якія стагоддзі пакрылі ценем лясоў, а некаторыя пад пагодлівым сонцам ззяюць залатым пяском. Якія там разнастайныя краявіды, якія цудоўныя малюнкі! Калі хто, будучы ў гэтым краі, узышоў на вяршыню Пачаноўскае гары* і глядзеў на дзікія ваколіцы, што ляжаць навокал, дык бачыў, як азёры тут і там, нібы люстэркі, адбіваюць дзённы прамень, а над іх берагамі дрэмлюць густыя лясы, як дзе-нідзе па схілах чарнеюць бедныя сялянскія хаціны; але не ўбачыш тут нідзе ні гарадскіх муроў, ні вежаў старога замка. Там чалавек забывае пра свет. Не разважаюць там пра спрэчкі французскае палаты ў справе Егіпта і Турцыі[1], не чуваць там пра англійскі парламент[2], пра вайну з кітайцамі[3], не гамоняць там ні пра чыгункі[4], ні пра дзівосную вынаходку Дагера[5]. І толькі голас пастушка, стрэл паляўнічага ў лесе або вецер, што гойсае ў вяршалінах пушчы, парушаюць на хвіліну цішыню ваколіцы...

---

* Верш пад гэтай назвай змешчаны ў «Незабудцы» на 1841 г.

Бліжэй да Полацка возера Нешчарда на некалькі міль залівае абшар, падмывае хвалямі ўзбярэжныя пясчаныя горы, на поўдзень — шырокія паплавы, усеяныя купамі лазняку, сямтам рэчкі, бегучы здалёк сярод чароту, хаваюцца ў разліве азёрнае вады. Там вясна — рай; самыя розныя птушкі, здаецца, збіраюцца з усіх канцоў свету, тысячы розных меладычных, дзікіх і чуллівых галасоў адгукаюцца над вадою па лугах і лясах: енк зязюлі, пошчак салаўёў, голас бугая ў чароце, рэзкія крыкі качак... Гэтая дзівосная суладнасць і гэты канцэрт прыроды пераносілі мае ўяўленні ў нейкі чарадзейны край.

І цяпер гэтыя мясціны, дзе ў маленстве я бачыў столькі цудаў прыроды, гэтыя гаі, гэтыя зялёныя берагі Нешчарды памяць малюе мне, нібы прыснёны сад. Прыпамінаю народныя апавяданні пра паданні гэтага краю, пра горы, дрэвы, Нешчарду, якія ходзяць сярод люду; і хоць у яго апавяданнях цяжка знайсці поўную праўду, аднак можна бачыць нейкі след мінуўшчыны гэтага краю, бо яшчэ дагэтуль у некаторых мясцінах можна назіраць валы, узнятыя чалавечаю рукою; гэта, бясспрэчна, сляды войнаў, пра якія не ўспомніў аніводзін гісторык. Часам пагляд сустракае курганы, пакрытыя лесам. Можа, у ценю шумлівых хвояў спачывае там які-небудзь ваяўнік, імя якога даўно забытае. Я не раз чуў аповяды простага народа пра даўнія войны, але да іх столькі дамешана казак і цудаў, што застаўся толькі слабы след мінуўшчыны, без імёнаў дзейных асоб. Раскажу адно простанароднае паданне гэтае ваколіцы.

На паўднёвым баку возера Нешчарды ёсць гара, якую з трох бакоў амывае вада, на той гары — драўляны маленькі касцёлак і некалькі хвояў. Там часта знаходзяць у пяску сцёртыя вякамі срэбныя манеты, шкляныя аздобы, якія насілі бабулі нашых бабуляў, іржавыя рэшткі разнастайнае старасвецкае зброі. Кажуць, на той паўвыспе быў некалі горад. Аднак чый горад, хто ў ім уладарыў, невядома. Тамтэйшы люд, які жыве ў аддаленых лясістых ваколіцах, доўга не ведаў нападаў розных плямёнаў, што блукалі ў тым краі дзеля рабунку. Праз некаторы час страшны волат, якога звалі Княжа, прываблены да берагоў Нешчарды надзеяй на багаты рабунак, аблажыў з велізарнай хеўраю разбойнікаў гэты горад, адужаў слабую абарону, абрабаваў дамы, пазабіваў жыхароў, у касцёлах паабдзіраў абразы і спляжыў ахвяравальны посуд, нават касцёл зруйнаваў, а званы ўтапіў у возеры і з натоўпам сяброў атабарыўся ў спустошаным горадзе. Аднак Бог дзівосным чынам

абвясціў сваю кару блюзнерцам. Званы, затопленыя на дне возера, штодзень на захадзе і ўсходзе сонца абуджалі глухое маўчанне на дзікіх берагах Нешчарды так, што птушкі, напалоханыя енкам гэтага звону, а сарны і ласі, дрыжучы ад страху, пахаваліся ў далёкіх пушчах. Апоўначы лятала чума, падобная да чорнага шара, і дзе яна дакранулася да сцяны, з гэтага дому ўжо ніхто не выходзіў жывы, і такім чынам вымерла ўся дружына Княжа; сам ён, перапалоханы пакінуўшы ўсе багацці, закапаныя ў гары, уцёк з некалькімі сябрукамі, але недалёка за возерам яго напаткала смерць. Народ і зараз паказвае аграмадны курган, які называецца Магілай Княжа[6].

Шмат і іншых паданняў у тым краі кружыць сярод простага люду; у многіх з іх згадваюцца гістарычныя выпадкі, іншыя ж — болей плён фантазіі ды меланхалічнага духу, што вызначае жыхара гэтых дзікіх і лясістых ваколіц; ад прыроды ён здольны да жвавае думкі, уяўленне яго стварае дзіўныя карціны. Некаторыя з тамтэйшых простанародных паданняў я перадаў у баладах, змешчаных у трох томіках штогодніка «Незабудка», а менавіта: «Дзявочая крыніца», якая знаходзіцца на поўнач ад горада Полацка, схаваная ў ценю адвечных лясоў; «Дзве бярозы», якія і цяпер люд паказвае непадалёку ад берагоў возера Шэвіна; «Курганы» і «Русалка»[7], узятыя з песні чараўніцы, якая, сумуючы па сваім каханым, спявае:

> ***Гусанькі, лябёданькі,***
> ***Скіньце мне па пёрачку,***
> ***Я з вамі палячу**** .

Бываюць тут часам у нядзелю кірмашы; людзі збіраюцца з бліжэйшых вёсак у касцёл. Там на могілках можна бачыць сцэны, якія наводзяць на душу смутак. Вось удава з малымі дзецьмі ля драўлянага крыжа, які стаіць над магілаю яе мужа, а там сірата над магілаю бацькоў выказваюць сваю журбу голасам, які раздзірае сэрца; калі хто наблізіцца да іх і падслухае іхнія словы, — яны зайздросцяць мёртвым, і гэтыя слёзныя скаргі, здаецца, працялі б і каменныя грудзі.

Пасля набажэнства ўсе збіраюцца ў адным месцы, дзе-небудзь паблізу карчмы; тут з'яўляецца некалькі жыдкоў[8] са стужкамі, іголкамі і рознымі блішчастымі аздобамі для адзення; падае голас адмысловая беларуская дуда. Распачынаецца музыка[9] пад адкрытым небам; скачуць да поту, іх радасць час-

---

* Беларускія словы, сказы і песні, напісаныя Я. Баршчэўскім лацінкаю, выдзелены ў нашым выданні курсівам.

та пераходзіць межы прыстойнасці. А журботныя плакальшчыцы, якія нядаўна заліваліся слязамі над магілаю мужа і бацькі, скачуць пад мелодыю дуды:

*Слава табе, Хрысце цару,*
*Што мой муж на цмантару,*
*І бяды пазбылася,*
*І гарэлкі напілася.*

Або таксама:

*Калі ж тая серада прайшла,*
*Як не еўшы на прыгон пайшла,*
*Весь дзень жала, не лянілася,*
*Злому войту пакланілася;*
*А цяпер жа ні а чом тужыць,*
*І войт п'яны у карчме ляжыць.*

У большасці песень гэтага простага люду, як у думках, так і ў мелодыі, ёсць нешта меланхалічнае, і нават вясельныя песні, дзе маладым зычаць шчаслівага супольнага жыцця, маюць у сабе нейкае пачуццё смутку, як быццам яны не давяраюць будучаму лёсу ў гэтай юдолі плачу... Але вясельныя абрады адметныя рыцарскім запалам; малады, перш чым стаць ля парога бацькоў нарачонае, прывучае свайго каня не баяцца агню і кідацца ў полымя, а пасля такое падрыхтоўкі, сабраўшыся ехаць да свае нарачонае, ён і яго дружына надзяваюць чырвоныя шапкі, звешваюць на грудзі чырвоныя хусткі ды імчацца праз горы да дому, дзе іх чакаюць нявеста і госці. Перад варотамі яны спыняюцца: салома шугае полымем, ён і дружына пераскокваюць яе наўскач на ўдалых конях, але і тут яшчэ запаленыя пучкі саломы, якія кідаюць коням у вочы, не дазваляюць заехаць у адчыненыя вароты: яны адольваюць усе перашкоды: малады са схіленай галавою ўваходзіць у хату, сядае за сталом, чуецца песня «*Баслоў Бог вяселле іграць*»*, і тут пачынаецца блаславенне маладых і вясельны баль. Але ў часе таго балю здараюцца розныя незвычайныя выпадкі.

Беларусь, як і іншыя народы памятае яшчэ некаторых сваіх міфалагічных бажкоў. Русалкі, калі жыта красуе ў полі, з распушчанымі доўгімі валасамі гушкаюцца на бярозах і спяваюць песні; іхні смех адгукаецца ў глыбіні лясоў і трывогай працінае тых, хто збірае грыбы або ягады. Лясны бог — пан дзікіх пустэльняў; каб чалавечы зрок не мог яго ўгледзець, ён пад размаітымі выглядамі хаваецца ў сваіх уладаннях; мінаючы лугі, так змяншаецца, што яго нельга ўбачыць у густой траве;

* Блаславі, Божа, сватанне, бяседу вясельную.

ідучы праз пучшы, раўняецца з самымі высокімі хваінамі. Ён апякун звяроў і лясных птушак. Кажуць, што бачылі велізарныя чароды вавёрак, якіх лясны бажок перапраўляў з аднае пушчы ў другую; ён рабіў гэта, каб выратаваць іх ад агню, бо прадбачыў, у якім баку выбухне пажар.

Урачыстасць *Купалы* вядома амаль усім славянскім народам. На Беларусі 23 чэрвеня[10], пасля заходу сонца, адбываецца *Купальня*, або Свята Купалы; уначы шукаюць скарбаў; самы шчаслівы той, каму пашанцуе сарваць кветку папараці; яго зрок прыкмячае закапаныя ў глыбіні зямлі скарбы, і ён столькі можа мець золата, колькі сам захоча. Кабеты разам з юнакамі і дзяўчатамі каля вогнішчаў са смаловага палення чакаюць усходу сонца, спяваючы песні:

> ***Іван ды Мар'я,***
> ***На гарэ купальня,***
> ***Дзе Іван купаўся,***
> ***Бераг калыхаўся;***
> ***Дзе Мар'я купалась,***
> ***Трава рассцілалась.***

Ды іншыя падобныя песні гучаць у полі, аж пакуль сонца не зайграе на небе.

Ноч *Купалы* ў тым баку Беларусі поўная незвычайных здарэнняў. На думку простага народа, уся прырода ў гэтую ноч весяліцца. Рыбакі бачаць азёрнае люстра, якое часам раскашуе ў месяцавым ззянні, і хоць неба яснае і паветра спакойнае, бліскучыя хвалі, удараючы ў берагі, разбіваюцца на кроплі, якія, нібы зоркі, свецяцца ў паветры. І гэтае цудоўнае відовішча на зарослых чаротам берагах абуджае дзікіх качак і іншых вадзяных птушак, якія, прывабленыя дзівосным свячэннем вады, уздымаюцца тут і там над ясным возерам.

Дрэвы у лесе таксама могуць пераходзіць з аднаго месца на другое; шумам сваіх галін яны размаўляюць паміж сабою; апавядаюць, што нехта, блукаючы гэтай ноччу ў лесе, знайшоў кветку папараці і бачыў не толькі скарбы, схаваныя ў зямлі, але і незвычайныя дзівы ў прыродзе; разумеў гаворку кожнага стварэння; чуў, як дубы сыходзяцца з розных мясцін і, зрабіўшы кола, гамоняць шолахам галін, прыгадваючы, быццам старыя ваяры, свае гераічныя ўчынкі і даўнія заслугі. Ліпы і бярозы, збіраючыся там, хваліліся сваёй прыгажосцю; сярод іх былі некаторыя, нібыта госці з суседніх садоў, класічна падстрыжаныя і выпрастаныя; тыя гаманілі пра за-

лётнасць дваровых дзяўчат і свавольства панічоў, сведкамі якого яны не раз былі; а гэтыя крыўдныя размовы з пагардаю слухалі задуменныя хвоі і яліны; бачыў вербы, якія, стоячы над рэчкай і ўглядаючыся ў вадзяное люстэрка, пыталіся адна ў аднае, што якой з іх пасуе, — і гэтыя цуды дзеюцца ажно да ўсходу сонца.

Усход сонца пасля гэтае бяссоннае, урачыстае ночы таксама бывае крыху асаблівы. Натоўп люду, што весяліцца ў полі, канчае песні і танцы і моўчкі скіроўвае вочы да неба, нібы пазглядае на сцэну, дзе ўверсе, на палаючай прасторы далягляду, павінна з'явіцца штосьці незвычайнае. Узыходзіць сонца, уздымаецца над гарамі і лясамі і на вачах усяго люду рассыпаецца ў небе на дробныя зіхатлівыя зорачкі, зноў збягаецца ў адзін агністы шар; яго акружае безліч вясёлкавых кругоў, і ён мігціць, кружачыся вакол свае восі. Гэтая праява паўтараецца некалькі разоў, і такім чынам *сонца грае* штогод 24 чэрвеня.

Апрача згаданых цудаў, ёсць яшчэ, як мяркуюць жыхары таго краю, чароўныя травы. *Разрыў-трава* можа дзівосна ўздзейнічаць на жалеза, разрывае нібыта замкі і кайданы ў вязняў; калі каса натрапіць на яе на лузе ў час сенакосу, дык расколецца на некалькі частак. *Пералёт-трава*, або лятучае зелле; расказваюць пра яе, што яна мае здольнасць пераносіцца з месца на месца, яе вясёлкавая кветка надзвычай жывая і прыгожая, а ў сваім палёце часам блішчыць, быццам зорачка. Шчаслівы, хто яе сарве, бо не зазнае ён перашкодаў у сваім жыцці, усе яго жаданні неадкладна здзейсняцца, і гэтая трава — трава шчасця. Людзі, марачы пра шчасце на гэтай зямлі, малююць яго ў розных вобразах; грэкі і рымляне верылі ў сляпую Фартуну, што, круцячы вечнае кола, уздымае людзей пад аблокі і зноў апускае ў бяздонне. Беларускі народ уявіў сабе нейкую лятучую траву, гонячыся за якой не адзін збіўся з дарогі і не вярнуўся да свае роднае хаты. І я, шукаючы яе далёка, пакінуў гэтую родную старонку, дзе прайшлі самыя прыемныя дні майго жыцця, і цяпер у паўночнай сталіцы[11], паглядаючы на тэатр вялікага свету, чытаю кнігу, што часам смешыць, часам прымушае ліць слёзы, і гэта — кніга чалавечых сэрцаў і характараў[12].

Край мой, дзе горы паўсталі узнёсла,
Край сініх вод, чаратамі зарослых,
Пушчаў, дзе ў голлі хаваецца сонца,
Колькі прыгадак ты будзіш штодзённа,
Ў промнях вясновых, у барвах зялёных
Ты мне з'яўляешся казкай бясконцай.

Згадваю сумную песню ратая
Ці пастуха, што па-простаму грае,
Часам, калі у лясах ля азёраў
З кобзаю рэха гамоніць паўторам
Ці калі люд пасля дзённае працы
Гучна спяшае ля хаты сабрацца,
Чуючы мяккі палон прахалоды,
Слухаць ад старца сівога прыгоды
Прашчураў слынных, асілкаў, герояў.
Слава і дзіва паданне старое,
Што аж ад продкаў па бацькавым краі
З вёскі да вёскі вандруе, блукае!*

## ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ

Дзядзька мой пан Завальня, досыць заможны шляхціц на загродзе, жыў у паўночным і дзікім баку Беларусі. Яго сядзіба стаяла ў чароўнай мясціне. На поўнач паблізу жылля — Нешчарда, велізарнае возера накшталт марское затокі. Калі ўсходзіцца вецер, ад возера плыве роўны шум і відаць праз вакно, як пакрытыя пенаю хвалі падымаюць угору і зноў кідаюць уніз рыбацкія лодкі. На поўдзень ад дому нізіны зелянеюць кустамі лазы, дзе-нідзе ўзгоркі, парослыя бярозамі і ліпамі, на захад — разлогія лугавіны, і рака бяжыць з усходу — перараэаючы гэтыя ваколіцы, уліваецца ў Нешчарду. Вясна там надзвычай прыгожая, калі па лугах разальецца вада, і ў паветры над возерам і ў лясах зазвіняць галасы птушак, што вяртаюцца з выраю.

Пан Завальня любіў прыроду, найбольшай прыемнасцю для яго было садзіць дрэвы, і таму , хоць дом яго стаяў на гары, за паўвярсты нельга яго ўбачыць, бо быў з усіх бакоў прыкрыты лесам. Толькі рыбакам, што плавалі па возеры, адкрывалася ўся пабудова. Ён таксама меў прыроджаную душу паэта і хоць сам не пісаў ні прозай, ні вершам, але кожнае апавяданне пра разбойнікаў, герояў, пра чары і цуды надзвычай яго займала, і кожную ноч ён засынаў не іначай, як слухаючы чарадзейныя

* Тут і далей у «Шляхціцы Завальні» вершы даюцца ў перакладзе Сяржука Сокалава-Воюша.

гісторыі. Таму ўжо было звычайным, што, пакуль ён не засне, хто-небудзь з чэлядзі мусіў апавядаць яму якую простанародную аповесць, і ён слухаў цярпліва, хоць бы адна і тая ж гісторыя паўтаралася некалькі дзесяткаў разоў. Калі хто прыязджаў да яго, маючы якую патрэбу, які-небудзь падарожны ці квестар[2], ён найласкавей яго прымаў, частаваў, пакідаў начаваць і выконваў усе жадункі, узнагароджваў, абы толькі той расказаў яму якую казку. А асабліва ўвосень, калі ночы доўгія. Той госць быў для яго наймілейшы, які меў у запасе найбольш гісторый, розных здарэнняў і показак.

Калі я прыехаў да яго, ён быў вельмі рады, распытваў пра шаноўных людзей, у якіх я праслужыў столькі гадоў, расказваў пра сваю гаспадарку, пра бярозы, ліпы і клёны, якія шырока распасцёрлі свае галіны над дахам. Некаторых суседзяў хваліў, іншых жа ганіў, што яны займаліся толькі сабакамі і паляваннем. Нарэшце, пасля доўгае размовы пра сёе ды тое, кажа мне:

— Ты чалавек вучоны, хадзіў у езуіцкую школу, чытаў многа кніжак, гутарыў з вучонымі людзьмі, павінен ведаць шмат разнастайных гісторый, сёння ўвечары раскажы мне што-небудзь цікавае.

Дык я пачаў прыпамінаць, чым бы пахваліцца. Я нічога не чытаў, апрача гісторыкаў і класікаў. Гісторыя народаў — не займальная рэч для таго, каго не цікавіць тэатр свету і асобы, што іграюць розныя сцэны. Для майго дзядзькі адзінай гісторыяй былі Біблія, са свецкіх жа паданняў ён дзесьці вычытаў, што Аляксандар Македонскі, прагнучы даведацца пра вышыню неба і глыбіню мора, лятаў на грыфах і апускаўся на дно акіяна, і такая чалавечая смеласць яго, дзядзьку, здзіўляла і займала. Трэба было і мне расказаць што-небудзь падобнае, таму вырашыў пачаць з «Адысеі» Гамера, бо ў гэтай паэме поўна чараў і дзіваў, як і ў нашых простанародных аповесцях.

Блізу дзесятае гадзіны вечара, калі вясковыя жыхары канчаюць сваю працу, мой дзядзька пасля малітвы ідзе спачываць. Ужо сабралася ўся чэлядзь паслухаць новыя аповесці, а ён сказаў так:

— Ну, Янка, раскажы ж нам што цікавага, я буду пільна слухаць, бо сёння адчуваю, што не хутка засну.

Тады я, каб мае аповесці былі лепш зразумелыя для слухачоў, расказаў коратка пра самых галоўных грэцкіх багоў, багінь і герояў, пасля пра залаты яблык, пра суд Парыса, пра аблогу Троі. Усе слухалі з цікавасцю і здзіўленнем. Я чуў, як некаторыя з чэлядзі гаварылі:

*— Гэтай басні прыпомніць няможна, дужа цяжкая.*

— А ці было калі ў сапраўднасці тое, што ты расказваеш? — пасля доўгага маўчання перапыніў дзядзька.

— Так некалі верылі паганцы, бо было гэта да нараджэння Хрыстовага. Вядома з гісторыі пра побыт гэтага народа, вядома таксама і пра яго рэлігію.

— І такому вас вучаць езуіты ў школах, нашто ж гэта спатрэбіцца?

— Хто вучыцца, — адказаў я, — той павінен пра ўсё ведаць.

— Ну, то кажы далей.

І далей я апавядаў без перапынку. Ужо было пасля паўночы. Чэлядзь, разыходзячыся, паціху, паўтарала паміж сабой:

— *Нам гэтай басні ня выўчыцца, усё што-то ні па-нашаму, тут нічога ні прыпомніш.*

Праз пэўны час я пачуў моцны храп майго дзядзькі і, усцешаны з гэтае прычыны, перажагнаўся і заснуў.

На другі дзень ён як вясковы гаспадар устаў вельмі рана, агледзеў увесь свой маленькі маёнтачак, вярнуўся ў дом і, набліжаючыся да мяне, калі я яшчэ драмаў, закрычаў:

— О, як бачу, вашэць любіць спаць па-панску; уставай, у простых людзей гэта грэх, і цябе назавуць гультаём! Але твая ўчарашняя гісторыя вельмі вучоная, хоць забі, не помню аніводнага прозвішча тых паганскіх багоў. Дый гэта не апошні раз, пагасцюеш у мяне да вясны і за доўгія зімовыя ночы шмат мне раскажаш пра сёе і пра тое.

У час майго побыту ў дзядзькавым доме, мусіў я амаль пяць тыдняў кожную ноч усыпляць яго пераказам славутых паэм грэцкіх або лацінскіх класікаў, аднак найбольш яму падабалася з «Адысеі» мудрасць Уліса на берагах Цырцэі і на востраве цыклопаў. Паўтараў мне няраз:

— А можа, некалі даўно і бывалі такія агромністыя веліканы, толькі дзіўна, што з адным вокам на лобе. Але ж і хітрун гэты Уліс — напаіў, выкалаў вока і выехаў на баране.

Не мог таксама ён забыць шостае песні з Вергілія, дзе Эней увайшоў у пекла. Паўтараў некалькі разоў такія словы:

— Хоць ён быў і паганін, ды якое шляхетнае пачуццё і любасць да бацькі — ісці ў такое небяспечнае месца. Але якая ў іх дзіўная вера, у нас душачкі збавёныя ідуць у неба, а яны сабе прыдумалі нябеснае валадарства так глыбока пад зямлёй. Дзіўная рэч!

Аднаго разу, размаўляючы са мною, запытаўся ён, ці даўно я быў у Полацку.

— Амаль год не меў нагоды быць у гэтым горадзе.

— Калі надарыцца там быць, добра было б даведацца ад ксяндзоў езуітаў, як вучацца мае Стась і Юзік. О, не кепска быць чалавекам вучоным! От, як вашэць апавядаеш з розных кніжак, таго невук і ў сне не ўбачыць! Добра ўсё ведаць. Я, будучы ў Полацку, і мая нябожчыца жонка, вечная ёй памяць, прасілі ксяндза-прэфекта[4], каб не шкадавалі розгаў.

Розгаю дух святы дзетак біць радзіць,
Розга аніяк здароўю не вадзіць[5].

О, гэта цудоўныя вершы — розга вучыць розуму і веры. Сёй-той з нашых панічоў, якіх песцяць у бацькоў, толькі і бавяцца з коньмі і сабакамі, а прыйдзе які ў касцёл, дык нават не перажагнаецца. Якая ўцеха бацькам — толькі кара Божая!

Ужо былі першыя дні лістапада. Самотны, седзячы ля вакна, я слухаў завыванне асенніх вятроў і пошум бяроз і клёнаў, якія густа ўздымаліся над дахам. Віхор круціў па двары жоўтае лісце і ўзнімаў яго ўгору. Усюды глуха, толькі зрэдку забрэша сабака, калі мінае прахожы або пакажацца з лесу звер. Думкі мае былі занятыя нейкімі тужлівымі марамі. Тут уваходзіць кабета, што за гаспадыню ў майго дзядзькі. Гэта сястра яго жонкі-нябожчыцы, ужо ў сталых гадах. Убачыўшы, што я задумаўся, сказала:

— Нудзішся ты ў нас, пане Янка. Ты малады чалавек, а адпаведнае кампаніі не маеш, а можа, ужо і гэтыя начныя апавяданні апрыкралі. Крышку патрывай, — як толькі замерзне Нешчарда, паўз гэты фальварак праз возера будзе вялікая дарога. О! Тады пан Завальня запросіць да сябе шмат гасцей, каб расказвалі, што каму заманецца.

Прайшло колькі дзён. Яснымі і пагодлівымі начамі заіскрыліся маразы. Заснула возера пад тоўстай лядовай глыбай, пасыпаўся снег з аблокаў — і ўжо зіма. Уздоўж Нешчарды з'явілася шырокая дарога, праходзяць падарожныя і цягнуцца ў Рыгу вазы, гружаныя лёнам і пянькою, паказаўся гурт рыбаловаў на лёдзе. Мы з дзядзькам любілі часта наведваць тоні і глядзець на багаты ўлоў, а тут яшчэ і тая была карысць, што ён, прабыўшы цэлы дзень на марозе, хутка засынаў, і я вечарамі быў вольны. Да таго ж мы часцей мелі і заезджых гасцей, перад якімі дзядзька вельмі хваліў мяне і езуіцкія навукі, расказваючы, што чуў ад мяне шмат новых і такіх разумных аповесцей, што і

запомніць цяжка. Быў і я рады гасцям, бо сёй-той з іх заступаў маё месца, і мне ўжо было прыемней слухаць, чым гаварыць.

Вечар быў цёмны, неба пакрыта хмарамі, нідзе аніводнае зоркі, падаў густы снег. Раптам пачынае дзьмуць паўночны вецер, навокал страшная бура і завіруха, вокны засыпала снегам, за сцяною завылі сумным голасам віхуры, быццам над магілаю самое прыроды, за адзін крок вока нічога не бачыць, і сабакі на падворку брэшуць: кідаюцца, быццам напалі на нейкага звера. Выходжу з дому, слухаю, ці не падышла зграя ваўкоў, бо ў такую завіруху гэтыя драпежныя звяры найчасцей шукаюць сабе здабычу, гойсаючы тут і там каля вёсак. Узяў набітую стрэльбу, каб хоць папужаць іх, калі здолею заўважыць зіхатлівыя воўчыя вочы. Раптам пачуў крык на возеры, там і тут перакліκаліся паміж сабою мноства адчайных галасоў, быццам не могучы даць рады ў страшнай небяспецы. Я вяртаюся ў хату і кажу пра гэта дзядзьку.

— Гэта падарожныя, — адказаў ён, — дуйка снегам замяла дарогу, і яны, блукаючы па возеры, не ведаюць, у які бок падацца. — Гаворачы гэта, ён узяў запаленую свечку і паставіў яе на падваконні.

Пан Завальня меў звычай рабіць гэта кожную завейную ноч ужо таму, што жыла ў ягоным хрысціянскім сэрцы любоў да бліжняга, і ён рады быў заўсёды гасцям, каб з імі пагаварыць і паслухаць іхнія гісторыі. Падарожныя, што заблудзіліся, заўважыўшы з возера агонь у вакне, радаваліся, як мараходы, змучаныя марскімі хвалямі, калі ўгледзяць здалёк сярод начное цямрэчы святло партовага ліхтара, радаваліся і з'язджаліся ўсе да сядзібы майго дзядзькі, быццам да прыдарожнае карчмы, каб пагрэцца і даць адпачынак коням.

Вецер не сціхаў, і дом быццам высокія валы, акружалі снежныя сумёты; сярод шуму буры чуваць рыпенне снегу пад нагружанымі вазамі, стукаюць у зачыненыя вароты і крычаць:

— *Рандар! рандар! адчыні вароты; ахці, якая мяцеліца, саўсём піразяблі, і коні прысталі, чуць цягнуць: рандар! рандар! адчыні вароты!*

На гэты крык выходзіць парабак, незадаволены, што ўваліўся ў глыбокі снег:

— *Пагадзіця, адчыню, чаго вы крычыця, тут ня рандар жывець, а пан Завальня.*

— *Ах, паночык* (думалі, што гэта сам гаспадар), *пусці нас піраначаваць, ноч цёмная, нічаго не відна, і дарогу так замяло, што і найці няможна.*

— *А ці ўмеіце казкі да прыказкі?*

— *Да ўжо ж як-небудзь скажым, калі толькі будзе ласка панская.*

Адчыняюцца вароты, на падворак заязджае некалькі вазоў, насустрач выходзіць дзядзька і кажа:

— Ну, добра, будзеце мець вячэру і сена для коней, толькі з умовай, што хто-небудзь з вас павінен расказаць мне цікавую казку.

— *Добра, паночык,*— адказваюць сяляне, здымаючы шапкі і кланяючыся.

Вось выпраглі яны і прывязалі да вазоў сваіх коней, паклалі ім сена, зайшлі ў пакой для чэлядзі, абтрэслі снег, там далі ім вячэру; пасля яе сёй-той з іх прыйшоў у пакой да майго дзядзькі, ён даў ім яшчэ па кілішку гарэлкі, пасадзіў падарожных каля сябе і ўлёгся ў пасцель з намерам, аднак, слухаць казкі. Сабраліся сямейнікі, і я сеў паблізу, з вялікай цікавасцю жадаючы пачуць новыя яшчэ для мяне простанародныя аповесці.

## АПАВЯДАННЕ ПЕРШАЕ. ПРА ЧАРНАКНІЖНІКА І ПРА ЦМОКА, ШТО ВЫЛУПІЎСЯ З ЯЙКА, ЗНЕСЕНАГА ПЕЎНЕМ

***Не кожны чытач зразумее беларускую мову, дык гэтыя народныя апавяданні, якія пачуў я з вуснаў простага люду, вырашыў (наколькі змагу) у даслоўным перакладзе напісаць па-польску.***

Падарожны гэты быў чалавек не маладых гадоў; валасы меў сівыя, але быў здаровы і моцны. Калі апавядаў пра сваё мінулае, здавалася, маладзеў; крыху падумаўшы, пачаў так:

— Не байку вам раскажу, а тое, што было ў сапраўднасці, што здарылася нават са мною. Горкім бывае часам нашае жыццё, але хто спадзяецца на Бога, — Бог злітуецца і ўсё пераменіць на лепшае. Бяда таму, хто, прагнучы багацця, прадае сваю душу пеклу.

У маладосці маёй, памятаю, мелі мы пана К.Г. Злы гэта быў пан, страшна ўспомніць, што ён рабіў: хлопцаў і дзяўчат жаніў і замуж выдаваў, не хочучы і ведаць ні пра іхнія сімпатыі, ні

пра іх будучае шчасце: ні просьбы, ні слёзы не маглі яго ўлагодзіць; вяршыў сваю волю, здзекуючыся з людзей без усялякае літасці, конь і сабака былі яму даражэйшыя, чым хрысціянская душа. Меў ён лёкая Карпу, злога чалавека; і яны абодва, спачатку пан, а пасля пахолак, прадалі свае душы д'яблу. А было гэта так.

З'явіўся ў нашым маёнтку — невядома адкуль — нейкі дзіўны чалавек. І цяпер яшчэ памятаю аблічча, твар і адзенне яго: нізкі, худы, заўсёды бледны, вялізны нос, як дзюба драпежнае птушкі, густыя бровы, пагляд яго — як у чалавека ў роспачы ці вар'ята, апранахі яго — чорныя і нейкія дзіўныя, зусім не такія, як у нас носяць паны ці ксяндзы; ніхто не ведаў, ці быў ён свецкі, ці манах які, з панам размаўляў на нейкай незразумелай мове. Пасля адкрылася, што гэта быў чарнакніжнік, які вучыў пана рабіць золата і іншыя д'ябальскія штукі.

І хоць у той час я быў зусім маладзён, аднак мусіў адбываць у маёнтку чаргу начнога вартаўніка, абыходзіць усе панскія будынкі і стукаць малатком у жалезную дошку. Не раз бачыў, як акурат апоўначы ў панскім пакоі гарэла святло, і ён там з чарнакніжнікам пастаянна быў нечым заняты; усе заснулі, і ціш панавала на панадворку, над дахам панскага жылля сюды і туды снавалі кажаны і нейкія чорныя птушкі. Сава, апусціўшыся на дах, то рагатала, то плакала, нібы немаўля. Мяне апанаваў люты страх, але калі перажагнаўся, згаварыў пацеры, — зрабілася крыху лягчэй, і, адчуўшы ў сабе больш смеласці, вырашыў я ціхенька падысці да панскага вакна і паглядзець праз шыбу, што яны там робяць. Толькі падышоў, як ля сцяны ўбачыў жахлівае страшыдла. Страшна ўспомніць, гэта была велізарная жаба-рапуха. Яна кінула на мяне вогненны позірк. Я адскочыў назад, пабег, як шалёны, прэч і ледзьве спыніўся праз дзве сотні крокаў. Увесь дрыжаў. Мне падумалася, што гэта шатан у абліччы таго страшыдлы пільнаваў вокны майго пана, каб ніхто не ўбачыў сакрэтаў, якія там чыніліся. Я згаварыў «Анёла Божага» і хоць ноч улетку была ясная і цёплая, дрыжаў, нібы на марозе. Дзякуй Богу, што хутка заспяваў певень, патухла святло ў пакоі, і я, крыху ўжо супакоіўшыся, дачакаўся ўсходу сонца.

Другое здарэнне таксама было дзіўнае. Я сек у лесе дровы. Сонца заходзіла. Гляджу: ідуць па дарозе пан з чарнакніжнікам і раптам павярнулі да густога яловага лесу. Я, маючы цікавасць, крадуся ціхенька следам і хаваюся за дрэвам, будучы ўпэўнены што там павінны дзеяцца нейкія чары. Усюды ціха, толькі

дзесьці далёка стукае дзяцел на спарахнелым дрэве. Бачу: на старым вывернутым дрэве сядзіць пан, каля яго стаіць чарнакніжнік і трымае за галаву велізарную гадзюку, якая чорнай стужкаю абвіла яму правую руку. Не ведаю, што было далей, бо я ад страху ўцёк.

Трэцяе здарэнне было яшчэ страшнейшае. Хоць я яго і не бачыў, аднак чуў ад надзейных людзей, дый пра гэта гаварылі ва ўсіх навакольных вёсках. Апоўначы наш пан, той госць шатанскі і лёкай Карпа ўзялі ў аборы чорнага казла, завялі яго на могілкі. Кажуць, што выкапалі яны з магілы наўца, чарнакніжнік надзеў на сябе нябожчыкаву чамарку, забіў казла і яго мясам і крывёю адпраўляў нейкія страшныя ахвяры. А што там дзеялася тае начы, нельга ўспомніць без страху. Казалі, што нейкія страшыдлы запоўнілі ўсё неба, нейкія звяры, падобныя да мядзведзяў, дзікоў і ваўкоў, бегалі вакол, равучы так, што пан і Карпа ад страху знепрытомнелі і пападалі на зямлю. Не ведаю, хто іх прывёў да прытомнасці, але пасля тае страшнае ночы чарнакніжнік знік, і ніхто яго потым не бачыў. Пан увесь час маркоціўся, хоць меў шмат золата і іншага багацця — чаго толькі не захоча — усё ёсць; зрабіўся яшчэ больш люты, ніхто яму дагадзіць не мог, нават Карпу выгнаў з маёнтка.

Калі падарожны апавядаў гэта, дык было чуваць, як шапталіся слухачы: «*Вот ужэ страх так страх, аж мароз па скуры падзіраець*». І дзядзька адазваўся такімі словамі:

— Мусіць, спачатку ён быў фармазонам[1] ці пабратаўся з недавяркамі, а чалавек без рэлігіі на ўсё гатовы. Але што ж далей?

Падарожны апавядаў далей:

— Карпа, выгнаны з маёнтка, аддадзены быў у работнікі аднаму заможнаму гаспадару. Ды там ён болей замінаў, чым быў памочнікам, бо, жывучы з дзяцінства ў маёнтку, зрабіўся лайдаком, да таго ж упартым і неслухмяным. Да аканома часта даходзілі скаргі, і той пераводзіў яго з аднае хаты ў другую, але нідзе не мог ён застацца надоўга. Нарэшце Карпа папрасіў аканома заступіцца за яго перад панам, каб далі яму хату і колькі дзесяцін зямлі, бо калі ён сам зробіцца гаспадаром, дык будзе, маўляў, больш старанны. Пан згадзіўся. Пабудавалі яму новую хату, адрэзалі лепшае зямлі, далі пару коней, колькі кароў і іншага быдла на развод. Урэшце задумаў ён жаніцца. Але ніводная гаспадарская дачка не хацела ісці за яго, бо ніхто ні на яго, ні на ягоную гаспадарку не квапіўся, бо ведалі ўсе, што ў яго ні веры, ні Бога ў сэрцы няма.

У гэтай вёсцы жылі колісь мае бацькі, і быў у нас сусед Гарасім. Чалавек ён быў старанны, усяго яму хапала, служыў добра пану, спраўна плаціў падаткі. Меў ён адзіную дачку, Агапку. Пекная была дзяўчына: здаровая, румяная, як спелая ягада. Даўней, як прыбярэцца і прыйдзе на кірмаш з жычкаю ў касе, у чырвонай шнуроўцы — свеціцца, як цвет макавы, усе не могуць на яе наглядзецца, кожны любіў з ёй патанцаваць, і дудар для яе граў найахвотней. Ах! прызнаюся: і мне ў той час яна так прыпала да душы, што і сёння ўспамінаю яе ўздыхаючы.

Падабалася яна і Карпу. І вырашыў ён дамагацца яе, але, ведаючы, што не любіць яго дзяўчына, а бацькі не хочуць мець сабе такога зяця, і сватоў, прысланых ад яго, не прынялі. Карпа, каб было па-ягонаму, ідзе да пана, просіць, каб загадаў Агапцы ісці замуж толькі за яго. Бацькі ж яе, даведаўшыся пра гэта, прасілі аканома і ўсю грамату заступіцца, бо Агапка яшчэ занадта маладая і не здолее добра ўпраўляцца ў ягонай хаце; і гаспадарка ў яго ўвачавідкі развальваецца, нічога добрага ад яе не прычакаеш. Па просьбе аканома і вяскоўцаў пан адклаў вяселле на наступны год, а Карпу загадаў, каб пасля гэтага тэрміну паказаў, што зрабіў карыснага і колькі зарабіў грошай.

Кахаў і я Агапку, але каб пабрацца з ёю — пра такое і думаць не мог. Баяўся панскага гневу, і з Карпам цяжка было спрачацца, бо быў ён дваровы, з рознымі чараўнікамі меў фамільярнае сяброўства і калі б толькі даведаўся пра маю прыхільнасць да Агапкі, дык, пэўна, зрабіў бы са мною штонебудзь. Дык я толькі пакрыёма ў душы сумаваў, прасіў Бога, каб гэтая нявінная авечка не трапіла ў кіпцюры да шалёнага ваўка. Але сталася ўсё інакш.

Карпа — чалавек несумленны і лянівы — ідзе па параду да Парамона, найстрашнейшага чараўніка ў нашай ваколіцы, апавядае яму пра сваю сімпатыю да Агапкі, пра ўмовы, якія пан загадаў яму выканаць за год. Карацей, просіць яго, каб адкрыў спосаб, якім хутка можна забагацець, а ён гатовы на ўсё, хоць душу д'яблу прадаць, абы толькі дамагчыся свайго.

Парамон выняў са скрыні загорнутыя ў паперу нейкія зярняткі і, даючы іх Карпу, так раіць:

— Калі не маеш свайго чорнага пеўня, дык расстарайся дзенебудзь, накармі яго гэтым зернем, і ён праз колькі дзён знясе яйка, не большае за галубінае. Гэтае яйка ты павінен насіць цэлы месяц пад леваю пахаю. Праз месяц вылупіцца з яго маленькая яшчарачка, якую будзеш насіць пры сабе і кожны дзень

карміць малаком са свае ладоні. Расці яна будзе хутка, а па баках у яе вырастуць скураныя крылы. Праз месяц яшчарка пературыцца ў крылатага цмока. Ён будзе выконваць усе твае загады. Ноччу ў чорным абліччы прынясе табе жыта, пшаніцы і іншага збожжа, а калі прыляціць, палаючы агнём, дык гэта значыць, што будзе мець пры сабе золата і срэбра. Жыві з ім у дружбе, калі хочаш быць багаты, бо калі ўгнявіш, дык ён можа спаліць табе хату і ўсё тваё дабро.

Гэтую бязбожную параду Карпа выканаў ахвотна. Выгадаваў жахлівага цмока, але чары яго не засталіся тайнымі, бо гэтае страхоцце не раз пасля заходу сонца з'яўлялася на вачах вяскоўцаў, што вярталіся дахаты позняй парою.

Аднойчы і я, калі пасвіў коней на начлезе, бачыў, як ляцела тое страшыдла, з шумам рассыпаючы вакол сябе іскры, нібы распаленае жалеза пад молатам каваля, і над дахам Карпавае хаціны распалася на дробныя часткі і знікла. Неба ў той час было яснае, ніводнае хмурынкі на ім, і зоркі зіхацелі на нябесным скляпенні. «О Божа! — падумаў я. — Перад Табою няма нічога таемнага. Ты будзеш суддзёю спраў людскіх, але людзі пра гэта забываюць».

Ужо праз колькі месяцаў Карпа стаў багатырам. Калі прыйдзе на кірмаш або ў якое свята да арандара[2], дык у карчму заходзіць узяўшыся ў бокі, чырвоная шапка набакір, галава задзёртая, і здаецца, што ўсе для яго нішто, жменяю грошы шпурляе на стол, кажа падаваць тое, што толькі яму заманецца, частуе ўсіх і смела крычыць, што пан яму, як брат родны, ні ў чым не адмовіць, і ён усё зробіць, што яму толькі захочацца, што Агапка павінна радавацца, калі можа выйсці за яго замуж, бо ён за свае грошы можа купіць жонку, якую толькі пажадае.

Агапка, чуючы пра гэта, залівалася слязьмі, бо ведала, што яе выбар і жаданне бацькоў — нішто. Усё было ў руках пана, а той не меў ні спагады, ні літасці. Ведала яна добра і душу Карпаву, і звычкі ягоныя. Часам чула гаворку суседзяў між сабою, што ён ужо пабратаўся з Парамонам, што ўжо служыць яму шатан, які назапасіў для яго безліч грошай. Не цешыла тое золата маладую дзяўчыну, бо яна бачыла ў лятунках сваіх мужа стараннага, цнатлівага ды пабожнага.

Прайшоў год. Карпа накупляў пану ў горадзе багатых падарункаў і прыехаў на гожым кані нагадаць пра абяцанае. Паслалі па Агапчынага бацьку, загадалі рыхтавацца да хуткага вяселля. Плакаў бедны Гарасім са сваёй жонкаю над лёсам дзіцяці і маліўся, каб Бог быў ёй апекуном. Агапка ж хавала

скруху свайго сэрца, каб не растрывожыць яшчэ больш бацькоў. Узяўшы ядвабныя стужкі, якія найбольш любіла, і колькі кавалкаў кужалю, што сама ткала, пайшла да касцёла і, павесіўшы ўсё гэта на абраз Прачыстае Маці, пала ніц, енчачы і залiваючыся слязьмі; і ўсе, хто быў там, таксама не маглі стрымаць слёз. Па набажэнстве выцерла слёзы і вярнулася да бацькоў са спакойным абліччам, як быццам усцешаная.

Спагада і любасць да гэтае дзяўчыны перамаглі ў ва мне ўсякі страх. Іду да хаты, дзе жыў Гарасім. Нечаканыя думкі і смелыя намеры выспяваюць у маёй галаве. Вырашыў: ад тыранства і напасці схаваць яе дзе-небудзь у далёкай старане. Ідучы да вёскі, убачыў Агапку. Самотная, яна хадзіла па полі, плачучы, спявала жаласным голасам звычайную песню-падзяку бацькам за іх клопаты. Набліжаюся да яе, бяру за руку (а сам быў у той час як непрытомны). Хочучы аблегчыць яе пакуты, так прапаную свае паслугі:

— Агапка! Ведаю я прычыну слёз тваіх, ведаю аб пакутах бацькі і маці. Карпа — бязбожны чалавек. Ён падкупіў пана, несумленна пагарджаючы тваім выбарам і воляю тваіх бацькоў. На зямлі ёсць высокія горы, зарослыя густым лесам; ёсць цёмныя пушчы, што чарнеюцца каля нашых вёсак. У засень іх нетраў ніколі не заглядвала чалавечая вока; яны цягнуцца бясконца. Давай пойдзем прэч з гэтых краёў. Давай схаваемся ад усіх знаёмых у гэтых дзікіх пустэльнях. Я буду тваім вартаўніком і правадніком. Свет вялікі, знойдзем і мы дзе-небудзь свой куток. Ёсць і людзі з ласкавым сэрцам, якія даюць прытулак уцекачам ад суда, а мы ж невінаватыя ні перад Божым судом, ні перад людскім і дзе-небудзь працаю заслужым сабе кавалак хлеба. Добры Бог дасць нам здароўе і сілы, падтрымае ў тых цёмных лясах сваёй апекаю.

Калі я казаў гэта, слёзы зацьмілі мае вочы. Агапка, гледзячы на мяне, адказала так:

— Я кахаю цябе, але не магу згадзіцца і пайсці з табою, бо бацькі мае будуць пакутаваць. Няхай лепш я сама буду ахвярую свайго няшчасця, каб толькі яны былі спакойныя.

Сказаўшы гэта, яна шпарка пайшла дадому.

Я доўга стаяў на тым месцы, не ведаючы, што рабіць. У роспачы вярнуўся да свае хаты; як непрытомны, зноў пабег у поле, блукаў па лясах; не ведаў, за што заняць рукі, ад самоты ледзь не памёр.

Абвясцілі пра заручыны. У нядзелю Карпа з Агапкаю бярэ шлюб у касцёле. Ён, вясёлы і выхвальны, стаяў проста, валасы

на галаве падстрыжаныя па-панску, на шыі ядвабная хустка, на нагах блішчастыя боты, вопратка з тонкага сукна (такая, якую пан часам апранае). Словам, калі б хто не ведаў, што Карпа наш брат, — за паўвярсты яшчэ зняў бы шапку і пакланіўся. Яна, наадварот, смутная, твар — бледны: змянілася ўся, нібы пасля цяжкой хваробы, бляск вачэй пагашаны слязьмі. І казалі, што свечкі ў маладых гарэлі так цьмяна, што сёй-той са страхам паглядаў на гэта, шэпчучы суседу: «Не будзе тут шчасця. Жыццё іх зацьміцца смуткам».

З касцёла Карпа з дружынаю і маладою жонкаю паехаў на паклон да пана, а з маёнтка — да хаты Агапчаных бацькоў. Вяселле было Бог ведае па-якому. Карпа з дзяцінства быў дваровы чалавек; звычаі нашы вясковыя яму ўжо здаваліся смешнымі і былі не даспадобы. Не праязджаў ён праз падпаленую салому, не гаварылі госці ніякіх арацый, не спявалі вясельных песень, не паклікалі нават дудара, і моладзь не патанцавала. Вяселле ж у Гарасімавай хаце падобнае было да хаўтураў. І хутка маладая пара з гасцямі паехала адгэтуль да свае хаты, дзе ўжо Карпа кожным учынкам хваліўся сваім дворскім глянцам ды багаццем і хацеў, каб яго ўсе хвалілі.

Паклікаў дудара, кінуў яму, нібы чыноўнік які колькі срэбранікаў і загадаў граць. Добра заплаціў таксама і кабетам, каб спявалі; з вымушанай ветлівасцю, нібы паніч які, прасіў хлопцаў і дзяўчат скакаць. Не было там шчырасці, а вось ежы і пітва — аж занадта. Чаркі з гарэлкаю амаль без адпачынку пераходзілі з рук у рукі. Шум у хаце, музыка грае, моладзь танцуе; ён апавядае пра сваю дворскую службу, пра прыхільнасць, якую заслужыў у пана. Адна Агапка — як забітая; шкада было на яе глядзець.

На панадворку хоць і цёмна, але ціха. На чыстым небе поўнач. Арыён перамясціўся. Госці, захмялелыя ад моцных напояў, весяліліся. Нечакана нібыта маланка асвяціла хату і нейкі незвычайны шум пачуўся за сцяною. Пацямнела полымя свечак, усе заціхла ды пазіралі адно на аднаго. Карпа быццам змяніўся з твару і, як непрытомны, гучна прамовіў: «Прыбыў мой госць» — і адразу ж загаварыў да сваіх сяброў пра нешта іншае. Але пасля гэтага здарэння дзіўная была перамена ў той хаце; кожнага апанаваў нейкі неспакой, некаторыя з прысутных бачылі загадкавыя і страшныя праявы: то на двары, то ў цёмных кутках хаты. Аднаму падалося, што нейкае страшыдла, зарослае валасамі, з-за сцяны ўглядаецца ў вакно: другому здалося, што на печы сядзіць нейкі карузлік з велізарнай гала-

вою, чорны, як вугаль; іншы бачыць нібыта таго чарнакніжніка, які вучыў пана штукам шатанскім і золата рабіць. Карпа, убачыўшы трывогу некаторых гасцей, смяяўся, казаў, што гэта моцная гарэлка стварыла такія дзівы, загадваў дудару граць і спяваць песні. Сярод гаманы і тлуму забылі пра ўсё.

Адчыняюцца дзверы: уваходзіць чараўнік Парамон. З-пад густых броваў блішчастым вокам прабег ён па гасцях і, стоячы яшчэ ля парога, так абазваўся:

— Паклон шаноўнай дружыне! Няхай вашую вясёлую кампанію радасць не пакідае, а маладой пары зычу згоды, любасці, багацця і заўсёды так весела прымаць і частаваць суседзяў і добрых сяброў.

Карпа вітае яго і просіць, каб сядаў на лаве на самае ганаровае месца. Расступаюцца госці, Парамон сядае за стол, спінаю апіраецца аб сцяну і ганарліва разглядвае ўсіх, хто стаіць перад ім. Карпа падносіць яму гарэлкі і закуску.

— А дзе ж твая Гапуля, гаспадыня маладая? Ці яна так занятая, ці, можа, таксама мяне не пазнала? Я пастарэў, а яна маладая вельмі, і ёй яшчэ трэба вучыцца, як жыць на свеце.

Карпа падвёў Агапку. Парамон зірнуў на яе маркотны твар і кажа:

— Не смуткуй, пажывеш, пакахаеш, і добра будзе.

Акім, селянін гэтае самае воласці, падданы пана К.Г., быў калісь з Парамонам у вялікай непрыязні. Будучы ў добрым гуморы, бо не любіў абмінаць чарку, успомніў нязгоды мінулых часоў, заклаў рукі за пояс, адставіў правую нагу і ў такой паставе, стоячы перад Парамонам і гледзячы яму ў вочы, так абазваўся:

— А! Паклон!
***Няўчом кошка хвост свой лізала,***
***Аж яна цябе ў госці чакала.***

Усе пaглядзелі на Акіма. Не думалі, што ён, захмялеўшы ад гарэлкі, асмеліцца жартаваць з Парамонам. Баяліся, каб не выйшла з гэтага якога няшчасця, бо ўсе і раней верылі ў сілу Парамонавых чараў; верылі, што ён не толькі можа наслаць на людзей розныя хваробы і шаленства, але, калі захоча, дык і гэтае вяселле аберне ў ваўкоў.

Парамон зірнуў на яго са з'едлівай усмешкаю:

— А ты, — кажа здзекліва, — часам так падкрадаешся да панскае або суседскае спіжарні ці туды, дзе беляць палотны, што цябе не толькі вартаўнік не пачуе, але і сабака такога госця не знюхае.

— Га! Я добра памятаю, як вінавацілі мяне ў крадзяжы палатна, — адазваўся Акім, — ты варажыў на рэшаце, называючы імёны ўсіх вяскоўцаў. Рэшата павярнулася на маім імені і на імені Грышкі-дудара. Ахмістрыня паверыла тваім чарам, і нас лупцавалі без міласэрнасці. А пасля адкрылася, што мы без віны прынялі тыя пакуты. Подлыя твае ўчынкі, і ў чарах тваіх няма ніякае справядлівасці.

Тут адгукнуўся і дудар Грышка:

— Га! Памятаю і я. Варта было б за твае хлуслівыя чары кіем падзякаваць, ды так, каб ты і з зямлі не ўстаў.

Парамон не мог вытрываць, што ману прыпісваюць яго чарам. Заіскрыліся вочы, пачырванеў ён увесь, усхапіўся з лавы. Усе перапалохаліся. Карпа хапае яго за плечы ды просіць, каб дараваў ім, бо п'яныя, не памятаюць, што кажуць. Бачачы гэтае бязладдзе, прыбягае Агапка, хапае яго за руку, перапрошвае, што ў іх меў такую непрыемнасць, і просіць прабачыць. Таксама Акіму і Грышку кажа, каб яны забылі пра мінулае і памірыліся з Парамонам. Карпа ставіць на стол гарэлку і вельмі просіць, каб, выпіўшы па чарцы яны забылі, што было даўней.

Чараўнік крыху супакоены.

— Добра, — кажа, — не турбуйцеся, я паміруся. Няма ў мяне не толькі ахвоты перапыніць забавы ў вашай хаце, але хачу, каб яны зрабіліся яшчэ весялейшыя. Няхай сабе Грышка весела грае на дудзе, а Акім скача, — і з хітраю ўсмешкай дадаў: — Ну, ідзіце, запрашаюць нас гаспадар і маладая гаспадыня выпіць адзін да аднаго па чарцы гарэлкі. Яшчэ пеўні не спявалі: цяпер самы час павесяліцца.

Карпа, Агапка і госці вельмі просяць Акіма і Грышку, каб селі за стол з Парамонам. Акім не ўцякаў ад гарэлкі; выпілі ён і Грышка з Парамонавых рук па кілішку і яшчэ паўтарылі.

— Згода! Згода і мір паміж намі, — крычаць госці. — Сталы гнуцца ад пачастункаў, досыць і пітва, і закускі, давайце піць, гуляць, зычачы маладым багацця, здароўя і доўгіх гадоў.

Заспявалі песні. Грышка надзімае свой скураны мех, гучаць музыка і спевы. Моладзь скача. Парамон, задумліва і са здзеклівым тварам, пазірае то на дудара, то на Акіма. Кароткі час працягвалася дружная і вясёлая забава. Але раптам Грышка пачынае нейкага шалёнага казака, госці крычаць, просяць, каб іграў «Цярэшку»[3], спяваюць: «*Цярэшку біда стала, з кім яго жына спала*». Ён не зважае на гэта, нікога не слухае, а ўсё грае ды грае сваё без усякага ладу. Тут Акім выбягае на сярэдзіну і пачынае, як шалёны, скакаць невядома што; дзівяцца

ўсе, гледзячы і не разумеючы, што з ім зрабілася: вочы вырачыліся, твар змяніўся. Просяць аднаго і другога, каб адзін пакінуў граць, а другі — скакаць. Нічога не памагае. Ніякіх просьбаў не чуюць. Звар'яцелі абодва. Хацелі ўтрымаць — мармыча нешта незразумелае, вырываецца, зноў скача, і дудар грае беспярэстанку. Парамон збоку глядзіць на гэта і гучна смяецца.

— Не чапайце іх, — кажа, — няхай павесяляцца. Другі раз не захочуць з кожным задзірацца.

Карпа просіць, каб даравў ім і спыніў танцораў.

— Няхай яшчэ пагуляюць, — адказаў Парамон. — Гэта іх навучыць паважаць і шанаваць людзей, разумнейшых за сябе. Доўга пакутавалі дудар і Акім ад гэтага шалу. Ужо і поўнач мінула, і другі раз певень праспяваў. Нарэшце Грышку пакідаюць сілы: ён выпускае з рук дуду і падае, самлелы, на дол. Акім хістаецца, увесь учарнеў, нібыта перад смерцю. Гэтак задаволіўшыся помстаю, Парамон нешта пашаптаў, даў ім вады і, калі яны супакоіліся, узяў шапку, пакланіўся гаспадарам і пайшоў дадому.

Гэты выпадак парушыў увесь лад вяселля. Госці адзін за адным дзякавалі гаспадарам за іх ветлівасць і, зычачы багацця і шчаслівых дзён, выходзілі за дзверы.

Тут пан Завальня перапыніў:

— Кажуць, што некалі даўней, калі людзі больш дбалі аб славе Божай, такіх чараўнікоў палілі на агні або кідалі ў ваду. Чуеш, Янка, што робяць людзі, калі пабратаюцца з д'яблам? На свеце трэба быць асцярожным, чуў я за сваё жыццё шмат пра каго з такіх шкодных чараўнікоў, як Парамон.

— Можа, дзядзечка, рабіў ён гэта з дапамогаю нейкага зелля, можа, дудару і Акіму падліў у гарэлку блёкату ці іншае атруты, ад якой чалавек шалее.

— Не трава такое робіць, а моц шатанская. І шкада, што вучоныя людзі не надта ў гэта вераць. Сам я ведаў аднаго паніча, які пра ўсё так казаў, быццам ніколі не вучыў ні катэхізіса, ні дзесяці прыказанняў Божых. Але што ж далей?

— Пасля свайго вяселля Карпа пачаў жыць не па-нашаму: хутка пабудаваў другі дом з вялікімі вокнамі, завёў сад, дзе цвілі вішні і яблыні, і жыллё яго больш было падобнае да шляхецкае сядзібы, чым да простае хаты. Так зафанабэрыўся, што пасадзіў пад вокнамі такія ж самыя кветкі, як і ў панскім садзе, з якіх ніякае карысці няма. Агапцы забараніў насіць шнуроўку і хустку, а загадаў апранацца ў такія паркалёвыя сукенкі, якія носяць

шляхцянкі. Не хацела яна мяняць свайго ўбору. Ведала, што ўсе, бачачы яе ў шляхецкай вопратцы, будуць называць гультайкаю. Але ўсё ж мусіла пагадзіцца з ягонаю воляю і ў такім уборы палівала кветкі. Карпа меў шмат парабкаў — было каму ісці з сярпом на жніво. Пан бываў у яго на гасцінах. Меў Карпа грошы, меў і павагу. Але ці ж у гэтым шчасце?

Заўсёды ён быў неспакойны ў думках сваіх; ніводнаму парабку ніколі не сказаў ласкавага слова, і Агапка не магла яму дагадзіць. Яе рэдкая ўсмешка здавалася яму здзеклівай, яе ціхмянасць ён называў глупствам, яе сціплась і пацеры, якім навучыла маці, былі яму быццам пакаранне. Аднойчы загадаў, каб ні з адным парабкам не размаўляла, і гневаўся, што яна неруплівая. Бог ведае чаго хацеў.

Часам лаяў сваю жонку, што яна лайдакаватая: адразу пасля заходу сонца ідзе адпачываць, і не хацеў, каб яна займалася да позняга якой-небудзь работай або малілася. Апоўначы часам уставаў з пасцелі і ля дзвярэй ці праз вакно размаўляў невядома з кім, выбягаў за дзверы і невядома дзе прападаў, аж пакуль певень не заспявае.

Меў ён прыяцеляў, якім даваў грошы і з якімі заліваў свой неспакой гарэлкаю; бывала, што па некалькі дзён не бачылі яго дома.

Аднойчы, калі чэлядзь пасля дзённае працы ўжо адпачывала, Агапка сядзела самотная ў пакоі і чакала мужа. Тут знянацку, нібыта ад маланкі, святло асвяціла сцены. Пасля зноў зрабілася цёмна. На Агапку нападае нейкая трывога. Нібы баючыся чагосьці, паглядае яна ў цёмныя куткі. Кот, пырхаючы, скочыў ад дзвярэй і, натапырыўшыся, застыў сярод хаты, свецячы неспакойным вокам. І тут заходзіць малады мужчына, прыгожа апрануты, на руцэ шмат залатых пярсцёнкаў, падперазаны шырокім чырвоным поясам. Агапка ўзіраецца ў незнаёмы твар, што здаваўся досыць прыемным, толькі пагляд яго быў пранізлівы, і першае ўражанне ад яго было страшнае.

— Вітаю маладую гаспадыню, — кажа незнаёмец. — Што ж ты сядзіш такая самотная, нібы сірата якая? Глядзіш мне ў вочы: незнаёмы табе, але я цябе часта бачыў і добра ведаю. А дзе ж Карпа, мужык твой?

— Не ведаю. Трэці дзень, як яго не бачу. Дзесьці ў знаёмых, а можа, паехаў у горад. Чула, нешта такое казаў.

— Што яму рабіць у горадзе? Гуляе сабе, а карыстацца шчасцем не ўмее. Золата і срэбра мае шмат, а якая з яго карысць? Мог бы цуды тварыць. Мог бы збудаваць дом лепшы, чым гэты;

такі, пра які старыя апавядаюць у казках, што ўвесь свяціўся золатам і срэбрам ды чыстым золатам быў накрыты. Мог бы сад развесці, як той, дзе спелі залатыя і срэбныя яблыкі, дзе спявалі б райскія птушкі; пад вакном раслі б у яго кветкі, ярчэйшыя, чым зоркі на небе. Вось гэты кот, варкочучы, баяў бы яму старыя дзіўныя гісторыі. З'ехалася б шмат паноў паглядзець на тыя цуды. І ён бы жыў лепш за караля. Ты маладая, прыстойная і разумнейшая за яго, пачынай жа сама гаспадарыць, а я буду табе памагаць, і мы здзівім свет.

Гаворачы гэтак, ён сеў на лаву поруч з ёю.

Агапка, гледзячы яму ў вочы, спыталася:

— Ці даўно ты знаёмы з маім мужам?

— Ведаю яго з дзяцінства. Я вандрую па свеце і служу шчаслівым людзям. Ты шчаслівейшая за іншых, табе хачу шчыра служыць.

— Хто ж ты такі і як тваё імя?

— Навошта табе ведаць маё імя? Я твой прыяцель. Згадзіся толькі на мае жаданні і мае паслугі, а пасля даведаешся пра ўсё. — І, сыплючы золата на зямлю ды гледзячы на Агапку, дадаў: — Бачыш, што я магу.

— Я ні хцівая, хачу толькі спакою душы. І няхай мяне апякае Прачыстая Маці Сірацінская.

Ледзь вымавіла імя Маткі Божае, — успыхнуў ён полымем і знік у імгненне вока. Агапка з пранізлівым крыкам выбягае за дзверы і падае непрытомная. Ад гэтага крыку прачынаюцца парабкі, бягуць на дапамогу і знаходзяць яе ў сенцах: яна ляжыць як нежывая. Ледзь змаглі вярнуць ёй дыханне. Бяссонная была тая ноч. Не спала Агапка, сядзелі ля яе слугі, хвалюючыся за здароўе пані.

Раніцою вярнуўся дахаты Карпа. Калі яму расказалі пра гэтае здарэнне, змяніўся з твару і з неспакойнымі думкамі доўга паходжваў сюды-туды. Нарэшце падышоў да жонкі, кажа:

— Што ж ты нарабіла? Калі пасеяна, дык трэба і жаць, а інакш — людскі смех і няшчасце.

— Не сеяла я тых злых зярнят, — адказвае яна, плачучы. — Лепей памерці, чым карыстаць з таго жніва.

Ён кінуўся да жонкі з кулакамі, але яна выскачыла за дзверы і схавалася, пакуль не прайшла ягоная злосць.

Карпа зусім занядбаў гаспадарку і рэдка калі пасылаў на паншчыну сваіх парабкаў. Аканом абыякава глядзеў на гэта і ні ў чым не дараваў, бо Карпа заявіў пану, што хоча быць вольны, вялікія грошы абяцаў, каб выкупіць сябе і зямлю, на якой жыў.

Аднойчы ўвечары ў хаце паводле свайго звычаю Карпа ўсхопліваецца, падыходзіць да вакна і сядзіць ля яго задумлівы. Чуваць было, што ён размаўляў сам з сабою. Жонка просіць яго, каб супакоіўся. Карпа толькі адказаў:

— Вярнуся заўтра, — стукнуў дзвярыма і пайшоў невядома куды.

Агапка паклікала да сябе кабету, бо баялася адна начаваць. Ледзь толькі задрамала, чуе, што нехта дакрануўся да яе рукі гарачай далоняю. Глянула і бачыць: той мужчына, што яе нядаўна напалохаў, стаіць, дзіўна апрануты, пазірае на яе, і вочы ягоныя гараць, як дзве свечкі, на галаве капялюш, а пояс, якім ён падперазаўся, чырвоны, як вуголле ці распаленае жалеза. Агапка здранцвела ад страху, ледзь руку змагла падняць, каб перажагнацца. І ён умомант знік. Разбудзіла Агапка сваю таварышку і расказала ёй пра гэты прывід. Размаўлялі нейкі час, а калі супакоіліся, — зноў тая здань з'явілася перад імі і зноў знікла, як успомнілі імя Езуса і Марыі. Дык усталі з ложка і, запаліўшы святло, маліліся, аж пакуль певень не заспяваў.

Пасля гэтага здарэння пасылае Агапка перад узыходам сонца да сваіх бацькоў кабету, каб паведаміла пра тыя здані і прасіла наведаць яе і параіць, што ёй рабіць у такіх выпадках.

Па ўсёй воласці разышлася пагалоска пра тое, што цмок колькі разоў палохаў Агапку, прыходзячы да яе ў розных абліччах. Карпа ж даводзіў усім, што гэтыя весткі фальшывыя, што ягоная жонка быццам звар'яцела, а можа, д'ябал і прыходзіць да яе за нейкія грахі.

Гарасім са сваёю жонкаю, калі сонца ўжо хілілася да захаду і ў полі скончылі работу, пайшлі пераведаць сваю дачку. Агапка, як убачыла іх праз вакно, з вялікай радасцю выбегла насустрач, прывяла іх у хату і са слязьмі апавядала пра свае пакуты, аб пераменах у мужавым жыцці, аб з'яўленні ў чалавечым абліччы таго цмока, які яму служыць.

— Ну вось, — адказаў Гарасім, — калі я яшчэ перад вяселлем казаў аканому і іншым дваровым людзям, што Карпа выгадаваў сабе цмока, які дае яму багацце, дык смяяліся і кпілі з мяне, гаварылі: «Грубы, дурны мужык, пляцеш немаведамашто». А калі гэта дайшло да пана, дык ён, угневаны, сказаў: «Слухай, хаме, калі ты будзеш малоць гэтую лухту, атрымаеш соцень пяць розгаў і палову галавы агалю, як вар'яту». Што ж яны цяпер на гэта скажуць?

Маці, плачучы, кажа ёй:

— Хутка збяром з поля, тады пойдзем разам да Прачыстае Маці Сірацінскае. Падгаворвай і яго, каб ішоў з намі і там паспавядаўся. Бог злітуецца. А вось гэта ў мяне свянцоныя зёлкі і касцельнае кадзідла, якімі кожны вечар будзеш акурваць хату, і, можа, дасць Бог, што ўсё наладзіцца.

Так, седзячы, размаўлялі яны пра сёе-тое, а Карпы ў той час у хаце не было. Ужо і змрок. У пакоі пацямнела. Ноч была цёплая, неба чыстае. Паветра такое ціхае, што, здаецца, волас не паварушыцца на галаве. Пасля вячэры, бо надвор'е было цудоўнае, парабкі пайшлі начаваць у поле, пры конях; іншыя ж — у адрыну на свежае сена. У хаце толькі Агапка не магла закончыць прыемнае размовы са сваімі бацькамі. Ціха было ўсюды, толькі раз-пораз патрэскваў кнот свечкі, якая дагарала. Агапка раздзьмухала агонь і кінула на яркія жарынкі-вугольчыкі свянцоных зёлак. Адразу ж з-за сцяны данёсся як бы шум раптоўнага ветру, і бляск прабег па хаце. Задрыжалі ўсе.

— Вось ён, — паведаміла ўстрывожаная Агапка. Змоўклі і, мавячы пацеры, чакалі, што будзе далей. Ля печы стаялі гаршкі. Адзін з іх падлятае ўгору, падае на падлогу і рассыпаецца на дробныя чарапкі. Збан з квасам, які стаяў на лаве, ускоквае на стол, а са стала кідаецца на зямлю і разлятаецца на друзачкі. Кот перапалохаўся, заіскрыліся вочы, і ён, пырхаючы, схаваўся пад лаваю.432 Рознае хатняе начынне пачало лятаць з кута ў кут.

Гарасімава жонка зняла з сябе медны крыжык (калісь высвенчаны пры адпушчэнні грахоў у Юхавічах у час Юбілею[4]).

— Няхай ён будзе тваім абаронцам, — сказала і надзела на шыю дачцэ.

Калі пабожная кабета вымавіла гэтыя словы, дробныя, як град, каменьчыкі,вылятаючы з цёмных куткоў, адскоквалі ад сцен; і камяні па некалькі фунтаў вылятaлі з-за печы, аднак бацькі і дачка, заклікаючы на дапамогу Найсвяцейшую Маці, цалымі выбеглі за дзверы.

Сабралася ўся чэлядзь ды са страхам і здзіўленнем паглядалі на хату. З вокан і ад сцен ляцелі камяні рознай велічыні; ніхто туды і наблізіцца не адважваўся. Усе, стоячы, пазіралі на гэтую праяву і не ведалі, што рабіць.

Мінулася поўнач, заспяваў певень. Тая страляніна крыху супакоілася. Аднак ніхто не адважваўся ўвайсці ў хату. Чэлядзь чакала ўзыходу сонца на падворку, а Агапка пайшла з бацькамі ў іхняе жытло.

Калі сонца было ўжо высока (выгналі ў поле жывёлу, і парабкі, адны з косамі, іншыя з сохамі, выйшлі на работу), пры-

язджае Карпа. Дом пусты. Сустрэў адну толькі кабету, якая прыйшла з поля, убачыўшы, што вяртаецца гаспадар. Пытаецца ў яе:

— Што тут робіцца і дзе жонка?

Кабета апавядае яму, як усё было. Карпа перапалохаўся, змяніўся з твару.

— Яна мяне загубіла, — закрычаў ён і адразу пайшоў да чараўніка Парамона.

Вестка пра здарэнне ў той самы дзень разышлася па ўсёй ваколіцы. У панскім маёнтку адны паверылі, што ўсё гэта ад сілы шатанскае, іншыя ж смяяліся, кажучы, што тут проста нейкае свавольства. Гарасім паведаміў пра ўсё пробашчу, просячы, каб ён гэтага ж дня прыехаў у Карпаву сядзібу і пасвянціў небяспечны дом, у якім завёўся шатан.

Адвячоркам цікаўны люд папрыходзіў з усяе воласці, каб пабачыць тыя дзівы. Прыйшоў аканом і з ім шмат маладых ды смелых хлопцаў з маёнтка, якія, не верачы ў моц шатанскую, спадзяваліся, што зловяць якога-небудзь свавольніка. Колькі з іх, не зважаючы ні на што, нават адчынілі дзверы і хацелі ўвайсці ў хату, але не паспелі стаць на парозе, як усе з крыкам кінуліся назад, бо камень выцяў аднаго з іх так, што хлопец ледзьве апрытомнеў. Люд, пазіраючы на гэтыя дзівы, стаяў здалёк ад дома, а камяні штораз гусцей сыпалі адтуль.

Карпа ад роспачы змяніўся ўвесь і, быццам непрытомны, праклінаючы жонку, суседзяў і слуг, хацеў уварвацца ў хату, але яму не дазволілі. Парамон, што стаяў побач, шаптаў нешта, але сваімі чарамі ўжо не мог дапамагчы. Пан К.Г., апанаваны цікаўнасцю, таксама прыехаў і, не адважваючыся наблізіцца да хаты, загадаў акружыць сядзібу і чакаў, які канец будзе гэтым жахам.

Але вось і ксёндз у капеланскім уборы прыехаў. Учыніў ён святы абрад і, калі са свянцонай вадою хацеў наблізіцца да сцен, — імгненна ўвесь дом ахапіла полымя, і хутка будынак рухнуў.

Здзіўлены люд, гледзячы на гэткую помсту злога духа, пацiскаў плячыма. І кожны з тых, хто быў тут пры поўнай свядомасці, з трывогаю пакідаў на месцы, дзе стаяў дом, ужо толькі вуголле і дымныя галавешкі. Ксёндз вяртаўся дадому ўзрушаны, шкадуючы аб неразумнасці свае паствы. Калі адыходзіў Парамон, дык лаяў, трасучы галавою, нешчаслівага Карпу: «*Добра дурню: як паслаў, так і выспаўся*». Па ўсёй ваколіцы, у простай хаце і ў панскім палацы, доўгі час гаварылі пра гэтае здарэнне.

Карпа невядома дзе падзеўся пасля таго страшнага пажару. Знік і ўжо больш не наведваў ні сваіх прыяцеляў, ні цесця, ні жонкі. Рознае пра яго думалі. Адны меркавалі, што ён злыгаўся з ліхадзеямі, якія пераганялі крадзеных коней з Беларусі пад Пскоў ці да Вялікіх Лук. Дык пан паслаў арандара Хаіма на зведы. Іншыя сяляне казалі, што сустракалі Карпу ў роспачы ды ў трапенні і ад іхняга голасу ён, як дзікі, уцякаў у лес.

Прайшло колькі тыдняў. Шукаючы качак, нейкі паляўнічы з выжлам ішоў ля берага возера. Дзень быў нейкі хмарны, хвалі біліся аб бераг. На пяску ля самае вады здалёк убачыў ён чараду груганоў. Стрэліў. Груганы паляцелі і схаваліся ў пушчы. Падышоў бліжэй — і бачыць выкінуты вадою труп, які хваля яшчэ пакрывала пенаю. Адразу ж ён паведаміў у маёнтак. Далі знаць у суд. Цяжка было пазнаць, чыё гэта цела, але вопратка і пярсцёнак на руцэ далі магчымасць апазнаць Карпу.

Так няшчасны скончыў сваё жыццё. Без малітваў і без ксяндза там жа на беразе труп закапалі.

Тут лёзны чалавек змоўк.

— Скажы ж, — просіць пан Завальня, — а што сталася з Агапкаю?

— Агапка колькі гадоў жыла пры бацьках, ад смутку і спалоху увесь час хварэла. Пасля смерці бацькоў і яна згасла, як свечка. Няхай пануе на небе. У сваім дабрачынным і цнатлівым жыцці была яна прыкладам усім кабетам нашае ваколіцы. Хоць было гэта даўно, аднак і цяпер там, дзе яна са слязьмі палівала кветкі, зеленеюць вішні і яблыні, і краскі тыя кожную вясну найпрыгажэй цвітуць, дзяўчаты ў святочныя дні плятуць з іх вянкі і аздабляюць абраз Прачыстае Маці.

— Чаму ж ты не ажаніўся з ёю, калі яна была ўжо ўдавою? — спытаўся пан Завальня. — Ты ж яшчэ раней кахаў яе. Меў бы найлепшую жонку. А добрая жонка — скарб найдаражэйшы, бо дзе ў хаце каханне і згода, там і блаславенне Божае. Вось і я жыву сяк-так, дзякуючы Богу, а ўвесь гэты лад у гаспадарцы зрабілі разам з маёю нябожчыцай.

— Пасля таго смутнага вяселля я прасіў пана, каб дазволіў мне пайсці ў чужую старонку, дзе лягчэй набыць грошы дзеля гаспадаркі ды на падаткі. А яшчэ меркаваў, што, як буду далёка, хутчэй забуду на ўсё тое, што доўга стаяла ў мяне перад вачыма і наводзіла смутак. Я блукаў колькі гадоў па Расіі, ля Ноўгарада Старое Русы, і быў нават пад самым Пецярбургам, увесь час робячы самую цяжкую работу там, дзе вялі дарогі праз багны і [illegible] лясы: капаў глыбокія канавы, часам увесь дзень стоячы ў

вадзе. Усё гэта, дзякуй Богу, вытрываў і не падарваў здароўя і вярнуўся дадому з грашыма, і тут мне распявалі пра тое страшнае здарэнне з Карпай і пра смерць нешчаслівае Агапкі.

— А ці жыве Парамон?

— Памёр без споведзі, і магіла яго ў полі без крыжа.

— А што, Янка, ці падабаюцца табе нашы простыя апавяданні? Яны праўдзівыя, і іх лягчэй зразумець, чым гісторыі пра даўніх паганскіх багінь і бажкоў, пра якіх ты мне апавядаў. Такую байку ніхто не запомніць, хіба толькі вучоны чалавек.

— Я люблю такія апавяданні. Шмат у гэтай народнай фантазіі Божае праўды.

Калі пан Завальня размаўляў са мною, дык між чэлядзі чуваць былі такія словы: «*Вот добры так добры, усю ноч бы ня спаў ды слухаў*».

— Ну, будзем жа зараз слухаць, — сказаў Завальня, — што нам раскажа твой таварыш. Але здарэнні з твайго жыцця. Страшныя і цікавыя.

## АПАВЯДАННЕ ДРУГОЕ.
## ЗУХАВАТЫЯ ЎЧЫНКІ

— Ведаў і я ў сваім жыцці такога чалавека, што быў падобны да Карпы, і за тое ж мусіў ён пакутаваць. Цяпер свет сапсаваны, шмат людзей выкрутлівых ды лайдакоў, гатовых на ўсё злое, а хто ім што добрае кажа — і слухаць не хочуць.

— І я памятаю, — сказаў пан Завальня, — лепшыя часы. Колькі паноў было добрых у гэтых краях! Люба было глянуць, якая сціпласць і ціхамірнасць панавала ў святыні Божай, кожны меў у руцэ венчык і ксёнжачку, пашана была старэйшым і любоў братэрская. А цяпер у касцёле чуеш адны шэпты ды смех; здаецца, для таго толькі і прыйшлі, каб паказаць свае модныя ўборы. Мода і фармазонія іх загубіла, а праз іх і іншыя пакутуюць.

— Мне здаецца, дзядзечка, што людзі заўсёды аднолькавыя: і даўней, як і цяпер, былі злыя і добрыя, былі шчаслівыя і нешчаслівыя.

— О не, Янка! Табе не ўбачыць, што старэйшыя бачылі. Не вернуцца даўнія часы, а будзе яшчэ, можа, і горш. Ну, кажы ж нам сваё апавяданне, — сказаў ён да падарожнага.

— Калі быў я яшчэ зусім малады, памятаю, жыў у нашай вёсцы селянін Антон. Меў ён добрую гаспадарку, беднасці не ведаў, а што быў бяздзетны, дык узяў дзіця невядома ад якіх бацькоў. Яго ахрысцілі і далі імя Васіль. Гадаваў яго, як сваё роднае. Калі хлопец вырас, дык пачаў ганяць гавяду на пашу, але быў вялікі гультай і свавольнік. Заўсёды скардзіліся на яго: то каровы пусціць на засеянае поле, то аблае каго брыдкімі словамі, то ў каго каменем папусціць. Ідуць скардзіцца Антону, але Антон любіў яго, і калі казалі яму што, ён быццам і не чуў, патураў яму ва ўсім, а той рос і рабіўся ўсё горшы і задзірлівейшы.

Сабраліся аднаго разу на паншчыну. Было тое пасля св. Пятра[1], і Васіля таксама паслалі на працу. Ён, як звычайна, з кожным задзіраўся, ні пра аднаго чалавека добрага слова не сказаў. Быў тады дзень надта спякотны. Войт загадаў пакласці косы і перакусіць чым хто мае, бо надышоў ужо час папалуднаваць і адпачыць. Усеўшыся на лужку ў кола, гаварылі мы пра тое ды пра сёе. Раптам бачым, як адзін селянін, што быў аддаліўся нечага ад нас, стоячы ля гаю, махае рукою і кліча да сябе:

— Хутчэй, хутчэй, хадзіце сюды, пакажу вам дзіва!

Бяжым усе туды. Селянін паказвае рукою на недалёкія бары:

— Паглядзіце, што дзеецца.

Бачым перад сабою дзівосы нечуваныя. Лясун ідзе па бары, галава вышэй за хвоі, а перад ім выбягаюць на поле велізарныя чароды вавёрак, зайцоў ды іншых звяроў; у небе засцяць сонца, адлятаючы прэч, цецерукі, курапаткі ды іншае птаства. Лясун выходзіць з лесу,ператвараецца ў карузліка, і адразу ж з поля і лугоў падняліся матылі і іншая жамяра, і як бы цёмная хмара закрыла нашу ваколіцу.

Зухаваты Васіль падхапіў камень на полі, падбягае туды, дзе Лясун, бачыць яго сярод травы, кідае ў яго каменем і крычыць:

— Згінь, прападзі!

Лясун закрычаў страшным голасам, што аж лістота пасыпалася з дрэваў, падняўся з травы, нібы велізарны чорны птах і, падымаючы крыламі шум, схаваўся за лесам. Нас ахапіў неспакой. Глядзім усе на Васіля, дзівячыся яго адвазе. А ён, ад гордасці за свой учынак, смяяўся да слёз. Быў між намі адзін дасведчаны чалавек, які сказаў:

— Чуў я ад старых людзей, што такая зухаватасць наводзіць нешчасце. Выгараць тут лясы і пушчы, будзе паморак на жывёлу, але і табе, Васіль, не пройдзе гэта беспакарана.

— Што мне да таго, — адказаў Васіль. — Я рады, што ў шайтана добра каменем пацэліў, няхай не выганяе з нашых лясоў птушак і звяроў.

Чуткі пра гэта разышліся па ўсёй ваколіцы; такія хлопцы, як Васіль, хвалілі ягоную адвагу, і ён усюды ганарыўся сваім учынкам. Але дасведчаныя людзі, якія лепш усё гэта разумелі, з пагардаю слухалі тыя выхвалянні. І Антон, ціхі чалавек, засмуціўся, калі пачуў пра тое.

Другі выпадак быў яшчэ страшнейшы; калі ўспомню — аж валасы на галаве падымаюцца. Аднаго разу (таксама на паншчыне) складалі мы сена. Дзень быў ясны і спакойны; на ўсходзе паказалася воблака, і далёка, быццам бы пад зямлёю, абазваўся гром. Тут бачым, ідзе накшталт слупа, віхор, падымаючы ўгору пясок і ўсё, што яму трапляецца па дарозе. Круцячыся вірам, праходзіць па полі недалёка ад нашае сенажаці. Са здзіўленнем пазіраем мы на гэта. Але вось Васіль кідае граблі, бяжыць на поле, спатыкае слуп віхору і, працягваючы яму руку, крычыць:

— Як маешся, браце!

А з клубоў пылу падае яму нехта чорную, як вугаль, руку. Слуп, круцячыся, пайшоў далей па полі. Страх агарнуў усіх нас. Вярнуўся Васіль, але ніхто яму слова не пасмеў сказаць. Зразумелі ўсе, што ён запанібрата з духам праклятым.

З таго часу ніхто з ім размаўляць не хацеў; усе яго баяліся, і нават тыя пачалі ад яго ўцякаць, з кім раней сябраваў.

Уся воласць пра гэта ўведала, дайшла чутка і да вушэй пана ды аканома. Яны не хацелі гэтаму даваць веры, і калі неяк пан у маёнтку запытаўся самога Васіля ці праўда тое, што кажуць, ён, лаючы ўсіх, адказаў:

— Тым дурным заўсёды нешта трызніцца, абы разносіць хлусню і плёткі.

І пан яго не чапаў.

Антон, добры чалавек, заўсёды Васілю ўнушаў страх перад Богам, імкнуўся выправіць, змушаў хадзіць у касцёл і маліцца. Ён жа смяяўся з усяго, усім пагарджаў ды ішоў заместа імшы ў карчму.

Нарэшце вырашыў ажаніцца. Антон меркаваў, што добрая жонка і перамена ў жыцці выправяць яго. Пасылаў сватоў не толькі ў сваю, але і ў чужую воласць. Ды ўсюды адмаўлялі, бо слава пра Васілёвы прыгоды і пра злосць ягоную разышлася далёка.

Васіль пагарджаў усімі і насміхаўся з усяго, кажучы, што ён даўно ўжо сам сабе нагледзеў нявесту, якая яму найбольш да-

спадобы. Не хацеў спачатку пра гэта нікаму казаць, але цяпер аб'яўляе ўсім, што закаханы ў Арыніну дачку Алюту*, што прызнаўся ёй ужо і атрымаў ад яе прызнанне.

Пачуўшы гэта, Антон вельмі засмуціўся і раіў яму адмовіцца ад гэтага намеру, бо пра Арыну ходзяць чуткі, што яна кабета злая і чараўніца, а яблык ад яблыні недалёка падае, дык, можа, і дачка будзе такою. Аднак усе парады былі дарэмныя, і Васіль яшчэ часцей пачаў наведвацца ў Арыніну хату.

На гэта адны суседзі са смехам казалі:

— Пазнаў роўны роўнага, будзе дабраная пара.

Іншыя хвалілі: Алюта будзе добраю жонкаю і не пойдзе па матчыных слядах. Былі і такія, што казалі, быццам ягонае каханне не сапраўднае, быццам яму паднеслі нешта ў пітве і хоць ён і запанібрата з д'яблам, — трапіў на лепшую і сам быў зачараваны.

Шчыра стараўся Антон змусіць яго адмовіцца ад свайго намеру. Нарэшце прыгразіў, што вырачацца яго, такую нявестку не прыме ў хату і маладым на гаспадарку нічога не дасць.

— Я і ні прашу ні ў кога нічога, — адказаў Васіль. — Знайду ўсё сам, здабуду і грошы. І апякун такі, як ты, можа, сам прыйдзе калі да мяне, папросіць памагчы.

Антон пайшоў да кума Марціна. Быў гэта чалавек пачцівы і гаваркі, рады кожнаму параіць і дапамагчы, таму і любіла яго ўся воласць. Марцін ахвотна паабяцаў прыгледзецца да гэтае справы і адлучыць маладзёна ад тае прывязанасці. Даў нават слова, што будзе сябраваць з ім і кожны раз адгаворваць ад таго хаўрусу.

Калі Васіль пачуў ад апекуна, што не будзе мець ніякае дапамогі, вырашыў шукаць скарбы, нават калі б і былі яны заклятыя ці моц шатанскую мелі. За дзве вярсты ад іхняе вёскі быў ля дарогі пагорак, акружаны з двух бакоў яловым лесам. А на пагорку ляжаў велізарны камень, які людзі называлі «*Вужовым Каменем*». Старыя людзі так пра яго апавядалі.

Аднаго разу ўлетку ў ціхую, пагодлівую ноч з поўначы на поўдзень ляцеў, палаючы агнём, цмок, нёс нібыта з сабою шмат золата і срэбра грэшніку, які прадаў д'яблу душу. Бачылі гэта падарожныя і людзі, што вярталіся з паншчыны. Раптам раскалоўся блакіт неба, разлілося вялікае святло, людзі, молячыся, кленчаць, а цмок, выцяты промнем нябеснага святла, драндзвее ўвесь, валіцца на пагорку і ператвараецца ў камень. Скарбы ж, золата і срэбра, якія ён нёс з сабою, на тым самым

* Галена.

месцы самі закапаліся ў зямлю, і з таго часу з'яўляліся ўначы ў розных канцах пагорка ў размаітых постацях. Адны бачылі на камені Плачку, якая выцірала сабе слёзы агнёваю насоўкаю; другія, ідучы позняй парою па дарозе, сустракалі карузлікаў, чорных і тоўстых, як бочка, што скакалі на пагорку; іншым мроіліся чорныя казлы, што скакалі з зямлі на камень, а з каменя на дол, і шмат іншых дзівосаў.

Казалі яшчэ, што калі хто асмеліцца ля гэтага каменя начаваць, таму тыя скарбы і здабыць наканавана. Васіль быў смелы, не баяўся нічога, бо ўжо раз з шатанам, што ехаў на віхоры, вітаўся, як з братам.

Пасля заходу сонца, калі вечаровы змрок ахутаў палеткі, ідзе ён на пагорак і сядае на камень. Хмары закрылі неба, цямнее ў полі, усюды глуха, у лесе, што чарнеўся перад ім, абзываецца сава; Васіль бачыць, як снуюцца перад ім здані, паўзуць з-пад каменя, сыкаючы, вужы, скачуць у скрутах вакол страшыдлы з сабачымі галовамі і казлінымі нагамі. Васіль смела паглядаў на гэта, мяркуючы, што зараз яму пакажуцца скарбы. Раптам бачыць, як хтось зварочвае з дарогі і набліжаецца да яго. Гэта быў Марцін.

— Што ты тут робіш? — запытаўся ён з усмешкаю. — Пэўна, скарбы шукаеш?

— Шукаю, але чаго ты прыйшоў? Ты затрымаў мяне на парозе багацця, вырваў з рук маіх шчасце, хочаш, каб я табе галаву каменем раскроіў.

— Не гневайся. Я раскажу пра лепшыя скарбы. — І, сеўшы ля яго на камені, кажа: — Слухай, Васіль, лепей ідзі дадому. Здароўе, шчырая праца — гэта найдаражэйшы скарб для добрага чалавека. Дрэнна, калі хто шукае дапамогі ад нячысціка. Ты яшчэ малады, працуй, Бог дапаможа. Антон, апякун твой, бяздзетны; калі будзеш паслухмяны, дык усё, што мае, табе перакажа.

Угневаны Васіль плюнуў і, мармычучы штосьці, адышоў.

З таго часу ён не прыходзіў дадому. Антон, бачачы ўсё большую яго зацятасць, супакоіўся і чакаў, што з гэтага выйдзе. Знаёмыя прыносілі розныя весткі пра Васіля. Адны казалі, што знайшоў ён нейкую гультайскую хеўру, крадзе з сябрукамі, а набытыя грошы прапівае ў карчме. Іншыя — што жыве ў Арыны, вучыцца чарам, і нават бачылі, як з Алютай і Арынаю хадзіў па лесе і балоце каля азёраў, збіраючы зёлкі, на якіх ніколі раса не высыхае* . Трэція сцвярджалі, што з-за куста нават чулі, як

* Трава расічка. Расце на купінах і дапамагае супраць чараў.

Арына, вырваўшы з зямлі нейкі мох, апавядала пра страшную яго моц.

Марцін, настойлівы ў сваіх задумах, імкнуўся дзе-небудзь сустрэцца з ім, але не выпадала. Не асмельваўся ісці да Арынінае хаты, баяўся гасціннасці чараўніцы.

Аднаго разу ў нядзелю пад вечар хто са знаёмым, хто з кумам ідуць у карчму, каб там пры гарэлцы пагаманіць, параіцца пра тое пра сёе і весела час прабавіць. З надзеяю, што, можа, спаткаецца з Васілём, ідзе туды і Марцін.

Сядаюць за стол. Жыд Ёсель рады гасцям, налівае гарэлку, ставіць на стол і крэйдаю запісвае на сцяне, умаўляючыся, што калі ўвосень будзе новы хлеб, дык прыедзе да іх, пачастуе гаспадара і гаспадыню гарэлкаю, а тыя сустрэнуць яго ветліва і аддзячаць розным збожжам.

Заходзіць Марцін. Сёй-той рады, што яго ўбачыў. Просяць госця за стол, частуюць гарэлкаю. Пачалася гаворка пра Васіля і яго каханую; адны хвалілі Алюту, што добрая дзяўчына і была б добраю жонкаю, калі б выйшла замуж за добрага чалавека, а не за Васіля, які пабратаўся з д'яблам; было колькі п'яных, што і Васіля хвалілі; іншыя ж Васіля, Алюту і Арыну называлі найнягоднейшымі людзьмі.

Калі гэтая спрэчка і шум зацягнуліся, Ёсель, што стаяў у канцы стала, кажа:

— Паслухайце, вы несправядліва гаворыце пра Васіля. Васіль — чалавек добры і акуратны; калі прыйдзе з таварышамі да мяне, дык заўсёды плаціць гатоўкаю, заўсёды мае грошы. А Алюта, Алюта добрая дзяўчына, апранаецца добра, як паненка, ды і ў Арыны я нічога дрэннага не бачу. Ну і што, калі яна чаруе? Яна чаруе, каб мець грошы, а грошы вельмі патрэбныя кожнаму; яна і дапамагае: лечыць зёлкамі людзей.

Калі ішла гэтая размова, імкліва і са стукам адчыняюцца дзверы, заходзіць Васіль з узнятай галавою, шапка ссунута набакір, і з ім некалькі сябрукоў; агледзеўся, убачыў Марціна і насупіў бровы.

— Як маешся, Васіль? — кажа Ёсель. — Даўно цябе не бачыў, ужо дні тры. Я і мая Сора думалі, што з ім такое, а цяпер вось толькі што гаманіў з людзьмі пра цябе.

— Я ведаю, што людзі пра мяне кажуць: сабакі брэшуць, а вецер носіць. Мне ўсё адно. — Ён сеў на лаве, узлакаціўся на стол, закрычаў: — Дай нам гарэлкі, але добрае.

— А можа, Васіль просіць гарэлкі салодкае? Я прывёз з места, хоць яна каштуе дорага.

— Дай дарагое. — І кідае колькі грыўняў на стол.

Жыд у міг вока падае кілішак і бутэльку гарэлкі.

Людзі за другім сталом глядзелі на гэта здзіўлена, некаторыя пазіралі спадылба, шэпчучыся між сабою і здзекліва ўсміхаючыся. Максім, які раней за іншых прыйшоў у карчму і быў ужо добра падвяселены, гучна засмяяўся і закрычаў:

— Ого! Як бачу, ты, брат Васіль, мусіш быць багаты не панашаму, ужо п'еш панскую гарэлку. Пэўна, начаваў ля Вужовага Каменя і знайшоў грошы або, можа, Арына, што мае быць тваёй цешчаю, нейкімі чарамі насыпала табе срэбра поўныя кішэні. Ну й зух!

Васіль паглядзеў са злосцю.

— З табою, — кажа, — ніхто з нашае сябрыны не гаворыць і ніхто да размовы не просіць, дык не ўмешвайся, а то так завяжу табе вусны, што другі раз ніколі не адважышся лухту вярзці.

— Завяжаш мне вусны? Ой, ой! Глядзіце, вывучыўся ўжо чараваць ад Арыны, умее вусны завязваць! Ой, ой! Глядзі, каб не быў кульгавы, як твая будучая цешча. А ці ведаеш, чаму яна на левую нагу трохі кульгавая?

— Маўчы, калі з табою ніхто не хоча гаварыць.

— Ніхто не хоча гаварыць, дык будуць слухаць. А я раскажу ўсім — паслухайце! — раскажу вам, чаму Арына кульгавая. Гэта ў яе Грышкаў падарунак. Сам апавядаў мне пад сакрэтам.

Аднаго разу ўвечары, як сонца села, вяртаўся ён з касою з поля дамоў і пачуў голас чараўніцы, якая выклікала каровы, называючы кожную паводле масці. У вечаровай цішы чуваць было, як па вёсках адзываліся рыкам каровы; зарыкалі таксама і ў ягонай аборы. Ён перапалохаўся, што застанецца без малака, бяжыць туды, адкуль чуўся голас, каб даведацца, хто тая чараўніца, падкрадваецца кружным шляхам і што ж бачыць? Арына, седзячы на плоце з ускудлачанымі валасамі, дзікім спевам спраўляла чары.

«Будзе дрэнна, — падумаў сабе. — Трэба ёй як-небудзь перашкодзіць». Дык бяжыць дадому і кладзе над дзвярамі ў аборы свянцоныя зёлкі і васковую свечку. Ледзь адышоў колькі крокаў, бачыць, прылятае сарока, разграбае зёлкі і дзяўбе свечку. Грышка бяжыць у хату, хапае стрэльбу, набітую дробным шротам. Стрэліў — пасыпаліся пёркі, аднак сарока паляцела прэч.

На другі дзень пачуў, што Арына параненая ў левую нагу і хворая ляжыць у ложку. Зразумеў усё і думае сабе: «Мае памятку». Аднак баяўся помсты, бо хутка завязала на яго залом у

жыце. Але залом ён спаліў на асінавых дрывах, і чараўніца сама ледзь не загінула.

Васіль у гневе схапіў бутэльку, кінуў яе ў Максіма — трапіў у самыя грудзі. Падскочылі адзін да аднаго, і ўсчалася бойка.

На шчасце, з блізкага маёнтка ехаў конна аканом і, чуючы пранізлівы крык арандара, павярнуў да карчмы. Ёсель бяжыць насустрач аканому.

— Ай, дабрадзею, забойства ў карчме, гвалт, што тыя п'яніцы шкоды мне нарабілі!

Саскочыў аканом з каня, умешваецца ў мітусню, пагражае, што заўтра за п'янства ўсіх сурова пакараюць і кожны з іх заплаціць за ўчыненую шкоду. Умомант угаманіліся.

Аканом выганяе іх з карчмы і загадвае ўсім ісці па сваіх хатах. Гэтак і разышліся ў розныя бакі, пагражаючы адзін аднаму помстаю.

Ёсель расказаў аканому, як усё было, і пра ўсе прычыны звады, сказаў, не вінавацячы, аднак, Васіля.

— Трэба пра гэта пагаварыць з панамі. Плятуць дурні невядома што: дарэмна крыўдзяць бедную ўдаву і дзяўчыну, якая ні ў чым не вінаватая. Балбочуць пра нейкія Арыніны чары, я раней гэта не высвятляў, ды толькі ведаю, што яна зёлкамі многім людзям дапамагае. Вось нядаўна сам бачыў, як у маёнтку паненцы Тарэзе вылечыла лішай на твары. Праўда, кладучы ў халодную ваду нейкія каменьчыкі, яна пашаптала, і халодная вада кіпець пачала, як бы на агні; казала мыць гэтай вадою твар, і пані Тарэза хутка ачуняла. Такія чары не толькі нікому не шкодзяць, але, наадварот, карысныя людзям.

— Як пан аканом шчырую праўду кажа, няхай пан так і паведаміць ягамосцю і еймосці, бо аж балюча слухаць, калі так людзей крыўдзяць. Ай, была ў мяне добрая салодкая гарэлка, ды бутэльку разбілі жлукты і гарэлку выпілі. Сора, падай — там яшчэ ёсць крыху салодкае гарэлкі, — падай яе пану аканому і прынясі марынаду на закуску. Маю выдатнага марынаванага шчупака.

Аканом выпіў гарэлкі, закусіў, супакоіў арандара, што яму за ўсё заплацяць, сеў і паехаў.

Назаўтра ў маёнтак прыходзіць заплаканая Арына і апавядае панам, што незычлівыя людзі паўсюль гавораць пра яе, быццам яна напускае чары, каб шкодзіць іншым, завязвае заломы і адбірае малако ў кароў. Клялася, што ніколі нічога падобнага не чыніла. Вядома, старалася людзям дапамагчы ў хваробах і ў розных прыпадках, лекуючы іх зёлкамі, моц якіх толькі

ёй вядомая. І гэтая незычлівасць да яе пануе ва ўсёй ваколіцы. Пра Васіля, якога выгадаваў Антон, таксама кажуць, быццам і ён пабратаўся з д'яблам. Але ж і гэта злая прыдумка. Сапраўды, Васіль — чалавек малады, зухаваты, бо яшчэ не паспытаў у жыцці няшчасця, але з часам пераменіцца і будзе лепшы і больш увішны. Ён заляцаецца да мае дачкі, але і гэтую сірату людзі крыўдзяць, злое пра яе кажуць.

— Чуў я пра Васіля, што ён, бывае, і не слухае свайго апекуна, і быццам бы страчаўся з віхорам і вітаўся з ім, нібы са сваім братам. Гэта ўсё не варта рабіць, лепей трэба жыць з Богам. Скажы Васілю, няхай не займаецца глупствам, ходзіць у касцёл і працуе. Ну, ідзі ж дадому і будзь спакойнаю, я для твае дачкі спраўлю вяселле ў маёнтку, бо казала мне пра яе аканомка і ад іншых чуў, што дзяўчына яна добрая і працавітая.

Таго ж дня пан загадаў паклікаць Антона і каб Васіль перапрасіў свайго апекуна. Антону ж наказаў, каб не забараняў Васілю жаніцца з Алютаю, але дапамагаў ім, бо яны абое сіроты. І сам абяцаў выдзеліць яму найлепшае зямлі і даць жывёлы на развод.

— Але ж, пэўна, і пан чуў пра тое, што людзі кажуць. Быццам Арына чараўніца, і скардзяцца некаторыя, што кароў выдойвае і робіць іншыя копствы, часам перакідаецца ў сароку і лятае паўсюль, і гэта нават бачылі.

— Не слухай плётак. Арына добрая кабета, і Алюта, дачка яе, будзе добраю жонкаю і добраю гаспадыняю. Няхай табе гэта не рупіць, я ручаюся, што будзеш задаволены.

— Панская воля, — кажа Антон. Ён згорбіўся і, чухаючы патыліцу, пайшоў дахаты.

Праз колькі дзён далі пробашчу на запаведзь. А хутка і вяселле. Сабралася ў маёнтку цэлая воласць. Відаць, не таму, што былі зычлівыя да маладыя, а ведалі, што будзе добрая пачостка і гарэлкі ўволю. Не было там вясковых вясельных абрадаў, як звычайна робіцца ў вёсках, але перад шлюбам, просячы благаславення, маладыя ўпалі ў ногі спярша сваім панам, потым Антону і Арыне. І пасля шлюбу гэтае самае ўчынілі. Алюта была пекна ўбраная. Пані падаравала ёй нейкія завушніцы, якія перад агнём як бы іскры кідалі, чырвоныя шнуроўка з залатымі гафткамі, чырвоныя стужкі, і калі села за стол і расплялі ёй чорную касу — з чорных воч па белым твары паплылі-пакаціліся слёзы. Усе расчулена глядзелі на яе. А пасля заспявалі кабеты вясельную песню, якую спяваюць звычайна сіротам, што ідуць замуж. Усе плакалі, нават тыя, што раней пра яе злое казалі. Гэтую песню так я ўпадабаў, што і цяпер яе памятаю.

ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ СІРАЦІНЕ

*Ах, знаць, знаць, па вяселіку,*
*Што ня бацюшка аддаець,*
*Двор вялікі, а збор не вялікі:*
*Нет у мяне радзінушкі,*
*Ой, зашлю, пашлю серу зязюльку*
*Па радзінушку.*
*Зязюлька ляціць,*
*Радзіна едзець,*
*Ах, паслала б я саловеньку,*
*Ды салавушка адказываець;*
*Ах, паслала б я зязюльку*
*Па свайго татульку:*
*Ды за родненькім бацькам*
*Серая зязюлька не прылятаець,*
*А татулька адмайляець:*
*«Рад бы я ўстаці*
*К свайму дзіцяці*
*І парадушку даці;*
*Грабавыя дошкі*
*Сціснулі ножкі,*
*Да не магу я ўстаці».*
*Сырая зямля*
*Дзверцы залягла*
*І акошачка засланіла;*
*Майго бацюшку*
*На вяселіка не пусціла*[2].

Прызнаюся, што і я не мог стрымаць слёз, бачачы перад сабою Алюту і слухаючы гэтую песню. Яна была сапраўднаю сіратою, бо, акрамя старое маткі, не мела іншых сваякоў. Гэтую сям'ю пан прывёз з-за свету. Раней жылі яны дзесьці далёка за Дзвіною, і бацька Алюцін памёр адразу ж, як прыехалі ў наш край.

Госці гулялі, пілі адзін з адным, добра падвесяліліся, дуда зайграла песні, і танцы не спыняліся ўсю ноч. Але ўсё было прыстойна, бо паны і аканом часта наведвалі вясёлае ігрышча.

Пасля вяселля пан і Антон добра дапамаглі маладым. З самага пачатку гаспадарання Васіль ужо меў некалькі коней, кароў ды іншае жывёлы; новыя забудовы ды некалькі дзесяцін ураддлівае зямлі.

— Але цікава, — сказаў пан Завальня, — ці перавыхавала яго Алюта, бо ёсць прыказка: хто ажэніцца, той пераменіцца.

— Не, паночку, кажуць людзі, што калі родзіцца жарабя з лысінкай, дык з той самай лысінкай і ваўкі з'ядуць.

— Дзіўныя рэчы на свеце! Кажы ж далей.

— На сваёй гаспадарцы Васіль быў надта ж нешчаслівы, хоць нейкі час, здавалася, і перамяніўся на лепшае. Дзіўна, што страчала яго адна бяда за другою. Выганяць пастухі чараду за вёску ў поле, выбяжыць з лесу воўк, схопіць барана; калі разгледзяцца, дык бачаць, што той баран быў Васілёў. Здаралася гэта некалькі разоў, і заўсёды воўк нібы выбіраў толькі Васілёвае. Ходзяць гусі па полі, ускочыць ліс і падушыць іх — гусі былі Васілёвы. Карова ягоная раз заблудзілася каля возера, убілася ў балота, пакуль прыбеглі на дапамогу, ужо ўтапілася. І гэтыя несканчоныя страты давялі яго амаль да галечы.

Неяк загарэўся бор, збеглася ўся воласць; не далі рады, полымя, як хваля на возеры, разышлося па ўсім бары. Шугаючы ўгары, яно ахоплівала густыя лапы ялін і хвояў, а дым, як страшны туман, закрыў усё неба і зямлю так, што ледзь можна было дыхаць. Бегаючы па лесе і збіваючы веццем полымя, папалілі мы на сабе вопратку. Але ўжо не было ратунку. Блізка быў Васілёў дом, іскрынка заляцела ў гумно, і згарэла збожжа.

У тыя дні вяскоўцы паўсюль казалі, што гэта адпомсціў Васілю Лясун, якога ён некалі выцяў каменем, калі той звяроў і птушак пераганяў з аднаго лесу ў другі; а стары чалавек прадказваў яму пажары і паморак на жывёлу.

Васіль ад гора яшчэ часцей пачаў завітваць у карчму. Яго жонка і цешча працавалі дзень і ноч і стараліся адвярнуць яго ад благога.

Ён зноў вярнуўся да зухаватых і бязбожных сваіх учынкаў. Аднаго разу Антон, Марцін ды іншыя, хто яму шчыра спрыяў, прыйшлі да яго ўвечары і нагадалі, каб цярпліва прымаў свае бядоты: мо калі-небудзь Бог усё пераменіць на лепшае? У гэты час насунулася хмара і пачалася навальніца. Ён, задумлівы, сядзеў ля вакна; вецер завыў за сцяною, а ён, як непрытомны, паведаміў:

— Мой брат выючы праімчаў паўз маю хату і паляцеў гуляць па шырокіх палях і густых лясах. Хутка і я за ім туды падамся.

Чуючы гэтыя ягоныя словы, перапалохаліся ўсе, і жонка пачала плакаць. А калі Антон сказаў Васілю, што ён зноў вяртаецца да бязбожных учынкаў, — той грукнуў са злосцю дзвярыма і выйшаў з хаты.

Аднаго дня пад вечар ідзе ён у карчму і там сустракае старых сваіх сябрукоў, з якімі калісь баляваў, і зноў пачынаюць яны банкетаваць. Васіль, калі ўжо добра падпіў, кажа ім:

— Згалеў я зусім, але хутка буду багаты. Прыйшла мне ў галаву добрая думка: пайду начаваць да Вужовага Каменя, пакланюся нячысцікам, мо не пашкадуюць яны мне грошай?

Калі ж пачалі з яго смяяцца, што ён ніколі не адважыцца там пераначаваць (а быў ужо, дарэчы, позні час), ён схапіў шапку:

— Вось дакажу, што не баюся прывідаў! — Кінуў у карчме таварышаў і пайшоў на пагорак да Вужовага Каменя. І адтуль ужо не вярнуўся дадому.

Мінаюць дні, тыдні, месяцы... Васіля няма. Шкадуюць яго знаёмыя, плачуць жонка з цешчаю. Няма вестак, ці жыве ён, ці памёр.

Розныя былі думкі і чуткі між людзьмі; адны казалі, што недалёка ад Вялікіх Лукаў і Пскова цягаўся ён у пушчах з хеўраю ліхадзеяў; другія сцвярджалі, што Лясун завабіў яго ў свае нетры; сёй-той у грыбах чуў Васілёў голас і Лесуноў смех. Рознае гаварылі. Васіль жа згінуў назаўсёды.

Старая Арына, дзень пры дні гледзячы на слёзы сваей Алюты, страціла здароўе і заручылася з зямлёю. Алюта і цяпер яшчэ жыве ў панскім маёнтку — ні ўдава, ні замужніца.

— Вось да чаго даводзіць п'янства і зухаватасць бязбожная, — сказаў пан Завальня. — Меў добрага апекуна і паноў добрых, што яму дапамагалі, — жыў бы спакойна сабе. Трэба было заводзіць звады з Лесуном, шукаць заклятых скарбаў, вітацца на полі з віхорам, называць яго братам. Бачыш, Янка, які асцярожны мусіць быць маладзён. Заўсёды, перш чым што рабіць, трэба падумаць.

— Не ведаю, дзядзечка, у чым ён тут правініўся, каліназваў братам віхор? І цяпер у завейную ноч вецер вые, сячэ снегам па вокнах, калі б я сказаў яму: «Ляці, браце, на поўнач, можа, і я за табою хутка падамся», — які ў гэтым грэх?

— Называй братам толькі такога, як сам. А пра віхор просты люд кажа, што гэта д'ябал ездзіць па полі і часам шкоду робіць.

Калі так гаварыў пан Завальня, падарожны глядзеў на Янку і ківаў галавою: не верыш, бо сам не паспытаў такога.

— Ну, цяпер нам трэці раскажа, што бывала калісьці на свеце. Слухайма.

## АПАВЯДАННЕ ТРЭЦЯЕ. ВУЖОВАЯ КАРОНА

— У маіх паноў быў лоўчы, зваўся Сямён; дом яго стаяў недалёка ад маёнтка, паншчыны ён не служыў, а ўвесь яго абавязак быў — вартаваць лес, хадзіць на паляванне з панам ды прыносіць дзічыну, калі, чакаючы гасцей або перад якім вялікім святам, накажуць з маёнтка.

Аднаго дня прыходзіць да яго аканом і крычыць, стукаючы ў акно:

— Сямён, пан казаў, каб ты што там ні было прынёс да нядзелі пару глушцоў, дзве пары цецерукоў і колькі курапатак, дык не лянуйся, бяры стрэльбу, майго выжла і ідзі на ловы.

Заспяшаўся Сямён, бо была ўжо серада. Бярэ стрэльбу, зайшоў у маёнтак і з выжлам ідзе блукаць па лесе. У нешчаслівы час выйшаў на паляванне; хадзіў дзень навылёт, а бачыў толькі дзятлаў, што дзяўблі сабе на сухіх хваінах. Начаваў у лесе, замёрз, бо была ўжо восень. На другі дзень да ўзыходу сонца туляўся па пушчы. Але дарма: нават здалёку не бачыў тых птушак, якіх шукаў, толькі вецер шумеў у дрэвах. Згаладалы сабака ўцёк да свайго гаспадара, і Сямён, змардаваны, хмурны, вяртаўся дадому, не ведаючы, што рабіць.

Сеў ён на калоду і думае сабе: «Кепска будзе; пан не дасць веры, што я шчыраваў на ўсю поўніцу; пэўна, западозрыць мяне ў гультайстве; пакланіўся б і нячысціку, абы толькі паспрыяў мне сёння».

Ледзь гэтак падумаў — выбег аднекуль велізарны чорны сабака, сеў перад лоўчым і страшнымі вачыма ўтаропіўся на чалавека. Сямён кліча яго да сябе, але сабака не рушыць з месца, а толькі глядзіць як шалёны; ахінуў лоўчага неспакой, і дрыжыкі пабеглі па целе. І тут бачыць: выходзіць з гушчару пажылы чалавек, валасы зблытаныя ў каўтун, бровы густыя, змарнелы, як быццам ад сонца і ветру, твар, вопратка да пят. Сядае на пень ля паляўнічага і гаворыць такія словы:

— Бачу, што торба твая пустая і твар хмурны; пэўна, паляванне няўдалае.

— Хадзіў два дні па лесе, змарыўся сам, і сабака, згаладаўшыся, уцёк ад мяне; не ўдалося аніводнага разу стрэліць. Дзе ж падзелася тое птаства? Загадалі мне да нядзелі прынесці дзічыны, ды адкуль яе ўзяць? Бяда будзе!

— Не журыся, — кажа незнаёмы, — паслухай мае рады. Я дапамагу табе. Заўтра 14 верасня, дык увечары ідзі на Ласіную гару, на цэлую ноч будзе табе дарогі, бо сам ведаеш, што гэтая гара адсюль няблізка; стаіць яна сярод цёмных лясоў; падыдзеш да яе акурат на світанні і ўбачыш, што схілы яе пакрытыя вужамі; не палохайся, яны чапаць цябе не будуць; між іх сустрэнеш Вужовага караля. Пасцялі перад ім белую хустку, укленч і пакланіся; ён кіне табе на хустку сваю Залатую Карону і з грамадою сваіх вужоў пойдзе ў зімовыя сховы. Слухай яшчэ, дам табе перасцярогу: ідучы ўначы на Ласіную

гару, не палохайся нічога і нічому не дзівіся, іначай дарэмны будзе твой клопат.

Калі будзеш мець у сябе Вужовую Карону, дык гэты чорны сабака, які цяпер перад табою, заўсёды, як толькі пойдзеш на ловы, стрэне цябе і павядзе па лясных сцежках, і кожны раз настраляеш столькі, колькі захочаш. Але ніколі не палохайся нічога і не дзівіся нічому, бо калі пахіснешся сэрцам або духам — будзеш нешчаслівы; не пускай у душу такія пачуцці.

Сказаўшы гэта, ён схаваўся ў гушчары, і сабака пайшоў за ім.

Сямён правёў поглядам незнаёмага, доўга стаяў задумаўшыся, пайшоў дахаты, узяў белую хустку і са стрэльбаю за плячыма скіраваў да Ласінае гары. Калі зайшоў у дзікую пушчу, дык ужо сутоньвалася, цямней і цямней рабілася сярод густых хвояў і ялін. А ён далей і далей ідзе ў глыб лесу. Усё вечарэла. Вось ужо і ноч. Глянуў угору — ледзь некалькі зорак на небе ўбачыў праз галіны. Адзін ён з людзей быў у той час у лясной пустэчы, вакол чуў толькі крыкі соваў і пугачоў ды ў гушчары тупат перапалоханага звера. Не першы раз выпала яму блукаць уначы па лесе, і дарога гэтая не страшыла яго.

Апоўначы лютыя пачвары акружылі лоўчага. Бачыць, як набліжаецца велізарны мядзведзь на задніх лапах, рыкае і ўжо хоча напасці; зграя ваўкоў, натапырыўшыся і свецячы вачыма, пагражае крывавымі пашчамі. Сямён адважна ідзе сярод хіжацкае зграі. Заступіў яму дарогу вышэйшы за лес Волат, які вырваў вялікую хваіну і разіўся, нібы пярун. Аднак лоўчы смела мінае ўсё гэта.

Месячык паказаўся з-за воблака. Здаецца Сямёну, што выходзіць ён з лесу і бачыць удалечыні палац, які свеціцца золатам і срэбрам; падыходзіць да тае пекнае пабудовы праз чароўны сад, дзе як быццам вясна і лета сышліся разам: найпрыгажэйшыя кветкі і даспявае найвыдатнейшая садавіна. Зязюля сумным голасам абзывалася на дрэве; зацёхкаў салавей у хмызняку; чуваць дзіўныя галасы драздоў і шпакоў, і разумее Сямён іх вясёлыя спевы. Спаткалі яго дзяўчаты з вянкамі на галовах, танцуючы, вабілі да сябе. Ён мінуў усе гэтыя цуды не здзіўляючыся і не зважаючы на іх.

Зніклі чароўныя здані; падзьмуў восеньскі вецер; і Сямён убачыў на ўсходзе чырвонае неба. Хутка ўзыдзе сонца — спяшае ён да Ласінае гары.

Калі прыйшоў на прызначанае месца, убачыў чараду вужакаў. Яны, сыкаючы, саступалі з ягонае дарогі. А ўжо і сонца падымаецца. Страчае Сямён такога велізарнага вужа, якога

ніколі не бачыў. Той смела паўзе, а на ягонай галаве зіхаціць золата. Сямён раскінуў белую хустку перад ім і ўкленчыў. Вуж скінуў з галавы Карону на хустку і папоўз далей, а за ім і іншыя вужы хутка схаваліся за гарою. З радасцю разглядаў Сямён залаты скарб, падобны на два бліскучыя лісцікі, што зрасліся канцамі.

Ледзь пакінуў гару, як яго спатыкае велізарны чорны сабака, які ўчора пабег за незнаёмым; пазірае ў вочы і, здаецца, кажа, каб ішоў за ім. Ідзе лоўчы за сабакам. Той спыняецца і позіркам паказвае на дрэве глушцоў. Разоў колькі стрэліў ён у тым месцы і некалькі штук забіў. Ужо нёс дадому глушцоў, цецерукоў і курапатак, а як падышоў бліжэй да хаты, сабака застаўся стаяць на полі: глядзеў услед паляўнічаму, а пасля знік з вачэй.

Паны хвалілі лоўчага, яго спрыт на паляванні, а чэлядзь і аканом дзівіліся з яго шчасця, з таго, як ён, не маючы сабакі, столькі змог упаляваць дзічыны.

З таго часу Сямён стаў найслаўнейшым паляўнічым. Той чорны сабака кожны раз сустракаў яго ў лесе, і Сямён столькі біў рознае дзічыны, што не толькі хапала панам у маёнтку, але і сялянам на продаж.

Па ўсёй ваколіцы разнеслася пагалоска, што Сямён — чараўнік, быццам некаторыя seклі дровы ў лесе ды бачылі, што ходзіць з ім нейкі чорны сабака, які ў лесе і застаецца. Акім, што некалі сябраваў з лоўчым, раз ціха падышоў пад вакно ягонае хаты, каб даведацца, што той робіць; пачуў, нібыта з кімсьці размаўляе; зірнуў у вакно: Сямён лашчыць чорнага сабаку, таго самага, што заўсёды сустракаў яго ў лесе. Сабака глянуў у вакно крывавым вокам і знік, а Акім уцёк ад страху.

Ужо колькі гадоў уся воласць гаворыць, што Сямёну дапамагае на ловах сам нячысцік, якога трымае ён за пахолка, але паны адно смяяліся з гэтага і не давалі веры. Хоць пан, будучы неяк з лоўчым на паляванні, не бачыў чорнага сабаку, аднак змеціў, што дзікае птаства само ляціць да Сямёна і той ніколі не схібіў.

Жыла ў вёсцы непадалёку Марыся, прыгожая і маладая дзяўчына, дачка пабожных бацькоў. Шмат каму яна падабалася, і Сямён меў на яе вока; спадзеючыся на сваё багацце ды на панскую ласку, меў надзею, што Марыся будзе ягонай.

Аднаго дня, калі ішоў на паляванне, убачыў ён Марысю. Тая мела вянок на галаве, і кветкі так ёй пасавалі, што вы-

глядала яна надзвычай прыгожаю. Ходзячы непадалёку ад свае нівы, збірала суніцы. Падыходзіць Сямён, просіць ягад; не адмаўляе яму дзяўчына; пытае лоўчы, ці падабаецца ён Марысі.

— Людзі кажуць, што ты чаруеш, — адказала тая, — а я баюся чараўнікоў.

— О, не, Марысю, нікога я не чараваў і не ведаю гэтага ганебства.

— Калі праўду кажаш, — я крыжык нашу на шыі, пасвянцоны ў касцёле, які можа грахі адпускаць, — пацалуй мой крыжык.

— Ахвотна, — адказаў Сямён.

І ледзь пацалаваў крыжык, як тут з травы падняў галаву велізарны вуж, нібыта хацеў зірнуць на Марысю. Перапалоханая дзяўчына закрычала. Сямён схапіў камень і выцяў вужа. Той, сыкаючы, схаваўся ў траве. А пасля раптам з'явіўся чорны сабака, загаўкаў і знік. Марыся ад страху дрыжыць ледзь жывая. Сямён правёў яе дадому і адтуль зноў ідзе на паляванне. Толькі ўжо не сустрэў яго ў лесе чорны сабака.

Убачыў цецерука; стрэліў, але заместа птушкі — пень гнілы ўпаў на зямлю. Спалохаўся Сямён, вяртаецца дахаты, аж там безліч вужоў, сыкаючы, паўзуць пад лаву і пад печ. Адчыніў скрыню, выняў Вужовую Карону, а яна ўжо не залатая: два пажоўклыя бярозавыя лісточкі. Стаіць, як слуп, і не ведае, што чыніць.

Доўга яшчэ дакучалі вужы небараку Сямёну. Не давалі спакою не толькі дома, але і на гасцінах. Калі завітваў да суседзяў, нераз, не баючыся людзей, зўяўляўся перад ім немаведама адкуль вуж.

---

У гэты момант нехта загрукаў у браму, і сабакі забрахалі. Выбег парабак і, вярнуўшыся, паведамляе: прыехаў пан Марагоўскі[1]. Пан Завальня саскочыў з ложка, пачаў хуценька апранаецца, каб павітаць госця.

— Ці не дазволіш мне пераначаваць, пане Завальня, — сказаў Марагоўскі. — У такую завіруху твой дом — адзіны прытулак. І гэтыя таксама (зірнуўшы на падарожных) схаваліся ад буры і, пэўна, баюць пану казкі.

Сяляне і парабкі адзін за адным падаліся ў пакой для чэлядзі.

— Я перашкодзіў, але маю чалавека, які заменіць усіх. Мой фурман Якуш любіць расказваць прыгоды хоць бы і цэлую ноч; няхай толькі коней выпража. Ах, як я замёрз!

Пан Завальня адразу загадаў сваёй стрыечніцы прыгатаваць што-небудзь на вячэру.

— А што , пане асэсар, можа, кроплю гарэлачкі? Яна крыху адагрэе. Пан, пэўна, едзе ў Полацак забраць сына, бо ўжо хутка Каляды; гэта добра, няхай адпачне ад вучэння і перабачыцца з роднымі.

— А пан дзетак сваіх — Стася і Юзіка — будзе забіраць дадому?

— Трэба, трэба. Паслязаўтра мушу пасылаць.

— Даручы мне, я забяру.

— Вельмі буду ўдзячны, калі пан такі ласкавы.

Пасля пан Марагоўскі, загаварыўшы да мяне, прасіў, каб на Каляды прыехаў і пабыў колькі дзён у яго: паклікаў, маўляў, ён шмат маладых гасцей, з якімі прыемна мне будзе прабавіць час.

Хутка прынеслі вячэру. Мой дзядзька, размаўляючы з госцем, усё мяне нахвальваў:

— Нябож мой, Янка, відаць, часу ў езуітаў не марнаваў: шмат цікавага з розных ксёнжак ведае.

— А ці любіць нашы беларускія казкі?

— Калі тут нядаўна некалькі падарожных сялян апавядалі, што выпала ім бачыць або чуць у жыцці, дык я запрыкмеціў, што Янка толькі іх і слухаў. Ён любіць такія гісторыі, але ж, праўда, і гісторыі былі цікавыя: пра чары ды пра людзей, што пабраталіся са злым духам.

— Вось і мой фурман Якуш шмат бачыў і чуў у сваім жыцці. Пачне апавядаць — Бог ведае адкуль у яго бярэцца, а ўжо што да ваўкалакаў, дык з першага позірку іх пазнае. Вось акурат перад гэтаю бураю сустракаем мы двух ваўкоў, што спыніліся паблізу ад дарогі. Я бяру стрэльбу і хачу стрэліць. Якуш павярнуўся да мяне і закрычаў: «Не страляй, пане, бо ў іх душы чалавечыя. Калі заб'еш якога, дык душа ягоная пойдзе ў пекла, не адпакутаваўшы за грахі. А за гэта і пан адкажа перад Богам».

Не скончыў яшчэ гаварыць, а ваўкі ўцяклі.

Пасля вячэры паклікалі Якуша.

— Ну, Якуш, — сказаў Марагоўскі, — за тое, што гаспадар быў ласкавы пусціць на начлег у гэтую лютую завіруху, раскажы нам што-небудзь пра ваўкалакаў, толькі глядзі, кажы праўду.

## АПАВЯДАННЕ ЧАЦВЁРТАЕ. ВАЎКАЛАК

— Не ўсё нам у жыцці выпадае бачыць, але раскажу тое, што пачуў ад свайго суседа: пра гаротніка, якога чараўнік перавярнуў у ваўка і які шмат гадоў пакутваў, блукаючы па лясах.

У адной мясцовасці, недалёка ад горада Невеля жыў селянін; ведалі яго суседзі, і іншыя яго памятаюць, зваўся ён Марка; дзіўнае было ягонае жыццё; ніколі не бачылі яго вясёлым, заўсёды маркоціўся, быў неспакойны, быццам штосьці страціў; любая грамада была яму не да душы. Калі людзі ідуць на кірмаш, пагуляць, паскакаць або збіраюцца ў вольны дзень на ігрышча ў карчму, дык ён, самотны, заўсёды ці то ў хаце, ці то блукае дзе-небудзь у полі — задумлівы і журботны.

Сёй-той пытаўся ў яго, чаму ён такі, і заўсёды Марка адказваў:

— Шмат я пакутаваў. Нішто мяне ўжо на свеце не займае. Памёр я для свету.

Мой сусед сябраваў з ім, і Марка яму так аднаго разу апавядаў пра сваё жыццё:

— Былі часы, калі я быў вясёлы; аніводзін кірмаш, аніводная забава не абыходзіліся без мяне; гулі і скокі былі ў мяне ў галаве; але гэта не доўга трывала. Пазнаёміўся я з Алёнаю. Гожая была дзяўчына, дачка заможных бацькоў. Упадабаў яе больш за ўсіх іншых дзяўчат, якіх ведаў; стараўся часцей яе бачыць, бываць у хаце ў яе бацькоў, паказваючы кожны раз маю прыхільнасць. Прыгарнулася і яна да мяне. Праз гэта маё няшчасце і прычынілася.

Багата хто да Алёны заляцаўся ды хацеў за жонку ўзяць, а найпершы быў Ілля. Выведваў ён пра ўсё і дакладваў пану, за што і меў ад яго ласку. Пан яму ва ўсім больш дазваляў, чым іншым; у любую пару меў права лавіць рыбу ў панскіх азёрах, танна купляў жывёлу і выгадна прадаваў; часта пасылалі яго ў горад купіць што-кольвек для двара, і кожны раз ён нешта клаў у сваю кішэню. І гэтак, ашукваючы і абкрадваючы пана, зрабіўся Ілля багатыром; меў шмат прыяцеляў і ласку ад пана, бо той меў яго за найвярнейшага слугу, любіў і верыў яму больш, чым каму іншаму.

Дык вось пасылае гэты пыхлівы Ілля сватоў да Алёны, але атрымалі сваты гарбуза, бо яна прызналася бацькам, што не любы ёй гэты залётнік.

Ілля, пачуўшы пра гэта, кажа:

— Не Алёніна воля, а панская. Што не схацела рабіць па-добраму, зробіць па ўказу.

Пайшоў у маёнтак і дабіўся свайго: загадалі Алёне ісці за яго замуж.

Суседзі, ведаючы пра маю прыхільнасць да Алёны, смяяліся з мяне здзекліва, кпілі з мае някемнасці, з безразважнае любасці ды з адвагі, з якою хацеў я ўсіх, нават багатыроў, змагчы і Алёну павесці да шлюбу. І нераз, раззлаваны такімі з'едлівымі жартамі, адказваў я, што нядоўга Ілля мецьме панскую ласку, а грошы, сабраныя ашуканствам і крадзяжом, шчасця не дадуць, і Алёна была б шчаслівейшая, каб выйшла за чалавека хоць беднага, але пачцівага.

Дачуўся Ілля, што так пра яго кажуць, і паабяцаў помсціць, як толькі выпадзе нагода.

Надыходзіў дзень вяселля; Алёніны бацькі, ведаючы пра маё каханне да іх дачкі, сказалі мне, што волю панскую не пераменіш, хоць яна і несправядлівая і без усякае літасці; прасілі, каб пагадзіўся з лёсам, быў іх прыяцелем і прыйшоў на вяселле. Хоць і неахвота, але згадзіўся я на тое.

Вяселле было шумнае, гасцей болей, чым на кірмашы: маладыя — абое багатыры. Сабраўся люд з усяе ваколіцы, у некалькіх месцах на вольным паветры спявалі і пад музыку танцвалі. Алёна была ў шыкоўным строі, усе яе віншавалі, зычачы шчасця і радасці. Сам пан прыехаў на вясельную бяседу. Ілля яго частаваў; пан размаўляў з ім, пахаджваючы між вясельнікамі. Малады прыкмеціў мяне ў віры гасцей (я стаяў сумны, бо мяне не толькі нішто тут не займала, а наадварот, уся гэтая весялосць наводзіла нудоту); ён глянуў на мяне са здзеклівай усмешкаю і пайшоў з панам далей.

Праз нейкі час падыходзіць да мяне дудар Арцём, пажылы чалавек, і кажа:

— Чаго сумуеш? Выпі са мною гарэлкі і будзеш весяліцца, як і іншыя, — бярэ мяне за руку і цягне да стала з поўнымі бутэлькамі і закускаю. Не адмовіўся я ад запрашэння. Мы выпілі па два кілішкі гарэлкі. Тут нехта незнаёмы, гледзячы на мяне збоку, сказаў з усмешкаю:

— Ну цяпер-то ён паскача!

Арцём раптоўна мяне пакінуў, узяў сваю дуду і пачаў іграць, а на мяне напаў яшчэ большы смутак.

Не шмат прайшло часу, як падыходзіць да мяне мой сусед і, гледзячы мне ў вочы, кажа:

— Што з табою? Чаму твой позірк такі страшны, нібы ў звера якога?

Нехта яшчэ абазваўся:

— Ага, сапраўды, у яго вочы, як у ваўка, свецяцца.

І іншыя, што побач стаялі, таксама паўтарылі гэта і палахліва глядзелі на мяне.

Не ведаю, што рабілася са мною, але я ўвесь дрыжэў. Здавалася, што гэтыя людзі зычылі мне чагосьці найгоршага.

Алёна, стоячы непадалёк, размаўляла з маці; зірнула на мяне і ад спалоху закрычала:

— Ах, што дзеецца з ім! Глянь, мама, якія страшныя ягоныя вочы, няхай бы ішоў сабе адсюль.

Пачуў я гэтыя Алёніны словы, і мяне бы пярунляснуў: памутнела ў вачах, прытомнасць страціў; пакідаю бяседу і, не ведаючы куды ісці, бягу па дарозе, сустракаю кабету, што вяла за руку маленькае дзіця.

— Ах, не глядзі на маё дзіця, — крычыць яна мне. — Ты заб'еш яго сваім страшным позіркам.

Уцякаю ад перапалоханае кабеты і бягу дадому. Падбег да свае хаты — сабака мой не пазнаў мяне. Парабак майго суседа паглядзеў на мяне і ўразіўся.

— Чаму гэта, кажа, — твой твар і рукі абраслі поўсцю?

Глянуў на сябе — і як непрытомны пакідаю свой дом і бягу ў поле. Жывёла, што пасвілася там, уцякае ад мяне, сабакі кідаюцца, і я хуценька хаваюся ў лесе.

Бягу праз пушчы і дзікія пустэльні, падаю ў засені густых ялін; тут, зірнуўшы на сябе, убачыў, што рукі і ногі мае ўжо перамяніліся ў воўчыя лапы; хацеў заплакаць над сваім няшчасцем — і жахлівае выццё вырвалася з маіх грудзей.

Блукаў я па гарах і лясах у абліччы страшнага звера. Думкі і пачуцці ў мяне засталіся чалавечыя, памятаў мінулае і, задумваючыся пра сваё цяперашняе жыццё, мучыў сябе лютай роспаччу, не ведаючы, ці будзе калі канец гэтаму няшчасцю. У хмызняку шукаў птушыныя гнёзды, лавіў зайцоў і іншую дробную зверыну. Гэта была мая ежа. Не падыходзіў да чалавечага жытла, бо ведаў, што ўсе людзі — мае ворагі, што яны заўсёды будуць рады забіць мяне. Аднак чыніць ім шкоду не хацеў.

Нярaз у нядзелю я чуў голас касцельных званоў і выццём прасіў Бога, каб зліtаваўся над маім лёсам. Шмат разоў хацеў падысці цёмнай ноччу да касцёла, але сабакі, выбягаючы з вёскі, адганялі мяне, а часам чуў людскія крыкі і стрэлы. Тады бег колькі змогі да лесу, каб толькі схавацца ад напасці. Кожную

раніцу выў я, вітаючы сонца, ды прасіў у неба спажытку на новы дзень.

Увосень, зімовымі начамі, у залевы хаваўся я, дрыжучы, дзенебудзь пад густой ялінаю; шум вятроў акунаў мяне ў сумныя ўспаміны мінулага. Узімку пачасту па некалькі дзён я быў галодны, знясілены, блукаў у страшнейшыя марозы па полі, каб толькі ўпаляваць што-кольвек. Мой спачын заўсёды быў кароткі, і нязменна снілася мінулае: бацькоўскі дом, сябры мае маладосці, прыязныя суседзі; тыя хвіліны, калі прыйшло каханне да Алёны, забавы, нашыя размовы, яе вясёлыя вочы, яе зграбная постаць у шыкоўным строі, з вянком на галаве, — усё гэта прыходзіла да мяне ў сне, але здавалася яваю. Часам я бачыў яе неспакойнаю; уцякала ад мяне або, перапалоханая, гнала мяне прэч ад сябе, як калісь на вяселлі, калі мяне падгавораны Арцём напаіў зачараванаю гарэлкаю. І пасля такога жахлівага сну, я, дрыжучы ўвесь, усхопліваўся. Некалькі гадоў прабыў я ў такім жахлівым стане.

Расла мая нянавісць да людзей, калі я думаў пра іхнія блуд, несправядлівасць, незычлівасць да роўных сабе.

Вырашыў я шкодзіць ім ва ўсім, як яны шкодзяць адзін аднаму пры зручным выпадку, абы толькі мець сабе карысць. Дык нападаў, калі толькі можна было, на іх жывёлу і свойскіх птушак; нішчыў дашчэнту.

Аднаго разу (памятаю як сёння: была вясна, зеляпеў лес, дні стаялі ясныя і цёплыя) я краўся ўзлескам да вёскі, дзе жыў Арцём. Бачу: на пагорку ходзяць пастухі ля жывёлы, Арцём арэ поле, а непадалёку ад хмызоў маленькая дзяўчынка пасе гусі. Ён кліча яе да сябе, называючы Ганкаю, і пасылае дахаты. Ды дзяўчынка хутка вярнулася і зноў падышла да гусей.

Я зразумеў, што гэта яго дачка. Калі з гушчару пазіраў на яе і бацьку, запалаў ува мне гнеў помсты. Арцём — нягодны чалавек — давёў мяне да такога стану, што жыву, гнаны адсюль, у абліччы страшнага ваўка. Няхай жа і ён паенчыць над стратаю свайго дзіцяці! Выскокваю з лесу і хапаю дзяўчынку. На доччын голас бяжыць бацька і ў роспачы кліча на дапамогу. Чую галасы пастухоў, сабакі на мяне напалі, скусалі да крыві. Але нішто не магло мяне стрымаць. Хутка хаваюся ў пушчы, нясу сваю здабычу ўсё далей і далей у глыб лясоў; і там, адкуль малая ўжо не вернецца сама дахаты, кідаю яе. Яна доўга ляжала непрытомная, а калі ачнулася, крычала, блукаючы па лесе, роспачным голасам. Яе лямант і плач гінулі марна сярод густых соснаў і ялін, і я, цешачыся помстаю, пакінуў яе ў лясной пустэчы.

Аддаліўся ад таго месца, дзе блукала гэтая няшчасная ахвяра мае злосці. Толькі не доўга цешыла мяне тая помста. Калі мінуўся запал гневу, прыйшла думка, што Ганка, беднае дзіцё, пакутуе без віны. Вярнуўся я назад, але нідзе яе знайсці не мог; глуха было ў лесе, і голас яе ўжо не чуўся.

Напаў на мяне нязносны смутак: я зразумеў, што помстаю не супакоіш пакуты. Дзе б ні быў — усюды не даюць мне спакою бацькава роспач, лямант пакінутае ў лесе дачкі і сабакі, што, гонячыся за мною, раняць зубамі да крыві. Здавалася, што яны ўсюды нападаюць на мяне. Перабягаў я з аднаго лесу ў другі, ды нідзе не мог знайсці спакою; прапаў сон, бо і ў час адпачынку заўсёды гучаў у маіх вушах роспачны голас бацькі, лямант дачкі, і сабакі рвалі маё цела.

Аднаго дня ўбачыў я знаёмых сялян. Схаваўшыся ад паўдзённае спёкі, сядзелі яны ў засені дрэваў, а непадалёку хадзілі выпражаныя з вазоў коні. Падкраўся да іх, і затаіўшыся за хмызамі, слухаў, пра што яны размаўлялі між сабою. Пачуў, як адзін з іх гаварыў пра мяне:

— Дзе ж блукае цяпер у воўчай шкуры Марка? Шкада гэтага чалавека. Вось ужо колькі год пакутуе, гаротнік. Эх, каб ён трапіў як да чараўніцы Аксіні! Кажуць, яна лёгка ператварае людзей у звяроў і зноў вяртае ім чалавечае аблічча. Не ведаю, дзе яна жыве, аднак чуў, што недалёка ад гэтых гор і лясоў.

Усцешыла мяне такая навіна: вырашыў абысці ўсе горы і лясы гэтага краю, абы толькі знайсці Аксініна жыллё. Некалькі дзён і начэй блукаў я без адпачынку па дзікіх пушчах. З вяршынь высокіх гор аглядаў бязлюдныя мясціны, спадзеючыся, што дзесьці там хаваецца яе самотная хаціна.

Выбягаю з лесу ў лог. Ранак быў ясны і ціхі! Бачу: котка на траве: шыя і лапкі — белыя, спінка — у палоскі, светлыя і цёмна-папяловыя, шустрыя вочкі; скача котка, імкліва ловіць лапкамі матылёў на кветках. Доўга глядзеў з хмызняку на яе вясёлыя падскокі і гульні. Урэшце захацелася схапіць яе, кідаюся...але лёгка, як вецер, адскочыла яна і бяжыць на пагорак. Даганяю, і вось-вось хацеў ужо схапіць — аж яна ператвараецца ў сароку і ляціць над зямлёй. Гонячыся далей, убачыў самотную хаціну. Сарока села на страху і зноў перакінулася ў котку. Бачу: усюды поўна катоў размаітае масці: каты на даху, каты на вокнах, каты на панадворку. Усюды каты.

Я зразумеў, што тут жыве чараўніца Аксіня. Доўга стаяў і думаў: ці ісці да яе? Яна мяне не прыме ў воўчым абліччы, трэба з ёю дзе-небудзь на праходцы спаткацца, пакорліва ўпасці

да яе ног і прасіць злітвацца над маім лёсам. Схаваўся я ў лаўжы і чакаў тае шчаслівае хвіліны.

Сонца схавалася за лясы і горы; узлескі ўжо пакрыў вячаровы змрок, а недалёкае возера, акружанае густою лазою, яшчэ свяцілася. Бачу: усе каты — з хаты, з даху, з падворка бягуць на луг, зрываюць зубамі нейкую траву і імгненна ператвараюцца ў дзяўчат, рассыпаюцца між кустоў, спяваюць песні, скачуць; іншыя зрываюць кветкі і ўюць вянкі. Бягу і я на лугавіну. Убачыў тую траву з дробненькімі блакітнымі кветачкамі; як толькі яе сарваў і праглынуў, адразу ж прымаю чалавечае аблічча. З невыказнай радасцю бягу ў гурт легкадумных русалак, скачу з імі, бегаю, весялюся, зусім забываю пра сваё няшчасце.

Гэтыя гульні і радасць доўжыліся да позняе ночы. Змоўклі ўсе птушкі ў лесе, толькі шэрая сава крычала. Прыляцела і, седзячы на чараўніцынай страсе, свяціла вачыма, і рагатала, і енчыла, нібы немаўля. Тут нечакана зашумеў лес і вада ў возеры пачала плёскаць аб бераг* . Русалкі закрычалі: «Поўнач! Поўнач!» — і адразу ўсе перамяніліся ў котак і пабеглі на Аксінін падворак; адны караскаліся на дах, другія праз вакно хаваліся ў хату. А я — зноў зрабіўшыся ваўком — пабег у лес, лёг пад густой ялінаю і разважаў пра гэтае здарэнне, шкадуючы, што нядоўга пабыў чалавекам; вырашыў застацца тут і хоць на кароткі час забыць пра сваё няшчасце.

Назаўтра прычакаў вечара, і гэтаксама коткі паператвараліся ў дзяўчат, а да мяне вярнулася чалавечае аблічча. Я бавіўся з імі, весела і непрыкметна бег час. Тут адна з зачараваных дзяўчат, гледзячы на мяне з нейкай пагардаю, сказала:

— Мне ён не падабаецца.

— Чаму не падабаюся? — пытаюся, падыходзячы да яе.

— Таму што бачыла, як ты ператвараешся ў ваўка, а я ваўкоў ненавіджу, бо праз ваўка я няшчасная.

— Як гэта?

— Калі я жыла яшчэ з бацькамі, пасвіла гусі ў полі, воўк схапіў мяне і занёс у лясныя нетры, кінуў там, а сам знік. Блукала я па пушчы, плакала і крычала, не ведаючы, у які бок падацца. Раптам на мой голас прыляцела ў воблаку чорнае птушкі Аксіня, перамянілася ў кабету і, узяўшы мяне за руку, сказала:

---

* Жыве сярод беларусаў (асабліва ў паўночных паветах) вера, што апоўначы заўсёды шумяць лясы і вада ў азёрах адначасова з крыкам пеўня робіцца неспакойнаю.

— Ты не выйдзеш з гэтае ляснОе пустэчы. Нападуць на цябе дзікія звяры і разарвуць. Ідзі лепш у маю хату, у мяне жыць весела, штовечар скокі і песні. Ты ж маладая дзяўчына і, відаць, любіш паскакаць?

Не хацела спачатку яе слухаць, але, падумаўшы, што ў гэтых дзікіх лясах ніхто мне не дапаможа, згадзілася з яе прапановаю. Не ведаю, як я апынулася ў хаце ў гэтае чараўніцы. О, пракляты ваўкалак! Чаму ж ты мяне не разарваў у лесе? Лепш памерці, чым быць цэлы дзень зверанём і толькі на хвіліну забываць пакуты.

Слухаючы Ганчыны наракання, задрыжаў я ўвесь, імгненна ператварыўся ў ваўка. І адазваліся ў памяці: бацькава роспач, лямант няшчаснае дзяўчынкі,і сабакі пачалі рваць маё цела. Кідаюся ў лес, бягу ўсю ноч без спачынку — нідзе не магу схавацца ад жахлівага ўспаміну і пагоні тых страшных сабак.

Нясцерпнае зрабілася жыццё, нідзе не знаходжу спакою, бегаю ў роспачы па гарах і лясах; страціў ужо і надзею, што калі-небудзь хоць на хвіліну пакінуць мяне пакуты.

Блукаючы без адпачынку, прабягаў неяк ля палетка, дзе ў цяньку ад прыдарожных бяроз палуднавалі сяляне. Бачу: едзе па дарозе ксёндз, спыняецца, падыходзіць да сваіх парафіянаў. Пачалася доўгая размова пра розныя духоўныя рэчы: ксёндз іх навучаў, каб жылі між сабою ў згодзе і сяброўстве, даравалі адзін аднаму крыўды і не думалі ніколі пра помсту, бо помста найболей супярэчыць рэлігіі ды агідная Богу. Яна прыніжае чалавечую годнасць да стану жывёлы, а дабрачыннасць і лагоднасць улагоджвае міласэрнасць Божую.

Схаваўшыся ў густым кустоўі, я чуў усе словы ксяндза і адразу вырашыў не толькі не шкодзіць людзям, але нават старацца ім служыць і дапамагаць у чым толькі змагу.

А можа, і нада мною Бог злітуецца, душа ж мая несмяротная. З гэтымі думкамі і пакінуў ксяндза і ратаёў.

Прайшло некалькі дзён. Блукаючы, думаў сам сабе: што я магу зрабіць добрага ў такім пагарджаным усімі воўчым аблічы? Ледзь падыду да чалавечага жытла, як усе крычаць на мяне і сабакамі цкуюць, дык мушу як найхутчэй уцякаць у лес. Аднак жа не адмовіўся ад свайго намеру. Колькі разоў адганяў лісіцу, што падкрадалася да гусей ці індыкоў, якіх неасцярожліва пакідалі ў полі. Калі заўважыў непадалёку ад гавяда мядзведзя, дык выбег першы з лесу, каб адагнаць статак з небяспечнага месца і папярэдзіць пастухоў. Не раз адбіраў барана, якога воўк выхапіў з чарады якой-небудзь беднае ўдавы.

Так жывучы, я крыху супакоіў свае думкі, мог ужо заснуць, хоць і ненадоўга; у сне мілыя мроі нагадвалі мне мінулае, калі быў яшчэ чалавекам.

Было гэта ў жніўні ў добрае надвор'е. Я блукаў у родных ваколіцах, калі на палетках даспела збажына. Недалёка ад сябе бачу Алёну. Яна жала на сваёй ніве, а на мяжы, лежачы на снапах, спаў маленькі хлопчык. З прыемнасцю глядзеў я на гэты малюнак, цешыўся, што Алёна шчаслівая, спакойна жыве са сваёю сям'ёю. Бог благаславіў іх гаспадарку, і жыта добра ўрадзіла на іх ніве. Пакуль я любаваўся на ўсё гэта, выскоквае з лесу воўк, хапае хлопчыка. На крык дзіцяці кідаецца матка.

— Ратуйце дзіцятка маё! — крычыць яна і падае непрытомная.

Я даганяю ваўка, адбіраю не пакусанае яшчэ дзіця, адношу да маткі. Суседзі, што прыбеглі на ратунак, дзіваваліся з усяго гэтага, а я ўцёк у лес.

Нейкае прыемнае пачуццё і ціхамірнасць ахінулі мяне пасля гэтага здарэння. Я лёг пад дрэвам і заснуў у салодкіх мроях. Вярнуўся ў сне ў сваю шчаслівую маладосць, і так мне было лёгка, што, як птах, пералятаў з месца на месца. Бачу перад сабою такі прыгожы сад, якога ніколі ў жыцці не сустракаў; гай, поўны птушынага шчабятання, а пёры на іх лепшыя і прыгажэйшыя, чым нашы вясновыя краскі; чыстыя крынічныя воды струменіліся тут і там; некаторыя дрэвы былі ў пахучай квецені, а на іншых даспявалі плады. Заўважыў на пагорку келіхі велізарных лілей, якія разлівалі салодкі водар. Толькі хацеў сарваць колькі кветак — з'явілася перада мною Ганка (сукенка на ёй белая, як лілея) і кажа мне:

— Не рві маіх кветак. Я садзіла гэтыя лілеі на сваёй магіле, палівала слязамі сваімі.

І, сказаўшы так, знікла.

З саду пералятаю зноў у нейкую дзікую пустэчу; блукаю сярод стогадовых хвояў, ледзьве знаходжу сцяжынку, якая выводзіць мяне да нейкае велізарнае гары; хачу залезці на вяршыню, агледзець ваколіцы, убачыць адтуль вёску, дзе калісь была хата маіх бацькоў, але з усіх бакоў гары — бездань, якая не дазваляе ісці далей. Тут сустракаю нейкага Волата. Ён бярэ мяне за руку, загадвае ісці за ім, выводзіць з лесу на нейкае велізарнае поле, дзе крыжуюцца дарогі, і мноства там падарожных, што едуць або ідуць пеша. Узыходзім на пагорак, дзе была магіла. На ёй стаяў драўляны крыж, а непадалёку тырчала

ўбітая ў зямлю рыдлёўка. Волат загадвае мне адкапаць магілу і дастаць адтуль мерцвяка. Ахоплены страхам, выконваю ўсе Волатавы загады, дастаю з зямлі велізарны шкілет.

— Гэта будзе тваё цела, — гаворыць мне велікан. — Мусіш плакаць у ім, пакуль не паклічуць цябе да новага жыцця...

Я дрыжаў увесь ад страху, прасіў, каб даў мне спакой, але Волат моцна штурхнуў мяне, і я ўпаў на велізарныя грудзі шкілета, а разам з ім — у яму. Барукаючыся са смерцю, я прачнуўся.

Бачу: я — чалавек. Вопратка тая самая, якую я надзеў колісь, ідучы на Алёніна вяселле. Не верыў, што гэта было наяве. Баяўся скрануцца з месца, абы толькі не зніклі такія салодкія мроі. Доўга быў я ў задуменні, падняў вочы да неба і дзякаваў Богу, што ўратаваў мяне ад гэтага жаху.

Падняўся я з долу з невыказнаю радасцю. Здавалася мне, што ўсе дрэвы і птушкі віншавалі мяне з новым жыццём. О, як соладка спазнаць міласэрнасць Божую! Жахлівы лёс чалавека можа зраўняцца са звярыным.

Калі гэтак апавядаў Якуш, певень заспяваў ужо другі раз. Пан Марагоўскі выняў з кішэні старасвецкі гадзіннік, падобны да сплюснутага шара.

— Ого, — кажа, — мінула гадзіна пасля паўночы. А што, пане гаспадар, ці не час ужо адпачываць? Усіх прыгод ад Якуша не выслухаеш; у яго іх на цэлы месяц, а да таго ж яшчэ любіць пагаманіць і гатовы не спаць да самага світання.

— Вялікі дзякуй, пане асэсар, што зрабіў мне гэтую прыемнасць. Скажу пану шчыра: такія апавяданні заўсёды мне да душы, асабліва калі ўмее хто іх добра расказваць. Якуш, мусіць чалавек кемлівы: і якую мае памяць незвычайную; ніводнае драбніцы з жыцця таго гаротнага Маркі не прапусціў. Але ж пан асэсар заўтра ад мяне не паедзе рана, бо як сам пан чуе, яшчэ вые вецер за сцяною, і хто ведае, можа,і заўтра будзе завіруха.

— Удзень бура не страшная, як-небудзь знойдзем дарогу. Дабранач, пане гаспадар!

Якуш пайшоў у пакой для чэлядзі; Марагоўскі — у сваю пасцелю, што даўно ўжо яму падрыхтавалі. Я, пажадаўшы дзядзьку і госцю добрае ночы, пайшоў у свой пакой. Патушылі свечкі: усюды ціха; толькі выў вецер за сцяною і цвыркун абзываўся пад печчу...

# УСПАМІНЫ ПРА НАВЕДАННЕ РОДНАГА КРАЮ

Край, дзе чалавек жыў у шчаслівую пару свае маладосці, дзе ў размовах і забавах сустракаў сапраўдную шчырасць і даверлівасць душы зычлівых і добрых сяброў, настаўнікаў і маладых прыяцеляў, — гэты край у памяці таго, хто жыве заўсёды паўстае ў найпрыгажэйшых колерах; там, здаецца, яшчэ не скончыўся той залаты век, калі чалавек не разумеў, што такое нядоля і пакуты; і рэчкі там з малака і мёду. Хто ж з краёў далёкіх не сумуе па сваіх ваколіцах? Там нашыя жаданні і думкі жывуць; туды хацеў бы ляцець я на крылах!

Калісьці і я спяшаў з поўначы на берагі Дзвіны, каб пабачыць тыя ваколіцы, малюнкі якіх заўсёды хаваў я ў глыбіні свае душы. Ледзь набліжуся да тых краёў, здавалася мне, што дубы і хвоі кланяліся, вітаючы даўно знаёмага госця. Горы і азёры, свецячыся здалёк, нагадвалі мне розныя памяткі мінуўшчыны. Вось шуміць хуткаплынная рэчка Дрыса, бяжыць да Дзвіны праз густыя лясы і пясчаныя бары, абуджаючы шмат згадак. На тым беразе было некалі папялішча. Даўно ўжо яно ўтравела; час знішчыў на зямлі тую памятку, але яна засталася ў маёй душы, яна нагадвае мне той год, калі жыхары гэтых краёў хаваліся ў лясах ад віхураў вайны з Напалеонам.

Вечар быў пагодлівы; на захадзе румяніліся воблакі; на пясчаным беразе Дрысы гатавалі вячэру; гарэлі сухія хваёвыя дровы; у ціхай вадзе адбівалася полымя; знаёмыя і суседзі, сабраўшыся ў кола, сядзелі ля вогнішча; яны размаўлялі пра ўваход французскага войска ў Полацак, пра сутычкі і баі на Белай Русі; і ўцеха, і смутак, і надзея чуліся ў іх гаворцы. Мяне тым часам займала срэбная рыбка, якая падскоквала над чыстай вадою, птушыныя крыкі ў пушчы, і вавёрка, што, забегшы на дрэва і пераскокваючы з галінкі на галінку, вабіла мяне ў лясны гушчар. Калі я пагнаўся за гэтым звярком, дык нечакана нібыта гром абазваўся далёка за борам — там, дзе румяніліся на захадзе сонца воблакі. Грымела без супынку, як бы з-пад зямлі. Здзіўлены, я бягу да грамады і пытаюся:

— Што гэта? Пэўна, насоўваецца навальніца?

Мой бацька парушыў маўчанне і мовіў:

— Гэта бура ў Клясцінах*, на Пецярбурскім гасцінцы; з далёкіх краёў прыйшла яна сюды, сеючы свінцовым градам;

* Мястэчка за 26 вёрст ад Полацка. Тут адбывалася вядомая бітва на Белай Русі з французамі, у якой загінуў генерал Кульнеў.

дарэмна імкне на поўнач: там моцныя вятры і маразы спаткаюць яе.

На тварах ва ўсіх відаць была трывога; палахлівыя кабеты са слязьмі на вачах шапталі пацеры: ім думалася, што там кожны стрэл разлучае з жыццём некалькі дзесяткаў чалавек. Яны дрыжалі, нібы перад Страшным Судом, і тая бяссонная ноч прайшла ў размовах. Старыя ўспаміналі мінулае, загадвалі пра будучае; нейкая надзея кволілася ў іх думках. Я ж на крылах хацеў бы ляцець туды, каб убачыць той тэатр вайны і смелых вояў.

А вось непадалёку і тыя цудоўныя малюнкі зарослых гор і лугоў, дзе зіхацяць на сонцы срэбныя струмені і люстэркі рэчак і азёраў. Антоне! ты цяпер далёка ў чужых краях. Ці ўспамінаеш калі пра хараство роднае зямлі, ці прыходзяць табе ў думкі тыя нашыя вандроўкі, мары, размовы? Тут, захопленыя прыгажосцю прыроды, мы знаходзілі ў кожным месцы багоў старажытных рымлян і грэкаў; тут была наша Новая Аркадзія. Ля тых ручаёў наяды ўпрыгожвалі свае скроні вадзянымі лілеямі, скакалі па лугах німфы, а казланогія сатыры блукалі ў гушчарах. О, шчаслівыя лятункі цудоўнага юнацтва. Калі малады, зямля — рай, усюды дзівосы. Вобраз Старажытнае Грэцыі і ўся мінуласць адрадзіліся ў нашых марах і размовах. Памятаеш, гэтая гара была Алімпам, прыстанкам Муз і Апалона; той расквечаны праскамі разлог мы назвалі Тампейскаю далінаю; там — Фермапілы, дзе загінуў з невялічкаю жменькаю воінаў Леанід, цар Спарты, што змагаўся з велізарным войскам персаў.

У гэты куток зямлі мы хацелі перанесці ўсе дзівосы свету.

Ці памятаеш той дзіўны захад сонца, які бачылі мы калісь, наведваючы гэтыя ваколіцы? Якое цудоўнае было неба! Пасмы густых хмараў расцягнуліся над даляглядам, а іх распаленыя краі гарэлі рубінавым агнём; з воблака лілося, накшталт водаспаду, чырвонае святло, і, быццам на абразах, залатыя промні, падзеленыя ценямі, стралялі ўгору. Нас захапляў гэты пекны малюнак, а хмары ўсё больш і больш гусцелі, і ўрэшце знікла святло; агонь бліскавіцы прабег па небе, і безупынна грымела на захадзе. Пастух, гледзячы на неба, сказаў: «Будзе рабінавая ноч!» — і са сваім статкам паспяшаўся да вёскі. І мы схаваліся ад навальніцы ў хату, якая там славілася дабрынёю і ветлівасцю гаспадара.

О, які страх наводзіць такая рабінавая ноч на люд беларускі! У тую пару, калі на палетках даспявае ўраджай, яна, як найст-

рашнейшы непрыяцель, пагражае знішчыць усе надзеі земляробаў. Сустракае яе селянін, узносячы вочы да неба, з пацерамі на вуснах і з благаннем касцельных званоў.

Трывожна ў хаце ў нашага гаспадара; катоў і сабак выганяюць, бо, уцякаючы ад перуноў, злы дух — паводле веры тутэйшых жыхароў — хаваецца звычайна ў гэтых жывёлін; кідаюць на жар свянцоныя зёлкі і пасля кожнае бліскавіцы дрыготкім голасам паўтараюць малітвы.

Змрок навокал: хмары зацьмілі неба і зямлю; перуны, як вогненныя вужакі, снавалі адзін за адным сярод чорных воблакаў; грымоты скаланалі будынак , дождж з градам сек у вокны, вецер выў за сцяною. Мінула поўнач, а пра сон ніхто і не думаў; уся сям'я, сабраўшыся разам, пасылала небу малітвы. Аліна стаяла ля маці, твар яе быў белы, як лілея; з надзеяю і спакоем душы, як анёл-суцяшальнік, казала дзяўчына бацькам пра волю і міласэрнасць Божую.

Антоне! Ты памятаеш тую ноч? Ты ў той час не чуў ні выцця вятроў, ні навальнічных грымотаў; твае вочы і думкі былі занятыя Алінаю; у душы было найяснейшае надвор'е, бо прамень Алініных вачэй сустракаў твой позірк і пранікаў у сэрца. Гэтая ноч была для цябе светлай мараю. Цяпер, удалечыні ад бацькоўскае зямлі, ці бачыш яшчэ калі-небудзь гэтыя пекныя вочы ў смутным задуменні ці ў сне? Але час усё руйнуе!

Колькі зорак з'явілася на небе; вецер пагнаў на лясы і горы рэшткі хмар; заранка румяніла неба. Узышло сонца; відаць пазрываныя стрэхі некаторых будынкаў; на полі набрынялае вадою калоссе ўпала на зямлю; лугі, пакрытыя пяском, які ручаі пананеслі з пагоркаў; высокія хвоі і вязы ляжалі на зямлі, нібы грэцкія героі пасля слаўнае бітвы пры Фермапілах. Усюды страшныя сляды пакінула навальніца.

Сустракаю стогадовы дуб. Ён вытрываў, перамог непагадзь і віхуры, рабінавыя ночы не адолелі старога героя! Яшчэ раскіне зялёныя шаты, запрашаючы пілігрыма адпачыць у прахалодзе засені. Ён сведка даўняе мінуўшчыны, памятае прадзедаў, і праўнукаў нашых абароніць ад летняе спёкі.

Тут у святочныя дні збіраюцца сяляне з усёй ваколіцы. Я бачыў іх забавы. Яны выносяць з дамоў сталы і старыя, сеўшы пры гарэлцы, гавораць пра мінулае жыццё, пра суседзяў, паноў і пра палітую потам зямлю, што скупа дзячыць за мазольную працу. Дудар у халадку пад дубам надзімае скураны мех; моладзь пачынае свае залёты, кружыцца кола танцораў. Тут сустрэнеш жаўнера, які, крануты іх гасціннасцю, забудзе пра

сваю далёкую радзіну, захоча паскакаць, возьме на вока якую прыгажуню — і ў гэты час ён найшчаслівейшы з людзей.

Недалёка ад гэтых мясцін, над рэчкай Дрысаю, стаіць маёнтак Краснаполь*, акружаны з усіх бакоў лесам.Там ёсць месца, дзе, кажуць, жыў калісьці — яшчэ за паганскімі часамі — князь Бой, што выславіўся на Белай Русі як магутны асілак. Ён княжыў над усім людам з гэтых дзікіх краёў на берагах Дрысы. Яго звычайнай забаваю было паляванне з лукам і стрэламі ў пушчах на ласёў і іншых дзікіх звяроў. Меў ён пару верных ганчакоў; адзін з іх зваўся *Стаўры*, другі — *Гаўры*. Былі яны надзвычай дужыя і кемныя; найстрашнейшы мядзведзь у сутычцы з імі не мог вытрываць; яго адразу ж разрывалі, як харты зайца.

Калі Бой на ловах адыходзіў ад сяброў і акружалі яго разбойнікі, дык ён разганяў і забіваў іх, пускаючы сваіх дужых сабак. Не раз, калі заблукае ў далёкіх лясах, сабакі, ідучы наперад, выводзілі яго на дарогу і да самага дому.

Шмат разоў гэтыя сабакі ратавалі гаспадара ад небяспекі і былі найпрыемнейшаю забаваю ў яго жыцці. Загадаў ён падданым сваім, каб шанавалі сабак і віталі іх як найважнейшых асобаў з ягонага почту. А калі ад старасці сабакі адзін за адным памерлі, дык за заслугі прызначаны былі ім святыя дні.

Люд збіраўся на тое месца, дзе закапалі іх косці, прыносіў пітво і ежу. Гулялі да позняе ночы. Рэшткі пачастунку і косці кідалі ў вогнішча, паўтараючы імёны двух ганчакоў — «*Стаўры! Гаўры!*» — і выклікалі іх цені з таго свету.

І цяпер яшчэ паміж людам у некаторых сялянскіх хатах патаемна спраўляюць тое свята раз на год — перад Сёмухаю. Гаспадар бярэ які ласы кавалак, нахіляецца пад стол і тройчы паўтарае:

— *Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!*

Я чуў, што на кліч некаторых з'яўляліся велізарныя чорныя сабакі і адразу знікалі. Можа, гэта камусьці здалося; можа, гэта праява злых духаў, а можа, проста фантазія народа беларускага, якому заўсёды мрояцца чары і духі ў размаітых постацях, і ў кожнай з гэтых істотаў свой абавязак: духі водныя**, духі зямныя***, хатнія****, вартаўнікі лясоў***** і скарбаў******.

---

* Уласнасць паноў Снарскіх.

** *Вадзянік.*

*** *Хляўнік, што мучыць жывёлу.*

**** *Дамавік.*

***** *Лясун.*

****** *Сатана, Праклятьі — ад заклінання скарбаў.*

# ПОЛАЦАК

Мінаю пушчы і вось на шырокай раўніне бачу горад Полацак. Званы св. Стафана*, на замкавай гары — царква св. Сафіі**, якія, стоячы ў тумане, здаецца, імкнуцца да воблакаў; іх постаці-веліканы пануюць над горадам і над усёй ваколіцай. Гледзячы на ўсю гэтую мінуўшчыну, я ў думках стварыў яе вобраз; да сэрца падступіў смутак, і са слязьмі на вачах сустракаў я гэтыя высокія муры.

Акунуўшыся ў турботныя ўспаміны, падыходжу да горада; сады Спаса[1] нагадваюць мне травеньскія праходкі, тэатр сярод густых ліпаў на вольным паветры; там юначае ўяўленне пад клапатлівым вокам настаўнікаў найперш вучылася пазнаваць Творцу гэтага свету, Яго турботы пра кожнае стварэнне і захапляцца прыгажосцю неба і зямлі.

Недалёка ад Палаты стаіць мураваны касцёл св. Ксаверыя[2]; тут магілы, дзе спачывае прах цнатаяюбівых манахаў езуіцкага ордэна, свецкае моладзі і старых, з якімі я некаалі быў знаёмы і сябраваў; невыказнае пачуццё навеяў на мяне гэты малюнак; душа пазірала на іх, як на анёлаў, што ляцяць на неба; старанна згаварыў я малітвы і доўга стаяў задуменны, гледзячы на гэтае святое месца. Даўнейшыя часы, даўнейшае жыццё, даўнейшыя звычаі і набажэнства выразна маляваліся ў маіх успамінах. О, шчаслівыя! Яны бачылі лепшыя часы, спяць у роднай зямлі, а я да якіх прыплыву берагоў, дзе знайду спачын пасля гэтага бурлівага плавання?

За Палатою, на шырокай раўніне, як люстэрка, адбівае сонечнае святло невялічкая плямка вады, якая завецца *Валоваю азярынаю*. Кажуць, што калісьці яна была ў самім горадзе і да хрышчэння стаялі ля гэтае азярыны святыні Перуна і Бабы Ягі***, але цяпер не засталося аніякіх слядоў ад тае старажытнасці.

У ваколіцах Полацка кожная мясціна ў апавяданнях тутэйшых жыхароў мае нейкую гістарычную памятку; на другім

---

* Калісьці езуіцкія

** Калісьці базыльянская, што была фундавана старажытным родам Грабніцкіх, герба Астоя!

*** У народзе дасюль яшчэ паўтараецца страфа пра тую Бабу Ягу:

*Баба Яга,*
*Касцяная нага,*
*На ступе сдзець,*
*Таўкачом памагаець,*
*Мятлой сляды замятаець.*

беразе Дзвіны за некалькі вёрст адсюль стаіць невялічкі касцёл св. Казіміра[3]; тут, апавядаюць, з'явіўся Казімір перад войскам сваіх суайчыннікаў і перавёў іх праз імклівую рачную плынь; і сёння паказваюць у тым месцы пад Струнем пясчаны падводны вал, па якім пераходзіла войска; царква Барыса і Глеба, нібыта пабудаваная цудоўным чынам самімі святымі; Экіманія — маёнтак паноў Беліковічаў ля самае Дзвіны на стромым беразе ў прыгожай мясціне; увесь горад Полацак відаць адтуль як бы ў чароўнай панараме, а вясною, у паводку, ля падножжа гары чуваць музыка і песні са стругаў, што плывуць у Рыгу; шмат таксама старажытных паданняў захоўвае гэтая мясцовасць у народных апавяданнях.

Якія перамены сустрэў я ў горадзе пасля васемнаццацігадовай адсутнасці! Толькі старажытныя валы, як і раней, зеляненліся травою, і дзве ракі, якія тут зліваюцца, плылі ў тых самых берагах; сям-там на асобных вуліцах закураныя мураванкі і папялішчы нагадвалі пра пажары, што нягаз спусташалі гэты горад. Аддаўшыся думкам, я хадзіў па вуліцах нібыта нікому не знаёмы іншаземец; прабіў гадзіннік на вежы — колісь езуіцкага — касцёла, і гэты голас, як прывітанне адданага сябра, крануў маю душу. Ён знаёмы мне з дзяцінства: калісьці адлічваў час вучобы і адпачынку, будзіў на світанні да новае працы, але цяпер, здаецца, паўтараў сваім гучаннем: fugit irreparabile tempus[4] .

Голас касцельных званоў таксама крануў маю душу, узнавіў у памяці ўсё мінулае. Антоне, ты памятаеш той гучны званок, што збіраў нас калісьці на заняткі навукамі свецкімі ды рэлігійнымі і на штодзённую малітву ў святыні Божай; ён замоўк назаўсёды; адзываецца толькі ў сэрцы і ў памяці нашай.

Найпрыемнейшы ў жыцці чалавека час — вясна маладосці, калі, раскрываючы кветку свайго розуму, ён дае волю лятункам, песціць у сэрцы вялікія надзеі, не думаючы пра тое, што ёсць на свеце віхуры і страшныя буры, якія часта нішчаць усе чалавечыя намеры; гэтая шчасная пара мае дзіўную прывабнасць, дорыць чалавеку адчуванне нейкіх незвычайных райскіх уцех, і гэта бывае менавіта тады, калі вольныя ад працы юнакі вяртаюцца дамоў, разважаюць пра навукі, настаўнікаў і таварышаў.

Набліжаецца Вялікдзень; з якім пачуццём, з якой вераю выконваюць усе рэлігійныя абавязкі! Пасты, падрыхтоўка да споведзі на Вялікдзень — якую асалоду і спакой прыносяць яны душы! У Чысты Чацвер кожны клас са сваім настаўнікам на-

ведвае астрогі, шпіталі, раздаючы ўсюды, па магчымасці, грошы і міласціну ўбогім. Каменны той чалавек, якога гэты прыклад не навучыць любові да бліжняга!

У езуіцкіх школах вакацыі звычайна пачыналіся з першага жніўня; вучняў пасля экзаменаў пераводзілі ў вышэйшыя класы; імёны выдатнікаў друкавалі ў кніжачках дзеля заахвочвання да далейшых поспехаў у вучобе.

У той дзень горад Полацак мог быць сталіцаю ўсёй Белай Русі; шум і грукат вазоў адзываўся па ўсім горадзе; з'язджаліся абывацелі; адны — на ўрачыстасці ў дзень св.Ігнація Лаёлы; другія — каб падзякаваць за турботы тым, хто даглядаў іхніх дзяцей; іншыя — каб пабыць у тэатры, бо вучні Полацкае акадэміі звычайна да гэтых дзён рыхтавалі пастаноўку; з'язджаліся гандляры з усіх бакоў і найвыгадней збывалі свае тавары.

Перад Калядамі таксама былі экзамены і спаборніцтвы між вучнямі пачатковых класаў, калі яны на вачах бацькоў, апекуноў і настаўнікаў задавалі адзін аднаму пытанні па граматыцы лацінскае мовы, перад імі на стале былі раскладзены ўзнагароды для пераможцаў, і гэтае іх саперніцтва заўсёды пачыналася такімі памятнымі словамі:

— Domini emule a quo incipiemus?
— A signo Sancti Crucis?
— Quid est signum Sancti Crucis?
— Est munimentum corporis et animae.
— Faciamus signum Sancti Crucis:
— Faciamus[5].

Тут усе кленчаць, а пасля малітвы пачынаюцца дыспуты і дэманстрацыя ведаў* .

Атоне! Успомні тыя шчаслівыя часы, успомні сяброў свае маладосці, таварышаў, настаўнікаў, якія столькі гаварылі нам пра веру, пра Бога, пра абавязкі хрысціяніна і пра навуку; свет у той час здаваўся нам раем, бо ў людзях, што былі побач, мы бачылі толькі зычлівых, шчырых і адданых сяброў. Цяпер мы прачыталі кнігу пра вандараванне па даліне няшчасцяў; прыйшла восень, і паспеў плод горычы!.. Часта паўтараю сам сабе гэты верш:

Я прыгадваю: спевам кляшторны званочак
Сябрукоў маладых заклікаў у грамады.

---

* У гэты самы час у пансіёне выхаванцы таксама ставілі камедыі пафранцузску, а сяды-тады і на лаціне — з твораў ксяндза Порэ. (Заўвага выдаўца «Шляхціца Завальні...»[6])

Калі сэрца не чула ні мораку ночы,
Ні святла, ані лёсу завілага здрады.

Ды, на жаль, час усё ў жыцці перайначыць.
Знікла шчырая радасць, як сон мой шчаслівы,
І кляшторны званочак аціхнуў, а значыць,
Толькі ў згадках чутно, як гучыць ён тужліва.

Я ж па моры нясталага гэтага свету
Не па скарбы паплыў, што ў нязнаных прасторах,
Не па славу, каб вечна быць ёю сагрэтым,
А таму, што ўсе плысці мусяць тым морам[7].

«Калі я выпраўляў карэктуру гэтага аркуша, міжволі апанавалі мяне пачуцці. Думкі мае, акрыленыя ўспамінамі, імчаць да празрыстых вод Палаты. Памятаю цудоўныя вежы горада, які магу назваць родным; сціплую дахоўку святога для мяне будынка, яго доўгія калідоры і прыцемак свечак у вялікім касцёле, і хваласпевы пад яго стракатым скляпеннем, і працяжны гук арганаў, што ўлівае пабожнасць у сэрца. Памятаю пляц, запоўнены людам у час чуллівае працэсіі з абразом Святога Немаўляці, і знаёмае гучанне прыемнае музыкі трубаў з касцельнага ганка; памятаю нашых добрых частаўнікаў і адданых сяброў, высокі вал і мост над ціхаплыннаю рэчкаю, і ля адзінокага слупа сярод залатога калосся роўны пясчаны гасцінец да Спаса, і нявінныя гульні на зялёным выгане, і спякоту прамяністага сонца, і халадок густога гаю, і блакітнае неба, і чысціню душы, маладой, бясхмарнай, — шчаслівай! Там, там калыска мае маладосці!» (Заўвага выдаўца «Шляхціца Завальні...»).

## РЫБАК РОДЗЬКА

*У ціхім балоце чэрці родзюцца.*
Прыказка беларускага люду

Мой дзядзька зірнуў праз вакно на возера і сказаў да мяне:
— Што гэта такое, што Родзька дасюль не прывозіць рыбы; хутка і калядная куцця. Вяртаючыся з Полацка, пан Марагоўскі, можа, застанецца ў мяне на свята, а можа, і яшчэ хто-небудзь з суседзяў наведаецца.

— Пэўна, яму не пашанцавала, бо памятаю, рыбакі скардзіліся, што гэтымі днямі не было ўлову, дык і яго надзеі не спраўдзіліся.

— О, не, Янка! Ты не ведаеш гэтага рыбака, ён у сваім рамястве чалавек незвычайны, ніколі не вяртаецца дадому з пустымі рукамі, ведае ўсе падводныя сховы; здаецца, што пад лёдам бачыць, дзе хаваюцца ляшчы, шчупакі ды іншая рыба. Увосень, калі неба закрываюць чорныя хмары і вые вецер, я з трывогаю паглядаю ў вакно, як ён закідвае нерат на возеры, бура ўздымае пакрытыя пенаю хвалі, а ён, нібы нырэц, то з'явіцца на паверхні ў рыбацкай лодцы, то знікае сярод шумлівых хваляў, а над ім лётаюць толькі белыя крачкі; і ў такую буру ён няраз прывозіў мне рыбу і вяртаўся дадому, хоць жыве на востраве, які адсюль так далёка, што ў ясны дзень ледзь згледзіш.

— Надта смелы, а ці не зазнаў калі няшчасця?

— Сам ніколі не паспытваў бяды, а неспрактыкаваных у гэтым рамястве яшчэ і ратаваў, калі гінулі ў буру. Пра яго такія цуды апавядаюць, што цяжка даць веры. Быццам Родзька, ведаючы, што адна рыба лепш ловіцца ў непагадзь, другая — у ціхі ясны дзень, выклікае вецер на возеры, бунтуе ваду, а калі гэта не трэба — вецер адсылае прэч, вяртае ясны дзень і па спакойнай вадзе, напоўніўшы лодку рыбаю, з песняю вяртаецца дадому. З гэтае прычыны некаторыя думаюць, што ён чараўнік.

— А можа, і служаць яму злыя духі? Ты ж, дзядзька, і сам верыш, што ёсць чараўнікі.

— Веру. Але Родзька — чалавек добры, так людзям здаецца. Чараўнікі ж, што знаюцца са злымі духамі, шкодзяць людзям, а я не чуў, каб ён каго пакрыўдзіў, у нядзелю ходзіць у касцёл і старанна моліцца; дарэчы, ён падданы езуітаў.

Калі мы так размаўлялі, загаўкаў сабака на панадворку, Завальня глянуў у вакно.

— Вось, — кажа, — пра пана намоўка, а пан на парог, дачакаўся я нарэшце: вязе Родзька рыбу.

Заходзіць Родзька, у руках зроблены са старога нерата залубянелы на марозе мех (здавалася, што сплецены ён з дроту); з меха прасвечвалася срэбная луска свежае рыбы. Росту ён быў малога, твар бледны і сухі, жарыя вільготныя валасы неахайна падалі на плечы: у маіх вачах быў ён падобны ў гэты момант да Трытона[1], які, усплыўшы з марскога дна, трубіў у ракавіну ў кампаніі Нептуна або Амфітрыты[2]. Рыбак пакланіўся і высыпаў рыбу на падлогу.

— Даўно чакаў, — сказаў Завальня. — Усё пазіраў у вакно, пачаў ужо хвалявацца, думаючы, што і цябе вось няшчасце напаткала.

— Дзякуй Богу, і сёння яшчэ мая праца не марная. Але ж цяпер час такі: усюды патрабуюць рыбы, мусіў і туды і сюды даставіць добрым панам і суседзям.

— А ўзімку, — сказаў я, — ці клічаш у памагатыя вецер, каб лепей лавілася? Кажуць, нібы *вадзяніка** , слухаюць цябе вецер і хвалі.

Ён, гледзячы на мяне з усмешкаю, кажа:

— Мае паслы — белыя крачкі — наводзяць вецер і буру, але цяпер іх няма; адляцелі ў вырай. Не, паніч, не давай веры ўсяму, што людзі кажуць, езуіты не таму нас вучаць, каб мы выклікалі злых духаў на дапамогу; хто працуе, таму і Бог дапамагае, аніякіх не хачу я ведаць таямніц, ад якіх душы цяжка.

Мой дзядзька, перапыняючы гаворку, прамовіў:

— Янка — чалавек яшчэ малады, цяперашняга свету, не верыць ні ў якія чары, а толькі жартуе з цябе.

Пасля Завальня загадаў пазбіраць рыбу з падлогі, заплаціў Родзьку колькі належала, пасадзіў на лаве, прынёс гарэлкі і хлеба на прыкуску.

Выпіўшы і закусіўшы, Родзька, пазіраючы на мяне, сказаў:

— Маладыя людзі не бачылі і не чулі, што дзеецца на свеце, таму і не вераць. Я шмат расказаў бы пра гэта, але час позні; сонца нізка: трэба ехаць дадому.

Мой дзядзька рады — рыбак можа нешта цікавае расказаць — налівае госцю яшчэ кілішак гарэлкі і кажа:

— Раскажы нам якую цікавую гісторыю, што зазнаў сам або чуў ад старых людзей, дарэчы, цяпер неба яснае і ветру няма: не будзеш блукаць. Але хоць бы і завея дарогу замяла, табе кожная купіна лазы ці трыснягу густога пакажа шлях, бо ты з дзяцінства ведаеш на гэтым возеры кожны куток.

Родзька ўжо крыху захмялеў; твар ягоны палагаднеў і заружавеўся.

— Добра. Раскажу пану, як у нашых краях праз чары і праз шкодлівых людзей расплодзіліся злыя духі.

— Ці ж злыя духі, — сказаў я, — могуць плодзіцца, як звяры?

— Могуць, бо людская злосць ім — найлепшая паша. У нашых ваколіцах старыя памятаюць шчаслівейшае жыццё, калі

---

* *Вадзянік* — злы дух, што жыве ў вадзе.

было яшчэ шмат пачцівых, старанных і працавітых людзей; у той час, кажуць, кожны гаспадар меў у дастатку зямлі, і радзіла зямля заўсёды добра, хапала хлеба і корму жывёле. У азёрах і рэчках было столькі рыбы, што моладзь, бавячыся ля вады з першай-лепшаю прыладаю, лавіла столькі рыбы, што ледзь магла забраць з сабою дадому. Паноў было не шмат, ды і тыя пабожныя, і жылі яны дзесьці далёка за Дзвіною. Цяпер жа кожны паўпанак, маючы некалькі ўбогіх хацін, дорага плаціць за карэты і багатыя строі, вымудраецца, каб здабыць грошы: прадае жывёлу і апошні хлеб, даводзіць бедны люд да таго, што той мусіць кожную вясну карміцца горкім бабоўнікам. А каб мець большы прыбытак з азёраў, наводзяць штогод зімою асташоў* , кажуць, што гэтыя рыбакі нібыта пасылаюць пад лёд злога духа і той заганяе рыбу ў нерат; дык яны спустошылі ў нас усе азёры, навучылі нашу моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным песням; намарна пайшлі засцярогі ксяндзоў ды старых людзей. І ў нас развялося злых духаў столькі, што колькі разоў з'яўляліся яны перад мноствам народу, чаго раней у нас ніколі не бывала.

Раскажу пану пра дзіва, якое бачылі на возеры Расоны, гэта не вельмі далёка ад нашае Нешчарды, як вядома пану, не больш за трыццаць вёрст. Дык вось, расказаў мне пра гэта адзін з тамтэйшых жыхароў, таксама падданы езуітаў.

Калісьці вясною вярталіся сяляне з прыгону, сонца яшчэ не села, але перад нядзеляю аканом адпусціў іх дахаты раней, чым зазвычай. Вечар быў ціхі, неба яснае, на высокіх бярозах сумна кукавалі зязюлі, у небе спявалі жаваранкі, цёхкалі салаўі ў кустоўі. Маладыя, едучы конна, гаварылі пра свае прыгоды, а старыя — пра гаспадарку. І тут нечакана пачулі музыку: нехта за лесам граў на дудзе і спяваў так гучна, што па ўсёй ваколіцы неслася рэха, а песню гэтую ўсе яны ведалі.

*Паціраў я дуду, іх-вох,*
*На паповым лугу, іх-вох,*
*А ня дудка была, іх-вох,*
*Вісялуха была, іх-вох,*
*Вісяліла мяне, іх-вох,*
*На чужой старане, іх-вох.*

Мінулі лес, падыходзяць да возера Расоны. Вада ціхая і чыстая, як крышталь, такая, што ўсе дрэвы відаць на ёй нібыта намаляваныя. Але — цуд нечуваны — на спакойнай вадзе д'ябал,

* Асташы — гэта рыбакі з ваколіц горада Асташкава.

чорны, як вугаль, рукі надта доўгія, галава велізарная, сядзіць на самай сярэдзіне возера, падкурчыўшы ногі, грае на дудзе і спявае страшэнным голасам; спалохаліся ўсе, мовячы пацеры, берагам заспяшаліся дамоў; сонца ўжо схавалася, а яны яшчэ доўгі час чулі за сабою голас дуды і страшны спеў шатанаў.

І ў нас па-суседску, ля вёскі Галубова, пан часта бачыць невялічкую, акружаную з усіх бакоў дрыгвою, азярынку; да яе шмат смелых людзей хацелі падысці ўлетку: ідзе, як па разасланым палатне, і знікае раптам у прорве, што хаваецца пад імшыстай абалонкаю. Са шкадаваннем пазірае здалёк на гэтую мясціну паляўнічы; чуе як крычыць качынае сціжма, а падысці туды немагчыма. Пра тую азярынку між людзей такое ходзіць паданне.

Калісьці гэта было велізарнае і рыбнае возера. Непадалёку на пагорку стаяла вёска з карчмою ля дарогі.

Кожную зіму ў возеры лавілі рыбу асташы. Здарылася так, што аднаго году ўладальнік таго маёнтка адмовіў ім і дазволіў лавіць сваім сялянам; тыя рыбакі працуючы колькі дзён, толькі дарэмна час трацілі, бо кожны раз знаходзілі у нераце толькі па некалькі рыбак. Параіліся і вырашылі: у самую поўнач закінуць невад, а можа, пераменіцца ўсё на лепшае.

Было гэта на Каляды, калі сяляне — жыхары блізкіх ваколіц — сабраліся ў карчму на ігрышча, бо ў нашых краях гэтыя забавы адбываліся даўней, у шчаслівейшыя часы, як я яшчэ памятаю, штовечар аж да свята Трох каралёў[3].

Дык вось, калі была ўжо самая поўнач, неба зацягнула хмарамі і вецер павяваў з поля, у карчме грала музыка, моладзь спявала ды скакала, а старыя пры кілішку за сталом апавядалі пра розныя здарэнні: каму што ўспаміналася. Тут заходзіць рыбак, увесь зацярушаны снегам, а крыссё і рукавы зусім уледзянелі.

— Браточкі, кідайма скокі і спевы, — кажа, — гайда на возера, гэтулькі ляшчоў трапіла ў невад, што выцягнуць не дамо рады. Усім, як дапаможаце, аддзячым.

Ледзь ён гэта сказаў, як нехта на печы ў цёмным кутку заенчыў вусцішным голасам:

— Ах! Ах! Як шкада!

І тут страшная пачвара вылецела за дзверы; спалохаліся ўсе бяседнікі; адны, молячыся, пайшлі купкамі ў адну дарогу па хатах, другія ж з рыбаком выправіліся хутка на возера. Але прыйшлі позна, бо шатан ужо зрабіў сваё; выцягнулі невад, як нажом парэзаны, а рыбы — ані кату.

Стаяць задумаўшыся: усё зразумела. У гэтую хвіліну нехта кажа:

— Не выйграе злы дух. Паслухайце мяне. Заўтра, адрапаруем як след сеці, папросім ксяндза, каб пасвянціў ваду і невад, а паслязаўтра з Божай дапамогаю закінем у тонь, і д'яблу не ўдасца вычварыць такую штуку, як сёння.

Недалёка ад гэтага возера, на пагорку, стаяла пад саламянаю страхою рыбакова хата ; уначы, калі ўся сям'я яго спала, рабіў рыбак нерат і, шчыруючы, думаў пра жахлівае здарэнне на возеры.

Блізка ад яго хаціны шумеў лес, за сцяною выў вецер, а хутка лютая бура намяла вакол хаты высокія гурбы і вокны пазасыпала снегам. Чорны сабака, што ляжаў ля гаспадаровых ног, гырчаў, нібыта бачыў перад сабою злога духа, і рыбака апанавала нейкая няўцямная трывога. Чуе: нехта стукае ў вакно і крычыць:

— Сусед! Сусед! Злітуйся! Дай мне свой вазок, бяда ў маёй хаце, мушу дзяцей сваіх завезці недалёка, толькі да сватавае хаты.

— У такую дуйку, — сказаў рыбак, — калі і сабаку шкада за дзверы выгнаць, ты хочаш кудысьці з дзецьмі ехаць? Заходзь у хату, пагрэйся, як той казаў, пераначуеш, болей пачуеш.

— Не магу я на заўтра адкласці, бура мне не страшная. Толькі ты злітуйся, не адмаўляй. Вярну твой вазок да ўзыходу сонца і аддзячу як змагу.

— Ну, то бяры, калі ўжо такая пільная патрэба.

Адчыніў рыбак вакно, глянуў на панадворак, але ўжо не ўбачыў ані суседа, ані вазка, толькі вецер гудучы, разносіць снежную замець. Здзівіўся, што той так хутка запрог каня і знік з вачэй.

Седзячы на лаве, нейкі час думаў, якое няшчасце прычынілася ў суседа, што ён у самую поўнач і ў такую лютую буру мусіў выехаць са сваімі дзецьмі, і дзівіўся, што той хутчэй з'ехаў з вазком, чым ён паспеў адчыніць вакно. Так разважаючы, патушыў агонь, лёг на лаве і заснуў.

Кароткі быў сон у рыбака, бо яму і ў сне мроілася, што бачыць багаты ўлоў, які імгненна знікае з парванага нерата ў глыбіні возера. Усхапіўшыся з лавы, разбудзіў жонку, загадаў пагрэць яму сняданак, каб хутчэй выправіцца да сваіх таварышаў, а разам з імі — на возера.

Выходзіць на панадворак, бачыць свой вазок, увесь ўледзянелы, а ўсярэдзіне ляжыць велізарны лешч; глядзіць уражаны рыбак і не разумее: што за праява? Кліча жонку, сямейнікаў

і апавядае ім, як апоўначы сусед выпрасіў гэты вазок, каб перавезці ў ім дзяцей да свата. Дзівіліся ўсе, але ніхто не разгадаў таямніцы.

Як узышло сонца, сабраліся ўсе рыбакі, прыехаў ксёндз-плябан[4], пакрапіў свянцонаю вадою нерат і возера. Сабраліся цікаўныя з блізкіх вёсак, усе чакалі, што з гэтага будзе. Занялі велізарную прастору пад лёдам, цягнуць нерат, і ўжо ўся сець наверсе, ды ніводнае рыбіны няма. Стаяць усе разгублена і маўчаць. І тут адзін рыбак з гэтага гурту расказаў, як нячысцік падмануў яго і пазычаў вазок, на якім, працуючы ўсю ноч, пэўна, перавёз усю рыбу у нейкае іншае месца. Дык рыбакі забралі невад і разышліся па сваіх хатах.

З таго часу ніводзін рыбак не закідаў сеці на гэтым возеры. Знядбанае людзьмі, зарасло яно ўсё багавіннем, пакрылася навекі зялёным імхом, і толькі свеціцца здалёк невялічкае вадзяное ваконца.

— А ці не чуў ты чаго-небудзь , — кажа Завальня, — пра Глухое возера, акружанае з усіх бакоў цёмным лесам, яно непадалёку ад тае рэчкі, што выцякае з Нешчарды і ўліваецца ў Дрысу? Кажуць, нават у самае добрае надвор'е ў тым возеры ніколі не бачаць ані сонца, ані воблакаў на небе, ані зорак, ані месяца[5]. Там заўсёды вада каламутная, а ноччу можна пабачыць страшныя відмы. Расказваў мне адзін паляўнічы, што, палюючы на глушцоў, там заначаваў. Нібыта бачыў, як соўгаліся па берагах нейкія пачвары, бамбэлькі водныя ператвараліся ў доўгія постаці, накшталт велізарных стрэлак, і на вогненных крылах лёталі над вадою, а калі заспяваў певень у далёкай вёсцы, дык усе дзівы расталі туманам.

— О! Добра ведаю гэтае возера, — сказаў Родзька, — і чуў я пра яго дзівосы, там і цяпер вусціша: кабеты, часам збіраючы гуртам блізка ля тых берагоў грыбы ці ягады, стараюцца як найраней вяртацца дахаты, каб не спаткаў іх вечар у лесе, бо пасля заходу сонца смяецца там і енчыць нейкае страхоцце.

Раскажу пану дзівы нечуваныя, але гэта сапраўды было .

Недалёка адсюль, на заходнім беразе Нешчарды, на ўзлобку, дзе і цяпер яшчэ стаіць маёнтак, жыў даўней пан З., вельмі багаты: усе гэтыя дзікія пушчы, аж да самых берагоў Дрысы, былі ягоныя. Тое Глухое возера ў цёмных лясах пачало ўжо зарастаць, ніколі там лодка не плавала, аніводзін рыбак не асмеліўся закінуць там сеці.

Узімку пану З. заманулася на тым возеры паспрабаваць шчасця, а таму загадаў паклікаць старэйшага рыбака і кажа яму:

— Заўтра збірай людзей, прывозьце нерат на Глухое возера і закідвайце там. Ад пракаветных часоў там ніколі не лавілі, дык, мусіць, шмат будзе рознае рыбы.

— Нельга, — сказаў рыбак. — Хоць я ніколі і не лавіў там, але чуў, што ў многіх мясцінах ляжаць на дне таго возера карчы, дык вельмі лёгка папсаваць увесь нерат.

— Адкуль тыя карчы, калі там ніколі лесу не было? Заўтра, не верачы гэтай небывальшчыне, закінеш нерат.

— То няхай пан перш загадае папрасіць ксяндза, — гаворыць рыбак, — каб пасвянціў нерат і возера, бо, прынамсі, святая праўда, нячысцік там ужо даўно пасяліўся.

— Ды хіба ты яго калі бачыў, што пляцеш абы што?

— Пане, запытайся ў людзей — кожны ведае, якія там бываюць дзівы ўначы: страшыдлы снуюць па беразе, чуваць з-пад вады енк і смех, пасля заходу сонца адтуль самы смелы чалавек уцякае.

— І слухаць не хачу вашыя забабоны дурныя. Заўтра, што б там ні было, лавіце рыбу.

— Не пасвянціўшы ваду? — пытае рыбак.

— Няма такое патрэбы.

Заклапочаны рыбак пачухаў патыліцу і пайшоў павольна да вёскі. Аб'яўляе сваім таварышам панскую волю; сабраўшыся ў гурт, доўга гаманілі пра гэта, баючыся, каб не прычынілася якога няшчасця. Але трэба панскую волю выканаць.

Наступнага дня прыехалі рабакі на Глухое возера і спыніліся пасярод невялікае круглае галявіны. Вакол — цёмны лес, густыя яліны і хвоі хіліліся пад цяжарам снегу, і здавалася, што белыя муры акружаюць гэтую мясціну. Тут улетку аніколі вецер не ўздымаў хваляў, а зімою — не кружыў снегу. Дзень быў хмурны, вакол панавала цішыня, рыбакі знялі шапкі, згаварылі пацеры, назначылі месца, дзе прабіваць палонку, і пачалі сваю працу.

Кінулі нерат і, ужо цягнучы яго, пачулі шоргат пад лёдам, сыканне і нейкі дзікі піск, нібыта там тысячы гадаў грызліся між сабою. Агарнулі рыбакоў трывога і страх, мурашкі па целе пабеглі. Аднак, трымаючыся разам, не выпусцілі з рук нерат, цягнуць, надаючы адзін аднаму адвагі ды мяркуючы, што трапілася сціжма ўюноў. А як выцягнулі з вады ўвесь нерат — страх успомніць! — поўная сець маленькіх нячысцікаў. Крый Божа такіх і ў сне бачыць! Былі там нячысцікі накшталт ракаў з чорнаю поўсцю, іншыя — як павукі, кожны з ката, іншыя падобныя да шчанюкоў, з нагамі незвычайнае даўжыні. Нельга

апісаць усё гэтае страхоцце. Пацукі, яшчаркі, кажаны, краты поўзалі па лёдзе, качаліся па снезе з жахлівымі крыкамі, сыканнем і піскам. Даўмеліся рыбакі, што натрапілі на д'яблава кубло. Не маючы сілы глядзець на страшыдлаў, кінулі нерат, а самі ўцяклі.

— А ці лавілі асташы калі-небудзь у тым возеры?

— І прадзеды не памяталі , каб хто-небудзь рыбаліў там.

— Дык хто ж навёў туды злых духаў?

— Пан ведае арганіста з Расонаў, добры і разумны чалавек, дык ён часта апавядаў пра дзіўныя рэчы са святых ксёнжак — як некалі Бог стварыў гэты свет. Аднаго разу ў кірмашовы дзень запрасіў ён нас да сябе, сеў з намі за стол. Выпілі мы па кілішку гарэлкі, і ў размове пра сёе ды тое прамовіў нам гэтыя праўдзівыя словы, і я іх не забуду. Сказаў ён так: «Вялікі грэх Адама, што паслухаў Еву, пакаштаваў яблык з забароненага дрэва. За гэта Бог пракляў зямлю. Але яшчэ большы грэх Каіна, які забіў свайго брата». О! Як шмат намножылася каінаў, што забіваюць сваіх братоў. У тых дзікіх лясах ля Глухога возера было шмат злачынцаў. Іх туды сабраў пан з розных канцоў свету. Кажуць, што былі там людзі і з такіх краёў, дзе нібыта ездзяць не на конях, а на сабаках, і не мелі яны ў сэрцы ні веры, ні Бога, ані любові да бліжняга. Доўга хаваліся яны каля гэтага возера, а таму і д'ябал там пасяліўся.

— Але і пан З. быў чалавек нягодны, памыляўся, дзівак, праз сваю неадукаванасць. Аднак паны адкажуць перад Богам, бо не маюць веры; трэба было папрасіць ксяндза пасвянціць нерат і ваду ў возеры, дык не было б таго страху і праца не пайшла б намарна.

— Вучаць нас ксяндзы і добрыя людзі, але іх словы, як гарох ад сцяны адскокваюць, а таму і Бог не бласлаўляе, і жыць усё горай і горай.

— А ў нашым возеры Нешчарда, — я перапыняю рыбака, — ці жывуць злыя духі, ці трапляўся які-небудзь табе?

— Што ты, паніч, кажаш? Няхай Бог ад такога ратуе. Я заўсёды, выходзячы з дому і перад тым, як нерат закінуць, перажагнаюся і кажу пацеры. Так нас вучылі езуіты. А да таго ж на нашым возеры, хоць сям-там і лавілі асташы і хаўрусуючы са злым духам, шмат вынішчылі рыбы, але д'ябал усюды не можа панаваць, — на берагах Нешчарды некалькі касцёлаў. Вясною ў ціхае надвор'е на досвітку няраз даводзілася закідаць мне нерат, дык бачыў, як касцёлы і крыжы паўсюль люстраваліся ў вадзе: а калі ў святы дзень зазвоняць на імшу, дык га-

ласы званоў чуюцца над усім возерам, люд, што плыве ў чаўнах, жагнаецца і кажа пацеры. У нас яшчэ, дзякуй Богу, шануюць святую веру, а д'ябал ад крыжа і малітвы ўцякае.

— Гэта праўда, — сказаў дзядзька. — Нашыя сяляне вельмі розняцца з іншымі. Я няраз, едучы ў Полацак, спыняў коні і слухаў, як кабеты і мужчыны, працуючы ў полі, пяюць:

*О! Спасіцелю наш Пане,*
*Едынэ сэрца кохане,*
*Ручкі, вочкі ў неба ўзносім,*
*Адпушчэння грахоў просім*[6].

Шчырасць такая расчуліць да слёз чалавека; але ах! Ці доўга гэта будзе трымацца? Зло ўсё шырэй распаўзаецца, і людзі, якія ведаюць, што дзеецца ў свеце, не прадказваюць добрага.

Родзька ўздыхнуў, глянуў у вакно, узяў шапку і мех, у якім прыносіў рыбу.

— Спяшаешся дадому, аднак яшчэ не позна, — сказаў Завальня.

— Паставіў нерат і шнуры, мушу паглядзець, можа, даў што Бог, — вечар ужо блізка.

— Калі што зловіш — прынясі яшчэ мне. Жыву пры дарозе, людзі, дзякуй Богу, да мяне заязджаюць.

— Калі толькі Бог блаславіў маю працу, дык не забуду пра пана.

Сказаўшы гэта, ён пакланіўся і пайшоў.

— Люблю гэтага рыбака, — прамовіў дзядзька, — пачцівы ён чалавек і працавіты. Пабудзеш на яго востраве — адразу відаць, што жыве там чалавек гаспадарлівы і дбайны. Яго дамок (хоць не такі ўжо прасторны ды і саломаю крыты) стаіць на ўзгорку ў маляўнічай мясціне, ёсць пры ім маленькі садок: яблыні і вішні. Вакол хаціны — усюды парадак і чысціня. Мае коней, кароў і авечак. Поле ўгноена, як сад. На лугах сакаўная трава. А непадалёку густы бярозавы гай. Летам у ціхае надвор'е — было гэта колькі разоў — я прыплываў да яго вострава. Ён быў рады, а жонка яго — надзвычай гасцінная кабета — частавала мяне, паставіла на стол выдатных ляшчоў, злоўленых таго ж дня і цудоўна прыгатаваных.

— Шчаслівы чалавек. У яго там яшчэ не мінуўся залаты век. Ні з кім не дзеліць поле, ваўкі і мядзведзі не нападаюць на жывёлу.

— Адна толькі нявыгада: у прызначаныя дні мусіць адбываць прыгон, пасылаць работніка ў чаўне і коні перавозіць праз возера; больш за чвэрць вярсты.

## КАВАЛЁВА АЎГІНЯ

Калі мы так размаўлялі, у пакой увайшла пані Мальгрэта, гаспадыня майго дзядзькі.

— А-ёй! А-ёй! — завойкала яна. — Што дзеецца на свеце!

Завальня глянуў на яе са здзіўленнем:

— Ну што там такое ў цябе?

— Жонка кавалёва прыйшла, Аўгіня; цуды расказала: успомніш — страх бярэ.

— Прасі яе сюды, няхай і нам раскажа. Цікава паслухаць, якія там цуды на свеце.

Заходзіць Аўгіня. Была гэта жанчына рухавая, гаваркая і кума ўсёй ваколіцы.

— Пра якія ты там цуды апавядала пані Мальгрэце, што яна прыйшла сюды да нас, стогнучы ды войкаючы?

— Ах, паночку! Яшчэ якія цуды, страх успомніць. Сёння толькі гэта я згатавала есці і засланіла печ, як заходзіць у хату жабрак, белы, як голуб. Сеў ён на лаве, адмаўляе пацеры. Паставіла яму на стол міску капусты. Калі пад'еў, пытаюся:

— З якіх краёў паслаў Пан Бог дзядулю?

— З далёкіх, — адказвае.

— А што чуваць на свеце?

— Навіны надта непамысныя, — кажа. — У аднаго багатага чалавека пачаліся нечуваныя дзівосы. Сын, як толькі нарадзіўся, сеў і гучным голасам закрычаў: «Дайце есці!» Перапалохаліся ўсе, аднак жа адрэзалі яму паўбохана хлеба, а ён, імгненна з'еўшы гэта, ускочыў і да дзвярэй. Там стаяла поўная кадзь вады. Ускочыў у яе і схаваўся пад вадою. Усе кінуліся ратаваць, а выцягнулі адтуль рыбіну. Паклалі яе на стале і, гледзячы на яе, доўга стаялі задуманыя. Пабеглі да ксяндза. Той ураз прыехаў і калі перажагнаў гэтую рыбіну, дык яна зноў ператварылася ў немаўля. Ахрысцілі яго. Той сын расце цяпер, але заўсёды халодны, як рыба. Старыя людзі кажуць, што калі прасіў есці, дык не хлеба трэба было даваць яму, а камень, бо будзе неўраджай і голад. І дрэнна, калі ён вырасце халодны, як рыба; а барані Божа, калі яшчэ разумны будзе — шмат бяды наробіць.

— І ты верыш гэтаму? — спытаўся дзядзька. — То, пэўна, недзе адліваюць званы, а каб былі гучнейшыя, і разняслі такія цуды па свеце. Ці можа немаўля перакінуцца ў рыбіну і расці халоднае, як навец?

— Пане, ты кажаш — адліваюць званы; у нас у касцёлах усюды яшчэ званы цэлыя. Медныя так хутка, як гаршкі, не разбіваюцца.

— Янка, ці даеш ты веры? — загаварыў Завальня да мяне.

— Мне здаецца, дзядзечка, што такія фантазіі ствараюцца людзьмі ад смутку і заўсёдных пакутаў.

— Можа, і так. Раскажы нам, Аўгіня, што яшчэ чуваць.

— Варка Плаксуніха памерла.

— Вечны спакой. Гэта рэч не новая: людзі нараджаюцца і паміраюць.

— Але памерла па-хрысціянску. Паспавядалася і ўзяла прычасце. У Полацку, дзякуў Богу, яна адмянілася.

— Хіба гэта была вялікая грэшніца?

— О! Я ведаю ўсё. Як жыла яе маці! Ды і яна (няхай ужо Пан Бог не памятае яе грахоў!) мела радзімы знак на вуснах, які шмат ёй шкодзіў.

— Ты мусіш ведаць пра гэта напэўна, бо з табою ўсе шчыра гавораць.

— Я ва ўсёй гэтай ваколіцы хрышчу дзяцей, тут усюды мае кумы,усе мяне любяць, кожная кабета радая са мною пагаманіць, дык я і ведаю ўсё: хто што робіць і як жыве. Маці Плаксуніхі была слаўнаю чараўніцаю. І няўжо пан пра гэта не ведае?

— Нічога не ведаю. Раскажы мне пра маці і дачку.

## АПАВЯДАННЕ ПЯТАЕ.
## РАДЗІМЫ ЗНАК НА ВУСНАХ

— Маці гэтае Варкі звалася Праксэда. Жыла яна ў карчме за рэчкаю Дрысай непадалёку ад краснапольскага маёнтка. Яе мужык быў аканомам у адным невялічкім панскім фальварачку. Жыла Праксэда няблага; хоць карчма яе не была пры гасцінцы і вельмі рэдка хто-небудзь туды наведваўся, аднак яна хутка сабрала грошы, не сумавала, часта спраўляла новыя сукенкі і заўсёды хадзіла ў прыгожых уборах.

Суседзі мелі падазрэнне, што Праксэда забірае малако ад кароў з суседніх вёсак, бо сама мела вельмі мала жывёлы, але прадавала масла і сыры ў горадзе. І вось па ўсёй ваколіцы разыходзіліся чуткі, нібыта яна апоўначы вешала белы ручнік

на сцяне, падстаўляла вядро і з двух канцоў гэты ручнік даіла. Малако лілося ў посуд, і яна хутка напаўняла ўсе збанкі сырадоем.

Колькі гаспадароў наважыліся напэўна ўсё даведацца і абвінаваціць яе перад панам. Дык яны запраглі ўвечары каня, едуць туды, мяркуючы, што зловяць Праксэду на гарачым, бо карчма была ад іх вёскі вёрст за шэсць. Але што за праява? Хоць дарогу ведалі так, што здавалася, кожны, заплюшчыўшы вочы, дайшоў бы, — блукалі да світання, не разумеючы, у які бок іх занесла. Як развіднела, убачылі, што ўсю ноч кружылі вакол карчмы, але знайсці яе не маглі. Змардаваўшы каня і не выспаўшыся самі, павярнулі дахаты.

Пасля, бо ад свайго так і не адступіліся, дамовіліся прыехаць да Праксэды перад захадам сонца. Купілі ў карчме гарэлкі, выпілі па кілішку і, нібыта ўжо моцна п'яныя, палеглі спаць на лавах. Аднак кожны пазіраў з-пад рукі, што карчмарка будзе чыніць апоўначы. Патушылі агонь, але поўнае цемры ў карчме не было, бо ў самае вакно гледзела поўня. Ім здавалася, што прайшло ўжо шмат часу, і, пачуўшы голас пеўня ў стадоле, вырашылі: поўнач ужо мінулася, дарэмна чакалі. Адзін падняўся, выйшаў на ганак і дзіўнае бачыць: велізарны певень на высокіх, як у жорава нагах, у нямецкай вопратцы і капелюшы, пяе, седзячы на драбіне. Спалоханы селянін вяртаецца ў карчму і апавядае пра ўсё гэта сваім таварышам.

Яны запалілі святло, выйшлі, жагнаючыся, з карчмы, запраглі каня і заспяшаліся дамоў. Ля свае вёскі сустрэлі парабкаў, якія, толькі што павячэраўшы, гналі коней на начлеге. Начлежнікі, паказваючы чырвоныя воблакі на захадзе, сказалі ім, што да поўначы яшчэ далёка.

Хоць не ўдалося і другі раз злавіць Праксэду, як яна адбірае малако ў суседскіх кароў, але пайшлі да пана і расказалі пра ўсё, што з імі здарылася, і пра шатана, які спяваў, седзячы на драбіне, як певень. Аднак пан, аканом і іншыя ў маёнтку не далі ім веры ды яшчэ насмяяліся. Так Праксэда, спакойна сабе жывучы, і займалася сваімі чарамі.

Нарадзілася ў яе дачка. Ахрысцілі дачку Варкаю. Праксэда, як кажуць людзі, ані кладучы спаць, ані беручы з калыскі на рукі — ніколі не перажагнала сваё дзіця. А яшчэ — пра што без страху і прыпомніць нельга — быццам шмат хто з начлежнікаў бачыў, што калі Праксэда моцна спала, нейкі чорны карла з велізарнаю галавою, седзячы, калыхаў маленькую Варку і часта заглядаў ёй у вочы.

Расла дзяўчына і ад году да году станавілася прыгажэйшая.

Мела яна на вуснах радзімы знак, але гэта — як усе маладыя панічы казалі — не толькі не псуе яе, а, наадварот, надае прывабнасці; і чым больш радзімку хвалілі, тым хутчэй тая расла. Ды так, што ўжо матку папярэджвалі, а ці не сапсуе яна твар дзяўчыне? Але Праксэда не ўважыла на гэта, і той радзімы знак давёў маладзёнаў да няшчасця

Калі было ўжо Варцы шаснаццаць гадоў, праязджаў конна ўначы праз іхнія мясціны нейкі малады паніч. Ніхто не ведаў, хто ён быў і адкуль. Казалі, што твар яго заўсёды быў бледны, нос востры, доўгі, валасы, як шчаціннe, чорныя і бы крумкачовыя пёры; погляд такі калючы, што цяжка вытрымаць, гледзячы яму ў вочы.

Спадабалася яму Варка, дык ён часта завітваў у гэтую карчму, а Праксэда цешылася і мела надзею выдаць сваю дачку за шляхціца.

Праз нейкі час радзімка на вуснах у Варкі яшчэ хутчэй пачала расці, а людзі ў вёсцы шапталіся між сабою, што, мусіць, той заезджы паніч яе пацалаваў.

Васемнаццацігадовую Варку радзімка на вуснах, хоць была ўжо і вялікая, яшчэ не псавала, яшчэ падабалася хлопцам, і яна любіла, каб яе акружаў гурт залётнікаў, але ўсімі яна пагарджала, бо маці пераконвала дзяўчыну, што яна выйдзе замуж лепей, чым якая шляхцянка.

Раскажу пану, што з гэтага аднаго разу атрымалася. Кахаў Варку адзін малады чалавек, які служыў у пана лёкаем і лоўчым. Звалі яго Міхась. Ён пачуў, што нібыта дудар Ахрэм строіць кпіны з яго каханае: расказваў усім, што Варку злы дух пацалаваў, бо яна ніколі не жагналася, а таму і той знак на вуснах гэтак вырас.

Абразілі лоўчага такія размовы, і пачаў ён шукаць нагоды, каб адпомсціць Ахрэму за зняважаны гонар каханае і гэтым заслужыць у маці і ў дачкі прыхільнасць.

У нядзелю сабралася моладзь у Праксэдзінай карчме. Між імі — некалькі лёкаяў, і лоўчы прыйшоў з маёнтка. Адны пазіралі на дачку карчмаркі, захапляючыся яе хараством, іншыя — шапталіся між сабою і здзекліва называлі паненкаю. З'явіўся дудар Ахрэм. Вітаюць яго, садзяць на лаве, частуюць гарэлкаю. Ён у добрым настроі пачынае іграць і спяваць. Было там некалькі маладых дзяўчат з суседняе вёскі, дык іх і Варку хлопцы запрашаюць у скокі.

Сярод гэтае вясёлае забавы разбіўся без дай прычына гаршчок, што стаяў высока на печы. Свісталі, нібыта нехта дзьмуў у рыльца, пустыя бутэлькі на стале, і ў кожным кутку што-небудзь падала на зямлю.

— Ад вашых скокаў уся карчма трасецца, — бурчала Праксэда, збіраючы на падлозе розныя драбніцы, якія пазляталі з шафы.

Тут раптам саскочыў велізарны кот з печы на дол. Убачылі гэта ўсе, пакінулі скакаць, а кот знік, быццам яго і не было.

Дудар Ахрэм перапыніў маўчанне:

— Не бойцеся, скачыце, гэта паніч жартуе. Ну, той, што бывае тут часта ў гасцях.

Праксэда гнеўна зірнула на Ахрэма, нешта шапнула на вуха лоўчаму і пайшла ў маленькі пакой, які быў адасоблены перагародкаю.

Не зважаючы на гэта, Ахрэм пачынае зноў граць і спяваць, але Міхась выбіў дуду з яго́ных рук, кажучы:

— *Праўдзівы дудар — губы тоўстыя, а галава пустая.*

Разгневаны дудар глянуў на яго з пагардай:

— *А ты,* — кажа, — *праўдзівы панскі лакей: сам нізкі, лоб слізкі, нос плоскі — толькі што талеркі лізаць.*

Лоўчы хацеў даць яму поўху, але Ахрэм перахапіў руку. Умяшаліся іншыя госці ў гэтую спрэчку, адцягнулі Міхася, пераконваючы яго, што дудар, адурманены гарэлкаю, сказаў тое, пра што пасля, калі шал той выйдзе з галавы, будзе шкадаваць. Але Праксэда пагражала, што гэта яму проста так не пройдзе, заплаціць яшчэ за тое, што зняважыў дачку.

Дудару ўсе раілі маўчаць, бо доўга спрачацца небяспечна, і каб лепей ішоў дадому.

Паслухаў Ахрэм. Дуду пад паху, шапку ссунуў набакір, заспяваў песню і выйшаў за дзверы. Іншыя бавіліся там яшчэ доўга, стараючыся супакоіць Праксэдзін гнеў і Варчын смутак.

Апоўначы адзін за адным госці выходзілі з карчмы, і кожны чуў дарогаю, што ў густым лесе бесперастанку грае нехта на дудзе. Усе дзівіліся, не ведаючы, што гэта значыць: якім чынам і з кім Ахрэм трапіў у той дзікі гушчар.

Ноч была ціхая і пагодлівая, голас дуды чуцён далёка, рэха адзывалася па ўсёй ваколіцы, у вёсках не змаўкаў сабачы брэх. Сяляне выходзілі з хат, маракавалі: ці то лясун завабіў дудара ў тыя гушчары, ці то колькі п'яных гуляе, не памятаючы, што заўтра панядзелак і трэба рана ўставаць.

Калі на ўсходзе пачало світаць, начлежнікі, якія былі там з коньмі непадалёку, чуючы, што музыка ў лесе не спыняецца, вырашылі пайсці на голас дуды і пабачыць, што там дзеецца. Прыходзяць у цёмны яловы гушчар: сядзіць на спарахнелай калодзе Ахрэм, іграе на дудзе і не чуе, што прыйшлі людзі. Адзін начлежнік кладзе яму руку на плячо і кажа: «У імя Айца і Сына! Што з табою зрабілася, каму ты граеш усю ноч у гэтым лесе?». Ледзь сказаў ён гэта, дуда выпала ў Ахрэма з рук, і сам ён увесь здранцвеў, твар пачарнеў, слова вымавіць не можа.

Начлежнікі ўзялі яго пад рукі, вывелі з лесу і, пасадзіўшы на каня, завезлі дадому. Доўга дудар быў хворы, а пасля пра тое здарэнне так апавядаў:

«Калі выйшаў з карчмы і, спяваючы, вяртаўся дахаты, сустрэў мяне на дарозе нехта нібыта знаёмы, голасам і пастаццю зусім падобны да кума; і так пачаў размову:

— Адкуль і куды ты ідзеш?

— Быў у Праксэдзінай карчме, а цяпер вяртаюся дадому.

— Так рана ідзеш дадому? Можа, табе там было сумна? І Варка табе ўжо не да сэрца? Пекная дзяўчына, а радзімы знак на вуснах больш ёй пасуе, чым жомчуг багатым паненкам.

— Ат, куме, пляцеш ты лухту, — сказаў я, — нейкі там паніч выдумаў, што радзімка прыгожая, дык і іншыя паўтараюць, але ўбачыш, што будзе пасля: яна вырасце і так ёй сапсуе аблічча, што ніхто потым і глянуць не захоча.

— Ай, куме, які ты дзіўны, адкуль ты ведаеш, што радзімка сапсуе твар?

— Сказаў бы табе, ды баюся. Лоўчы Міхась, што кахае яе, — шалёны чалавек, хацеў мяне біць за праўду, і Праксэда так налягела, што мусіў уцякаць з карчмы.

— Якую ж ты ім праўду сказаў?

— Не кажы толькі, куме, нікому: сказаў я, што яе д'ябал пацалаваў.

— Ха-ха-ха! Дзівак!

Так размаўляючы, дайшлі мы да вёскі; у кумавай хаце гарыць святло і поўна гасцей; запрашаюць мяне зайсці, там шмат моладзі і прыгожа ўбраных дзяўчат — у косах шырокія стужкі разматых колераў, на шнуроўках свецяцца срэбныя і залатыя гафткі; круглыя румяныя твары, чорныя бровы, агністыя вочы. Здзіўлена пазіраю на іх. Кум просіць мяне сесці на лаву, частуе гарэлкаю, дае на прыкуску бліноў. Акружылі мяне дзяўчаты і, ласкава гледзячы ў вочы, просяць, каб які вясёлы танец ім зайграў. Адмовіць няма як. З імпэтам граю і прытупваю; кру-

жыцца кола танцораў. Граў ноч навылёт, а мне здавалася — не больш за гадзіну. Але калі начлежнік паклаў мне руку на плячо і прамовіў імя Айца і Сына, дык дом, кум і ўсе госці імгнення зніклі, і я ўбачыў, што сяджу на гнілой калодзе. Ад знямогі ды ад страху здранцвеў увесь».

Зразумеў Ахрэм, што ўчынілі над ім гэта з намовы лоўчага Міхася, а таму вырашыў адпомсціць. Знайшоў нейкага чалавека, хто ўмеў не менш за Праксэду, і ўпрасіў, каб сілаю сваіх чараў шкодзіў Міхасю на паляванні; і праўда, лоўчы з тае пары за колькі крокаў у дзікага звера ніколі не мог пацэліць, і за гэта кпілі з яго і ён ласку страціў у пана.

— І як жа, урэшце, скончылася тая іх узаемная нянавісць? — пытае Завальня.

— Вельмі дрэнна. Міхась — помслівы чалавек. Ішоў з палявання з пустой торбаю, спаткаў Ахрэма; пачалася між імі спрэчка, і ён прастрэліў дудару правую нагу. Той ледзь не памёр ад гэтае раны.

Хутка пасля таго лоўчы захварэў, змарнеў зусім, счарнеў, як труп. У маёнтку доктар штодзённа даваў яму лекі, але гэта не памагло. Памёр. А людзі рознае гадалі пра тое. Адны казалі, што яго ў магілу звялі сухоты, другія апавядалі, нібы паднеслі яму нешта ў напоі. Няхай Бог рассудзіць на тым свеце.

— Гэх, — сказаў дзядзька, — паны не дбаюць, каб іх людзі былі пабожныя і жылі ў згодзе, як браты. Адкажуць яны перад Панам Богам! Як жа можна было дапусціць паляўнічага і дудара да такое нянавісці і да лютае помсты? Ну, Аўгіня, кажы далей пра Варку.

— Той паніч, пра якога я гаварыла, што заязджаў у Праксэдзіну карчму, цяпер ужо не з'яўляўся, і не ведаюць, хто ён і адкуль. Іншыя ж, што хвалілі яе хараство, што захапляліся радзімым знакам на вуснах, зусім пакінулі хадзіць у карчму, баючыся варажнечы дудара з лоўчым. Радзімка праз колькі гадоў зрабілася такая вялікая, што ўжо псавала твар.

Суседзі гаманілі між сабою: цяпер, мусіць, Варка не выйдзе замуж, будзе перастаркам пры маці, хто яе возьме? Не такая прыгожая, як была калісьці, і слава кепская пра яе далёка разышлася па свеце. Пры самой Варцы, насміхаючыся з яе, паўтаралі: «Чакай, паненка, шляхціца, прыедзе ў шыкоўным экіпажы да цябе ў сваты». Дзяўчына пасля такіх з'едлівых слоў заўсёды маркоцілася, а ўпотай плакала.

Аднойчы ўзімку полацкаму мешчаніну Якубу Плаксуну, багатаму чалавеку (можа, пан і ведае яго драўляны дом ля са-

мае Палаты, дзе мураваны слуп са стодам св. Яна), што ездзіў па вёсках і скупляў лён, надарылася быць у тым краі, дзе жыла Праксэда, і на некалькі дзён спыніцца ў яе ў карчме. Убачыў ён Варку і вельмі яе ўпадабаў. Пасватаўся да дзяўчыны і не адмовілі яму, бо чалавек ён малады, мае свой дом, душою добры і сам сабе гаспадар.

Плаксун, атрымаўшы згоду, едзе ў маёнтак, абвяшчае пра свой намер пану, аддае за Варку выкуп. Пан ахвотна згаджаецца, а чэлядзь, здзекліва паглядаючы на яго, так размаўляла між сабою: «Во даў Бог прозвішча, быццам ведаў усё наперад. Як ажэніцца — заплача горка і будзе тады сапраўды Плаксун. Дзіўны чалавек: жэніцца з дачкою злое кабеты, а дзяўчына яшчэ з радзімым знакам на вуснах, які нічым не змыеш; ён і цяпер вельмі псуе яе».

Хутка гэтая вестка ўжо грымела па ўсёй ваколіцы. Дзівячыся, апавядаў сусед суседу пра гэтую неспадзяванку; пайшлі розныя абгаворы і прыдумкі; але найчасцей меркавалі людзі так: Праксэда чарамі наважыла дачку ашчасліўіць, напэўна, паднесла мешчаніну зелля ў напоі ды запаліла ў ім такую прыхільнасць да гэтае дзяўчыны. Некаторыя, што зайздросцілі Варчынаму шчасцю, дрэнна гаварылі пра яе нарачонаму, прадказваючы вялікую бяду. Але ён так кахаў Варку, што нікому не хацеў даваць веры.

Прыехаў Плаксун у Полацак і, не адкладваючы свайго намеру, ідзе ў кляштар да езуітаў. Яго спавядаў ксёндз Буда, якога Плаксун найбольш шанаваў і з якім заўсёды раіўся.

— Як маешся, Якубе? — спытаўся ксёндз. — Даўно цябе не бачыў, пэўна, па гандлёвых клопатах ездзіў некуды?

— Узімку рыхтуемся да вясны, каб было чым нагружаць стругі, як Дзвіна вызваліцца ад лёду.

— То праўда, — прамовіў ксёндз Буда. — Дык, значыцца, закупіў ільну, бо ведаю, што найчасцей яго возіш у Рыгу. Не думаю, каб высокая была цана на гэы тавар. Чуў я ад ксяндзапракуратара, што ў Альбрыхтове і ў іншых нашых маёнтках у Полацкім павеце лён вырас вельмі добры.

— Дзякуй Богу. Мяркую, што ў гэтым годзе за такі тавар і плаціць будуць добра. Але от! Яшчэ мушу вам паведаміць: шукаючы тавару, знайшоў і жонку. Купіў і тое і другое.

— Віншую! Дык ты ўжо жанаты?

— Не, дабрадзею. Толькі заручаны. Яна не вольная, і я заплаціў грошы, каб выкупіць яе. Вельмі падабаецца мне гэтая дзяўчына, спакойны і лагодны характар мае.

— Віншую, — кажа ксёндз. — Спакойны і лагодны характар — гэта добрая якасць. А што была нявольная, дык гэта ні ёй, ні табе аніякае ганьбы не робіць. Не высокае нараджэнне павялічвае дабрачыннасць чалавечую, а сумленнае і цнатлівае жыццё.

— Мушу прызнацца вам, — сказаў Плаксун, — турбуюся я, што шмат у яе непрыяцеляў. Бог ведае чаму кажуць, нібыта яе маці — чараўніца, і дачка таксама — штораз болей — са злым духам знаецца. Ці можна, ойча, верыць гэтай лухце? Я ў карчме ў яе маці, Праксэды, жыў цэлы тыдзень і нічога такога не заўважыў.

— То праўда, — сказаў ксёндз, — што людзі грэшнікаў раяць забіваць камнямі, забываючы, што сказаў Хрыстос: «Няхай кіне камень той, хто без граху». Але нельга і людзям пярэчыць, што няма чараў на свеце. Аднак таму, хто просіць Бога, няма чаго баяцца. Памаліцеся з нарачонаю перад шлюбам і вазьміце святую споведзь. Я цябе блаславўляю і аддаю пад Божую апеку. Вось два абразкі Божае Маці, пасвянцоныя і маюць здольнасць адпускаць грахі. Адзін табе, другі тваёй будучай жонцы. Жывіце з Богам, і Бог вас не пакіне.

Плаксун, атрымаўшы блаславенне ад свайго спаведніка, загадаў пашыць ядвабную сукенку нарачонай, накупляў ёй дарагіх хустак і каснікоў, наняў гарадскіх музыкаў, запрасіў шмат сваіх знаёмых і сяброў і вось з багатымі дарункамі і дружынаю прыязджае да Варкі.

Бацькі, якіх пан вызваліў ад работы на дзень вяселля, і дачка сустрэлі яго з невыказнаю радасцю. Плаксун паднёс Варцы шыкоўныя падарункі і абразок, якім блаславіў яго ксёндз Буда. Прыняла дзяўчына усё гэта з удзячнасцю, бо шчыра ацаніла яго прыхільнасць.

Назаўтра маладыя перад шлюбам выканалі старанна ўсё, што ксёндз радзіў. Пачынаецца шумнае вяселле. Прыйшло колькі гаспадароў з суседніх вёсак, чэлядзь вызвалілі ад працы, і іншыя цікаўныя з блізкае ваколіцы сабраліся на бяседу. Усе задумліва пазіралі на Варку; багата ўбраная, прыгожы твар, а радзімы знак на вуснах зрабіўся такі маленькі, што ледзь яго ўбачыць можна.

Зайграла музыка, моладзь скача, п'юць віно за здароўе маладых, зычачы ім багацця, шчасця і доўгага веку.

Не спынялася вясёлая забава да позняе пары. Ноч была спакойная, і на чыстым небе свяціліся ўсе зоркі. Каля паўночы

чуюць госці, як ляснуў моцна бізун. Глянулі ў вакно: спынілася каля карчмы карэта — шэсць чорных коней, на козлах — фурман, ззаду — лёкаі ў багатых ліўрэях. Выбягаюць Плаксун і Праксэда з мужыком. Імгненна на вачах ва ўсяго натоўпу коні, карэта і лёкаі зніклі. Здзіўленыя вяртаюцца ў карчму Плаксун з цесцем, Праксэда ж — неспакойная, бледная, як нябожчыца. І тут бачаць людзі, што ў вакно пазірае нейкая пачвара. Усіх гасцей агортвае жах. Дрыжыць бедная Варка, збялела, ледзь прытомная.

— Супакойся, — суцяшае яе мужык, — Бог апякуецца намі. — І просіць гасцей, каб весяліліся, не зважаючы на гэтыя цуды і страхі.

Лютая бура завыла за сцяною, задрыжала ўся будова. Віхор сарваў дах з карчмы. І не пра весялосць думалі ў той час, а шапталі, стоячы, малітвы. Госці з суседніх вёсак, як толькі пачало світаць, вярнуліся дамоў, а Плаксун з жонкаю, цешчай і ўсім сваім почтам выехаў у Полацак.

Пакінутая без даху карчма і сёння стаіць пустая. Праксэда, як атрымала волю ад пана, жыла пры дачцэ і, кажуць, зусім перамянілася: зрабілася пабожнаю, кожны дзень слухала святую імшу, пасціла, выконвала ўсе рэлігійныя абавязкі; там, у доме ў Плаксуна і памерла.

А вось цяпер пачула я, што і Варка памерла. Ах! Яе ўсе любілі ў Полацку. Яна была надзвычай ціхая, з добрым сэрцам; аніводзін убогі не пакінуў яе дом без дапамогі і ўцехі. Радзімы знак, які быў у яе на вуснах, зусім знік, і кажуць, была Варка прыгожая, як анёл.

Але, паночку, гаворачы, і не заўважыла, як сцямнела. Познім часам мушу вяртацца дахаты.

— Цяпер вечар ціхі і ясны. Няма чаго баяцца, — сказаў Завальня. — Ды і дахаты не будзе больш за вярсту.

— Маю я просьбу. Пан людзям дапамагае, дык, мусіць, і мне сёння не адмовіць.

— Блізкім сваім дапамагаць — абавязак хрысціянскі.

— Хутка Каляды, а так здарылася, што не маю цяпер ані каліва жыта. Будзь ласкавы, дай хоць колькі гарцаў. Прыйдзе вясна — спатрэбяцца сялянам лемяхі і іншыя жалезныя прылады: мой мужык зробіць, і заплацім пану. Або ў якой патрэбе адслужым.

— Ахвотна. Твой мужык — чалавек добры і старанны.

Пані Мальгрэта, загадай даць Аўгіні чацвярык жыта, гарнец ячных круп і гарнец гароху. Гэта вам на куццю.

Каваліха пакланілася дзядзьку і пайшла з паняй Мальгрэтай у спіжарню.

## СЛЯПЫ ФРАНЦІШАК

Цёмна на панадворку. Неба высыпана зоркамі. Ціхамірна стаяць аснежаныя дрэвы. Толькі часам мароз стукае за сцяною. Мой дзядзька, нібы чакаючы каго, паглядзеў у вакно і, павярнуўшыся да мяне, сказаў:

— Добрае надвор'е. Мне здаецца, што гасцей у нас сёння не будзе, дык ты, Янка, успомні што-небудзь са сваіх вучоных апавяданняў. Цяпер ноч доўгая, можна выспацца, перш чым засвеціць заранка.

Падалі вячэру. Яшчэ седзячы за сталом я думаў, корпаючыся ў памяці, пра розныя падзеі старажытнае гісторыі: выбіраў тыя дзіўныя здарэнні, якія былі б дзядзьку пад густ.

Пасля вячэры, ходзячы, як звычайна, па пакоі, ён згаварыў вячэрнія малітвы і, кладучыся ў ложак, запытаўся:

— Пра якіх жа багоў і багінь ты раскажаш мне зараз?

— Раскажу, дзядзечка, пра заснаванне горада Рыма.

— Ці не пра той Рым, дзе жыве яго святасць? О! Гэты сказ мусіць быць прыгожы і цікавы.

— Пра той самы.

— Дык кажы, буду ўважліва слухаць.

Я расказаў спачатку, што рымляне паходзяць ад траянцаў. Пасля пачаў ад Прока[1], караля албанцаў, расказаў пра Амулія і Нумітора[2], пра Рэю Сільвію, што яна, будучы вясталкаю[3], мела ад бога вайны Марса двух дзяцей-блізнят Ромула і Рэма; як гэтых блізнятаў паклалі ў кошык і плылі яны па рацэ Тыбр, і калі хваля выкінула іх на бераг, дык, пачуўшы плач немаўлят, прыбегла ваўчыца і карміла іх малаком, нібы сваіх дзяцей.

Дзядзька здзівіўся, што ваўчыца мела літасць і прыхільнасць да дзяцей, і сказаў, перапыняючы апавяданне:

— І даўней мусілі быць ваўкалакі. Пэўна, гэтая ваўчыца спярша была кабетаю і мела чалавечую душу, бо адкуль бы ў

яе ўзялася такая любоў і літасць? А можа, і цуд стварыў Бог міласэрны для нявінных дзяцей.

Я расказваў далей, як знайшоў іх Фаўстул[4], як яны выраслі сярод пастухоў, а пасля збудавалі Рым на тым самым месцы, дзе рака выкінула іх на бераг.

У гэты момант забрахалі сабакі, і нехта пачаў стукаць у браму. Прыбягае парабак і паведамляе, што прыехаў сляпы Францішак,

Дзядзька мой хуценька ўстаў з пасцелі і толькі запаліў святло — заходзіць Францішак, праваю рукою трымаецца за павадыра, а леваю — пастуквае кіем перад сабою, каб за што не зачапіцца.

— Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус, — сказаў сляпы, пераступаючы парог. — А ці дома пан Завальня?

— Дома, дома, — адказаў дзядзька. Ён з вялікай радасцю вітаецца з ім, сам здымае з яго цяжкія зімовыя апранахі, запрашае прысесці. Адразу загадвае выпрагчы каня, даць яму аўса, а чалавека, які вёз сляпога, напаіць гарэлкаю і накарміць. Таксама паслаў да пані Мальгрэты, каб хутка згатавала госцю вячэру.

— У якіх краях ты быў? Здаецца, ужо больш за паўгода не бачыліся. Знаёмыя няраз успаміналі пра цябе, паўтараючы такія словы: «Дзе цяпер наш Францішак? Далёка недзе заехаў. Хай бы ён сустракаў усюды добрых, ласкавых людзей, і каб не давялося зазнаць гора ў далёкім падарожжы!».

— Усю Беларусь і частку Інфлянтаў аб'ехаў. Сустракаў і сардэчны прыём, і пагарду людскую, чулыя сэрцы і каменныя.

— Інфлянты — край шчаслівы. Зямля лепш родзіць, чым у нас. Там, кажуць, і паны багацейшыя, маюць пекныя палацы, і тытулы ў іх — бароны ды графы.

— Я — сляпы. Я не бачыў іхніх пышных палацаў. Ведаю толькі, што там багатыя паны не любяць размаўляць з беднымі людзьмі. А ўбогі за сваё жыццё не пачуе іхняга слова.

— Ах, як гэта цяжка, калі чалавек вымушаны прасіць дапамогі ў тых, хто не разумее, што ёсць пакуты на свеце.

— Але я ўжо больш не паеду далёка, — сказаў Францішак. — Дзякуй Богу, маю дабрадзеяў і ў гэтых краях. Вось пан Б. падараваў мне выспу ў сваім маёнтку на возеры Рабло. Там у мяне дамок, сад і маленькая гаспадарка. Мне хопіць. Там і косці мае знойдуць спачын.

— А! Ведаю тое возера, быў некалькі і на той выспе, — сказаў Завальня. — І тады яшчэ бачыў хаціну на пагорку. Вакол

хвоі шумелі і хвалі на возеры. І хоць краявід там нейкі змрочны, аднак мне вельмі падабалася.

— Хваляць тыя мясціны, але мяне — сляпога — гэта не цешыць. Шум лясоў і вады наводзяць на мяне журботныя ўспаміны.

Доўга яшчэ мой дзядзька размаўляў з Францішкам.

Нарэшце падалі вячэру. Ён падвёў сляпога да стала і сеўшы ля яго, стараўся, каб госцю ўсяго хапала.

Пасля вячэры ён загадаў прынесці ў пакой ложак і паставіць ля сваёй пасцелі. Пасля ўзяў мяне за руку, падвёў да сляпога. расказаў яму, што я скончыў езуіцкую школу, пахваліў гісторыі, якія я яму апавядаў, адно што цяжкія імёны паганскіх багоў і іх нельга запомніць. Затым папрасіў Францішка, каб і ён расказаў што-небудзь.

— Не доўгі будзе мой расказ, але цікавы, — сказаў сляпы. — Пра дзіўную кабету, якую бачылі ў розных мясцінах Беларусі. Раскажу, што чуў ад людзей, якія казалі мне, што нібыта бачылі яе зблізку.

## АПАВЯДАННЕ ШОСТАЕ. ПЛАЧКА

Кабета тая незвычайна прыгожая. Вопратка яе — белая, як снег, на галаве — чорны ўбор, і чорная хустка накінута на плечы. Твар хоць і смуглы ад сонца і ветру,але гожы і па-[illegible]ны, вочы жывыя, і заўсёды блішчаць на іх слёзы. Яна [illegible]яецца найчасцей у пакінутых дамах, у пустых касцёлах і на руінах.Бачылі яе таксама пад дрэвамі або пасярод поля. Пасля захаду сонца яна сядае на камені, наракае на лёс жа-[illegible]ным голасам і заліваецца слязьмі. Кажуць, тыя, хто [illegible]жаўся да яе, чулі такія словы: «Няма каму даверыць таямніцу сэрца майго!».

Калі я ехаў з Полацка, на папасе, апавядаў мне карчмар, што там блізка ад дарогі, за бярозавым гаем стаіць пустая хата. [illegible] застаўся толькі невялікі вішнёвы садок. Жыў там даўней [illegible], якога з усёй радзінаю выслалі паны кудысьці далёка, [illegible]шы ў яго некалькі кароў і коней .

[illegible]ходзіў там убогі сляпы, якога вёў маленькі хлопчык. [illegible]шы ў тым доме журботны спеў, яны падумалі, што там

ужо нехта жыве. Дык ідуць туды жабраваць. Заходзяць у хату, сляпы заспяваў песню: «О! Спасіцелю, наш Пане»[1].

— Дом без дзвярэй і вакон, ніхто тут не жыве, — сказаў хлопчык сляпому. — Дарэмна толькі звярнулі з дарогі.

Але тут пасярод хаты з'явілася кабета ў жалобнай вопратцы і са смутным тварам.

— Маліцеся! — кажа. — Усюды ёсць Бог, які будзе вам дапамагаць. — Кінула жменю срэбных манет сляпому ў шапку і імгненна знікла.

Гэты ўбогі, ходзячы ад хаты да хаты, паказваў тыя грошы, на якіх з аднаго боку былі ваявы каралёў, а з другога — Пагоня[2].

Непадалёку ад дарогі, калі едзеш на Віцебск, стаіць пустая капліца. Там, пасля заходу сонца, бачылі што яна плакала, седзячы на парозе, і яе маркотны голас далёка адзываўся.

Рознае думалі людзі пра гэтую Плачку. Адны баяліся, што яна вяшчуе нейкае вялікае няшчасце, вайну, паморак або голад ва ўсім краі.

Па вёсках старыя людзі гаварылі між сабою пра гэтую кабету, заўсёды прадказваючы нешта дрэннае. Некаторыя ж з маладых мелі зусім іншую думку. Яны даводзілі, што там, дзе з'яўляецца Плачка, напэўна, скарб у зямлі. І ўся ваколіца паўтарала гэтую думку.

На канцы тае вёскі жыў убогі чалавек, які даўней абышоў увесь свет. Вярнуўшыся да свае сям'і, жыў толькі з міласціны. Ён часта паўтараў усім:

— Браты! Слёзы і нараканні гэтае жанчыны абяцаюць вам не золата і срэбра. Кабета плача на парозе забытае вамі святыні. Вы думаеце толькі пра багацце, а вас чакаюць беднасць і пакуты.

Аднаго дня, пасмяяўшыся са слоў гэтага старога, вырашылі: калі ўсе будуць спаць, ісці туды і выкапаць з зямлі скарб.

Старая капліца была за чатыры вярсты ад вёскі. Дык некалькі маладых сялян, узяўшы з сабою струмант, борзда выправіліся туды, каб пачаць свае пошукі раней, чым заспявае першы певень.

Прыйшлі на месца. Змрочны выгляд тае ваколіцы наводзіў на іх неспакой і страх. Непадалёку шумеў густы яловы лес, там маркотна вухала сава, і месяц вельмі рэдка паказваўся з-за чорных хмараў. Капліца, нібы магільны помнік, стаяла на пагорку ў засені бяроз.

Шчыравалі ўсю ноч. Выкапалі глыбокія ямы ў некалькіх мясцінах, але знайшлі толькі спарахнелыя дошкі ды чарапы. Зразумелі, што былі тут калісьці могілкі, хоць і не ацалела на

паверхні знакаў, апрача некалькіх ледзь прыкметных абымшэлых камянёў.

Улетку ноч кароткая. Вось ужо на ўсходзе пачынае ружавець ранак. Шукалі дарэмна. Дык засыпалі ямы і вяртаюцца дахаты.

Узыходзіла сонца. Заспяваў у небе жаўрук, і імгла ўжо знікла. Бачаць перад сабою недалёка ад дарогі ля кустоў ляшчыны — стаіць Плачка, тварам на ўсход. У руках ветрык матляе яркую стужку, тая трымціць у паветры, як бліскавіца. Толькі адзін з іх сказаў: «Пайшлі смела да яе» — прывід імгненна знік.

На тым месцы, дзе стаяла Плачка, вісела велізарнае асінае гняздо.Жамярыцы, што заляталі і вылятали з гэтага гнязда, снавалі ў ранішніх сонечных прамянях, нібы залатыя іскры.

— Паслухайце мае рады, — сказаў адзін з іх. — Мы абвяжам асінае гняздо хусткаю. Прыйдзем да старога, разбудзім і скажам, што ля капліцы выкапалі скарб і частку ахвяруем яму. А калі ўстане з пасцелі, укінем яму ў вакно асінае гняздо. Няхай ашалее стары.

Усе пагадзіліся. Разбудзілі старога, укінулі ў хату асінае гняздо, а самі, смеючыся, уцяклі.

Дзіва нечуванае! Стары бачыць перад сабою рассыпанае на зямлі золата. І калі здзіўлена глядзеў на гэта, кажуць, з'явілася перад ім кабета, тая самая, што плакала на парозе старое капліцы, і сказала:

— Бяры палову гэтага золата сабе, а другую — раздай убогім. Бог дапамагае маім пакутным дзецям.

Сказаўшы гэта, яна ўмомант знікла.

У Інфлянтах жа было такое здарэнне. У маёнтку пана М. узвышаліся руіны нейкага старажытнага замка. Кажуць, што ў пракаветныя часы быў там горад, бо цяпер паводка размывае часам пясок і дастае да падмуркаў старажытных камяніц. Там часта знаходзяць шкляныя або ржавыя жалезныя рэчы, што даўней рабілі дзеля аздобы,абломкі зброі, а зрэдчас медныя або срэбныя грошы, што вякамі ляжалі ў зямлі.

Сюды штовечар, пасля заходу сонца, прыходзіла Плачка. Яна вешала на руіны вянкі польных красак, садзілася на камень, і заломваючы рукі, залівалася слязьмі.Не адзін прахожы, чуючы здалёк яе нараканні, смутны вяртаўся дадому і апавядаў пра гэта іншым.

Былі і такія цікаўныя, што, чуючы лямант дзіўнае кабеты, падышлі ў вечаровым змроку да яе і са слоў, якія пачулі, зразумелі, што нейкая нешчаслівая маці плача па сваіх дзецях.

Але толькі надумалі ісці да яе і запытацца, хто яна і якая напаткала яе нядоля, ужо больш не бачылі яе і голас не адзываўся да наступнага вечара.

Не зразумеў ніхто, што гэта такое. Цьмяныя здагадкі хадзілі па наваколлі. Усюды гаварылі пра яе толькі як пра дзіўную камету, што з'яўляецца на небе ў выглядзе вогненнае мятлы. Хацелі даведацца, дзе яна жыве і адкуль прыходзіць, але ўсё марна. Нібы які дух, апускалася яна на зямлю і знікала ў паветры.

Кажуць, што і сам пан М. не пярэчыў гэтым дзіўным апавяданням, бо і ён таксама сустрэў яе аднаго разу, вяртаючыся позняй парою дахаты, і чуў, як плакала яна на руінах замка. Не разумеў пан гэтае праявы, аднак, разважаючы, паверыў тым людзям, якія думаюць усё жыццё пра выгоду, хочуць, каб чароўны дух спяваў ім толькі пра золата і срэбра і паказваў скарбы, схаваныя ў зямлі. Дык паклікаў пан аканома і такі даў яму загад:

— Збірай людзей, і заўтра пачынайце капаць на замкавых руінах. Там у зямлі мусіць быць золата, бо як іначай растлумачыш тую праяву? Пэўна, Плачка хоча паказаць нам нейкія скарбы, якія ўзнагародзяць нас за гэтую працу.

— Я чуў словы тае Плачкі. Яна аплаквала смерць нейкіх нешчаслівых дзяцей, а пра скарбы, схаваныя ў зямлі, і не ўспамінала. Гэтая таямніца нам недаступная. Мне здаецца, тут нейкае папярэджанне і перасцярога.

— Ты падобны да пучшыка ці то да савы, якая страшыць людзей жахлівымі прароцтвамі. Я ні ў што такое не веру і не хачу спрачацца пра гэтую таямніцу. Даўно быў у мяне намер раскапаць руіны. Можа, знойдзем там памяткі старажытнасці, дзеля гэтага не шкада і працы. А калі хто думае, што гэты скарб будзе ў абліччы Плачкі, дык і гэта нядрэнна, што б там ні было, заўтра пачнём раскопкі.

— А калі гэты скарб закляты і вартуюць яго злыя духі, ды немагчыма яго дастаць, бо ён будзе ўсё глыбей і глыбей апускацца ў зямлю, — тады толькі час страцім, а калі і здабудзем што, дык больш будзе бяды, як чаго добрага. Бо я чуў, што недзе дасталі з зямлі зачараваныя скарбы, і калі нехта ўзяў з іх толькі пенязь[3], таму нейкая хвароба скруціла абедзве рукі.

— Брыдка слухаць. Пляцеш лухту, як дурны мужык. Мне ніякі пенязь не шкодзіць.

— А чаму ж разумныя і багатыя паны пакутуюць ад нуды і хвароб?

— Годзе. Збярэш заўтра людзей і вядзі на руіны. Я сам прыеду і пакажу, дзе пачынаць

Аканом быў з засцянковае шляхты, добры гаспадар, але верыў у тое самае, што і просты люд; пацінуў ён плячыма і пайшоў выконваць панскі загад.

Яшчэ толькі паказалася сонца, а гурт сялян ужо стаяў на руінах і чакаў каманды. Калі прыехаў пан М., дык загадаў капаць глыбока на тым самым месцы, дзе заўсёды бачылі на камені Плачку.

Дол быў не глыбейшы, чым на паўтара локця. Знайшлі мураваны склеп, дык раскапалі і вакол, каб адкрыць з усіх бакоў засыпаныя зямлёю сцены. Людзі працавалі не адзін дзень. Адпачынак іх быў кароткі: апоўдні, у самую спякоту. Нарэшце знайшлі жалезныя дзверы. З абодвух бакоў гэтага склепа былі маленькія ваконцы, на якіх яшчэ моцна трымаліся жалезныя праржавелыя краты.

Выламалі дзверы і адчынілі гэты склеп, куды стагоддзяў колькі не заглядваў сонечны прамень, — глуха там, бы ў магіле. Заходзяць з агнём. Усіх апанаваў страх: паўсюль — пасярод і ля сцен — у розных паставах ляжаць шкілеты; косці рук і ног яшчэ ў цяжкіх кайданах. Здранцвелі людзі, гледзячы на такі жах.

— Здыміце кайданы з гэтых шкілетаў, — сказаў пан М., — і прывязіце мне. Варта захаваць гэтыя памяткі мінуўшчыны.

Завезлі кайданы пану. Ён, паказваючы іх гасцям і сваім суседзям, ганарыўся, што такія старажытныя рэчы здабыў з зямлі, хоць з выгляду яны былі зусім падобныя да цяперашніх.

Косці нябожчыкавыя людзі сабралі, пахавалі ў адной магіле на бліжэйшых могілках, запрасілі святара і з набажэнствам паставілі велізарны драўляны крыж.

Кажуць, што ў той самы вечар з'явілася Плачка ў сваім звычайным жалобным уборы, аздобіла магілу кветкамі і, укленчыўшы перад драўляным крыжам, тварыла малітвы, залізаючыся слязьмі. Людзі бачылі гэта, але ніхто не падышоў да яе. Паглядаючы здалёк, яны адмаўлялі «Вечны супакой» за душы памерлых.

Яшчэ колькі вечароў Плачка малілася, пасыпала магілу кветкамі, але цяпер ужо яе ніхто не бачыў.

На беразе Палаты, за пяць вёрст ад горада, дзе гэтая рэчка мінае пушчы і набліжаецца праз абшары палеткаў да Дзвіны, з'явілася тая самая Плачка. Бачылі яе на пагорку, таксама пры захадзе сонца. Яна сядала на камень, які там ляжаў у цені разложыстых бяроз. Бачылі яе сяляне ідучы дахаты пасля дзённае працы, і падарожныя, што вярталіся з горада ўвечары.

Разышлася вестка пра гэтую праяву. Людзі, так як і ўсюды, мелі розныя меркаванні, але большасць трымалася тае думкі, што там ляжаць закапаныя ў зямлі скарбы. У Полацку некаторыя казалі, што ваколіцы іх горада і даўней вельмі часта былі тэатрам вайны. Засталася легенда, быццам частка нейкага войска, зразумеўшы трагічнасць свайго становішча і баючыся, каб іх багацце не дасталося непрыяцелю, закапала золата і срэбра, якое мела пры сабе, на тым пагорку ў зямлю, паклала наверх дзікі камень, каб пазначыць гэтае месца, калі хто з іх вернецца шукаць схаваны там скарб. Але прайшлі стагоддзі, той камень ляжаў на тым самым месцы, а пад ім — некрануты скарб.

Чуючы такія размовы, некалькі юнакоў, што жылі ў Полацку, дамовіліся між сабою, каб пайсці ноччу на той пагорак, дастаць скарб і падзяліць яго між сабою. Узялі патрэбны струмант і, калі ўсе спалі, выйшлі за горад.

Ноч была пагодлівая. Неба — высыпанае зоркамі, і поўня плыла ўверсе. Ішлі яны ціха і асцярожна, каб ніхто не сустрэў іх на дарозе. Мінулі касцёл св. Ксаверыя, дзе спачываюць астанкі законнікаў[4] і абывацеляў гэтага краю. Пачуўшы на Спасе голас вартаўнікоў, што пераклікаліся між сабою, яны звярнулі з дарогі і доўга ішлі берагам рэчкі аж да самага месца.

Прыйшлі на ўзгорак, знайшлі дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верх пакрываў сухі мох. Акапалі яго вакол і супольна сапхнулі з таго месца. Глыбока ў зямлю ўбілі рапіру. Востры канец стукнуў так, нібы крануў нейкую металёвую рэч. Бясспрэчна тут скарб. Пачалі капаць

Працавалі доўга. Часта паролі зямлю рапіраю. Скарб быў неглыбока, але пясок некалькі разоў засыпаў яму. Стаялі нейкі час здзіўленыя: ім здавалася, што зачараваны скарб хаваецца глыбей, не хоча давацца ім у рукі.

Пакуль раіліся між сабою, што рабіць, з усходу папл́ылі чорныя хмары, закрылі ўсё неба і схавалі месяц. Зрабілася так цёмна, што яны адзін аднаго ледзь бачылі. Зацерусіў дожджык.

— Лепей будзе капаць, калі пясок зробіцца мокры, — сказаў нехта з іх. — Дык давайце не марнаваць часу.

І, падахвочваючы адзін аднаго, супольна пачалі капаць. Яму выкапалі доўгую і шырокую, такую, што ужо лёгка не засыплецца.

Рыдлёўкі скрабуць па жалезе.

— Чыгун! Чыгун з грашыма! — закрычалі ўсе з вялікай радасцю, але, калі абкапалі вакол і хацелі падняць чыгун з

зямлі, — убачылі, што гэта цяжкі жалезны панцыр. Ён закрываў грудзі шкілета, ля якога ляжаў меч, а на чэрапе — жалезны шалом-шышак. Стаяць усе задуменныя, бачачы, якім дзіўным чынам падманула іх надзея.

Тут адзін смялейшы кажа:

— Давайце пакінем гэты шкілет, а зброю забяром сабе. Няхай хоць яна будзе памяткаю пра гэтую ноч.

Толькі хацелі зрабіць гэтак — аж раптам маланка асвятліла пагорак, бачаць: стаіць Волат у жалезным панцыры, трымаючы ясны меч у іх над галовамі. Страх працяў сэрцы. Гром скалануў зямлю. І Волат такімі словамі азваўся:

— Нікчэмныя людзі! Золату і срэбру прадалі вы свае душы. Думаючы адно пра багацце, вы зняважылі прах Героя, які слаўна скончыў тут сваё жыццё. Прыйдзе час падняцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!

Азваўся ў хмарах гром, і Волат знік.

Страх апанаваў іх душы. Доўга стаялі нема, як начныя здані. У святле бліскавіцы зноў бачаць перад сабою засыпаны пяском дол, і здаецца, што на гэтым месцы зямля некранутая.

Забылі на пагорку рапіру і свае рыдлёўкі; забылі, якая дарога вядзе да горада; беглі праз лугі і палеткі, і здавалася ім, што той Волат з мячом у руках доўга гнаўся за імі.

Раніцаю вярнуліся ў горад. Знясіленыя, з бледнымі тварамі — нібы змучаныя цяжкаю хваробаю, са страхам успаміналі тое здарэнне. Расказвалі іншым, але не ўсе далі веры.

Пасля гэтага Плачку бачылі ў розных мясцінах паблізу горада, на могілках, сярод якіх стаіць мураваны касцёл св. Ксаверыя. Там, заломваючы рукі, хадзіла яна ад аднае магілы да другое, часам, як слуп мураваны, моўчкі стаяла над астанкамі нябожчыкаў. Не адзін прахожы, мінаючы начной пароюгэтыя мясціны, уцякаў спалоханы, нібы ад вампіра, і расказваў дзівы іншым.

Бачылі яе і ля касцёла св. Казіміра. Сядзела яна перад дзвярыма гэтае святыні ад захаду аж да ўзыходу сонца, няраз плакала ў полі, седзячы на камені або на беразе Дзвіны. Але плач яе і нараканні не шмат каму краналі сэрца. Мала было такіх, што, узняўшы вочы ў неба, прасілі міласэрнасці Божае. Адны не зважалі, другія марылі пра скарбы.

— На маю думку, — сказаў Завальня, — гэта папярэджанне людзям, каб выправілі свае норавы. Але прыкра, што людзі цяпер такія разумныя, што ўсё яны ўжо ведаюць, ні ў якія цуды не вераць, ім трэба скарбы, каб, не працуючы, мець усё, што

толькі заманецца. Яны за золата прададуць усё тое, што нашы бацькі цанілі некалькі даражэй за жыццё.

— Аднак няблага і скарбы шукаць, — сказаў я. — Багаты чалавек шмат дабра можа зрабіць.

— Багаты чалавек можа шмат добрага зрабіць. Гэта праўда, — сказаў дзядзька. — Але няхай жа ён навучыцца перш пазнаваць і любіць тое, што ёсць дабро. А тады Бог зробіць яго годным уладаром зямных скарбаў, як таго старога чалавека, якому ў вакно кінулі асінае гняздо, і яно перамянілася на вачах яго ў залатыя пенязі. Людзі ганяюцца за багаццем не дзеля таго, каб рабіць бліжнім дабро, а каб нічога не рабіць або — што яшчэ горш — каб шкодзіць. Але што ж далей?

Калі некаторыя нашы багатыя і вучоныя паны падарожнічаюць у шыкоўных фаэтонах або на ловах гойсаюць з ганчакамі па лясах, гарах і пустках, гэтая Плачка часта сустракае іх, нібы сірата, ва ўбогім сялянскім уборы, моўчкі падымае на іх блакітныя, слязьмі залітыя вочы, быццам просячы ў іх літасці, але з гэтых паноў ніхто на яе не зважае.

Недалёка ад возера Рабло, дзе цяпер на выспе стаіць мой дамок, калі пан Завальня ведае той край, пэўна, бачыў ён Пачаноўскую гару, яна там вышэйшая ад усіх іншых. Схілы яе пазарасталі лесам, а вяршыня роўная і гладкая.

Пра гэтую гару між людзей розныя ходзяць апавяданні. Кажуць, што калісь там быў кляштар і касцёл, і хоць не відаць ніякіх знакаў, кажуць, быццам чуваць з-пад зямлі спевы і галасы званоў.

Іншыя расказваюць, што на самай вяршыні гэтае гары, уначы, у сваім жалобным уборы, упаўшы на калені, рукі і вочы ўздымаючы да зорак, малілася са слязьмі Плачка. Перад ёю адкрылася неба, найяснейшае сонечнае святло разлілося ўверсе гэтак, што ў лясах і на палетках прачнуліся ўсе птушкі і звяры і ад слёз гэтае кабеты ўтварылася крыніца жывое вады.

З таго часу чалавек, які першы раз наведае вяршыню Пачаноўскае гары, той, хто раней не чуў пра гэтае дзіва, сустрэне чысцюткую крыніцу, а недалёка ад яе стаіць журботная сіраціна ў сялянскім уборы. Хто нап'ецца з гэтае крыніцы і пазнае сірату, той будзе вешчуном, усе таямніцы убачыць ён з вяршыні гары.

Узыходзілі людзі на гару. Былі і такія, што бачылі крыніцу і смутную сіраціну, аднак не зважалі на іх. Пачуўшы ад іншых пра тыя дзівы, узыходзілі другі раз, але ўжо не сустракалі нікога і не знаходзілі месца, дзе была тая крыніца.

— Няўжо гэта тая самая Плачка, якую бачылі ў ваколіцах Полацка і ў іншых кутках Беларусі, прыходзіць у абліччы сялянскае сіраты?

— Пэўна, тая самая, — сказаў сляпы Францішак, — але людзі шукаюць адно выгодаў, поўныя пыхі, яны не пазналі яе, хоць яна па ўсім краі з'яўляецца ў адным вобліку. Ніхто яе не зразумеў.

— Ты, Янка, — чалавек вучоны. А ці разумееш, хто была тая Плачка?

— Цуды можна разумець сэрцам, а не навукаю.

Яшчэ нейкі час мы гаманілі пра гэтую Плачку, і заспяваў певень.

— За поўнач ужо, сказаў сляпы Францішак. — Дазволь, пане Завальня, падарожнаму адпачыць.

— Дзякуй табе, — сказаў дзядзька, — цудоўнае апавяданне.

Ён патушыў святло, і я пайшоў у свой пакой. Пра Плачку думаў, аж пакуль другі раз не праспяваў певень.

## СЫН БУРЫ

Узыходзіла, прабіваючыся праз імглу, сонца. Моцны мароз замаляваў узорамі шыбы. Бярозавыя дровы гарэлі ў печы. Завальня і сляпы Францішак сядзелі ля агню, размаўляючы пра знаёмых суседзяў, пра багатых і бедных, пра жабракоў, што блукаюць па свеце, пра шчаслівае жыццё, аб прадказаннях і дзівах незразумелых.

— Зімою, — сказаў Завальня, — заязджаюць да мяне людзі, і толькі ў гэтую пару маю выпадак, каб мне хто-небудзь расказаў, што дзеецца на свеце, а ўвесну і ўлетку жыву як самотнік. Бачу вакол ваду і цёмныя лясы, рог паляўнічага і стрэлы часам толькі даносяць вестку пра блізкіх гасцей. З лясоў выходзяць сюды на адпачынак з гуртамі лоўчых панічы гэтых краёў, але ад іх не пачуеш такога, што магло б заняць думку. Іх размовы толькі пра сабак і коней.

— Я амаль усё сваё жыццё быў вандроўнікам, сустракаў людзей з рознымі думкамі і душамі. Будучы сляпым, не бачу іхніх твараў і постацяў. У маім уяўленні яны паўстаюць у выглядзе нейкіх страшных і дзіўных духаў. Размовы іх, снуючыся ў маёй галаве, нагадваюць, як рознымі дарогамі ў жыццёвым

віры ўсемагутнасць Божая вядзе нас да вечнасці, дзе мы чакаем адпачынку, уцехі і ўзнагароды.

— Размовы людзей, якія пакутуюць, кранаюць сэрца і надоўга застаюцца ў памяці. І як сумна слухаць показкі тых паноў, якія, жывучы заўсёды сярод вясёлых забаваў, хочуць паказаць свой розум і іншых пацешыць!

— Я сустракаў некалі ў вандроўках пілігрыма — не ведаю, хто ён быў і адкуль, — які называў сябе Сынам Буры. Ад яго я даведаўся, што ў жыцці паспытаў ён гора на ўсю поўніцу. Не выгнанне хвалявала і не давала спакою ягоным думкам, а іншае разуменне шчасця.

— Ці расказваў ён пра сваё жыццё? Дзіўны нейкі чалавек! Называў сябе Сынам Буры.

— Ён гаварыў са мною некалькі гадзін.

— Мусіць, цікавая была размова?

— Раскажу, як было. У дарозе напаткала мяне бура, лінуў дождж, падзьмуў моцны вецер. Мой павадыр, не бачачы нідзе блізка ані карчмы, ані вёскі, пагнаў каня да густога лесу, каб, прынамсі, схавацца ад залевы пад дрэвамі. Шумелі вакол лес і дождж з градам. Стрэлы перуноў наводзілі трывогу. Я, накрыўшы галаву плашчом, шатамі густое яліны тварыў малітвы.

— Нехта стаіць недалёка ад нас, — сказаў мой спадарожнік. — Вандруе ён пеша, у бурцы, на плячах уздзеты на кій хатулёк, пазірае ў неба. Здаецца, грымоты і маланкі не палохаюць яго, а забаўляюць. Твар апалены сонцам і бледны, нібыта змучаны доўгім падарожжам.

— Можа, які чужаземец вандруе праз Беларусь далей на поўнач.

— З буркі льецца вада. Ён, здаецца, на гэта не зважае. Па дарозе ідзе ціхай ступою да нас.

— Пэўна, гэта ў яго не першая бура, — сказаў я. — Прызвычаіўся да нягодаў.

— Не першая для мяне гэтая бура, — кажа пілігрым, пачуўшы мае словы. — Прызвычаіўся да нягодаў. І яшчэ болей скажу: люблю слухаць шум ветру, люблю глядзець на хвалі чорных хмараў і на пажары перуноў.

Падышоў да мяне і кажа:

— Я бачыў справа ад гэтых лясоў, на гары мураваны палац. Ці не ведаеш, чый ён?

— Я не тутэйшы жыхар, а да таго ж — сляпы. Усё схаванае ад мяне.

— Сляпы! Жывеш на свеце, не бачачы яго. Журботнае такое жыццё!

— Што ж рабіць! Бог паслаў гэтае няшчасце. Трэба трываць.

— А ці ўмееш трываць? О! Тады ты шчаслівы. Я такім быць не магу, хоць вандрую па ўсім свеце адзін, без павадыра.

— І што ж пагнала цябе ў далёкае падарожжа?

— Так мне наканавана. О! Калі б ты меў вочы, сляды пакут на маім твары шмат сказалі б табе пра маё жыццё.

— З якіх ты краёў і як завуць цябе?

— З далёкіх краёў. А імя маё — Сын Буры.

— Дзіўнае імя.

— Няма тут нічога дзіўнага. У багатым палацы, абкружаным мноставам лёкаяў і лісліўцаў, жыве Сын Шчасця. Ён ясны і халодны, як кавалак золата, з пагардаю пазірае на сваіх падданых, якія мусяць, як пчолы, дзеля яго выгоды і ўцехі збіраць па лугах мёд. У хаце, пад саламянай страхою, жыве Сын Цярпення. Гэты ўсім сэрцам прывязаўся да таго кутка зямлі, які корміць яго і апранае. Я — Сын бацькоў, гнаных Бураю і Неспакоем. Мой бацька не разарваў жалезных кайданаў, якія колькі год упіваліся ў яго рукі і ногі. Нескончоныя слёзы і нараканні маці мае, калі быў яшчэ ў яе ўлонні, паўплывалі на ўсю маю натуру. Я нарадзіўся з адзнакаю няшчасця на чале.

— Ты падобны на тую Плачку, — сказаў я, — пра якую чуў, што нядаўна з'яўлялася ў розных мясцінах, заломваючы рукі і заліваючыся слязьмі.

— Чуў ты, але не бачыў яе, бо не маеш вачэй.

— І тыя, хто яе бачылі, не зразумелі і цяпер не ведаюць, хто яна і адкуль.

— Не зразумелі, — сказаў ён, — бо ніхто пра яе не думаў. Ах! Як хутка прамінуў той час, калі я ведаў толькі палі і гаі, якія аружалі ўбогі дамок бацькоў маіх. Любіў самотна блукаць па гарах і лясах, кожнае дрэўца і красачка жывілі мае мары. О цудоўная багіня! Ты спаткала мяне ў той час у сукенцы вясёлкавых барваў і з кветкамі на галаве, з высокіх гор паказала ты мне далёкі свет, над якім пад аблокамі лунаді арлы. З таго часу гэты цуд заняў усе мае думкі і жаданні. Вырашыў я высока, далёка ляцець і пабачыць, што дзеецца на свеце. Але ты знікла, і я блукаю па волі буры!

— І хто ж была тая багіня, пра якую ты ўзгадаў цяпер?

— Тая самая, якую называеш Плачкаю.

— Дык ты яе ведаеш?

— Я наведаў далёкія краіны, сярод чужога народа яе тужлівы голас заўсёды гучаў у маіх вушах. Пераплываў моры, — шумныя хвалі не маглі заглушыць яе журботнага спеву. Усюды яна была маёй адзінаю марай.

Вось ужо вецер разагнаў аблокі. Бывайце! Да заходу сонца я буду далёка.

Ён пайшоў. Але яго дзіўнае імя і сумнае апавяданне так запалі ў мае думкі, што колькі начэй, уяўляючы дзіўны характар гэтага чалавека, не мог я заснуць.

— І ніколі яго больш не сустракаў?

— І не чуў нават, каб хто-небудзь успамінаў пра яго.

— Нешчаслівае стварэнне! Будзе туляцца па ўсім свеце і ўсюды пакутаваць. Чаму ж ён не прыйдзе да Бога: заступніцтва Божае ўваскрашае надзеі. Госпад супакоіў бы ягоны смутак.

## БУРА

Мой дзядзька са сляпым Францішкам доўга яшчэ гаманілі, успамінаючы розныя выпадкі са свайго жыцця. Надышоў вечар. У снежні дзень кароткі, пасля полудня прайшло не так шмат часу, а ўжо пацямнела ў пакоі, і нечакана пачуўся шум ветру за сцяною.

— Надвор'е мяняецца, — сказаў дзядзька, гледзячы ў вакно. — Усё неба ў хмарах, не відаць аніводнае зоркі, і месяц цяпер позна ўзыходзіць; ноч будзе цёмная, вецер, здаецца, паўночны, бо мароз не адпускае.

Бура мацнела ўсё больш і больш; вецер падняў снег у паветра; беспрасветная начная цемра пакрыла ўсю зямлю; імгненна намяло высокія гурбы перад дзвярыма і вокнамі.

— Цяпер людзі вяртаюцца з Полацкага кірмашу, — сказаў дзядзька. — На возеры ўжо, пэўна, замяло дарогу.

Кажучы гэта, ён паставіў свечку на вакно.

Тут на падворку пачалі брахаць сабакі. Дзядзька надзеў футра і пайшоў паслухаць галасы падарожных.

Вярнуўся хутка.

— Трэба нешта яшчэ прыдумаць, бо бура падняла ў паветра столькі снегу, што агонь у вакне ледзь відзён.

Сказаўшы гэта, ён запаліў у ліхтары свечку і ўдвух з парабкам моцна прывязаў яго да высокае жэрдкі пры самай браме.

Зайшоўшы ў пакой, сказаў Францішку:

— Маё жытло — гэта порт на беразе мора; мушу кожную буру такім чынам ратаваць ад няшчасця падарожных.

Калі Завальня сказаў гэта, пані Мальгрэта, якая была ў гэтым самым пакоі, не магла больш стрымліваць свой даўні гнеў на гэтых гасцей, што Бог ведае адкуль збіраюцца на начлег.

— Збярэцца тут цэлы кірмаш, — сказала яна, наракаючы на выдаткі і начную мітрэнгу, — ніколі спакойна не заснеш. Усё здароўе страціла.

— Ты, васпані, гневаешся, бо не разумееш нічога, — азваўся дзядзька. — А можа, пан Марагоўскі з дзецьмі ў дарозе? Такая бура! Барані Божа, калі якое няшчасце.

— Я сама чула: Марагоўскі абяцаў прыехаць на самую куццю, а куцця яшчэ заўтра. Цяпер ён начуе недалёка ад Полацка.

— Гэта, васпані, не твой інтэрас. Я пра гэта лепш ведаю.

— Не мой інтэрас? А хто мусіць думаць пра хлеб і яду, каб было чым накарміць гурт гэтых басякоў, байкі якіх ты так любіш слухаць. Хутка і самім не будзе чаго есці.

— Ты, васпані, не маеш ані веры, ані любові да бліжняга, — сказаў дзядзька з гневам. — Шкадуеш хлеба людзям, забываючы пра тое, што ўсё ад Бога, і за дарункі зямныя мы набываем спакой сумлення і надзею на добрую будучыню. Анічога не забяром на той свет, і цяжка грашыць хцівы, што не верыць ва ўсемагутнасць Божую.

Пані Мальгрэта выйшла з пакоя. Мой дзядзька загаварыў да сляпога Францішка:

— Чуеш, пане Францішак, як часам людзі шкадуюць чужога, а сваё, пэўна, даражэйшае ім за жыццё; ім здаецца, што яны ніколі не памруць; на цэлую вечнасць хочуць забяспечыць сябе на гэтай зямлі. Не так думалі мае бацькі (вечны ім спакой!). Памятаю, калі было мне блізу васемнаццаці гадоў, мой бацька купіў у Полацку сукна (локаць каштаваў у той час пяць злотых), загадаў пашыць мне капот, даў пояс падперазацца і сказаў такія словы: «Ідзі ў свет, шукай сабе долі, твае продкі не пакінулі нам маёнтка, і мы табе не даём яго ў спадчыну. Благаслаўляю цябе, зарабляй на кавалак хлеба і будзь пачцівы: усемагутнасць Божая цябе не пакіне; любі бліжніх і жыві ў згодзе з людзьмі. А як непрыемнасці цябе спаткаюць у жыцці — трывай. Будзеш служыць — будзь верны і працавіты. Памятай заўсёды такую прыказку: як пасцелеш — так і выспішся. Калі літасцівы Бог дасць табе добры лёс і ўладу над сваімі зямнымі скарбамі — не шкадуй бліжнім, памятаючы, што міласэрныя

атрымаюць міласэрнасць і будуць спадчыннікамі царства нябеснага».

Пасля, убачыўшы слёзы на вачах мае маці, сказаў:

— Ты не плач, васпані, у маладосці папакутуе — і будзе шчаслівы.

Прыняўшы баславенне і маючы заўсёды ў памяці бацькаў наказ, з хатулькам за плячыма і з кіем у руках пакінуў я родны дом.

Найперш выправіўся да камісара[1] князёў Агінскіх прасіць пратэкцыі. Той мяне прыняў на службу, загадаў практыкавацца ў пісанні і вучыцца рэгістратуры. І я ў хуткім часе зразумеў увесь гэты парадак; сваёй пільнасцю стараўся заўсёды заслужыць добрую рэпутацыю. З цікавасцю слухаў я размовы пра гаспадарку і, калі ўжо адчуў, што і гэтым магу заняцца, прасіў пана камісара, каб дапамог мне атрымаць месца аканома ў якім-небудзь князевым фальварку.

— Ты малады, — сказаў камісар. — Каб гаспадарыць у маёнтку — мала старання, трэба быць чалавекам дасведчаным, добра ведаць якасць зямлі, дзе што пасеяць; ведаць час, калі сеяць гарох, пшаніцу, ячмень ці авёс, а што найцяжэй — прадбачыць перамену надвор'я, калі прыйдзе час сенакосу. О! Тут гаспадару трэба паказаць розум; каб сена не згніло на лузе.

— Дабрадзею, — кажу я, — кожны ж гаспадар некалі вучыўся на практыцы, а калі не хопіць мне прадбачлівасці ў якіх цяжкіх справах — параюся з людзьмі старэйшымі і спрактыкаванымі.

— Добра, пане Завальня, — сказаў камісар. — Пагавару пра гэта з князем. Толькі глядзі, каб не падвёў мяне.

— З Божаю дапамогаю апраўдаю рэкамендацыю пана камісара.

Хутка стаў я аканомам у маёнтку Магільна. Прызначылі мне трыццаць талераў[2] гадавое пенсіі, дазволілі трымаць пару сваіх коней дзеля раз'ездаў па вёсках, і я прыступіў да абавязкаў з найвялікшай стараннасцю, каб апраўдаць рэкамендацыю пана камісара і заслужыць у князя прыхільнасць і рэпутацыю.

Міласэрны Бог благаславіў маю працу і клопаты. Надышло лета. Зямля ўсюды добра ўрадзіла. Жыта вырасла такое буйнае і густое, што калі чалавек ішоў па дарозе праз жытнёвае поле, дык ледзь можна было ўбачыць ягоную шапку. На пшаніцу, авёс і ячмень міла было глянуць. Усюды калоссе гайдалася на ветры, нібы хвалі на возеры.

Аднаго разу, калі ўжо сонца хілілася да захаду, я быў на лузе, дзе сяляне жвава зграбалі сена. Я хацеў, каб нічога не засталося на заўтра, бо над лесам падымалася хмара і гром абзываўся ўдалечыні. У гэты час князь конна вяртаўся з палявання праз маёнтак Магільна і цешыўся, бачачы ўсюды на палетках добры ўраджай. Ён пад'ехаў да работнікаў, і я пачуў, што ён кліча мяне да сябе:

— Пане Завальня! Пане Завальня! Хадзі, васпане, да мяне!

І я, як мог хутка, падбег да яго.

— Вельмі мяне ўсё цешыць, — сказаў князь. — Ты — дбайны гаспадар; міла глянуць: у гэтым маёнтку ўраджай нашмат лепшы, чым у іншых.

— Ласка Божая, яснавяльможны княжа, — сказаў я, — лета цёплае, і дожджык часта мілаваў зямлю; спадзяюся, і намалот не падвядзе: жыта добра каласілася.

— Гэта праўда, што лета добрае, але пры гэтым бачу і добрую руплівасць. Дзякуй, дзякуй, пане Завальня.

Сказаўшы гэта, князь паехаў, а я вярнуўся да сялян.

Праз колькі дзён камісар павіншаваў мяне, бо князь загадаў дадаць да мае пенсіі яшчэ дзесяць талераў. І з таго года, атрымліваючы штогод сорак талераў, я мог жыць спакойна і бацькам сваім памагаў, пакуль Бог дазваляў ім жыць на гэтым свеце.

Князь быў чалавек старасвецкі, пабожны і дабрачынны (царства яму нябеснае). Я заўсёды малюся за ягоную душу. Ён бацька быў сваім слугам; бедных і нешчаслівых цешыў і дапамагаў ім.

Паслужыўшы гадоў пятнаццаць у такога шляхетнага і добрага пана, я ўзяў у арэнду маленькі фальварачак. Не шкадаваў хлеба людзям, мая брама была адчынена суседзям і падарожным; ажаніўся і купіў гэты кавалак зямлі і дамок, дзе і цяпер жыву.

Калі так апавядаў мой дзядзька пра сваё жыццё, на падворку забрахалі сабакі, нехта моцна пастукаўся ў браму і закрычаў:

— *Гаспадар, гаспадар! Адчыні вароты, пусці нас хоць пагрэцца, саўсім прастылі. Барані Бог, гэткая бурная ноч.*

Парабак адчыніў. Паскрыпваючы па снезе, заязджае некалькі вазоў; пытаюцца: хто тут жыве?

— Пан Завальня, — адказвае парабак.

Некалькі падарожных зайшло ў пакой чэлядзі. Дзядзька пасылае мяне, каб я папрасіў да яго пані Мальгрэту; калі тая прыйшла, сказаў ёй:

— Не гневайся, васпані, на падарожных, а калі б і з нас каго спаткала ў дарозе такая бура — ніхто б не хацеў гінуць на возеры, спяшаўся б як найхутчэй трапіць у цёплую хату. Жыццё кожнаму дарагое: чалавек як можа ратуе сябе ад няшчасця; сурова будзе судзіць Бог таго, хто перад нешчаслівым зачыняе дзверы. Дай, васпані, ім вячэру, не хвалюючыся вельмі пра будучыню. Хлеб надзённы пасылае нам усемагутнасць Божая.

Сказаўшы гэта, ён пайшоў у чалядны пакой.

Прайшло паўгадзіны. Дзядзька вяртаецца, размаўляючы з падарожным у старым сурдуце, што некалі быў пашыты з добрага зялёнага сукна, валасы коратка падстрыжаныя, густыя бакенбарды і вусы; выраз яго твару і манеры казалі, што ён не просты селянін, а доўга служыў пры двары.

— І што за прычына, — сказаў дзядзька, — такога далёкага падарожжа? Гэта ж не жарт — наведаць усе куткі Інфлянтаў і Курляндыі!

— Пан ведае гэтую простую прыказку, — сказаў падарожны, — *за дурной галавой і нагам не ўпакой.* Вось, уласна, накшталт гэтага і мае цяперашняе падарожжа. Прыйшла ў галаву майму пану думка пабудаваць суконную фабрыку; меркаваў, што такім чынам набудзе залатыя горы. Адгаворвалі яго суседзі, што добра разумелі гэтую справу.

«Не з фабрык трэба пачынаць грамадзянам беларускім, каб палепшыць свой быт, а з зямлі, бо сялянская гаспадарка найбольш прыносіць карысці ў нас, трэба рупіцца заводзіць жывёлу, угнойваць палеткі, павялічваць сенажаці і сваіх падданых навучыць лепшым маральным канонам, каб любілі сваю бацькаўшчыну. Не крыўдзіць, прысвойваючы іх уласнасць, менш будаваць корчмаў і старацца мець больш збожжа ў запасе».

Гэтыя парады не мелі аніякага выніку. Пан заклаў у банку большую частку маёнтка, накупляў машын, выдаткоўваючы на гэта велізарныя грошы, прывёз іншаземца-фабрыканта, частку падданых паслаў у сталіцу вучыцца гэтаму рамяству, а іншых — зарабляць грошы на ўтрыманне фабрыкі. Тым часам у гаспадарцы — найвялікшыя страты; селянін прыйшоў да жахлівае нэндзы. Я сам чуў у полі гэтую песню, поўную роспачы:

*Не будзем жыці,*
*Пойдзем блудзіці.*
*З леція худыя,*

*Паны ліхія*
*Кароў пабралі,*
*У двор загналі.*
*Нет хлеба, солі,*
*Нет шчасця, долі.*
*Поле пусцеіць —*
*Няма чым сеіць.*
*Не будзем жыці.*
*Пойдзем блудзіці.*

І сапраўды, за адзін толькі год амаль трэць падданых пакінулі свае хаты і пайшлі блукаць па свеце.

Убачыў пан сваю памылку, бо і фабрыка яго, не будучы яшчэ ўпарадкаванай як трэба, пачала ўжо занепадаць; бракавала грошай на воўну, на прывоз замежных фарбаў, на выплату пенсіі фабрыканту — зніклі ўсе надзеі.

Дайшла вестка ад людзей, якія ездзілі з таварамі ў Рыгу, што яны сустракалі там сялян нашае воласці. Дык пан неадкладна паслаў мяне, каб я з дапамогаю мясцовых уладаў вярнуў тых людзей на ранейшае месца жыхарства.

## АРГАНІСТЫ З РАСОНАЎ

У гэты момант нечакана адчыняюцца дзверы — заходзіць увесь абсыпаны снегам арганісты з Расонаў; ледзь ступіў на парог — гучна прамовіў:

— Laudetur Jezus Christus[1]. Віншую з надыходзячым святам калядаў! — і кладзе стус аплатак[2] розых колераў на стол.

— А! Дзякуй, вялікі дзякуй! — сказаў дзядзька. — Чакаў пана Андрэя і ўжо думаць пачаў, што сёлета ён, можа, забыў дзе жыве Завальня.

— Як можна забыць пра пана Завальню, асабліва ў такую лютую буру, бачачы зыркі ліхтар на доме, добры і ветлы гаспадар якога клапоціцца пра жыццё падарожных.

— У той толькі час і госці ў мяне, калі пакрые Нешчарду лёдам, але за гэта вясной і летам жыву, нібы пустэльнік які, акружаны вадою і лесам.

Арганісты гаворыць да сляпога Францішка:

— О, даўно не бачыліся! Грамадзянін усяго свету! А пра Расоны ўжо зусім забыў. У нас і цяпер успамінаюць, як некалі на

святы спяваў ты на хорах. Хто з ксёнжкі, а пан Францішак — усе песні на памяць. Ну калі ж ты нас наведаеш?

— Жыву я цяпер вельмі далёка.

— Але ж ты жывеш там, дзе сустракаеш ласкавых і сапраўдных сяброў, а такіх у цябе шмат па ўсёй Беларусі.

— Цяпер з ласкі пана Б. маю свой дамок на выспе пасярод возера Рабло. Там маю намер пакласці канец свайму тулянню (пакуль мне пан Бог дазволіць жыць).

— Ведаю пана Б., добры ён чалавек. Маёнтак яго ля самага возера Рабло ў Рабшчызне. Я бываў там некалі, а адгэтуль будзе не менш за шэсцьдзесят вёрст. Але як мяне трасе, увесь замёрз: такі моцны вецер і мароз, што нельга вытрымаць.

— Вып'ем гарэлкі, пане Андрэй, — сказаў дзядзька, — а там вячэру цёплую прынясуць на стол — то і сагрэешся.

— А добра было б гарэлачкі, бо людзі кажуць, што гэты трунак у гарачае лета халодзіць, а ў зімовыя маразы — грэе.

Пасля гарэлкі і закускі павесялелы арганісты сказаў:

— Пан Завальня сёння мае гасцей, мае і новыя апавяданні.

— Кожны чалавек нешта адрознае ад іншых сустракае ў сваім жыцці, дык кожны адрознае ад іншых і расказвае.

— І Янка — філосаф[3] езуіцкае акадэміі — мусіў ужо расказаць шмат гісторый. Ведаю, што калі ён быў яшчэ ў школах, дык вельмі любіў чытаць кніжкі.

— Яго гісторыі вучоныя; расказваў мне пра нейкія паганскія народы, што жылі Бог ведае ў якія даўнія часы; імёны іх такія цяжкія, што на другі дзень ужо не памятаю.

— І я хадзіў у езуіцкую школу, альвар і цяпер ведаю на памяць, перакладаў прамовы Цыцэрона, і з «de arte poetica»[4] Гарацыя яшчэ памятаю гэты верш: «omne tulit punctum qui miscuit utile dulci»[5]. Але калі я ўбачыў, што гэта ўсё vanitas vanitatis[6], не захацеў паглыбляцца ў далейшыя мудрасці; навошта філасофстваваць, лепш верыць сэрцам. Дык пачаў вучыцца музыцы, і цяпер, дзякуй Богу, маю месца пры касцёле і задаволены.

— І ўсё ж цяпер чарга пана Андрэя расказаць што-небудзь.

— А ці не будзе гэта ўжо позна? Колькі часу?

— Не маю гадзінніка, — сказаў дзядзька, — але ведаю, што яшчэ далёка да поўначы.

— У мяне дома ёсць гадзіннік — памятка ад ксяндза-пракуратара; калі б'е, — з'яўляецца зязюля і кукуе столькі разоў, якую выбівае гадзіну. Адзін падарожны начаваў у мяне і, пачуўшы голас гадзінніка і зязюлін спеў, расказаў мне апавяданне пра роспачнага маладога чалавека і вогненных духаў.

# АПАВЯДАННЕ СЁМАЕ. ВОГНЕННЫЯ ДУХІ

Мы селі ля арганістага; у пакоі ўсталявалася цішыня, толькі шум буры чуваць за сцяною. Арганісты пачаў сваё апавяданне так:

— Адзін малады чалавек Альберт (добра выхаваны і з прыгожымablіччам) атрымаў у спадчыну ад бацькоў некалькі тысяч талераў. Не задумваўся, што грошы лёгка страціць, а набыць цяжка; не ашчаджаў, што меў, любіў гульні і забавы і зразумеў, нарэшце, што ўжо яго скарбніца як цела без душы, і сябры зніклі, якіх раней было шмат.

Мальвіна, яго каханая, нарадзілася і вырасла ў горадзе, ведала свет і згаджалася з агульнай думкаю кабет, што сэрца можна аддаць таму, да каго мімаволі цягнецца душа. Але руку — толькі таму, хто золатам і пашанаю абяцае жыццёвы дабрабыт.

Мальвіна кахала Альберта, любіла з ім доўга размаўляць. За такімі прыемнымі размовамі хутка ляцеў вечар, і гадзіннік часта біў на сцяне, лічачы гадзіны, а шэрая зязюля сумна кукавала з адчыненых дзверцаў.

— Журботны зязюлін голас наводзіць на мяне невясёлыя думкі, — сказаў Альберт. — Здаецца, ён гаворыць сэрцу, што і вясна мае сваю горыч, хутка час пралятае, хутка міне маладосць, чалавек на схіле свайго жыцця на ўсё глядзіць холадна. Мальвіна! Давай карыстацца часам, пакуль яшчэ маладое пачуццё робіць нам забавы прыемнымі.

— Вясна, лета і восень людскога жыцця маюць свае аздобы, — сказала Мальвіна, — калі чалавек на ведае беднасці і мае чым задаволіць усе свае жаданні.

— Ці ж багацце — найбольшае шчасце?

— Без гэтага і каханне стыне.

— Ты любіш, як я бачу, грошы? — сказаў Альберт.

— Хто ж не любіць тое, што абавязкова патрэбна.

Пачуўшы гэтыя словы, Альберт доўга сядзеў задуманы, нарэшце ўзяў шапку і хоча выйсці.

— Што ж сёння так спяшаешся дадому? — спыталася Мальвіна.

— Я чалавек не багаты, трэба думаць, як жыць на свеце.

— Трэба было раней гэтым заняцца.

— Нездарма голас зязюлі наводзіў на мяне смутак; яна мне нешта напрарочыла.

Сказаўшы гэта, ён імгненна выйшаў.

Вярнуўшыся дадому, Альберт кінуўся на ложак, але не мог заснуць, — свет паўставаў у ягоных марах зусім інакшы, чым раней. Зразумеў нарэшце, што сапраўдная прыхільнасць і сапраўднае каханне рэдка бываюць на свеце. Дзе ж людскія сэрцы?

Розумы толькі пра тое дбаюць, каб апярэдзіць адзін аднаго, гонячыся за марнаю славай, жыць у раскошы, і, ашукваючы блізкіх і саміх сябе, балбочуць пра веру і пра любоў да бліжняга.

Гэтыя думкі страшна абурылі яго. Знелюбіў усіх знаёмцаў і ранейшых сяброў, пагарджаў каханнем, зайздрасць і злосць напоўнілі яго душу.

Назаўтра Альберт, захоплены страшнаю думкаю, хадзіў самотны па полі. Нарэшце трапіў у густы лес; там, блукаючы ў ценю высокіх ялін, ад цяжкага смутку прыйшоў да роспачы.

— О! Калі ёсць злы дух, — сказаў сам сабе, — што абагачае людзей, які б дапамог мне хоць на кароткі час, — я пакланіўся б яму цяпер.

Ледзь ён гэта сказаў — бачыць перад сабою: нехта сядзіць пад дрэвам на трухлявым пні, велізарнага росту, нос доўгі, востры, твар шчуплы, румяны, барада і валасы на галаве чырвонага колеру, вопратка хоць і зліняла, аднак адсвечвала яшчэ чырвонаю фарбаю; з трывогаю гледзячы на яго, Альберт застыў у маўчанні.

— Убачыў твой смутак, — сказаў незнаёмы, — і гатовы табе дапамагчы. Чаго хочаш?

— Лепшага жыцця. Пакутую ад нэндзы, і сябры мне здрадзілі.

— Пакланіся цемры, і дух агню будзе табе служыць, верне табе золата і сяброў; будзь хітры і празорлівы, бо слабасць натуры згубіць цябе.

— Што трэба зрабіць, каб дух служыў мне?

— Слухай і адразу выконвай мае парады. Здабудзь кроплю крыві са свайго пальца. (Альберт здабывае кроў з пальца.) Гэтая адна, адна кропля, — сказаў незнаёмы, — напоўніць гадзюку ядам. Дык ідзі цяпер з гэтаю крывёю; выходзячы з лесу, узыдзеш на гару. Там поўзае гадзюка, якая хацела ўкусіць дзіця, але, перапалоханая крыкам маці, страціла яд і цяпер, выгнаная

іншымі гадамі блукае адна. Пазнаеш яе лёгка* : жоўты хвост значыць адсутнасць сіл, дай лізнуць ёй кроплю твае крыві: умомант займее яд і сіл набярэцца, а потым ідзі за ёй, яна дасць табе сваю мудрасць і багацце, убачыш духа ў кожнай іскрынцы агню, а слугою тваім будзе Нікітрон** , на кожны твой кліч ён народзіцца з полымя.

Сказаўшы гэта, незнаёмы ўстаў, пайшоў у гушчар лесу і знік з вачэй.

Праз дзікія пушчы ідзе Альберт у той бок, у які яму паказаў незнаёмец; выйшаў з-пад лясных шатаў, калі быў самы поўдзень; узышоў на вяршыню пясчанае гары, сустракае велізарную гадзюку з жоўтым хвастом, якая, убачыўшы чалавека, не мела сілы ўцякаць, а толькі, падняўшы галаву, пазірала вогненнымі вачыма. Альберт на бярозавым лістку паднёс ёй кроплю свае крыві; гадзюка праглынула, і адразу пачала знікаць жоўтая масць на ёй, а праз паўгадзіны і зусім яна акрыяла.

Вылечаная гадзюка пакінула гару, паўзе па хмызах і верасе, усё далей і далей паглыбляючыся ў лес, і Альберт ідзе за ёю хуткай ступою.

Калі на захадзе тухла сонца і пачало вечарэць, ён убачыў між дрэў вялікі палац, дзе ў кожным акне было відаць святло запаленых агнёў. Гадзюка, хутка віючыся па прыступках, трапіла ў вялікую залу-гасцёўню, а з ёю і Альберт; там сталы застаўлены ежаю і віном, чуваць чароўная музыка, люстэркі і карціны на сценах — у залатых каштоўных асадах. Доўга дзівіўся Альберт на загадкавыя дзівосы, разглядаючы ўсялякія аздобы гэтага палаца; пачуўся голас, які запрашаў яго сесці за стол, есці і піць — бо ўсё дзеля яго прыгатавана. Пасля вячэры з'явілася перад Альбертам гадзюка, трымаючы ў роце залатую манету, падняла высока галаву, каб аддаць гэты пенязь госцю; Альберт узяў; на тым дукаце з аднаго боку выбіта полымя, а з другога — карона і выява гадзюкі.

Калі задумліва пазіраў на дукат, зноў пачуў голас: «Пакуль маеш яго, будзеш мець золата столькі, колькі захочаш».

---

* Ёсць прымхі люду, што гадзюка, якая страціла яд, мае жоўты хвост і яе не прымаюць да сябе іншыя гадзюкі.

** Нікітрон — адзін з васьмі злых духаў, імёны якіх: Ярон, Ірон, Кітрон, Нікітрон, Фарон, Фаразон, Лідон, Сталідон. Яны прыносяць хваробы, дык людзі на Беларусі пішуць усе гэтыя імёны з крыжыкамі на хлебе, і хлеб гэты даюць хвораму, каб выгнаць з яго цела духа, які там пасяліўся. Мяркуюць, што гэтыя забабоны прыйшлі ад цыганоў, якіх беларускі люд лічыць звычайна за чараўнікоў.

Гадзюка знікла, і ён адзін застаўся ў гасцёўні; успомніў параду незнаёмага, якога сустрэў у лесе,і, гледзячы на язычок свечкі, што стаяла на стале, паклікаў:

— Нікітрон!

Полымя свечкі ўсё вышэй і вышэй падымаецца ўгору, і тут з яго ўзнікае высокая лёгкая і гнуткая чалавечая постаць, саскоквае на падлогу, і вось ужо стаў перад ім чалавек у пунсовай вопратцы.

— Якія ў пана будуць загады? — спытаўся дух.

— Хачу імгненна вярнуцца дахаты.

Альберт ляцеў у небе вышэй гор і лясоў і праз некалькі хвілін быў ужо ў сваім пакоі.

Вярнуўшыся дадому, ён выняў з кішэні залатоўку, якую атрымаў ад гадзюкі, і, кладучы яе ў шкатулку, падумаў сам сабе: «Эх, каб была яна поўная золата!» — і ў міг вока шкатулка напоўнілася дукатамі. Цешыцца ён, гледзячы на скарб гэткі і не верыць, што бачыць тое наяве; доўга стаяў, не адводзячы вачэй ад золата, баючыся, каб не знікла яно.

Бачаць суседзі дзіва нечуванае: Альберт купляе найдаражэйшыя люстэркі, гадзіннікі, дом яго свеціцца золатам і срэбрам; коні і карэты — шыкоўныя, лёкаі ў дарагіх ліўрэях, — быццам меў ён некалькі тысяч душ у маёнтку; запрашае да сябе гасцей, дае балі; найдаражэйшых він ў яго невычэрпная крыніца.

Мальвіна, чуючы пра гэтую неспадзяваную перамену лёсу, дзівіцца, як і іншыя: адкуль узяліся ў яго такія вялікія грошы? Доўга спадзявалася, што ён, можа, калі наведае яе; прайшло колькі месяцаў — не прыязджае; перамяніўся ўжо, дарэмна чакаць! У яго душы цяпер — толькі адна пыха.

Прыйшла восень, доўгія вечары. Альберт, стомлены забавамі, у якіх доўга бавіў час з гуртам ліслівцаў, вырашыў застацца дома адзін; сухія бярозавыя дровы гарэлі ў печы, настольны гадзіннік іграў мелодыю, за сцяною шумеў восеньскі вецер; ён сеў перад агнём і, гледзячы на яго, аддаўся марам, думаў пра сваё мінулае, пра няўдзячнасць і здраду сяброў, якія некалі кінулі яго, бачачы, што ён зазнаў няшчасця і роспачы.

Калі так пераходзіў ад аднае думкі да другое — успомніў Мальвіну. Памяць ярка малявала яму прыемныя з ёю забавы да позняе ночы і той апошні вечар, калі голас гадзінніка з зязюляй пачаў тую размову, што давяла яго да невыноснае роспачы. Гэтыя ўспаміны абудзілі ў яго сэрцы забытае каханне, і прыйшло жаданне абавязкова яе ўбачыць.

Ужо вырашыў быў ехаць да яе, але крыху задумаўся:

— О, не! — кажа. — Яна любіць багацце, а я цяпер багаты і ўладар яе пачуццяў; не буду зневажаць сябе сёння так, як некалі. Я пашлю ёй багаты прэзент, і яна сама адразу з'явіцца ў маім доме.

Сказаўшы гэта, паклікаў, гледзячы на полымя:

— Нікітрон!

Бярозавыя дровы стрэлілі, быццам з пісталета: вугельчык вылятае з печы, круціцца па падлозе, расце ўсё больш і больш, уздымаецца ўгору, ператвараецца ў чалавечую постаць, і вось стаіць перад ім вялізны мурын.

— Слухаю загад, — сказаў ён, гледзячы на Альберта вогненным позіркам.

— Не хачу бачыць цябе ў такім чорным і страшным абліччы, — сказаў Альберт. — Вярніся ў агонь і, выкупаўшыся ў белым полымі з'явіся да мяне з белым тварам, з лагоднейшымі вачыма і ў пекным вобліку маладога чалавека.

Мурын, як клуб дыму, кінуўся ў печ; праз колькі хвілін адтуль вылецеў язык полымя, з якога ўмомант утварыўся юнак і, стоячы, чакаў загаду.

— Пакуль я напішу ліст да Мальвіны, ты павінен прынесці мне сюды дыяментавыя завушніцы, бранзалеткі і ўбор на галаву з рубінаў і дыяментаў.

Дух, як бліскавіца, вылецеў у вакно, і яшчэ Альберт не дапісаў ліст, а ўжо ўсе тыя каштоўнасці ляжалі на стале і ля яго стаяў дух у абліччы юнака.

Альберт, заклеіўшы ліст, загадаў аддаць яго Мальвіне разам з каштоўнасцямі; паслаў коні і карэту сваю, каб тэрмінова прыехала.

Самотны, шпацыраваў па пакоі; думаў, з якой радасцю яна прыме яго дарункі, з якім пачуццём прывітае яго пасля такога доўгага расстання; бо ведаў, што кабета, бачачы маладога чалавека шчаслівым, у багатым уборы, у пышных салонах, ставіць яго вышэй за іншых людзей; у гэты час ён Бог у яе вачах.

Мальвіна сядзела ў сваім пакоі з суседкаю, што прыйшла ў гэты вечар, і размаўляла з ёю пра розныя дзіўныя здарэнні. Нарэшце пачалі абгаворваць Альберта: адкуль здабыў ён такія вялікія грошы, бо пра гэта разыходзіліся розныя чуткі. Адны казалі, што ён недзе далёка ездзіў і выйграў мільёны ў карты, другія — што нібыта выкапаў багаты скарб з зямлі, трэція — што навучыўся недзе чарнакніжніцтву і стаў багаты, злыгаўшыся са злым духам. Але ўсё гэта былі толькі здагадкі.

Мальвіна расказвала сваёй сяброўцы, як раней Альберт часта наведваў яе, нязменна паўтараючы пра сваё шчырае каханне; успаміпала і той апошні вечар, калі холадна даводзіла яму, што без грошай каханне стыне, а ён, разгневаны, імгненна выйшаў з пакоя і больш не вярнуўся.

У гэты момант яны пачулі, як нейкі аграмадны экіпаж спыніўся ля ганка. Падхапіліся абедзве: бачаць — карэта, а ззаду яе — лёкай. З'яўляецца незнаёмы малады чалавек, аддае ліст і багатыя падарункі. Мальвіна глянула ў вочы пасланцу, і нейкая трывога нарадзілася ў яе сэрцы. Хацела сказаць яму колькі слоў, але не паспела і азірнуцца, — сталася нейкім чынам, што яго ўжо не было ў пакоі.

Яна здзіўлена глядзіць на бляск дарагіх дыяментаў; такога вялікага багацця і ў сне не бачыла ніколі; сарвала пячатку з ліста, глядзіць на Альбертаў подпіс; дрыжучы, дачытала ліст да канца і стаіць ураженая: не ведае, што рабіць.

— Альберт прыслаў мне прэзент, — сказала яна сваёй сяброўцы. — Піша, каб я ў гэтай карэце тэрмінова прыехала да яго. Не ведаю, што мне рабіць.

— Без сумненняў трэба неадкладна ехаць.

— Ці ж не страчу яго павагі за такі смелы ўчынак?

— Ён не думаў пра гэта, пасылаючы да цябе коней і запрашаючы ў гэты самы вечар прыехаць.

— Як ён перамяніўся! Раней, калі наведваў мяне, дык кожнае слова яго лучылася з нейкай трывогаю, а цяпер такі самаадзейны!

— Прыслаў багатыя падарункі, — мае права быць самадзейным. Аднак у вялікім свеце не лічыцца ганьбаю, калі хто добра пакарыстаецца багаццем якога пана.

— Дык я еду.

— І трэба спяшацца. Бо ад нецярплівасці зменіцца яго настрой і сустрэне не добрым вокам.

Мальвіна паспешліва пачала апранацца; бярэ найлепшую сваю сукенку, сяброўка ўбірае ёй галаву, стараецца, каб усё ёй пасавала. Надзела на сябе і дыяменты, што прыслаў Альберт, сядае ў карэту; паўгадзіны ехалі — і ўжо на месцы.

У вітальні сустракае яе Альберт, запрашае ў гасцёўню, дзе ўсё зроблена з густам і багацце ззяе паўсюль. Дзівіцца Мальвіна з такое нечаканае перамены яго долі. Альберт у яе вачах зрабіўся зусім іншы. Яго постаць і твар набылі дзіўную прыгажосць, у яго размовах Мальвіна заўважыла незвычайны розум і дасціпнасць.

Імгненна дарагая садавіна і размаітыя сочывы з'явіліся на сталах; просіць яе выбіраць сабе пад густ і ў час гэтае пачосткі расказвае, як у яго прачнулася жаданне абавязкова сёння яе ўбачыць.

Кожнае слова каханага было ёй прысудам.

— Ці ўспаміната ты хоць калі пра мяне, — спытаўся Альберт, — з тае пары, як апошні раз бачыліся з табою?

— Як жа не ўспамінаць, калі пра тваё шчасце ва ўсіх дамах штодня гавораць?

— А што гавораць?

— Рознае, але нічога пэўнага.

— Няхай людзі мучаць сабе галовы; я ж скажу толькі, што забагацеў, не крыўдзячы блізкіх.

— І я не чула, каб каго-небудзь Альберт пакрыўдзіў.

Застаўшыся ў пакоі адны, яны размаўлялі, прыпамінаючы ўсё тое, што было між імі раней. Гадзіннік на сцяне зайграў мелодыю, і ўжо прабіла поўнач.

— Ці хочаш, Мальвіна, — сказаў Альберт, — убачыць мой хатні тэатр?

— Хто ж будзе іграць у тэатры, калі нас толькі двое?

— Маю актораў, зачыненых у шкатулцы, ураз усе з'явяцца перад табою.

— Ці не будзе толькі чаго страшнага? Злітуйся, не палохай мяне, цяпер якраз поўнач.

— Думаеш, я такі жорсткі, што магу жартаваць з твае палахлівасці? Не будзе аніякага страху, толькі пабачыш цуды, табе незразумелыя.

Сказаўшы гэтак, ён узяў агатавы крэмень, крэсіва і, стоячы ля яе, пачынае высякаць агонь. Нечуваныя цуды бачыць Мальвіна: іскрынкі, што падаюць на падлогу, ператвараюцца ў язычкі полымя, а з гэтых язычкоў нараджаюцца дзеці, на іх галовах гарэлі кучары валасоў — як бавоўна ці лён, што ўзяліся агнём; вочы, як іскрынкі, мігалі чырвоным святлом, і празрыстыя матылёвыя крылцы былі ў іх на плячах. Адны лёталі пад столлю, вырабляючы самыя неверагодныя фігуры, другія сваволілі на сталах, канапах, на падлозе, каля люстраў і карцін — перакідваліся ў зверанятаў, птушак, жамяру.

— Ах! Досыць, досыць ужо! — закрычала Мальвіна. — Не магу больш глядзець на гэтыя жахі. Нейкі страх мяне забірае.

— Палахлівае стварэнне! Ці ж іх выгляд мае што-небудзь страшнае? Гэта ж купідоны, якіх ты, можа, не раз бачыла на карцінах пекнае Венеры.

— Ах, Альберт! Полымя ў іх на галовах і гэтыя жахлівыя пагляды!..Кроў мая замірае.

Альберт махнуў рукою, і ўсё знікла. Быццам было гэта толькі ў сне. Перапалоханая Мальвіна доўга яшчэ не магла супакоіцца. Ён смяяўся з яе палахлівасці. Калі мінуўся страх і скончыліся жарты, яны бавілі час, пераходзячы ў размовах ад аднаго да другога, аж пакуль узышла не небе дзянніца.

Мальвіна, вярнуўшыся дадому, не магла забыць тыя цуды; расказала пад сакрэтам сваёй сяброўцы, і, размаўляючы між сабою пра гэта, вырашылі, што ў вобліку тых дзяцей з'яўляліся злыя духі. Альберт — чарнакніжнік, і праз гэта зрабіўся багаты.

Такі сакрэт, пераходзячы ад сяброўкі да сяброўкі, у хуткім часе ўжо быў вядомы ў гарадах і вёсках; усюды са страхам пра гэта гаварылі.

Старыя нагадвалі маладым і недасведчаным; каб пазбягалі Альберта і сяброўства з ім. У яго доме непрыстойныя забавы, размовы і віно, што пілі без меры, нішчылі маральныя і цялесныя сілы ўсіх тых, хто збіраўся там бавіць час у ганебных уцехах.

Прайшоў адзін год, другі. Альберт не шкадуе грошай; усё робіцца паводле яго волі; уцехі не спыняюцца. Мальвіна хоць і не сумняваецца ў яго сувязях са злым духам, але падпарадкуецца ягоным жаданням.

Аднаго разу Альберт з гуртам гультаёў пры картах і віне бавіўся да поўначы. Гаспадар і госці былі ў гуморы. У жартаўлівых размовах адзін з гэтай грамады сказаў:

— Ці праўда, Альберт, што ты — чарнакніжнік, як сцвярджаюць некаторыя? Выкліч перад намі духа. Мы яшчэ яго ніколі не бачылі.

— Я ведаю, — сказаў Альберт, — хто разнёс пра мяне такія пагалоскі. Але не хачу сёння хаваць ад вас гэтага і зараз усё пакажу вам. — Глянуў на полымя свечкі і паклікаў: — Нікітрон!

Са страхам пазіраюць усе на гэты неспадзяваны цуд: полымя свечкі выбухнула пад самую столь і нечакана ў паветры ўтвараецца празрыстая хісткая асоба, спускаецца на падлогу ў абліччы юнака і чакае Альбертавага загаду.

— Як найхутчэй ляці да Мальвіны і запрасі яе да мяне. Дух вылецеў у вакно; прайшло не больш за паўгадзіны: заходзіць у пакой Мальвіна, бледная ад сполаху, і гаворыць дрыготкім голасам:

— Навошта ты, Альберт, прывёў мяне сюды? Хочаш выставіць адну на посмех перад гуртам тваіх бяседнікаў?

— Не будзеш адна.

Ён глянуў на карціны з міфалагічнымі німфамі і кажа:

— Вось табе таварышкі.

І ўмомант голыя німфы ў натуральную чалавечую велічыню, пакінуўшы палатно, сышлі са сцяны.

Усе знерухомелі, са страхам паглядаючы на гэтыя цуды. Перапалоханая Мальвіна закрычала страшным голасам і ўпала непрытомная на падлогу.

— Нікітрон! — паклікаў Альберт. З'явіўся дух, і Альберт загадаў яму аднесці Мальвіну дахаты, дзе яна праз колькі хвілін ачулася, лежачы на ложку ў сваім пакоі, і дрыжала, успамінаючы тое жудлівае відовішча.

Суседзям, таварышам і ўсім знаёмым было ўжо вядома, што Альберт — страшны чарнакніжнік. Бацькі, сваякі і сябры напамінамі стрымлівалі моладзь, каб яна не мела з ім аніякіх сувязяў і дачыненняў. Набожныя людзі стараліся рознымі спосабамі выбавіць яго з падману і павярнуць да цнатлівага і пабожнага жыцця.

Дарэмныя парады і напаміны. У багатым Альбертавым доме штодня поўна бязбожнае і распуснае моладзі; ён сам усё больш і больш быў нястрыманы ў непрыстойных жадунках і ўчынках; лічыў лухтою любоў да бліжняга, зводзіў і ганьбіў жанчын і дзяўчат рознага саслоўя. Не пераводзілася золата, а перад золатам усё цьмее, і гэта яму было даспадобы. Ганаравалі яго ліслівцы і таварышы ў забавах, але ад бацькоў, мужчын і пачцівых людзей сыпаліся на яго страшныя праклёны.

Прайшло колькі гадоў; ад усіх гэтых празмернасцяў Альберт захварэў. Раскоша, якую піў поўнаю чарай, зрабілася яму няўсмак, і ўсюды нечакана пачаў сустракаць невыносную горыч; трывога і смутак пасяліліся ў яго багатых салонах.

Пачуў голас касцельных званоў, нехта яму сказаў, што гэта звоняць па нябожчыку; змяніўся з твару і неспакойны доўга хадзіў сюды-туды па пакоі і слова не сказаў прыяцелям.

Адскочыў ад вакна, калі ўбачыў людзей у жалобных уборах з паходнямі ў руках, што ішлі за возам, на якім стаяла труна.

Задрыжаў увесь, калі пачуў, што той, хто ўчора з ім баляваў, ужо не жыве на свеце.

Неспакой і меланхолія штодзённым цяжарам ляжалі на яго думках; гурт ліслівцаў не весяліў яго, жанчыны страцілі пры-

вабнасць у яго вачах, у Мальвіны ўбачыў тысячы заган і не хацеў яе больш бачыць.

Самотны і задуменны блукаў Альберт па полі, зайшоў у густы лес, убачыў там чалавека з чырвонымі валасамі на галаве і ў пунсовым адзенні, які сядзеў на пні. Пазнаў яго; гэта быў той самы, што вучыў яго, як набыць золата і кіраваць духам.

— Чаму і цяпер ты незадаволены? — спытаўся чырвоны чалавек.

— Ні ў чым не маю прыемнасці, нейкі неспакой зацьміў мае думкі.

— Можа, Мальвіна табе здрадзіла?

— Мальвіна любіла і любіць багацце; яе каханне мне не патрэбна.

— Маеш дукат, на ім яркае полымя, што ўсё перамагае.

— Але спакою купіць не магу.

— Вогненны дух выконвае ўсе твае загады.

— Але і ён спакою не можа прынесці.

— Не ўмеў ты карыстацца шчасцем, а я казаў: будзь хітры і празорлівы, бо слабасць натуры загубіць цябе. Ужо не грэе ні залатое полымя, ні вогненны дух, ні погляд каханкі.

— Я пагарджаю ўсім, я хачу здранцвець, быць абыякавым, як труп, халодным, як ледзяная брыла.

— Дык паслухай апошнюю маю параду: збяры ўсіх сваіх таварышаў і, перш чым праб'е на вежы поўнач, ідзі на цвінтар; на магілах убачыш язычкі халодных агнёў — прасі іх да сябе на забавы.

Сказаўшы гэта, ён адышоў на некалькі крокаў і знік.

Вярнуўшыся дадому, Альберт адразу пастараўся выканаць тое, што яму раіў у лесе той дзіўны чырвоны чалавек. Гасцей пакінуў адных, а сам заспяшаў на цвінтар. Ноч была ціхая і цёмная, ледзьве відаць былі драўляныя крыжы і дзікія камяні, пастаўленыя сям-там на магілах; свяціліся язычкі агнёў; накшталт аплытых свечак.

— Халодныя духі! — сказаў Альберт. — Сёння вас запрашаю да сябе, хачу вашай дапамогі, хачу быць падобны да вас і пагарджаць светам.

Калі сказаў гэта, дык з'явіліся перад ім белыя прывіды волатаў у дзіўных і страшных абліччах. Яны кланяліся, прысягаючы, што ахвотна выканаюць яго жаданне.

У доме ў Альберта шум і вясёлыя размовы чуваць у асвечаных салонах. Вярнуўся бледны гаспадар, неспакой на яго твары.

— Што з табою дзеецца, Альберт? Чаму ты такі смутны? Які неспакой хвалюе твае думкі? Пра што турбуешся? Сто гадоў раскідваючы скарбы, што дала табе фартуна, не зможаш іх усё адно страціць. — Гаворачы гэта, віталі яго адзін за адным госці.

— Хто з нас будзе так доўга жыць?! — сказаў Альберт. — Не затрымае чалавек заходу сонца, каб дзень падоўжыць, і весялосць не прыкліча, калі яна прэч уцякае.

— Навошта зважаць на невясёлае; хто ведае, якая будзе будучыня; давайце жыць сённяшнім днём, — сказаў адзін з гасцей. — Выпі з намі — змрочныя думкі прэч уцякуць.

— Vinum cor laetificat![1] — сказаў другі. — Што будзе пасля, навошта думаць цяпер.

Нясі віна мне жыва,
Хай пройдзе дзень шчасліва;
Душой клянуся, дружа,
Што мушу ўпіцца дужа![2]

— Чакаю запрошаных гасцей, — сказаў Альберт. — Яны ўпершыню наведаюць мой дом.

— Адкуль і якіх гасцей чакаеш?

— Убачыце і будзеце ведаць.

— Дык старайся іх прыняць весялей, чым нас. Вып'ем за здароўе гаспадара.

Пеніцца віно ў кілішках; грымяць віваты:

— Няхай жыве Альберт!

Падхмеленыя моцнымі трункамі, яны пахваляліся адзін перад адным: хто больш выпіць можа; шум і гамана вясёлых гасцей адзываецца ва ўсіх пакоях. Сам гаспадар, захоплены вясёлай грамадою, асушыў не адзін кілішак моцнага віна. Але яно слаба падзейнічала на яго; хвіліннае забыццё дало спачыць думкам, і зноў вярнуўся смутак мучыць ягоную душу.

Поўнач. На далёкай вежы б'е дванаццаць. Прабіў гадзіннік у кутку гасцёўні і ледзь дайграў мелодыю — нечакана патухлі васковыя свечкі. Адна толькі лямпа свяціла бледна, нібы пакрытая густою імжою. З'явіліся па кутах і пасярод салона жахлівыя монстры: велізарныя стварэнні ў белым, вочы гарэлі, як агонь, гангрэнавыя плямы палілі іхнія твары. Учарнелыя шкілеты абапіраліся спарахнелымі рукамі на мэблю. Знік гарэлачны чад, перапалоханыя госці з крыкам уцякалі з дому, іншыя, знепрытомнеўшы, пападалі на падлогу. Нямы і бледны Альберт пазіраў на гэтых пачвараў; дрыготка прабегла па целе

і адчуў у гэты час, што нейкі холад увайшоў у яго грудзі, і ён застыў увесь ад холаду.

Зніклі гэтыя страшныя монстры; ачуліся перапалоханыя бяседнікі, але не вярнулася цяпло, каб сагрэць Альберта; увесь быў халодны, як кавалак золата.

Жыў ён яшчэ некалькі гадоў, але ўжо нішто не магло яго адагрэць. Увесну і ў летнюю спякоту мароз прабягаў па ўсіх яго жылах. Кажуць, што калі хто сядаў блізка ля яго, каб пра што-небудзь пагаманіць, — з вуснаў яго ішоў такі холад, што нельга было вытрываць і колькі хвілін.

Уначы прыходзілі да яго тыя самыя страшныя здані, якіх ён запрашаў да сябе з магіл, і часта чуў нейкія дзіўныя галасы, якія клікалі яго па імені «Альберт! Альберт!» — не толькі ў змроку, але і сярод белага дня. Пытаўся ён у людзей, што яго часам наведвалі, ці не чуе хто-небудзь з іх галасы, што клічуць яго па імені? Усе са здзіўленнем адказвалі, што не чуюць аніякіх галасоў.

Абазнаныя ў сваёй справе медыкі, прывезеныя з далёкіх краёў, параіўшыся, прапісвалі яму разнастайныя лекі, але руплівасць і веды дактароў не маглі яму дапамагчы.

— Божая кара нарэшце кранула чарнакніжніка і спакусніка, — паўтаралі старыя людзі.

А між простым людам па вёсках і мястэчках хадзілі чуткі, што Альберта за бязбожнае жыццё мучаць усе трасцы* разам, ні на хвіліну не даючы яму спакою.

Найчасцей ён быў самотны; назаўсёды зніклі балі і шумныя забавы; рэдкі госць наведваўся, і той, змучаны халоднаю размоваю, стараўся як мага хутчэй пакінуць ягоны дом. Пакінулі ўсе. Часам толькі слуга з'яўляўся на голас пана.

Дзень быў хмурны, шумеў вецер, сонца засланялі воблакі; у Альбертавым доме панавала цішыня, нібыта ў якой пустэльні. Чуваць былі галасы крумкачоў, вялікая чарада якіх кружылася ў паветры над палацам. У вечаровым сутонні вокны былі нібыта завешаныя чорным мошастам; доўга не гарэў у шыбах агеньчык свечкі. Знайшлі яго труп; сканаў, седзячы на крэсле. Рукі і ногі здранцвелі, нібыта ад моцнага зімовага марозу.

— А з Мальвінай, каханкай яго, што сталася? — спытаў Завальня.

---

* Трасца, або фебра; люд беларускі думае пра гэтыя хваробы, як пра нейкіх злых істот ці духаў, што завуць людзей па імені (часцей увесну). Хто адгукнецца, той мусіць хварэць. Бачаць іх часам у вобліку кабетаў і налічваюць дзевяць сясцёр.

— Мела дыяменты і грошы, лёгка і мужыка знайшла; гадзіннік з зязюляю не наводзіў на яе сумных думак. Выехала ў сталіцу і сярод шуму вялікага свету забылася пра мінулае і пра Альберта.

— Заўсёды такая смерць тым людзям, — сказаў дзядзька, — што шукаюць шчасця на гэтым свеце, а пра будучае жыццё не дбаюць. Як жахліва памёр гэты няшчасны Альберт!

Арганісты устаў з месца і сказаў, гледзячы ў вакно:

— Некалькі зорак ужо свецяцца на небе, і вецер сціх; заўтра будзе добрае надвор'е; перш чым вярнуцца дахаты, мне трэба яшчэ сюды-туды заехаць. Дык ты, пане Завальня, дазволь ужо адпачыць падарожнаму. Мне трэба заўтра раненька ўстаць.

Гасцям ужо прыгатавалі пасцелі, пасля пацераў патушылі агонь, і я, думаючы пра няшчаснага Альберта, заснуў.

## КУЦЦЯ

Я прачнуўся і, лежачы яшчэ ў пасцелі, прыпамінаў апавяданні сляпога Францішка і арганістага: Плачка, Сын Буры, Вогненныя духі — усе гэтыя цуды паўставалі ў маіх думках у дзівосных, самотных і страшных карцінах. Тут дзядзька адчыніў дзверы і, гледзячы на мяне, сказаў:

— Уставай, Янка. Не прывыкай да лянoты; зімовыя ночы доўгія, можна выспацца; усе падарожныя яшчэ перад світаннем выехалі; цяпер толькі паны спяць да дня; за іх іншыя думаюць і працуюць. Памятай, што ты чалавек бедны, мусіш сам служыць, дык адвыкай ад такіх звычак.

Завальня надзеў футра, выйшаў на падворак, загадаў парабкам паадкідаць снежныя сумёты ад вокнаў і ад сцен спіжарні.

Я хуценька ўстаў. У хаце было ціха і змрочна; святло слаба прабівалася праз шыбы, пакрытыя лёдам і засыпаныя снегам. Уваходжу ў чалядны пакой, там на лаве сядзеў сляпы Францішак, а пані Мальгрэта, гатуючы куццю, расказвала яму пра сваю гаспадарку: пра курэй розных парод, якіх яна разводзіла, маючы велізарнага пеўня на высокіх нагах, але ён быў такі нязграбны, што звычайны маленькі пеўнік яго перамагаў і не раз крывавіў; пра гусей, за якімі ўлетку хоць і заўсёды добра наглядала, але не магла ўпільнаваць ад лісіц. Расказвала, як аднаго разу на возеры паляўнічы адным стрэлам забіў

некалькі свойскіх качак, мяркуючы, што гэта дзікія, і з таго часу трэба мецъ іх на воку, каб далёка не адплывалі ад дому.

Калі так размаўлялі, дзядзька пастукаў у вакно, кажучы:

— Бачу здалёк: па возеры нехта едзе; здаецца, гэта пан Марагоўскі з дзецьмі вяртаецца з Полацка. Загадай каму, васпані, хутчэй навесці парадак у пакоі; дасюль яшчэ падлога не падмецена.

Імклівыя коні павярнулі з вялікай дарогі, мінулі бераг возера і ўжо ля брамы. Дзядзька сустракае гасцей: у возе сядзеў пан Марагоўскі, ля яго — трое дзяцей, ухутаныя мядзведжым футрам і абвязаныя хусткамі так, што толькі вочы відаць; выбегла з дому пані Мальгрэта, і дзяцей унеслі ў пакой.

На снеданне было пададзена падагрэтае піва; шкаляры, пачуўшы цяпло, зашумелі, як пчолы ў вуллі. Кожны апавядаў пра сваю вучобу, пра таварышаў, настаўнікаў, пра розныя школьныя выпадкі і здарэнні. Сляпы Францішак далучыўся да іх, і яны пад сакрэтам расказвалі яму свае вершы, якія вывучылі на памяць, каб павіншаваць бацьку.

Перада мною яны хваліліся ўзнагародамі за экзамены: дасталі са скрыначкі абразкі Клаўбера[1] розных памераў, крыжыкі і медзяныя медалькі. Шмат расказалі вывучанага з альвара і шмат пераклалі з лаціны святое гісторыі.

Пан Марагоўскі пацвердзіў бацьку, што Стася і Юзіка за стараннасць у вучобе і за добрыя паводзіны хвалілі і ўзнагародзілі ксёндз-прэфект і настаўнікі; дзядзька цешыўся гэтым, абяцаў ім пашыць новыя капоты і даць грошай на розныя школьныя патрэбы.

Доўга цягнулася размова пра *Красны** полацкі кірмаш. Марагоўскі апавядаў пра кошт жыта, аўса і ячменю, пра свойскіх птушак, якіх там шмат адусюль прадаецца; пра кошт ільну, пянькі і пра купцоў, што прывезлі з іншых гарадоў хусткі, сукно, ядваб, баваўняную крамніну ды іншыя тавары для ўбораў; пра знаёмых гаспадароў, што прыехалі па сваіх справах і каб набыць патрэбныя ў гаспадарцы рэчы.

У размовах прайшоў цэлы дзень; сонца схавалася за лес, звечарэла. Некалькі суседзяў, што жывуць ля возера Нешчарда, запрошаныя з жонкамі і дзецьмі на куццю, прыехалі да майго дзядзькі. Паказалася першая зорка на небе. Пасярод пакоя паставілі доўгі стол, заслалі яго сенам і накрылі белым абрусам. На стол падалі посную ежу з мёдам і найлепшую

* Так называецца полацкі кірмаш, які адбываецца перад Калядамі.

рыбу. Заваліня ламаў аплатку з панам Марагоўскім, а пасля па чарзе — з кожным госцем. Апавядаў, як колісь князь Агінскі, добры і ласкавы пан, запрашаў да сябе на гэты вечар усіх суседзяў, не зважаючы, ці ён бедны, ці багаты,абы толькі шляхціц і прыстойны чалавек. З незвычайнай сардэчнасцю прымаў гасцей, шчыра і адкрыта з кожным гаварыў, бавіў яго, расказваючы размаітыя даўнейшыя гісторыі.

Марагоўскі прыпамінаў, што раней гэтых продкавых абрадаў свята трымаліся ва ўсіх дамах нашага павета. Сёння ўжо не тое! У некаторых паноў змяніліся старыя звычаі і парадкі, за што Бог не ўзнагародзіць, і часы ўсё горшыя і горшыя.

За гэтаю размоваю некаторыя госці, седзячы за сталом, падсоўвалі руку пад абрус, выбіралі наўдачу даўжэйшую сухую сцяблінку; паказвалі адно аднаму, загадвалі, ці высокі будзе наступнаю вясною расці лён, а паненкам прадказвалі хуткае замужжа. Шукалі пад сенам зярнятак жыта, пшаніцы ці іншага збожжа, бо яно, выпадкам знойдзенае ў гэты вечар пад сенам на стале, вешчавала вялікія ўраджаі.

Пасля вячэры, гледзячы на яснае, з зорным сяйвом неба і на вогненныя дарогі метэарытаў, выказвалі надзеі на добрую вясну і на багаты збор садавіны і гародніны ўвосень.

О, салодкія ўспаміны забаў і звычаяў роднае зямлі! Як кароткае шчасце, як прыемны сон, як вера бацькоў! Навек застануцца яны ў памяці. Яны — наймілейшая забава самотным думкам; па іх, як выгнанніца з раю, сумуе заклапочаная душа.

## ДУМКІ САМОТНІКА

На беразе Фінскае затокі, дзівячыся чароўным малюнкам травеньскіх начэй, сядзеў я ад заходу да ўсходу сонца. Не было зорак на небе: белае святло заліло нябеснае скляпенне і ўсю марскую прастору. Травеньскія ночы чужое краіны! Вы заўсёды былі сведкамі маіх тужлівых і самотных песень; калі тут, на беразе затокі, агорнуты думкамі, успамінаў я горы і лясы радзімае старонкі.

Гараць залатым полымем вяршыні святынь у сталіцы[1]; якая цішыня пануе ў паветры! Зазваніў гадзіннік з вежы, і моцнае яго гучанне дасягае далёкіх ваколіц горада. Човен плыве па спакойнай вадзе, чую вясёлыя песні матросаў; у пышных садах

гучыць музыка, да позняга часу доўжацца вясёлыя забавы і не скончыліся яшчэ прыемныя спатканні пад шатамі паркавых дрэваў.

Травеньскія ночы радзімых ваколіц! Мілей мне было сустракаць захад сонца на беразе Нешчарды, не параўнаеш самую вытанчаную музыку з пяшчотным і чароўным спевам салаўёў і самотным голасам зязюль. Дзікія лясы мілей за пышныя паркі! Шум вашых галін акунаў мяне ў роздум, у засені вячыстых дрэў заўсёды адчуваў я нейкія неразгаданыя таямніцы прыроды. У народных апавяданнях сустракаў пачуццё і праўду, адчуваў іх мудрасць і малітвы цэлага народа, мілей гэта ў сто разоў, чым халодныя забаўкі ў багатых салонах.

Мора! Я чытаў пра цябе вершы паэтаў, ціхія і бурапенныя твае хвалі параўноўваў з роднымі азёрамі, калі яны зіхацяць, як крышталь, у зарослых берагах або шумяць у буру. Калі я быў яшчэ зусім малады, дык упрыгожваў людзей дабрынёю і справядлівасцю, а будучае — надзеяю і, быццам у бяспечным порце, ціхамірна марыў у той час пра навальнічнае неба і пра велізарныя акіянскія хвалі.

Мора! У тваіх глыбінях быў для мяне іншы свет, шчаслівы і дзіўны, пра які столькі я чуў апавяданняў з вуснаў простага люду*. Там жыла калісьці дзяўчына Ганна, дачка вялікага Акіяна, каралева духаў, цуд хараства; нябачная моц зямлі і мора імгненна выконвалі ўсе яе загады. Цуд дабрыні, яна ацаніла шляхетнасць маладога хлопца, які спусціўся на дно і стаў перад вялікім Акіянам, каб адслужыць яму за вяртанне свайго бацькі на родную зямлю. Але ён быў слабы чалавек і не мог выканаць наказы пана мора, і тады Ганна, выручаючы каханага, загадала духам, і за адну ноч з'явіліся палацы з караляў і дарагіх перлаў. Ацаніў Акіян дабрачыннасць і мудрасць хлопца, даўшы яму за жонку сваю дачку Ганну.

Мора! Сёння я не так ужо думаю пра цябе. Ты нагадваеш сляпую фартуну: узбагачаеш людзей і кідаеш у бяздонныя глыбіні, няможна расчуліць тваё зімовае лона, калі няшчасны ветразь, занесены хваляю далёка ад роднае зямлі, гіне, самотны, на пустэльных берагах вострава ад тугі або ад голаду, і ў яснае надвор'е не дрэмлюць на тваім дне ненажэрныя пачвары, пазіраючы з адкрытаю пашчаю на марскіх вандроўнікаў. О мора! Ты нагадваеш свет, па якім чалавек ідзе рознымі пуцінамі жыцця.

---

* Змест народнага апавядання пра Ганну, дачку Акіяна.

Хутка зменіцца надвор'е — вецер з усходу; бялеецца над вадою надзьмуты ветразь.О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў! Над горадам вісяць густыя воблакі, а з іх нараджаюцца ўгары дзіўныя прывіды, у паветры будуе нехта велізарны замак, валы і сцены акружаюць яго, вырастаюць высокія гмахі і вежы, непадалёк становяцца ў баявы парадак на конях волаты-рыцары, а праз колькі хвілін відаць толькі руіны, а ўсё войска перамянілася ў клубы дыму; як вужака, прабегла вогненная маланка пасярод хмары.

О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў, зразумейце гэтыя знакі ў пэўных абрысах аблокаў, якія заўсёды перад вашымі вачыма; Божая рука папярэджвае вас, што няма нічога сталага на зямлі, гмахі вашы ператворацца ў руіны, моц, багацці, гонар і слава рассеюцца і зікнуць, як лёгкі дым у паветры.

Вясна! Кароткі твой усмех, кароткі той павеў лагоднага ветрыку, нядоўга цешаць вока барвы садоў; вільготныя туманы засцелюць зямлю, паляцяць птушкі ў вырай, пачнецца вецер і разнясе жоўтую лістоту па могілках, раскідваючы ля ўзножжа цудоўных помнікаў немых стодаў, якія стаяць на магілах знакамітых людзей; калісьці фартуна на дарозе жыцця сыпала ім кветкі, сёння халодны мармур заносіць пяском вецер, і імя іх сканае ў пустэльні нябыту, калі ў жыцці не ўвянчалі яны свае галовы каронаю праўды.

Праўда — пасланніца неба ў гэту юдоль цярпення — ты анёл, вартаўніца і настаўніца ў жыцці, асвятляй нас сваімі прамянямі, калі праўдзівую веру — найдаражэйшы скарб нашых бацькоў, найчысцейшае святло неба — хочуць зацьміць туманы вытанчанае мудрасці пыхлівых і хлуслівых філосафаў.

Калі прырода спіць пад снегам, вые паўночны вецер, мінаюць доўгія цёмныя ночы, тысячы агнёў палаюць у вокнах гмахаў, не перапыняецца вясёлае жыццё сталіцы, і я, самотны, люблю аддавацца марам, мая думка ляціць далёка, да радзімых заколіц, выклікае з магіл паважаных старых, бачыць іх забавы і чуе размовы пра шчаслівыя часіны, пра залаты век, калі чалавек араў сваё поле, будаваў дом сабе і сваім дзецям. Тады ўраджаі былі лепшыя, весела спяваючы, працаваў араты ў полі, у лясах вялося безліч ласёў і дзікіх коз, і паляўнічы лёгка знаходзіў звера, і рыбак упэўнена закідаў нерат у ваду.

Але калі людзі размежылі жалезным ланцугом палі і лясы, калі кожны захацеў стаць багатыром, мець дарагую вопратку і пышныя карэты, — усё змянілася на свеце, багатыя пачалі

прыгнятаць бедных, і ўгневаны Бог не блаславіў людскую працу, змяніліся ўраджаі, мядовая раса, падаючы страшнаю атрутаю на травы перад узыходам сонца, няраз вельмі шкодзіла жывёле.

І цяпер яшчэ старыя, апавядаючы маладым аповесць даўніх часоў, успамінаюць дзіўныя знакі на небе, калі на беразе Балтыйскага мора сышліся дружыны шведаў з велізарным войскам паўночнага Цэзара, дрыжала Нарва і іншыя фартэцыі ад зброі пераможцаў. Зарава страшных пажараў, плывучы ў аблоках ад марскіх берагоў, няраз апоўначы залівала крывёю неба над усёй Беларуссю. Люд, дрыжучы, паглядаў угору, дзе ў хмарах, што дыміліся крывёю змагаліся палкі конных і пешых волатаў, і няраз гэты прывід трываў на небе да ўзыходу сонца.

Часта тэмаю іх размоў бывае год Лебяды, калі падчас тае шведскае вайны валадырылі па ўсёй Баларусі голад і чума. Зямля тады была без снегу, пагоркі без травы падобныя былі да бясплодных стэпаў, паўночны вецер, пралятаючы над голымі палеткамі, нібы над пясчанымі стэпамі, змятаў сухую зямлю і забіваў сваім дыханнем кволую рунь, ад моцных марозаў трэскаўся дол, гінула рыба ў скаваных таўшчэзным лёдам азёрах.

Прыйша вясна, ажылі дрэвы і лугі, але сэрца гаспадара працяў цяжкі смутак: палі былі пакрытыя лебядою, жытнёвыя каласы раслі за некалькі сажняў адзін ад аднаго, на берагі азёр хвалі выкідвалі мноства нежывое рыбы, голад і чума распаўзліся па цэлым краі.

У вёсках апоўначы пад вокнамі некаторых хацін здараліся незвычайныя і страшныя цуды: сонных абуджаў моцны крык дзіцяці, але калі хто выходзіў, каб забраць дзіця ў хату, дык нікога не бачыў на панадворку і плачу не чуў, а толькі абзываліся каля суседніх дамоў сабакі. Такія выпадкі, часта паўтараючыся, даводзілі ўсіх да найвялікшае роспачы.

*«Кара Божа за цяжкія грахі»,* — казаў люд і штодня перад абразом Прачыстае Маці заліваўся слязьмі.

Успамінаюць у размовах сваіх з удзячнасцю і пачуццём і пра Вас, вялікія душы, што былі дабрадзеямі Вашым падданым, суседзям і няшчасным землякам: падчас неўраджаю шчодраю рукою давалі дапамогу бедным сялянам, удовам і сіротам; люд, гнаны жорсткім лёсам і несправядлівасцю, падтрымлівалі мудраю парадаю, уваскрашалі ў сэрцы надзеі, паказваючы ўсемагутнасць божую і міласэрнасць; ніхто без суцяшэння не выйшаў з Вашага дому, і прыгрэты жабрак, пакідаючы Вашы парогі, з суцехаю ў сэрцы бласлаўляў неба. Не шукалі Вы ўзна-

гароды на гэтай зямлі за дабрачыннасць, не шукалі Вы марнае славы, за якой ганяюцца слабыя людзі, як дзеці за цацкаю. Вашы ўзнагароды, Ваша слава перад тварам Бога.

Слынны продак! Магілы твае без аздобы,
Там ніхто не паставіў слупоў мармуровых,
Там бярозы рассыпалі цені жалобы
Па каменні імшыстым ды крыжах хваёвых.

Слынны продак! Бязлітаснай праўды анёла
Бог пашле, каб твае абудзіліся дзеці;
І натхніцца тваёй дабрачыннасцю моладзь,
І вякі залатыя над намі засвецяць...

Днём святога суда свет агорне трывога,
Збудзіць мёртвых сурма, і зямля скаланецца.
Слынны продак! Ты станеш тады перад Богам
У пашане і славе навечна, здаецца.

## ГОСЦІ Ў ХАЦЕ ЗАВАЛЬНІ

Перад Новым годам мой дзядзька, сляпы Францішак і двое суседзяў успаміналі мінулыя часы, гаварылі пра ўраджай і пра няшчасці, якія зазнаў гэты край, калі пасеяны хлеб загінуў у полі і жывёла прапала ад заразы; гутарылі, як палепшыць палеткі і сенажаці, як завесці добры статак; пра выгаду, якую можа мець з гэтага дбайны гаспадар, і як прышчэпліваць садовыя дрэвы; да полудня і папалуднаваўшы, нязменна гаварылі пра гэта. Нарэшце, дзядзька сказаў гасцям:

— На другі дзень Каляд я гасціў у пана Марагоўскага: шмат там было асоб, якіх я бачыў упершыню, а іх размовы не маглі мяне захапіць; Бог ведае што там казалі, пераходзячы ад аднае тэмы на другую; размаўлялі пра сабак і коней, пра шчасце і няшчасце ў картах, лаялі і хвалілі сваіх прыяцеляў, перайшлі, нарэшце, да Біблii. Тут ужо сапраўды паказалі, хто яны: гаманілі пра тое, чаго не разумелі, ды, можа, і не чыталі. Пан Марагоўскі не мог вытрываць і папрасіў іх, каб не паказвалі дурнога прыкладу моладзі і кабетам.

Цудоўна баўлю я сённяшні дзень з добрымі суседзямі; нашы размовы не абражаюць Бога.

— Гэта вяршкі моладзі новага часу, — сказаў пан Сівоха. — Будзе мароз на маладую зеляніну — апамятаюцца, як іх кране ў гневе рука Божая.

— Я заўважыў, — сказаў дзядзька, — што Янка ў час тых размоў сядзеў моўчкі і пазіраў здалёку, зусім не хацеў лезці ў тыя спрэчкі.

— Памятаю, дзядзечка, словы, якія чуў я ад майго настаўніка: людзі робяцца недаверкамі не таму, што бачаць у веры нейкія недарэчнасці, а таму, што, маючы бездапаможны розум і прытупленыя распусным жыццём пачуцці, не могуць ні адчуваць, ні кахаць, ні разумець праўду рэлігіі, дык я маўчаў, бо якая карысць спрачацца з людзьмі, якія маюць такія абмежаваныя веды і пачуцці.

— Гэта праўда. Яны не разумеюць, што значыць быць добрым чалавекам, а думаюць толькі пра заслугі і гербы сваіх продкаў. Але чаму ж не пераймаць іх у даўніх цнотах: даўней шанавалі веру і Бог благаслаўляў жыццё.

Стась, перапыняючы размову, сказаў бацьку:

— А хто сёння будзе расказваць гісторыі?

— Твая чарга, — сказаў той, усміхаючыся.

— Я, тата, раскажу пра Твардоўскага.

— Добра, раскажы пра яго, будзем усе слухаць.

— О! Я шмат чуў пра Твардоўскага, — сказаў пан Латышэвіч. — Гэта быў вялікі чарнакніжнік, але Стась, можа, раскажа нешта новае.

## ТВАРДОЎСКІ І ВУЧАНЬ

— Гаспадар, у якога мы жывём, — сказаў Стась, — апавядаў нам, што Твардоўскі хадзіў у школу ў Полацку, вучыўся добра, ды толькі не слухаўся настаўнікаў, пакрыёма чытаў забароненыя кніжкі і такім чынам дайшоў да таго, што зусім не баяўся смяротэльных грахоў. Нарэшце навучыўся чарнакніжніцтву і душу сваю прадаў злому духу, а прафесары і ксёндзпрэфект нічога пра гэта не ведалі і зрабілі яго выхавальнікам некалькіх шкаляроў з пачатковых класаў.

Твардоўскі ў вольны ад заняткаў час развважаў даручаных яму вучняў, сяды-тады паказваючы ім дзіўныя рэчы. Аднаго дня надвор'е было яснае і ціхае, вучні ў пакоі з адчыненага вак-

на пускалі ў паветра мыльныя шарыкі. Твардоўскі, стоячы побач, сказаў:

— Глядзіце! На вашых шарыках д'яблікі лётаюць у паветры.

І сапраўды, яны ўбачылі, што на празрыстых шарыках сядзелі нейкія стварэнні накшталт крылатых купідонаў: вочкі маленькія, светлыя, робячы дзіўныя грымасы, паглядалі на ўсіх. Адзін перапалоханы шкаляр закрычаў: «Езус Марыя!» — і ўсё імгненна знікла, а пра гэта ані ксёндз-прэфект, ані прафесары нічога не ведалі.

Сярод тых шкаляроў быў Гугон, якога Твардоўскі любіў болей за іншых; на праходках за горадам найбольш з ім гутарыў, і калі Гугон хацеў што купіць і прасіў грошы, ніколі яму не адмаўляў, хваліў яго заўсёды, нібыта той вучыўся лепей за іншых.

Твардоўскі а дзевятай гадзіне вечара, калі вучні кладліся спаць, меў звычку выходзіць з дому і да поўначы бавіўся дзенебудзь у горадзе ў сваіх знаёмых; асобны пакой, дзе ён часам заставаўся адзін, зачыняў на замок, ніхто з таварышаў не ведаў, якія ў яго былі кніжкі, і Гугону не дазваляў заходзіць туды аднаму.

Неяк ён выйшаў з дому і, забыўшыся, пакінуў ключ у замку і дзверы незачыненыя; а дзесятай гадзіне ўсе пайшлі спаць; Гугон жа не тушыў святло і сядзеў адзін; калі прабілі поўнач на званіцы езуіцкага касцёла, а Твардоўскі яшчэ не вярнуўся дадому, Гугон убачыў у замку ключ. Уваходзіць у пакой, на стале бачыць велізарную кнігу ў старасвецкім пераплёце з пергамену, глянуўшы ў яе, здзівіўся, бо першы раз у жыцці сустрэў белы друк на чорнай паперы, і ледзь прачытаў паўстаронкі, з'явіўся перад ім чараваты карузлік, вочы свяціліся белым агнём, твар чорны, як вугаль.

— Навошта ты мяне выклікаў? — сказаў злы дух, гледзячы на Гугона, але таму заняло мову ад пярэпалаху. Угневаны шатан выцяў яго і забіў на месцы, а сам знік.

Пасля поўначы Твардоўскі вярнуўся дадому і знайшоў у пакоі мёртвае цела свайго прыяцеля і разгорнутую кнігу. Зразумеў усё і хуценька выклікаў да сябе шатана.

— Чаму ты забіў няшчаснага юнака? — спытаўся гнеўна чарнакніжнік.

— Таму, — сказаў злы дух, — каб не раскрыў тваю таямніцу ўсім, хто не павінен ведаць пра яе.

— Тут трэба было зрабіць іначай, ані ты, ані я ажывіць яго не можам; цяпер мяне могуць пакараць як забойцу, трэба

затаіць гэтае злачынства, залазь у яго цела, будзеш Гугону замест душы, пакуль не прыйдзе яму час паміраць.

Д'ябал імгненна залез у цела, і Гугон ажыў, але зусім іншы: вочы блішчалі, але гэты бляск быў прыкры, твар у яго быў той самы, ды ў ім было штосьці агіднае.

Прыйшоў у школу; прафесары і аднакласнікі бачылі ў ім нейкую перамену, аднак ніхто не мог дазнацца таямніцы.

На імшы паводзіў сябе нясціпла, смяшыў іншых, а калі ксёндз падносіў святое прычасце, дык ён не мог вытрываць і выбягаў з касцёла, прыкладваючы хусцінку да носа, нібыта спыняў кроў.

Калі пакаранні і напаміны не дапамагалі, яго выгналі са школы, і ён заўсёды быў вялікі непрыяцель усім езуітам, на ксяндзоў пісаў пасквілі, выступаў супраць святое рэлігіі, усім паказваў паганы прыклад, хто толькі з ім пачынаў размову; пасля пакінуў Полацак і невядома дзе згінуў.

— Брава, Стась, — сказаў пан Сівоха. — Кароткае апавяданне, але добрае. Пэўна, сёй-той з нашых маладых панічоў і цяпер яшчэ паўтарае думкі таго д'ябла, што быў у Гугонавым целе.

— Гэта навука, Стась, — сказаў дзядзька, — што трэба ўнікаць злых людзей. Сяброўства з Твардоўскім загубіла Гугона, а шатан мог беспакарана чыніць зло.

— О! Калі б той пан Гугон, — сказаў Латышэвіч, — у сваім жыцці на гэтым свеце быў суддзёю, сакратаром або іншым якім чыноўнікам, дык што б рабілася.

У час гэтае размовы пані Мальгрэта прынесла ліст з чаляднага пакоя і сказала:

— Якуш прыйшоў. Вось ліст ад пана Марагоўскага. Дзядзька прачытаў і, аддаючы мне, сказаў:

— Пан Марагоўскі вельмі ласкавы да цябе, просіць, каб ты да яго прыехаў; можаш сабе ехаць заўтра пасля святое імшы і пабыць дзён колькі. Але няхай зойдзе сюды Якуш. Гэта чалавек гаваркі; вельмі я ўпадабаў ягонае апавяданне пра ваўкалака.

Калі той зайшоў у пакой, дзядзька загадаў даць яму выпіць, закусіць, а сам загаварыў пра гасцей, якіх бачыў у доме пана Марагоўскага. Найбольш дзіўным майму дзядзьку здаўся доўгавалосы, худы, вусаты пан Чубкевіч, які заўсёды бубнеў пра знакамітасць сваіх продкаў, пра камер ажаніцца, бо яго справы ў крытычным стане, і абавязкова трэба шукаць жонку, якая мела б, прынамсі, дзвесце душ пасагу.

Пачуўшы пра Чубкевіча. Якуш пагардліва зморшчыўся і сказаў, ківаючы галавою:

— Няхай бы той Чубкевіч перш глянуў на сябе, чаго вартая ягоная душа. Прадаваў маладых хлопцаў і дзяўчат Бог ведае якім людзям, не зважаючы на слёзы бедных матак. Памучыў людзей, адкажа перад Богам. Хай бы сабе пашукаў Белую Сароку, адпаведная пара была б. Дзіўлюся, што наш пан, які пра сваіх падданых клапоціцца, як бацька пра дзяцей, запрашае яго да сябе.

— Ты раскажы мне, — папрасіў дзядзька, — што гэта за Белая Сарока, пра якую ўспамінаў?

— А ўжо лепей пану пра Белую Сароку распавяду, чым гаварыць пра Чубкевіча, няхай яго Бог карае.

## АПАВЯДАННЕ ВОСЬМАЕ. БЕЛАЯ САРОКА

Вы, панове, ведаеце акружанае цёмным лесам возера Язна, дзе мяжуюць тры паветы: Полацкі, Себежскі і Невельскі. Недалёка ад таго возера быў вялікі маёнтак, жыў у ім пан, якога і цяпер, успамінаючы, называюць Скамарохам, і ён меў падданых у тых трох паветах.

Дык вось той пан Скамароха быў надзвычай неспакойнага нораву, фанабэрлівы і хцівы, да суседзяў ездзіў толькі з прэтэнзіямі, меў грошы і заўсёды судзіўся, крыўдзіў бедных, удоў і сірот. Яго падданыя мелі пекла на гэтым свеце.

Рэдка хто наведваў яго дом. Пры ім неадступна быў вялізны чорны сабака. Слугі заходзілі ў пакой толькі тады, калі ён свістам даваў знаць, што нехта з іх патрэбен.

Скамароха быў адзін у пакоі. Ён як зазвычай пазіраў у люстэрка, падкручваў вус і ўважліва прыглядаўся да свайго круглага твару, што, як расказваюць, быў накшталт поўні. Пасля сеў у крэсла, закурыў люльку і задумаўся, а побач на падлозе заснуў чорны сабака.

Між тым, калі ён перабіраў у думках розныя спосабы, як павялічыць свае ўладанні, на зямлю апусціўся вечар і шэры змрок. Нечакана над яго жытлом павіслі хмары, зашумеў за сцяною вецер і лінуў дождж. У пакоі цёмна, толькі цьмяна блішчацца шыбы.

Ледзь Скамароха ачнуўся ад думак, як бліскавіца асвяціла пакой і ён убачыў, што нейкая дзіўная і страшная постаць стаіць у кутку ля дзвярэй. Ён спалохана закрычаў, стаў клікаць да сябе лёкаяў, але грымоты і шум ветру глушылі крык, ніхто не пачуў пана і не прыбег.

Высокая худая постаць падышла да яго.

— Не крычы, — сказала яна. — Ніхто не пачуе твой голас, і твой чорны сабака моцна спіць.

— Хто ты і як сюды трапіў?

— Пачакай крыху і пра ўсё даведаешся, — кажучы гэта, прывід выкрасаў агонь і запаліў свечку, якая стаяла на стале перад люстэркам.

Пры святле Скамароха ўбачыў дзіўнае стварэнне: чалавек на танюсенькіх нагах, худы, вочы круглыя, дробным і вострым тварам падобны да птушкі. Закрычаў пан дрыготкім голасам:

— Які жахлівы твар! Відаць, перада мною злы дух.

— Не крычы, я падобны да цябе і магу табе шмат добрага зрабіць.

— Чаго ты сюды прыйшоў, ды так ціха, што і сабака не ўчуў?

— Чуеш шум навальніцы? Я схаваўся тут ад залевы і перуноў, а сабака зараз спіць моцным сном і датуль будзе спаць, пакуль я не абуджу яго.

— Скажы, хто ты?

— Сядзь у сваё крэсла, супакойся, і ўсё раскажу табе. Я днём адпачываю, а пасля заходу сонца блукаю па свеце і выведваю, пра што людзі думаюць, пра што гавораць, што ядуць і п'юць. Ведаю сакрэт, як наслаць моцны сон на сабак і варту; слухаю, пра што гаворыць прасталюдзін і выведваю думкі паноў; маё вока хуткае, а слых такі тонкі, што за сцяною (няхай гэта будуць найтаўсцейшыя муры) магу чуць шэпт; па рысах твару пазнаю характары людзей, змушаю іх гаварыць паміж сабою і памятаю пра ўсё; заходжу праз маленькую шчылінку, і дзверы не скрыпяць, калі я іх адчыняю.

Скамароха свіснуў, клічучы да сябе людзей, і штурхануў нагою сабаку.

— Дарэмна свішчаш: ніхто не пачуе. Шуміць вецер, лье дождж, і сабаку не абудзіш.

— Чаго ты блукаеш па свеце? Навошта ты ўсё выведваеш?

— Я — пасланец Белае Сарокі, даведаўся пра твае памысныя думкі і прывабныя намеры.

— І хто ж тая Белая Сарока, якую ты ўспомніў?

— О! Белая Сарока мудрасцю свет здзіўляе, яе твар — цуд прыгажосці, постаць высокая, велічная; адзенне з дарагіх дыяментаў і перлаў, жыве ў палацы, якога ты яшчэ ніколі не бачыў, ёй кланяюцца багатыя паны і мудрыя галовы, духі па яе загадзе здабываюць скарбы з зямлі і мора, дзікіх мядзведзяў прывучыла да сябе, і тыя, як пакорлівыя сабакі, заўсёды гатовыя ёй служыць. Словам, яна мацнейшая за ўсіх чарнакніжнікаў. Толькі часам убіраецца ў пёры белае птушкі, калі хоча бачыць тых, хто спрыяе ёй; і іх узнагароджвае, узбагачае, робіць шчаслівымі.

Бледны Скамароха, гледзячы на пасланца, вымавіў:

— Дзіўныя і незразумелыя рэчы мне гаворыш.

— Заўтра гэтай парою я буду ў цябе, і Белая Сарока прыляціць у твой дом адпачыць. Пастарайся прыняць яе добра і будзь у размове абачлівы; апоўначы лёкаі няхай не заходзяць у твой пакой, няхай першы візіт гэтае пані будзе таемны.

Ён адчыніў вакно, паглядзеў угору:

— Хмары разышліся, толькі вецер шуміць. Здаецца, стрэлы перуноў не спаткаюць мяне на дарозе, не міне і паўгадзіны, як буду размаўляць пра цябе з Белай Сарокаю.

Сказаў гэта і выскачыў у вакно. Гаспадар бачыў толькі, быццам нейкі чорны звер прабег праз панадворак і імгненна знік.

Доўга Скамароха стаяў, нібыта слуп, сярод пакоя; нейкая трывога апанавала думкі, і дрыготка прабегла па целе. Што значыць гэты прывід? Няўжо гэта відма? А можа, злы дух хоча ўблытаць яго ў нейкае няшчасце? На сцяне прабіў гадзіннік. Скамароха глянуў на яго і ўбачыў, што ўжо поўнач. Свіснуў. Сабака прачнуўся, натапырыў поўсць, вочы загарэліся агнём, і ён, скуголячы, абышоў пакой. Прыбеглі лёкаі і, стоячы ля дзвярэй, чакалі панскага загаду.

— Таму з паўгадзіны, не больш, я клікаў вас да сябе, але аніводзін не з'явіўся. Што гэта значыць? Мружыце вочы на святле — спалі, мала вам ночы, гультаі!

Першы лёкай. Не ведаю, пане, што гэта такое, што на нас напала нейкая туга. Мы доўга сядзелі моўчкі, не маглі слова прамовіць адзін да аднаго. Потым адчулі ў сабе незвычайны цяжар, стомленыя вочы не маглі глядзець, і мы ўсе мімаволі заснулі.

Скамароха нейкі час стаяў задуманы.

— А ці мроілася вам што-небудзь у сне?

Першы лёкай. Мне сніўся дзіўны сон: бачыў старога пана нябожчыка, быццам з ім пераходзіў нейкую пустэльню,

дзе шмат было страшных гадзюк. Яны ўвесь час заступалі пану дарогу, нібыта хацелі ўтнуць. Ён, журботны, не кажучы мне ані слова, усё далей і далей ішоў сярод нейкіх скалаў. Потым бачыў мясцовасць, зусім не падобную да нашых ваколіц, і нейкія руіны. На захадзе ў чорных хмарах гасла сонца і шумеў голы лес. Я ўбачыў недалёка ад дарогі жахлівых звяроў і закрычаў: «Пане, давайце вернемся дахаты. Нас напаткае цёмная ноч, а падарожжа небяспечнае». — «О, доўгая і страшная будзе ноч, — адказаў ён мне, плачучы. — Не хутка звон і ранішняя малітва прывітаюць узыход сонца, гэтых звяроў я не баюся, але цябе яны могуць загрызці, дык не адыходзься ад мяне». Тут пачвары кінуліся на нас. Я перапалохаўся і страціў прытомнасць, а цяпер вось абудзіўся і яшчэ дрыжу ад страху.

Другі лёкай. А мне здавалася, што я хадзіў ля каламутнае рэчкі, а на берагах з аднаго і другога боку тырчалі камяні, і яны былі падобныя да нейкіх сядзячых людзей у доўгіх брудных апранахах. Потым мне сустрэўся волат, тоўсты, шыракаплечы, вочы страшныя. Хацеў ад яго ўцячы, але ногі мае здаліся закутымі ў кайданы, з месца зрушыцца не мог. Ён падышоў да мяне і выцяў так моцна, што я заляцеў амаль на самую сярэдзіну рэчкі. Калі мяне несла вада, я крычаў, просячы дапамогі, ды на мой крык толькі камяні адказвалі дзікім смехам, і гул ад іх здзекаў лунаў над берагамі. Пасля я ўбачыў: здалёк мой бацька падымаў да неба рукі і маці млела, бо мне не маглі дапамагчы. Затым зноў нечаканая перамена: я стаяў над нейкім бяздоннем і там мяне зноў спаткаў той страшны чалавек. Ён папхнуў мяне ў прорву — і я імгненна прачнуўся ў вялікім страху.

Трэці лёкай. Мне снілася бура. Яна зрывала дахі з дамоў, а вецер нёс нейкага шатана і скінуў яго перад самым ганкам...

— Годзе, годзе ўжо слухаць гэтае глупства; шум ветру і вільготнае паветра наслалі на вас цяжар і санлівасць, а гарачая кроў абудзіла ў галавах мудрагелістыя мроі. Ідзіце да сябе і кладзіцеся спаць.

Скамароха зноў у адзіноце неспакойна хадзіў па пакоі. Дзіўныя думкі снаваліся ў ягонай галаве, жахлівая здань увесь час стаяла перад ім. Уздрыгваў, прыгадваючы яе агідную постаць, але золата любіў так, што хацеў мець яго як мага болей, няхай сабе і з шатанавых рук, і прыгажосць Белае Сарокі вабіла яго. Хацеў пабачыць яе як найхутчэй і быць у ліку яе прыяцеляў.

Ён парывіста хадзіў па пакоі, то задумаўшыся, стаяў як слуп. Браў кніжку і адразу кідаў яе ды гладзіў свайго сабаку. Спадзя-

ваўся, што стомленыя думкі супакоіць сном, але імгненна ўскокваў з ложка, запальваў святло і думаў усё пра адно. Толькі перад узыходам сонца крыху задрамаў, ды і ў тым неспакойным сне мроіўся яму пасланец Белае Сарокі.

Ціхі ранак. Ужо сонца было высока. На пагорках пасвіліся чароды, аратыя працавалі ў полі. Пан Скамароха на ложку разважаў пра дзіўны ўчарашні выпадак. Нарэшце свіснуў. Прыбег лёкай і стаў чакаць загаду.

— Паспяшайце, каб сёння ўсе пакоі былі як найлепей прыбраныя. Вымыць падлогу, сцены і столь добра агледзець, каб не было пылу і павуціны. Таксама адпаліраваць мэблю і бронзу, люстры, каб адбівалі найяснейшае святло; абразы і шыбы старанна пачысціць, каб былі як новыя. Скажы аканому, каб паўсюль вакол маёнтка таксама быў парадак.

— Пан сёння чакае нейкіх знакамітых гасцей? — спытаўся здзіўлены лёкай.

— Не твой клопат ведаць, каго чакаю, выконвай, што чуў. Ідзі і гэты мой загад перадай іншым.

Сказаўшы гэта, пан Скамароха выйшаў у парк, доўга хадзіў у задуменні пад шатамі ліп, свіснуў, паклікаў сабаку да сябе і пайшоў у поле. Блукаючы паўсюль, нецярпліва чакаў вечара.

Тым часам лёкаі, гаворачы між сабою, дзівіліся нечаканай перамене пана, апавядалі адзін аднаму страшныя сны, якія бачылі ў час учарашняе буры. А між тым праца ў пакоях ішла спорна і перад захадам сонца адпаліраваная мэбля, бронза і люстры былі як новыя.

Вось ужо і вечарэе. Скамароха загадаў лёкаям вывесці сабаку і каб ніводзін з іх не заходзіў да яго, пакуль не пакліча. Самотна ходзячы па пакоі, паліў люльку. Пасля адчыніў вакно: усюды панавала цішыня і ўжо колькі зорак свяцілася на небе. Запаліў свечку, паставіў на стале — і тут убачыў у куце ўчарашняга госця. На тонкіх нагах, вочы, як дзве іскрынкі, кідалі святло, і дзікі смех прабягаў па яго брыдкім твары. Перапалоханы Скамароха адскочыў на некалькі крокаў і сказаў:

— Не магу глядзець на цябе без агіды, твой твар мне страшны.

— Слабыя нервы маеш. Калі пазнаёмімся бліжэй, дык на ўсё будзеш глядзець без прыкрасці ды страху і лепш уладкуешся на свеце. Ты добра падрыхтаваўся прыняць госцю, зараз яна прыляціць.

Толькі сказаў гэта — залятае ў вакно сарока, большая і зграбнейшая за іншых сарок, пёры на ёй белыя, як снег, вочы

чорныя. Апусцілася на стол. Здзіўлены гаспадар паглядае на жвавыя і імклівыя рухі прыгожае птушкі. Зляцела на падлогу — і ў міг вока стаіць пасярод пакоя кабета чароўнае красы: рост высокі, твар ружовы, вочы вялікія, поўныя прывабнасці, на галаве і на ўсім адзенні зіхацяць дыяменты і каштоўныя камяні. Скамароха аслупянеў, слова вымавіць не асмельваецца. Яна ж такімі словамі перапыніла маўчанне:

— Калі ляцела, дык бачыла прыгожыя горы і лясы гэтае краіны, тут вельмі шмат азёр. Думаю, жыхарам нічога не бракуе?

— Так, пані, — сказаў з паклонам ціхім голасам гаспадар. — Нашыя мясціны прырода адарыла ўсім, што толькі трэба чалавеку.

— Я даўно мелася пабываць тут, спазнаць гэты край і яго жыхароў. Спадзяюся, што знайду тут сабе зычлівых прыяцеляў.

— Шмат хто будзе мець за шчасце ўбачыць пані.

— А як маюцца тутэйшыя падданыя?

— І яны шчаслівыя. На лугах і пагорках даволі травы для вялікіх чародаў.

Белая Сарока села на крэсла, а пан Скамароха — ля яе. Доўга апавядаў ёй пра берагі Дрысы і Дзвіны. Расказваў, хто ў ваколіцах як жыве, якую славу мае сярод суседзяў, якія даходы з фальваркаў. Расказваў, як гандлююць з Рыгаю, калі разальюцца вясною рэкі, і якая выгада ад таго жыхарам гэтага краю. Размова без перапынку цягнулася да поўначы.

— Я яшчэ наведаю гэты край. І ты пазнаёміш мяне са сваімі добрымі суседзямі. А зараз мушу спяшацца дадому: ужо поўнач, а дарога далёкая.

Сказаўшы гэта, пакланілася гаспадару, імгненна перамянілася ў Белую Сароку і вылецела ў вакно.

Скамароха доўга стаяў здзіўлены і глядзеў туды, дзе схавалася яна ў начной цемры. Вярнуўшыся да крэсла, на якім сядзела гэтая прыгажуня, убачыў пасярод пакоя яе пасланца. Той трымаў велізарны мех золата.

— Белая Сарока ахвяруе табе гэты падарунак, каб быў верны сам і іншых знайшоў, адданых ёй. Яна наведае твой дом, калі тут ужо будзе некалькі тваіх суседзяў, сапраўды зычлівых да яе.

Сказаўшы гэта, пасланец выскачыў у вакно і знік.

Скамароха самотны хадзіў па пакоі. Дзіўныя мроі снаваліся ў ягонай галаве. Багаты ўбор і незвычайная прыгажосць Белае Сарокі і цяпер стаялі ў яго ўваччу. Ні на хвіліну не мог забыць

пра яе, і ад гэтых думак прапаў сон. Ні на волас не заснуў, а ўжо ўсё прачнулася і сонца было высока.

Свіснуў. На панаў выклік прыбег лёкай, і, скуголячы, ускочыў у пакой чорны сабака. Гладзячы сабаку, Скамароха загаварыў да слугі:

— А што, і сёння, можа, мучылі вас жахлівыя сны?

— Ах, пане! Нейкая туга напала на нас і гэтае ночы, — адказаў лёкай. — Ва ўсіх нас сон быў кароткі і неспакойны. Вартаўнікі расказваюць, што чулі яны ўначы, як па вёсках вылі сабакі, рыкала жывёла, і бачылі, як з поўначы, шугаючы полымем, ляцеў цмок і іскры сыпаліся з яго; пэўна, нёс золата для нейкае душы, што пабраталася з д'яблам. А аканом казаў, што некаторыя бачылі кабету, якая плакала на цвінтары, ды так, што яе голас наводзіў на ўсіх трывогу і смутак.

Скамароха, крыху змяніўшыся з твару і задумаўшыся, шпарка прайшоўся па пакоі.

— Не кажы больш такое лухты. У вас заўсёды ў размовах нейкія цуды і прароцтвы, вы як тыя забабонныя бабы — кожная рэч вас узрушае і пазбаўляе спакою. Скажы, каб запрагалі коней, паеду сёння да пана Л. і пана С., а можа, і іншых суседзяў пераведаю.

Ездзячы ад маёнтка да маёнтка, ён усюды з захапленнем апісваў прыгажосць, багацце, розум і шчодрасць Белае Сарокі. Са здзіўленнем усё слухалі гэтыя апвяданні і рознае пра іх казалі. Некаторыя даводзілі: тут схавана нейкая здрада і што заплацяць за яе вялікім няшчасцем. Іншыя радаваліся і прасілі пана Скамароху, каб пахваліў іх перад Белай Сарокаю, калі яна другі раз наведаецца ў ягоны палац, і з нецярплівасцю чакалі дня, калі змогуць яе ўбачыць.

Прыехалі да Скамарохі госці. Былі яны ўсе з ліку заўзятых прыхільнікаў Сарокі, хоць бачыць яе яшчэ не мелі мажлівасці. З самага пачатку забаранілі лёкаям заходзіць у святліцу, каб тыя не чулі сакрэтных панскіх размоваў. Келіхі з цудоўным віном стаялі на стале. Скамароха весела апавядаў, якую гаворку меў некалі з Белай Сарокаю. Натхнёна і з запалам гаварыў пра яе розум і хараство, даводзячы, што за ўсё жыццё не бачыў, нават на дасканалых і дарагіх карцінах, такіх высакародных і прыгожых кабетаў.

Гадзіннік прабіў поўнач. Ноч была пагодная, ціхая, і поўня свяціла ў адчыненае вакно. Гаспадар наліў у келіхі віно:

— Вып'ем за здароўе пані, якая ўвесь час была галоўнай асобаю нашых прыемных размоў.

Ледзь сказаў — з хуткасцю бліскавіцы залятае ў вакно Белая Сарока і апускаецца на стол пасярод поўных келіхаў. Уражаныя гэтым, усе, гледзячы на яе, паўскоквалі са сваіх месцаў. Нечаканае маўчанне ў пакоі. Зрабіўшы колькі хуткіх рухаў на стале, яна глянула на гасцей, лёгка, як вецер, зляцела на падлогу, — і вось ужо бачаць усе перад сабою кабету дзіўнае прыгажосці, усю ў дыяментах і перлах.

— Здалёку спяшалася да вас, спадзеючыся знайсці тут зычлівых сваіх прыяцеляў, — сказала яна. — Не памылілася ў спадзяваннях: бачу, у гэтай грамадзе ўсе добрыя сэрцы. Я ўмею ацаніць іх жаданні і буду шчыра думаць пра ваша шчасце.

— Так, пані, — сказаў гаспадар. — Імя ваша ўвесь гэты час нязменна было на нашых вуснах. Усе, каго пані бачыць перад сабою, найшчырэйшыя вашы прыхільнікі і самыя аддадныя лёкаі — да скону.

Затым Белая Сарока села ў крэсла, ласкава размаўляла з кожным госцем, распытвала пра гаспадарку і прыбытак з фальваркаў, выказвала свае заўвагі і давала парады.

Хутка бег у гэтых размовах час. Гаспадар узяў са стала поўны келіх і сказаў:

— Давайце вып'ем за здароўе нашае пані.

І ўсе госці з поўнымі келіхамі ў руках закрычалі разам:

— Няхай жыве Белая Сарока! — І адным глытком выпілі да дна.

Яна ўстала з крэсла, дзякуючы ўсяму застоллю, пакаштавала віна і паставіла келіх на стол. Так амаль уся ноч прамінула ў размовах і тостах.

Ужо заранка паказалася на небе, заружавеліся воблакі перад узыходам сонца. Яна падзякавала гаспадару за гасціннасць, а гасцям за іх зычлівыя пажаданні, перамянілася ў Белую Сароку і вылецела ў вакно.

Кажуць, што яна гэткім чынам наведвала начамі ўсіх тых, з кім пазнаёмілася ў палацы пана Скамарохі, і ўсюды за яе здароўе лілося віно і гучалі віваты.

У хуткім часе пачалі спраўджвацца прадчуванні простых людзей. Тая страшная чараўніца патаемна разаслала ва ўсе бакі шкоднікаў, каб яны крыўдзілі бедных сялян. Раскажу панам выпадак, які ў той час здарыўся недалёка адсюль у вёсцы Клішкове, там усе пра гэта і зараз успамінаюць.

Дойныя каровы, усе адразу, пачалі сохнуць, і малако ў іх зусім прапала. Бясспрэчна, чары. Па ўсіх ваколіцах былі чуваць скаргі і нараканні, ды не можна было ўведаць, адкуль

прыйшло тое зло. Выпадкам адзін вартаўнік з Клішкова, перад самым узыходам сонца вяртаўшыся дадому, убачыў, што сарока, белая, як снег, вылецела з хаты аднае кабеты, якой пан у той вёсцы пабудаваў новую хату з вялізнымі вокнамі. Вартаўнік расказаў гэта іншым. Сталі падазраваць, што там жыве чараўніца, пачалі сачыць рознымі спосабамі, каб вывесці на чыстую ваду гэта злачынства.

Нарэшце пра ўсё даведаліся дзіўным чынам. Калі чараўніца на Купалле, схаваўшыся ў дзікім лесе, брала ў прыгаршчы расу і заклікала злых духаў, каб яны, збіраючы з усіх ваколіц малако, напаўнялі яе посуд, а нанятая за колькі дзён перад тым пахолка, не ведаючы пра намеры свае гаспадыні, павымывала ўсе гліняныя збанкі і драўлянае начынне, перакуліўшы, паставіла сушыць. Злыя духі, не ўбачыўшы гэтага, цэлую ноч насілі малако, вылівалі на падлогу, і раніцаю ўся вёска ўбачыла, што з-пад чараўніцынай хаты плыве глыбокая малочная рака. Не мінула б чараўніцу смерць, ды, калі даведалася пра ўсё, імгненна ператварылася ў птушку і адляцела недзе далёка.

Тады было шмат заломаў у жыце, з'явіліся такія порсткія звяркі, што забіць іх было немагчыма, і яны па аборах стрыглі авечак, а мядзведзі, нападаючы ўсюды на пчальнікі, збіралі мёд.

Яшчэ больш дзіўную рэч скажу панам: паўсюль снавалі такія зграі ваўкалакаў, што страх было выйсці ў поле.

— Чаму ты іх называеш ваўкалакамі? — спытаўся дзядзька. — А можа, гэта былі сапраўдныя ваўкі, што набеглі з іншых лясоў, ратуючыся ад пажараў? Гэтак мядзведзі і іншыя звяры пераходзяць з аднае мясціны ў другую.

— Ведаю добра, — сказаў Якуш, што гэта былі ваўкалакі, бо, як расказваюць, шыі ў некаторых з іх былі белыя, чорныя і іншых колераў.

— А чаму?

— Таму што яны — людзі, перавернутыя ў звяроў. Якога колеру раней насілі хусткі на шыях, такая поўсць на шыях зрабілася.

— Дзіўныя кажаш рэчы!

— Але праўдзівыя. Нешчаслівы быў час, наракалі на гора свае людзі, раздзірала сэрца выццё ваўкалакаў.

— Што ж потым здарылася з панам Скамарохам і іншымі прыхільнікамі Белае Сарокі?

— Белая Сарока, чуючы людскія праклёны і даведаўшыся ад д'яблаў, што стральцы з набітымі стрэльбамі сочаць за ёю, адляцела далёка і больш не з'яўлялася ў нашым краі. Але зло,

якое яна пакінула, распаўзлося па наваколлі. Тыя, што пілі віно за яе здароўе, п'юць слёзы няшчаснага люду. Пан Скамароха выехаў з гэтае мясцовасці, і кажуць, быццам ён у палацы Белае Сарокі ў абліччы страшнага мядзведзя вартаваў яе незлічоныя скарбы.

Тут Якуш скончыў сваю аповесць пра Белую Сароку, узяў шапку.

— Куды спяшаешся? — спытаўся дзядзька. — Ці табе пан казаў абавязкова сёння вярнуцца?

— Пан дазволіў мне зайсці ў карчму на ігрышча, пабачыцца са знаёмымі ды павесяліцца. А заўтра перад світаннем, перш чым устануць у маёнтку, абавязкова трэба быць дома. Ужо сонца нізка, хутка цямнець пачне.

— Кланяйся ад мяне пану і скажы, што Янка заўтра пасля святое імшы абавязкова ў яго будзе.

## АПАВЯДАННЕ ДЗЕВЯТАЕ. ПАКУТНЫ ДУХ

У час размовы Завальні з гасцямі сляпы Францішак сядзеў моўчкі, а калі Якуш апавядаў пра Белую Сароку, заглыбіўся ў нейкія журботныя думкі; але па твары можна было бачыць, што гэтае апавяданне моцна кранула яго душу. Дзядзька, каб перапыніць яго маўчанне, сказаў:

— Пан Францішак доўга ўжо маўчыць, і здаецца, яго нешта хвалюе.

— У дзяцінстве ўжо скончыліся мае вясёлыя забавы, калі дзень схаваўся ад мяне; сярод ночы, якая ніколі не канчаецца, увесь час чую скаргі няшчасных людзей: пакуты іншых балюча раняць сэрца таго, хто і сам тое зазнаў.

— Ат, Бог міласэрны, усяму некалі будзе канец. Янка, папрасі прынесці нам гарэлкі і закускі, ужо час падсілкавацца. Наш век кароткі, нап'ёмся водкі.

Калі выпілі і закусілі, дзядзька сказаў гасцям:

— Дзякуй Богу, праз некалькі хвілін прыйдзе Новы год, міласэрны Бог дазволіў нам сустрэць яго ў добрым здароўі. Пакуль певень праспявае поўнач і міне апошняя гадзіна года, пан Францішак раскажа нам што-небудзь, калісьці ім чутае на

свеце, бо ў сваім жыцці ён шмат сустракаў людзей і памятае ўсе размовы з імі, а пасля чарга пана Сівохі.

— Мае апавяданні наўрад ці могуць усім падабацца, бо я памятаю толькі сумныя.

— Яны ў нашым краі ўсе сумныя, — сказаў Сівоха. — І мае гісторыі нікога не насмешаць. Няхай пан Францішак пачынае, а я тым часам, можа, што-небудзь прыпомню.

— Згодны, калі ўжо такая воля гаспадара і гасцей, — сказаў сляпы і пачаў апавяданне:

— Гадоў колькі таму ехаў я з Полацка ў Невель; выехаўшы з горада, хутка апынуўся сярод лясоў, над галавой шумелі дрэвы, конь мой ішоў паволі — быццам з нагружанай фурманкаю па пясчаных пагорках, — я сядзеў, марачы пра сёетое, а таварыш мой ішоў пешшу. Перапыняючы мае думкі, ён сказаў:

— Праехалі дваццаць пяць вёрст. Ужо недалёка вёска і карчма Бабавікі, трэба каб конь там адпачыў крыху; яшчэ некалькі вёрст — і будзе рэчка і добрая паша; напасвіўшы добра каня, будзем ехаць усю ноч, бо дзённая спякота і нас мучыць, і каня мардуе.

Я ахвотна згадзіўся з яго парадаю.

Прыехалі ў вёску; мой таварыш завіхаўся каля воза; а я, седзячы ў карчме, слухаў размовы і розныя думкі тутэйшых сялян пра нейкага незнаёмага чалавека. Потым завязалася між імі спрэчка: адны даводзілі, што ён, гнаны лёсам, а таксама нявінна пакутуючы ад людзей, мусіць туляцца па свеце; іншыя ж называлі яго гультаём і шкадлівым чалавекам, з якім страшна сустрэцца. І гэтая іх спрэчка такая была гарачая, што даходзіла да бойкі.

— Ужо каторы тыдзень, — сказаў адзін з іх, — як ён з'яўляецца ў розных мясцінах нашае ваколіцы. Нібыта ёсць такія, хто ведае яго, ён бывае ў іх і, забавіўшыся там нейкі час, зноў выходзіць, каб блукаць па гарах і лясах. Ён спакойны і лагодны; кажуць нават, што бачылі некаторыя, як, спаткаўшы ўбогіх, даваў ім кавалак хлеба або дзяліў між імі апошнія грошы.

— Пэўна, ён звар'яцеў, калі апошні кавалак хлеба або апошнія грошы аддае іншым, не думаючы пра заўтра; разумны чалавек найперш павінен забяспечыць сябе; век звекаваць — не пальцам паківаць, дык няхай кожны думае пра сябе. Якое гэта жыццё, калі свае нары не маеш, каб схавацца ад дажджу і буры, — такі чалавек не заробіць у мяне і слова добрага.

Трэці загаварыў да мяне:

— Едзеш, як бачу, у Невель; будзь асцярожны, каб не сустрэцца з якім няшчасцем: у нашых лясах рознае бывае, і пра таго незнаёмага Бог ведае што думаць.

— Я не баюся, — кажу, — скарбаў не вязу.

— Калі так, то шчаслівае дарогі!

І ўся грамада, спрачаючыся, выйшла з карчмы.

Хутка прыйшоў мой таварыш.

— Каня запрог, — кажа, — паедзем далей, лепей там, ля рэчкі, дзе шмат травы і вады, адпачнём болей.

Сказаўшы гэта, ён дапамог мне дайсці да воза.

Мы былі ўжо на прызначаным месцы, фурманка наша стаяла на беразе рэчкі, таварыш мой павёў каня туды, дзе бачыў болей травы, я сядзеў пад дрэвам, дзень набліжаўся да вечара, нада мною тужліва скардзілася зязюля, і непадалёку ў кустоўі салоўка не спыняў сваіх пяшчотных і прыгожых песень; я, самотны, акунуўся ў прыемныя ўспаміны.

— Цудоўны вечар, — сказаў нехта побач, перапыняючы мае думкі.

— Цудоўны вечар, — адказваю, — ціха ўсюды, і як чароўна вакол спяваюць салоўкі.

— Але, бачу, ты маеш толькі палову прыемнага, бо чуеш птушыныя спевы, а блакіту неба, вясновае аздобы гор і лясоў не бачыш.

— Даўно туляюся па свеце, не бачачы яго.

— Прыкра не бачыць свет, але прыкра таксама мець добрыя вочы і бачыць далёка.

— Чалавек не можа бачыць і чуць далей, як яму прырода дазволіла.

— А ці верыш, што ёсць цуды на свеце? Я не толькі бачу і чую вельмі далёка, але і перакідваюся ў розныя аблічча.

— Не разумею, як можа чалавек перамяняцца ў розныя аблічча.

— Не бачыш мяне і ўбачыць не можаш.

— Хто ж ты такі? Ты тутэйшы ці таксама вандруеш?

— Я — пакутны дух, вандрую да вечнасці шпарчэй за іншых.

— Нейкі неспакой ляжыць на тваёй душы.

— Так, неспакой. Пакутнаму цяжка быць спакойным; хворы на ложку глядзіць у розныя бакі, каб хоць крыху суцешыць боль, — і я, каб знайсці палёгку, мяняю воблік. Раскажу табе пра страшны мой грэх. Калі мяне падманулі надзеі і душа акунулася ў смутак, здалося мне, што лятучае зелле, якое прыносіць спакой і шчасце, можна знайсці толькі на могілках;

марачы пра яго і шукаючы тую кветку, часам да ночы, як вурдалак, блукаў я між магіл, думаў пра духаў, зайздросціў іх шчасцю і спакою, — саграшыў, ах! І, можа, той грэх атруціў кроў маю, расхваляваў нервы, страсянуў усю маю натуру, у цяжкай немачы цела напружыўся слых і вочы зрабіліся, як вочы духа. Бачу і чую далёка — жахлівая хвароба! Не могучы яе трываць, мяняю свае аблічча і не знаходжу палёгкі.

— Што ж ты чуў або бачыў на свеце, — кажу, — што так мучыць душу тваю?

— Бачыў дзікіх пачвараў, якія рвалі дзяцей і кабет; слухаючы лямант тых няшчасных, велізарныя скалы не рушыліся з месца, а водгулле толькі паўтарала енкі пакутных ахвяр і змаўкала. Гледзячы на гэтую велізарную сцэну, я сам быў пачвараю, я праклінаў зоркі, што абыякава глядзелі з неба на ўсё гэта, і хмары, што не стрэлілі ў пачвараў вогненнымі перуновымі стрэламі.

Яшчэ скажу табе: людзі-волаты на ўсіх паглядаюць зверху, быццам на нікчэмных карлаў, мараць пра славу, дрыжаць перад найменшаю непагодаю, ідуць з трывогай і асцярожнасцю па шырокай дарозе, баяцца ступіць на калючыя церні; я сустракаў іх, бачыў малыя душы ў велізарным целе, страсянулася ўся мая натура, не ведаю, як глядзеў на тых волатаў зверху і пагарджаў іх вялікасцю.

Вандруючы ў самы поўдзень, калі была наймацнейшая спякота, я сеў пры дарозе на траву, каб адпачыць у засені бярозы. Нехта хітры ішоў дарогаю, я здалёк убачыў у ім атрутную кроў, не ашукаў мяне, хоць набліжаўся ў аблічча вужакі, хаваючыся сярод хмызняку і травы.

Надзея яго падманула, бо ўжо і я быў таксама ў вобліку змяі: глянуў мне ў вочы, але не мог вытрымаць майго позірку: кінуўся ў хмызы і схаваўся ў гушчары лесу.

Доўгае апавяданне атрымалася б, каб табе пералічыў усе постаці, якія неахвотна і з болем мусіў браць на сябе, блукаючы па вёсках, гарадах і мястэчках. Калі ў багатых дамах гарэла святло, гучала музыка і вясёлыя забавы, перадавалі з рук у рукі келіхі, а пад саламянаю страхою селянін у галечы, галодны, падымаў да неба замглёныя слязьмі вочы, я ў аблічча звера хаваўся ад залеваў пад галінамі густое яліны, слухаючы, як вецер шумеў у цёмным лесе.

Бачачы гэтыя перамены ў маёй натуры, некаторыя мяне не зразумелі, называлі неспакойным і дзікім.

Ціха... чуеш галасы? Крычаць: «Воўк! воўк!» Яны ўбачылі мяне — я ў постаці воўка — стрэляць хутка. Бывай! Я схаваюся ў лясных нетрах і пакіну назаўсёды гэты край.

Там, куды ён пабег, пачуўся шум галін, а я думаў, седзячы, пра тую яго гаворку, як пра дзіўны сон. Прыйшоў мой таварыш.

— Ужо сонца нізка, — кажа, — час каня запрагаць. Паедзем далей.

— Ці бачыў ты ля мяне каго-небудзь?

— Тут не бачыў нікога, — адказаў ён, — а бачыў — толькі вельмі далёка — хтосьці хутка прабег па гары. Не ведаю: ці звер, ці чалавек.

— Гэта, пэўна, той самы незнаёмы, — сказаў Завальня, — пра якога спрачаліся і была бойка ў карчме.

— Пэўна, ён. Сапраўды пакутны дух.

Едучы цэлую ноч, я не мог ні на хвіліну пра яго забыць і, думаючы, нязменна бачыў яго перад сабою ў размаітых абліччах. Успамінаў спрэчкі, якія чуў у карчме, лаянку і розныя думкі пра незнаёмага чалавека. Такія вось заўсёды абгаворы людскія! Аднаго пахваламі ўзносяць да неба, другога топяць, называючы гультаём і нягодным чалавекам. Адзін толькі Бог справядлівы суддзя: прыйдзе канец свету, тады ўбачаць, хто як жыў і чаму перакідваўся ў розныя постаці.

— Апавяданне пана Францішка, — сказаў Латашэвіч, — смутак наводзіць; крый Божа мець такі характар. Душэўны чалавек ніколі не будзе спакойны і шчаслівы.

— Усе яго апавяданні такія, — сказаў дзядзька. — Памятаю, апавядаў мне пра аднаго, што называў сябе Сынам Буры і туляўся па цэлым свеце, нідзе не знаходзячы спакою.

## ВЕЧАР ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Воблакі, нібы туманы, закрывалі неба, моўчкі стаялі ля дома майго дзядзькі клёны і бярозы, аснежаныя хвоі нагадвалі белыя слупы, вячэрні змрок разліваўся ў паветры, у пакоі гарэла на стале свечка. Дзядзька, сляпы Францішак, пан Сівоха і пан Латышэвіч ад апавяданняў перайшлі да размоў пра шчаслівае і нешчаслівае жыццё сваіх знаёмых і суседзяў.

— Вось пражылі мы, дзякуй Богу, і яшчэ год, — сказаў Завальня. — Я нарадзіўся і вырас у гэтым краі, не падарожнічаў

нідзе далёка, аднак досыць пабачыў у жыцці; колькі пераменаў розных памятаю! Калі б падняўся з магілы хто-небудзь з нашых дзядоў і ўбачыў цяперашнія звычаі, дык не пазнаў бы свае радзіны. Яму б здалося, што ўстаў з мёртвых недзе ў чужой краіне, — да якіх часоў дажывуць мае дзеці? Не шкадую выдаткаў на выхаванне, раблю што магу, але калі выйдуць на свет з-пад вока майго і настаўнікаў няхай ужо Бог бароніць іх душы ад злых і бязбожных людзей.

— Ат, пане Завальня, — сказаў Сівоха, — мы самі вінаватыя, што д'яблы размножыліся ў нашым краі; прычына ўсяму — глупства шляхты, хцівасць і нязгода паноў; не буду доўга пра гэта гаварыць: гісторыя ўсім вядомая, да сённяшняга дня не забылі гэтых вершаў:

***Кошка Цяліцу забіла,***
***Жук, Жаба Кошку судзіла,***
***А што справа была кепска —***
***Перанеслі да Віцебска.***

А што зрабілі ў Віцебску? Кошка быў з паноў, дужа прагных да багацця. Абараняючыся сяброўскімі пратэкцыямі, не пакінуў, а яшчэ болей пачаў шкодзіць усім. Цяліца памёр за праўду, і пра яго заўсёды ўспамінаюць як пра добрага чалавека.

— Так заўсёды ў нас, — сказаў пан Латышэвіч, — за Дзвіною ва Ушачах сабраліся на раду.

— Але досыць ужо пра гэта: калі я такое слухаю, мяне скруха забірае. Дойдзеш хутка з такімі ўспамінамі да таго, што спаткаем Новы год са слязьмі.

Тым часам у чалядным пакоі заспяваў певень.

— Брава, брава! — крыкнуў Завальня. — Не трэба плакаць: хутка будзе перамена, ледзь пачаўся вечар, а ўжо і певень заспяваў — гэта знак, што ўсходзіцца вецер і хто-небудзь з возера завітае да нас. Абы толькі добры чалавек, большай сябрынаю будзем сустракаць Новы год.

Сказаўшы гэта, паводле свае завядзёнкі, ён запаліў свечку, паставіў на падваконне і дадаў:

— Знак, што гаспадар дома і запрашае ўсіх да сябе.

Сівоха паглядзеў у акно:

— Бесспрэчна, будзе хутка перамена надвор'я; аніводнае зоркі на небе, і я заўважыў, што ўлетку, калі певень праспявае, як сонца садзіцца, дык ужо назаўтра раніцою пасылай касцоў — абавязкова дождж, а тады і тупая каса добра косіць.

— Дасведчаны гаспадар на кожную рэч павінен зважаць, — сказаў Латышэвіч. — Калі напрыканцы снежня і пачатку сту-

дзеня бывае бура і снег глыбокі, дык улетку багата травы на лугах і буйное збожжа вырасце на ніве. Гэтая зіма павінна цешыць гаспадара, бо мароз і паўночны вецер пад глыбокім снегам жыта і пшаніцу не вымаразяць.

— А ў мяне ўлетку пані Мальгрэта даведваецца пра перамену надвор'я, гледзячы на жывёлу, калі тая вяртаецца з пашы. Калі першая ідзе чорная карова, дык абавязкова будзе навальніца, калі ж белая — яснае надвор'е.

У час гэтае размовы ў пакой зайшла пані Мальгрэта.

— А гэта што такое? — пытаецца, убачыўшы свечку на падваконні. — Ноч ціхая, падарожныя не будуць блукаць па возеры.

— Вашэць не чула, што нядаўна некалькі разоў праспяваў певень; вецер можа нечакана перамесці дарогу ды так усхадзіцца, што за пяць крокаў нічога перад сабою не ўбачыш; у нас здараліся няшчасці: на возеры замярзалі людзі і ніяк нельга было ўжо вярнуць іх да жыцця.

— Дзіўны чалавек! Калі сам любіць бавіцца з мужыкамі, дык думае, што гэта і гасцям прыемна.

Сказаўшы гэтак, яна выйшла, ляпнуўшы дзвярыма.

— От, кабета, — прамовіў дзядзька, — што ў яе галаве роіцца. Такая іх натура: кожная ганарыцца сваім тытулам. На маю думку, шляхетны той чалавек, які, жывучы на гэтым свеце, слухае адно прыказанні Божыя.

— Ведаў я і мужчын слабае волі, — сказаў сляпы, — што хваліліся знакамітасцю сваіх продкаў, а самі жылі так, што нявартыя былі чалавечага наймення.

— Адхіліліся далёка мы ў сваіх размовах; пан Сівоха нядаўна абяцаў нам нешта расказаць.

— Памятаю, — сказаў пан Сівоха.

## АПАВЯДАННЕ ДЗЕСЯТАЕ.
## ВАЛАСЫ, ЯКІЯ КРЫЧАЦЬ НА ГАЛАВЕ

— У Віцебску сустрэў я на вуліцы доктара з нашага павета пана М. Выпала так, што мы абодва прыехалі ў горад са сваім клопатам; пагутарыўшы пра сёе-тое, доктар сказаў:

— А дзе ты будзеш палуднаваць?

— Ды дзе Бог дасць, — адказваю. — З грашыма ў горадзе галадаць не будзем.

— Хадзем у карчму да Карлісана, там заўсёды добра частуюць.

— А ці не будзе задарага шляхціцу?

— Не даражэй, чым усюды; а калі крыху і больш заплацім, дык смачней і паямо; сабе шкадаваць няварта.

Згадзіўся. Заходзім у велізарны пакой, было там некалькі асобаў, елі, курылі люлькі, смяшылі адзін аднаго, успамінаючы недахопы і дзівацтвы сваіх знаёмых; здзекаваліся з усіх, не шануючы ні кабет, ні старых.

Седзячы за сталом, здзіўлена пагляд'аў я на гэтых шылахвостаў: як яны выхваляліся сваёй дасціпнасцю, рагаталі так, што звінелі шкляніцы, і глядзеліся ў люстэрка, не раўнуючы, як дзяўчаты на выданні.

— Добра часам і ў карчме пабываць, — сказаў доктар. — Тут людзі смялей здымаюць з сябе маскі, і тут найдакладней можна ўбачыць, які хто ёсць.

Ледзь гэта сказаў, заходзіць нехта высокі, валасы густыя, натапыраныя, вочы неспакойныя, твар поўны, бледны, быццам у ім і жоўць і вада. Усе на яго паглядзелі; ён сеў на канапу і, хапіўшыся за галаву, заенчыў:

— Няма ім спакою.

Пасля папрасіў падаць яму шклянку рому, палову выпіў і, быццам задуманы, сядзеў колькі хвілін моўчкі; потым падняўся і агледзеў сябе ў люстэрку.

— О! — кажа, паклаўшы руку на голаў. — Цяпер, прынамсі, не варушацца, змоўклі.

Усе дзівіліся, а мой таварыш сказаў:

— Ты, як бачу, нездаровы, мусіць, пакутуеш ад галавы; не думаю, каб ром мог дапамагчы, — яшчэ больш нашкодзіць.

— Хіба прасіў я ў цябе рады?

— Я доктар, гэта мой абавязак.

— Доктар, а маіх пакут не ведаеш. Скажы мне лепей, якая смерць лягчэйшая, бо я, не маючы надзеі ачуняць, мушу памерці.

— Я прысягаў падаўжаць чалавечае жыццё, а не паказваць шляхі да смерці. Смерць сама да нас прыйдзе.

— Смерць сама нас спаткае, твая праўда, але хто пра гэта не ведае?

— Так, гэтую праўду ўсе ведаюць, ды не ўсе пра яе думаюць.

— Адным жыццё любае; а хто так, як я, пакутуе, таму няма чаго на свеце шкадаваць.

— Дык на што ты ўсё-ткі хворы?

— Валасы, валасы атруцілі маё жыццё!

Калі ён гэта гаварыў, дык за суседнім сталом весела засмяяліся і адтуль пачулася:

— О! Бо былі валасы з прыгожае касы!

— Не трэба было адразаць; бо без іх сімпатыя, як сарваная кветка, вяне.

— Надакучылі яму валасы, адрэзаў нажніцамі, а яны ад месяцавага святла ажылі.

— Прыгожа валасы спявалі, ды не ўмеў іх шанаваць.

— Глядзіце, глядзіце, вунь яму на галаву сонца лягло, і валасы варушацца, як жывыя.

Пачуўшы гэтыя жарты, небарака глянуў гнеўна на бяседнікаў, усхапіўся моўчкі з месца і пачаў шпарка хадзіць па пакоі.

Тыя панічы ўсе разам узялі свае шапкі, і, выходзячы, адзін з іх кажа:

— Бывай здаровы, пане Генрык! Пі больш рому, і ўсё добра будзе!

— Вось да чаго дажыўся, — сказаў Генрык, павярнуўшыся до доктара. — Стаў у нячулых людзей пасмешышчам, смяюцца з чужога няшчасця, дзе толькі іх ні сустрэну, здзекуюцца з балючых выпадкаў майго мінулага, каб павялічыць мае пакуты.

— Надта далікатныя ў цябе нервы, — сказаў доктар, — калі абураешся на людзей легкадумных; я, седзячы тут ды слухаючы, як яны перамывалі языкамі сваіх знаёмых, добра зразумеў, што гэта за людзі.

— Калісьці я быў зусім іншы, абыякава слухаў і смех і енк, нішто не кранала мяне — валасы, валасы парушылі ўсю маю натуру!

Змоўк, нібыта прыслухоўваўся да нечага і раптам, паказваючы на свае валасы, сказаў:

— Вось адзін заспяваў і іншыя заварушыліся... хутка закрычаць усе разам. Вы не бачыце, што робіцца на маёй галаве!

Тут ён схапіў шклянку, каб выпіць рэшткі рому.

— Паслухай мяне, — прамовіў доктар. — Папрасі прынесці вады і цукру; змяшай іх з ромам, прынамсі, будзе менш шкоды, ды я раіў бы табе зусім адмовіцца ад такіх лекаў.

Генрык узяў шклянку, стаў перад люстэркам, памацаў рукою валасы, сцепануў плячыма; пасля павярнуўся да доктара, паглядзеў на яго неспакойна і кажа:

— Адмоўлюся, калі вынайдзеш лепшыя лекі, а першую параду прымаю.

І, папрасіўшы падаць вады, выпіў шклянку пуншу.

— Раскажы мне пра сваё жыццё; калі б я ведаў прычыну тваіх пакутаў, мо прыдумаў бы, чым табе дапамагчы.

— Можа, ведаеш, як вярнуць назад мінулае?

— Мінулае вучыць нас, як жыць сёння.

— Мая хвароба новая, ані простыя людзі інстынктыўна, ані медыкі навукова не знайшлі зёлак, каб яе вылечыць; аднак бачу, што ты шчыра хочаш, каб я ачуняў; дык раскажу пра тое, што выпала мне перажыць.

Адзін я быў у бацькоў; усе мае жадункі былі законам, лёкаі кожнага слова майго слухаліся, хатні настаўнік выкладаў французскую мову такім чынам, каб я, займаючыся адну гадзіну, не зазнаў ніякае прыкрасці і не затлуміў у сабе вясёлых думак, якія цэняць у свеце больш за адукаванасць.

У пятнаццаць гадоў бацька завёз мяне на адзін год у Рыгу, каб я там вывучаў нямецкую і французскую мовы ў лепшых настаўнікаў ды каб пабачыў і даведаўся ўсё тое, што спатрэбіцца мне сярод людзей, пра якіх ідзе слава ў свецкіх салонах.

Грошай бацька пакінуў больш, чым вымагалі мае патрэбы, і я збіраў там толькі кветкі вясёлага жыцця, ніхто мне не нагадваў, што ўсё незваротна мінецца, чалавечае здароўе слабое і зменлівае, а весялосць шчаслівых гадоў нагадвае мроі.

Калі вярнуўся з горада дадому, ад раніцы да вечара бавіў час на ловах. Мой бацька не шкадаваў сродкаў на паляўнічых, хартоў і ганчакоў; мне было дазволена трымаць столькі лёкаяў, колькі захачу; былі ў мяне добрыя коні, выпісваў модныя карэты.

Праз некалькі гадоў мяне выбралі ў павятовую ўправу. У горадзе знайшоў шмат прыяцеляў; часта ладзіў у сваім доме вясёлыя забавы, сустракаючы з гасцямі ўзыход сонца пры віне або за картамі.

Прайшло чатыры гады. Бацькі мае пакінулі гэты свет, і я вярнуўся дадому з намерам заняцца гаспадаркаю. Маёнтак быў увесь у даўгах. З'язджаліся да мяне бацькавы крэдыторы і з пагрозамі нагадвалі пра пазыкі, суд вымагаў незаплачаныя скарбовыя падаткі за колькі гадоў. Я адчуў небяспеку і тады ўпершыню задумаўся пра страшную будучыню.

— Трэба табе жаніцца, — сказаў мне сусед. — Панна Амелія, дачка камісара, які цяпер кіруе маёнткамі пана Г., дзяўчына прыгожая, добра выхаваная, да таго ж я чуў, што мае ў пасаг больш за дзесяць тысяч срэбных рублёў: бацька яе назапасіў ніштаваты капітал, займаючы пасаду камісара і

ўпаўнаважанага, а што не ў сваяцтве з тутэйшымі ясна-вяльможнымі панамі, якія робяць што хочуць падчас выбараў мясцовых чыноўнікаў[1], — ты на гэта не зважай. У тваім становішчы трэба грошы, а не фамільныя сувязі, якія — на маю думку — табе не прыдадуцца.

Бачу: парада майго суседа — ад сэрца. Я згадзіўся з гэтай прапановаю і папрасіў яго дапамагчы. Дзесяці тысяч срэбных рублёў ( а мо крыху менш) было б даволі, каб вызваліць ад прыкрых дамаганняў мой маёнтак. А да таго ж пра вартасці камісаравае дачкі я і раней шмат ад каго чуў. Карацей, паехалі мы з суседам да яе бацькоў.

Сустрэўшы першы раз Амелію, сапраўды ўбачыў яе цудоўныя вартасці: стройны стан (мастак мог бы напісаць з яе найпрыгажэйшы абраз), твар сведчыць пра лагодны характар, у блакітных вачах ціхая меланхолія і нейкія чароўныя мроі. Размаўляючы з ёю пра будучыню і пра зменлівае шчасце гэтага свету, даведаўся: выхавалі яе так, што пакорліва верыла ў прадчуванні і ў неразгаданыя таямніцы прыроды. Мой сусед адкрыта расказаў яе маці і бацьку пра ўсе патрэбы майго маёнтка; згадзіліся і бацькі, і дачка. Пасля вяселля я быў найшчаслівейшы з людзей: прывёз жонку дадому і заплаціў усе пазыкі.

Ах! Чаму я не даваў веры прадчуванням! Доктар, ці згодзішся з тым, што чулая чалавечая душа чуе ў ціхім голасе анёла перасцярогу нашмат лепей, чым навукаю і вопытам набытая мудрасць?

— Заўважаў гэта і я, — сказаў доктар, — але такі інстынкт бывае не ва ўсіх людзей.

— Чаму ж я не хацеў верыць сэрцу чулае Амеліі?

— Калі? І чым гэта ўсё скончылася?

— Тры гады мы былі шчаслівыя абое, хоць розніца асобных нашых думак і ўяўленняў і нараджала часам спрэчкі, аднак заўсёды ўсё канчалася спакойна. Амелія, бачачы маю ўпартасць, хутка знаходзіла іншую тэму, абы толькі ўнікнуць нязгоды.

Аднойчы ўвесну, у пагодны вечар мы выйшлі на праходку да блізкага лесу; вакол чуваць былі птушыныя спевы. Амелія па дарозе часта замаўкала і нібыта аддавалася нейкім сумным марам.

— Бачу, — сказаў я, — што нейкае прадчуванне шэпча табе на вуха, бо перапыняеш размову і акунаешся ў сумныя думкі.

— Сапраўды, напаў на мяне нейкі смутак, не ведаю чаму.

— Спевы салаўёў і зязюль дзейнічаюць на твае нервы.

— Можа, і так, — адказала яна ціхім голасам.

У гэты час бачу я, як злева, ідучы праз лес вузенькай сцежкаю, набліжаецца да нас нейкі згорблены старац у чорнай вопратцы; твар бледны, ясныя вочы свяціліся з-пад густых броваў, за плячыма вісеў накрыты старой чорнаю сукманаю кош. Цікава было даведацца: хто гэты дзіўны чалавек і адкуль ідзе. Параўняўшыся з ім, я спытаўся:

— Хто ты, дзеду, і адкуль ідзеш?

Ён, здымаючы з галавы стары пакамечаны капялюш і нізка кланяючыся, сказаў:

— Жыву на цэлым свеце, шукаю ласкавых да мяне дабрадзеяў і заўсёды змагаюся з забабонамі і людскімі выдумкамі.

Гэты яго адказ мяне вельмі зацікавіў.

— Як жа, — кажу, — пачалася тая вайна з забабонамі і людскімі выдумкамі?

— Бо яны не зразумелі ні мяне, ні свае выгады. Я абышоў цэлы свет, ведаю ўсе чалавечыя патрэбы, дазнаўся пра самыя пакрыёмыя таямніцы прыроды, хацеў прынесці палёгку жыхарам гэтае неўраджайнае і ўбогае краіны, але яны замест узнагароды засыпалі мяне праклёнамі, нідзе не даючы мне прытулку.

— Што ўсё-такі чыніў ты жыхарам нашае зямлі?

— Хацеў зрабіць дабро, але за дабрыню сваю два разы мусіў ратавацца ўцёкамі. Не магу забыць, хоць ужо прайшло каля дваццаці гадоў. Вынайшаў я спосаб здабываць золата, хацеў яго ўдасканаліць і адкрыць тутэйшым жыхарам. Пан***, багаты чалавек, меў непадалёку ад Полацка маёнтак і дом у горадзе, дзе сам жыў, і мне адвёў маленькі пакойчык дзеля заняткаў і ўдасканалення мае навукі. Там са мною прычыніўся жудасны выпадак: выходзячы, я пакінуў незамкнёныя дзверы, а на стале ляжалі ў паперках белыя парашкі, патрэбныя мне ў маёй навуцы. Жонка пана*** зайшла ў мой пакойчык, узяла адну паперку з парашком, думаючы, што гэта лекі. Пакутуючы ад болю галавы, яна загадала падаць шклянку вады, усыпала туды парашок, выпіла і ўмомант памерла. Я не быў вінаваты, але, ратуючыся ад суда, мусіў уцякаць адтуль і шукаць прытулку ў іншым месцы.

Перабраўся да пана*** і хацеў паказаць яму свае таямніцы. Апоўначы на могілках была ў нас проба, але гэты пан і яго лёкай, які павінен быў дапамагаць, абодва, не маючы сіл вытрываць пробу вялікае справы, самлелі. Баючыся пераследу,

пакінуў я іх там, на могілках; уцёк, ніколі ўжо не паказваўся ў тых мясцінах і вырашыў ніколі не адкрываць людзям сваіх таямніцаў.

Тут, перапыняючы апавяданне пана Сівохі, Завальня сказаў:

— Памятаю, нядаўна адзін падарожны расказваў мне пра чарнакніжніка, які вучыў пана*** рабіць золата, а лёкай яго — Карпа — насіў пад пахаю яйка, знесенае пеўнем, і выгадаваў цмока; чарнакніжнік, відаць, той самы. Дык, калі ласка, апавядай далей, слухаем з цікавасцю.

— Генрык, заўважыўшы, што мы з доктарам слухаем яго гісторыю, не зважаючы на карчомную прыслугу, што, стоячы паблізу, смяялася і пра нешта гаманіла, не ўставаў з месца і казаў далей.

— А што там у цябе ў кашы пад сярмягаю? — запытаўся я.

— Трусоў, — адказвае, — нясу з сабою; калі які дабрадзей дазволіць мне заняць дзе-небудзь самотны дом, дык буду іх там гадаваць, яны хутка расплодзяцца, і я буду мець прыбытак з гэтае ўбогае гаспадаркі.

— Адкрый кош і пакажы нам тваіх трусоў.

Ледзь адкрыў кош, як Амелія адступіла назад і закрычала ад спалоху:

— Ах, ах! Якія жахлівыя кажаны! Схавай, схавай іх хутчэй, глядзець не магу на гэтых пачвараў!

Я глянуў на яе са здзіўленнем, бо сапраўды бачыў маладых чорных трусоў, і старац, хутка зірнуўшы на яе, сказаў:

— Прыглядзься, пані, лепей: гэта маладыя чорныя трусы; адно што яшчэ малыя.

І, узяўшы першага-лепшага з іх за вушы, падняў з каша.

— Ах, ах! Які страшны кажан, злітуйся, не паказвай, схавай яго ў кош, не хачу і не магу глядзець на такую брыдоту.

Думаючы, што прычына гэтага недарэчнага страху нейкі дзіўны капрыз і ўпартасць Амеліі, я загадаў старцу, каб ішоў і пераначаваў у фальварку, а раніцаю яму будзе выдзелены дом. Ён пакланіўся і пайшоў проста ў маёнтак.

З праходкі вярталіся дадому моўчкі. Амелія была надзвычай усхваляваная, бледная, са слязьмі на вачах. Я глядзеў на яе са здзіўленнем і думаў, чаму яна пярэчыла такой відавочнай праўдзе? Я ж на свае вочы бачыў маладых трусоў! Нарэшце, парушыўшы маўчанне, сказаў:

— Дык што, Амелія, і цяпер яшчэ будзеш даводзіць, што той старац нёс у кашы кажаноў? Дзіўны капрыз прыйшоў табе ў галаву: здзекавацца са старога чалавека, абвінаваціць яго ў хлусні.

— Не хацела я, — кажа, — вінаваціць яго, але хіба ж не даваць веры сваім вачам?

— Прыкра мне, што ты засмуціла беднага старца, бо заўважыў па яго гаворцы, што гэты чалавек надзелены ад прыроды розумам і адукаваны, шкада толькі, што нешчаслівы.

— Пагляд і твар страшныя... Навошта было яго спыняць, няхай бы ішоў далей.

— Дзіваць мяне твае сённяшнія нечаканыя ўчынкі. Затрымаў я гэтага чалавека не на кароткі час; дам прытулак беднаму, і будзе жыць у маім маёнтку, колькі захоча.

Амелія і слова на гэта не сказала. Скончылася наша спрэчка, і мы абое моўчкі вярнуліся дахаты.

Непадалёку ад маёнтка, ля рэчкі, стаяла ў хваёвым бары самотная хаціна. Жыў там (яшчэ як мой бацька-нябожчык быў жывы) селянін, якому пазней я даў хату ў бліжэйшай вёсцы, а поле, якое ён урабляў, далучыў да свае зямлі. Наступнага дня я прачнуўся рана, прывёў старца ў тую хаціну, каб меў там прытулак на схіле сваіх гадоў. Ён падзякаваў мне і выпусціў з каша сваіх трусоў пасярод хаты.

Жыў ён самотна. Часам блукаў адзін па полі або пад шатамі лясоў; уначы не спаў, паказваўся ў розных мясцінах у чорнай вопратцы, нібы страшны прывід. Сяляне, сустракаючы яго ў месяцавам святле, баяліся набліжацца, уцякалі, як ад вурдалака, і пра яго па ўсёй ваколіцы хадзілі дзіўныя чуткі. Апавядалі адзін аднаму, быццам бачылі апоўначы над яго хацінаю велізарную чараду кажаноў, і на ягоны кліч прыляталі туды совы і крумкачы.

Чуючы такія выдумкі простага люду, я смяяўся, наведваў самотны прытулак старца, часам любіў пагаманіць з ім колькі гадзін; увосень слухаў там, як шумелі старыя яліны над страхою; углядаўся ў ягоны твар, на якім застыла навек вясёлая усмешка. На пясчаным пагорку сярод хвояў жыў велізарны выпладак чорных трусоў, якія хаваліся пад зямлёю і зноў выбягалі са сваіх нораў. Гледзячы на ўсё гэта, адчуваў я ў сабе перамены, і душу агортвалі змрочныя думкі.

Амелія не хацела яго бачыць і не любіла, калі хто-небудзь успамінаў пра яго; я, наадварот, з прыемнасцю размаўляў з ім, праз некалькі месяцаў ён атрымаў нада мною такую ўладу, што я верыў усяму, што ён казаў.

У канцы верасня перад самым захадам сонца заходжу ў старцаву хату; восеньскі вецер выў за сцяною, ён, абапёршыся на

рукі, пазіраў на сваіх трусоў, якіх было шмат і ў хаце, і на падворку. Убачыўшы мяне, сказаў:

— Дзіўна, за ўвесь той час, як я жыву ў маёнтку выспана, наведаўшы ўсе тутэйшыя мясціны, бачыў у гэтых лясах розныя дрэвы, але дубоў тут паблізу зусім няма; знайшоў за некалькі вёрст адсюль толькі два стогадовыя дрэвы гэтае пароды, а вакол — маладыя дрэўцы, якія — я думаю — выраслі з жалудоў, што параскідваў там вецер.

— Я зусім не зважаў на гэта, — сказаў я. — Дзеля гаспадарчых патрэб у нас ёсць і іншыя.

— На ўжытак прыдатныя вяз і бяроза, але што можа быць цудоўней, як бачыць дуброву; гэтыя дрэвы вырастаюць магутныя, і я раіў бы пану, каб цяпер, увосень, загадаў іх выкапаць і пасадзіць усе на пагорку за азярынаю, на якім дагэтуль не расце аніводнага дрэва.

— Шмат гадоў трэба чакаць, пакуль яны вырастуць вялікія, і, пэўна, я не пабачу на тым пагорку разлогіх і высокіх дубоў, бо чалавечае жыццё надзвычай кароткае.

Ён зірнуў на мяне сурова, так, што дрыжыкі прабеглі па целе, і, як бы здзекуючыся, паўтарыў мае словы:

— Чалавечае жыццё надзвычай кароткае. Навошта думаць пра гэта? Пан яшчэ малады, мае добрае здароўе, гадоў сто жыцьме на гэтай зямлі і ў засені тых дубоў весяліцца з прыяцелямі. Пакінь сумнявацца, ты чалавек — і ўсё павінна служыць табе.

Я паслухаў яго рады. Назаўтра загадаў садоўніку ісці да старца, што жыве каля рэчкі побач з хваёвым борам, каб той паказаў маладыя дубкі, якія трэба перанесці і пасадзіць на пагорку.

Садоўнік, пачуўшы мой загад, перапалохаўся, змяніўся з твару і сказаў не сваім голасам:

— Адкуль тое пану? Дуб не цвіце, і з пладоў яго няма аніякае карысці; дзеля аздобы лепей пасадзіць на пагорку ліпы.

— Парады твае не прашу, — сказаў я. — Слухай, што табе загадваю, і выконвай.

— Ад старых людзей я чуў, што той, хто сее жалуды ці садзіць дуб, і года не пражыве*.

— Калі яшчэ раз, — кажу, — пачую гэтую лухту, дык загадаю ўсыпаць табе пяцьсот бізуноў. Ідзі рабі тое, што загадана.

* Ёсць такая думка ў некаторых мясцінах Беларусі між простым людам, што той, хто пасадзіць дуб або пасее жалуды, скарачае сабе жыццё, бо яго сіла пераходзіць да дрэў, якія ён пасадзіў.

Садоўнік, баючыся далей пярэчыць мне, выйшаў засмучаны і шукаў выпадку, каб прасіць маю жонку: ці не здолела б яна ўгаварыць мяне адмовіцца ад таго намеру.

Увечары, калі я на нейкі час пакінуў дом, ён зайшоў у пакой да Амеліі, са слязьмі на вачах укленчыў перад ёю і ўсё расказаў.

Калі я вярнуўся, Амелія сустрэла мяне з усмешкаю:

— Генрык, чаму ты вырашыў пасадзіць дубы? Я не бачу ў гэтым ні патрэбы, ні аздобы таксама. Бедны садоўнік прыйшоў да мяне страшэнна засмучаны, кажучы, што перасаджваць дубы — найвялікшае няшчасце, бо гэтае дрэва забірае сілы і скарачае жыццё таму, хто яго вырошчвае. Ведаю, што забабоны ад невуцтва, але ці ж маем мы права жорстка абыходзіцца з людзьмі за тое, што яны цёмныя, бо неадукаваныя? Трэба неяк адвучваць іх ад дурных забабонаў; усе мы людзі, і вялікі грэх чыніць несправядлівасць бліжняму.

— Як я бачу, — сказаў я, гнеўна глянуўшы на яе, — і ты падобная да садоўніка, — падахвоцілася глупствы бараніць, але марнае будзе тваё заступніцтва.

— Пэўна, той жахлівы старац даў табе гэтую раду; дык даручы яму самому садоўнікава месца, і няхай усё тое зробіць сам, бо ж нічога не робіць днямі, адно блукае па полі і лесе.

— Людзі мае: як хачу, так і будзе.

Калі я гэта сказаў, з вачэй Амеліі паліліся слёзы, і яна адразу выйшла ў другі пакой.

Садоўнік, бачачы, што яго надзеі не спраўдзіліся, прывёз з лесу маладых дубкоў і пасадзіў на прызначаным месцы. Пасля гэтага ўвесь час быў самотны; дарэмна ўсе даводзілі, што дубы не маюць аніякага ўплыву на чалавечае здароўе, аднак ён сох, сілы яго пакінулі і наступнае вясны, як толькі тыя дрэўцы зазелянелі, садоўнік сканаў.

Пасля ягонае смерці, калі я апавядаў старцу пра наіўнасць таго чалавека, пра забабоны і пра слабасць яго характару, ён глянуў на мяне, зморшчыўся, як бы выяўляючы сваю пагарду, і сказаў:

— То й добра. Няварта шкадаваць. Маючы безліч дурняў, па адным плакаць не будзем.

Другое злачынства гэтага старца парушыла яшчэ больш згоду і мір паміж мною і жонкаю. Меўся я пабудаваць новы драўляны дом, ды крыху не хапала цэглы на падмурак; каб папоўніць недастачу, выйшаў я ў поле і, ходзячы там, выбіраў добрае месца на цагельню. Старац, спаткаўшыся са мною, па-

казваючы на могілкі і на старую каплічку, якая стаяла навідавоку блізка ад маёнтка, і кажа:

— На якім неадпаведным месцы зрабіў нехта гэтыя могілкі. З панскага вакна заўсёды відаць драўляныя крыжы і каплічка. Во ўжо дзе прыкры краявід! Наведваюць пана суседзі, сярод іх шмат маладых ды вясёлых, а гэтыя крыжы і каплічка ўсё перад вачыма, кожнага могуць давесці да самотных думак і меланхоліі; раіў бы пану прызначыць сялянам месца пад могілкі дзе-небудзь далёка за лесам, каб не так часта чалавечае вока іх бачыла; цэглу з капліцы можна пусціць на падмурак, на гэтым жа месцы пасеяць авёс, каб і знаку не было, што тут гніюць нечыя косці.

Я пахваліў добры старцаў густ і яго здольнасці ў вызначэнні характару чалавека і таямніц прыроды. Загадаў, каб як мага хутчэй знеслі драўляныя крыжы, сабралі надмагільныя камяні ў крушню, зруйнаваўшы капліцу, звезлі цэглу ў маёнтак.

Дарэмна мае падданыя, сабраўшыся з усіх вёсак, прасілі, каб я не нішчыў святыні і не кранаў таго месца, дзе спачываюць астанкі іх бацькоў і сваякоў; дарэмна натурыўся ксёндз-плябан, стараючыся давесці, што я бяру на сваю душу вялікі грэх; дарэмна старэйшыя суседзі папракалі мяне, што адступаю ад дзедаўскіх звычаяў. Нарэшце Амелія, убачыўшы, што ўсе просьбы і напаміны марныя, сказала:

— Генрык, аднак жа пры жыцці бацькі і дзеда твайго гэтая каплічка і могільнік былі на гэтым самым месцы, бацьку і дзеду гэтыя крыжы і магілы не міналі і не наводзілі жахлівых думак. Няраз яны там, калі ўзыходзіла ці заходзіла сонца, укленчыўшы, старанна маліліся за сваіх памерлых сялян. Такі звычай усюды ў нашым краі: могілкі навідавоку або блізка дарогі, каб людзі, сустракаючы вокам крыжы і магілы, тварылі малітвы за душы тых, хто ўжо заручыўся з зямлёю. Пэўна, той жахлівы старац даў табе гэтую бязбожную параду, але памятай, Генрык, што Бог усё бачыць.

— Не лезь не ў сваё! — адказаў ёй у гневе. — Я ведаю, што раблю; старац, якога ты называеш жахлівым, смяецца з вашае дурноты; занадта вы ўважлівыя да тых, каго ўжо няма на гэтым свеце.

І гэтак настаяў на сваім. Праз два дні і следу не засталося ад могілак, а цэглу з капліцы паклалі ў падмурак новага дома, у які праз пару месяцаў я перасяліўся.

З гэтага часу пачаў заўважаць, што Амелія яшчэ больш перамянілася. Яе вочы і твар заўсёды былі асмужаныя смут-

кам; казала, што бачыла прывіды ў гэтым новым доме, мроіліся ёй страшныя сны, а апоўначы чула часам нейкія стогны. Па колькі гадзін раніцай і ўвечары яна малілася, укленчыўшы, і так змянілася з твару, што знаёмыя ледзь пазнавалі яе цяпер, хоць і мала мінулася часу.

Калі я расказваў старцу пра жончыны пакуты, ён глянуў на мяне і кажа, ківаючы галавою:

— Як, пане, яшчэ мала ты ведаеш, што такое кабета! Гэта адно толькі злосць ды ўпартасць, бо не можа яна камандаваць мужыком і рабіць паводле свае волі. Паведаміў бы пану адзін сакрэт, але няхай ён лепей застанецца вечнаю таямніцаю мае душы, бо гаворыць сёй-той, што я вінаваты ў вашых нязгодах.

— Злітуйся, скажы, бо каго ж гэта цікавіць болей за мужа?

— Шмат за што ўдзячны пану: зрабіў ён дабрадзейства, даўшы гэты прытулак старцу, які прайшоў жахлівымі пуцявінамі жыцця праз усе выпрабаванні, навучыўся халодным сэрцам глядзець і заўважаць усе таямніцы людскіх думак і ўчынкаў. Адкрыю пану гэты сакрэт, які ведаю ўжо некалькі месяцаў, нікому пра яго не кажучы: у тваё жонкі жывыя валасы на галаве.

— Не чуў яшчэ ніколі пра такія цуды і не разумею, што ўсё гэта значыць.

— Дык раскажу спярша, якім чынам я гэта даведаўся. Памятаю, з'ехаліся раз госці ў маёнтак; дзень быў ціхі і ясны, выйшлі ўсе тады з дому і, цешачыся добрым надвор'ем, гулялі ў полі. З панам ішлі два пажылыя мужчыны, і былі вы вельмі занятыя нейкай размоваю, а панава жонка ішла наперадзе, акружаная моладдзю, што, гамонячы, часта пазірала на яе касу. Калі падышлі да гаю, я, схаваўшыся за дрэвам, таксама зацікавіўся: чаму гэта яны так пільна глядзяць на яе касу? Маё вока зоркае, і я заўважыў, што на сонцы валасы ў панавай жонкі рухаліся ў касе і па ўсёй галаве. О! Гэту рэч мусіш, пане, мець на ўвазе, бо ёсць дзівы і чары на свеце; моладзь заглядваецца, не разумеючы, якою сілаю запалілася пачуццё ў іхніх сэрцах.

— Хіба можа гэта быць? — спытаўся я са здзіўленнем.

— А то як. Раскажу пану, якім чынам можна ў гэтым пераканацца. Гэта не ўсё, што ў яе жывыя валасы; ёсць яшчэ адзін валасок, які пасля заходу сонца, калі змрок ахутае зямлю, крычыць цэлую ноч аж да белага дня, і таму яна можа заснуць толькі на кароткі час, часта прачынаецца, вечарамі стогне і плача. Калі пойдзе ў асобны пакой, дзе мае звычку, укленчыўшы, маліцца, ціха падыдзі і, стаўшы каля яе, прыслухайся добра. А яшчэ ле-

пей паслухай зблізку ў начной цішы, як той волас спявае найгаласней.

Я быў невыказна здзіўлены і неспакойны. Вырашыў: не спаць усю ноч, абы толькі даведацца праўды. Увечары, калі Амелія, запаліўшы свечку, пайшла ў асобны маленькі пакой памаліцца, я падкраўся на пальчыках да прачыненых дзвярэй, прыслухаўся і пачуў піск такі тонкі, нібы камар, гудучы, лётае ля скроні і шукае, дзе б утнуць. Слухаў некалькі хвілін, не сыходзячы з месца, і гэтаксама ціха зноў адышоў, не чакаючы, пакуль яна дагаворыць свае пацеры.

Пасля паўночы не клаўся спаць, а ў асобным пакоі за сталом сам-насам раскладваў карты, быццам варажбою хацеў вызнаць, ці спраўдзяцца размаітыя мае жаданні і намеры. Калі ўсе заснулі і ўсюды зрабілася ціха, я патушыў свечку, заходжу ў спальню, як начны страх; вакно там напалову было зачынена. Амелія, стогнучы ў сне, ляжала ў ложку, каля ног яе, падаючы праз квадрат шыбіны, адбілася месяцавае святло, а ў галавах пачуў нібыта піск мухі, што трапіла ў павуціну. Дрыжыкі прабеглі па маім целе. Падумаў сам сабе:«Вось цяпер дазнаўся праўды!» — і цэлую ноч і на хвіліну не заплюшчыў вочы. Назаўтра раніцай я прыйшоў да старца і ўсё расказаў яму.

— Верыш, пане, цяпер: я казаў праўду, — прамовіў старац, — але яшчэ не ўсё: трэба зрабіць так, каб гэтыя жывыя валасы не прыцягвалі да сябе юначых вачэй. Загадай, пане, сваёй жонцы адрэзаць касу і ўначы, пакуль певень праспявае, прынясі яе да мяне, а я паруплюся, каб ты яшчэ раз пабачыў цуды на свае вочы.

Не ведала Амелія і нават не падазравала пра нашу ўмову і пра жахлівыя мае намеры. Сустрэўшы мяне, сказала спакойным голасам:

— Што з табою, Генрык? Здаецца, у гэтую ноч бяссонне цябе мучыла? Да позняга сам-насам бавіўся з картамі, і на світанні ўжо не было цябе ў доме.

— Не спаў уначы і раніцай уцёк з дому, бо твае валасы, што крычаць на галаве, нідзе мне спачыну не далі.

— Не разумею гэтае загадкі, бо першы раз чую пра крыклівыя валасы.

— Рух тваіх валасоў спадабаўся ўсім гасцям.

— Кажы, Генрык, ясней, — сказала яна, — бо я на такія загадкі не здатная.

— Скажу і ясней: хачу, каб ты абрэзала валасы; замужняй кабеце прыстойней быць з пакрытаю галавою.



Ян Баршчэўскі.
Мал. К. Жукоўскага

Зак. 909



Возера Нешчарда



Полацак.
Касцёл і паезуіцкі кляштар. Мал. Н. Орды



Пецярбург. Мал. А. Дуранда. 1839 г.



Ян Баршчэўскі ля берагоў Нявы.
Мал. Р. Жукоўскага. 1843 г.



Тарас Шаўчэнка.
Аўтапартрэт. 1843 г.



Адам Міцкевіч.
Мал. Ю. Аляшкевіча. 1828 г.

1838. roku 4. Lutego
Peterburg




Szanowna Siostro.

Posyłam siestrze książkę s rysunkami i opisaniem kwiatow nachodzących się w okolicach Peterburga, ten żurnał dla mnie, więcey się podoba niżeli inne drugie, które wychodzą w stolicy, pomieszczaiąc się rosliny same zwyczayne, które zapewna rosną i na Rudnianskich polach, rysunki onych barzo naturalne, s Opisaniem do czego każdy kwiatek może być użytym i jakie korzyści z niego. Będę szczęśliwym, jeżeli uczyni rozrywkę siestrze ten prosty ubior wieyskiey piękney Flory, ktora nie zna mody panuiącey w stolicach, ale każdey wiosny Ubrana w tymże naygustownieyszym stroju

nayniższym Sługą
J. Barszczewski

Старонка ліста Яна Баршчэўскага да Юлі Корсак



Ян Баршчэўскі.
Мал. невядомага мастака.



Рамуальд Падбярэскі.
Мал. К. Жукоўскага. [1842 г.]



Ілюстрацыя да аповесці
«Драўляны Дзядок і кабета
Інсекта». Мал. Р. Жукоўскага.



SZLACHCIC

ZAWALNIA

CZYLI

BIAŁORUŚ

W FANTASTYCZNYCH OPOWIADANIACH

PRZEZ

JANA BARSZCZEWSKIEGO.

Poprzedzone krytycznym rzutem oka na Literaturę Białoruską

PRZEZ

ROMUALDA PODBERESKIEGO.

Z ryciną Rud. Żukowskiego, przedstawiającą główne sceny opowiadań.

PETERSBURG.

W DRUKARNI KAROLA KRAJA.

1844.

Тытульны ліст кнігі
Яна Баршчэўскага «Шляхціц
Завальня, або Беларусь у
фантастычных апавяданнях»



Мал. Р. Жукоўскага, змешчаны на франтапісе першага томіка «Шляхціца Завальні»



Людвік Штырмер.
Мал. невядомага мастака



Юзаф Ігнат Крашэўскі.
Мал. Г. Гіршэля



Беларускае вяселле.
Мал. Р. Жукоўскага



Ян Баршчэўскі.
Мал. К. Рыпінскага



Тадэвуш Лада-Заблоцкі.
Мал. К. Жукоўскага. 1845 г.



Цуднаў. Маёнтак Ржавускіх.
Мал. Н. Орды

— Дзіўны капрыз убіўся табе ў галаву.

— Можа, і дзіўны, але справядлівы, — сказаў я. — Не хачу, каб ты ганарылася цудоўнаю касою, якая чарадзейнаю сілаю прыцягвае да сябе ўсе вочы; дык будзь ласкавая — калі хочаш, каб я быў спакойны — загадай абрэзаць сабе валасы.

— Разумею цяпер, — сказала Амелія, — усё дзеля твайго спакою.

Паклікала прыслугу, загадала, каб тая адрэзала ёй касу, і, заліўшыся слязьмі, выйшла ў другі пакой.

Каля поўначы, маючы з сабою касу Амеліі, я пайшоў да самотнае хаціны старца. Ён не спаў: я бачыў, што ў вакне свяціўся агонь. Заходжу ў дом: ён сядзеў у одуме каля стала, абапёршыся на руку, быццам паглыбіўся ў нейкія думкі; у кутах варушыліся чорныя трусы, вочы якіх гарэлі рубінавым агнём. Ён падняўся з месца і кажа:

— А што, зрабіў пан так, як я раіў?

— Зрабіў усё як належыць, вось жончыны валасы.

Дастаю з кішэні касу і кладу перад ім на стале.

— Хутка, пане, — кажа ён, — пабачыш цуды.

Узяў вялікую драўляную міску, наліў вады, частку валасоў з касы паклаў у тую пасудзіну; стаяў, утаропіўшыся на валасы; агонь на стале гарэў цьмяна, нібы дагараў, месяц выглянуў з-за чорных воблакаў, засвяціў бледным святлом у вакно, нечакана ўсхадзіўся вецер, лес парушыў сваё глухое маўчанне шумам. Глянуў я на старца: здавалася, што яго вусны, бледныя, як у нябожчыка, варушыліся, быццам ён штосьці шаптаў; трывога агарнула мяне, дрыжыкі прабеглі па целе; нарэшце ён сказаў:

— Падыдзі і глянь, што дзеецца.

Глянуў у міску — цуда! Жывыя валасы, уючыся ў розныя бакі, нібы п'яўкі, бегалі ў вадзе. Доўга я глядзеў задумана на гэта. Нарэшце ён вынес з хаты намочаныя валасы і частку касы і ўсё гэта кінуў у рэчку. І здалося мне, быццам бачыў я ў месяцавым святле, што ўсе яны плавалі, звіваючыся, наверсе.

Пасля гэтае страшнае пробы ён сказаў мне:

— Будзь, пане, спакойны, ужо валасы не будуць таемнаю сілаю прыцягваць да сябе вочы гасцей.

Пасля гэтага майго ўчынку Амелія доўга ўпотай плакала, і здароўе яе з кожным днём горшала, уначы не магла заснуць: як толькі прыплюшчвала вочы, адразу мроіліся ёй нейкія прывіды, што ўставалі з магіл.

Перад заходам сонца здарыўся страшны выпадак. Амелія сядзела адна ў садзе, але калі пачаў насоўвацца вячэрні змрок,

упала раса на травы, паветра стала халоднае і вільготнае, — вярнулася ў свой пакой. Ледзь ступіла на парог — нема закрычала і ўпала, нібы мёртвая; збегліся ўсе, паднялі яе, на твары і кроплі крыві не было; паклалі на ложак і з цяжкасцю змаглі вярнуць ёй дыханне.

Як апрытомнела, расказала, што ўбачыла тады перад сабою таго чорнага старца ў жахлівым абліччы: крывавым агнём свяціліся ягоныя вочы, у руках трымаў велізарны нож і пагражаў ёй смерцю.

Калі я ўбачыў стан яе здароўя і што ў яе зусім хворыя нервы, у маім сэрцы з'явілася нарэшце літасць. Паслаў хутчэй па доктара.

Штодня лёталі пасланцы да горада з медыцынскімі рэцэптамі, усё, што можна, рабілі, каб падмацаваць яе. Прайшло некалькі дзён; лячэнне было безвыніковае, не прынесла ніякае палёгкі, і Амелія яшчэ больш пакутавала і слабела.

Бацькі, даведаўшыся пра небяспечную доччыну хваробу, прыехалі пераведаць. Яна хацела, і доктар гэта раіў, каб лячыцца ў бацькоўскім доме. Можа, там хутчэй супакояцца яе думкі і лекі будуць лепей уздзейнічаць.

Пагадзіўся я з гэтым, і Амелія з бацькамі выехала з майго дома, абяцаючы вярнуцца, як толькі дазволіць здароўе.

Праз тры дні атрымаў ліст з чырвонаю пячаткаю і ўбачыў там такія словы:«Амелія самотнае сваё жыццё закончыла ўчора а пятай гадзіне пасля паўдня».

Калі гэта прачытаў, знячэўку ўсе валасы на маёй галаве заварушыліся і пачалі страшна крычаць. Люты страх апанаваў мяне, я нарэшце ўбачыў, да якога няшчасця давёў мяне той жахлівы старац. Хапаю набіты пісталет, бягу з намерам забіць яго на месцы... ледзь адчыніў дзверы — з пустое хаты вылецела велізарная чарада кажаноў і са страшным піскам пачала кружляць над гэтаю хацінаю і вакол дрэў, а старца і яго трусоў ужо і звання не было.

Пакінуў я свой дом. Страшна ў ім жыць, страшна выйсці ў поле і бачыць лугі, пагоркі і лясы, бо там усюды з'яўляецца перад маімі вачыма чорная, як у д'ябла, постаць жахлівага старца.

Вось, доктар, споведзь майго жыцця.

Крыху памаўчаўшы, ён паклаў руку на галаву і, гледзячы ў люстэрка, сказаў:

— І цяпер валасы варушацца і крычаць. Ну, ці ведаеш, як дапамагчы мне ў няшчасці?

Доктар, стараючыся яго суцешыць, запрасіў да сябе, даў адрас, і мы з ім неўзабаве выйшлі з карчмы, а Генрык застаўся там. Праз два дні я выехаў з Віцебска і больш яго не бачыў.

— Жахлівы старац! — сказаў Завальня. — Ці не той гэта шатан, якому Твардоўскі загадаў ажывіць цела Гугона? З'яўляецца цяпер у розных канцах свету, каб шкодзіць роду людскому.

— Страшны выпадак расказаў пан Сівоха! У мяне няма такой добрай памяці, — сказаў Латышэвіч. — Шмат чуў розных аповядаў, але што сёння пачую, тое заўтра забуду.

## ЦЫГАН БАЗЫЛЬ

Калі мы так гаманілі і кожны выказваў пра апавяданні гэтага вечара сваю думку, вецер нечакана пачаў шумець за сцяною ў дрэвах, якія акружалі дом; дзядзька глянуў на свечку, што дагарала на вакне, і сказаў:

— Нездарма певень спяваў адразу пасля заходу сонца. Вось ужо і перамена надвор'я: усхадзіўся вецер, і цяпер самае галоўнае, каб ясна гарэў агонь у вакне.

Ён падняўся, замяніў свечку і загаварыў да мяне:

— Янка, папрасі пані Мальгрэту, каб прыйшла сюды. Дзіўная гэта кабета! Здаралася ў мяне, як і сёння, што госці апавядалі найцудоўнейшыя гісторыі. Я слухаю, нібыта прыкуты да месца, а яна не мае да гэтага аніякае цікавасці ды яшчэ гневаецца, не хоча заходзіць у гэты пакой, даводзячы, што не толькі апавядаць, але і слухаць пра д'яблаў і чары грэх.

Калі прыйшла пані Мальгрэта, дзядзька прамовіў:

— Васпані заўсёды самотная, не хацела паслухаць цудоўную аповесць, якою нядаўна так прыемна бавіў нас пан Сівоха. Бачыў ён у Віцебску чалавека з валасамі, якія крычалі на галаве.

— Ат, ведаю я вашы гісторыі! Хто дасць веры, каб калі-небудзь валасы крычалі?

— Няхай будзе па-твойму. Васпані не хоча верыць, а ўсё адно папросім пра адну рэч: загадай нам прынесці добрае гарэлкі, мёду і прыгатаваць журавін. Палёнкаю* развітаемся са старым годам і спаткаем новы, а цяпер гэта пітво будзе яшчэ прыемнейшае, бо мароз мацнее і вецер паўночны.

На падворку дзьмуў вецер, на стале палілася гарэлка. Завальня рупіўся, каб дадаць неабходную колькасць усялякіх патрэбных прыправаў. Пан Латышэвіч гутарыў са сляпым Францішакам. Стоячы каля пана Сівохі, Стась і Юзік апавядалі пра сваіх школьных таварышаў, пра майскія прагулянкі ў полі і пра студэнцкія тэатры. Я, гледзячы на блакітны агонь гарэлкі, прыгадваў размаітыя гісторыі, якія чуў у дзядзькавай хаце, а найбольш у гэты час мне мроілася ў галаве апавяданне арганіста Андрэя пра вогненных духаў. Здавалася, з гэтага полымя на кліч адразу б выскачыў Нікітрон.

Раптам адчыняюцца дзверы і заходзіць у пакой мужчына, якога я ніколі не бачыў. Высокі, смуглатвары, чорнавалосы, вочы, як дзве жарынкі; апрануты коратка, як казак, і бізун за поясам з левага боку.

— Падаю да ног пана гаспадара-дабрадзея! — гучна абвясціў ён.

— А! Як маешся, Базыль! Адкуль цябе Бог прыслаў?

— Далёка быў, дабрадзею! Быў і тут, і там, у дамініканцаў, непадалёк ад Гарбачова. Едучы праз возера, замёрз увесь: моцны мароз і вецер прадзімае наскрозь. Убачыўшы агонь у вакне панскага дома, спяшаў сюды як да найбліжэйшага месца, дзе можна пагрэцца.

— А можа, таму, — сказаў Сівоха, — што конь ужо далей бегчы не можа?

— О, не! Конь мой яшчэ прабег бы мілі чатыры.

— Добра, добра зрабіў, што прыехаў да мяне, будзем разам сустракаць Новы год.

— А цяпер самы час варажыць, — сказаў Сівоха, — дык скажы ўсім нам: каго які лёс спаткае ў наступным годзе.

— Навошта варажыць! Што каму лёс прызначыў, так і будзе. Мне, цыгану, ездзіць з кута ў кут або жыць у намёце сярод поля, а пану — кіраваць гаспадаркаю.

---

* Палёнка — беларуская назва трунку, які робяць з паленай гарэлкі, журавін і мёду.

— А ці шмат у гэтым годзе збыў старых коней і выгандляваў маладых?

— У гэтым краі і людзі не горш за цыганоў абазнаныя ў конях: не дадуць ашукаць.

— Скажы ж мне, Базыль, — прамовіў дзядзька, — чаму ты не асядзеш на гаспадарцы? Спакайней жыў бы на свеце.

— Так жылі нашы продкі; пэўна, яны прыкладвалі да скроні жабер-траву і, даведаўшыся будучыню, пагарджалі ўсім і нам такія свае звычаі пакінулі.

— Што гэта за трава? — запытаўся я. — Ці расце яна дзенебудзь у нашым краі, ці мо ў іншым якім месцы?

— Раскажа пасля пра гэтую траву, — сказаў дзядзька, — а цяпер няхай пагрэецца. Сядай, пане Базыль, можа, ты яшчэ і не вячэраў.

— Пра вячэру, дабрадзею, яшчэ не думалі ані я, ані мой конь.

— Конь не будзе галодны: маю сена, маю яшчэ, дзякуй Богу, і хлеб, каб пакарміць падарожнага.

І Завальня загадаў прынесці цыгану вячэру.

Базыль, седзячы за сталом, еў з добрым смакам. Калі падхарчыўся, пачаў размову пра мінулае, хваліў зычлівасць і лёгкую руку сваіх знаёмых, у якіх некалі выгадна набываў добрых коней. Жаліўся і наракаў на сябе, што лёгка верыў іншым, а таму меў страты ў гандлі, няраз траціў надзею і адступаўся ад важных намераў, не маючы магчымасці быць на конскіх кірмашах у Бешанковічах і Асвеі.

Хваліў некаторыя мясціны ў Беларусі, а менавіта берагі Дрысы і Дзвіны, дзе ён, маючы ўлетку багатую пашу, гадаваў добрых коней, і жыў там часта да позняе восені. Апавядаў пра свае зімоўкі і пра зімоўкі іншых цыганоў, як яны, маючы ўладу над агнём, раскладаюць велізарнае вогнішча пад саламянай страхою і агонь салому не паліць.

Тым часам палёнка ўжо была гатовая. Завальня напаліваў шклянкі, падвёў да стала сляпога Францішка, паставіў перад ім гарачае пітво і іншых гасцей запрасіў бліжэй. Кожны з іх, каштуючы, хваліў смак і колер палёнкі, якая ў святле свечак мела цёмна-рубінавы колер; і тут пачалася размова пра кошт і якасць мясцовых трункаў і замежных вінаў.

— Як неразумна, — сказаў пан Сіваха, — прывозіць з Рыгі аракі і замежнае віно, у якое, як я чуў, дзеля смаку немцы дадаюць не вельмі добрыя для здароўя прыправы, і яшчэ дорага за

яго плаціць. Лепей выкарыстаць грошы на што іншае. У нас ёсць свае, выдатныя на смак і не шкодныя для здароўя, напоі. Напрыклад, гэтая палёнка! Хвораму чалавеку можна выпіць шкляначку — не пашкодзіць, а дапаможа; ад ліхаманкі, ад прастуды — адзіныя лекі!

— Праўда, дабрадзею, — сказаў Базыль, трымаючы ў руках напалову выпітую шклянку і пазіраючы ў місу. — Беднае наша жыццё цыганскае! Калі марознаю зімою шукаем прытулку ў пустой будове, дзе няма ні печы, ні столі, а толькі сцены, і ў тых вецер свішча праз шчыліны, калі пры вогнішчы курчыцца жонка і дзеці пішчаць, круцячыся з боку на бок, абы толькі бліжэй да цяпла… О, каб даць тады жонцы і дзецям па шклянцы такое палёнкі — забылі б на холад, ім бы салоўкі заспявалі ўзімку, нібы цёплай вясною.

— Гэта праўда, — сказаў пан Латышэвіч. — А што ж казаць пра нашае сакавіцкае піва, пра мёд-трайняк! Летась перад Калядамі паехаў я ў горад купіць сёе-тое на розныя хатнія патрэбы. У дарозе заспела мяне лютая бура: у Полацку начаваў у жыда ў халодным пакоі, відаць таму і застудзіўся. Наступнага дня балела галава і дрыжыкі бегалі па ўсім целе. Аднак, не маючы часу сядзець спакойна, цягаўся па горадзе і купіў усё, што хацеў. Меў яшчэ інтэрас быць у кляштары езуітаў: там на калідоры спаткаў мяне айцец Попэ, якому быў даручаны нагляд за вінным склепам, дзе ў велізарных дзежках быў выдатны стары мёд. Ён, глянуўшы на мяне, сказаў:

— Чаму ты змяніўся з твару і такі неспакойны? Відаць, нездаровы?

— Нездаровы, — адказваю. — Ехаў у непагадзь, а цяпер маю халодны пакой у жыда, дык і прастудзіўся.

— Я вылечу, — сказаў ён.

Завёў мяне ў вінны склеп, наліў велізарны кухаль трайняку. Калі я выпіў, адчуў, што па ўсім целе разлілося цяпло, выступіў пот і прастуда прайшла.

— Прыемныя лекі! — сказаў Завальня. — Але нядаўна Базыль успамінаў пра нейкую дзіўную жабер-траву, якую прыкладаюць да скроні: тут нешта цікавае, зрабі ласку, раскажы нам. Будзем слухаць, не марнуючы часу. Што такое піва і мёд, ужо даўно ўсе ведаюць.

— О! Жабер-трава шмат паказвае цудаў, і дзіўныя ад яе дзівосы. Перад ёю траціць сілу агонь, чалавечае вока іначай глядзіць на свет і бачыць будучыню.

Сказаўшы гэта, цыган пачаў сваё апавяданне.

# АПАВЯДАННЕ АДЗІНАЦЦАТАЕ. ЖАБЕР-ТРАВА

— Жыў некалі ў гэтым краі абазнаны цыган Шылка, які ведаў сілу духаў, што маюць уплыў на людское здароўе, лекаваў хворых, выведваў таямніцы лёсу, прадказваў будучыню. Варожачы, ніколі не памыляўся, а таму адусюль сыходзіліся да яго параіцца старыя і маладыя.

Увечары, пакуль яго сям'я, што разышлася па наваколлі, збіралася ў шацёр, ён раскладваў розныя сухія зёлкі, што дапамагаюць жывёле і людзям, і калі ўрупіўся ў сваю працу, малады чалавек, якога звалі Адольф, ціха падышоў і перапыніў яго маўчанне:

— Як маешся, Шылка! Прыйшоў да цябе даведацца, які мяне лёс чакае, якая будучыня ў Альмы і што яна пра мяне думае?

Шылка ўзяў Адольфаву руку, нахмурыў лоб і, моўчкі гледзячы колькі хвілін на далонь, ківаў галавою і паціскаў плячыма: нарэшце глянуў яму ў вочы і сказаў:

— Не пытайце, пане, ні пра лёс Альмы, ні пра сваю будучыню.

— Чаму? Хачу ведаць, хачу як найхутчэй сарваць заслону з вачэй.

— Прыкладзі да скроні жабер-траву. У такія маладыя гады спадзе з вачэй сатканая з пекных колераў заслона, што закрывае ад цябе будучыню.

— Хачу мець гэтую траву.

— Маеш шмат цікавасці, але ці столькі ж у цябе адвагі? — спытаўся Шылка.

— Скажы, дзе расце — дайду і апоўначы, і сярод дзікіх звяроў.

— Ідзі туды, дзе бачыш з левага боку дзве пясчаныя гары, а ўнізе, на імшарыне, растуць дробныя бярозы і вербы. Бераг возера парос густым трысцём, а на тым месцы, адкуль пачынаецца галявіна, убачыш палю: вытыркаецца з-пад вады, нібы шчогла, рыбакі зрабілі гэты знак на возеры, каб ніхто блізка гэтага месца не лавіў рыбу, бо заўсёды пасля нерат парэзаны, нібыта нажом.

Там з глыбіні вытыркаюцца велізарныя вострыя камяні, а сярод іх — ясная, як зорка, свеціцца пад вадою жабер-трава*.

* Паводле цыганскіх паданняў, яна расце ў воднай глыбіні, засцерагае ад пажараў і вучыць згадваць будучыню.

Дух Фарон* зладзіў там сабе жытло, упадабаў ён гэтыя зёлкі. Калі ціхае надвор'е і яснае паўдзённае сонца свеціць на небе, ён, самотны, сядзіць у глыбіні, абапёршыся правай рукою на дзікі камень і пазіраючы на ясную жабер-траву, засынае ў чароўных малюнках будучыні.

Калі сядае сонца, гэты дух пакрывае жабер-траву моцнаю сеткаю з раслін, якія там, накшталт хмелю, спляліся вакол дзікіх камянёў так, каб рыбы і вірлівая вада не маглі калыхнуць яе лістоты. Сам жа выходзіць з возера, на вадзяных туманах выплывае ў поле, наведвае лагі і ўзлескі.

Заўтра, калі воблакі не схаваюць сонца і возера будзе спакойнае, як шыба, у самую спякоту (дапільнуй гэтую хвіліну) зайдзі ў возера і ідзі пад вадою да самага Фаронавага прытулку: ён будзе спаць, абапёршыся на камень, а адкрытая жабер-трава — свяціцца на сонцы. Сарві лісцік, але не вяртайся назад, бо трэба перайсці ўсё возера. На другім баку, прыклаўшы жабер-траву да скроні, хутка ўбачыш дзівы і даведаешся сваю прышласць.

— Ці ж я рыба, — сказаў Адольф, — каб здолеў перайсці пад вадою ўсё возера?

— Трымай вось гэта ў роце і нічога благога з табою не будзе.

Кажучы так, Шылка даў яму кавалачак нейкае кары.

Паўдня. Адольф усе глыбей заходзіў у ваду, нарэшце схаваўся зусім. Праходзячы там, дзе жывуць нямыя і халодныя стварэнні, ён страчаў дзіўных стогаловых і станогіх празрыстых істотаў, якія прачыналіся ад здранцвення, узнімалі плечы і зноў засыналі на дне. Калі падышоў да месца, убачыў жабер-траву. Як крышталь на сонцы, адбівалі яе лісцікі яркае святло, а дух Фарон, схаваўшыся ў зяляніне і абапёршыся на камень, адпачываў, нагадваючы вялізны куст багавіння. Над ім і над жабер-травою мітусіліся тысячы вадзяных істотаў. Адольф сарваў лісцік і, не будзячы духа, пакінуў гэтае месца і пайшоў далей.

Выбраўшыся з вады, дыхнуў на поўныя грудзі, выйшаў на другі бераг возера, адпачыў на зялёнай лугавіне і, прылажыўшы да скроні халодны лісцік жабер-травы, умомант адчуў у сабе перамены: перад яго вачыма з'явіліся зусім іншыя краявіды.

Там, на пагорку, сярод бярэзін стаяў мураваны касцёлік, — а цяпер ад дрэў тых толькі пянькі тырчаць з зямлі, касцёл у руінах,

* Адзін з васьмі духаў, што мае ўплыў на людзей.

без дзвярэй і даху. Дзе была вёска — цяпер пустка, дзве толькі засталіся старыя грушы, якія нядаўна ён бачыў у садзе. Тут жа, ля яго, некалі каласілася буйное жыта — цяпер тая ніва пакрыта дзікаю травою, быццам некалькі гадоў не бачыла ратая.

Трывога агарнула яго сэрца; адышоўся ад возера і пайшоў далей аглядаць тую ваколіцу, якую колькі дзён таму перамерыў нагамі са стрэльбаю за плячыма, і ўсюды бачыў вялікія перамены.

Зайшоў далёка, забыўся, якой дарогаю вяртацца, а сонца ўжо нізка. Ідучы хуткай ступою, пазіраў, ці не сустрэнецца дзе чалавечае жытло, каб адпачыць, пераначаваць ды распытаць, у які край заблукаў.

Калі дзень ужо патух і густы змрок лёг на лагі, Адольф падышоў да зусім незнаёмае вёскі. Каля аднаго дома грала музыка, скрыпач і дудар выціналі вясёлы танец, а некалькі маладзёнаў скакалі на вольным паветры.

Адольф, стаўшы непадалёку, глядзеў на танцораў. І тут ён пачуў, як колькі пажылых незнаёмых людзей так гаманілі між сабою:

— Ці не сорам ім скакаць? — сказаў першы. — Цяпер такія цяжкія часіны! Усюды нястача.

— Думаеш, яны маюць душу? — кажа другі. — Кажуць часам добра, а робяць зусім інакш, не разумеюць, што гэта кара Божая.

Сустрэча гэтая так уразіла Адольфа, што ён не мог ім і слова сказаць. Хутчэй пакінуў гэтую мясціну, абмінуў усе хаты і заначаваў у карчме пры вёсцы.

На ўзыходзе сонца ён падрыхтаваўся да падарожжа, паведаміў гаспадару, дзе жыве, і запытаўся ў яго, якою дарогаю трэба яму вяртацца дадому.

— Першы раз чую пра гэты край, — адказаў той, — відаць, пан жыве дзесьці далёка ад нас.

Здзіўлены Адольф пачаў распытваць вяскоўцаў і ад усіх чуў тое самае, што ўжо паведаміў яму карчмар. Тады падрыхтаваўся да далёкага падарожжа: купіў на некалькі дзён ежы і з кульбакаю за плячыма пайшоў далей, кіруючыся на поўдзень.

Тым часам надвор'е перамянілася. Загрымела ў небе, і Адольф убачыў чорныя хмары, падзьмуў вецер; не бачачы блізка ля дарогі чалавечага жытла, ён паспяшаўся ў лясны гушчар, каб хоць пад шатамі ялін схавацца ад залевы.

Бачыць там нейкага старога. Сядзеў ён на спарахнелым пні, угары шумелі хвоі, а на галаве яго вецер кудлаціў белыя вала-

сы. Падышоў бліжэй і, угледзеўшыся добра, пазнаў цыгана Шылку. Стары падняўся і, кланяючыся, сказаў:

— Дзень добры, пане Адольф!

— Ах! Гэта ты, Шылка! Ледзь пазнаў цябе. Чаму ты так хутка пастарэў? Колькі дзён таму назад бачыў цябе, дык у цябе яшчэ не было сівізны на галаве, а цяпер — валасы, як малако.

— Не, пане Адольф, не колькі дзён таму. Ужо мінула больш за дзесяць гадоў, як ты мяне бачыў. Скажы, паніч, куды ідзеш?

— Не ведаю, дзе мой дом, дзе я цяпер, куды вывядзе гэтая дарога, і неба хаваецца за хмары, і навальніца над галавою.

— Не хутка будзе такое добрае надвор'е, якое было тады, як я апавядаў табе пра жабер-траву і пра духа Фарона. Панскі дом далёка, знаёмыя і прыяцелі ўжо рэдка ўспамінаюць тваё імя, мяркуюць, што даўно развітаўся ты з гэтым светам.

— Скажы ж мне, Шылка, якою дарогаю ісці мне дахаты?

— Ідучы праз гэты дзікі лес, убачыш тры дарогі. Злева і справа — шырокія шляхі, а між імі — вузкая і ўтравелая сцежка, што ідзе праз камяністае поле і цёмныя пушчы. Не бойся ісці далей па гэтай вузкай сцежцы, не глядзі на шырокія дарогі злева і справа. Раскажу, што сустракаюць людзі, якія едуць і ідуць туды, каб падарожнічаць з выгодамі.

Леваруч цудоўныя малюнкі чаруюць вока. Зелянеюць пагоркі, на дрэвах даспявае салодкая садавіна, лугі раскашуюць духмянымі праскамі, азёры спакойныя і ясныя, як люстэркі, у вадзе люструюцца воблакі і дрэвы, што растуць на беразе, звіняць крыніцы, чыстыя, як крышталь, і гамоніць ад подыху лагоднага ветрыку лістота ў пекных гаях.

Але там на лугах і ў гаях гуляюць русалкі-вадзяніцы, на галовах у іх пекныя вянкі з валошак, вусны іх каралавыя, вочы ясныя, доўгія валасы падаюць на плечы, яны ветліва страчаюць вандроўнікаў. Адны з іх — легкадумныя, заўсёды вясёлыя, скачуць і спяваюць, вабяць да сябе, смешаць жартоўнаю гаворкаю, завабліваюць у цёмныя лясы; заблукаўшы там, няшчасны падарожны ніколі не выйдзе на дарогу. Іншыя — змрочныя, у вачах меланхолія, словы іхнія хвалююць, пяшчотныя песні раняць сэрца, як страла, акунаюць думкі ў смутак і, давёўшы гэтымі чарамі да роспачы, уцякаюць прэч.

Праваруч — высокія горы, а на іх — велічныя замкі, там шмат золата і срэбра, гаспадары гэтых гмахаў пагарджаюць беднасцю і пакутамі, але і самі пакутуюць, бо апоўначы ў іх салонах скачуць шкілеты, мучаючы лютым страхам і гасячы ўвесь бляск велічы.

Дык бывай, пане, не магу я ісці з табою, бо кіруюся ў супрацьлеглы бок.

Сказаўшы гэта, Шылка закінуў за плечы кульбаку і пайшоў павольнаю ступою.

Адольф заходзіць у лес. Дзень быў хмурны, вецер шумеў у густых галінах; юнак задумліва ўспамінаў мінулае, якое здавалася яму ўчарашнім днём. Выняў лісцік жабертравы, які нёс з сабою загорнуты ў паперу, падзівіўся з незразумелае яго сілы, пашкадаваў, што адважыўся ісці ў падводную краіну да духа Фарона, убачыў, да чаго давяло яго жаданне ведаць будучыню, схаваў зноў свой лісцік, уздыхнуў і пайшоў далей.

Прыйшоў на тое месца, пра якое апавядаў Шылка, і,не глянуўшы на дзве шырокія дарогі справа і злева, пайшоў вузкаю сцежкаю праз каменістыя палі і цёмныя пушчы.

Ішоў самотны, не меў каму і слова сказаць. Рэдкі чалавек насмеліцца ісці праз гэтае месца; бачыць толькі, як перапалоханы дзікі звер хаваецца ў гушчары, чуе толькі стук дзятлаў на сухіх хваінах і крыкі соек.

Прыйшоў вечар. Змардаваны дзённым падарожжам, Адольф прылёг на пагорку і, паклаўшы галаву на камень, заснуў. Спаў моцна, але нядоўга; ледзь зарэнка ўзышла на небе, заспяшаўся, каб дзе-небудзь напаткаць чалавечую хаціну і пераначаваць пад страхою.

Ідучы далей, узышоў на гару, але і адтуль не ўбачыў нідзе людзей, адно густы, як імгла, дым падымаўся недалёка за бярозавым гаем. Ледзь падышоў да таго месца, як выходзіць з гаю нейкая кабета — высокага росту, у белай сукні, твар заліты слязьмі, і, трымаючы ў руцэ меч, спыняецца каля дарогі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Заспяваў певень.

— Вось цяпер ужо не на перамену надвор'я, — сказаў дзядзька. — Самая поўнач, прыйшоў Новы год, страчайма госця. Але якімі навінамі ён нас пацешыць?

Сказаўшы гэта, ён наліваў у шклянкі палёнкі, і ўсе пілі, узаемна зычачы шчасця ў доме, здароўя, багатых ураджаяў на нівах.

Пан Латышэвіч, выпіўшы да дна, паставіў шклянку на стол і сказаў:

— Мы не ведаем, што будзе, у адным толькі пэўныя: з кожным годам нас, старых людзей, усё меней. Абы толькі Бог захаваў маладых, каб былі цнатлівыя і не забывалі звычаі і звычкі сваіх продкаў!

— Ат, пан Латышэвіч, успамінаючы пра смерць, псуе нам добры настрой. Такое рабіць няварта, — сказаў Базыль. — Аж на мяне напаў смутак, і здаецца, быццам і не піў нічога. Навошта казаць цяпер пра такія рэчы? Я — цыган, маю толькі каня, а яшчэ да Абрама на піва не хачу.

Сказаўшы гэта, ён наліў сабе яшчэ шклянку і выпіў, зычачы ўсім здароўя і гумору.

— Базыль, як я заўважыў, — сказаў Сівоха, — чалавек чуллівы, яго кранае кожнае слова, аднак трэба памятаць, што ён яшчэ не закончыў свайго апавядання.

— Праўда, не закончыў. Можа, калі-небудзь закончу.

Дзядзька зноў наліў шклянкі і, падаючы адну сляпому Францішку, сказаў:

— Пан Францішак сёння ўвесь час задумлівы і журботны. Выпі з намі. Жадаю вам і дзецям вашым шчасця. Няхай неба блаславіць усіх добрых людзей, пашле нам ураджай і шчаслівыя дні.

## ЯСНАСЦЬ НА НЕБЕ

Нечакана зыркае святло ўдарыла ў вакно і асвяціла пакой. Усе змоўклі, перапалоханыя гэтым раптоўным дзівам, пасля выскачылі з хаты, думаючы, што недзе ў суседзяў пажар. Убачылі на небе такую зыркую яснасць, што ледзь вока трывае; разлілася яна кшталтам велізарнае ракі. Палі, лясы і горы, пакрытыя снегам і асветленыя агністым небам, мелі дзіўны і захапляючы выгляд. Хмары, распаленыя чырвоным полымем, ляжалі на даляглядзе; здавалася, што там тонуць у пажарах велічныя гмахі і стромкія вежы. Доўга моўчкі стаялі і паглядалі мы на гэты дзіўны і страшны малюнак неба; нарэшце яснасць вогненнае ракі пачала цьмець і нікнуць у паветры; патухлі хмары, і сутонне зноў ахінула неба і зямлю.

— Дай Божа, — сказаў дзядзька, вярнуўшыся ў хату, — каб гэты знак нам спрыяў. За сваё жыццё трэці раз бачу падобнае

дзіва і заўсёды ў той год, калі бачылі такія пажары на небе, бывалі нейкія неспадзяванкі.

— Я ведаў старога, што памятаў год Лебяды, — сказаў пан Латышэвіч, — і часта апавядаў пра дзівы, якія сам бачыў на небе. Гарэлі тады замкі ў паветры, і войскі біліся ў полымі. Страшэннае гора было ўсім. Людзі жывіліся адной травою; аднак жа праз год злітаваўся Бог над галоднымі і паўсюль спіжарні напоўніліся жытам.

— Беднасць у нашым краі — не навіна, — сказаў Сівоха. — Прыйдзе вясна, і рэдкі селянін, сеўшы за стол, пакладзе хлеб перад сабою і не будзе мець, чым засеяць поле. А гэтая заўсёдная нядоля да таго запала ўсім у памяць, што ўсё незразумелае ў нас заўсёды — знак няшчасця. Будзьма больш ашчадныя і руплівыя. Хто працуе і просіць Бога, той і сам жыве заможна і людзям дапамагае.

Сляпы Францішак уздыхнуў:

— Мы сустракаем і праводзім усе гады з адной і той самай песняй. Свет нам — пілігрымка, а неба — напамін. Летам, калі я чую гром, што скаланае ўсю зямлю, думаю пра ўсемагутнасць Творцы і пра Ягоную міласэрнасць. Няхай будзе Яго воля. Наша будучыня — у Яго руках.

— Я чуў некалі такое апавяданне*, — сказаў Сівоха. — Летам пасля захаду сонца перад нядзеляю ноч была ціхая і пагодная. Чэлядзь пагнала коні на начлег. Адны сяляне пасля дзённае працы гаварылі пра сваю гаспадарку, другія спявалі, вяртаючыся з паншчыны. Раптам убачылі ўгары дзіўнае відовішча: на ўсю сваю прастору раскрылася неба і быццам бы сярод гэтага святла бачылі анёлаў, адзенне якіх было бялейшае за снег, а вакол галавы — німб, яснейшы за сонца. Усе ўпалі ніцма, і хто маліўся шчыра, таму Бог такія шчодрыя даў дарункі, што ўсё жыццё тыя людзі не ведалі нэндзы.

— Чуў і я гэтую гісторыю,— сказаў Завальня. — На маю думку, праўдзівую і шчырую малітву заўсёды неба пачуе. Але дзе ж Базыль? Ён яшчэ не закончыў свайго апавядання.

Агледзеліся ўсе — але Базыля ўжо ў пакоі не было.

— Пэўна, заваліўся спаць, — абазваўся Сівоха, — бо я даўно заўважыў, што ён ледзь сядзеў і ўсё пачынаў драмаць. Але, пане-гаспадару, час бы і нам ужо адпачыць. Заўтра не цэлы дзень спаць: трэба быць на святой імшы.

— Але ж апавяданне пра жабер-траву не закончана.

---

* З апавяданняў люду.

Сказаўшы гэта, дзядзька выйшаў і загадаў прыгатаваць гасцям ложкі.

Патушаны агонь. Усе моцна спяць.

## ТАВАРЫШ У ПАДАРОЖЖЫ

Усюды прырода дзіўная, прыгожая і разнастайная, чаргуюцца навальніцы і пагодныя дні, здзіўлены пілігрым пазірае на змрочныя, вясёлыя і дзікія малюнкі пагоркаў і лясоў, страчае людзей, якія, разумеючы яго думкі і пачуцці, радыя падзяліцца з ім цяжкай сваёй тугою; усюды ёсць шчасце і нядоля; усюды незразумелая наканаванасць вядзе нас па розных дарогах жыцця. Чаму ж чалавек заўсёды сумуе па сваёй роднай зямлі, як дзіця па маці?

Такія думкі агортвалі мяне, калі на адзіноце падарожнічаў я праз палі і цёмныя лясы далёка ад Бацькаўшчыны. Было ўжо каля паўдня — чыстае неба, ціхі дзень, спёка. Знябожаны падарожжам і сонцам, я сеў каля дарогі ў засені бяроз. Непадалёку звінеў крынічны струмень, лашчылі мяне лёгкія подыхі ветрыку, што плыў з поля. Аддаўшыся марам, я ўспамінаў прыгоды мінулых гадоў і не заўважыў, як нехта падышоў да мяне — высокага росту — клунак на плячах, цёмны ад сонца і ветру твар, худы, змучаны цяжкім падарожжам. Пачаў ён так:

— Прыемна адпачыць тут, у цяньку бяроз каля крыніцы?

— Цяжка ісці ў такую спякоту, — адказваю. — А да вёскі ці да якой-небудзь аўстэрыі, магчыма, яшчэ далёка.

— Найлепей ісці, калі сонца схіліцца да заходу і абзавуцца спевамі саловак лясы, а цяпер усюды глуха: і птушкам дакучае спёка.

— Куды ты ідзеш? — запытаўся я ў незнаёмца.

— Туды, далёка, — паказаў ён рукою.

— Будзеш мне спадарожнікам, бо і я таксама іду ў той бок.

— Добра! Але, здаецца, бачыў цябе калісьці. Ці не на дзвінскіх берагах? Можа, мы землякі?

— Мо і так. Бо там прамінулі найшчаслівейшыя дні майго жыцця.

— Я — Севярын, — сказаў вандроўнік. — Смутак і час змянілі мой твар, і вясёлыя думкі назаўсёды развіталіся са мною. Сёння я ўжо не той. Такія вось пуцявіны нашыя.

— Успамінаю цяпер: ты вёў некалі рэй у вясёлых забавах.

— Пакуль не глянуў вакол сябе. А як убачыў і ўсё спасціг — вандрую па свеце і нідзе не знаходжу спакою.

— Пуцявіны нашага жыцця, — сказаў я, — як пуцявіны жахлівых сноў.

— І цяжка дачакацца світання, якое б абудзіла ад гэтых страшных крозаў.

— Ці даўно, — пытаюся, — бачыў родныя пагоркі і лясы?

— Нядаўна, — адказвае, — пераведаў той край. Бачыў: пагоркі на сваім месцы, а лясы разрасліся яшчэ болей. Шмат! Шмат перамен! Змрочны час, неўраджайныя гады, зніклі вясёлыя забавы сялян, і ў полі не пачуеш песні ратая ці пастуха. Толькі Плачка на могілках сумным голасам кранае душы тых, хто ідзе блізка таго месца.

— Калісьці былі лепшыя часы. Люба было бачыць строі і забавы людзей на свяце або на вяселлі.

— Ці памятаеш? — спытаўся Севярын. — Вёску на беразе рэчкі Обалі, ці памятаеш? Калісьці там заможны селянін Лукаш выдаваў дачку замуж? У той час мы абодва цікавіліся народнымі забавамі і вясельнымі песнямі. Усяго там хапала гасцям: багата было ежы і пітва. Памятаеш гэтую песню:

*— Наехала гасцей,*<br>
*Поўны двор, поўны двор.*<br>
*Выбірай, Марынка,*<br>
*Каторы твой, каторы твой.*<br>
*— Да што ў сінім,*<br>
*На каню сівым, —*<br>
*То сват мой.*<br>
*А што ў атласе,*<br>
*У жоўтым паясе, —*<br>
*То дзевер мой.*<br>
*Пышна ўбраны,*<br>
*А конь буланы, —*<br>
*То свёкар мой.*<br>
*Конь вараненькі,*<br>
*Сам маладзенькі, —*<br>
*То мілы мой.*

Самі словы гэтае песні праўдзіва малявалі дабрабыт мінулых часоў: людзі калісьці мелі ядвабныя хусткі, вопратку з добрага сукна, пекныя пасы, рослых і добра ўкормленых коней, мелі ўсё дзеля аздобы, былі шчаслівыя. А цяпер глянеш вакол — смутак бярэ за сэрца. Дом Лукашоў стаіць пусты, бёз дзвярэй і вокан, здзічэлі вішні, засохлі яблыні, якія ён сам некалі

прышчапіў, сад без гаспадарскага нагляду парос дзікаю травою. Рэчка Обаль не змяніла свайго шляху, у тых жа берагах спяшаецца да Дзвіны, але вусны людзей даўно ўжо кранала ўсмешка, на бледных і змрочных тварах адбіваюцца маркотныя думкі. Я пытаўся: дзе тыя старыя, што славіліся ў гэтых краях дабрынёю і ветлівасцю? Іх дзверы заўсёды былі адчынены суседзям і вандроўнікам, у сваіх дамах ладзілі вясёлыя забавы; ніколі не адмаўлялі яны бедным, удовам і сіротам, — іх няма. Адно ўспаміны засталіся пра гэтых дабрадзеяў.

— Шмат той край, — сказаў я, — зазнаў розных перамен шчасця і няшчасця; знікнуць тыя чорныя хмары і цёмная бура, закрасуе вясна, прыйдзе заможнасць і на нашы лугі і палі.

— Шмат праўды ў народных паданнях, — сказаў Севярын. — Памятаю, у Полацкім павеце ў гаворцы сялян пра схаваныя ў зямлі скарбы пачуў я такую гісторыю.

У Сітнянскіх лясах недалёка ад рэчкі Страдань ёсць пагоркі, якія нібыта насыпалі самі людзі. Кажуць, там быў калісьці горад, разбураны ворагамі; а праз некалькі стагоддзяў на тым месцы стаяў маёнтак. Жыў у ім пан; імя яго — Дамінік — і дасюль яшчэ памятаюць людзі. Там, на гары, водбліз маёнтка, праваліласся зямля. Заўважыўшы гэтае дзіва, слугі адразу ж далажылі пану. Той загадаў памераць глыбіню, але найдаўжэйшая жэрдка не дастала да дна гэтае прорвы. «Там мусяць быць багатыя скарбы, — сказаў пан. — Хачу паслаць у тую падземную схову; няхай хто-небудзь, спушчаны на вяроўцы, з ліхтаром у руках агледзіць тыя цёмныя лёхі». Але калі ўбачыў, што ўсіх апанаваў страх і не было ахвотнікаў выканаць яго волю, паслаў аднаго свайго чалавека, кажучы, што калі не паслухаецца, дык загіне і на зямлі.

Той мусіў выконваць панскі загад. Калі апынуўся на самым дне ямы з ліхтаром у руках, убачыў адчыненыя дзверы, скляпенне на слупах, усюды магільная ціша; са страхам мінае ён пусткі і ўрэшце заходзіць у велізарны пакой. Тут, асветленая агнём ліхтара, зіхацела на сценах срэбным і залатым бляскам зброя і розныя аздобы. На крэсле, узлокціўшыся на стол, спала кабета. Доўгія валасы бязладна падалі на плечы, на бледным твары відаць былі слёзы, яе чорны ўбор быў знакам цяжкае жалобы, ля яе ног спалі велізарныя і страшныя мядзведзі. І яшчэ бачыў Дамінікаў пасланец незлічоныя скарбы ў адчыненых жалезных скрынях.

І пакуль на ўсё гэта паглядаў спалохана — прачнулася кабета і кажа:

— Ты шукаеш скарбаў у гэтым падземным палацы?! Ад вашае хцівасці нідзе мне няма спакою.

Пасля яе слоў прачнуліся лютыя звяры. Гарэлі іх страшныя вочы, і тапырылася поўсць на спіне.

— Прабач, пані, — залямантаваў той бедны чалавек. — Я не хачу скарбаў, але воля раз'юшанага пана паслала мяне ў гэты падземны палац. Я мусіў выканаць загад, бо загінуў бы за непаслушэнства.

Кабета супакоіла велізарных звяроў, вочы яе заліліся слязьмі, і сказала яна засмучаным голасам:

— О,.нешчаслівыя! Яшчэ не выкінулі са свайго сэрца пыхі і лютасці. Памёр бы ты на гэтым месцы, калі б прыйшоў сюды па сваёй волі. Дарую табе, ідзі і скажы жорсткім людзям: «Не дадуць вам шчасця скарбы, калі міласэрнасць не змякчыць вашае сэрца, гэтыя зямныя дарункі ўзбагачаюць тых, хто ў іншым чалавеку бачыць бліжняга свайго і брата.»

Так, адпачываючы пад шатамі дрэваў, доўга размаўлялі мы пра зменлівасць лёсу: як некалі Бог блаславіў працу продкаў, шчодрыя былі ўраджаі на палях і велізарныя статкі пасвіліся на пагорках; як пасля беднасць і голад распаўзліся па цэлым краі; пра цяперашнія ўраджаі і пра людскія пакуты, пра старых, што выправіліся ў вечнасць, і пра тых, што шукаюць шчасця ў далёкіх чужых краях.

Сонца хілілася да захаду. Севярын устаў, падрыхтаваўся ісці і сказаў:

— Хадзем далей. Пакуль сонца сядзе, буду табе таварышам. А там прыйдзем на месца, дзе разыходзяцца дзве дарогі, яны нас і разлучаць.

Ідучы лясамі і палеткамі, Севярын апавядаў мне пра ўсходнія і паўднёвыя краіны, якія прыгожыя краявіды сустракаў там, у далёкіх краях, якія вялікія чароды пасуцца ў стэпах і на гарах, як зямля, не вымагаючы вялікае працы, кожны год узнагароджвае багатым ураджаем, і пра выгоды тамтэйшых жыхароў.

У размовах хутка праляцеў час. І вось я ўжо бачу перад сабою могілкі, каплічку, драўляныя крыжы і дзве дарогі: адна ў густы лес, другая — далей праз палі і пагоркі.

— Тут і канец нашае супольнае вандроўкі і нашым размовам, — сказаў Севярын, сеўшы на магільны камень. Ён глянуў у неба і аддаўся нейкім маркотным думкам. І мяне апанаваў смутак. У гэты час мы абодва нагадвалі журботныя магільныя помнікі.

Хавалася на захадзе за рубінавым воблакам сонца, неба было пагоднае, рэчка свяцілася здалёку, як люстэрка, паветра такое ціхае, што чуваць было, як дзесьці队 пералятаlі начаваць на далёкае возера качкі, зайграла ў пушчы музыка лясных птушак, заспяваў чароўным голасам салавей у блізкім хмызняку.

— Як шчыра ўся прырода цешыцца вясною ў такое ціхае надвор'е,— сказаў Севярын. — Чалавеку не дадзена сапраўднае весялосці: багатыя, калі сонца сядае, маркоцяцца, што як адзін дзень, так і цэлае жыццё іх міне, схаваецца ад іх назаўсёды, смерць забярэ ў іх уцехі і вясёлыя забавы. Бедныя засмучаюцца, калі сонца ўзыходзіць — што абудзіла іх да пакутаў і працы. А той, хто зазірнуў ў таямніцы людскога жыцця, узважыў, ацаніў іх жаданні і пачуцці, заразіў свой розум, прытупіў зрок, — вандруе па свеце, не бачыць зоркі-надзеі; шлях усюды высыпаны цернямі, і пад ранішнім сонцам абыякава паглядае гэты чалавек на магілы.

Вось ужо і скончыўся дзень, на лагі апусцілася смуга, і змрок ахутаў зямлю. Вось і канец нашага кароткага падарожжа, вось і канец нашым размовам. Сёння не так як некалі — развітваемся ля магілы, убачымся пасля смерці.

Сказаўшы гэта, ён паціснуў мне руку, пайшоў шпарка сваёю дарогаю і хутка схаваўся ў пушчы, якая, як чорная хмара, хавала далягляды.

Яшчэ нейкі час я моўчкі пастаяў над магілаю і самотны пайшоў далей з цяжкім смуткам на душы.

## У СМУТКУ

Сціжмы зорак уверсе то гаснуць, то ззяюць,
Хмары ночы схавалі нябёсаў скляпенні,
У цямрэчы усё навакол патанае,
Мне ж заснуць не даюць даўніх дзён маіх цені.

Гэй, сябры! Мы жылі шчаслівейшай пароюю,
Сёння ж церні і глогі жыццё уздымае;
Колькі люду шукае на свеце спакою,
След крывавы гаркоты у сэрцы трымае.

Той няшчасны, і гэта яго прызначэнне,
Хто чытае у Сэрцах і годнасць, і ваду,
Хто навек успаміны свае і імкненні
Затаіў у грудзях, як атрутнага гада.

Гэты свет яму дзікай пустэльняй здаецца,
Ні душу, ані вока няма чым спатоліць;
Жаль у сэрцы, а думка бязлітасна б'ецца
У бяссонныя ночы, а ўдзень яшчэ болей.

## НАДЗЕЯ

Адчыняецца чорнае хмары заслона,
Абшар нябёс бялее там, на ўсходнім краі,
І, як запаленая лямпа ў хмарах сонных,
Ярчэй за іншыя нам гэта зорка ззяе.

Вясляр, стамлёны штормам ў водах Акіяна,
Плыве пад зоркаю надзеі без трывогі;
Пяскамі Афрыкі вандруюць караваны,
Што, ў неба глянуўшы, выходзяць у дарогі.

О, зорка! Да цябе заўжды узносіць вочы
Блукалец, што камень тугі нясе у сэрцы,
Калі жалобы хмара светач думкі змрочыць,
Часінай буры супыніўшы ў паняверцы.

Дарма халодны розум шчасця дзесь шукае,
Дарма магутны розум лічыць слуг бясконца;
Сумленнага прадбачнасць акрыляе,
Што ўночы зоркі, тое ўдзень запаліць сонца.

## БОГ

Ранак высвеціў поле і бор напаўсонны,
А на ўсходзе аблокі ґарацы, як рубіны;
Шмат чуваць журавоў над зазёрным затонам
І ў зялёнай гушчэчы хароў салаўіных.

Божа! Колькі падзякі Табе у прыродзе!
Загадаеш, і краскай вясна нас вітае,
Загадаеш, як слотная восень прыходзіць
І у вырай вандроўнае птаства злятае.

А даброты Твае ўсе стварэнні зазналі,
Там, дзе моры пяскоў пад адвечнай спякотай,
Там, дзе морыільдоў назаўсёды паўсталі,
Ёсць апека Твая над найменшай істотай.

На дарогах жыцця церні раняць глыбока.
Спі ж, вандроўнік самотны, ў пустэльным спакоі,
Бачыць гадаў атрутных тут Божае вока,
І Ягоны анёл назаўсёды з табою.

## РАДА

Быў змрочны дзень у палове сакавіка, на панадворку падаў мокры снег. У хаце дзядзька размаўляў з рыбаком Родзькам пра рыбацкую ўдачу, пра гаспадарку ды пра клопаты бедных сялян, якім не будзе чым сёлета сеяць. Я падчас тае гаворкі думаў аб падарожжы і марыў, што ў чужых краях зусім іншы свет, пякнейшыя краявіды, прыгажэй цвітуць лугі, багацейшыя ўраджаі на палетках і людзі стакроць шчаслівейшыя. Дзядзька парушыў мой одум, кажучы:

— Янка доўга гасцяваў у пана Марагоўскага, бываў і ў іншых дамах заможных нашых суседзяў, палюбіў іх ветлівасць, пасябраваў з сім-тым з маладзёнаў і нібыта назаўсёды з імі развітаўся; заўсёды маркотны, задуманы і гэтай вясною хоча нас пакінуць, мяркуючы, што дзесьці там, у далёкіх краях, багацце плыве ракою.

— Я не шукаю багацця, — адказваю,— а хачу пазнаёміцца з думкамі і жыццём людзей у тых далёкіх краях; у маладосці трэба вучыцца, трэба пабачыць свет.

— Убачыш, зазнаеш і спасцігнеш, што і там, дзе зямля шчодра адорвае земляроба, дзе лясы цвітуць накшталт зямнога раю, — людзі ўсюды такія самыя, там толькі шчасце, дзе чалавек жыве так, як Бог загадаў: працуе рупліва і без хцівасці, не забывае бліжніх, спадзяецца на лепшае. У нашым краі доў-

гая і зменлівая зіма, часам мокрая, часам марозная і завейная, у лагчынах вада, а на пагорках паўночны вецер нішчыць пшаніцу і жыта, аднак жа дбайнасць і праца можа перамагчы ўсё. Калі я набыў гэты фальварак, зямля тут нагадвала дзікую пустэчу, аднак я не паддаваўся роспачы, імкнуўся ўсё палепшыць, засыпаў ямы, асушыў балацявіны, і на тым месцы вырас у мяне прыгожы бярозавы гай, маю добрыя сенажаці, завёў жывёлу, цяпер, дзякуй Богу, і палеткі родзяць. Паны, што маюць прыгонных, марнуюць багацце на карэты, уборы і карты; няраз вясною, калі ім бракуе грошай, ідуць да шляхціца Завальні. Хто працуе і спадзяецца на Бога — можа і тут быць шчаслівы і спакойны.

— Я гэта добра ведаю, дзядзечка, але, жывучы ў гэтым краі, не чую і не бачу, што дзеецца на свеце, быццам вочы мае заслоненыя. Сумнае такое жыццё.

— Вось што такое навука! Ужо неспакойны, хочаш яшчэ больш даведацца і лятаеш думкамі недзе там, далёка, хочаш бачыць вялікі свет, і таму цесна табе тут з намі, хочаш, як птах, вырвацца з клеткі.

Родзька маўчаў і ўважліва слухаў гэтую размову. Нарэшце, глянуўшы на мяне, сказаў:

— Нашы продкі не зайздросцілі багатырам, што жылі недзе там, у далёкіх краях, яны мелі ежу і вопратку са свае працы, а цяпер хцівасць прывяла злых духаў, каб здабывалі грошы з-пад зямлі, а таму смутныя гады і смутнае жыццё.

— Родзьку, — сказаў я, — нязменна мрояцца злыя духі, а ўсё ж такі сам іх ты не бачыў.

— Ці ж людзям не верыць? — сказаў рыбак. — Паніч, пэўна, не чуў, што здарылася на Сітнянскім возеры, а пра тое шмат хто апавядаў.

— Не ведаю, што там было.

— То я раскажу. Каля таго возера з аднаго боку вёска Сітна і дарога з Полацка на Невель, а з другога — густы і цёмны яловы лес. Летам у ціхае надвор'е схавалася сонца і зоркі паказаліся на небе; сяляне, вярнуўшыся з поля, завіхаліся ля хат і чуюць раптам, як нехта за возерам, каля самага берага, за цёмным лясным гушчаром, спявае. І так моцна ды вусцішна, што чароды перапалоханых качак падняліся ў паветра, звяры, выгнаныя з лесу, беглі па палях і пагорках, а сабакі скуголілі, нібыта перад вялікім няшчасцем. Жыхароў гэтае вёскі апанавала трывога, і дрыготка праціnала іх цэлы, бо выразна пачулі словы тае песні:

*І Сітна маё,*
*І Глыбокае маё,*
*І Скобрыя маё,*
*І Шэвіна маё,*
*І Язна маё,*
*І Нешчарда маё,*
*І Няведра маё,*
*І Невельскае маё.*
*Як маё, дык маё і ўсё маё.*

Так спяваў нехта не адзін раз з вечара да самае паўночы — называючы ў гэтай песні не толькі азёры, але і ўсе рэчкі. Ісці туды, каб даведацца, хто гэта так жахліва спявае, усе баяліся. Нарэшце адзін смялейшы рыбак адважыўся; узяў дубовы кій, некалькі камянёў і ўвечары, калі той толькі пачаў спяваць, падышоў і з-за дрэва ўбачыў, што нехта, вопраткаю і тварам зусім падобны на асташа — барада шырокая, твар круглы, вялікі скураны фартух — сядзеў на гнілым пні і крычаў на ўсё горла. Думаючы, што гэта сапраўдны асташ спраўляе свае чарадзейскія абрады, рыбак сказаў:

— Не прыўлашчай сабе нашыя азёры і рэчкі, — і з усяе моцы шпурнуў камень, трапіў чараўніку ў самы бок.

— Ах,ах! Паламаў мне скабы! — закрычаў шатан і кінуўся ў ваду: ускалыхнулася ўсё возера, і хвалі пачалі плёскаць у берагі. Рыбак спалатнеў і затрымцеў ад страху. Але і шатан з таго часу ўжо больш ніколі не спяваў, прысвойваючы сабе нашы азёры і рэчкі.

— О! Каб такім чынам, — сказаў дзядзька, — можна было пакараць усіх злых духаў, што шкодзяць людзям!

— Спалохаўся каменя шатан, — сказаў Родзька, — але ёсць яшчэ на небе перуны страшнейшыя за яго. А таму, паніч, не пакідай нашую зямлю: будуць лепшыя часіны і лепей будзе жыць між сваіх.

— Часы мяняюцца, і ў людзях перамена, — сказаў дзядзька. — Даўней наша моладзь не ведала і ведаць не хацела, што там дзеецца дзесьці ў далёкіх краінах, жылі ўсе спакойна і шчасліва, цяпер і на адукаваных нападае нейкі смутак: ледзь закончыў вучобу — ужо яму самотна, пакідае родныя палеткі, выпраўляецца ў далёкае падарожжа, мяркуючы, што чужы вецер развее яго неспакойныя думкі. Маю сыноў, і ім, пэўна, гэты мой дамок будзе цесны, уробленыя маёю працаю палі і гэтыя гаі не задаволяць іх жаданняў; не буду, аднак, пярэчыць ім, абы толькі Бог падмацаваў іх сэрцы любасцю да бацькоўскіх звычаяў.

— Даўней і пра тых асташоў нікому і не снілася, а цяпер хутка забяруць у нас зямлю і ваду, так што і нам трэба будзе ўжо ўцякаць куды далей.

Родзька ўздыхнуў, узяў шапку і сак, у якім прынёс рыбу.

— Спяшаешся дахаты? Аднак яшчэ не так позна, — сказаў дзядзька.

— Ужо схавалася сонца, неба змрочнае, ноч будзе цёмная — трэба спяшацца.

— Цяпер вялікі пост, калі зловіш што-небудзь, не забывай на мяне.

## ПАДАРОЖНЫЯ

Як было ўжо зусім цёмна, усхадзіўся і шумеў за сцяною моцны вецер; падаў мокры снег.

— Нешчаслівы той падарожны, — сказаў дзядзька, — якога заспела гэтая завейная ноч пасярод возера. Дарога цяпер цяжкая, ды і яе можна згубіць, блукаючы ў такой цямрэчы.

Прамовіўшы гэта, ён паставіў запаленую свечку на падваконні, але ўбачыўшы, што мокры снег наліп на шыбы і ўсё вакно белае, быццам замураванае, паклікаў да сябе парабка і загадаў:

— Запалі свечку ў ліхтары, прымацуй яго да доўгае жэрдкі і добра, каб не сарваў вецер, прывяжы да брамы; выходзь часцей з хаты і, як пачуеш галасы падарожных, адразу паведамі мне: ноч цёмная і завейная — лёгка можа спаткаць няшчасце.

Калі парабак прымацоўваў ліхтар, Завальня надзеў футра і сам выйшаў з дому прасачыць, каб усё было зроблена хутка і як мае быць.

Праз гадзіну на панадворку пачалі скуголіць сабакі, і хоць выў вецер і шумелі густыя дрэвы вакол дома, можна было, аднак, пачуць галасы падарожных на самым беразе возера, і доўга на адным месцы паўтараліся крыкі, як быццам людзей там нешта трымала. Дзядзька паслаў парабкаў на дапамогу. Вада падмыла багністы бераг возера, і першы конь з цяжкім возам, збіўшыся з дарогі, трапіў на тое месца і ўваліўся ў ваду. Ды так, што яго ледзь выцягнулі ўсе разам на бераг.

Пасля гэтага заязджае на падворак некалькі белых ад снегу вазоў. Выпраглі коней; падарожныя зайшлі ў хату. Дзядзь-

ка, каб іх сагрэць і падмацаваць, кожнаму наліў ёмісты кілішак гарэлкі і загадаў даць вячэру, з умоваю, каб кожны з іх расказаў байку або гісторыю са свайго жыцця.

Пасля вячэры дзядзька прыладзіўся на ложку, я — каля яго, парабкі паселі на лаве. Адзін з тых падарожных — ужо ў вяку, з бледным тварам, але ў моцнай і стройнай постаці відаць была фізічная і маральная моц — пачаў сваё апавяданне.

## АПАВЯДАННЕ ДВАНАЦЦАТАЕ. СТОГАДОВЫ СТАРЫ І ЧОРНЫ ГОСЦЬ

У маладосці я ведаў старога, які жыў па суседству з намі; зваўся ён Гараська, быў сапраўды старасвецкі чалавек. (Цяпер такіх людзей няма ўжо ў нашым краі.) Прамінула гадоў дваццаць, як ён памёр, але жыццё і смерць яго былі такія дзіўныя і так запалі ў маю памяць, што, здаецца, нібыта ўчора ўсё гэта бачыў.

Жонка і ўся яго сям'я даўно ўжо выбраліся на той свет, адзін толькі ўнук быў яму памочнік у штодзённай працы на полі, а нанятая кабета гатавала есці і даглядала адзіную карову, якой досыць было травы вакол самотнага дома, што стаяў на пагорку і быў цераз поле за вярсту ад нашае вёскі.

Гараська добра памятаў сваю маладосць. У святы або ўвечары, калі вернуцца з поля аратыя і касцы, ён прыходзіў да нас і, седзячы на прызбе, апавядаў, як жылі даўней нашыя продкі, — проста, без прыдумак і ўсялякіх пышных аздобаў; палеткі і авечыя чароды задавальнялі ўсе іхнія жаданні; не зайздросцілі яны жыхарам далёкіх краін, не ішлі да іх набываць багацце, бо не мелі ў тым патрэбы, без таго былі шчаслівыя і спакойныя.

У восемдзесят гадоў ён быў яшчэ не змардаваны працаю, — з сошкаю на полі і з касою на сенажаці апярэджваў маладых. Сілу меў нечалавечую. Калі не было добрага ўлову, складваў нерат ў човен і, несучы яго на плячах, пераходзіў з усімі сваімі прычындаламі на другое возера. У такой сіле і заўсёды з добрым здароўем прычакаў соты год жыцця і быў яшчэ моцны, як вячысты зялёны дуб.

Прыйшла маркотная восень. Доўгімі і цёмнымі вечарамі ўся наша сям'я, сабраўшыся пры лучыне, рабіла тое, што адпавядае гэтай пары года. Мой бацька плёў нерат, кабеты пралі, а я

гнуў абручы да розных бочак. У часе работы пачалася гаворка пра старога Гараську.

— Чаму гэта, — сказаў мой бацька, — Гараська так даўно не быў у нас? Добры стары, калі з ім размаўляю, час ляціць хутка і прыемна. О! Як бы я хацеў, каб ён прыйшоў да нас — барзджэй мінуўся б гэты восеньскі вечар.

Ледзь сказаў так — бачым дзіва дзіўнае: дзверы не адчыняліся, а Гараська стаіць пасярод хаты. Са страхам глядзім на яго. Ён стаіць моўчкі і нерухома, твар яго смутны і выказвае штосьці незразумелае, уся постаць лёгкая і, здаецца, вышэйшая, чым зазвычай. З кожнаю хвілінаю ён робіцца ўвачавідкі лягчэйшы і танчэйшы і растае ў паветры. Ува ўсіх нас апусціліся рукі, дрыготка прабегла па целе, пазіраем адно на аднаго, не разумеючы, што ўсё гэта значыць. Нарэшце мой бацька перапыніў маўчанне:

— Трэба будзе заўтра даведацца, што дзеецца ў Гараськавай хаце, ці здаровы ён? Гэтая здань прадказвае нешта благое.

Толькі сказаў гэта мой бацька, — заходзіць у хату сусед, хата якога стаяла на другім баку вуліцы, і такую апавядае гісторыю

Таго вечара былі ў яго госці. Пасеўшы на лавах, госці і гаспадары гаманілі пра сёе ды тое... Нарэшце пачалася гаворка пра некаторыя апавяданні Гараські, як ён згадваў сваю маладосць, даўнейшых паноў і даўнейшае жыццё. Раптам адчыніліся дзверы, нібыта разнасцежыў іх моцны вецер, суседаў сын падбег да парога і толькі хацеў зачыніць — зайшоў Гараська, нікому не пакланіўся, ціха, як цень, падышоў да стала і зноў вярнуўся ў сенцы. Насупраць, у другі пакой, таксама адчыніліся дзверы, і ён зайшоў туды. Дзівіліся ўсе, не ведаючы, што гэта такое; узялі запаленую лучыну, каб пасвяціць, бо цёмна было, але не знайшлі там аніводнае жывое душы. Устрывожыліся ўсе, дзеці і жанчыны баяліся выйсці за дзверы.

Пасля гэтага апавядання яшчэ некалькі чалавек прыйшлі да майго бацькі і таксама расказвалі цуды пра старога Гараську, які гэтаксама шмат да каго заяўляўся. Нехта бачыў яго і ўдзень: сядзеў на прызбе самотны і задуманы, а калі падышлі да таго месца — нікога не знайшлі.

— Заўтра нядзеля, вольны дзень, — сказаў сусед. — Пасля святое імшы пойдзем усе і даведаемся пра Гараськава здароўе. Любажыўны стары хоць на выгляд дужы і здаровы, аднак у такім вяку бывае лёгкая і хуткая перамена.

10 Зак. 909

Наступнага дня перад самым полуднем мой бацька, я і іншыя людзі з нашае вёскі наважылі ісці да Гараські, і толькі падышлі да дзвярэй, як заходзіць яго ўнук і кажа:

— Дзед паслаў мяне прасіць усіх вас, каб вы сёння яго пераведалі.

— Як ён маецца? Ці здаровы? — спытаўся мой бацька. — Засумавалі ўжо ўсе без ягоных гісторый, нават турбавацца пачалі, ці здаровы.

— Здаровы. Праўда, цяпер больш маўчыць, нейкі задуманы і апошнім часам шмат працаваў.

— Што ж ён там рабіў? — спытаўся сусед. — І на каго ж гэта працаваў?

— На сябе.

— Што ж ён усё-такі рабіў?

— Убачыце, калі пераведаеце.

— Ну, дык хадзем, не бавячыся доўга, — сказаў мой бацька.

Заходзім у Гараськаву хату і бачым: стаіць пасярод пакоя на двух зэдліках дубовая труна. У хаце ўсё прыбрана, падмецена і лавы чыста вымытыя. Гаспадар у новым палатняным адзенні і ўвесь белы, як лебедзь. Сустракаючы нас на парозе, сказаў:

— Проша, проша ў маю хату. Запрасіў сёння вас да сябе паказаць вам дом вечнасці, які сабе збудаваў сваімі рукамі. Хутка думаю перабрацца ў гэтую вечную хату.

— О! Яшчэ дзеду моцны, — сказаў мой бацька, — можа, раней каго-небудзь з нас пахаваеш.

— Малады можа, а стары мусіць паміраць, але яшчэ пачакаем пра гэта гаварыць. Сядайце, дарагія госці, рады буду пабавіць з вамі час у мілых размовах.

Сказаўшы гэта, ён запрасіў усіх нас сесці за стол. Унук прынёс гарэлку, а наймічка паставіла перад намі розныя пачастункі. Гараська, сеўшы ля нас, прымушаў піць і есці, а сам не крануў ані ежы, ані пітва.

— Як гэта сталася, дзеду, — спытаўся адзін госць, выпіўшы кілішак гарэлкі, — што ты ўчора з хаты не выходзіў, а людзі цябе ўсюды бачылі?

— Быў і ў мяне ў хаце, — сказаў бацька. — Я, дзеці і жонка — усе добра бачылі: твая постаць з'явілася пасярод пакоя і ўмомант знікла.

— Заходзіў і да мяне. Не пакланіўся ані гасцям, ані гаспадару, а потым хутка выйшаў у сенцы і схаваўся ў цёмнай палове хаты, а там цябе і з агнём не знайшлі.

Гараська неспакойна глянуў на гасцей, твар яго спахмурнеў. Крыху падумаўшы, стары сказаў:

— Будуючы сабе гэты дом, я думаў пра вас, душа мая вас адведвала, успамінаў мінуласць, і дух мой лётаў па тых ваколіцах, дзе я нарадзіўся, вырас, хадзіў па жыццёвых пуцявінах, зазнаў шчасце і гора, вясёлыя і сумныя гады, але ўсё гэта мінулася, як сон кароткі.

— Але, пэўна, і не снілася старасвецкім людзям, — сказаў мой бацька, — тое, што мы цяпер зазналі; паны любілі гаспадарыць, і лепей было за сённяшняе.

— Шмат якім панам глядзеў я ў вочы, — сказаў стары, — адгадваў іх думкі, выконваў загады, дагаджаючы ўсялякім іх жадункам. За мае паслугі, дзякуй Богу, мне верылі і давяралі. Нашы вёскі калісьці колькі разоў перапрадавалі, шмат тут было гаспадароў, і кожны кіраваў па-свойму, ды за тым часам яшчэ жылі нішто сабе. А вось калі пан З. па смерці сваіх бацькоў запанаваў у гэтым маёнтку Казуліне, усе мы зазналі гора. Хацеў здзівіць суседзяў сваёй раскошаю: прывозіў дарагія кветкі і садовыя дрэвы з далёкіх краін; ездзіў у шыкоўных экіпажах; трымаў мноства лёкаяў, а парадку ў доме не было; збіраліся госці, пілі дарагое віно; штогод выдаткі былі большыя за прыбытак з маёнтка. Дык і пачаліся крыўды і рабункі.

— Дрэнны будзе з гэтага канец, — казалі абазнаныя людзі пану З., але ён не слухаў добрае рады, больш да душы былі яму намовы несумленных людзей, якія карысталіся з ягонае някемнасці.

У той самы час з'явіўся ў нашым маёнтку — невядома адкуль — дзіўны чалавек. Я забыў яго прозвішча, але твар, як і сёння бачу: худы, заўсёды бледны, нос велізарны, бровы густыя, пагляд як у вар'ята, вопратку меў чорную, доўгую і нейкую дзіўную. Не выпадала мне ў жыцці нікога ў такім уборы бачыць. І гэты госць, як неадступны цень, нязменна быў з панам З., хваліў ягоныя ўчынкі, маўляў, ён бавіцца і весяліцца, як і належыць сапраўднаму пану — нашчадку знакамітых продкаў, абяцаў паказаць яму нейкія дзівы і адкрыць крыніцу бяздоннага багацця, апавядаў пра цуды, што дзеюцца дзесьці на краі свету; кпіў з нашых звычаяў і завядзёнак, якія нам дасталіся ад продкаў. Былі такія паны, што ўхвалялі яго думкі, а лёкаі і сяляне праклінaлі яго і з пагардаю называлі чорным госцем.

Мінае год, мінае другі, і робіцца ўсё горш і горш. Сяляне пана З. дазвання згалелі, кінуўшы хаты, блукалі па свеце і

шукалі сабе спажывы; ды і ў панскім доме панавала бяда; суседзі і знаёмыя, едучы па блізкіх дарогах, міналі наш маёнтак. Чорны госць прыходзіў толькі часам, раіў прадаваць людзей і такім чынам збіраць грошы. Паслухаўся пан, шмат вывез моладзі ў далёкія краі, але і з гэтага не забагацеў, а госць той чорны хутка знік.

Даймалі пана праз суд крэдыторы, вымагаў нясплочаныя за колькі гадоў падаткі ўрад. Суд апісаў маёнтак і перадаў яго апекуну, а пану З. дазволілі мець пры сабе да паслуг адно лёкаяў. Сярод іх быў тады і я. Мы жылі ў далёкім фальварку; пан быў самотны. Праз колькі месяцаў я заўважыў у ім дзіўныя перамены. Пачасту ён гадзінамі сядзеў моўчкі на адным месцы, часта задуманы, нібыта ў роспачы, хапаўся за галаву і размаўляў сам з сабою, ходзячы па пакоі, не спаў ад заходу да ўсходу сонца.

Аднаго разу акурат апоўначы пачуў я панаў голас, убачыў агонь у вакне; падумаў: кліча каго-небудзь з нас — і заходжу ў пакой. Пан гаворыць сам з сабою так гучна, быццам з некім спрачаецца. Здзіўлены, я доўга глядзеў на яго, а ён мяне не заўважаў. Нарэшце я сказаў:

— Пачуў панскі голас і падумаў, што клічаш каго з нас, а пан быў самотны і размаўляў сам з сабою.

Ён зірнуў на мяне неспакойным вокам і сказаў, паказваючы рукою на сцяну:

— Самотны? А гэта хто?

Бачу: на сцяне цень у рост чалавека, нос доўгі, валасы натапыраныя — пазнаю чорнага госця. Апанаваў мяне страх, дрыготка скаланула цела, стаю на месцы, як скамянелы, а цень той пасунуўся па сцяне да дзвярэй і знік.

— Пайшоў. Не дае мне спакою, — сказаў пан, — а ты ідзі, няма табе тут чаго рабіць.

Я выйшаў адтуль, увесь агорнуты страхам; здавалася, што той страшны цень стаіць перада мною, і я ўсю ноч не мог заснуць. А калі апавядаў іншым пра той жахлівы прывід, ніхто мне не верыў, усе смяяліся, кажучы, што я перапалохаўся свайго ценю, але я думаў інакш і забыць гэтага не мог.

Прайшло некалькі тыдняў. Пан заўсёды быў самотны і неспакойны. Аднаго разу ўвечары ён сказаў мне:

— Сёння я блага пачуваюся. Пасля вячэры адразу прыходзь і будзеш спаць тут, бо, можа, здарыцца якая патрэба, а ты ў сваім пакоі моцна заснеш і мяне не пачуеш.

Я паслаў сабе пасцель на падлозе, патушыў агонь. Ноч была ціхая і ясная, свяціў месяц. Пан не мог заснуць: уздыхаў, уставаў, сядаў і зноў клаўся. Доўга я чуў кожны яго рух і толькі заснуў — моцны голас абудзіў мяне. Усхопліваюся і бачу: пан, седзячы на ложку, гучна гаворыць як бы сам з сабою, але я той гаворкі зразумець не мог. Поўня свяціла ў самае вакно, бледнае святло разлівалася па ўсім пакоі так, што ўсе рэчы можна было добра бачыць. Раптам я заўважыў жахлівы цень у рост чалавека, што быў на сцяне насупраць самага ложка і, павярнуўшыся тварам да вакна, рухаўся, нібы жывы. Нос доўгі, валасы натапыраныя — пазнаў чорнага госця. Ахапіў мяне люты страх і я, як непрытомны, ускочыў з месца і закрычаў:

— Кажы, пане, запаліць агонь!

— Навошта запальваць агонь, — сказаў пан. — Цяпер яшчэ толькі поўнач.

— Гэты жахлівы цень палохае мяне, — адказваю.

— Не табе, а мне не дае ён спакою.

Сказаўшы гэта, ён устаў з ложка і пахаджваў па пакоі, а мне загадаў не сыходзіць з месца. Тут заспяваў певень. Цень пасунуўся па сцяне да дзвярэй і знік. Пан сядзеў нерухомы, як камень. Я лёг на сваё месца і пазіраў на яго; дрыжыкі прабягалі па маім целе, і да самага світання я ўжо не заснуў.

Аднаго разу той жахлівы цень з'явіўся на сцяне апоўдні пры ясным сонцы. Я заўважыў на твары ў пана страшную перамену: ён быў бледны, як навец, і, шпарка ходзячы, казаў нейкія няўцямныя словы.

Я, перапалоханы, ледзь змог прамовіць:

— Загадай, пане, паклікаць ксяндза, каб прачытаў малітвы і свянцонаю вадою пакрапіў сцены. Відаць, гэты дом доўга стаяў пусты, вось нячысцік тут і пасяліўся. Або нейкі чарнакніжнік выклікаў яго сюды, каб ён нас мучыў не толькі ўначы, але і ўдзень.

Пан здзекліва глянуў на мяне і сказаў:

— Стары дом, можа, няраз ужо крапілі свянцонаю вадою. Не з тваім розумам сюды лезці.

Неяк, калі заходзіла ўжо сонца, пан, вярнуўшыся смутны са шпацыру, зайшоў у пакой, сеў і ашчаперыў рукамі галаву.

— Пэўна, у пана моцна галава забалела? — пытаюся.

— Так шуміць у галаве, — сказаў ён, — што даўно ўжо ніякага паратунку няма.

— Параіў бы пану, як вылечыцца, ды не ведаю, ці паслухае мяне пан.

— Паслухаю, калі што добрае скажаш.

— Кажуць, што калі мучыць шум у галаве, найлепей пастаяць ля самае званіцы, паслухаць касцельных званоў, як на імшу звоняць, потым зайсці ў святыню, укленчыць перад алтаром, шчыра памаліцца і паслухаць святую імшу. Такім чынам шмат хто вылечыўся. Няхай і пан паспрабуе*.

Ён глянуў на мяне, і здзеклівая ўсмешка з'явілася на хваравітым твары.

— Табе гэтыя лекі, можа, і дапамаглі б, а мяне касцельныя званы не вылечаць.

— Шмат бачыў няшчасцяў і страшных дзіваў, жывучы на гэтым свеце, — сказаў стары. — Але гэтае самае жахлівейшае. Не вытрымаў пан, памёр ад несупынных пакутаў.

Сказаўшы гэта, ён схіліўся перад абразом Божай маці і ціха маліўся, а ўсе госці моўчкі глядзелі на яго.

Ужо вечар. Сонца схавалася за лесам. Гараська, закончыўшы малітву, глянуў у вакно: на небе свяцілася адна вячэрняя зорка. Ён нейкі час сачыў за ёю. Сляза пакацілася па Гараськавым твары. Нарэшце, павярнуўшыся да гасцей, сказаў:

— Хутка ляціць час у размовах з добрымі сябрамі. Так і ўсё жыццё наша мінаецца. Колісь у маладыя гады любіў я глядзець на гэтую вячэрнюю зорку, там шукаў у смутку надзеі і ўцехі.

Ён запаліў васковую свечку, паставіў яе ля труны і казаў далей:

— Збудаваў сабе дамок без дзвярэй і без вокан. Тут адпачну спакойна, сон мой не перапыніць ні смутак, ні трывога, ні клопаты. На Бога мая надзея.

Сказаўшы гэта, стары паставіў труну на падлогу і хацеў легчы ў яе.

— Што ты робіш! — закрычаў адзін з гасцей, хапаючы яго за руку. — Навошта, здаровы і моцны, лезеш у дамавіну? Прыйдзе пара, самі цябе туды пакладзём. А пакуль тое, жыві і радуйся сонейку!

— Але больш ты ўжо не вырасцеш, — сказаў мой бацька. — А цяпер, бачым, труна акурат па табе. Не нагадвай нам, што некалі цябе страцім. Давай пагамонім лепей пра тое, што было даўней.

— Хачу адпачыць пасля працы. Ужо ноч, зоркі свецяцца на небе, — сказаўшы гэта, Гараська лёг у труну.

---

* На Беларусі і цяпер яшчэ просты люд лечыцца так ад шуму і іншых хвароб у галаве.

Стоячы вакол, глядзім на яго: твар смяртэльна збялеў, і вочы закрыліся.

— Досыць, досыць гэтае пробы. Падымайся, — сказаў мой бацька, беручы яго за руку.

— Уставай, уставай, Гараська! — крычалі госці.

Хацелі падняць яго з труны, але як убачылі, што ён ужо нежывы, пабялелі ўсе і доўга стаялі вакол у здранцвенні.

— Дзіўны стары, — сказаў Завальня, — ведаў, што жыве апошнія гадзіны і, развітваючыся з гэтым светам, запрасіў да сябе ў гасціну знаёмых, каб у іх на вачах пайсці ў свой вечны дом. Пэўна, ён усё жыццё памятаў пра смерць, за гэта ў старасці літасцівы Бог і абвясціў яму часіну свайго суда і міласэрнасці. А вось той чорны госць, што не даваў спакою пану, ужо трэці раз з'явіўся на сцэне ў нашых гісторыях. Не спіць злы дух, усюды шкодзіць людзям і заўсёды сябруе з тымі, хто забывае пра бліжніх сваіх. То кара Божая.

Паслухаем жа цяпер, што твой таварыш скажа.

## АПАВЯДАННЕ ТРЫНАЦЦАТАЕ, ЧАРАЎНІК АД ПРЫЎРОДЫ І КОТ ВАРГІН

— Бывалі цуды некалі, —сказаў другі падарожны, — чуў і я ад старых пра незвычайных людзей. Апавяданні пра аднаго з іх наймацней захаваліся ў маёй памяці.

Жыў у нашым краі просты селянін Тамаш. Пра яго казалі, быццам нарадзіўся, маючы ўсе зубы, а калі вырас, не вучачыся чараваць, ведаў усе сакрэты чараўнікоў, нячысцік ад яго не мог схавацца: у кожнай перамене, у любым абліччы — ён заўсёды яго бачыў і пазнаваў. Да ўсіх людзей ён меў прыязнасць, ведаў нейкія сакрэтныя словы, якімі перамагаў злога духа, дапамагаючы пакутным і нешчаслівым людзям. Змучаныя цяжкай хваробаю паны, калі вучоныя дактары і дарагія лекі не давалі ім палёгкі, пасылалі па Тамаша, і той нейкім таемным словам хутка вяртаў ім здароўе і спакой. Раскажу пра некалькі такіх выпадкаў.

Аднаго разу пан Н. вярнуўся з горада і прывёз дадому ката. Дзе і як яго набыў — я не чуў, толькі ведаю, што кот той быў незвычайны. Калі пан занёс яго ў пакой і пасадзіў на падлогу, усе сямейнікі абступілі госця і здзіўлена глядзелі, як той паваж-

на пахаджваў па хаце, падыходзіў, варкочучы, да кожнага і з усімі быў такі ласкавы, быццам гадаваўся ў гэтым доме.

Пан Н. сказаў жонцы:

— Глянь, Антося, які цудоўны кот, вялікі, поўсць блішчастая, увесь чорны, як вугаль, вочы гарачь. Ды гэта сапраўдны кашэчы кароль Варгін*. Ледзьве здабыў гэтую найвялікшую рэдкасць.

Кот ускочыў на стол. Пані пагладзіла яго рукою, ён прымружыў вочы, выгнуў дугою чорную спінку і, муркаючы, пахаджваў па стале. Пані ўзяла яго на рукі: пекны, ласкавы кот быў ёй да душы.

Кот гэты атрымаў усялякія выгоды: піў смачнае малако, спаў на мяккай пасцелі, на кліч «Варгін!» бег да пані, бавіў яе, і ўсе яго любілі.

Прайшоў месяц, за ім яшчэ адзін. Кот быў фаварытам цэлага дому і жыў сапраўды, як кашэчы кароль. Але праз некалькі месяцаў усе пачалі заўважаць нейкую перамену ў пані: у яе з'явіліся дзіўныя капрызы, ніхто не мог адгадаць, чаго яна хоча; нудная, неспакойная, сварлівая, карала без віны пакаёвак і лёкаяў, лаяла суседак, крычала на мужа; ва ўсім маёнтку адзін кот быў добры і шчаслівы.

«Што гэта такое? — думае сам сабе пан Н. — Такая нечаканая перамена ў Антосі».

Параіўся са старымі і дасведчанымі людзьмі. Усе пагадзіліся на тым, што пані хворая, бо часта плача, наракае, хапаецца за галаву, нібыта мучыць яе моцны боль, і падае на ложак. Хворай ніхто не мог дагадзіць. Толькі кот спакойна варкатаў ля яе.

— У яе напэўна спазмы, — сказаў пан. — Трэба клікаць доктара.

Прыязджае доктар, пасылае па лекі, лекі дарагія, выдаткі вялікія, а рады няма. Задумаўся доктар, не можа паставіць дыягназ, дык пан Н. запрашае яшчэ некалькі медыкаў. Сабраліся, пагаманілі між сабою, перамянілі лекі — але і гэта не памагло, бо ніхто з іх не мог зразумець хваробу.

Калі ўжо дактары з усёй сваёй навукай не далі палёгкі (хворая зрабілася яшчэ больш слабая і неспакойная), знаёмыя і суседзі параілі пану паслаць па Тамаша.

---

* На Беларусі можна пачуць гісторыю, у якой кашэчы кароль завецца Варгін, пеўневы — Будзімір, мышыны — Паднор.

— Тамаш, — казалі, — нарадзіўся з зубамі, умее ад прыроды лячыць сілаю слоў. Трэба верыць у таямніцы і ў цуды, хоць і не спасціг яшчэ іх чалавечы розум.

Паслухаў пан Н. і паслаў па чараўніка.

Пані ляжала на пасцелі, каля яе сядзела паручнікава жонка, што прыехала тым часам праведаць хворую; пакаёўкі стаялі ля дзвярэй, кожную хвіліну гатовыя выканаць загад, і чорны кот сядзеў, варкочучы, побач.

Заходзіць пан з Тамашом, кот глянуў на чараўніка агністым вокам, натапырыўся, пырхнуў і скочыў пад ложак.

Тамаш, гледзячы на хворую і мовячы свае таемныя словы, падышоў да яе. Пані, убачыўшы чараўніка, усхапілася ўгневаная з ложка і толькі раскрыла рот, каб нешта сказаць, як рой восаў вылецеў з яе вуснаў і разляцеўся па пакоі. Яны джалілі ўсіх і блыталіся ў валасах у людзей. Кот, жахліва лямантуючы, бегаў па сталах, кідаўся на вокны і сцены. Нарэшце схаваўся за грубкаю і пранізліва мяўкаў. Страх агарнуў усіх, пані ўпала на ложак. Чараўнік адчыніў дзверы, і ўся тая куслівая жамяра знікла.

— Няхай цяпер хворая крыху адпачне, — сказаў Тамаш. — Праз колькі гадзін будзе зусім здаровая.

— Скажы, Тамаш, з чаго пачаліся тыя страшныя пакуты мае жонкі? Адкуль і як у яе ў галаве завяліся тыя восы? Дактары не маглі вызначыць яе хваробу.

— Няма тут нічога дзіўнага, — адказаў Тамаш, — пані любіла бавіцца* з катом, і ён сваім нячыстым варкатаннем распладзіў у яе галаве, як у гняздзе, атрутных восаў.

— Кот?! Варгін?! — закрычаў пан. Ці можа такое быць? Такі пекны, такі лагодны звярок; усе яго любілі, і ўсё ў яго было.

— Раю пану быць асцярожным. Каты, асабліва чорныя, маюць атруту.

Сказаўшы гэта, ён узяў шапку і выйшаў з пакоя.

— Павесіць ката! — закрычаў пан Н., і гэты, поўны гневу загад, перапалохаў усіх. Паклікаць сюды каго-небудзь, няхай выцягне ката з-за грубкі. Павесіць яго!

— Сорам, — сказала пані паручнікава, — даваць веры чараўніку, які тут нас усіх сваім шарлатанствам падмануў. Хіба маглі ад гэтага ката нарадзіцца атрутныя восы ў галаве; не чыні, пан, такой жорсткасці — я яго забяру з сабою. Кот рэдкі, і ён у маім доме, пэўна, ніякае шкоды не ўчыніць.

---

* Беларусы вераць, што жамяра ў галаве заводзіцца да варкатання катоў.

— Павесіць ката неадкладна! — крычаў пан Н. у гневе.

Заходзіць у пакоі лёкай, шукае за грубкаю ката, але таго там ужо не было. Пан і лёкай агледзелі ўсе куты, глядзелі пад сталамі і пад ложкамі, шукалі ля мэблі і нідзе Варгіна знайсці не маглі. Дзверы і вокны былі зачыненыя, як ён уцёк? Стаяць здзіўленыя: кот як праз зямлю праваліўся.

Пані ўжо была здаровая і спакойная. Ва ўсёй ваколіцы дзівіліся з гэтага здарэння. Дактары кпілі з людскога прастаты; але люд верыў у сілу Тамашовых слоў, ішоў да яго па параду і заўсёды меў палёгку ў пакутах. Пані паручнікава хацела мець Варгіна ў сваёй хаце, дужа шкадавала, што не ведае, дзе гаротнік хаваецца ад несправядлівага панскага гневу.

Аднаго разу, бавячы час дома з суседкамі, так апавядала гасцям пра ката Варгіна:

— Я не бачыла нічога пякнейшага, як той незвычайны звярок: чорны як вугаль, поўсць бліскучая, гладкая, мяккая — як аксаміт; хвост як у собаля, вочы, поўныя агню, гараць, як свечкі; сам велізарны. О! Калі б магла дзе-небудзь такога ката знайсці — дорага заплаціла б за такую рэдкасць.

Падчас гэтае размовы забягае Зося, старэйшая дачка пані паручнікавае, і крычыць:

— Ах, мама! Які велізарны кот сядзіць у вітальні!

Адчыняюць дзверы і бачаць у цёмным куце чорнага ката — вочы зіхацяць, як свечкі. Гаспадыня адразу пазнала Варгіна і ледзь сказала: «Варгін!», як ён, варкочучы, падышоў да яе. Пані ўзяла яго на рукі, занесла ў пакой і пусціла на падлогу. Варгін паважна пахаджваў па пакоі, а дзеці і госці, стоячы вакол, глядзелі са здзіўленнем і хвалілі незвычайнага ката.

— Табе, Зося, трэба клапаціцца, каб Варгін быў заўсёды накормлены і дагледжаны, — сказала паручнікава. Я рада, што ён з'явіўся ў маім доме. Тут такое няшчасце, якое ён зазнаў нядаўна ў доме ў пана Н., яго не напаткае. Ці ж праўда, што такі прыгожы кот мае атруту і шкодзіць сваім варкатаннем?

Некалькі тыдняў Варгін быў найшчаслівейшы з катоў: меў добрае малако, усе яго любілі, а найбольш дзеці. Яны кідалі кату мячык, а той спрытна лавіў яго лапамі, бегаў з дзецьмі па пакоі, скакаў па крэслах, сталах і канапах, гуляў з малымі ў садзе, забаўляў іх, лазячы па дрэвах. Пасля забаў і праменадаў ён ляжаў з дзецьмі на траве пад шатамі густых ліп; а калі вяртаўся ў пакой, яго сустракала Зося, брала на рукі, гладзіла белаю ручкаю, і не раз шчаслівы Варгін, варкочучы, засыпаў у яе на каленях.

Нарэшце дзіўныя перамены заўважаюць усе: дзеці, раней спакойныя, цяпер лезуць на сталы, на камоды, страшна крывелюцца, часам мружаць вочы, як совы, баючыся святла, глядзяць, як пачвары, выкрыўляюцца целам, кідаюцца ў вокны, бягуць да вады, усіх лаюць. Зося зусім змянілася. Часам разгневаецца на ўсіх, сядзіць смутная, наракае на ўсіх людзей і на цэлы свет, а часам — занадта вясёлая, танцуе адна, кружляе па пакоі, пляце лухту; зрабілася легкадумнаю, пераборліваю, ніхто ёй дагадзіць не можа.

Аднаго дня пані паручнікава бавілася з гасцямі, дзеці коўзаліся на падлозе, Зося павярнулася колькі разоў у пакоі і села ў куце, самотная і сумная, а Варгін прымайстраваўся ў фатэлі і babкатаў, прымружыўшы вочы.

— Дзіўныя перамены бачу я ў тваім доме, — сказала прыяцелька пані паручнікавае, — дзеці, а асабліва твая старэйшая дачка, непадобны да саміх сябе. Чула я пра чорных катоў, што яны вельмі шкодзяць. Ці не Варгін гэта іх заразіў? У такім няшчасці, як кажуць людзі, дактары не дапамогуць. Прасі Тамаша. Ён адзін можа вылечыць.

Калі сказала гэта, то кот Варгін завішчаў некаціным голасам, скочыў у вакно і вокамгненна знік.

Паручнікава пабялела, і ўсіх гасцей ахапіў страх. Раскрыліся ў маці вочы, зразумела яна сваю памылку і нешчаслівыя вынікі яе. Хутка пасылае карэту па Тамаша, просячы, каб паспяшаўся і ўратаваў яе ад няшчасця.

Прыехаў Тамаш. Маці расказала яму пра бяду, што прыйшла ў дом. Чараўнік глянуў на паненку, на дзяцей, пацiснуў плячыма і кажа:

— Будзь, пані, спакойная, хоць дзеці ўжо хворыя, але яшчэ не позна: з іх галоў лёгка можна выгнаць пачвар, што завяліся ад кацінага варкатання.

Ён загадаў паставіць усіх дзяцей пасярод пакоя, а сам, наблізіўшыся да іх, прашаптаў таемныя словы.

Страх агарнуў усіх, хто глядзеў на гэта: з дзяцей сыпаліся нейкія дробныя страшныя і дзіўныя звяркі, накшталт жаб і мышэй, поўзалі па пакоі і шукалі схованак у шчылінах, пранізлівы іх піск закладаў людзям вушы. З галавы ж паненкі Зосі вылятали матылі размаітых памераў і расфарбоўкі, мітусіліся пад столлю, а маці, гледзячы на гэта, дрыжэла ад страху і была як непрытомная. Тамаш, бачачы яе пакуты, махнуў рукою, і адразу зніклі матылі і ўсе пачвары.

Нарэшце Тамаш, каб яшчэ больш супакоіць расхваляваную маці, запэўніў, што дзеці яе не захварэюць больш на гэтую немач, калі яна не забудзе цяперашніх пакут і будзе пільнаю, баронячы дзяцей ад гэткіх забаваў.

Калі пасля чараў дзеці пайшлі ў свой пакой, а Тамаш узяў шапку, каб ісці дадому, прыехаў суддзя Дадэмуха, чалавек багаты і, кажуць, разумны, бо ўсе суседзі і знаёмыя заўсёды ў яго прасілі рады ў судовых справах. Пан суддзя зайшоў у пакой, прывітаўся з гаспадыняю, зірнуў на Тамаша і сказаў:

— А гэты чараўнік чаго тут?

Пані паручнікава расказала пра няшчасце, якое яна зазнала ад чорнага ката. Дадэмуха смяяўся да ўпаду, слухаючы пра такія цуды, і сказаў, звяртаючыся да Тамаша:

— Добры ты круцель. Я няраз чуў пра твае чары, але сцеражыся, каб не зазнаў праз іх бяды.

— Аднак я нікому зла не зрабіў, — адказаў Тамаш.

— Людзей ашукваеш.

Госці і гаспадыня, баронячы Тамаша, даводзілі, што ў тых цудах, якія яны бачылі на свае вочы, не было ніякага ашуканства.

— А дзе ж усё-такі той Варгін? — спытаўся суддзя. — Хачу яго пабачыць. Гэта звер незвычайны. А можа, пані паручнікава, не жадаючы мець у сваім доме ката, што, як люты вораг, учыніў ёй столькі гора, дазволіць мне ўзяць яго сабе? Я люблю такія рарытэты. Чуў гісторыі, што дзесьці ў пекных садах каты апавядалі байкі і розныя старыя паданні, прыязджалі туды багатыя паны і князі, каб пабачыць і пачуць такія цуды. І гэты кот у мяне не менш здзівіў бы ўвесь свет, творачы сваім варкатаннем рознакаляровых матылёў, жамярыц і розных звяркоў. З далёкіх краёў прыязджалі б да мяне паглядзець на такія дзівосы.

— Ахвотна аддала б пану суддзю, але ж ён уцёк у вакно.

— Ах! Як шкада, — сказаў Дадэмуха, а павярнуўшыся да Тамаша, дадаў: — Ці не можаш ты злавіць яго якімі чарамі і прывезці мне?

— Можаш, пане, узяць яго і цяпер з сабою.

Толькі Тамаш гэта сказаў, як раптам з'явіўся кот Варгін. Змоўклі ўсе і дзівіліся на яго. Кот стаяў ля печы, натапырыўшы выгнутую дугою спінку, кашлаты хвост, як вужака, звіваўся на падлозе, вочы гарэлі, як два распаленыя вугельчыкі.

— Да яго страшна падысці, — сказаў суддзя. — Пэўна, быў жорстка пакараны, што так гневаецца. Але ж які велізарны кот!

— Бяры, пане, цяпер смела, потым толькі будзь асцярожны.

Суддзя Дадэмуха загадаў лёкаю занесці ката ў карэту і сам, трохі забавіўшыся, развітаўся з пані паручнікавай. Тамаш таксама заспяшаўся дахаты.

Прайшло няшмат часу. Дзіўныя гісторыі пра пана суддзю папаўзлі па павеце. Што з ім зрабілася? Абрыд усім, ўсіх падазраваў, што раяць яму дрэннае, зычаць злое, хочуць яго загубіць, выдумляюць нейкую страшэнную здраду, штовечар аглядаў зброю, набіваў стрэльбы і пісталеты, уначы не спаў, быццам баяўся нейкага нападу. Гнеў яго быў страшны, жорстка і часта без усялякае віны караў лёкаяў, ва ўсім яго доме не было жывое душы, якая чулася б у бяспецы і спакоі. Толькі кот Варгін найлепшы прыяцель, седзячы ля яго, свяціў вачыма і нязменным варкатаннем бавіў пана. А найбольш мроілася пану суддзі, нібыта ўсе маёнткі ў Полацкім і Невельскім паветах належалі калісьці яго фаміліі. Апрыкраў жыхарам, выклікаючы іх у суд, ганарыўся знакамітасцю роду Дадэмухаў, апавядаў, як некалі раскашавалі яго продкі: добра пілі, добра елі, жылі пышна, як сапраўдныя паны. Аднаго дня за нейкаю патрэбаю прыехала да пана Дадэмухі некалькі чыноўнікаў. Не ведаю, што там было, але кажуць, пан суддзя быў на той час вясёлы, гасцей прымаў ласкава. За жартамі і размоваю адзін з іх убачыў на фатэлі ката Варгіна.

— А гэта ж той самы кот, які некалі быў у доме пана Н. і пані паручнікавае, і там быццам бы ад яго варкатання завяліся ў галовах восы, матылі і розныя звяркі. Вучоныя дактары не маглі даць рады, а Тамаш, шэпчучы нейкія сакрэтныя словы, вылечваў усіх.

— Га, га, га! — рваў смехам бакі пан суддзя. — Ці можна верыць такой лухце! Ужо колькі месяцаў гэты кот заўсёды са мною, аднак я зусім здаровы і ніводзін паразіт не дакучае мне ў галаве.

— Аднак, пане суддзя, — сказаў, жартуючы, другі госць, — ці не кот гэты параіў распачаць справу аб маёнтку з панам ротмістрам. Мне здаецца, што гэта закончыцца анічым, бо я не бачу ў патрабаваннях пана ніякае слушнасці.

— Гэты кот не вучыўся праву, — сказаў суддзя. — Я сам ведаю, што раблю.

— Я не бачыў ніколі таго Тамаша, — сказаў адзін з гасцей. — Ці не можна паклікаць яго сюды? Здаецца, недалёка

дзесьці жыве. Няхай бы пашаптаў свае чарадзейныя словы, можа, і мы ўбачылі б якія цуды.

— Пэўна, хочаце даведацца, — сказаў, смеючыся суддзя, — ці ёсць у мяне ў галаве якая-небудзь жамяра? Каб задаволіць вашу цікаўнасць, зараз пашлю па яго. Няхай прыйдзе і лечыць мяне самога. Убачым, ці здолее нас ашукаць сваім шэптам.

Калі суддзя загадаў лёкаю ісці па Тамаша, кот пырхнуў, скочыў з крэсла і, седзячы пад сталом, дзікім і неспакойным варкатаннем выказваў свой гнеў. Яго вочы гарэлі агнём, на спіне і хвасце тапырылася поўсць; здавалася, кот бачыць перад сабою ворага.

— Варгін баіцца Тамаша, — сказаў нехта з гасцей. — Толькі ўспомнілі імя , ужо спакою яму няма.

Суддзя ўзяў яго на рукі, пасадзіў каля сябе, гладзіў, каб супакоіць, але вочы ў ката ўсё адно гарэлі, і поўсць тапырылася на спіне і хвасце.

Неба закрылі воблакі, а зямлю зацьміў вячэрні змрок. У доме ў пана суддзі гарэлі свечкі і не перапыняліся размовы і спрэчкі аб розных судовых справах. Гаспадар імпэтна даводзіў законнасць усіх сваіх юрыдычных патрабаванняў, сцвярджаў, што павінен абавязкова дамагчыся свайго, што не пашкадуе на гэта выдаткаў, каб завалодаць маёнткамі сваіх ворагаў, а іх прымусіць жыць на жабрачым хлебе.

Знячэўку здзіўляе ўсіх нечуванае дзіва: кот вырастае да сабакі і вые лютым сабачым голасам. Гаспадар і госці, уражаныя гэтым, акамянелі. Ад спалоху не маглі і слова вымавіць.

Адчыніліся дзверы, зайшоў Тамаш. Кот скочыў і з такім імпэтам сігануў у вакно, што зламаная рама ўпала за сцяною, шыбы разляцеліся на друзачкі, і ён знік у начным цемрыве.

Тамаш падышоў да гаспадара, і калі той глядзеў на яго як непрытомны, пачаў казаць чарадзейныя словы. І тут можна было ўбачыць яшчэ страшнейшае відовішча: з усіх адтулін з галавы пана суддзі вылятали пухіры накшталт мыльных бурбалак і, лопаючыся пад столлю, перамяніліся ў жахлівых пачвараў — тут і крылатыя гадзюкі, і цмокі, і іншая брыдота, падобная да спарахнелых шкілетаў. Усё гэтае страхоцце лётала над галовамі, на падлогу падалі косці і галовы нябожчыкаў. Ад жаху ўсе самі нагадвалі трупаў, што паўставалі з магіл. Нарэшце Тамаш махнуў рукою: усе тыя гадзюкі, цмокі і шкілеты зніклі -- і ён сам выйшаў за дзверы, пакінуўшы гаспадара і гасцей анямелымі ад страху.

Праз выламанае вакно вецер кранаў полымя свечак на сталах, недзе ў далёкай будыніне заспяваў певень, і гадзіннік выбіў поўнач. Гаспадар і госці пасля доўгага маўчання нарэшце апрытомнелі. Яны пабачылі на свае вочы цуды, ад якіх яшчэ бегалі ў іх па спінах мурашкі, і цяпер паверылі ў сілу Тамашовых слоў, якіх слухаюцца нават духі. Суддзя Дадэмуха са слязьмі на вачах прызнаўся, што ўсе яго намеры і вымогі былі несправядлівыя, і прысягнуў, што жыцьме з усімі ў згодзе і сяброўстве і не прымусіць болей сваіх бліжніх плаціць непатрэбныя выдаткі.

Тамаш шмат дапамагаў у няшчасці і простым сялянам. Немагчыма нават усё расказаць. Шкада толькі, што ён пакінуў нашу старонку і пайшоў у край далёкі.

— Якая прычына, — спытаўся Завальня, — што ён пакінуў сяброў і бацькаўшчыну?

— Розныя пра гэта засталіся думкі між людзей. Кажуць, нібыта некаторыя паны і вучоныя лекары даводзілі ўсім, што слова — вецер, які не можа ані дапамагчы, ані, таксама, пашкодзіць, што ўсе чалавечыя хваробы яны ўжо даследавалі, вывучылі і ў аптэках кожны знойдзе патрэбныя яму лекі, што такіх атрутных шкадлівых катоў на свеце няма, што Тамаш ашукваў усіх, творачы цуды, і карыстаўся з людскоe наіўнасці. Нарэшце дайшло да таго, што чараўніку пачалі чыніць розныя ўціскі. Ён уцёк і схаваўся ад непрыяцеляў.

Іншыя ж даводзяць, што быццам і сябры яго нават згадзіліся з думкаю вучоных галоў і крычалі: «Не словы нам патрэбны! Пакажы нам зёлкі, мы самі збяром іх і будзем сябе лячыць». Тамаш ведаў моц кожнае травы і тым дагаджаў сябрам, што па лугах, балотах, берагах рэчак і азёр збіраў зелле, вучыў, якое з іх атрутнае, а якое — лекавае, расказваў, дзе якая трава расце, і як яе карыстаць. Так, дбаючы пра сваіх прыяцеляў, у травені, калі весяліцца ўся прырода, спяваюць птушкі ў полі і ў гаях, задуманы Тамаш блукаў па родным краі, збіраючы травы і кветкі. На захадзе сонца на даліне сярод лёгкае, празрыстае смугі ён убачыў русалку незвычайнае прыгажосці; на галаве ў яе быў сплецены з кветак вянок, на валасах зіхацелі кроплі расы, сукенка, белая, як снег, была высыпаная размаітымі кветкамі. Яна, спяваючы чароўным голасам, забавіла Тамаша да сябе. Ён пайшоў за ёю і не вярнуўся дахаты.

— А ці з'яўляўся яшчэ дзе-небудзь той кот Варгін? — спытаўся дзядзька.

— З'яўляецца і цяпер. Нядаўна ў нашым маёнтку, калі паніч з людзьмі прыйшлі апоўначы да альтанкі, дык убачылі велізарнага чорнага ката. Дзверы і вокны былі зачыненыя, і ўсе дзівіліся, якім чынам ён туды залез. Калі хацелі яго злавіць і выкінуць, кот, ратуючыся, не зрабіў аніводнага шораху, а як лёгкі вецер пералятаў цераз сталы, шафы і канапы, нідзе не затрымліваючыся. Нарэшце сеў у куце і, калі яго акружылі, каб схапіць, — імгненна знік. Усіх агарнула трывога, і дрыжыкі пабеглі па целе.

Часам у навальнічную ноч, калі вецер вые за сцяною, можна пачуць жахлівае варкатанне таго ката, і цяжкая туга лажыцца на душу; бачаць сяды-тады апоўначы яго агнёвыя вочы, нібы дзве свечкі; трывожна тады на сэрцы. Але не ўсе даюць веры гэтым страхам. Толькі просты люд моліцца, просячы Бога, каб збавіў ад таго нячысціка.

— Бура на падворку, — сказаў дзядзька, — шуміць вецер за сцяною, замятае ўсе дарогі снегам, заўтра не паедзеце вельмі рана, ды і няма вам патрэбы спяшацца: хлеб і сена, дзякуй Богу, маю, дык можам яшчэ нейкі час пагаманіць, пакуль певень заспявае.

Што ж нам раскажа цяпер ваш трэці таварыш?

## АПАВЯДАННЕ ЧАТЫРНАЦЦАТАЕ. ДЗІЎНЫ КІЙ

Трэці падарожны быў яшчэ малады, вусы і барада былі ў яго кароткія і мяккія; твар паказваў на моцнае здароўе і добрую памяць. Пачаў ён так:

— Я нічога яшчэ не сустрэў у жыцці такога, што было б вартым агульнае ўвагі, але чуў некалькі гісторый, якія апавядаюць у нас у доўгія зімовыя вечары; адну з іх — пра дзіўны кій — раскажу пану.

Калісьці ў багатага чалавека служыў малады працавіты і пачцівы парабак Алешка. Быў ён дбайны, паслухмяны і стараўся ва ўсім дагадзіць свайму гаспадару. Гады тры праслужыў ён без усялякіх спагнанняў. На чацвёртым годзе за ўсю сваю працу атрымаў толькі тры талеры і пайшоў з імі шукаць іншае службы.

«Як цяжка жыць на свеце беднаму чалавеку, — думаў, ідучы. — О! Калі б я меў грошы, шмат на свеце добрага зрабіў бы; ёсць людзі, змучаныя старасцю і калецтвам, якія і працуючы не могуць зарабіць сабе ні грошай, ні хлеба. Я іх забяспечыў бы, каб маглі спакойна жыць да самае смерці».

Калі гэтак падумаў, убачыў жабрака. Той быў без рукі, змучаны падарожжам і голадам. Алешка дастаў талер, даў бедаку і пайшоў далей.

Прайшоўшы крыху яшчэ, заўважыў сляпога, якому быў за павадыра дзесяцігадовы хлопчык. Сляпы просіць, каб зліταваўся над яго калецтвам. Алешка дастаў другі талер і аддаў жабраку.

Ідучы далей, убачыў трэцяга старца, зусім згорбленага, барада і валасы на галаве белыя як снег; успёршыся на кій, дрыготкім голасам прасіў той міласціну. Алешка выняў апошні талер і, аддаючы яго жабраку, сказаў:

— Бяры мой апошні талер. Сёння ён мне не трэба, але не ведаю, які лёс выпадзе мне заўтра.

— Не турбуйся за заўтрашні дзень, — сказаў жабрак. — Аддаю табе гэты кій; ён служыў маёй старасці, і ты, калі будзеш мець якую-небудзь патрэбу, падымі да неба той канец кія, якім абапіраешся на зямлю, і адразу зробіцца ўсё, што ты захочаш.

Сказаўшы гэта, ён аддаў кій, а сам імгненна знік.

Алешка доўгі час стаяў задуманы, разважаў пра дзіўную здань у вобліку беднага старца, пра таямнічую сілу кія, які трымаў у руках, і, агорнуты гэтымі думкамі, пайшоў далей.

Бачыць перад сабою лес, спавіты дымам — нібы густым туманам. Падыходзіць бліжэй: страшны пажар у пушчы, полымя, гнанае ветрам, запальвае галіны высокіх хвояў. Ласі і дзікія козы, ратуючыся ад агню, кідаюцца ў ваду і плывуць на другі бок возера, сяляне ў роспачы дарэмна спрабуюць утаймаваць імклівае полымя, якое ўжо дасягае палеткаў і пагражае паглынуць усе пасевы.

Алешка згадаў старцавы словы і падняў канец кія ўгору. Умомант пажар ачах, нібыта заліты вадою. Толькі чорныя клубы дыму падымаліся ў неба. Людзі здзіўлена глядзелі на гэта, а Алешка пайшоў далей.

Раптам пацямнела, схавалася сонца ў аблоках, з-за гор паднялася страшная хмара і засланіла палову неба, бесперапынна ўспыхвалі бліскавіцы, і стралялі адзін за адным перуны, падзьмуў вецер, жывёла ўцякала з пашы, страх ахапіў усіх сялян.

Алешка падняў кій да неба — клубы чорных воблакаў вецер разнёс у розныя бакі, і навальніца не ўчыніла аніякае шкоды.

Калі сонца выпаліла ў полі працу земляробаў, высахла трава на лугах і паплавах, Алешка чароўным кіем выклікаў з далёкіх краёў хмары, і шчодры дождж ажывіў зямлю.

Шмат ён дапамагаў бедным і нешчаслівым, і людзі дзякавалі лёсу.

Нарэшце Алешка пайшоў у далёкі край, дзе за лясамі, за гарамі ёсць велізарная краіна, у якую страшны чарнакніжнік заслаў злых духаў і ператварыў яе ўсю ў жахлівую пустэчу.

Колькі дзён Алешка з кіем у руках ішоў далей і далей, мінаў вёскі і гарады, мінуў велізарныя з даўніх часоў не кранутыя сахою пусткі, і прыйшоў на месца, дзе хавалася ў цёмных лясах утравелая дарога. Там ён убачыў велізарнага асілка. Найвышэйшыя бярозы ледзь маглі вершалінаю дастаць да яго шырокіх раменаў; ён адною рукою вырываў з зямлі стогадовыя дубы і, перанёсшы іх на новае месца, саджаў зноў у зямлю. Калі ўбачыў вандроўніка, пагрозліва закрычаў:

— Чаго ты прыцягнуўся ў гэтыя цёмныя лясы? Загінеш, як нікчэмны чарвяк.

— Я не такі палахлівы, як табе здаецца, — адказаў Алешка і ўзняў канец кія ў неба.

Зашумеў лес, і ў міг вока ўпалі велізарныя дрэвы, вырваныя з зямлі, нібыта прайшла па іх страшная бура. Сам асілак, пакараны незразумелаю сілаю, паваліўся, як стогадовы дуб, на дол і папрасіў літасці.

— Хто ты і што робіш у гэтай глухой пустэчы? — спытаўся Алешка.

— Тут недалёка мяжа царства Вялікага Чарнакніжніка, — сказаў асілак. — Я Дубіна, яго лёкай, вартую гэтыя цёмныя лясы, а цяпер хачу служыць табе.

— Устань і вартуй лясы, але не нападай на вандроўнікаў, а дапамагай ім.

Сказаўшы так, Алешка пайшоў далей.

Ідзе праз цёмныя пушчы, бачыць перад сабою толькі хвоі, а над сабою — неба, сустракае толькі дзікага звера, часам адзываецца здалёку пугач. Калі прайшоў цёмныя пусткі, нечакана адкрылася яго воку велізарная даліна, пасярод якой плыла шырокая рака, зарослая па берагах густым чаротам, і, бегучы з розных бакоў, уліваліся ў яе ручаіны. На высокім беразе сядзеў асілак, падобны да велізарнае скалы. На яго галаве раслі

такія цвёрдыя валасы, што вецер не мог варухнуць іх. З-пад носа тырчалі велізарныя вусы; ён закідаў іх на самую сярэдзіну ракі і выцягваў вялікія рыбіны, што былі яму за ежу. Калі гэтая пачвара ўбачыла Алешку, дык закрычала:

— Чаго ты прыцёгся сюды? Ані човен рыбацкі, ані дзікі звер не пераплывалі гэтае ракі. Толькі птушкі бяскарна могуць ляцець у той бок; загінеш тут праз сваю дурную смеласць.

— Я не баюся тваіх пагрозаў, — адказваў Алешка і ўзняў кій у неба.

Завірылася вада, і рака, нібыта падаючы з высокіх гор, пачала змываць імкліваю плынню берагі. Паваліўся асілак, як скала, падмытая вадою. Скарыўся і папрасіў літасці.

— Ты хто? Навошта, жывучы тут адзін, забараняеш хадзіць іншым? — спытаўся Алешка.

— Тут недалёка мяжа царства Вялікага Чарнакніжніка. Я Пруд, яго лёкай, вартую гэтую рэчку, каб ніхто не пераплываў яе. А цяпер хачу служыць табе.

— Устань, можаш лавіць рыбу ў гэтай рацэ, але не чапай вандроўнікаў, не забараняй пераплываць на той бераг, а нешчаслівым дапамагай. А цяпер пакажы мне брод.

Калі так сказаў, супакоілася вада, а Пруд перакінуў вус на другі бераг. Алешка прайшоў па ім, нібыта па плывучым мосце, падняўся на высокі бераг і рушыў далей.

Неўзабаве ўбачыў ён перад сабою вяршыні велізарных гор, што ўздымаліся над усёй зямлёю, нібыта хмары перад рабінаваю ноччу. Падышоў бліжэй і ўбачыў асілка, які быў мацнейшы і страшнейшы за Дубіну і Пруда. Гэты магут збіраў горы і скалы ў адно месца і, стаўляючы іх адна на адну, будаваў мур, які быў ужо вышэй за аблокі. Убачыўшы вандроўніка, ён закрычаў страшным, бы грымоты, голасам так, што задрыжала ўся ваколіца.

— Куды ідзеш, рабак? Не пералятае праз гэтае месца ні арол, ні сокал, і воблакі далей не плывуць. Загінеш і ты, нікчэмны чалавек.

— Я не баюся цябе, — адказваў Алешка і ўзняў кій у неба.

Абваліліся скалы і горы, скаланулася зямля. Перапалоханы асілак зваліўся на дол і папрасіў літасці.

— Ты хто? Каму ты служыш, носячы гэтыя скалы і горы на рамёнах? Навошта трэба гэтая сцяна, вышэйшая за аблокі?

— Я Гарыня, лёкай Вялікага Чарнакніжніка. Тут мяжа яго царства. Ён не любіць птушак, хмар і ветру, хоча патушыць на небе сонца і зоркі, каб была вакол толькі цемра, але табе само

неба спрыяе, ты мацнейшы за майго гаспадара, а таму я хачу кінуць гэты мур, служыць табе і ісці туды, куды ты пашлеш.

— Хадзем у царства Вялікага Чарнакніжніка, будзеш мне паказваць дарогу.

І вось бачыць Алешка перад сабою смутную краіну, дзе знямела ўся прырода; ані звера, ані чалавека. На пагорках узвышаліся руіны старых замкаў, а ў далінах відаць былі нейкія скамянелыя постаці, падобныя да жабракоў у сумным одуме, дзе-нідзе ў тумане стаяць на грудах ніцыя бярозы, а над зацвілаю вадою — самотныя вербы. У некаторых мясцінах былі чорныя лясы, але аніводная птушка не абзывалася ў тых лясах, толькі паўсюль лёталі крумкачы.

Чорныя птушкі сабраліся ў чараду і віселі над лесам, нібы чорная хмара. Цёмны туман з усёй прасторы аддаляўся ўсё далей і далей, і з яго ўтвараліся дзіўныя і страшныя постаці — нібыта войска на конях плыло ў паветры і, як дым, гінула воддаль.

— Што гэта за здані? — спытаўся Алешка.

— Гэта сілы Вялікага Чарнакніжніка, якія слабеюць ад ветру, што блукае па свеце.

— Што гэта за нямыя камяні, якія здалёк нагадваюць скамянелых людзей?

— То жыхары гэтае зямлі, ніцыя бярозы і вербы над вадою — іх жонкі, маткі і сёстры. Ты моцаю свайго кія можаш адчараваць іх.

Алешка падняў кій у неба — павеяў лагодны ветрык, неба распагодзілася, разлілося вясенняе святло, зашумеў лес, ажылі дрэвы, зазелянелі пекнымі барвамі; нечакана ў паветры і ў гушчарах загучалі птушыныя песні, людзі, што былі падобныя на камяні, уздымалі рукі і вочы да неба. Ніцыя бярозы і вербы на берагах рэчак перамяніліся ў прыгожых кабет і хадзілі па квяцістых лугах, звінелі крыніцы, рэкі і азёры свяціліся, як люстэркі, вёскі і замкі напоўніліся людам. Хутка ўвесь гэты край заквітнеў.

Алешка добра пажыў там, ажаніўся з прыгожай і багатаю князёўнаю. Было гучнае вяселле ў палацы, які свяціўся золатам і срэбрам. Сабралася шмат князёў, графаў і іншых знакамітых гасцей. Некалькі дзён і начэй гучала музыка, і я там быў, мёд, віно піў і весела гуляў.

— Добрае апавяданне, — сказаў Завальня. — За тры талеры, ахвяраваныя жабракам, вызваліў увесь край ад няшчасця і сам стаў шчаслівы.

Але яшчэ не поўнач, можа, што раскажа нам і чацвёрты ваш таварыш?

***Волаты Дубіна, Пруд, Гарыня засталіся ў памяці люду з паганскіх часоў і згадваюцца таксама як Баба Яга, Купала, Чур і іншыя багі (Заўвага аўтара).***

## ГАСПАДАРЧЫЯ КЛОПАТЫ

— Рады б расказваць пану да ўзыходу сонца якія апавяданні або гісторыі, калі б на душы было спакайней. Не мінулае, а прышласць кранае мне сэрца, толькі гэтым думкі і занятыя, і цяжка гаварыць пра нешта іншае.

— Мусіць, чакаеш нейкае бяды, калі так маркоцішся, — сказаў дзядзька.

— Ужо сакавік. Блізка вясна, а гэтая пара года ў нашым краі не ўсіх цешыць, сяму-таму і ўначы спачыну не дае.

— Увесну не адзін гаспадар дбае, каб падчас сяўбы было чым сеяць. Пэўна, і твае клопаты пра гэта.

— У нас адна бяда не ходзіць, няшчасці з розных бакоў нападаюць на чалавека так, што ўсё з рук валіцца і няма надзеі калі-небудзь адпачыць пасля цяжкае працы. Мой сын, жывучы цэлую зіму ў горадзе, заробіў дзесяць срэбных рублёў. За гэтыя грошы я цяпер у Полацку купіў насення. Дзякуй Богу, маю што пасеяць. Але хто будзе араць ніву? Хто пойдзе на паншчыну? У сям'і толькі тры мужчыны робяць, аднак я сам мушу кожны год выжыльвацца, бо сыноў маіх пасылаюць недзе далёка зарабляць грошы, ад якіх хата не мае аніякага прыбытку. Не ведаю, ці змагу сёлета сам працаваць, бо здароўе дрэннае і сіла слабее, а наняць парабка — не маю грошай.

— Не ведаю, адкуль гэтая хцівасць завялася ў нашым краі, — сказаў дзядзька. — Паны хочуць мець усе выгоды, а на гэта грошай ніколі не хопіць. Я заўсёды паўтараю ўсім: зямля задаволіць усе патрэбы. На яе павінны звяртаць мы ўсю нашу ўвагу, яе павінны старацца палепшыць. Жылі б, як нашы добрыя гаспадары: з аборы і з поля маюць невычэрпны скарб, жывуць добра і людзям дапамагаюць. Даўней не было звычаю пасылаць людзей у далёкія краі зарабляць грошы, бо кож-

ны пан меў дукаты ў скарбонцы, і ў сялян было больш талераў, плацілі падаткі, мелі ўсяго досыць і жылі спакойна.

— Так і наш стары пан паўтараў часта, царства яму нябеснае, уся воласць яго забыць не можа. Ведаў ён пра кожнага гаспадара ў сваім маёнтку, як хто працуе, як хто рупіцца пра зямлю; дбаў пра сваіх сялян, заўсёды думаў, як палепшыць ім жыццё. Тады кожны меў увесну столькі насення, колькі яму трэба.

У гэты момант пачалі брахаць сабакі на панадворку і нехта моцна пастукаў у браму. Дзядзька адразу паслаў парабка адчыніць.

## АРГАНІСТЫ АНДРЭЙ

Адчыняюцца дзверы, заходзіць у пакой Андрэй, увесь зацярушаны мокрым снегам. Атрасаючы шапку і адзенне, кажа:

— Пахвалёны Езус Хрыстус! Мір гэтаму дому.

— На векі вякоў. Аман. І таму, хто гаворыць. Але, відаць, пане Андрэй, — сказаў дзядзька, — што на двары няма спакою.

— Няхай Бог бароніць, што там дзеецца: дождж, снег, вецер, завіруха; едучы праз лес яшчэ паўбяды было, але як выехаў у поле, згубіў дарогу і загінуў бы, пэўна, калі б не ўбачыў таго ліхтара, што свеціць цяпер над брамаю пана Завальні. Убачыўшы гэтае святло, дзякаваў Богу, што блізка ўжо порт, дзе можна схавацца ад буры.

— Я ўдзячны, што не забываеш пра мяне, — сказаў дзядзька. — Гіне зімовая дарога, хутка прыйдзе той час, калі буду жыць тут як пустэльнік: рэдка хто мяне адведае.

У часе гэтае размовы падарожныя і сямейнікі — усе разам — пайшлі ў чалядны пакой.

— Я перапыніў прыемныя забавы, пэўна, госці апавядалі пану Завальню розныя цікавыя гісторыі.

— Няхай ужо адпачываюць, — сказаў дзядзька. — Вецер шуміць на падворку — цяжка пачуць спеў пеўня, а можа, ужо і поўнач.

— Ехалі па возеры? Думаю, лёд яшчэ моцны. Я зараз вяртаюся дахаты і заўтра таксама буду ехаць цераз Нешчарду.

— Лепей іншай дарогаю, хоць гэта і далей, але бяспечней, бо на самы бераг ужо цяжка выехаць. Конь у гэтых падарожных уваліўся ў ваду, ледзь выцягнулі яго ўсе разам.

Аднак падарожнаму трэба сагрэцца і пад'есці. Янка, папрасі панну Мальгрэту, каб згатавала госцю вячэру. У мяне ёсць выдатная рыба. Сёння прынёс рыбак Родзька, добры чалавек, не забывае пра мяне.

— Я чуў, нібыта Родзька чараўнік; пра гэта такая гісторыя ходзіць між людзьмі.

Недалёка ад Гарадзецкай гары, дзе рэчка ўпадае ў возера, Родзька часта перад захадам сонца закідваў нерат і заўсёды з поўным чоўнам рыбы вяртаўся дахаты. Адзін рыбак, які жыў там недалёка, пазайздросціў ягонаму шчасцю, паскардзіўся, што Родзька ловіць рыбу ў чужой частцы возера, і такім чынам забараніў яму плаваць блізка каля тых берагоў. Родзька прыгразіў, што пакарае зайздросніка так, што той не толькі ніякае карысці ад возера мець не будзе, але і такое ўбачыць страхоцце, што давеку не забудзе. Так і выйшла. Той рыбак пасля заходу сонца ў ціхае і яснае надвор'е выплыў на возера і закінуў нерат. Цягне яго з вады, цешыцца і думае, што злавіў добрую чараду ляшчоў, і тут бачыць у нераце жахлівых пачвар: велізарныя галовы, вогненныя вочы, з піскам і крыкам б'юць скуранымі крыламі па вадзе, а некаторыя ўзляцелі ў паветры і лётаюць над возерам. Задрыжаў рыбак, валасы ўздыбурыліся, крычаў як непрытомны. Пэўна, выпаў бы з чоўна і патануў, але суседзі, пачуўшы крык, паспелі яму на ратунак.

— Не вер, пане Андрэй, такім плёткам, гэта — відавочная хлусня. Родзька добры і пабожны чалавек, я маю пэўныя доказы: ён новым нератам не пачне лавіць рыбу, аж пакуль ксёндз свянцонаю вадою не пакрэпіць, у святы дзень заўсёды бывае ў касцёле, у Ґарбачове і ў Расонах, шчыра моліцца і ходзіць да святое споведзі. Акрамя таго, вядома ўсім, як ён не любіць асташоў — вось гэта ўжо сапраўды бязбожныя чараўнікі.

Пасля дзядзька апавядаў пра сяброўства асташоў са злым духам і пра ўсё тое, што чуў пра іх ад Родзькі. Пакуль закончылася размова, сабралі на стол.

Павячэраўшы, Андрэй сказаў:

— Дзякуючы гаспадару за гасціннасць, перад сном добра было б расказаць што-небудзь цікавае, але тым часам анічога

мне на памяць не прыходзіць. Дык ахвярую пану кніжку, цікавейшую і карыснейшую за ўсе апавяданні. Гэта віленскі каляндар на гэты 1817 год. Тут прачытаеш шмат разумных рэчаў, карысных і цікавых. Тут ёсць парады гаспадару, тут сакрэты, якія, пэўна, яшчэ пан Завальня не ведае. Напрыклад, як ахаваць капусту ад чарвей, як бяліць палатно, як гадаваць свойскіх птушак і як гатаваць воцат, як палепшыць розныя садовыя дрэвы... Апрача таго, ёсць тут загадкі, показкі, апавяданні.

— Вялікі дзякуй. Гаспадару гэтая рэч вельмі патрэбная. Там пішуць і пра змены надвор'я, хоць і не заўсёды ўдала, аднак жа часам каляндар вельмі дапамагае сваімі парадамі адносна сенажаці і жніва. Але раскажы, пане Андрэй, што значаць гэтыя фігуркі: бык, леў, паненка, шалі, блізняты — заўсёды сустракаю іх у календарах, а не разумею, навошта яны тут патрэбныя.

— Гэта знакі на небе, пад якімі нараджаюцца людзі і якія маюць уплыў на іх жыццё. А ўрэшце, не ведаю добра: усе школы не канчаў і па небе яшчэ не падарожнічаў. Янка гэта павінен ведаць лепей.

— У гэтым годзе будзе зацьменне сонца, — сказаў дзядзька, чытаючы каляндар далей.

— Зацьменні сонца людзі прадказваюць, — адказаў Андрэй, — але не могуць прадказаць тое зацьменне, якое можа акунуць іх сэрцы ў смутак.

— У цябе ёсць нейкія непрыемныя весткі? — спытаўся дзядзька.

— Вельмі непрыемную вестку пачуў ад ксяндза-пракуратара. Сумная вестка, але мушу паведаміць пану Завальню. Дай Божа, каб яна не спраўдзілася.

І нешта расказаў па сакрэту.

Бачу смутак на дзядзькавым твары, перапынілася размова, доўга ён сядзеў, апанаваны нейкімі думкамі. Нарэшце сказаў:

— Час ужо і спаць, можа, прысніцца што-небудзь лепшае. Ужо, пэўна, поўнач мінулася.

Прынеслі ложак у пакой. Андрэй, стомлены дарогаю, хутка заснуў. Дзядзька даўжэй, чым звычайна, шаптаў вячэрнія малітвы і патушыў агонь, калі певень заспяваў ужо другі раз.

# АД'ЕЗД

Вясна. Веяў цёплы ветрык, грэў сонечны прамень, з кожным днём цямнеючы, раставаў на Нешчардзе лёд. Пуста на ўсім возеры. У паветры лёталі толькі белыя крачкі; ручаі збягалі з пагоркаў, шумела, заліваючы ўсю абалонь, рака, вада пакрывала прыбярэжныя лугі і лясы; высокія бярозы і вербы люстраваліся ў чыстым крышталі. Над палямі спявалі жаўрукі, а ўдалечыні адзываліся жураўліныя крыкі.

У канцы красавіка зямля ўбралася зялёным кілімам. Ужо пастух выгнаў на пашу чараду, ужо араты працаваў да захаду сонца. Ясным днём захаплялі вока пекным краявідам горы і лясы, увечары адзываліся ў гаях птушыныя хоры і чароўныя песні салаўёў, уначы на берагах Нешчарды раскладвалі вогнішчы рыбакі; крычалі ў густым чароце качкі і вадзяныя куры.

Сярод весялосці прыроды, сярод добрага надвор'я я быў журботны, мае думкі азмрочыў смутак; адведваў палеткі і лясы, развітваючыся з веснавою роднаю зямлёю; будучыня паўставала ў маіх думках як далёкая, дзікая і страшная пустэча, дзе мяне могуць спаткаць стромы, звяры і гадзюкі.

Калі сонца хілілася да вечара, дзядзька, вяртаючыся з поля, паклікаў мяне да сябе і сказаў:

— Чаму ты такі змрочны і задуманы?

— Думаю пра дарогу.

— Калі ты збіраешся пакінуць наш край?

— Хацеў бы заўтра. Ужо наважыў, і няхай усё споўніцца хутчэй, апрача таго, такое вясновае надвор'е — найлепшы час для падарожнікаў.

— Не трымаю, калі ўжо вырашыў. Будзеш мець заўтра каня і прыпасы на дарогу, але цяпер, перш чым назусім ад'едзеш з гэтага краю, пабудзь у пана Марагоўскага, пана Сівохі і ў сляпога Францішка. Едзеш у той бок, і ад дарогі недалёка трэба будзе ад'язджаць; яны любяць цябе, шчыра зычаць шчаслівага жыцця.

Раніцай, калі ўсё ўжо было прыгатавана, пан Завальня сказаў:

— Янка! Я паўтару табе напамін, які калісьці сам чуў ад свайго бацькі: «Ідзі ў свет, шукай сабе долі, любі Бога, бліжняга і праўду. Воля Творцы цябе не пакіне. Служачы, будзь аддзаны і працавіты, калі зазнаеш няшчасце, цярпі, у бядзе не паддавайся роспачы, памятай, што на свеце няма нічога вечнага,

толькі на небе ад стварэння свету свецяць тыя самыя зоркі і тое ж самае сонца.

Калі спаткаеш дзесьці там шчаслівейшых ад нас людзей, калі ў вёсках і ў гарадах у іх заўсёды песні, музыка і вясёлыя забавы, калі ўся зямля нагадвае пышны сад і штогод добра ўзнагароджвае земляробаў, не забывай пра пакуты сваіх землякоў, няхай твая малітва да Бога лучыцца з іх малітвамі. Можа, калі-небудзь і нашыя дзікія пушчы і лясы загучаць вяселлем, Бог магутны і міласэрны.

Праз шмат гадоў, можа, калі-небудзь наведаеш гэты край, ужо, пэўна, не ўбачыш тых старых людзей, з якімі столькі разоў размаўлялі ў маім доме, і мяне ўжо на свеце не будзе; магілу маю, можа, хто-небудзь пакажа табе. Бывай здаровы і памятай гэтыя мае словы».

Праз гадзіну ўжо схаваўся ад мяне высокі лес, што акружаў сядзібу майго дзядзькі, схавалася чыстае люстра і зялёныя берагі возера Нешчарды.

# ДРАЎЛЯНЫ ДЗЯДОК І КАБЕТА ІНСЕКТА

## ДРАЎЛЯНЫ ДЗЯДОК І КАБЕТА ІНСЕКТА

Сонца ўжо схавалася на захадзе, неба было чыстае, паветра ціхае, у лесе чуліся мілагучныя і дзікія спевы птушак; блізкі быў час начлегу, і я спяшаўся як найхутчэй пакінуць засень лясоў. Выходзячы ў поле, заўважаю на пагорку прывабны шляхецкі дамок, на ўраджайных нівах даспявалі залатыя каласы, і вялікая чарада кароў, рыкаючы, вярталася з пашы. Ведаючы шчырую беларускую гасціннасць, зварочваю туды на адпачынак пасля дзённага падарожжа.

Бачу чалавека, што вяртаецца з поля, ужо пажылы, з загарэлым тварам, капот з шэрага свойскага сукна, галава сівая, на твары спакой і бадзёрасць. Здагадаўшыся, што гэта гаспадар, вітаюся і прашу, каб быў ласкавы дазволіць адпачыць з дарогі да наступнага дня.

— Проша, проша, — шчыра адказаў ён. — Цяпер дзень доўгі, можна не спяшаючыся шмат прайсці. Пан Бог, пэўна, накіраваў у Полацак, адсюль яшчэ сорак вёрст дарогі праз пусткі і пясчаныя баравіны, аднаму, а яшчэ пеша, маркотна і нядобра ісці цёмнаю ноччу.

Калі падыходзілі да жытла, два вялікія сабакі спаткалі нас на дзядзінцы і насцярожана пазіралі на мяне.

— Не палохайся, — кажа гаспадар, — чалавека яны не чапаюць, але дзікіх звяроў блізка не падпусцяць і жывёле найлепшыя вартаўнікі, у нашай гаспадарцы такія сабакі вельмі патрэбныя: мноства ваўкоў і мядзведзяў, не раз нападалі на суседскія аборы.

Ён завёў мяне ў святліцу, дзе былі стол, крэслы і іншыя рэчы сваёй работы з бярозы, простыя, але зручныя. На сценах у ракітавых асадах віселі абразы Збавіцеля, Маткі Божае з надпісам унізе: «Klauber Svulpsit»[1] і гравіраваныя некалі ў полацкай друкарні партрэты св. Ігнація Лаёлы[2], Андрэя Баболі[3], Францішка Ксаверыя[4] і іншых. На шафе ў куце я заўважыў нейкую драўляную галаву, носам і лысінаю падобную да Сакрата; твар паколаты, пашарпаны і сям-там апалены.

З гароду прыйшла гаспадыня, акружаная дзецьмі; старэйшая дачка, якая звалася Анэля, мела чорныя валасы, стройную постаць, жывы пагляд; прырода яе надзяліла так шчодра, што каштоўныя аздобы і ядваб да яе прыгажосці нічога дадаць не змаглі б. З вялікай прыемнасцю глядзеў я на гэтую шчаслівую сям'ю.

— Ты з нашага павета ці з далёкіх краёў ідзеш? — спыталася гаспадыня.

— Мне з дзяцінства знаёмыя ваколіцы Полацка, але, шукаючы долі, я пражыў шмат гадоў далёка, цяпер адведваю гэты край. О! Якія вялікія змены бачу, толькі горы і лясы захавалі свой даўні выгляд.

— А як даўно пакінуў родны край?

— Ужо таму васемнаццаты год.

Гаспадар, пазіраючы на мяне, кажа:

— Здаецца, што я цябе калісь бачыў у гэтых краях, але прозвішча не магу ўспомніць.

Я назваў яму прозвішча, ён з радасцю схапіў мяне за руку і сказаў:

— Я З[5]..., мы былі калісьці школьнымі таварышамі.

І тут пайшла доўгая гаворка пра шчаслівае мінулае, пра маладых таварышаў і настаўнікаў полацкіх школ, пра знаёмых, хто дзе і як жыве, хто і калі пакінуў бацькаўшчыну, пра старцаў, якія ўжо выбраліся да вечнага дому нашага.

Пасля пан З... зняў з шафы драўляны бюст і сказаў:

— А гэтага Дзядка ці памятаеш? Даўней ён лепш выглядаў, калі, высунуўшыся з-за сцяны праз вузкае ваконца, даваў нам парады і перасцярогі, цяпер можаш бачыць на яго твары, колькі ён мусіў выцерпець, пакуль трапіў сюды да мяне, ён для мяне дарагая памятка. Гледзячы на яго, я ўспамінаю тыя мудрыя перасцярогі і паўтараю іх сваім дзецям. Гэты мой маленькі сынок добра ведае, што дазваляе і што забараняе Драўляны Дзядок.

— О! Гэты Дзядок мусіў прайсці па страшных пуцявінах пасля развітання з кляштарным дахам, жорстка яго свет

прывітаў: галава прасвідраваная, вочы выкалатыя, вусны апаленыя; людзі не любяць праўды, але, напэўна, ён, вандруючы па свеце, быў нямы і нікога не абражаў напамінам.

— Людзям цяжка дагадзіць, можа, пакутаваў за тое, што маўчаў. Раскажу пра яго вандроўкі і пра іншыя дзіўныя здарэнні, пра якія чуў ад асоб, што жывуць з намі па суседству. А цяпер падарожнаму трэба падхарчыцца.

Сабралі стол, падалі гарэлку і закуску; Анэля дастала з паліцы спелыя маліны, якія сабрала ў садзе, і цудоўныя яблыкі. Тут пан З... хваліў свае садовыя дрэвы, якія сам садзіў і прышчапляў. Калі ветлівы гаспадар частаваў і падахвочваў мяне вячэраць, адчыніліся дзверы, абапіраючыся на кій, заходзіць стары, галава і вусы белыя. Быў гэта калісьці вялізны і дужы мужчына, але цяжар гадоў пахіліў яго высокую постаць.

— Як маешся, пане Ротмістру, у добры час зайшоў. Рэкамендую табе мілага госця, некалі калега мой школьны, далёка дзесьці вандраваў і цяпер праз шмат гадоў наведаў сваю бацькаўшчыну. Будзем бавіць разам вечар у прыемных размовах, знойдзецца пра што гаварыць пасля такое доўгае ростані.

Прайшло няшмат часу, ужо і самавар прынеслі, наліваюць гарбату, стары пан Ротмістар, седзячы ля стала, сказаў гаспадыні:

— Мая пані, даўней гарбата была лекамі ад галавы, а цяпер без яе і жыць не могуць, якія перамены ў свеце.

Пан З... паставіў шклянку на стол.

— Слухай цяпер, — сказаў мне, — раскажу табе пра дзіўныя здарэнні з Драўляным Дзядком.

Дзеці, хоць, можа, не раз чулі гэтае апавяданне, поўныя цікавасці, прымайстраваліся ля бацькі.

## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ДРАЎЛЯНЫМ ДЗЯДКОМ

У Полацку, калі езуіцкія муры перабудоўвалі паводле новага загаду[6], выкінулі разам з друзам усё тое, што было бескарыснае і непатрэбнае, асуджаны быў і гэты бедны Дзядок на такую ж знявагу; засыпаны вапнаю і пабітаю цэглаю, ляжаў ён непадалёку ад тых муроў, колер валасоў і твару ягонага ўжо змяніўся ад дажджоў і спёкі; работнікі, нанятыя расчышчаць

тыя мясціны, выкапалі яго з-пад друзу і прынеслі да свайго гаспадара-купца,мяркуючы, можа, на што-небудзь яму спатрэбіцца. Купец задумліва глядзеў на гэтага Дзядка і вырашыў, што гэта, мусіць, бюст нейкага вялікага чалавека, паклікаў да сябе фактара[7] жыда Залмана, пытаючыся, што значыць гэты драўляны бюст; можа, ён мае рысы князя або якога даўнейшага мысляра.

— Ведаю добра, — усміхаючыся, сказаў Залман, — што ні князь гэта, ні мудрэц, але гэтая галава, калі выглядвала з-за муру, то гаварыла, і кажуць, што часам і вельмі разумна, я яе сам бачыў.

— Гаварыла? Што за ліха, драўляная галава! Пэўна, нейкія тут чары?

— А можа, і чары, навошта яна табе, аддай мне, я за яе заплачу.

— Хочаш, як бачу, мяне ашукаць. Лухту мелеш: драўляная галава гаварыла, быць гэтага не можа.

Падчас гэтае размовы жыда з купцом падышоў хтосьці, апрануты па новай модзе, можа, які чыноўнік або настаўнік, і, гледзячы на Драўлянага Дзядка, кажа:

— Гэта галава грэцкага філосафа Сакрата, я чытаў пра яго і бачыў яго партрэт, падобны на гэты твар. Ён шмат пакутаў прыняў ад сваей жонкі Ксантыпы і за праўду, якую гаварыў свету, спазнаў гора.

Купец, радуючыся, што знайшоў такі скарб — бюст вялікага Сакрата, пра розум якога некалі чуў, адагнаў жыда ад Дзядка і вырашыў мець яго ў вёсцы ў сваім доме і, часам гаворачы пра Сакратавы пакуты, нагадваць учынкі свае жонкі, бо яго жонка Яўхімія была падобная да Ксантыпы.

Ужо праз колькі дзён Драўляны Дзядок з купцом пераехалі ў вёску, што была за некалькі дзесяткаў вёрст ад Полацка, гаспадар унёс яго ў хату, з гонарам паказвае сваёй жонцы, тлумачачы ёй, што гэта бюст слаўнага грэцкага мудраца.

Яўхімія глянула на Дзядка скоса:

— Гэтае страшыдла драўлянае з барады і носа падобнае на цябе — ці варта было цягнуць яго з сабою.

Дарэмна муж пераконваў, што гэта вялікі рарытэт, і ўжо нешчаслівы Дзядок мусіў быць выкінуты з дому і начаваць пад голым небам, але, на шчасце, прыйшоў сусед і прыяцель; ён супакоіў Яўхімію і давёў ёй, што гэты твар нічога агіднага ў сабе не мае, можа быць, гэта бюст нейкага пустэльніка або манаха, які некалі жыў пабожна, а таму варты пэўнае павагі.

Яўхімія нарэшце згадзілася пакінуць у хаце гэтага Дзядка, аднак не раз плявала на яго, называючы страшыдлам, і заўсёды пазірала гняўлівым вокам. Гаспадар растлумачыў свайму прыяцелю, што гэта бюст славутага мысляра Сакрата, і яго памясцілі на сцяне між двух вокнаў.

Уначы, калі ўсе спалі, і яшчэ не праспяваў певень, Яўхімія з крыкам усхопліваецца з ложка, будзіць мужа, каб хутчэй запаліў агонь, бо той Драўляны Дзядок напалохаў яе і яна ўся дрыжыць з пярэпалаху; муж падхапіўся, здзіўлены гэтым выпадкам, і запаліў святло.

— Гэты драўляны дзед, — сказала Яўхімія, — усю ноч сніўся мне ў жахлівых абліччах, я ўцякала ад яго праз дзікія лясы і багну, а ён гнаўся за мною з паходняю і хацеў мяне скінуць у нейкую вогненную прорву; калі абудзілася ад гэтага сну, дрыжучы ад страху, убачыла яго ў месяцавым святле на сцяне, зіхацелі яго вочы і ён люта пазіраў на мяне, ах! злітуйся, вынесі гэтае страшыдла прэч.

Муж, прыгадваючы, што некалі яму жыд расказваў, думаў сам сабе: «А можа, і праўда, што ў ім схаваныя нейкія чары», аднак, нічога пра гэта сваёй жонцы не мовячы, узяў Дзядка са сцяны, занёс у пякарню, паставіў на печ, а Яўхіміі казаў, што той сон і грозныя вочы Дзядка прымроіліся ёй ад неспакойных думак, аднак жа святло гарэла ўсю ноч, і Яўхімія заснула спакойна толькі перад світаннем.

А Дзядок, забыты ў пякарні на печы, праз некалькі тыдняў пачарнеў ад дыму, які там штодня стаяў пад столлю цэлаю хмарай. Праз нейкі час купцовы парабчанкі і яшчэ некалькі дзяўчат з тае вёскі знялі Дзядка з печы, каб напалохаць парабкаў, якія пасля вячэры ў цемры павінны былі ісці спаць на сена. Апярэджваючы іх, дзяўчаты пасяшалі да аборы, абкруціўшы прасцінаю куль саломы, з якога наверсе тырчала галава Дзядка, і хацелі яго паставіць, нібы пудзіла, ля сцяны, але тут нечакана каля іх пачаўся незвычайны шум, і вочы Дзядка засвяціліся агнём; дзяўчаты з крыкам разбегліся,некаторыя пападалі непрытомныя на дарозе, іншыя ўскочылі ў дом, бледныя, быццам нежывыя: даведаўшыся пра гэтае здарэнне, пабеглі ратаваць самлелых, ледзь вярнулі іх да жыцця. Куль саломы і Дзядка знайшлі ля сцяны. Яўхімія крычала, што ў ім сядзіць д'ябал. гаспадар і іншыя мужчыны даводзілі, што дзяўчатам усё гэта прымроілася, бо яны палахлівыя, аднак жа Дзядок ужо не вярнуўся ў хату, кінуты ў адрыне, ён ляжаў там на вільготнай зямлі.

Разнеслася вестка пра такую праяву па ўсёй ваколіцы. Карчмар Усвойскі, што жыў за пяць вёрст ад купца, чуючы такія апавяданні пра Драўлянага Дзядка, не даваў ім веры. Праслужыўшы гадоў пятнаццаць лёкаем у двары пана Н., ён прачытаў некалькі раманаў, перакладзеных з французскае мовы, і ўжо ўсе незвычайныя здарэнні былі яму зразумелыя, цуды і чары ён называў глупствам. Аднак жа, захацеўшы ўбачыць Драўлянага Дзядка, прыехаў да купца, пайшлі яны ў адрыну, знайшлі тую галаву, што валялася ў цёмным куце; паверхня яе пачала ўжо плеснець ад вільгаці, гаспадар даводзіў яму, што гэта галава Сакрата, які гаварыў свету праўду і якога ненавідзела жонка. Усвойскі даў веры, бо і сам няраз чуў, як расказвалі пра гэтага славутага грэцкага філосафа; і прасіў купца, каб аддаў яму Дзядка, абяцаючы аддзячыць гарэлкаю або чым іншым; купец на гэта згадзіўся, бо ведаў, што яго жонка ніколі з галавою нешчаслівага мудраца не змірыцца.

Усвойскі прывёз яго ў сваю карчму, паставіў у куце на лаве за доўгім сталом і кожнаму, хто прыходзіў да яго выпіць кілішак гарэлкі, з гордасцю паказваў Драўлянага Дзядка, даводзячы, што з твару ён зусім падобны да даўнейшага мысляра Сакрата, які пакутаваў і памёр за праўду.

Мінула некалькі тыдняў. У святы дзень сабралася ў карчме шмат земляробаў і лёкаяў з маёнтка пана Н. Пасля заходу сонца, ужо ў змроку, п'яным парабкам заманулася пасваволіць і пажартаваць з Усвойскага. Дык калі карчмар на нейкі час выйшаў з хаты, яны ўзялі таго Дзядка, прасвідравалі зверху ў дзвюх мясцінах галаву, налілі туды вады і пракалолі вочы шылам; вадзяныя кроплі, не раўнуючы, як слёзы, беглі па твары, і заплаканага Дзядка зноў паставілі ў куце за сталом. Ледзь Усвойскі зайшоў у карчму, яны паказваюць на Дзядка:

— Глядзі, твой Сакрат плача, відаць, не даеш яму гарэлкі або пакрыўдзіў чым іншым.

Калі карчмар, дзівуючыся, пазіраў на Дзядка, на панадворку сабакі, падняўшы морды, пачалі выць, рыкала жывёла ў аборы, куры, злятаючы з курасадні, неспакойна, з крыкам бегалі па зямлі, вецер шумеў ля карчмы, усіх апанавала вялікая трывога, працверазелі ўсе і маліліся, аж пакуль гэта не супакоілася. Я чуў таксама, што, калі гэтыя свавольнікі вярнуліся ў двор, пан невядома з якое прычыны быў раз'юшаны і загадаў за тое, што доўга бавіліся ў карчме, пакараць іх розгамі.

Усвойскі агледзеў Дзядка і расказваў усім пра гэтае здарэнне, просячы кожнага, каб не чыніў яму ніякай знявагі; прай-

шло некалькі месяцаў, усё забылася, і сам карчмар, прымаючы ў сябе суседзяў і стрыечнікаў і добра падвесяліўшыся, забыў пра ўсё і кажа да Драўлянага Дзядка:

— Ты гарэлкі з намі не п’еш, выкуры хоць цыгару, мне падараваў некалькі прыезджы пан, табе не пашкадую.

І ўсунуў запаленую цыгару Дзядку ў губы; тут забягаюць суседзі і крычаць, што страха ў карчме гарыць; працверазеў карчмар, выбеглі госці, сабраўся люд, разабралі дах і ледзь уратавалі будынак.

Трымаў гэта ў сакрэце Усвойскі, думаў, як бы пазбавіцца ад Дзядка, але баяўся з ім абысціся недалікатна — кінуць у агонь або ў ваду, бо ўжо зазнаў, як ён карае за крыўду. Чакаў толькі выпадку, калі будзе хто мець ахвоту яго набыць, але тым часам трымаў яго ўжо не ў куце за сталом, а заўсёды зачыненага ў шафе.

У тых самых мясцінах на ўсход за лесам жыў пан Хапацкі, які меў колькі падданых сялян, быў нейкі час асэсарам, а потым падсудкам, вучыўся некалі ў школах, і так вывучыўся, што не верыў ні ў што і з усяго кпіў.

Аднаго разу, едучы на лёгкай брычцы, ён наведаў карчмара, з якім здавён меў агульны камерцыйны інтэрас, бо праз яго збываў і набываў коней, да якіх быў вялікі аматар. Усвойскі, хочучы збыць з рук Драўлянага Дзядка, дастаў яго з шафы і, ставячы на стале, кажа:

— Глядзі, пане суддзя, які я маю рарытэт. Няхай пан здагадаецца: да каго гэты твар падобны?

Хапацкі, паглядзеўшы, кажа:

— Нейкі мужык лысы ды барадаты.

— Не, пане суддзя, гэта не мужык, гэта бюст вялікага некалі мысляра Сакрата, я гэта ведаю лепш. Вялікія сакрэты і цяпер яшчэ хаваюцца ў гэтай галаве, ведаю пана даўно і толькі на знак мае павагі і прыхільнасці магу гэты рарытэт уступіць яму, — і падрабязна расказаў пра ўсё, што здарылася ў купца і ў яго карчме.

Хапацкі смяяўся да слёз, слухаючы гэтыя авантуры, і дзівіўся з людскае прастаты і дурасці. Пасля дастаў з кішэні табакерку.

— Ну, Дзядок, — кажа, — гневаўся за цыгару, а я цябе пачастую добрым тытунём.

Гэтак кажучы, засыпаў у нос Дзядку шчопці табакі.

— Што робіш, пане суддзя, далібог, каб з гэтага не было кепскага!

11 Зак. 909

— Не палохайся, ён за гэта не разгневаецца: гэта ж галава, як кажаш, славутага мысляра Сакрата, а мудрыя галовы любяць тытунь, бо гэта дапамагае ім мысліць.

Усвойскі пераджагнаўся і таемна маліўся, баючыся, каб не прычынілася чаго-небудзь у яго карчме.

— Не бойся, у мяне Дзядок не будзе сваволіць, бо я і сам не менш ведаю за Сакрата. Ну, развітайся з ім, пане Усвойскі.

Ён сеў у брычку, паклаў Дзядка на калені, сцебануў каня і знік за павароткаю, а карчмар яшчэ доўга стаяў і глядзеў яму ўслед.

Гэта было гадзіны за паўтары пасля паўдня. Маёнтак пана Хапацкага за лесам, ад карчмы не больш за чатыры вярсты, але — дзіўная рэч! — конь бег і бег, мінаў пагоркі і лясы, пан бачыў увесь час незнаёмыя краявіды, праязджаў паўз вёскі, маёнткі і палеткі, аднак нідзе не мог убачыць свайго жытла, сустракаў падарожных, хацеў у іх даведацца, у які край заехаў, ды конь так шпарка бег, што немагчыма было перамовіцца ні з кім хоць словам.

Сонца схавалася за горы, ужо вечар, дарогу ахутаў шэры змрок, конь увесь у пене, ішоў ужо ціхай ступою. Хапацкі думаў пра тое, каб трапіць у вёску, пераначаваць там і дапытацца дарогі. Тут знячэўку чорная хмара пакрыла неба, ноч зрабілася такая цёмная, што на крок перад сабою нічога не ўгледзіш, да таго ж і дождж лінуў; нешчаслівы вандроўнік не ведаў, што чыніць, ды тут пры святле бліскавіцы ўбачыў каля дарогі маленькую будову. Былі гэта могілкі, і здаўна там стаяла драўляная каплічка. Хапацкі зварочвае з дарогі, каб схавацца ад навальніцы. У ціхім месцы за сцяною паставіў каня, сам заходзіць у каплічку і чакае ў куце, пакуль праміне гэтая бура. Пасля дастаў з кішэні табакерку і толькі адчыніў яе, як у святле нечаканае бліскавіцы ўбачыў над табакеркаю нейкую вялізную сухую руку, што ўжо была гатовая ўзяць шчопаць тытуню. Перапалохаўся пан, выпусціў з рук табакерку, выбег за дзверы і, не зважаючы на дождж і вецер, бяжыць у поле, сам не ведаючы куды. Шчасце, што ў хуткім часе разышліся тыя хмары, і ён на ўсходзе ўбачыў дзянніцу і непадалёку на пагорку вёску, паспяшаўся туды, сустрэў сялян, што ішлі з косамі на луг. Ад іх даведаўся, што ён паблізу Віцебска, некалькі дзесяткаў вёрст ад свайго дому. У гурце касцоў прыйшоў на могілкі, знайшоў каня і брычку на месцы, а табакерку ў каплічцы на зямлі, аднак Дзядка там не было, і пан не памятаў, дзе і якім чынам яго згубіў; праз колькі дзён пан Хапацкі вярнуўся дахаты і з таго

часу вельмі добра запомніў, што ёсць рэчы незразумелыя і яму, хоць ён ведаў не менш за Сакрата.

Амаль год пра Дзядка хадзілі дзіўныя весткі; казалі, што нейкі пілігрым, носячы яго ў руках, з'яўляўся ў некаторых вёсках, вучыў люд дабрачыннасці, нагадваў ім, каб яны шанавалі даўнія звычаі і традыцыі сваіх продкаў, каб не адступалі ад праўдзівае веры. Слухмяных і пабожных людзей ён бласлаўляў, ад разбэшчаных і адступнікаў уцякаў.

Іншыя расказвалі, што перад заходам сонца была аднаго разу дзіўная праява, бачылі яе пастухі і аратыя. Нейкая прыгожая кабета ў белых строях, падобная да анёла, вянкамі цудоўных кветак упрыгожвала на лузе галаву таму Дзядку, і калі цікаўныя людзі захацелі падысці бліжэй, дык тая кабета, як бы дух які, аддалялася ад іх — ні равы, ні густыя хмызы ёй не заміналі, узышла на возера і, нібы белы воблак, узнялася над чыстай вадою і знікла. Шмат такіх дзівосаў расказвалі.

Цяпер раскажу, якім чынам пасля доўгае і дзіўнае вандроўкі гэты Драўляны Дзядок трапіў нарэшце да мяне. Ведаеш добра нашу Беларусь, дарагі госцю, пры любых няўродах адзін толькі лён найчасцей можа задаволіць нашы патрэбы, калі Пан Бог бласлаўляе наша поле. У пазамінулым годзе было ў мяне шмат гэтага тавару, у нас яго набываюць купцы, а пасля, сабраўшыся з цэлае Беларусі, вязуць Дзвіною на караблях у Рыгу. Дык я з гэтым інтэрасам прыехаў да купца, каб збыць яму свой тавар. У яго пабачыў вялікі беспарадак, ягоная жонка Яўхімія ад вялікага пярэпалаху і гневу ледзь дом не растрасла, наракаючы на свайго мужа: прывёз зачараванае страшыдла, якое заўсёды не дае ёй спакою. Купец толькі гадзіну назад вярнуўся дадому і, апраўдваючыся, прысягаў ёй, што ён зусім у гэтым не вінаваты. Ледзь гэты бунт я ўтаймаваў. Пасля спытаўся ў купца аб прычыне такой жончынай трывогі. Ён мне паведаміў, што галава мысляра Сакрата немаведама як з'явілася ёй перад вакном і цяпер ляжыць за сцяною. Вывеў мяне з дому, каб паказаць таго Дзядка, і прасіў мяне, каб я абавязкова забраў яго; я паклаў яго ў карэту, пагаварыў з купцом пра лён і вярнуўся дахаты.

Праз нейкі час пачуў такую гаворку між суседзяў:

— Яўхімія, заўсёды сварачыся з мужам, знелюбіла яго і хацела пакінуць назаўсёды, а можа, мела яшчэ і прыяцеля, які яе да гэтага падбіваў. Дык калі муж быў у ад'ездзе, яна збірала ўсё, што можна забраць з сабою, каб пакінуць мужу пусты дом, ды тут нечакана глянула ў вакно і ўбачыла драўляную галаву

таго Дзядка; невядома, адкуль і якім чынам з'явілася тая перад вакном. Яўхімія закрычала ад страху і самлела. Пачулі ў другім пакоі сямейнікі, прыбеглі на ратунак, ледзь прывялі яе да прытомнасці, скінулі Дзядка з вакна, каб ён другі раз не трапіў ёй на вочы. У гэты час прыехаў купец, і тут пачалася жахлівая бура, але добра, што не ўдалося ёй пакінуць свайму мужу пусты дом.

Ужо другі год маю ў сябе гэтага Дзядка, і, дзякуй Богу, усё ідзе шчасліва, цаню яго як найдаражэйшую памятку.

Калі пан З... закончыў расказваць, абазваўся Ротмістар:

— А я, стары чалавек, раскажу старое апавяданне пра кабету Інсекту і пра гэтага Дзядка, бо цяпер казалі, што нейкая кабета аздабляла яго кветкамі. Так, яна ўжо адпакутавала за свае грахі. Раскажу, што ад іншых чуў, а ці гэта праўда, не мой клопат.

## КАБЕТА ІНСЕКТА

Даўней жыла ў нашым краі багатая пані. Я не памятаю яе прозвішча, але гэта неістотна. Дык вось тая пані здзекавалася са сваіх падданых і лёкаяў, забыла пра веру і хрысціянскія абавязкі, ёй здавалася, што чалавек — гэта яе ўласнасць, гэтаксама, як і кожная рэч, і што яна мае права чыніць над людзьмі што захоча.

Яна рабавала бедных сялян, увесь плён мазольнае іхняе працы пускала на раскошу. А людзі ў той час разлучаліся з душою ад голаду. Яна хадзіла ў дарагім ядвабе і дыяментах, а яе падданыя не мелі чым накрыцца ад холаду і ветру; калі хто завінаваціўся ў чым — кара была неміласэрная, ды яна часта і без віны жорстка карала. Пані так лютавала, што загаралася гневам, калі дзяўчына з яе воласці захоча замуж за чалавека вольнага і багатага. Адразу гэтую гаротніцу садзіла ў кайданы, быццам тая ўчыніла нейкае страшнае злачынства.

Так жывучы, гэтая зласлівая кабета заўважыла, што яна ўжо састарэла, а сумленне шаптала ёй, што скончыцца некалі жорсткае панаванне, ды і здароўе пачало слабець. Бачачы свой блізкі скон, яна перамяніла свае звычкі, зрабілася пабожнаю і міласэрнаю, давала міласціну жабракам, адпісала нейкія грошы на кляштары ў Полацку, абы маліліся ўсюды,

каб Бог даў ёй здароўе і дазволіў доўга жыць на свеце. Зазванілі ва ўсіх касцёлах, сабраўся люд, абвясцілі пра гэта з амбона, паляцелі ў неба малітвы пабожных людзей і весткі пра святыя ахвяры. Залагоджаны малітвамі вернікаў, Бог злітаваўся над грэшніцаю, дазволіў доўга жыць на гэтай зямлі і чакаў пакаяння.

Пані пражыла гадоў сто, ды не толькі не змянілася на лепшае, але гнеў і жорсткасць яшчэ болей выраслі ў яе сэрцы. Так што большая частка яе падданых, пакінуўшы свае хаціны, тулялася па свеце, шукаючы сабе спажытку, і лёкаі разбягаліся, кленучы сваю пані. Суседзі яе ненавідзелі, ніхто не хацеў адведаць, ніхто не хацеў яе сустрэць ці нават наблізіцца да яе жылля. А гнеў нішчыў яе цела, выпетрала ад злосці, і постаць яе дзень пры дні змяншалася.

Доўга так жывучы, забытая людзьмі, яна сохла і пакрысе змяншалася, ужо была падобная да хворага карузліка, пасля на немаўля, робячыся ўсё шчуплейшаю. Нарэшце перамянілася ў нейкую дзіўную Інсекту, з аднаго і другога боку выраслі ў яе доўгія празрыстыя крылы. Аднак тая самая злосць гарэла ў яе сэрцы.

Прамінула шмат гадоў. Тая грэшная кабета жыла, як бы заклятая ў абліччы нейкае крылатае пачвары, а хто падыходзіў да яе жытла, дык бачыў, як яна вылятала адтуль з жахлівым крыкам і адганяла перапалоханага прахожага, лётаючы ў яго над галавою.

Прыехаўшы здалёку, новы дзедзіч пан А. пачаў гаспадарыць у тым маёнтку, а калі суседзі расказалі яму пра напады страшнае Інсекты, ён загадаў адчыніць усе вокны, акурыць дымам пакоі, і дарэмна тая, з жахлівым піскам і крыкам кідаючыся ў вочы, страшыла людзей. Пераможаная дымам, яна мусіла ляцець у сад і схавацца між дрэваў. Але злосць кіпела ў яе сэрцы, і яна хацела што б там ні было выгнаць новага гаспадара з дому.

Лёкаі пана А. расказвалі, што апоўначы чуцён шум і нейкі піск пад падлогаю і па кутах, часам з'яўляюцца страшныя здані і нейкія звераняты, падобныя да жаб і жукоў з чорнымі людскімі галовамі і зіхоткімі, як іскры, вачыма; калі хто падыдзе, яны ўмомант знікаюць, праваліваючыся куды-небудзь у дзіркі або ў шчыліны ў сцяне; і што гэта абавязкова мусяць быць злыя духі. Яны раілі пану, каб запрасіў ксяндза і пасвянціў дом. Пан смяяўся і казаў, што гэтыя дзівы — ад іхніх забабонаў, бо дасюль ён нічога такога не бачыў.

Праз некалькі дзён апоўдні неба было пагоднае. Пан А. адчыніў вокны і сядзеў адзін, задумаўшыся, у пакоі. Тут залятае Інсекта, кружыцца па пакоі, у пісклявым яе голасе чуваць страшная лаянка і праклёны. Яна села перад панам на стале — ён заўважыў як бы жаночую постаць, ногі і рукі сухія, падобныя на пчаліныя, і сама тонкая. Тут яна ўзлятае са стальніцы, кружляе вакол галавы пана А. і ўжо хоча ўбіцца ў яго валасы. Ён жа, накрыўшы галаву хусткаю і баронячыся, як ад пчалы, выбег перапалоханы з дому, загадаў лёкаям выгнаць тую страшную пачвару дымам і зачыніць вокны.

Прайшло некалькі дзён. Калі пан А. чытаў у садзе пад ліпаю раман, зноў з'явілася тая Інсекта. Пырснула кроплю нейкай атруты, якая прапаліла старонкі і вопратку пана. Інсекта, віючыся ля галавы, лаяла і кляла яго пісклявым чалавечым голасам. Увесь дрыжучы з пярэпалаху, пан А. ускоквае ў пакоі і доўга думае, як пазбыцца гэтае жахлівае пачвары.

Пры кожным зручным выпадку Інсекта помсціла яму. Аднаго разу, калі пан верхам аб'язджаў свае палеткі, яна, лётаючы побач, пранізлівым крыкам спудзіла каня, які наўскапыт паляцеў праз равы і пагоркі і скінуў гаспадара. І той ляжаў скрываўлены, без дыхання, пакуль не падбеглі аратыя. Яны прынеслі пана дахаты, і лекар ледзь выратаваў яго ад смерці.

Па ўсёй ваколіцы разышліся гэтыя чуткі, толькі і гаварылі пра злую кабету, якая перамянілася ў страшную Інсекту. Усе суседзі шкадавалі пана А., але ніхто з іх не пераведаў хворага, бо ўсе баяліся падысці да яго маёнтка.

Калі пан А. ачуняў і думаў, як пазбыцца праклятае Інсекты і злых духаў, з якімі яна, пэўна, пасябравала, ён успомніў параду сваіх лёкаяў і вырашыў запрасіць каплана і пасвянціць дом. Дык пасля заходу сонца, калі Інсекта, схаваўшыся ў траве, спала, ён загадаў запрэгчы коней і ўначы паехаў у Полацак.

Раніцаю пасля святое імшы сустракалі яго знаёмыя, з цікавасцю распытвалі пра дзіўную Інсекту і пра нешчаслівы выпадак, калі яго скінуў конь, бо ўжо пра гэта чулі і ў горадзе.

Калі прыйшоў у кляштар і расказаў, што з ім прычынілася, усе дзівіліся. Ксёндз, чалавек пабожнага жыцця, кажа:

— Гэта, напэўна, злыя духі і нейкая чараўніца, якая зусім выраклася Бога; трэба пану А. дапамагчы, паклапаціцца пра яго спакой і пра яе душу.

І тае ж раніцы пан А. з ксяндзом, не баючыся нападу Інсекты, выправіліся дадому.

Прыехалі ў маёнтак. Ксёндз, прачытаўшы свае малітвы, пачаў крапіць святою вадою пакоі. Страх успомніць, што там рабілася. Са страшным піскам і сыканнем з усіх кутоў пасыпаліся страшыдлы: матылі, у якіх заместа крылаў выраслі з бакоў вогненныя языкі; тоўстыя чэрві, што дыхалі дымам, быццам пухіры ўзнімаліся ўгору; крыклівыя цвыркуны і крылатыя гады лёталі над падлогаю.

— Гэта грахі чараўніцы, — сказаў ксёндз. Ён загадаў адчыніць вокны. Жахлівыя стварэнні з піскам і сыканнем адляталі і ніклі ў паветры.

Калі свянцонаю вадою выслабанілі дом ад страшыдлаў, пан А. завёў ксяндза ў сад, адкуль вылятала тая шкадлівая Інсекта. Там, калі каплан адмаўляў святыя пацеры, у кустах агрэсту абазваўся пісклявы голас, у якім чуліся кленічы і розныя блюзнерствы, а пасля нараканні, енк і плач. Сабраўся ўвесь двор паглядзець на гэтыя дзівы, ксёндз, кропячы свянцонаю вадою кустоўе, загадаў ёй вылецець адтуль і сесці на ліпавай галінцы. Яна імгненна, як страла, вылецела і села на ліпавым лісціку. Усе дзівіліся на яе: у гэтай Інсекце лёгка можна было ўгледзець жаночую постаць з крыльцамі. Ксёндз зняў яе з лісціка, пасадзіў у шкляны слоік і занёс у пакой.

Ужо без страху глядзелі ўсе зблізку на гэтую маленькую пачвару: доўгія валасы спадалі з галоўкі, якая была не большая за звычайную гарошыну; іскрынкамі блішчалі завушніцы ў вушах, і нешта ружавела на шыі, нібыта ланцужок караляў; жоўтая ядвабная сукенка была, здавалася, падпяразаная пасам такога самага колеру; твар бледны, відаць было, што ў гэтыя хвіліны курчылася ад гневу.

Наступнага дня пані Інсекта з ксяндзом прыехалі ў Полацак. Бачылі гэтае дзіва ўсе ў кляштары, і жыхары натоўпамі прыходзілі паглядзець на нечуваныя цуды. Кідалі ёй ежу ў шкляны слоік, але Інсекта сядзела моўчкі і не каштавала нічога; увесь гэты час была нямою, толькі відаць былі яе гнеў і неспакой.

— Трэба цяпер падумаць пра яе душу, — сказаў ксёндз і панёс яе ў слоіку ў зацішны куток кляштара, дзе быў доўгі калідор: з аднаго боку Архітэктанічная зала, з другога — музей; непадалёку ад гэтае залы пазіраў з муру, нібы з вакенца, драўляны бюст філосафа Сакрата. Ксёндз паклаў кабету Інсекту на філосафаву галаву і перад шматлікімі гледачамі чытаў ёй малітвы і гаварыў на духоўныя тэмы. Але што рабілася з галавою Сакрата! Страх успомніць! Яна ў той час была падобная на запаленую бомбу, кідалася сюды-туды; спалатнелі ўсе, хто

блізка стаяў. Баючыся, каб яна не раскалолася і не зашкодзіла гледачам, ксёндз безупынку чытаў малітвы і вучыў пра міласць Пана Бога і пра любасць да бліжняга.

Штовечар адбываліся такія адправы дзеля гэтае Інсекты. І яна дзіўна выглядала з тою нешчасліваю Сакратаваю галавою. Страх апаноўваў кожнага, хто толькі праходзіў гэтым калідорам. Драўляны бюст, ад якога раней чулі столькі парад мудрых і пабожных, бэсціў і лаяў, не разбіраючыся, усіх прахожых. Шкаляры баяліся падысці да Драўлянага Дзядка, бо ўжо ён быў ім не зычлівым настаўнікам, а зацятым ворагам.

Гэтыя навукі і малітвы доўжыліся некалькі месяцаў. Нарэшце трапіла іскра веры і міласэрнасці ў сэрца той кабеце Інсекце, і драўляны бюст угаманіўся і палагаднеў. І ўжо з вуснаў Інсекты злятвалі словы, поўныя боязі Божае і міласэрнасці да бліжняга. З'явілася яна аднойчы ксяндзу ў пекным абліччы, падобная да анёла, німб вакол чароўнага твару, сукенка бялейшая за снег. Яна падзякавала за малітвы, навукі і клопаты дзеля яе і ў міг вока знікла. Ксёндз укленчыў перад алтаром і дзякаваў небу за вяртанне і збаўленне гэтае душы.

Калі пан Ротмістар скончыў, панна Анэля і малыя дзеткі пана З., аддаўшы бацькам «дабранач», пайшлі ў другі пакой памаліцца нанач.

— Цікавую рэч расказаў пан Ротмістар, — сказаў гаспадар. — Пра такое здарэнне з Дзядком, калі галава мудраца была прыстанкам няшчаснае грэшніцы, я яшчэ не чуў. Вось і новае апавяданне да жыццяпісу Драўлянага Дзядка.

Да позняга вечара гаварылі мы пра мінулыя часы, пра школьных таварышаў, пра знаёмых — жывых і тых, што ўжо спачываюць у магілах. У размовы нашы нязменна запляталіся смутак і надзея. Нарэшце пан Ротмістар узяў свой кій і шапку і хацеў ісці дахаты, але гаспадар пакінуў яго начаваць. Патушылі агонь, і я, ушчэнт стомлены пешаю вандроўкаю, моцна заснуў.

## ПРАХОДКА Ў ПОЛІ

Адпачынак мой быў прыемны, хоць і кароткі. Прачнуўся я на світанні. Пан Ротмістар яшчэ спаў, і я, баючыся парушыць яго спакойны сон, ляжаў і разважаў аб прыгодах Драўлянага Дзядка і кабеты Інсекты. Мне здавалася, што тая га-

лава, пазіраючы на мяне, нагадвала пра пакуты, якія чакаюць чалавека на яго жыццёвай пуцявіне, тая кабета-грэшніца з'яўлялася ў маіх марах то ў абліччы страшнае Інсекты, то як пекны анёл у промнях, казала маёй душы, што толькі вера, міласць да Бога і да бліжняга — шлях да сапраўднага жыцця.

Думаючы пра гэта, я не заўважыў, як прамень ранішняга сонца зазірнуў у вакно. Пачуўся голас гаспадара. Ён падняўся раней усіх і даваў парабкам загады на дзень.

Спеў пастуха ўжо адзываўся з пашы. Прачнуўся пан Ротмістар; калі мы апраналіся і ён думаў пра дом, а я — пра далейшае падарожжа, зайшоў пан Зямельскі, павітаўся і загаварыў да мяне:

— Чаму ты так рана ўстаеш? Ісці такую дарогу — цяжкая праца, трэба добра адпачыць. Відаць, думаеш, што я дазволю развітацца з намі сёння? Пагасцюеш у мяне колькі дзён, бо калі ад'едзеш далёка на поўнач, Бог ведае, ці ўбачымся, хіба толькі на тым свеце. І пана Ротмістара прашу застацца на сёння з намі, бо ёсць у яго доме каму кіраваць гаспадаркаю.

Я паслухаўся гаспадара, і пан Ротмістар пагадзіўся з ім.

Галасы дзяцей, што ўжо прачнуліся, даляталі з другога пакоя; абазвалася гітара, пачуўся цудоўны мілагучны спеў. Гэта быў голас Анэлі. Яна кожнае раніцы, як анёл, што вітае новы дзень, усхваляла Божую ўсемагутнасць і спявала пад гітару:

Калі ўзыходзіць дзянніца,
Усе да Цябе павяртаюць лікі,
Спявае кожная істота:
Слаўся, Божа вялікі![9]

Думка мая разам з гэтай суладнасцю адляцела да неба, і ў тую раніцу я маліўся са слязьмі на вачах.

Неўзабаве ўся сям'я сабралася разам. Паснедаўшы, мы ўсе выйшлі ў поле; пан Зямельскі завёў нас у густы гай, дзе ля кожнага дрэва было відаць дбайнага гаспадара, і гэты лес быў падобны да пекнага саду. Пан распавядаў нам, што некалі тут была пустэча, але ягонаю рупнасцю праз колькі гадоў зашумеў тут гэты гай. І там і тут між зараснікаў асушаныя лугавіны з сакаўной высокаю травою і размаітымі духмянымі кветкамі. Старэйшы сын пана Зямельскага, прыпамінаючы ўчарашняе апавяданне пра кабету Інсекту, паказваў пану Ротмістару злоўленую жамярыцу, пытаючыся, ці такая была кабета Інсекта. Іншыя дзеці збіралі лепшыя кветкі і аддавалі іх Анэлі, а тая аздабляла дзіцячыя галоўкі вянкамі.

Няспешна шпацыруючы і адпачываючы часам ў засені густое бярэзіны, мы бавілі час у прыемных размовах. Пасля полудня таксама аглядалі гаспадрку, аж пакуль сонца не схілілася да захаду, не ўпала раса на травы і парабкі з косамі і граблямі не вярнуліся з сенажаці.

Увечары, калі ўся сям'я зноў сабралася разам, гаспадар запытаўся ў пана Ротмістара, ці не памятае ён якую-небудзь старую аповесць, ці, можа, чуў яшчэ што з апавяданняў пра Драўлянага Дзядка.

— Калі быў яшчэ студэнтам у Полацку, — сказаў пан Ротмістар, — я любіў слухаць апавяданні. Гаспадар мае кватэры доўга служыў пры кляштары езуітаў. Ён часта расказваў незвычайныя гісторыі, якія сам чуў ад іншых. Гэта былі прароцтвы Драўлянага Дзядка асобным шкалярам. Некалькі тых апавяданняў я і цяпер яшчэ памятаю.

## ШКАЛЯР ЛЮЦЭФУГА

Некалі ў Полацку быў надзвычай лянівы да вучобы шкаляр. Ён часта ўцякаў з калегіі, цягаўся па розных краях, няраз, зазнаўшы голад і холад, пасля доўгае вандроўкі мусіў вяртацца ў бацькоўскі дом. Хоць і ведаў, што за такія ўчынкі будзе пакараны і зноў трапіць пад нагляд настаўнікаў, але ўцякаў пры кожным зручным выпадку.

Бацька гэтага вучня быў чалавек небагаты і хацеў хоць не маёнткамі, дык, прынамсі, навукамі ўзбагаціць сваё дзіця. Колькі разоў адвозіў яго з дому ў горад, і калі словы-напаміны не дапамагалі, плаціў таму, хто згаджаўся быць сыну за неадступнага вартаўніка, не пакідаючы яго ні ў працы, ні ў адпачынку. Пад такім наглядам Люцэфуга мусіў студыяваць навукі, хоць усё адно ленаваўся. Прырода ўзнагародзіла яго здольнасцямі, і ён мог бы быць найлепшым вучнем, але быў першы толькі па свавольствах і непаслушэнстве.

У апошнія дні ліпеня ў полацкіх школах пачыналіся вакацыі. Шкаляры пасля іспытаў, перш чым раз'ехацца па дамах, гуртам прыходзілі пагутарыць з Драўляным Дзядком. Кожны пытаўся ў яго пра сваё. Адны хацелі ведаць, што думаюць настаўнікі пра іх стараннасць і паводзіны, другія —

ці перавядуць іх пасля вакацый у вышэйшы клас, ці ўзнагародзяць кніжкаю ці абразкамі за стараннасць і поспехі ў навуках.

У гурце гэтых вучняў быў і той нядбайны шкаляр.

— Скажы, Дзядок, — пытаецца ён, — як мае стараннасць і паводзіны ацанілі настаўнікі і ці перавядуць мяне ў наступны клас?

Дзядок адазваўся журботным голасам, падобным да грымотаў з далёкае хмары:

— О! Люцэфуга! Люцэфуга! Ты як абрыдлы прусак, што хаваецца ад дзённага святла пад падлогаю або ў цёмнай шчыліне; засмучаючы бацькоў і настаўнікаў, ты і не думаеш выпраўляцца. Святло навук і цнатлівасць — гэта праваднікі на шляхах жыцця, без гэтага ліхтара ты будзеш блукаць сярод цемры і ніколі не даплывеш да Порта Спакою душы і шчасця.

Усе студэнты, што стаялі вакол, са смехам гучна паўтаралі: «Люцэфуга! Люцэфуга!» — і з гэтага часу ён не меў сярод таварышаў іншае мянушкі, апрача тае, якую атрымаў ад Драўлянага Дзядка.

Угневаны, ён пакінуў сваіх сяброў і, бегучы цёмным кляштарным калідорам, мармытаў сам сабе:

— Пустая драўляная галава плявузгае лухту, дае недарэчныя мянушкі, каб толькі пасмяяцца. О! Калі б я меў камень у кішэні, то яго лысая галава зазнала б гора!

Як і раней, бавіўся ён з прыяцелямі, а калі яму нагадвалі прароцтва Дзядка і называлі Люцэфугаю, казаў:

— Не навукі даюць чалавеку шчасце, а Фартуна; шмат хто не пакутаваў над кніжкамі, а жыве на свеце, раскашуючы. Жыць так, як хочаш, нічога сабе не забараняючы, — вось пра што я мару.

Прайшло чатыры гады. Бацькі яго памерлі, і, Люцэфуга вылецеў у свет, як матылёк, шукаючы ўцех і весялосці; ён пералятаў з кветкі на кветку, збіраючы толькі атруту; сустрэў шмат падобных да сябе люцэфугаў і з радасцю пабратаўся з імі. Усё больш і больш прыкрае было яму дзённае нябеснае святло, ён заплюшчваў вочы, спаў дзень навылёт, а ўначы са сваімі прыяцелямі гуляў у карты, а тыя спрытна вызвалялі яго кішэні ад грошай і пачасту даводзілі Люцэфугу да нэндзы.

Выбраўся ён урэшце ў свет, некуды далёка, у вялікі горад. Там хутка знайшоў знаёмствы і ўваход у дамы, куды частыя шумныя забавы вабілі адусюль моладзь. Тут нейкая панна

Аўрэля, худая, тонкая, бледная, пустая і легкадумная (бо дбала толькі пра тое, каб быць лёгкаю, зграбнаю, найменей мець цела і як вецер лётаць у салонах). Доўгія бяссонныя ночы яна бавіла на балях і пагулянках. Там лёгка скакала вальс, нястомна лётала над падлогаю; рой залётнікаў заўсёды акружаў яе. Уставала з пасцелі, калі сонца хілілася да вечара. Сустрэў Люцэфуга яе на нейкім бале і ўзяў на вока; даведаўся яшчэ, што панна Аўрэля мае ўласную вёску і вялікія грошы. Маёнтак і грошы — рэчы, вядома, патрэбныя.

Аднаго разу на світанні вярнуўся ён дадому, зачыніў вокны, але не мог заснуць: Аўрэля стаяла ўваччу. Думаў, як лёгка яна таньчыць, якая зграбная, вясёлая, сапраўды эфірная нейкая, а яшчэ, здаецца, і характарам падобная да яго. О! Калі б ён меў такую жонку, быў бы найшчаслівейшы з людзей, вечнае каханне і згода панавалі б між імі. А да таго ж — маёнтак і грошы. І ён вырашыў: што б там ні было, паведаміць ёй пра сваё каханне і прасіць яе рукі.

Люцэфуга дабіўся свайго, ажаніўся з Аўрэляю. Каханне і згода былі між імі цэлую восень і зіму. Час весела ляцеў у тэатрах і канцэртах, ездзілі на балі і самі прымалі гасцей. Ён па сваёй завядзёнцы гуляў у карты да самага світання, а яна захапляла моладзь лёгкасцю ў танцах, жывым сваім характарам і вясёлымі размовамі.

Вясною яны прыехалі ў вёску, каб вечарамі прагульвацца пад ясным небам, адпачываць у засені ліп, слухаць салаўіныя і жаўруковыя спевы. Але, ах! Гэтаю вясною напаткалі Люцэфугу найвялікшыя пакуты і ляснулі ўсе яго надзеі.

Увечары, на захадзе сонца, выйшлі яны прагуляцца ў поле. Неба было пагоднае, паветра ціхае. Ідучы недалёка ад лесу, размаўлялі пра сваіх знаёмых. Аўрэля захоплена казала пра аднаго маладога кавалера, які быў надзвычай спрытны ў танцах, Люцэфуга хваліў свайго сябрука, што, гуляючы ў карты, ніколі не праігрывае. Між імі ўсчалася спрэчка, і калі Аўрэля, даводзячы сваё, усё больш і больш злавалася, — нечакана зашумеў лес і вецер засвістаў над полем. Аўрэля, гэтая лёгкая паветраная істота, як пяро, узляцела і хутка, так што нельга было яе стрымаць, падымалася ўсё вышэй і вышэй. І вось ужо ляціць над бярозавым гаем, муж глядзіць на яе, ломячы рукі, і не ведае, што яму рабіць.

Аўрэля ляціць разам з ветрам, нібы лёгкі матыль. Люцэфуга бяжыць праз палеткі, лясы і горы з надзеяю, што, можа, яна

затрымаецца дзе-небудзь на вяршыні гары ці на высокім дрэве. Людзі рознага звання, што праязджалі непадалёк, паглядалі на гэта са здзіўленнем. Адны смяяліся, другія спачувалі Люцэфугу, але ніхто не мог яму дапамагчы.

Муж бег, пакуль яшчэ мог бачыць яе здалёк, але калі ноч апусцілася на зямлю, Аўрэля знікла з вачэй. Бедны Люцэфуга спыніўся сярод цёмнага лесу, чуе вакол сябе толькі савіныя галасы, не ведае, у які бок падацца; хадзіў усю ноч, і гэты лес, здавалася яму, не меў нідзе канца. Змардаваны, ён сеў пад дрэвам, глянуў на зорнае неба, успомніў прароцтва Драўлянага Дзядка. Цяжкі сум лёг яму на сэрца:

— Дзе Аўрэля? Ці яна жывая? Ці вернецца калі да мяне? — уздыхнуў, і слёзы паліліся з вачэй.

Так і блукаў ён без сну цэлую ноч па лесе. На ўсходзе пачало світаць, зарумяніліся аблокі. Люцэфуга, бачачы дзённае святло на небе, крыху супакоіўся. Вырашыў ісці на ўсход. Калі сонца ўжо было высока, пачуў голас касцельных званоў, і яны вывелі яго з лесу да чалавечага жытла.

Гэтая вёска яму незнаёмая, далёка зайшоў ад свайго дому; заходзіць у сялянскую хату, твар яго самотны, бледны, нявыспаны, змучаны начным блуканнем. Люцэфуга расказваў гаспадару пра сваё няшчасце, той доўга слухаў і здзіўляўся, што кабета была такою лёгкаю і паляцела з ветрам. Гаспадар задаволена глянуў на сваю жонку, што завіхалася па гаспадарцы, злітаваўся, запрасіў госця адпачыць і паабяцаў адвезці дахаты.

Люцэфуга вярнуўся ў жончыну вёску. Усюды пуста. Няма Аўрэлі. Паслаў людзей паўсюль, каб даведаліся пра яе. Пасланцы вярнуліся без аніякае весткі. Разышлася пагудка па ўсёй ваколіцы, і нават у горадзе было вядома, што Люцэфугава жонка паляцела з ветрам. Адны спагадалі яму, другія, чуючы такія дзівы, рвалі ад смеху бокі.

Ён не выходзіў з дому, усё разважаў, што рабіць. Аднаго разу сядзеў увечары самотны ў пакоі: шэры змрок і маўчанне былі яму сябрамі. Тут забягае лёкай і паведамляе, што прыехаў нейкі пасланец з лістом. Ён глянуў на яго з невыказнай радасцю: ліст быў падпісаны рукою Аўрэлі.

Люцэфуга прачытаў ліст і застыў як скамянелы. Аўрэля жывая, але каханне, што яна мела да мужа, страціла назаўсёды. Піша, што закончыла паветранае падарожжа за пяцьдзесят вёрст ад свайго дому, жыве цяпер у маёнтку даўняга свайго

прыяцеля і вяртацца да мужа, у якога характар і погляды зусім іншыя, чым у яе, не думае. І таму яна рупіцца аб разводзе, не шкадуючы на гэта аніякіх грошай.

Люцэфуга хутка страціў жонку, маёнтак і ўсе надзеі; прыяцелі і знаёмыя, што прыязджалі да яго на гасціны і на начныя забавы, бачачы яго няшчасным, пагарджалі ім і здзекаваліся з яго. Не маючы сіл трываць гэтыя здзекі, ён схаваўся назаўсёды ад усіх знаёмых.

Мінула некалькі гадоў. Пра Люцэфугу ніхто нічога пэўнага не чуў. Успаміналі толькі яго вяселле і развод. Пасля пайшлі пагалоскі, што жыве ён на гэтым свеце без усялякае мэты, узненавідзеўшы ўсё пад небам, праклінае сённяшні дзень і не верыць у будучыню.

Праз нейкі час кожны, хто ішоў па калідоры езуіцкага калегіума ў Полацку ля Архітэктанічнае залы, чуў голас Дзядка. Той паўтараў:

— О! Люцэфуга! Люцэфуга!

Пачуўшы гэта, шкаляры і настаўнікі смяяліся, гаворачы між сабою, што Драўляны Дзядок праз столькі часу згадаў пра Люцэфугу.

Надышла поўнач. Шмат хто ў кляштары езуітаў яшчэ не спаў. Чуючы нейкі незвычайны шум на калідоры, людзі павыходзілі з келляў, каб даведацца, што там чыніцца, і бачаць: стаіць ля сцяны ў слабым месяцавым святле нейкае страшыдла на мностве лапаў. Перапалоханыя, яны разбегліся і расказалі ўсё іншым. Пасля ўсім гуртам з запаленымі свечкамі выйшлі другі раз, але гэтае страшыдла, асепленае святлом, ужо некуды знікла. Але лёскат і шум па-ранейшаму адзываўся ў цёмным калідоры. Перапалоханыя, усе сядзелі ў сваіх келлях і да відна не маглі заснуць.

Ранкам, збіраючыся адусюль, манахі апавядалі адзін аднаму пра тыя начныя жахі. Езуіт-брамнік казаў, што гэтае начы ён чуў на калідоры нейкі дзіўны лёскат, а пасля нібы енкі і падземныя стогны. Калі ён выйшаў з келлі, убачыў жахлівыя дзівы: нейкая пачвара сунулася па калідоры, быццам човен па вадзе, і мноства лапаў з аднаго і з другога боку падымаліся і апускаліся, нібы вёслы. Перапалоханы, ён закрычаў:

— Усё жывое славіць Пана Бога!

Страшыдла імгненна знікла, а ён, запаліўшы свечку, ноч навылёт гаварыў пацеры.

Дзіўнае відовішча бачылі некаторыя вучні, калі познім часам, не запальваючы святло, сядзелі ў сваіх келлях. Шмат хто, чуючы нейкі неспакой і страх, павярнуўшыся, заўважаў ля сябе страшыдла, якое адразу ж знікала; збіраліся ўсе ў адну грамаду, і ніхто ўжо не начаваў у келлі адзін.

Але і ўдзень было адно вусцішнае здарэнне. Нейкі музыка, што служыў пры езуіцкім касцёле, раней калісьці сябраваў са студэнтам Люцэфугаю. Гэты музыка быў адзін у пакоі, калі гадзіннік прабіў паўдня; ён на флейце развучваў духоўныя п'есы славутых кампазітараў. Потым склаў ноты, стаў спінаю да вакна і па памяці іграў варыяцыі, якія яму прыходзілі ў гэты час у галаву. І тут бачыць, як у цёмным куце з-пад падлогі вылазіць прусак, паўзе на сярэдзіну пакоя, спыняецца, пачынае надзімацца і расці. Пасля з-пад чорнай скарлупіны з'яўляецца чалавечая галава і страшнымі вачыма пазірае на музыку. Музыка пазнае Люцэфугаў твар; перапалоханы, выпусціў з рук флейту, скочыў ад вакна, а сонечны прамень стрэліў праз шыбу на страшыдла, і яно імгненна знікла. Музыка выскачыў з пакоя і, бегучы па калідоры, крычаў:

— Люцэфуга! Люцэфуга!

Усе са здзіўленнем глядзелі на яго, распытвалі, што з ім, але ён, бледны, як труп, маўчаў і дзіка аглядаўся. Прайшло шмат часу, перш чым ён апрытомнеў і расказаў пра тое страхоцце.

Яшчэ колькі начэй паўтараліся гэтыя жахі. Нарэшце ксёндз-рэктар загадаў запаліць у асобных мясцінах кляштара грамнічныя свечкі, ды так, каб іх святло разлівалася па калідорах. Такім чынам вярнуўся спакой, і Люцэфуга больш не з'яўляўся.

Калі Ротмістар расказваў такое, дзеці стаялі ля бацькі, і адзін з іх заплакаў. Бацька спытаўся малога, чаму той плача.

— Баюся Люцэфугі, — адказаў сын.

Тады пан Зямельскі загадаў ім усім ісці па сваіх пакоях, памаліцца і класціся спаць.

Малыя дзеці разам з маці і паннай Анэляй, пажадаўшы добрае ночы бацьку і гасцям, выйшлі.

— А мы яшчэ пасядзім, — сказаў гаспадар, — Ротмістар ведае шмат цікавага пра Драўлянага Дзядка, няхай расказвае нам яшчэ што-небудзь.

— Вы чулі, як Драўляны Дзядок прарочыў студэнту Люцэфугу, — прамовіў Ротмістар, — а цяпер раскажу, што прадказаў ён гордаму Філосафу.

# ГОРДЫ ФІЛОСАФ

Дык вось, быў у тыя часы ў Полацку шкаляр, якога калегі і знаёмыя звалі толькі Філосафам, — з тае прычыны, што найбольшую прыхільнасць ён меў да гэтага прадмета. Мала яму было аўтараў, дазволеных у школах. Ён імкнуўся розным чынам набыць або прачытаць забароненыя ды антырэлігійныя кніжкі французскіх філосафаў. Чытаў ён звычайна ўначы, калі ўсе спалі, а ўдзень і ўвечары апавядаў прачытанае сваім калегам і пачынаў з імі дыспуты, у якіх з вялікім трыумфам перамагаў.

Даведаўшыся пра гэта, прафесура і ксёндз-прэфект колькі разоў неспадзявана прыходзілі да яго ў пакой, рабілі заўвагі, забіралі кніжкі, на яго вачах кідалі іх у агонь, а самому прызначалі кару. Але праз гэта ён адно зрабіўся асцярожны, добра хаваў забароненыя кніжкі і пасля прачытання нікому нічога не расказваў.

Калі ён закончыў курс навук, меўся вярнуцца дахаты і здзівіць свет сваёй адукаванасцю; развітаўшыся з настаўнікамі, ён з прыяцелямі пайшоў да Драўлянага Дзядка.

— Скажы, галава мудрага Сакрата, — пытаецца, — ці шмат філасофскіх твораў я ўжо прачытаў?

— Шмат, шмат, — адказаў Дзядок, — а яшчэ больш прачытаеш, але ў канцы жыцця будзеш найдурнейшы і памрэш дурнем.

Усе, хто там быў, засмяяліся. Шкаляр жа раззлавана плюнуў.

— Лухту вярзе пустая драўляная галава, — сказаў ён і пайшоў.

Пасяліўшыся ў вёсцы, ён не шкадаваў грошай на сваю бібліятэку. Купляў філасофскія творы на розных мовах без разбору. Моладзі, якая часта збіралася ў яго, каб паслухаць пра высокія матэрыі, ён апавядаў пра цуды, тлумачыў таямніцы прыроды, якіх сам не разумеў, і быў вядомы там як вучоны чалавек, сапраўдны філосаф.

Ён знайшоў сабе яшчэ асістэнта, нейкага чужаземца (таксама філосафа), добра яму плаціў і стварыў усялякія выгоды. А той, хвалячы яго, называў геніем у філасофіі і, карыстаючыся з яго лёгкавернасці, дадаваў да свае дурное філасофіі яшчэ і блюзнерствы.

Хутка малады філосаф заганарыўся, лічыў сябе за выдатную асобу, пазіраў на ўсіх людзей, як глядзяць з горнае вяршыні на мурашак.

Аднойчы ў нядзелю, пасміхаючыся, Філасаф запытаўся ў свайго таварыша:

— А ці паедзем мы сёння ў касцёл?

— Што там рабіць у касцёле, хіба, можа, табе трэба з кімсьці пабачыцца?

— Я хацеў бы сустрэць сяго-таго з суседзяў і запрасіць іх да сябе.

— То добра. На гэта шмат часу не трэба.

Прыехалі на імшу. Святыня поўная вернікаў. Філасаф выскачыў з карэты, заходзіць у касцёл, і калі стаў пасярод натоўпу — дзіва нечуванае! — дзе ягоныя шырокія плечы і высачэзны рост? Вокамгненна стаў ён такі маленькі, як драўляная дзіцячая лялька. Хто стаяў блізка — пазналі яго і пазіралі адны са страхам, другія — з насмешкаю. І ўсе прэч адступаліся ад яго. Ён жа, сам перапалоханы, не памятаючы, што з ім дзеецца, хуценька ўцёк са святыні Божае, прыбег да карэты, дзе знайшоў свайго таварыша, расказаў пра гэты дзіўны выпадак. Сябар смяяўся да слёз і даводзіў, што ўсё гэта ад таго, што нервы разгуляліся, ці ад нейкае іншае хваробы. Аднак пасля гэтага выпадку Філасаф больш у святыню не заходзіў і вярнуўся дахаты ўстурбаваны.

Па ўсім Полацкім павеце простыя людзі, апавядаючы пра гэта адзін аднаму, казалі, што Філасаф цяжка правініўся перад Панам Богам.

Праз некалькі дзён запрошаныя суседзі сабраліся ў Філасафа. Сярод гэтых гасцей была моладзь, якая вельмі ўпадабала гаспадаровы разважанні; кожнае слова, узятае ў старажытных аўтараў, у яе разуменні было найвышэйшай мудрасцю. Госці дзівіліся з яго грунтоўных ведаў; пра што толькі Філасаф ні расказваў, мудрыя яго заўвагі захаплялі ўсіх. І гаспадар быў трыумфатарам, бо мог і растлумачыць любую таямніцу.

Быў пагодны дзень, неба яснае, усе госці выйшлі ў поле на шпацыр, і гаспадар з імі. Паветра чыстае, вока цешылася зелянеючым наваколлем, на пагорках пасвіліся шматлікія чароды, на спакойным возеры плавалі качкі і белыя гусі, у гаях азываліся птушыныя спевы, на лугах і жоўтых ад квецені палях гулі, снуючы сюды-туды, працавітыя пчолы; ясны дзень і прыгожыя краявіды захаплялі ўсіх. Філасаф разважаў пра разнастайныя з'явы жыцця. Урэшце — пра чалавека, што ён ёсць частка самога Бога, што душа яго, заглыбіўшыся ў даследаванні, разумее ўсе цуды, бачыць усе таямніцы. Добрыя

ўчынкі ён называў анёламі, а грэх — нячыстым духам ці шатанам.

У час гэтых разважанняў галава яго вокамгненна схавалася пад капелюшом, зацьмілася ў вачах, і зніклі ўсе малюнкі прыроды. Філосаф зрывае капялюш, і госці бачаць перад сабою жудаснае відовішча: не было ў яго галавы, толькі над шырокімі плячамі вісеў на тонкай шыі нейкі шарык накшталт макавае галоўкі. Задуманыя, стаяць усе, бледнасць на тварах, неспадзяванае дзіва перапалохала гасцей, усім мову пазаймала.

Доўга ўся гэтая сябрына маўчала. Філосаф, круцячыся на адным месцы, нейкім пісклявым голасам мармытаў няўцямныя словы. Ледзь вырываліся з грудзей яго ўздыхі, а калі падняў рукі ў неба, імгненна ўбачылі над яго плячыма звычайную чалавечую галаву.

Госці паглядалі адзін на аднаго, не разумеючы, што гэта значыць, а яго сябар-асістэнт смяяўся да слёз, даводзячы, што тое дзіва здарылася ад сонечнае спёкі, і раіў усім вярнуцца дахаты, бо шпацыр у спякоту не спрыяе здароўю.

Усе паверылі, што бачылі звычайную рэч, і пераканалі гаспадара, што ўсё гэта ад прыліву крыві. А хутка і забыліся пра ўсё. Філосаф жа па-ранейшаму трымаўся сваіх поглядаў і нязменна трыумфаваў.

Ён не пакінуў займацца ашуканствам, а пасля асмеліўся нават надрукаваць свае разважанні, што супярэчылі рэлігіі і здароваму розуму, у часопісе. Яго старыя суседзі, якім гэта чытаў, папярэджвалі:

— Пакінь свае памылкі; вер так, як верылі твае бацькі. Яны жылі шчасліва і спакойна; іх простая вера заслужыла ўзнагароду. Якая ж праўда вышэйшая за праўду веры? Бог яе сам аб'явіў у Евангеллі, і гэтая мудрасць, як сонца нябеснае, асвятляе цэлы свет і кажа пра таямніцы. Чалавечы розум няхай супакоіцца, бо гэта за мяжою яго разумення. Памылковыя думкі вядуць народ да бяды, а веру — да ганенняў.

Аднак усе парады і напаміны былі марныя.

На змярканні Філосаф, вяртаючыся са шпацыру, мінаў пагорак, дзе ў засені некалькіх бяроз стаяла старая драўляная капліčка, узвышаліся камяні і пахіленыя крыжы на могілках. Там ён убачыў некалькі сялян, што, укленчыўшы, маліліся за душы памерлых. Філосаф здзівіўся іх прастаце. «Бедныя людзі, — падумаў сам сабе, — вераць, што жыхары таго свету чуюць іх ці патрабуюць ад іх малітвы».

Ледзь падумаў так, як агарнула яго нейкая трывога, а калі заспяшаўся дахаты, убачыў нечакана, што побач з ім ідзе велізарны шкілет. Гэта так яго напалохала, што, вярнуўшыся дадому, ён доўга быў як непрытомны. Дарэмна стараўся пераканаць яго прыяцель, што гэта адбылося з якойсьці самай звычайнай прычыны. Здаралася колькі разоў, што ўвечары той шкілет заходзіў у ягоны пакой і станавіўся ля стала. Тады Філосаф пранізлівым крыкам склікаў да сябе ўсіх, хто быў у доме. Калі заплюшчваў вочы, каб заснуць, здавалася яму, што страшны крывасмок, абапіраючыся спарахнелай рукою, навісаў над яго тварам і жахліва заглядваў яму ў вочы; пранізліва крыкнуўшы: «Труп, труп!» — Філосаф усхопліваўся з ложка. Доўгі час бачачы такія відовішчы, ён зусім перамяніўся: пабляднеў з твару, саслабеў і заўсёды меў неспакойныя думкі. Да таго ж асістэнт, засмучаны гэтымі пераменамі, пакінуў яго і выехаў у нейкія далёкія краіны.

Раней Філосаф быў моцны духам, ні ў што не верыў; цяпер прымхі мучылі яго душу і даводзілі да роспачы. Калі часам пачуе сярод начное цішы стогны ўдода або журботныя савіныя крыкі, рабіўся надзвычай устрывожаны, чакаў якого-небудзь няшчасця ў доме. Заскуголіць сабака на панадворку — ён бяжыць паглядзець, у які бок павернута сачая морда, бо, на яго думку, там жахлівы пажар знішчыць вёску або выпаліць лес. А яшчэ больш раздражняліся яго аслабленыя нервы, калі бачыў, што, скуголячы, сабака не падымае галаву, а нібыта чуе нешта пад зямлёю. Роспач агортвала яго, бо гэта вешчавала смерць камусьці ў яго доме. І ён, не могучы пазбавіцца ад гэтага страшнага прароцтва, тут жа загадваў запрагаць коней і ўцякаць у горад або куды-небудзь да знаёмых ці суседзяў. Са страхам апавядаў ім, што здарылася ў яго доме, і тыя марна стараліся пераканаць яго, што трывога ягоная дарэмная.

Дзіўны ўплыў на Філосафа меў месяц. Ён наганяў неспакой, і Філосаф не мог сядзець у тым пакоі, куды лілося з неба бледнае месяцавае святло.

У летнюю спёку ён самотны сядзеў ля вакна, паглядаючы ў поле; вецер, не раўнуючы, як на возеры, падняў на амаль ужо спелым жыце хвалі; цешыў яго добры ўраджай, і меў ён надзею ў гэтым годзе на вялікія даходы з маёнтка. Нечакана пачуў ён у пакоі стрэл, нібыта з пісталета, які скалануў усе ягоныя нервы. Філосаф адскочыў ад вакна і ўбачыў на сцяне пераламаную напалам асаду з партрэтам дзеда-нябожчыка. Гэты выпадак настолькі яго перапалохаў, што праз некалькі дзён ён памёр.

Гаспадар загаварыў да мяне:

— Памятаеш, калі мы хадзілі ў школу, колькі было моладзі рознага характару і здольнасцяў? Цяпер раз'ехаліся па свеце. Думаю, між іх ёсць шмат люцэфугаў і гордых філосафаў. Гора нам, калі такі заняў месца ў духоўным або грамадскім кіраўніцтве.

— Цяпер жалезны век, — сказаў я, — чалавек лёгка робіцца горшы.

— Сапраўды, век жалезны, — прамовіў Ротмістар. — Знікае спакойнае і вясёлае жыццё, цяпер, здаецца, усе баяцца адзін аднаго, часта чуеш стогны і скаргі. О, як добра прарочыў гэта Драўляны Дзядок аднаму з маіх калегаў, які быў надзвычай арыгінальнага нораву і ў весялосці пераступаў усе межы; калі даходзіў да такога стану, то кожная рэч у яго марах малявалася ў абліччы нейкіх дзіўных веліканаў. Імя яго — Севярын. Я за характар называў яго Летуценнікам. Раскажу вам пра дзівосную гульню яго фантазіі.

## ЛЕТУЦЕННІК СЕВЯРЫН

Быў ён з лепшых вучняў, любілі яго настаўнікі, ён часта атрымліваў узнагароды, меў вялікую ахвоту вывучаць замежныя мовы і нядрэнна ўжо гаварыў на некалькіх. А чытаў найбольш паэзію: ідыліі Фэакрыта[10], Геснера[11], Шымановіча[12] яго зусім ачаравалі. Паўсюль ён бачыў Аркадзію, а ўсе людзі ў ягоным уяўленні былі наіўныя і шчырыя пастушкі. Калі ён выходзіў на шпацыр за горад, дык у ручаях бачыў наядаў, на лугах скакалі німфы, а ў засені дрэваў з-пад зялёнага вэлюму ўсміхаліся яму дрыяды. Словам, усюды сустракаў ён старажытны залаты век грэкаў, не ведаў, што ёсць бяда на свеце, быў заўсёды вясёлы сам і весяліў іншых.

Аднаго разу, калі настаўнікі з вучнямі агледзелі музей, дзе былі розныя дзівосныя рэчы і карціны славутых мастакоў, і, спыніўшыся перад Драўляным Дзядком, загаварылі з ім, Севярын, налавіўшы поўную жменю мух, падбягае туды і пытаецца ў Дзядка:

— Адгадай, Дзядок, што ў мяне ў руцэ?

Дзядок патрос галавою і кажа:

— О нешчаслівы! Ты будзеш выгнаны з раю сваіх мар, пойдзеш крамністаю дарогаю і нікчэмныя інсекты ў вобліках страшыдлаў будуць гнацца за табою.

Севярын жа выпусціў мух, засмяяўся і пабег.

Пасля курса навук Летуценнік пакінуў горад, вылецеў у свет, як птушка з клеткі, калі вясна ўбірае лугі і дрэвы пахкімі кветкамі. І ён, бедны, думаў, што гэтая вясна будзе яму вечнаю. Але як хутка надышла панурая восень!

Спачатку толькі ва ўяўленні бачыў ён пекных багінь на лугах і ў гаях, нарэшце спаткаў іх і ў свеце. Гэта была панна Адэля, з маёнткам, прыгожая і з добрымі манерамі. Гэтай асобе Севярын аддаў сэрца, і Адэля была яго адзінаю мараю. Кахаў ён гады чатыры. Не буду тут апісваць шчаслівыя і нешчаслівыя хвіліны; гэтыя гісторыі заўсёды падобныя адна да адной, хоць і малююць іх розныя пісьменнікі па-рознаму. Не буду ні хваліць, ні ганіць жанчын, бо ўсе дочкі Евы такія і мусяць быць такімі, якімі іх стварыла прырода. Скажу толькі, што вужака золата і ганарлівасці звяла Адэлю, яна здрадзіла Севярыну і выйшла за іншага.

Першае каханне, да таго ж яшчэ нешчаслівае, — найвышэйшая навука, пасля якое чалавек з увагаю пачынае чытаць кнігу свету, таямніцы сэрца, адносіны сяброў і блізкіх. Адсюль пуціны чалавечага жыцця бяруць накірунак на поспехі і няўдачы. Тут ён сустракае нераз насмешлівыя вочы і нясталае сяброўства. Зразумеў і Севярын, што свет не рай, а людзі не анёлы.

Пасля гэтага здарэння зрабіўся ён самотны, усе ягоныя мары былі жахлівыя, уцякаў ад людзей, мілай была яму адзінота, найпрыемнейшы быў яму малюнак неба, і то толькі тады, калі ў чорных хмарах адзываліся грымоты, выў вецер, шумелі лясы і хвалі на возеры. У нікчэмных жамярыцах пазнаваў ён постаці шкадлівых людзей, мроіў і расказваў пра дзівы. Усе, хто ведаў Севярына, жартавалі з яго і называлі вар'ятам.

Калі я вандраваў у тых краях, дзе ён жыў, дык адведаў яго, як сябра свайго дзяцінства. Заходжу ў пакой і бачу, што сядзіць ён самотны, задумлівы, бледны, вопратка і валасы збэрсаныя.

— Як маешся, Севярын?

Ён устаў, абуджаны ад сваіх мрояў, і доўга, не пазнаючы, глядзеў на мяне. Я назваўся.

— А! Даўно чакаю! — прамовіў ён, paціснуў мне руку і пасадзіў ля сябе, а сам зноў аддаўся мроям і сядзеў як нямы.

— А ўжо колькі гадоў прайшло, — перапыніў я маўчанне, — як развіталіся мы з маладымі нашымі прыяцелямі і

настаўнікамі. Шчаслівыя былі часіны! Ці ўспамінаеш цяпер тыя даўнія забавы, размовы, майскія праходкі, прыемныя мары і жарты, у якіх ты заўсёды вёў рэй?

— Мае мары і жарты зніклі назаўсёды. Цяпер у мяне іншыя погляды: тады чалавек мог бы зрабіцца шчаслівы, калі б ператварыўся ў камень, калі б засыпаў яго пясок і нічога не чуў і не бачыў, што дзеецца на свеце.

— Як ты перамяніўся! — здзівіўся я. — Няўжо табе абрыдла ўсё пад сонцам?

— Усё. Расказаў бы шмат, але баюся, бачыш: усюды вакол нас лётаюць мухі. Бачыш, гэтыя прыкрыя стварэнні залятаюць і вылятаюць у адчыненае вакно. Яны ўсё разнясуць па свеце, што ў нас чыніцца, як жывём, пра што гаворым, дзе і як молімся. А бачыш слёзы на маіх вачах? Іх ты раней ніколі не бачыў, вось якая перамена са мною. Але паслухай, што раскажу табе. Ты не зважаў, якія гэтыя мухі страшныя? Я сяджу тут самотны, у гэтым ціхім маім пакоі, а яны снуюцца вакол, са страхам паглядаю на іх, бо бачу, як яны перамяняюцца ў дзіўных монстраў, гэтыя іх страшныя крылы здаюцца фракамі на нязграбных людзях, а твары іх рознай формы: адны круглыя, шырокія, з крывавымі плямамі, другія — сухія, з востраю бародкаю і доўгімі валасамі. І ўсе гэтыя страшыдлы глядзяць на мяне: адны здзекліва, другія пагрозліва.

— Вялікая розніца, — сказаў я, — у тваіх мроях. Раней цябе захапляла паэзія грэкаў і шчырае каханне патрыярхальных часоў, цяпер жа ў цябе фантазія нейкая журботная.

— Але слухай, яшчэ табе штосьці скажу, — прамовіў ён, — пра гэтых нягодных мух. Я любіў чытаць паэтаў, любіў некалі і пісаць. Прыйшло мне ў галаву сказаць у вершах пра свае пачуцці, якія былі ў мяне да свае сям'і і да Адэлі, якую шчыра кахаў. Я паслаў ёй свае песенькі, з якіх магла б зразумець маю сапраўдную прыхільнасць. Яна прачытала, паклала на стале, але і там мухі, якія, не маючы што рабіць, лёталі ўсюды, здзекаваліся з маіх пачуццяў, звінелі датуль над вухам Адэлі, пакуль яна зусім не забыла пра мяне і мае вершы. Ды яны і цяпер не даюць мне спакою, і цяпер, калі што-небудзь напішу, усё абсмяюць і запэцкаюць, гэтыя прыкрыя мухі.

— Гэтыя мухі, на якіх ты так скардзішся, былі і будуць...

Тут ён перапыніў мяне, схапіў за руку:

— Ці бачыў ты калі саранчу?

— Саранчы ў нашым краі няма, — адказваю. — Яна на ўсходзе. Нападае там на лугі і засеяныя палеткі.

— Не бачыў ты, — кажа, — гэтую вялікую тоўстую жамяру. А на ёй — іерогліфы. Хто ўмее, той выразна прачытае такія словы: «Кара Божая». А ці ж кара Божая толькі там, недзе далёка на ўсходзе, а не ў нас? Пайшлі ў поле, я табе пакажу саранчу.

Ён вывеў мяне на бераг імклівае рэчкі, дзе ўспененыя хвалі шумелі між камянёў: мінуўшы лугі, яна хавалася ў густым хмызняку. Мы сядзелі на высокім беразе ў засені алешыны. Севярын задумліва паглядзеў на ваду. Падзьмуў з поля ветрык, зашумелі дрэвы; ён ачнуўся ад сваіх думак і сказаў мне:

— Я часта наведваю гэтыя мясціны, люблю адзін сядзець тут і прыгадваць мінулае. Успамінаю ўсе размовы, якія меў некалі з Адэляю, хоць яна зусім пра мяне забыла, быццам даўно ўжо мяне пахавалі.

Раптам паказаў рукою на ваду

— Глядзі, глядзі! Вось ляціць саранча! Бачыш яе? Падвойныя шэрыя крылы, яна ўсюды тут у нас лётае і ўсё жарэ ў паветры і на зямлі. Яшчэ што скажу: ніколі яна не гіне, як шатан, з'яўляецца ў розных абліччах. Калі пажоўкнуць трава і лістота на дрэвах, павее халодны восеньскі вецер, яна падае на ваду, скідае з сябе крылы, ператвараецца ў вадзяное страшыдла і там жарэ ўсё, што сустрэне. Прыйдзе вясна — у яе вырастаюць новыя крылы, яна вылятае з вады з разяўленаю пашчаю, як лятучы цмок, і каго напаткае — знішчае. Завалодала гэтая пачвара зямлёю і вадою, яна заўсёды прагне здабычы. Ці не яна заразіла чалавечыя сэрцы, што людзі прыгнятаюць адзін аднаго.

— Нейкая чорная меланхолія, — сказаў я, — зацьміла твае думкі, усё бачыш ты ў пачварных вобразах. Нешчаслівы, з такімі думкамі ніколі не прычакаеш спакою.

— Вось і не здагадаўся! Я маю добрую думку: буду падарожнічаць. Далёка ў чужых краях, дзе пануе вечная вясна, у гарах, ля вадаспаду або ў дзікім лесе буду жыць спакойна, пра Адэлю нават і не ўспомню, бо паміж намі будзе вечнасць. Вечнасць!..

— І родны край забудзеш?

— О, не! — адказаў ён. — Калі не вярнуся на Бацькаўшчыну і памру недзе самотны на вяршыні гары ў чужым краі, крукі занясуць туды мае косці; усё ж лепей быць пасля смерці з птушкамі, а не з чарвякамі.

Я быў там цэлы дзень; блукалі з ім па гарах і лясах, і ён несціхаючы гаварыў пра свае мроі. Затрымаў мяне і на ноч. І ў хаце мы яшчэ доўга размаўлялі. А ўначы ён часта ўсхопліваўся

з ложка, уставаў і хадзіў па пакоі, дык і я спаў не шмат, бо кожную гадзіну мой сон перапыняўся.

Наступнага дня, калі мы прачнуліся, сонца было ўжо высока. Ён прывітаў мяне з крыху весялейшым тварам, распытваў пра маіх знаёмых, пра суседзяў, пра мяне самога, ці часта я быў дома пасля таго, як мы развіталіся пасля школы, якія я наведаў краіны і як жыў? Ён дзякаваў мне, што пераведаў яго, а калі я сказаў запрагаць коней, каб раней выехаць, ён міла ўпрошваў мяне застацца на абед. І я не мог адмовіць яго шчырай просьбе.

Пасля абеду Севярын прынёс найлепшага віна, якое меў з даўняга часу.

— Давай вып'ем, — сказаў ён. — Гэта апошняе развітанне, убачымся ўжо хіба што на тым свеце.

Пасля загадаў запрэгчы коней, далёка правёў мяне і развітаўся са слязьмі.

І сапраўды, гэта была апошняя сустрэча. Хутка я даведаўся, што Севярын пакінуў той дамок, дзе некалі жылі ягоныя бацькі, выехаў назаўсёды, і цяпер ніхто не ведае, дзе ён. Ці жыве яшчэ, ці, можа, памёр ужо ў чужым краі і між чужога народа.

## ПРЫВІДЫ

Пан Зямельскі загаварыў да мяне:

— Вось так і мой даўні сябар пакінуў Бацькаўшчыну, і васемнаццаць гадоў не ведалі мы, дзе вандраваў ён па свеце. Мы часам верым, што недзе там, далёка, лепшы край і лепшыя людзі. Бог яго ведае, нашы бацькі жылі і тут спакойна, нам жа наканавана іншая доля. Аднак я, дзякуй Богу, пражыў свае маладыя гады там, дзе нарадзіўся. Можа, дасць Бог, і косці мае тут спачнуць.

— Што да мяне, дык я шмат вандраваў; калі б захацеў расказаць пра сваё жыццё, дык успамінаў бы ўсю гісторыю слаўных войнаў Напалеона. Не мроі прымушалі мяне туляцца па ўсім свеце са зброяй у руках, не прага таннае славы, а надзея, што некалі буду цешыцца ўспамінамі мінулых маіх спраў і спакойна памру сярод сваіх землякоў. Але Бог наканаваў інакш. Мой сын туляецца недзе ў чужой зямлі, жыць засталося мне няшмат, ужо, пэўна, яго не пабачу...

Калі сказаў так, слёзы паліліся з вачэй старога Ротмістра. Гэта засмуціла мне сэрца і думкі.

— Бог вялікі і ўсемагутны, — сказаў я, — і на яго трэба спадзявацца.

Да нашае размовы дамяшалася маўчанне. Ротмістар, выціраючы хусцінкай слёзы нарэшце абазваўся:

— Праўда, хто верыць, той сустрэне цуды.

І тут перад нашымі вачыма з'явіўся дзіўны прывід. Стаіць высокая кабета, сукенка яе белая, як снег, твар гожы, як у анёла, на галаве вянок са свежых ружаў, на руках трымае Драўлянага Дзядка. Мы аслупянелі, а яна вокамгненна знікла. Глухое маўчанне. Глядзім адзін на аднаго, не адважваючыся вымавіць слова.

Так мы сядзім нейкі час. Нечакана адчыняюцца дзверы і заходзіць у наш пакой гаспадыня.

— Што такое? — дзівіцца яна. — Цэлую ноч гамоніце, не чуеце, што ўжо другія пеўні праспявалі, мусіць, хутка пачне днець.

— Пан Ротмістар, — сказаў Зямельскі, — так захапіў нас сваімі апавяданнямі, што мы зусім забылі пра сон, а да таго ж, толькі што ўсе мы тут бачылі дзіўны прывід: нейкую кабету з кветкамі на галаве, і Дзядок такі ж, як наш, быў у яе ў руках.

— У сне і я бачыла цуды, пра якія ніколі не думала наяве. Снілася мне нейкая прыгожая раніца, было так ціха, што валасы і не варухнуліся на галаве, на небе ні хмурынкі, узыходзіла сонца, і было яно не сляпучае, але разлівала вакол святло, нібы з чыстага золата. Сабралася шмат люду, усе моўчкі, нібы чакаючы кагосьці, паглядалі на ўсход. Тут з вышыні зляцеў анёл, стаў на ўсходзе, ударыў рукою па сонцы, і зазвінела па ўсёй зямлі, быццам ударыў нехта ў звон. Гэтыя зыкі пранiклі ў чалавечыя сэрцы. Укленчылі ўсе, і я старанна малілася. Да мяне падышоў стары, зусім падобны да нашага Драўлянага Дзядка, і кажа: «Маліся!»

Пасля мне здавалася, што я адна блукала ў полі, бачыла на небе рэдкія аблокі, і яны былі белыя, як снег; адно воблака ўпала на зямлю перада мною, я падняла яго і бачу, што на ім штосьці напісана, але што — прачытаць не магу. Зноў падыходзіць да мяне той самы Дзядок і кажа:

— Я табе прачытаю, слухай і запамінай. Тут напісана: «Бог справядлівых уславіць перад светам».

Тут я прачнулася і больш заснуць не магла. Пачула, што вы яшчэ гамоніце, і прыйшла расказаць сон.

Сказаўшы гэта, яна выйшла.

Ротмістар уздыхнуў і сказаў:

— Вялікая міласэрнасць Божая! — і, ходзячы па пакоі, пачаў гаварыць пацеры.

Закончылася размова. Пасцелі падрыхтавалі нам у гэтым самым пакоі.

— Не спяшайцеся заўтра рана ўставаць, — сказаў гаспадар. — Свеціць дзянніца на ўсходзе, ноч была бяссонная, няхай нам гэты дзень аддзячыць.

Пажадаўшы добрае ночы, ён выйшаў з пакоя.

## РАЗВІТАННЕ

Я прачнуўся, глянуў у вакно: ясны сонечны прамень, прабраўшыся праз шчыліну ў аканіцы, асвятляў пакой. Ротмістар, ходзячы з кута ў кут, шаптаў пацеры, глянуў на мяне і сказаў:

— Хутка поўдзень. Спалі мы добра, бо і я таксама нядаўна прачнуўся, а час ужо дадому. — Ён выйшаў, паклікаў лёкая, загадаў адчыніць вокны, і я як хутчэй пачаў прыбірацца: за ўсё маё падарожжа яшчэ не выпадала мне ні разу так позна ўставаць.

У хаце было ціха. Лёкай паведаміў, што пан і пані з работнікамі ў полі і дзяцей забралі з сабою, каб тут незнарок не перапынілі наш сон.

Мы пайшлі з Ротмістрам у поле, а адтуль з гаспадаром і ўсёй яго сям'ёю вярнуліся дахаты.

Пасля снедання пан Ротмістар развітаўся з гаспадаром і гаспадыняю і, паціскаючы мне руку, прамовіў:

— Жыву я далёка ад тваіх родных мясцін. Дык хоць успамінай мяне, пра нашы начныя размовы, пра сны і прывіды. Можа, ужо і не сустрэнемся, бо мне недалёка да магілы.

Пан Зямельскі з жонкаю і дзецьмі і я правялі Ротмістра аж да мяжы з суседзямі.

Гаспадыня з дзецьмі вярнулася дадому, а мы ўдвух пайшлі аглядаць гаі і засеяныя палеткі. На праходцы пан Зямельскі шмат мне расказваў, дзе ў яго якая зямля, дзе якое трэба сеяць збожжа і як уводзіць у сялянскую гаспадарку новыя спосабы працы, якія не вельмі ўдаліся ягоным суседзям.

— Гаспадарка, — сказаў ён мне, — вымагае не прыдумак розных, а досведу і руплівасці; хто працуе, таму і Бог дапама-

гае. Шмат у нас ходзіць праектаў, як разводзіць жывёлу і палепшыць зямлю. Нашы продкі жылі на гэтай зямлі спакойна і заможна. Гаспадару, які славіць Бога, усяго хапае. Няхай у яго і спытаюць, якім чынам палепшыць зямлю і як развесці жывёлу.

Калі мы ішлі па беразе возера, ля якога даспявала ранняя грэчка, Зямельскі пляснуў рукамі — і з нівы, нібы хмара, паднялася вялікая чарада дзікіх качак.

— Ад іх, — сказаў ён, — адна шкода. Азёраў і рэчак шмат, і столькі гэтых качак развялося, што трэба асобнага стральца ля кожнай нівы, што блізка ля вады. Вясковы гаспадар апрача злых людзей мае яшчэ шмат непрыяцеляў: дзікіх птушак і драпежных звяроў. Летась вунь ля таго цёмнага лесу вырас у мяне цудоўны авёс. Дык мядзведзь за некалькі начэй знішчыў усё, пакінуў толькі здратаваную салому. Гэты звер не толькі нападае на жывёлу і пчол, але і нівы пустошыць. У мяне добрыя сабакі. Яны вартуюць жывёлу ад ваўкоў і мядзведзяў, а вось засеяны палетак немагчыма ўпільнаваць ад шкоды.

Так мы, ідучы, размаўлялі. Павеяў вецер, і далёка за лесам абазваўся гром. Глянулі мы ўгору: велізарная хмара з усходу падымаецца над лесам, маланка, як вужака, прабегла колькі разоў праз нябеснае чарноцце. Мы паспяшалі туды, дзе работнікі зграбалі сена. Ледзь паспелі скончыць і вярнуліся ўсе да хаты, як сонца схавалася за хмараю, пацямнела, усхадзіўся вецер, жывёла бегла хавацца ў хлявы, гусі, выцягваючы шыі і махаючы крыламі, нібы ветразямі, з крыкам уцякалі з поля.

Раптоўны дождж з градам сек у вокны. Ускінулі на вуголле свянцоныя зёлкі, і ўся сям’я, укленчыўшы, прасіла Бога быць міласэрным. Шум дрэў і залевы, стрэлы грому наганялі страх. Але хутка моцны вецер разагнаў хмары. Скончылася навальніца, блакітнае неба і сонца паказаліся з-за аблокаў.

Гаспадар выйшаў у поле і хутка вярнуўся вясёлы.

— Дзякуй Богу, навальніца не нарабіла шкоды. Дробны дожджык ідзе, няхай, работнікі адпачнуць у хаце.

Дзень хіліўся да вечара. Я расказваў сваім землякам аб прыгодах, што здараліся ў маім жыцці, як пакінуў Беларусь. Усе з цікавасцю слухалі пра дзівосы паўночнай сталіцы, пра тэатры, канцэрты, пра норавы жыхароў. Але найбольш іх займалі небяспечныя марскія падарожжы, буры, малюнкі гор і берагоў чужых краін.

— Я ніколі не меў ні ахвоты, ні цікавасці наведаць чужыя краіны, — сказаў гаспадар. — Заўсёды мяне захаплялі тыя па-

мятныя вершы, якія некалі ў Полацку ў езуіцкім тэатры спяваў хлопец, іграючы на гуслях:

Шчаслівы, хто ад спрэчак далёкі,
Як і ў тыя, мінулыя рокі,
Не сядзіць, а старанна працуе,
Дык яму ва ўсім вечна шанцуе.

— Сапраўды, шчаслівы той, хто жыве ў вёсцы з працы рук сваіх. Анэля, вазьмі гітару і заспявай песеньку, якую я склаў, прыгадаўшы, як у школьныя гады пісалі мы вершы.

Анэля настроіла гітару і заспявала, як вясновая птушка, мілагучным і прыемным голасам:

Славяцца дрэвы красою
Ў пушчы у нашай і ў гаі.
Там салавейка вясною
Цэлую ночку спявае.
Ў лузе на пашы багатай
Статкі жывёлы пасуцца.
Грэчкі ў нас ніва за хатай —
З мёдам там пчолкі снуюцца.
Як гаспадар на палетку
З неразагнутай спіною,
Бог тут дарадца і сведка —
Жыта сцяною.
Нетры лясоў благаслаўляе
Наш паляўнічы руплівы.
Рыба ў азёрах гуляе,
І рыбалоў тут шчаслівы.

Пасля гэтае песенькі шмат яшчэ пан Зямельскі расказваў пра сваю гаспадарку, аб продажы сена, жыта, аўса і іншых дарункаў зямлі. Гаспадыня хваліла пароду жывёлы, а менавіта авечак, якія мелі доўгую і мяккую воўну. Апавядала аб прыбытках ад продажу малака і свойскіх птушак. Панна Анэля дастала з куфра белы і тонкі, як паркаль, кужаль; гаварыла, што бацька, на яе шчасце, штогод засявае адну ніву льном, з якога пад яе наглядам ткуць палатно, і яна штогод прадае частку яго ў горадзе і за гэтыя грошы купляе сабе на ўборы ў краме паркаль і ядваб.

Некалькі дзён бавіў я ў прыемных размовах у доме пана Зямельскага, увесь час адчуваючы ветлівасць і шчырасць сэрцаў усёй ягонае сям'і. Я быў невыказна шчаслівы. Час той прамінуў як найпрыемнейшы сон.

Узышло сонца, пагодны ранак, час у падарожжа. Пасля снедання я развітаўся з усімі са слязьмі на вачах, а памяць пра іх назаўсёды засталася ў маёй душы[13].

# ДУША НЕ Ў СВАІМ ЦЕЛЕ

Разлеглы абшар Валыні[1] ў большай частцы пакрыты лясамі, на захадзе ж вачам адкрываюцца стэпы і зусім іншыя краявіды. Праз ваколіцы і мястэчка Цуднаў[2] плыве Цецераў; на заходніх і ўсходніх берагах гэтае рэчкі ўздымаюцца высокія дзікія скалы, нібыта руіны даўніх часоў, і здаецца, што іх накшталт сценаў узнесла сама прырода, каб адмежаваць Палессе ад тлустае і ўрадлівае зямлі. Ад Цуднава аж да межаў Падолля[3]— паўсюль улетку можна бачыць нівы, засеяныя буйною пшаніцаю; тут зямля без вялікіх намаганняў аратага дае багаты плён. Хоць жыхары гэтых ваколіцаў забяспечаны ўсім, што толькі трэба дзеля іхніх выгодаў, аднак і сярод іх слёзы, трывога, пакуты сустракаюцца як і ўсюды; няма праўдзівага шчасця, няма раю на гэтай зямлі.

Халера, цяжкая азіяцкая хвароба, ахапіла ўсходнюю частку Еўропы і ў 1847 годзе, пераходзіла з месца на месца, імкнучыся на поўнач і на захад; і гэтай кары Божай паўсюль папярэднічала надзвычайная трывога. У пачатку чэрвеня 1848 года[4], у самую спёку, з’явілася яна на Валыні і была ў асобных мясцінах жудаснаю; у мястэчку Цуднаве і ў ваколіцах пасля гэтае страшэннае бяды шмат засталося няшчасных удоў і сірот.

Увосень, калі небяспека тае страшнае эпідэміі знікла, у доме шляхціца Н. сабраліся суседзі, і сярод іх пан Зянон, які, вандруючы па гэтым краі, пазнаёміўся з ветлівым гаспадаром. У гэтай грамадзе пачалася размова пра халеру, пра нябожчыкаў і пра тых, хто ачуняў; госці, нібыта мараходы на беразе пасля жахлівае марское буры, успаміналі сяброў і знаёмых, што зніклі ў вірах, і тых, каму Бог дазволіў выплыць на бераг, каб яшчэ працягваць пілігрымку свайго жыцця.

— Шкада Саматніцкага, — прамовіў адзін з гасцей. — Добры быў чалавек! Як ён стараўся дапамагаць тым, хто пакута-

ваў ад гэтае хваробы, а сам памёр без догляду, бо жыў у адзіноце на хутары, дзе толькі дрэвы шумяць над дахам.

— Адкуль, Мацею, у цябе такія весткі? Саматніцкі і цяпер жыве на тым жа хутары, я нядаўна сам яго бачыў.

— Я ведаю, што хтосьці там жыве, але не ён, бо знаў яго добра. Быў гэта мужчына высокага росту, светлавалосы, досыць прыгожы, а гэты — зусім іншы, ростам значна меншы, худы, чарнявы і, здаецца, нават старэйшы.

— Гэта Саматніцкі. Праўда, ніжэйшы, іншы з твару, бо ён цалкам перамяніў цела, а як гэта сталася, ведаю толькі я.

— Дзіўныя рэчы ты апавядаеш, пане Мікола, — сказаў гаспадар. — Усім нам цікава ведаць, якім гэта чынам можа чалавек змяніць сваё аблічча.

— Рэч немагчымая, незразумелая, надзвычайная і нечуваная, але так было.

— Аднак растлумач жа нам гэтую загадку! — закрычалі ўсе госці. — Бо ніхто з нас адгадаць яе не можа.

— І я таямніцу не зразумеў ва ўсіх дэталях, але пра тое толькі раскажу, што бачылі, і пра тое, што ён сам нядаўна расказваў.

У часе тае лютае халеры, ведаеце самі, Саматніцкі быў смялейшы за саміх лекараў, рызыкаваў, на любы кліч ляцеў, абы толькі даць ратунак людзям: хворых націраў нейкімі таямнічымі лекамі і штосьці даваў выпіць, ды такія гэта мела добрыя вынікі, што аніводзін не памёр з тых, каго ён наведаў.

Цуднаўскі мешчанін, адзін з маіх знаёмых, расказаў мне пра такое дзіўнае здарэнне. Ягоная жонка раптоўна адчула моцны боль у сярэдзіне, і зараз жа з'явіліся ўсе прыкметы тае страшнае хваробы; дык ён паспяшаўся да нашага цудоўнага лекара прасіць дапамогі. Калі ён прыбег на хутар, то аслупянеў, уражаны незразумелым відовішчам: на панадворку перад самаю брамаю ўбачыў Саматніцкага; той выглядаў нябожчыкам: рукі і ногі былі не падуладныя яму, вочы адкрытыя, твар бледны; мёртвае цела, адарваўшыся ад зямлі, рухалася, і здавалася, што нейкая нябачная сіла кідала гэты труп ва ўсе бакі. Мешчанін хацеў ужо ўцякаць адтуль, але пачуў голас: «Пачакай хвіліну, спачатку трэба, каб ты маё цела намазаў лекамі і выратаваў ад пошасці, тады буду гатовы ісці з табою». Праз колькі хвілінаў цела стала на ногі, здаровы Саматніцкі аправіў на сабе вопратку і сказаў: «Ну, цяпер пойдзем, ведаю, чаго ты прыйшоў: жонка твая ачуняе». І сапраўды, таемнымі сваімі лекамі ён выратаваў яе за пару гадзін.

А вось якім чынам гэты дзіўны лекар, што засцерагаў сябе і ратаваў іншых, трапіў у вялікае няшчасце. Пэўнага дня, калі

ён, маючы намер ісці да хворых, намазваў сваё цела, каб засцерагчыся ад пошасці, адна асоба, якую ён моцна кахаў, недзе ў далёкім краі цяжка захварэла на халеру. Саматніцкі гэта ўбачыў, бо кажуць, што душа, калі яе не абцяжарвае цела, далёка бачыць і чуе. Быў ён вельмі ўзрушаны, і нават забыўся, што з целам ягоным можа здарыцца няшчасце, калі не схаваць яго ў зацішным кутку. Пакінуўшы цела ля брамы хутара, паляцеў, каб як хутчэй паспець з таемнымі лекамі. Пасля выратавання мілае яму асобы і вяртання дахаты, ён ужо не ўбачыў свайго цела, якое людзі знайшлі ды пахавалі, лічачы, што ён памёр ад пошасці. Няшчасны Саматніцкі без цела быў нябачны, нікому не мог і слова сказаць, бо, чуючы ягоны голас, усе жагналіся ад страху, мяркуючы, што здань з імі размаўляе. Не маючы мажлівасці даведацца пра сваё цела, ён блукаў доўгі час незаўважаным, нарэшце знайшоў на дарозе нейкі труп, з якога толькі што душа вылецела, прымусіў сваімі таемнымі лекамі цыркуляваць кроў, улез у чужое цела, вярнуўся на свой хутар і цяпер жыве там самотна: ніхто яго не пазнае, усе лічаць яго нябожчыкам.

— Лепш бы зрабіў, — прамовіў гаспадар, — калі б ужо адышоў назаўсёды на той свет, чым блукаць па зямлі ў чужым целе.

— Хоча ці не хоча, — сказаў Мікола, — аднак мусіць пакутаваць на зямлі і чакаць, пакуль праб'е гадзіна, прызначаная Богам.

Калі яны так размаўлялі, адчыніліся раптам дзверы, і ўвайшоў незнаёмы: твар цёмны, пануры, зусім бяскроўны, аніякага пачуцця на ім, нос тонкі, пакрыты сухою скураю, вусны без колеру, вочы без выразу, і, здаецца, імгла нейкая іх ахутала. З плячэй незнаёмца спадаў сурдут, ахінаючы яго схудалае цела.

— Так, пане Мікола, — пачаў ён працяглым і манатонным голасам, — я той самы Саматніцкі, пра якога ты толькі што казаў. Чужое цела — цяжар мне на гэтым свеце, не варта яно маіх клопатаў, але вочы душы далёка бачаць і вушы далёка чуюць: ведаю, пра што ты цяпер гаварыў; дзякуй, што пра мяне ўспамінаў; чалавек у маім стане не сустрэне на зямлі ні знаёмых, ні сяброў.

Усе моўчкі пазіралі на маркотную, нябачаную дагэтуль постаць. Маўчанне парушыў Мікола:

— Ратуючы іншых ад смерці, ты сам трапіў у большае няшчасце, чым смерць.

— Ніхто з іх не вінаваты, што я так пакутую.

— Я калісьці ў Вільні ведаў Саматніцкага, — сказаў Зянон. — Можа, ты маеш там кузена?

— Гэта я сам, але не такі, якім быў калісь.

— Ці даўно жывеш у гэтым краі?

— Ужо некалькі гадоў; і туды, дзе быў, не вярнуся: цяпер ніхто мяне там не пазнае. І яна не пазнае, — не паверыць, не пашкадуе, смяяцца будзе, як з вар'ята.

— Шмат розных выпрабаванняў было ў тваім жыцці?

— Даследчык шукае таямніцы, бяда шукае даследчыка. Зяноне, калі верыш, што я той самы, якога ты знаў калісь у Вільні, прыйдзі заўтра ў маю хаціну — у мяне ёсць пра што расказаць і пра што прасіць. Бывайце. Думайце пра мяне, як вам заманецца.

Пасля ягонага адыходу госці ў задуменні пазіралі адзін на аднаго, не разумеючы, што гэта значыць: з гаворкі здаецца ён тым самым Саматніцкім, знешнасць жа зусім іншая.

— Бачыце, суседзі? — прамовіў Мікола. — Як вам гэты госць? Усё спраўджваецца, аб чым я вам нядаўна казаў: твар, вусны, нос, вочы, валасы і ўсё тое, што мае гэтае цела, — не ягонае ўласнае, але ён той самы Саматніцкі, бо і сам сябе так назваў і тое, што я казаў, пацвердзіў.

— Але здаецца, — сказаў Мацей, — што яго не прынялі на тым свеце, дык мусіў зноў вярнуцца на зямлю, бо ён нібы нябожчык. Няма ў ім жыцця.

— Дзіўны госць, — сказаў гаспадар. — Я не затрымліваў яго, бо, кажучы шчыра, ягоны прыход, быццам з таго свету, выклікаў у мяне нейкае незразумелае пачуццё.

Увесь той вечар суседзі гаманілі пра Саматніцкага.

* * *

Дзень быў восеньскі, неба хмурнае, шумелі дрэвы над счарнелым дахам хутара, вецер падымаў у паветра жоўтую лістоту. Саматніцкі нерухома сядзеў ля акна, нібы драўляны ідал. Зянон зайшоў у хату, спыніўся і доўга глядзеў на гаспадара, нарэшце, каб абудзіць яго, госць папытаўся голасна:

— Як маешся, пане Саматніцкі?

І той раптоўна, нібы сон адагнаўшы, ускочыў з месца і прамовіў:

— Дзякуй, што мяне наведаў. Я не прывітаў такога добрага госця, бо быў у гэты час вельмі далёка.

— Пэўна, дзесьці ў далёкай мінуласці, прыемна сяды-тады той край думкаю адведаць.

— Праўда, тут горш, але там, дзе быў, мінулае і сучаснасць заўсёды аднастайныя: Адэля са спакойным тварам, з мілаю

ўсмешкаю бавіцца ў сябрыне вясёлых гасцей — гэты расказвае ёй, што чуў, той — што́ прачытаў, які новы твор выйшаў з друку, пра знакамітых пісьменнікаў, пра літаратурную славу, як круціцца то сюды, то туды Кола Фартуны, што́ дзеецца ў вялікім свеце. І ніхто там пра мяне не ўспомніў, і Адэля, размаўляючы то з гэтым, то з тым, пра мяне — ні слоўца.

— Гэта звычайная рэч: час сцірае надпісы на цвёрдым мармуры, а людскую памяць лёгкі ветрык развее, малая хмарка заслоніць.

— І я гэтага хацеў, ды лічыў, што ў далёкіх краях новыя мясціны, маляўнічыя краявіды ды выпрабаванні зменяць мае думкі і жаданні: пабываў у стэпах, бачыў цуды, узіраўся ў таямніцы прыроды, — аднак хмары і стэпавыя вятры не развеялі, не засланілі маіх успамінаў.

— Ты не перамяніў сваіх пачуццяў, але, пэўна, скарыстаў розныя адкрыцці гэтага краю, які раней не ведаў; хацеў бы і я штосьці даведацца з гэтых адкрыццяў.

— Якія выгоды я меў тут? Бачыш, які я цяпер? Калі я трапіў у гэты край, то ўпадабаў лагодны клімат, разлогі ўрадлівых ніваў, раскошу расквітнелых садоў, ветлівасць і дабрыню жыхароў. Аднак праз некалькі месяцаў захацелася мне болей пазнаць: я перш-наперш прагнуў пабыць ва Умані[5], пабачыць пекны Сафіеўскі сад, так услаўлены ў паэзіі Трамбецкага[6], бо ён у маім уяўленні маляваўся зямным раем; я вандрую, як звычайна, без вялікіх выдаткаў, і напрыканцы траўня пабачыў ужо разлеглыя стэпы Украіны. Знаёмячыся з вуліцамі горада Умані, я згадваў пра тыя страшныя зверствы, якія чыніліся тут у часе нападу гайдамакаў.

Шукаючы сад, я даведаўся ад тамтэйшых жыхароў да яго дарогу і пайшоў туды праз высокую браму прыгожай архітэктуры, заўважыў сажалку, якая з двух бакоў была закрытая гарыстаю мясцовасцю, лясным гушчаром і зіхацела ў цішы, нібы люстра. Паўзіраўшыся на статуі з белага мармуру, што стаяць ля вады, я пайшоў правым бокам далей, любуючыся шторазу новымі краявідамі; прыемна глядзець на расквітнелую ўвесну прыроду, а тым больш, калі яе мастацтвам, стараннем і выдаткамі даводзяць да ідэальнае прыгажосці; там усё ў той час вабіць чалавечае вока. Бачыў высечаныя ў дзікіх, зарослых лесам скалах гроты, бачыў гаманкія крыштальныя воды на імшыстым дзікім камені, бачыў аграмадны граніт, што ледзь трымаецца на абломках скалы, палохаючы людзей, бачыў у чыстай крыніцы рыбу, якая зіхацела золатам і срэбрам. Там лугі і ўзгоркі ўкрыты прыгожымі

12 Зак. 909

кветкамі, у кустах чуваць пошчак салаўёў, бачыў там чароўны палац Псіхеі ды прыгожы востраў багіні Каліпсы; там сустрэнеш усё, што толькі можа стварыць уяўленне паэтаў.

Самотны, блукаў я па зацішках гэтага саду. Дзень быў ясны, і ўсё квітнела, нібы ў раі, толькі мае думкі ахапіла скруха. Будучае і мінулае, быццам дзве чорныя хмары, віселі перада мною і за мною, нейкае журботнае прадчуванне ўпляталася ў мае мары; я хацеў бачыць толькі цярноўнік, лічачы, што на адно толькі тое і нарадзіла яго прырода, каб я спыняў на ім свой позірк праз усю пілігрымку майго жыцця.

Сказаўшы гэта, Саматніцкі замоўк, і здавалася, зноў здранцвеў: знерухомела ягоная постаць, і на твары, быццам драўляным, не было аніякага руху. Зянон, не бачачы прыкметаў жыцця, пазіраў на яго з трывогаю; нейкі час яшчэ доўжылася маўчанне, нарэшце, нібы абудзіўшыся з летаргічнага сну, той пачаў зноў апавядаць:

— Быў я далёка, але і там спаткаў ля кветак калючы цярноўнік. Аднак вярнуся да свайго апавядання. Прысеўшы і абапёршыся рукою на дзікую скалу, я аддаўся сваім тужлівым мроям; раптам нейкі жыд з сухім, панурым, змучаным тварам, худы, у доўгай вопратцы, набліжаючыся да мяне, сказаў:

— Я — музыка, без інструмента граю на габоі; падарожнічаў па многіх краінах, і ўсюды маё гранне прымалі з вялікім захапленнем. Можа, пан дазволіць зайграць яму што-небудзь?

— Грай, што табе падабаецца, — адказваю.

Ён скрывіў вусны, прыціснуў праваю рукою надзьмутыя грудзі, па твары прабеглі канвульсіўныя дрыжыкі — зайграў нейкі жалобны марш. Слухаючы гэтую журботную музыку і гледзячы на канвульсіі твару і на ягоныя грудзі, я не мог заставацца абыякавым: аддзячыў як мог і папрасіў, каб не граў болей, не падрываў сваё здароўе; ён узяў плату, аднак зірнуў на мяне так, быццам быў пакрыўджаны.

— Ты ведаеш лепш за мяне гэты сад, — кажу, — ці ёсць тут кусты цярноўніку?

— Навошта шукаць кусты цярноўніку, — адказвае, — глянь уверх, над галавою расце велізарнае дрэва.

Я ўзняў вочы ўверх і ўбачыў высокую акацыю з вялікімі вострымі калючкамі; я хацеў яму нешта сказаць, але ўжо музыкі каля мяне не было.

Нейкі час я яшчэ блукаў па садзе, забіраўся ў цёмныя гроты, узіраўся ў струмені вады, у дзікія граніты, у мармуровыя статуі; нечакана пачало цямнець, зашумеў вецер у гушчары дубоў; убачыўшы на небе хмары, я паспяшаўся вярнуцца ў горад.

Зяноне, людзі рознымі шляхамі ідуць да Вечнасці, але пра ўсё, што бачылі і перажылі на гэтай зямлі, пра свае забавы, мары, пра шчаслівыя ды нешчаслівыя сны, якія мроіліся ім у падарожжы таго жыцця, яны расказваюць наступным пакаленням.

Заснавальнік Сафіеўскага саду, валодаючы велізарнымі маёнткамі, мільёнамі лічачы свае скарбы, не ведаючы пакутаў жабрацтва, не думаючы ні пра што іншае, як толькі пра прыемныя забавы, хацеў гэты сад з яго крышталёвымі водамі і квяцістымі далінамі зрабіць пенатамі грэцкіх багіняў; і гэта сталася сярод разлеглых стэпаў Украіны, дзе раней воку не было за што зачапіцца.

Ёсць за некалькі міляў ад Умані і за некалькі вёрстаў ад мястэчка Тэпліка яшчэ адзін сад — Гайнароўскі, як назвалі яго тутэйшыя жыхары. Заснавальнік гэтага саду, пан Гайнар, пасяліўшыся ва ўкраінскіх стэпах, інакш глядзеў на свет. Ідучы праз панурую пустыню жыцця, не марыў ён ні пра залаты век, ні пра рай на зямлі, не збіраўся нікога здзівіць чароўным краявідам, не дбаў пра славу; іншыя ў яго былі думкі, іншая мэта.

Вандруючы там і чуючы няраз жарты, розныя меркаванні і дзіўныя апавяданні пра той сад, я наважыў паглядзець усё ўласнымі вачыма, пазнаёміцца з гаспадаром і зразумець ягоныя думкі.

Сярод стэпу відаць каля вады высокія дрэвы адзінокага хутара; наблізіўшыся да гэтае мясціны, я не заўважыў аніякае агароджы, не спаткаў аніводнага чалавека, нават сабака не абазваўся каля самотнае хаціны, а ў цяні садовых дрэваў паўсюль панавала ціша, толькі часам шумелі кранутыя ветрам галіны. Ля самага ўваходу, у вішняку я заўважыў некалькі пчаліных калод, каля іх адпачываў у засені дрэваў нейкі чалавек, побач на траве сядзеў хлопец: заўважыўшы мяне, ён адразу ж разбудзіў гаспадара. Быў той ужо ў гадах, апрануты ў белую палатняную вопратку, худы, твар шчуплы, смуглы; з-пад густых броваў праніклівым вокам ён пазіраў на мяне; падышоўшы да яго, я папрасіў дазволу агледзець сад і пазнаёміцца з мясцовасцю.

— Мой сад, — сказаў ён, — нагадвае дзікі лясны гушчар, тут аніводзін краявід не прывабіць вока.

— Наследаванне прыродзе, — адказаў я, — больш слаўны занятак, чым усялякія вытанчаныя аздобы.

— Пра іх я зусім не думаў, у мяне іншыя намеры.

— Значна больш можа быць карысці ад таго, што абвесціць Вышэйшая думка і Вышэйшае імкненне, чым наследаванне

чаго-небудзь. Я, упершыню наведаўшы гэты край, хацеў бы запомніць тое, што не сустрэнеш у іншых мясцінах.

— У іншых мясцінах — іншыя патрэбы ў жыхароў; дык я буду тлумачом маіх думак, бо не разумеючы іх, людзі рознае мяркуюць і дамышляюць. Ды тут вельмі вузкія і стромкія сцежкі, я пайду паперадзе, буду правадніком.

Я ішоў за ім у засені асінаў; вузкая сцяжынка, нібы ў лабірынце, вілася перад намі, з абодвух бакоў былі глыбокія канавы і ямы, берагі якіх зараслі густымі кустамі лазы і густою высокаю травою; у асобных мясцінах была відаць пакрытая зялёнаю цвіллю вада, а ў іншых, зацененых густымі галінамі, велізарныя п'яўкі снавалі сюды-туды; нейкая імгла вісела над панурай і дзікаю прастораю; у паветры была надзвычайная вільгаць, быццам пасля нечаканага дажджу, хоць дзень быў спякотны.

— Праца ці прырода, — запытаўся я, — надалі гэтым мясцінам такі панурыя ды дзікі выгляд? І якія могуць быць з гэтага выгоды?

— Глянь на неабсяжныя стэпы Украіны і шырокія засеяныя нівы — тут урадлівая і шчодрая зямля, але ад клімату часта бывае недарод. У гэтых мясцінах пануюць вятры і незвычайная гарачыня, сонца выпальвае не толькі пасевы, але і травы ў нізкіх ярах, ды так, што няма пашы, і ўлетку жывёла без корму і вады. Я працаваў шмат гадоў, капаючы гэтыя ямы і канавы, саджаючы дрэвы і кусты, каб затрымаць вільгаць; і ўжо шмат зрабіў, вада з майго саду, разліваючыся далей, забяспечвае патрэбы ваколіцы і мястэчка Тэпліка. Чалавек, які нязменна ідзе да мэты, не толькі зямлю, але і атмасферу можа змяніць; гэтая вільготная імгла, якую ты бачыш зараз у маім панурым садзе, збірае дажджавыя хмары з усходу і захаду ды поіць вільгаццю сасмяглыя стэпы: глядзі, і цяпер над нашымі галовамі скупчыліся цёмныя воблакі і не рушацца з месца; удалечыні відаць яснае сонца, а мы тут — у засені.

Так апавядаючы пра свае думкі і намеры, ён вёў мяне ўсё далей і далей вузкімі сцежкамі ў дзікім лабірынце; там, дзе шырокая канава адмяжоўвала гэтыя мясціны ад стэпу, я заўважыў нейкі лёх, што вёў пад зямлю, уваход у яго быў прыкрыты густымі кустамі.

«Навошта патрэбна гэтае цёмнае падзямелле?» спытаў я. «Тут, — адказаў пан Гайнар, — лёх і падземны пераход з аднаго месца ў іншае; яны служаць не толькі дзеля ахалоджвання паветра ды збірання вільгаці, але і іншая. Ды няхай таго ніколі

не будзе. Ты чытаў пра страшэнныя зверствы Гонты і Жалезняка, ведаеш пра напады ягоных гайдамакаў, якія лілі кроў па ўсёй Украіне; у выпадку такіх нападаў лабірынт і таемныя лёхі ў маім садзе могуць служыць схованкаю для няшчасных жыхароў. Але гэта толькі пры нагодзе; хадзем далей, пакажу яшчэ, зробленае мною».

Мы выйшлі на больш адкрытую мясцовасць у другой частцы саду, спыніліся каля квадратнае сажалкі, што мела ў шырыню і даўжыню блізу дзесяці сажняў, а празрыстая вада была цёмна-жоўтага колеру, накшталт задымленага тапазу; тут я ўбачыў кусты нейкіх раслін, з вельмі цёмнай зелянінай.

— Тут фармуюцца мінеральныя воды, — працягваў расказваць гаспадар, — хоць яны цёмна-жоўтага колеру, але празрыстыя, як найчысцейшы крышталь, і няма ў іх тых страшных істот, што можна ўбачыць праз павелічальнае шкло ў кожнай кроплі звычайнае вады. Жыхары Украіны часта наведваюць Адэсу: адны, каб прадаць пшаніцу, а іншыя — дзеля марскіх ваннаў; збываючы прадукты, маюць карысць, а вось шукаючы здароўя на берагах Чорнага мора, — толькі множаць непатрэбныя выдаткі: падарожжа няблізкае і салёная вада мала дапамагае хворым, а гэтая крыніца будзе выратоўваць ад усіх немачаў; я добра ведаю гэтую мясцовасць.

— І я, — кажу, — маю намер у гэтым годзе наведаць Адэсу, але толькі з цікаўнасці.

— Едзеш у Адэсу? Я вельмі рады гэтай нагодзе, бо хачу паслаць туды сёе-тое; вазьмі, калі ласка, адну невялічкую рэч.

— З вялікаю ахвотаю, калі не зойме шмат месца.

— Невялікія рэчы няшмат займаюць месца.

Сказаўшы гэта, пан Гайнар паклікаў да сябе хлопца, загадаў яму прынесці чатыры маленькія бутэлечкі і папяровае пудэлка, пасля павёў мяне ўглыб яру; мы ішлі між кустоў ды высокае травы; у засені гушчару з-пад узгорка выцякалі дзве чыстыя крынічкі, нібы дзве стужкі з чыстага срэбра, і праз колькі крокаў зноў хаваліся пад зямлёю. Спачатку ён напоўніў дзве бутэлечкі з аднае крынічкі, усыпаў нейкіх парашкоў — і вада раптоўна стала сапфіравага колеру, пасля з другое крынічкі наліў астатнія дзве бутэлечкі, і, калі сыпнуў іншы парашок, вада набыла прыгожы кармінавы колер; потым добра закаркаваў усе чатыры бутэлечкі і падаў мне са словамі:

— Калі будзеш у Адэсе, пазнаёмішся там з панам Рыльцам; гэта чалавек вельмі вучоны, ён прысвяціў сваё жыццё даследаванням таямніцаў прыроды. Я пасылаю яму дзве бутэлечкі гэтай каляровай вадкасці, а дзве з такою ж вадою вазьмі сабе;

вялікая ад іх карысць і вялікая хаваецца ў іх таямніца: аднак даведаешся пра гэта не ад мяне, а ад пана Рыльца.

Мы яшчэ доўга хадзілі па берагах іншае сажалкі, на якой былі маленькія астраўкі, засаджаныя дрэвамі. Пан Гайнар апавядаў мне пра розныя гатункі траваў, якія выраслі ў ягоным садзе, пра іх чарадзейную сілу. А калі сонца схілілася за небакрай, я развітаўся з садам, падзякаваўшы гаспадару за ласкавы прыём і абяцаючы аддаць пану Рыльцу давераныя мне вадкасці.

Пакінуўшы ўкраінскія стэпы, я завітаў на Падолле; у гэтым краі ёсць усё, што патрэбна для жыцця. Тут і там дзівосная прырода, прыгожыя краявіды: у гарах зеленеюць дубровы і густыя грабавыя лясы, гаі нагадваюць сады з пладовымі дрэвамі, на шырокіх і ўрадлівых нівах гайдаюцца, быццам на моры, хвалі каласоў, квітнеюць даліны, зарослыя буйною травою, свецяцца, як люстры, ставы празрыстае вады, каля якіх бялеюцца вёскі і пышныя маёнткі, на берагах рэчак уздымаюцца сцены і пірамiды скалаў, нібы рэшткі руінаў велізарных старажытных замкаў.

Зяноне, трэба пабываць там, трэба паглядзець той край, зірнуць на высокія і скалістыя берагі Буга і Днястра, дзе прырода адбудавала аграмадныя гмахі з велізарных каменных камлыгаў, пад якімі чарнеюць пячоры і лёхі — вечнае жытло цемры, вечныя сховы начных духаў; трэба пабачыць тыя скалістыя, дзікія ды таямнічыя руіны, вяршыні і схілы якіх пакрываюцца панурымі ценямі густога кустоўя; там усюды адкрываюцца вачам дзівосныя краявіды. На берагах гэтых рэчак добра думаецца, там госці вядуць размовы пра гістарычныя здарэнні, пра фантазію люду, пра розныя навуковыя адкрыцці ад часоў патопу аж да нашых дзён.

Я ўпершыню быў у гэтым краі — невядомы нікому і сам ні з кім не знаёмы. Я адзін вандраваў па берагах Буга і Днястра,і, самотны, няраз змардаваны падарожжам і дзённаю спёкаю, перад захадам сонца, абапёршыся на абломак скалы, узіраўся ў чарадзейныя і таямнічыя краявіды і туга распірала мае грудзі, вока блукала бязмэтна, а думка ляцела далёка-далёка, каб спаткаць позірк Адэлі, у якім адлюстроўваецца яе чыстая душа, што мае болей харaства і прывабнасці, чым усе цуды прыроды.

Пасля гэтага Саматніцкі зноў нейкі час сядзеў нерухома, нібы ў ім ужо не было іскрынкі жыцця; Зянон глядзеў на яго колькі хвілінаў, потым, каб абудзіць з гэтага летаргічнага стану, запытаўся:

— І ў тым зямным раі не знайшоў ты забыцця?

Ён раптоўна прахапіўся і сказаў:

— І ў пакутах не знайду.

— Я б хацеў пабачыць той гожы край.

— Хто мае душэўны спакой, той усё бачыць у прыгожых колерах.

— Ці доўга ты быў на Падоллі?

— Першымі днямі верасня я падаўся далей, ішоў праз дзікія і пустыя стэпы. Зазнаўшы шмат невыгодаў і смутку, я дабраўся да Чорнага мора, да Адэсы.

Адэса — горад, пабудаваны па новай модзе: вуліцы шырокія, ходнікі для пешаходаў зручныя, дамы і касцёлы пекнае архітэктуры; наведваючы парты, рынкі ды розных гандляроў ва ўсіх кутках горада, я хацеў як хутчэй пазнаёміцца з панам Рыльцам, але ні ад каго не мог даведацца, дзе ён жыве. Нават і жыд-фактар, добра ўзнагароджаны, пытаючыся і адных і другіх, не змог мне дапамагчы; я ўжо пачаў адчайвацца, мяркуючы, што не пабачу яго і не даведаюся пра таямніцу каляровых водаў, якія я так старанна захоўваў у часе доўгай і цяжкай вандроўкі.

Паблізу мае кватэры на грэцкай вуліцы быў тракцір[7], дзе штодня і ва ўсялякі час можна было бачыць мяшчан, якія збіраліся дзеля камерцыйных інтарэсаў. Бываў і я там, і, як у тэатры, любіў прыглядацца да прадстаўнікоў розных народаў; у кожнай грамадзе, за кожным сталом гучала іншая мова, вялася гаворка па-нямецку, па-грэцку, па-італьянску.

Чытаючы пры гарбаце газеты, я слухаў перамовы купцоў, камісіянераў ды разнагалосыя апавяданні чужаземцаў. І вось зайшоў чалавек з задумлівым тварам, сярэдняга росту, каржакаваты, густабровы, і хоць з выгляду яму было за пяцьдзесят, хоць яму можна было даць за пяцьдзесят гадоў, выглядаў ён здаровым і дужым. Незнаёмец загадаў прынесці гарбаты, расклаў перад сабою паперы, на якіх было нешта намалявана, абапёрся на руку і, узіраючыся ў тыя паперы, паглыбіўся ў думкі; некаторыя, заўважыўшы гэта, падыходзілі да ягонага стала, з цікаўнасцю пазіралі на малюнкі ды на чалавека і адыходзілі, адны са здзіўленнем, іншыя з усмешкаю. Ён жа, падумаўшы нейкі час, пацёр лоб і прамовіў:

— Больш выпрабаванняў, больш пакутаў; некалі былі адны дзівосы, у будучым — будуць іншыя.

Сказаўшы гэта, ён склаў паперы і пачаў наліваць сабе гарбату. Сядзячы побач і чуючы з ягоных вуснаў польскія словы, я, каб даведацца, хто гэта такі, загаварыў з ім:

— Пан прыезджы ці тутэйшы жыхар?

— Я жыхар-падарожнік, як і ўсе людзі, а ўжо гадоў дзесяць вяду размову з гэтым краем.

— Не магу, — кажу я, — знайсці кватэру пана Рыльца, ніхто яго тут не ведае.

— Гэта спакайней для чалавека, калі яго ніхто не ведае; а навошта ты яго шукаеш?— сказаў ён, прыглядаючыся да мяне, нібы жадаючы пазнаць альбо нешта выпытаць.

— Быў на Украіне ў садзе Гайнара і маю ад яго нейкія каляровыя воды для пана Рыльца.

— Я — Рылец, — паведаміў ён, і твар ягоны праяснеў. — Ты быў на Украіне, пазнаёміўся з Гайнарам, бачыў ягоны сад? Ну, што раскажаш мне пра гэта. А тыя каляровыя воды вельмі мне патрэбныя. Калі ласка, хадзем у хаціну: прыемна мне будзе даведацца пра ўсё падрабязна.

Сказаўшы гэта, ён паспяшаўся выпіць гарбату; потым мы выйшлі з тракціру. Ён узяў у мяне на кватэры дзве бутэлечкі каляровых водаў, і мы селі на дрожкі; не даехаўшы да херсонскае рагаткі, завярнулі да марскога берагу.

Дом пана Рыльца стаяў наводшыбе, за паўвярсты ад горада, ад паўночных і ўсходніх вятроў быў заслонены гушчаром акацый. Мы ўвайшлі ў пакой, дзе было некалькі старых крэслаў, дзве старасвецкія дубовыя шафы і два дубовыя сталы; на адным з іх ляжалі нейкія груды пяску рознага колеру, кавалкі вапны з закасцянелымі ракавінамі, рыбаю і га́дамі, косці, шкілеты нейкіх звяроў ды птушак, нейкія малюнкі страшных пачвараў, дзіўных і нябачаных стварэнняў; на другім стале — кнігі ў старой і новай аправе. Пан Рылец пачаў гаворку:

— Вось гэта маё самотнае жытло; у вакне — малюнак бурлівага мора; я люблю тут часам слухаць шум хваляў, глядзець на гэтыя чорныя пеністыя валы і на чароды белых крачак, што падымаюцца ў паветра; я люблю часам чытаць і паэзію нашых украінскіх вешчуноў. У мяне ёсць кніжка Багдана Залескага[8], з якім ніхто не параўнаецца ў лёгкасці і пекнасці верша; ёсць чуллівая народная аповесць Мальчэўскага[9] «Марыя»; ёсць вершаваныя творы Гашчынскага[10], народныя песні Падуры[11]; ёсць вершаваныя творы Канстанціна Піятроўскага[12], яго аповесць «Юля Патоцкая», дзе ў страшных, але праўдзівых малюнках паказаны казацкія войны, ёсць поўныя чуцця вершы і яго пераклады асобных санетаў Шэкспіра на польскую мову — у іх захавана ўся чароўнасць арыгінала і з вялікім талентам пераадолены цяжкасці гэтага роду верша. Аднак паэ-

таў чытаю, толькі каб развеяць маркотныя думкі, звычайная ж мая праца — даследаванне прыроды мінулага; дапамагаюць мне ў гэтым груды зямлі, косці, шкілеты, чарапы, усялякія акамянеласці. Каляровыя вадкасці, якія ты прывёз, мне вельмі патрэбныя: вось сапфіравая — гэта вада холаду, яна ўсё збірае ды сціскае; чырвоная вадкасць — вада агню, яна ўсё ажыўляе. Заўтра пачну выпрабаванні, калі табе будзе цікава ўбачыць дзівосы, прыходзь да мяне, ты даведаешся пра таямніцу водаў і цудоўную іх моц.

Потым мы доўга яшчэ размаўлялі з панам Рыльцам пра Украіну, пра Гайнара і ягоны сад і пра мае вандроўкі па Падоллі. Ён прыгадваў даўнія знаёмствы ў тых краях, апавядаў пра розныя здарэнні ў сваім жыцці, якім чынам трапіў у Адэсу і якая выпала яму тут доля; так размаўлялі мы да позняга вечара.

На другі дзень у прызначаны час я прыйшоў да пана Рыльца; ён працаваў з каляровым пяском і рознымі акамянеласцямі, якія тоўк, перабіраў, аддзяляў ад іх нейкія часткі ды раскладаў на стале. Ён папрасіў мяне дапамагчы. Я прасяваў пясок, прамываў дробныя часткі вапны ды перасыпаў іх у шкляныя слоікі; так доўжылася наша праца аж да самага захаду сонца. Калі ўжо звечарэла, мы селі каля вакна, нібы адпачыць; асенні вецер шумеў у густой акацыі, хвалявалася мора, а пан Рылец, пазіраючы на чорныя валы, што разбіваліся аб бераг, так пачаў гаварыць:

— Гэтыя салёныя хвалі, разбушаваўшыся калісь, выйшлі з высокіх берагоў, залілі ўсю прастору зямнога шара і пакінулі задзяных істотаў на вечны ўспамін у тоўшчы зямлі, у вапнавых скалах і на высокіх гарах. Даследчыкі, сустракаючы гэтыя дзівы, бачаць сляды мінулага жыцця і паглыбляюцца ў таямнічую мінуўшчыну; і кожны з іх паводле свайго разумення стараецца прачытаць ды вытлумачыць гэтыя іерогліфы; час мераюць яны тысячагоддзямі; сягаюць у самую сівую даўніну, каб розумам ахапіць усе варункі існавання гэтага свету. Але дарэмныя іхнія намаганні: глыбіні зямлі, горы ды скалы — гэта трупы мінулых стагоддзяў, халодныя і нямыя, яны не раскажуць ім ні пра пачатак, ні пра поступ стагоддзяў, ні пра перамены ў жыцці, ні пра канец свой; каб убачыць даўно мінулы свет, трэба ўваскрэсіць, ажывіць даследаваць яго таямніцы, знайсці пачатак і канец усяго. У кожную эпоху прырода — непрачытаная кніга; шчаслівы, хто добра разгледзеў свет, у якім жыве, і ўваскрэсіў частку мінуўшчыны; каб расказаць пра ўсе цуды — мала слоў у чалавечай мове.

З паўгадзіны размаўлялі мы пра розных істотаў, што жывуць на сушы, у моры і ў паветры, пра тое, як змянялася іхняя форма, чаму зніклі асобныя віды, рэшткі якіх можна знайсці толькі ў тоўшчы зямлі, у бурштыне і ў вапнавых скалах. Пасля пан Рылец падняўся з крэсла, запаліў дзве свечкі, выняў з шафы шкляныя слоікі рознае формы і памераў, парашкі паклаў на стол (адны з іх былі з нейкім металічным бляскам, іншыя — з крышталёвым, яшчэ былі шэрыя, чорныя, чырвоныя) і сказаў мне:

— Цяпер будзем даследаваць таямніцу ды моц каляровых вадкасцяў, што ты прывёз мне ад пана Гайнара: убачыш іх моц, убачыш цуд ўваскрашэння істотаў, якія тысячы гадоў ляжалі некранутыя ў сваіх скалістых магілах; убачыш і такіх, што чалавечае вока не заўважае, а мікраскопы ледзь толькі прыкмячаюць іхні рух ды форму.

Сказаўшы гэта, ён выйшаў за дзверы і хутка вярнуўся з хлопцам, якому было, мажа, крышку болей за пятнаццаць гадоў: бледнатвары, нос сплюснуты, тоўстыя губы, густыя, як шчацінне, натапыраныя валасы.

— Гэта мой лёкай, глухі і нямы, — сказаў гаспадар. — Увогуле, мне такі і патрэбны: не чуе маіх размоваў і не раскажа тым, каму гэта не трэба ведаць; я рады, што знайшоў сабе такога памочніка.

Ён загадаў хлопцу напоўніць вадою падрыхтаваны посуд, а пасля пачаў даследаванні. Спачатку паставіў на стол міску, у якой была салёная марская вада і дзве запаленыя свечкі; я падступіўся бліжэй, каб лепей бачыць, што будзе тут рабіцца. Вучоны сыпнуў у міску жменю патоўчанае вапнавае скалы, якая складалася з акамянелых ракавінаў ды іншых марскіх істотаў; нейкі час ён моўчкі ўзіраўся ў ваду, змешаную з вапнаю, потым уліў туды некалькі кропляў сапфіравае вадкасці — і, ў місцы нечакана заварушылася, забурліла; праз колькі хвілінаў ён дадаў туды кроплю чырвонае вадкасці і сказаў:

— Глядзі цяпер.

Я ўбачыў жывых вустрыцаў і ўсялякіх слімакоў: яны раскрывалі і закрывалі свае шкарлупкі; нейкія вадзяныя павукі, рыбкі, маленькія ракі і жукі розных колераў снавалі сюды-туды.

— І ў моры цяпер шмат што змянілася, — патлумачыў ён, — рыба, вустрыцы, слімакі ды іншыя стварэнні сталі ўжо не такія, як раней.

Пасля даў знак хлопцу, каб замест міскі паставіў медніцу, у якой было крыху вады, і ўліў туды нейкія шэрыя ды зялёныя вадкасці, дадаў нейкага тлушчу ды нейкага густога, накшталт смалы, алею, усыпаў дзве жмені зямлі і дзве жмені тоўчанае

вапнавае скалы, перамяшаў усё і ў гэтую мікстуру капнуў некалькі кропляў сапфіравае вады. Бурліла ў медным посудзе, ўздымаліся ды лопаліся ў паветры пухіры; газ, прыкры, аж не вытрываць, напоўніў паветра; ён дадаў туды яшчэ некалькі кропляў чырвонае вады — выбухнуў агонь, пачуўся шум і сыканне. А калі затухла полымя, я ўбачыў поўную медніцу жахлівых гадаў; іхнія вочы свяціліся крывавым бляскам. Гледзячы на гэтых жудасных пачвараў, пан Рылец сказаў:

— Гэта страшыдлы мінулага, у іх абудзілася жыццё, з'явілася і атрута смяртэльная; бяда, калі дакранешся да іх рукою: ад асобных з іх застаюцца невылечныя раны, іншыя забіваюць насмерць. Зло і дабро існавалі ад пачатку свету, аднак ёсць перамены як у фізічным, так і ў маральным свеце, а ўваскрашаць гэтых монстраў мінуўшчыны трэба дзеля таго, каб, параўноўваючы з цяперашнім пакаленнем, лепей пазнаць свет новы і стары.

Сказаўшы гэта, ён паклаў на стол аркуш белае паперы, рассыпаў на ім зроблены з розных фарбаў парашок (такі дробны, як найдалікатнейшы пылок), папырскаў сапфіраваю і чырвонаю вадою — і на папяровым аркушы, як на воблаку, з'явіліся прыгожыя вясёлкі. І раптам адтуль узляцелі цудоўныя рознакаляровыя матылі: яны снавалі ў паветры, пасля абляпілі сцены ды вокны і сядзелі, як найпрыгажэйшыя кветкі. Пан Рылец сказаў:

— Гэта прыгажосць і аздоба маладога свету; матылі чаруюць, захапляюць вока; перлы, рубіны і дыяменты зіхацяць на крылах; некалі ў іх не было такіх прыгожых колераў. Свет фізічны змяніўся, і ў маральным свеце цяпер іншыя жаданні, іншыя мары.

Амаль да поўначы з дапамогай тых каляровых вадкасцяў ажыўляў пан Рылец усё новыя і новыя істоты: сярод іх я бачыў станогіх, ставокіх, стогаловых, жудасных, дзівосных; апісаць іхнія страшныя рухі ды дзіўныя постаці — рэч немагчымая.

— Я ўваскрэсіў, ажывіў прыроду дапатопных стагоддзяў, — працягваў далей вучоны, — ты бачыў марскія істоты, бачыў плавітых гадаў, бачыў прыгожых матылёў. Глядзі цяпер, у што зноў усё гэта ператварылася: замест ракавінаў, жамяры і страшных гадаў зямля ды кавалкі вапнавае скалы; дзе ж тыя залатыя, мяккія ад дарагіх камянёў матылі? Толькі пылок застаўся ад іх: тое, што перажыло свой век, жыць не можа; непераадольны час уладарыць над гэтым светам. Адна, адна толькі Саламандра бессмяротная, яна — чысты агонь, і святло гэтага агню вечна свяціць будзе. Але той, хто даследуе прыроду, павінен уваскра-

шаць яе хоць на кароткі час — гэтая навука ў самотным маім жыцці найпрыемнейшая для мяне забава. Такім чынам я хаваюся ад натоўпу, бо ў грамадзе тутэйшых жыхароў размовы толькі пра гандлёвыя выгоды і набыццё скарбаў, а паненкі і кабеты гэтага краю нагадваюць флейты і кларнеты, — добрыя, калі граюць ды спяваюць, але пагаманіць з імі няма пра што. Аднак у мяне тут ёсць сябры, з якімі я часам дзялюся думкамі; у наступную нядзелю запрашу іх на вечар, прыходзь і ты да мяне, прыемна правядзём час сярод добрых людзей.

Мы так размаўлялі аж да поўначы; і я, позна вярнуўшыся дахаты, доўга не мог заснуць: перад вачыма стаялі гáды, жывая жамяра ды матылі.

На другі дзень я падняўся рана, паставіў на стол дзве бутэлечкі гайнараўскіх водаў, пачаў глядзець на іх жывыя, пекныя колеры, разважаючы пра іхнюю моц, якую не так даўно бачыў у дзеянні; з прыемнасцю марыў пра таямніцы, пра цуды, якія можна паведаміць свету з дапамогаю гэтага скарбу. Салодкія мары авалодвалі мною і падчас праходкі па горадзе, па беразе мора. Але ах! Не прадбачыў я таго, што чалавечая мудрасць, якая раскрывае таямніцы свету, можа скончыцца вялікаю бядою, вялікімі пакутамі.

Сказаўшы гэта, Саматніцкі некалькі хвілінаў сядзеў як скамянелы, пасля раптоўна кранууся з месца і зноў пачаў гаварыць:

— Я бачыў Адэлю; яна заўсёды аднолькавая — шчаслівыя кабеты! Яны не сочаць за рухам планетаў на небе, не даследуюць таямніцаў прыроды; іх прывабліваюць прыгожыя строі, вясёлая забава, новае сяброўства...

Прыйшла нядзеля, настаў прызначаны вечар; я паспяшаўся да пана Рыльца. Ішоў туды пешкі; было сем гадзін: на цёмных вуліцах сям-там цьмяна свяцілі ліхтары; неба было пагоднае, толькі халодны вецер дзьмуў з мора; падыходзячы да ягонае хаціны, пачуў я страшны шум марскіх хваляў, а ў вокнах заўважыў святло запаленых свечак. Увайшоў у хату, сустрэў мяне нямы лёкай, адчыніў дзверы — і тут дзіўнае відовішча адкрылася перад вачыма: пяцёра гасцей высокага росту, сталых, шосты — пан Рылец стаялі ля стала, трымаючы ў руках поўныя келіхі нейкага пітва, з якога бухаў агонь, пры гэтым усе разам крычалі: «Няхай славіцца Саламандра!» Яны перакулілі келіхі, а мне здалося, што выпілі чыстае полымя; убачыўшы мяне, гаспадар сказаў:

— Ты спазніўся і не выпіў з намі полымя ў гонар Саламандры; жменя попелу якое — звяно, а ўваскрашэнне і жыццё — бясконцы ланцуг.

Сказаўшы гэта, ён наліў келіх, падпаліў яго, і я, усклікнуўшы: «Няхай славіцца Саламандра!», выпіў, абы не адрозніваецца ад іншых гасцей і дагадзіць волі гаспадара.

Потым пан Рылец дастаў з шафы каляровыя вадкасці Гайзера, загадаў нямому хлопцу наліць медны ды іншы посуд вадою і ў прысутнасці сваіх гасцей зноў пачаў з зямлі і патоўчанае вапнавае скалы ўваскрашаць ракавіны, гадаў, матылёў ды іншую жамяру; калі ўсе са здзіўленнем убачылі ажыўленыя дапатопныя істоты, ён загадаў змяніць ваду, прынесці лісця з дрэваў і травы.

— Паглядзім цяпер на сучаснасць, — сказаў ён, — адна вадкасць чырвонага колеру пакажа нам найдрабнейшыя істоты лепей, чым самыя дасканалыя мікраскопы.

Ён уліў адну кроплю ў медную пасудзіну з марскою вадою, і там на нашых вачах з'явілася мноства дзіўных і жахлівых істотаў, якія ўвачавідкі павялічваліся; потым даставаў адтуль страшэнных пачвараў, клаў на стол: яны нагадвалі рыб, марскіх звяркоў, яшчарак і кракадзілаў. Гэта ж учыніў потым з крынічнаю вадою — іншыя з'явіліся монстры. Расклаўшы на стале лісце з дрэў і траву, ён пакрапіў усё чырвонаю вадою, і тут паказаўся нябачны свет у надзвычайных, фантастычных постацях: крылатыя цмокі, сфінксы, кентаўры і гідры пачалі кружыць па шырокім стале, трывога працяла сэрцы гледачоў.

Гэтыя і іншыя выпрабаванні доўжыліся да самае поўначы, пасля пачалася гаворка пра развіццё розных навукаў і разгляд твораў нямецкіх ды сучасных польскіх філосафаў; доўга разважалі пра Трантоўскага[13] , Быхаўца[14], Бохвіца[15] ды іншых; найбольш мне запомніліся словы пана Рыльца:

— Я з большым задавальненнем чытаю старажытных грэцкіх філосафаў; яны шчыра шукалі святла праўды, і часам асобным з іх удавалася хоць здалёку ўбачыць прамень вечнага святла. Цяпер, калі нябеснае сонца Евангелля свеціць усяму свету, яны блукаюць у цемры і самі не ведаюць, чаго шукаюць; назвалі чалавечую душу часткаю Бога, а яна ж — стварэнне Божае, як і іншыя ўсе душы.

Гэтыя размовы доўжыліся да позняе ночы, а калі прабіла дзве гадзіны, закончыліся літаратурныя забавы, і мы ўсе разам выйшлі: я адзін вяртаўся дахаты па пустых і цёмных вуліцах, думаючы пра ўсё тое, што бачыў і што чуў.

У часе майго знаходжання ў Адэсе я яшчэ некалькі разоў наведваўся ў дом пана Рыльца, бо мяне цешыла ягоная таварыскасць і вучоныя размовы; калі перад выездам з горада я

прыйшоў да яго апошні раз, каб развітацца ды падзякаваць за ласку, ён, даючы мне дзве бутэлечкі са спіртавым настоем, дзве з алеямі, некалькі сваіх парашкоў, перасцярог:

— У цябе цяпер воды Гайнара і ўсё, што патрэбна для даследавання прыроды — уваскрашай жа мінуўшчыну, выклікай з магілаў памерлыя істоты; вывучай таямніцы ўсіх мінулых стагоддзяў і цяперашняга свету, — і ўсюды ўбачыш цуды, якія іншым і не сніліся; убачыш руку Творцы, але не пераступай межаў, не даследуй дух, бо тут патрэбна вышэйшая сіла, тут патрэбна яснабачанне; не забывай, што ты чалавек, не аддаляйся ад свайго цела без волі Таго, хто цябе з ім злучыў, і вокам твае душы не ўзірайся ў іншую душу, якая створана, як і твая.

Зяноне! Я не паслухаўся, пакінуў без увагі гэтыя перасцярогі, зрабіў інакш; той скарб, які ёсць у мяне, тую моц каляровых водаў я выкарыстаў на іншае; я забыўся пра мінулае і пра будучае, хацеў ужо сёння быць у раі ў гэтым жыцці, на гэтай зямлі хацеў бачыць Духа ў постаці анёла; я пазнаў Адэлю, яна стала для мае душы тым богам, тым ідэалам, якога шукаў на гэтым свеце; блукаючы ў стэпах і па дзікіх скалах на беразе Цэцерава, думаў я пра яе, пра яе марыў; душа мая без яе спакойнаю быць не можа, я аддзяліўся ад цела, забыўся пра сваё цела, забыўся і пра зямное жыццё, — загубіў сябе. Зяноне, у далёкім краі, калі хто з маіх даўніх знаёмых запытаецца пра мяне, скажаш, што жыве, ды жыццё яго жахлівае. Але і сам я хутка пакіну гэты край ды пакіну гэтае чужое цела дзе-небудзь на чужой зямлі.

Саматніцкі замаўчаў; Зянон пазіраў на яго з жалем у сэрцы; не мог нагадаць яму пра надзею, бо ягоная надзея згасла назаўсёды; паабяцаў толькі выканаць тое, што ён прасіў, і зноў выправіўся ў падарожжа.

# ЖЫЦЦЁ СІРАТЫ

З паданняў люду
У трох частках

Асобы:
Сірата. Ганна, апякунка Сіраты.
Музыка-блуканец. Альма. Апякун Сіраты.
Фрона, апекунова суседка.
Собаль, нарачонец Сіраты. Дух бацькі Сіраты.
Духі Анёлаў. Духі памерлых.
Духі пекла. Сяляне.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ
**Вясна і дзіцячыя гады Сіраты**

### УСТУП

Музыка-блуканец з арфай на плячы і Альма.

Музыка

Малалецтва мінула, калі яшчэ ў маі
Жыццябегу майго йшоў па ўквечаных долах,
І калі аб зямлі мроіў, быццам аб раі,
І аб людзях я мроіў, нібы аб анёлах.

І чароўна ў душы ткалася летуценне,
Граць хацеў і спяваць людзям гімн нечувалы,
Думаў спеў мой і струнаў збалелых трымценне
Хмары згоніць, разбудзіць панурыя скалы.

Толькі ў сэрца гаркота запала глыбока,
Цемра засціла светлыя думкі дазвання.
Барвы красак вясновых не цешаць мне вока,
І не цешыць душу птушак вольных спяванне.

Альма! Ты толькі свеціш у думкі адчаю,
Быццам зорка зацененая хмараспадам;
Думы цісяуць душу, сэрца жаль працінае,
Ты адна сустракаеш анёльскім паглядам.

Сплыў той час, дзе твая мне гучала размова,
Голас твой наталяў мне ў самоце жаданні.
Песні ўсе твае, кожнае ціхае слова
Паўтараў, захінаў памяццю ў хваляванні.

Быццам дух з свету лепшага мовіць мне сёння.
Гэта голас душы твае зрокам пачуты.
Альма! Можа, гады падаўжэлі ў бяссонні?
Ці нам вечна блукаць па дарогах пакуты?

### Альма

Марна пабачыць сяброў прад сабою
  Хочаш, шукаеш між хмурых.
Покліч далёкі пачуеш з журбою
  Сумны, як звон на хаўтурах.

Хай хоць азяблыя ў снах успаміны
  Дух твой суцешаць загнаны,
Хай не ўпадзе цень ад чорнай хмурыны
  На свет шыпшынай усланы.

### Музыка

У далёкай чужыне, дзе скалы скалелі,
Песні мае каналі і струн маіх зыкі;

Смутак сціскаў мне грудзі і пальцы дранцвелі,
Там суровых вятроў чуўся мне енкат дзікі.

Стогне там аратай ад непасільнай працы,
А галеча ўчарніла дашчэнту хаціну;
Пышныя бачыў там багацеяў палацы,
І не кожны ідзе там праз церні й шыпшыну.

Альма

Песню час не здасць на тленне,
Песню бура не развее,
З пакалення ў пакаленне
Песня — душ людскіх надзея.

А багач дрыжыць ад страху,
Знікне з часам скарб часовы,
І наступнікамі гмаху
Будуць кажаны ды совы.

Музыка

Прывід жалобы на вежы святыняў глянуў,
Глуха, як у пячоры, рве сэрца трывога,
Болей не адгукнецца ўжо голас арганаў,
Што з бацькоўскімі модламі ляцеў да Бога.

Альма

Сонца ўжо зайшло за горы,
І на травы палі росы,
Бач, як там палаюць зоры,
Бач, як гожацца нябёсы.

А прайшлі тысячагоддзі,
Як то створана было ўсё,
Зоркі ў небе ў добрай згодзе,
У зіхоткім сугалоссі.

Бо ў нябёсах з лёсам згодных
Над усім улада Бога.

Чалавек няволіць родных,
Прадае сябе самога.

Ды пачуюць праўду людзі,
Як Архангел ваяўніча
Мерцвякоў трубой разбудзіць
І на страшны суд пакліча.

Музыка

Не адно сёння гасне жыццё ў вечным смутку,
Іх далёка загналі няшчасцяў навалы.
Чахне зорка надзеі ў нябесным закутку,
Б'е агністы пярун, грозяць цвёрдыя скалы,
Ці ж бясконцая бура?

Альма

Хто спазнаў пазнаку духу,
Сам як дух непадупалы,
Здужае любую скруху.
І пярун не зрушыць скалы.

Бура скорыцца аблокам,
Бо святло смялей яснее,
Не цялесным бачыць вокам
Будучыню і надзеі.

Музыка

На зямлі тут на прышласць якія надзеі?
Ці ж бяду не пачуў яшчэ свет наш сапсуты?
Бачыў сам тыя чэргі, дзе гора шалее.
Ці ж замала выпрабавання й пакуты?

Альма

Ноччу ў вокнах дзень світае.
Хоць багач жыве ў раскошы,
Цісне сум, сон уцякае.
Не купіць спакой за грошы.

Хцівасць думцы шэпча злое,
Люты апякун сірочы.
Сірата — дзіця малое,
Вострых стрэл не бачаць вочы.

Думкі чыстыя ў дзіцяткі
Ахінае летуценне,
Смутак гоняць казкі-згадкі,
Цешыць ляльчына адзенне.

Толькі ноч заляжа глуха,
Адамкне труну з размаху,
Мёртвы й пойдзе. Бачыць духа
І ліпіць багач са страху.

Ноччу мучае трывога.
Дух жахлівы, таямнічы
Грозіць страшнай помстай Бога,
Злыя думкі яго лічыць.

Там, дзе дзень засвеціць белы,
Песню ўзнось на страшнай ноце,
Енкі тонаў хай, як стрэлы,
Зраняць слых яго самоце.

Лютня чулая Арфея
Пройме пекла гнеў апалы.
Га́рдая душа зладзея
Устокроць цвярдзей за скалы.

О, краіна сну святога,
Дыямент слязы спагады.
Бачу з ёй і рай, і Бога,
Рынуўшы зямныя звады.

Альма знікае.

Музыка

Бліснула, як прамень, і ў начных знікла ценях,
Са слязінкай і ўздыхам у неба ўзляцела.
Толькі ў думках самотных і ў летуценнях,
Як лілея бялюткая, ўся расквітнела.

Як учора і заўтра, нібы два тыраны,
Доўжыць змовіліся маё засмучэнне,
І ад многасці думак звалюся загнаны,
Моц душы дасць тваіх слоў салодкіх трымценне.

Там, дзе лямпа гарыць, жыў тваёю размовай,
Заўтра сонцам адчыніцца светлая дзверца,
І пратне мая песня стралой перуновай
І злачынныя думкі й каменнае сэрца.

Ад падступніка жах не адстане ніколі.
Марныя ўсе намеры і хітрасць сляпая.
Бог адзін апякун сіроцінае долі
Грозіць помстай і ў сэрцы жаданні чытае.

Пасля паўзы.

Ах, начная пара! Як з цябе надзівіцца?
Увянчана чало хмаркай маладзічкова.
Бліск ляціць над вадою, нібы бліскавіца.
Салавейку самотнага чуе дуброва.

Зорка весняя тут лёгкая на ўспаміне.
Сэрца гэтую зорку праз зімы чакала.
Хцівасць і ганарыстасць злачынная згіне,
Што на шчасце людзкое найшла як навала.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Ноч. У асобным пакоі ў доме апекуна — Ганна, Сірата. Тлее лямпа.

### Сірата

Нянька, нянька, мне спаць не хочацца; не ведаю, чаму мне маркотна.

### Ганна

Пра што табе думаць і што можа цябе змаркоціць, калі ж душа твая мець будзе спакой, як не ў малечым веку. Вырасцеш, свет

лепей спазнаеш, тады Бог ведае, што будзе, можа надта й надта маркотна будзе, а цяпер спі, Геленка, яшчэ й паловы начы няма.

Сірата

Паловы начы няма, а я ўжо выспалася й гатова не зажмурыць вока да самюткага світання.

Ганна

Занадта шмат дазваляю табе спаць пасля абеду, заплюшчы вочкі, ляж спакойна, хуценька заснеш, цяпер і салавейка спіць, які ў гародчыку спяваў увечары, паўсюль ціха, ніхто твой сон не перабаразніць.

Сірата

Нешта мне замінае, што спаць не магу.

Ганна

Можа, святло гэнай лямпы, хочаш, я пагашу агонь альбо лепей засланю.

Сірата

Няхай гарыць ясней, мне весялей, я спаць не буду.

Ганна

Значыцца, будзеш гэтак усю ноч сядзець?

Сірата

Будзем сядзець і размовы весці. Нянька, распаведзь мне якое распавяданне, ты ж іх багата ўмееш.

Ганна

Пакладзі галоўку, распаведжу табе добрае распавяданне, толькі не ўставай, ляжы спакойна.

## РАСПАВЯДАННЕ

У вольным полі поблізу мора,
Як ужо восень стала,
Сіротка гожая, як пакора,
Пасвіла гусак дбала.

А гускі ўсе як са снежнай белі,
Толькі адчулі сілу,
Плысці па хвалях морскіх схацелі,
Пёркі адмыць ад пылу.

Дыхае ветрык, шумяць таполі,
Дрыжучы перад золлю.
А гускі з крыкам бягуць праз поле,
Крылкі вітаюць волю.

З крыкам бягуць — і лятуць у далі,
Вольна ў нябеснай клеці.
І ўжо на морскія хвалі палі —
З берагу ўбачыш ледзьве.

Гарыць над морам заход, пастушка
Гусак сваіх чакае,
І кліча птушак, сама як птушка,
І ў тузе наракае:

"Гускі, мяне не пакіньце ў горы,
Буду чакаць прылёту,
Вам асалодна купацца ў моры,
Я мушу піць гаркоту.

Мяне чакае сум і пакута.
Вам хоць бы што ў блакіце.
Людзі чужыя асудзяць люта.
Гускі, дамоў ляціце".

Кліча так гусак яна з журбою,
Вецер над морам вее.
Праз слёзы бачыць перад сабою —
Іскра ў пясочку тлее.

Ссунула жвір і знайшла ў здзіўленні
З золата персцень рэдкі.
А дыямент рассыпае праменні,
Як незямныя кветкі.

Тут і вяртаўся князь са здабычы
Спрытны ў лавецкай справе.
На ім зялёны ўбор паляўнічы,
Стрэльба ў срэбнай аправе.

Князь набліжаецца да сіроткі,
Бачыць сляды прапажы —
Ў руцэ ў яе дыямент зіхоткі.
Персцень пазнаў свой княжы.

Кажа: — Калі наўколле сцямнела
Ад страшной непагоды,
Я ратаваўся, бо мора ўскіпела,
Персцень і ўпаў у воды.

Знайшла яго ты дзіўным імпэтам,
Плынь паспрыяла, значыць.
Цябе зашлюбую пярсцёнкам гэтым,
Боская воля бачыць.

Годна жыла сірата князёўна,
Гора не забывала,
Давала ўбогім дары ратоўна
І няшчасным спрыяла.

Сірата

Нянька, ці чуеш выццё сабачае? Чаго яны гэтак выюць?

Ганна
*(сама сабе)*

Нездарма гэтае выццё сабачае, выюць яны іншым разам перад пажарам, а часам перад смерцю чыёй-небудзь, альбо, можа, памерлы з могільніку блізіцца да гэтага дому, бо ўжо зараз з'яўляючыся ў страшнай паставе, палохаў і слугаў і пана.

Сірата

Сабакі кідаліся, як на прыхадня якога, а зараз крык чуваць у пакоі; нянька, хто там такі? Мне боязна.

Ганна

Не бойся, Геленка, прамоў пацеркі, Бог да цябе міласэрны дый ахоўца Анёл апякуецца над табою. Але тут блізка йдуць, паклічам іх і даведаемся, што там было.

Сірата, Ганна і слугі апекуна.

Ганна

Што за трывога была ў вас там на падворку і ў пакоі?

Першы слуга

Шчаслівая ты, Ганна, што толькі з дзіцяткам клопат маеш, спяваеш яму песенькі, байкі баіш, а калі дзіцятка засне й сама спіш бяспечна. А з намі ўсё іначай дзеецца. Удзень не маем спачыну і ўночы вечная трывога. Мусім па чарзе слухаць у пярэдняй, пакуль пан засвішча, як на сабак, клічучы каго-небудзь з нас да сябе.

Ганна

Што рабіць, за дурной галавой і нагам не ў спакой, ды не пра гэта гамонка, мне рупіць ведаць прычыну сённяшняга неспакою.

Другі слуга

Жудасная трывога яшчэ й зараз калоціць усяго.

Першы слуга

Злы дух, ці крывасмок, які ўсіх апудзіў у гэтым доме, гэтай ноччу паказаў новыя штукі.

Другі слуга

Я не бачыў, дый зараз яшчэ дрыжыкі бягуць па целе, а што калі б пабачыў, не давядзі Гасподзь.

Ганна

Што ж там было?

Першы слуга

Дык вось кажу, як было; ведаеш, што пан наш не спіць цэлую ноч, а мы ў пярэдняй і на ганку па чарзе варту адбываем, абы яго не задушыў злы дух альбо крысмок, зараз калі хадзілі па дзядзінцы перад вокнамі дому, сабакі выць пачалі, павярнуўшы зяпы да Лоўжа, дзе пахаваны бацька сіроткі.

Ганна

Не гукай так гучна, дзіцятка й без таго спаць не можа, а яшчэ болей будзе палохацца ўначы.

Першы слуга
*(ціхім голасам)*

Пры святле маладзічка глядзеў я далёка ў поле, мяркуючы, што там рухаецца які падарожны альбо звер, раптам паказалася асоба белая, нібы снег, надзвычай высокая, і здавалася мне, як бы над зямлёй ветрам гнаная, блізілася да нашага падвор'я. Толькі што хацеў паклікаць другога вартаўнічага, які хадзіў па дзядзінцы, і паказаць яму гэтае дзіва, праява ўраз знікла, мурашкі тут пабеглі ў мяне па целе, чорны сабака Азор кінуўся са скавытаннем, а за ім іншыя сабакі і, здавалася, як бы кагосьці атачылі наўкол, а мы жывое душы не бачым, толькі кійкі й каменне лётае па паветры, і гэтак нябачнага прыхадня сабакі прывялі да ганку. Чуем крык пана, убягаем усе ў пакой, пан увесь спалатнеў, дрыжыць ад страху, крычыць, што ён бачыць перад сабой нейкую страшную праяву, мы паставілі запаленыя свечкі па ўсіх кутах, праява знікла, аднак жа колькі там вартаўнічых засталося ў пярэдняй і ў пакоі, і пан, сяк-так супакоены, адпусціў нас адпачыць не ведаю як надоўга.

Ганна

Ведаю, што гэта значыць, кара Боская, дужа пасябрыўся з Фронай, мала яму таго, што мае, яшчэ папуляў вочы на мястэчка Сіроціна, а стары муж Фроны ледзьве ногі цягае, хутка наш пан атрымае што шукае й слова стрымае перад гэтай чараўніцай.

Другі слуга

А ці ведаеш, якое ён даў ёй слова?

Ганна
*(ціха)*

Чула, што калі вырасце сіротка, яе рукой, дваром Лоўжа і ста хатамі паддадзеных завалодае Фронін брат Собаль.

Першы слуга

Гэты аднавокі, паскудны, ці варт ён такога маёнтку?

Другі слуга

І я тут штосьці пачаў кеміць, што ён так учасціў у наш двор і дужа цікавіцца гэтым дзіцяткам, ды калі вырасце Геленка, не ведаю, што будзе, аднавуры, агідны, а яшчэ, як распавядаюць, і недавярак. Яна будзе ўцякаць ад яго як ад жахаў начных.

Ганна

Заснула дзіцятка, дзякуй Богу, ідзіце й вы, каб яе не разбудзіць, ціха толькі, не грукайце дзвярыма.

## ПОЎНАЧ

Дух бацькі сіроткі ў постаці старца й Музыка.

Дух

Поўнач, ціха паўсюль, спяць легенды і міты,
Сном глыбокім спіць свет, змрокам ночы спавіты,

Не спачнуць толькі духі ў нябёсах высозных,
Над зямлёю лунаюць у постацях розных.

І паўсюль таямнічай, няўцямнай дарогай
З'явяцца, каб бяссонных замучыць трывогай.
А хто ім не паверыць, знак не разгадае,
Вечнасць страхам надыйдзе, бядой пакарае.

Музыка

І хто ў тое паверыць, знакі разгадае,
Той ад шчасця аслеплы ў няшчасце ўпадае.

Дух

Свет асветлены ўвесь сонцам праўды і веры.
Кеміць лёс, што яго гордасць не разгадае.
Пад шатром залатым стануць прахам намеры.
Вечнасць страху настане, бядой пакарае.

Музыка

У вандроўцы жыццёвай ёсць дзве пуцявіны,
Дух там лётае сам, там улада ўяўлення,
А на першай прысуд і калючкі шыпшыны,
На другой водар кветак і выстылась ценю.
Хто вышэйшым жыццём жыў, меў сум на прыкмеце,
Хто прыпаў да зямлі, таму добра на свеце.

Дух

Славу, ўладу, багацце ды ў свеце значэнне
Хто спрабуе набыць, хто на спадкі ў спадзевах.
Дзень мінае за днём, час знікае ў імгненне,
Плод гаркоты адно спеліцца на тых дрэвах.

Хто высока жыве ўдалечы ад зямнога,
Бачыць цуд найвялікшы, ў цярпенні шчаслівы.
Глянь правей, дзе сяйво месячка маладога,
І якія, скажы, ты цяпер бачыш дзівы.

Музыка

Над зямлёй дзівасць, як соннае летуценне,
Духі, ўкленчыўшы, моляцца да блаславення.

Рукі ў неба нясуць, белае іх адзенне,
Быццам тканае з поўневага прамення.

Чыстая іх малітва кіруе зямною,
І, як полымя, ўздых іх ляціць аж да Бога.
Ззянне ўпала за імі цнатлівай зарою.
Зор вялізных, як сонца, над імі замнога.

Дух

А ці чуеш, як гожа ліецца спяванне?
Спеў дзівосны парушыў начное маўчанне.

## ГІМН АНЁЛАЎ

Святарны крыж, на зямлі ў загоне
Доўга быў безабаронны,
Магуты свету табой сягоння
Прыгожасць свае кароны.
Цуд няўцемны, цуд бясхмарны,
Ты знак цярпення,
Ты знак збавення,
Крыж святарны.

Над светам свеціць тваё праменне,
Ля ўзножжа — царстваў сталіцы,
Штодня люд кажа тваё найменне,
Каб шчыра ў неба маліцца.
Цуд няўцемны, цуд бясхмарны,
Ты знак цярпення,
Ты знак збавення,
Крыж святарны.

А на зямлі туга ды няўдача,
Люд сёння ў чэргах гібее,
Лье слёзы ўдоўка, сіротка плача,
Дай бліск салодкай надзеі.
Цуд вялікі, цуд бясхмарны,
Ты знак цярпення,
Ты знак збавення,
Крыж святарны.

Музыка

І хор духаў да неба нясецца высока,
Тоне ў гонях святла, як сягнуць можа вока.
Гэты гімн ледзьве чуе зямля, як глухая,
Ён цішэй і цішэй разам з імі знікае.
Ды ўвякуюць яго маёй памяці сховы,
Як салодка ў тузе паўтараць гэты словы:
Ты знак цярпення,
Ты знак збавення,
Крыж святарны.

Дух

Ёсць далёка ад свету краіна святая,
Там жывуць толькі модлы і дух беззаганны.
Ані мудрасць туды, ані зірк не сягае,
Задуменне наткнецца на мур нечаканы.

Бачыш, дрэва расце вечнае і маладое,
Цень кладзецца наўкол, як жалоба людская.
Спачываюць там прахі пад смутнай сасною.
І цябе тут начлег з цішынёю чакае.

Музыка

Дрэва бачу я там, ля самотнай капліцы,
І крыжоў старчакі, і магілы й каменне,
На кладах, як запаленыя свячыцы,
Між камення й крыжоў глуха б'ецца пламенне.

Шмат святло тых агеньчыкаў мае абліччаў,
Бачу птушак лясных і пачвараў паўторы,
Маладзіц і дзяцей, і людзей ваяўнічых,
Агнявіта ўгару мкнуцца, як метэоры.

Долу іншыя валяцца ў хмарыстым дыме,
Тыя ў белі стаяць прад дзвярыма капліцы.
Як на могілках, гоман стаіць спаміж імі,
І вятры ў вершалінах не могуць навыцца.

Дух

Бачыш духі памерлых у розных паставах,
Хоча смутны іх спеў нас расчуліць журбою,

Спеў пра родных, знаёмых, іх думак і справах,
Што як мёртвыя спяць у раскошы зямное.

І дамы іх наведалі ў цішу начную,
Узгадалі пра суд справядлівага Бога.
Здраднік гарды і хціўы слоў духа не чуе,
З адранцвення не ўскрэсіць і смерці трывога.

Мы пачуць галасоў гэтых можам бяссонне,
Перш чым светла заранка на небе заззяе.
Пасядзім жа з табой на каменным услоне,
Кожны выраз іх скаргі да нас далятае.

## СПЕВЫ ДУХАЎ

### Дух маці

Свет заснуў, даверыў совам
Слухаць шарую гадзіну.
Я па промні месяцовым
У сваю зайшла хаціну.

Біліся ў хаціне бліскі,
Спаў мой сын, ціхутка стала.
Так стаяла ля калыскі,
Як яго я спавівала.

І, схіліўшыся над сынам,
Супакой не разбурыла,
Словы гэты напамінам
Снам ягоным гаварыла:

Бога, край свой, веру, брата,
Сыне мой, любі без краю.
Свет цярпі, жыццё — не свята,
Бо яно як сон знікае.

Хай у дом твой без запросін
Рупнасць з клопатам заходзіць.
Бог цябе ў дзень уваскросін
За цярпенне ўзнагародзіць.

Духі дзетак

1

На зямлі вірыць няспынна
Ліха, нараканне.
Выжыць здолее шыпшына,
Кветка ўраз абвяне.

На зямлі наш век малечы
Скараціў дарогу.
Не зазналі мы галечы,
Дзякуй, дзякуй Богу.

2

Абмінулі нас згрызоты
Звадамі сваімі.
Мы няшчасныя сіроты
Між людзямі злымі.

Сёння не ўзрыхліць слязамі
Чэрствых душ аблогу.
Бог апеку ўзяў над намі,
Дзякуй, дзякуй Богу.

3

Хутка, хутка засвітае,
Прыйдзе ранак новы.
Гляньце, хмарка расцвітае,
Як вянок ружовы.

Дык ляцім — там, на нябёсах,
Люба нам свабода,
Там вясёлы ў лёса посах,
Вечная пагода.

Музыка
*(пасля паўзы)*

Зніклі духі, чуваць толькі пошумы дрэў,
Што, скажы, за пачвары былі гэта з намі,
Ім чаму невыносны такі духаў спеў,
Уцякалі і дол падпіралі лычамі?

Дух

І такімі ж былі і ў жыццёвай зняверцы,
Знаць і чуць не хацелі зямнога цярпення,
Слёзы й енкі братоў не змякчылі іх сэрцы,
І не ўзнеслі да неба ні ўздыху малення.

Не хацеў гэта ведаць душы гонар сонны:
Дамавіна адчыненая ўсіх чакае.
Марна ў памяці кнігу ўпісаны імёны,
Той збуцвелы лісток зрэшты ветрам ганяе.
Але досыць пра іх казаць.

Музыка

Вось і ноч адплыла, ўжо на небе світае,
І замоўк у кустах салавейка самотны.
Што ж твой твар пакрывае маркота такая,
Што ж з грудзей вырываецца ўздых твой гаротны?

Дух

За парогам вячніны шчаслівыя дзеці.
Там адчынена неба, ад Бога апека.
Ну а колькі пакутаў трывае на свеце
Сірата ад раз'юшанага чалавека.

Тут мая сірата ў злой апецы гаруе,
Робіць хцівы багач ёй жыццё як хаўтуры.
Будзеш граць і спяваць і туды прылячу я.
І паўтораць твой спеў енкам жудасным буры.

Пасля паўзы.

Ды ўжо ранак спявае і ноч адплывае,
Хай сон целу дасць моц, дух жа не спачывае.

Дух знікае.

Пагодлівы ранак,
сонца ўзнеслася над лясамі,
двое сялянаў над магілаю свайго пана.

Першы селянін

Трэці год пайшоў ужо, як вочы ягоныя засыпалі тут пяском, ах, калі б ён устаў ды пабачыў, якія цяпер змены ў ягоным двары і ў маёнтку ягоным, што зрабілася цяпер з ягонымі вернымі слугамі, якія ў старасці жабруюць кавалак хлеба, што дзеецца з ягонымі падданцамі, якія хутка выведуць на продаж астатак з свае аборы, і палі зарастаюць дзікай травою, раскашуецца бяда й галеча.

Другі селянін

Праўду кажаш, Гараська, што мінулае, тое не вернецца, а што будзе, дык пэўна, што не лепшае; пакінуў наш пан адзінюткую дачушку, калі б яна была дарослай паненкай ды выйшла замуж за добрага чалавека, было б і нам лепей, але багата вады ў рэках сплыве, пакуль яна вырасце, і Бог ведае чаго мы яшчэ дачакаемся.

Першы селянін

Ох! Апанасе, пэўна не дачакаемся, бо апякун не глядзіць, каб паненцы нашай альбо нам лепей было, ён бачыць толькі сябе й свае выгоды.

Другі селянін

А што ж ён яшчэ задумаў зрабіць датычна нашае паненкі, альбо датычна нас?

Першы селянін

Ходзяць весткі спаміж людзьмі, што нібыта апякун дакляраваў выдаць яе замуж за Собаля, і ўвесь маёнтак Лаўжанскі аддаць у ягоныя рукі, а ён сам ажэніцца з Фронай, як толькі стары муж памрэ, і завалодае маёнткам Сіроцін.

Другі селянін

Тады ўжо будзе сапраўдная Боская кара, Собаль гроша ў кішэні не мае, ніколі не пераксціўся ў касцёле, не верыць у Бога й людзей мае занепанюх табакі. Але як кажуць, не гэтак усё робіцца, як хочацца, яшчэ далёка да песні, Бог ведае, што будзе. Але побач хтосьці пры могільніку начаваў, цяпер устае ды праціраае заспаныя вочы, а які вялізны інструмент пры ім.

Першы селянін

Могільнік пры вялікай дарозе, пэўна гэта нейкі вандроўны музыка, не дайшоў да мястэчка, пераначаваў пад адкрытым небам, бо ноч была на дзіва ціхая й цёплая.

Музыка, абудзіўшыся ад сну, кладзе на плячо арфу, сядае на каменю, тым часам чуваць здалёк голас званоў.

Музыка

Гожы ранак вясновы, прыродзе вясёла,
Розных тонаў гучанне паветра калыша.
Прынядзелены люд рупіцца да касцёла,
І далёкіх званоў голас слухае ціша.

Ноч прайшла надзвычайна, свет хутала ценем,
А душа незямной светлынёю яснела.
Быў той свет мне прывабны сваім летуценнем,
Праўды дух, дух святла зрэчаіснеўся смела.

Чуў і бачыў я цуды начныя бадзёра,
Лепшы свет змерыць вокам спрыяла мне скруха,
Узіраўся ў бясконца таемнае мора,
Веліч духу спазнаў я і жыў жыццём духа.

Прошласць з прышласцю быццам з'яднаў у здзіўленні,
Бачыў порт, дзе святлей лямпа праўды палае.
Духі вечныя, продкаў сумленныя цені,
Вам вядома дзяцей вашых доля ліхая.

З светам гэтым злятаецеся на спатканне,
Быццам знічкі агністыя, ў цішу начную.

Ды святло ваша позірк зямны не дастане,
Вашай скаргі каменнае сэрца не ўчуе.

У блуканнях жыццёвых, трываючы мукі,
Песні вашы я ў тлуме зямным паўтараю,
Бо душа чула чуе святых гімнаў гукі,
Словы вашы прымае душа трапяткая.

Першы селянін

Гэй, браце блуканец, што ў цябе на плячы? Нейкі інструмент.

Другі селянін

Бачыў я падобны інструмент у Вітабску, але забыўся, як ён завецца.

Музыка

У гэтых краях рэдка ўжываецца, называецца арфа.

Першы селянін

А — так-так арфа, а адкуль жа й куды вандруеш?

Музыка

Быў далёка, гарады й вёскі пабачыў ды йду, куды дарога вядзе.

Першы селянін

О! Гэтак далёка забрыдзеш, хадзі зараз з намі да мястэчка Сіроціна, сёння там кірмаш, багата людзей збярэцца, зайграеш на гэтым інструменце дык, можа, што і ў кішэню ўпадзе.

Другі селянін

Але ж паспяшаемся, бо ўжо званы званілі, гэта не так каб блізка, хутка скончыцца імша й казані.

Людзі выходзяць з касцёла й густа запаўняюць пляц, іграе дуда; танчаць, іншыя ля шынка наўкол сталоў развважаюць за кілішкам, Музыка збоку прыглядаецца да забаваў грамады.

Бонка

Што гэта значыць, браце, што сёння ані апякун нашае паненкі, ані пані Фрона не былі на святой імшы? Прынамсі я іх не бачыў, сапраўды, простыя людзі шчырэй моляцца Богу.

Мінка

А як жа ім быць на імшы, калі яны яшчэ спяць, нічога не ведаю пра паходжанне пані Фроны, ды апякун нашае паненкі пан з паноў знанага роду, і таму, кажуць, заўсягды ўстае па палудню.

Васіль

Ён не спіць, прывід нейкі яму спакою не дае.

Бонка

Балбочаце пра тое, чаго не разумееце, я б вам сказаў, што адкуль паходзіць.

Васіль

Ну, ну, Бонка, скажы, цябе ж нездарма называюць філосафам.

Бонка

Маладыя панічы гадуюцца як няшчасныя калекі, слуга мусіць яго апранаць з ног да галавы, вечарам распранаць, падаваць і гэта і гэна, вадзіць туды й сюды, а ён ні пра вошта не думае і расце бяспечны як дрэва; а яшчэ даюць ім у настаўнікі немцаў, французаў альбо англічанаў, якія пакінулі свой край толькі таму, што там не маглі быць карыснымі; ды вось такі паніч хоць вырасце й будзе панам, аднак не вылечыцца, вечным застанецца калекам, без слугаў ані ўстане, ані ляжа, ані варухнецца, заўсягды трэба каму-небудзь яго як дзіцятка няньчыць, і потым ад бяздзейнасці і ляноты, ад нязвыкласці да перашкодаў, нязручнасці і пакутаў на свеце пачынае быць ганарыстым, пагарджаць

людзьмі, нарэшце ад недалужнасці розуму і Бога забываецца, а потым і нашчадкі калекі душой і целам.

Мінка

Ой! Бонка сапраўдны філосаф, цэлую гісторыю нам выклаў. Яно часткова гэта і праўда. Але, але, зірніце, хто блізка каля нас стаіць з нейкім дзіўным інструментам, паклічам сюды, няхай нам зайграе што-якое.

Бонка

Дай спакой, чалавеча незнаёмы, вось дуда грае, ідзі туды слухаць, а калі спадабаецца, дык і выбераш каго сабе на танец.

Мінка

Праўду кажаш, хадзем туды, трэба расшабуняцца.

Сустракаюцца Музыка з даўнім калегам.

Казарын

Не пазнаў. Севярыне, ты будзеш багаты,
Мушу дзіўныя змены заўважыць без кпіны.
З арфаю на плячы, пілігрымавы шаты,
Дзе бываў ты, якія наведаў краіны?

Музыка

Зведаў скалы й пустэльні ды морскія хвалі,
Анідзе маіх мукаў вятры не парвалі.

Казарын

Бачу ўсмучаны твар, а не знаю прычыны,
Мы пакутуем часта з-за ўласнай правіны.

## Музыка

Зразумеў ты, мяркую, прысуд Боскай волі,
Да канца прачытаў кнігу лёсу ў спакоі.
Ведаеш смак жыцця, скуль і шчасці й нядолі,
І заглыбіўся ў мукі і ў сэрца людскае.

Вінен я, думкай надта ўздымаўся высока,
Чуў, як бура раве, песняй жаліцца скруха,
І сярод чорных ценяў напружваў я вока,
Каб пакутнікаў бачыць, сачыць жыццё духа.

І акрыўся свет крэпам жалобы й трывогі,
Паспытаў я напою з атручаных зёлак.
Браце, йшоў я па цернях, крывянячы ногі,
І Анёла спаткаў, і заняўся мой золак.

Літасцівы Анёл вымкнуў у захапленні,
Як прамень, мая думка да неба дастала.
І знайшоў я і шчасце й спакой у цярпенні.
Грозьбаў гэтага свету мне як бы не стала.

Хто асуджаны жыць сярод лужын і змроку,
На зямны рай, на шчасце здалёк пазірае.
І Анёл размаўляе з душою здалёку,
І не блізіцца ён, і як сон уцякае.

Вінен я, і за грэх свой караюся горка.
Праўда ў словах тваіх, незабыўны мой сябра,
За аблокамі згасла майго лёсу зорка,
Мне й партовая лямпа не ўзблісне азябла.

## Казарын

Прыгадаў зараз Полацк, вясны нашай свята,
І размовы і мроі над ціхай Дзвіною.
Ты такі ж, як і быў, думкай мкнешся крылата,
У краіны ляціш з незямною красою.

О! Бяда, як нязбытным сябе хто спакусіць,
Будзе скрозь ён чужы, як само дакаранне.
Хто на свеце жыве, з светам звыкнуцца мусіць,
Ацаніць рэчаіснасць — і свет лепшы стане.

Музыка
*(з усмешкай)*

Ацаніць рэчаіснасць? — Цана немалая.
Дзіўных вобразаў шмат на зямное юдолі.
Гэты з голаду пухне й тужліва спявае,
Той блазнуе, камічныя граючы ролі.

Той — каханак фартуны, дароў ейных варты,
Што ў балоце, ў ляноце ўгraз нораў ягоны.
Цэлы дзень спіць, а ўноч з рук не выпусціць карты,
На Гасподні й людскія забыўся законы.

Казарын

Поруч шчасце з няшчасцем здаўна ў кожным краі,
Зло з дабром, як сябры, чалавек — гнанец з раю.

Музыка

Колькі жыў, не вяртаўся ніколі да раю.

Пасля паўзы.

Я туды йду, дзе ўзнесла сябе пабудова,
Там пад вокны палацу спяю ды зайграю,
Скалане песня сцены, як стрэл перуновы.

Казарын

Апякун сіраты там, ён з сэрцам каменным.

Музыка

Не прашу мне падаць, я з намерам адменным.

Казарын

Рана йсці туды, час патрываць яшчэ можа,
Як сцямнеецца, будзеш тады ля палаца.
Вось гасподка мая, адпачні з падарожжа.
Час абеду якраз, трэба падсілкавацца.

Неспадалёк ад двору апекуна Сірата з Ганнаю спатыкаюцца з Музыкам.

Сірата

Зірні, нянька, нехта ідзе дарогай, блізіцца да нас і нешта нясе на сабе.

Ганна

Нейкі вандровец музыка, на плячы ў яго інструмент, на якім бедныя людзі рознымі спосабамі шукаюць сабе спажытку.

Сірата

Дык ён бедны, шкада, што не маю яму хоць нешта даць, ён бы зайграў мне на гэтым інструменце.

Музыка

Любае дзіцятка, добрыя намеры, добрае й літасцівае сэрца гэткае як тваё — найлепшы дар блуканцу.

Сірата

Пакажы мне, як граюць на гэтым інструменце, я аддам табе кветкі самыя прыгажэйшыя, якія знайшла на гэтым лузе.

Музыка

Найпрыемнейшая кветка нявінная й чулая — твая душа, зайграю табе й песеньку заспяваю.

Грае й спявае.

Век кароткі ў весніх кветак,
Хутка дні лятуць у дзетак.
Слодыч мрояў знікне ў дыме
Матылькамі маладымі.

Згубіцца ў стадоле доля,
Сцюжаю павее з поля.

Светлы час ніхто не верне.
І спаткаеш толькі церні.

Ах! Жыццёвыя дарогі
Цернямі скрываняць ногі.
І атруцяць сэрца яды —
Земны лекар не дасць рады.

Толькі ў небе лекар можа
Вылечыць цябе, нябожа.
Над цярноваю каронай
Зорка там слязой бяссоннай.

Сірата

Ці ж твае ўсе такія песенькі сумныя, як гэта, што ты цяпер мне праспяваў?

Музыка

Так, усе мае песенькі на аднае сумнай ноце, вясёлыя ўжо даўно я забыўся.

Ганна

Ідзі ў двор, там якраз госці, а можа, які з іх і адорыць цябе.

Музыка

Зараз іду туды.

У доме Апекуна,
Фрона, Собаль ды іншыя госці.

Фрона

Сапраўды, як ты змяніўся з твару, бледны, высахлы як з хваробы, дзіўнае нейкае ўяўленне маеш пра злых духаў, пра крывасмокаў; гэта ў цябе сон адбірае ўночы і здароўе разбурае.

Собаль

Ха, ха, пацешная рэч верыць у духі, а мяноўна ў наш век, калі асвета ўзнялася на такую высокую ступеню, яшчэ ў пана жыве памяць старасветчыны, як па мне, дык я перакана괪ы, што смерць нашая з'яўляецца жыццём для іншых істотаў, мы толькі раз адбываем радоўку на гэтае зямлі, а пасля таго канец усяму — няма духаў і сатана толькі фантазія пужлівых летуценнікаў.

Апякун

Не ведаю, каму мушу верыць? Ці вам, ці маім уласным вачам, скажу вам, што бачыў гэтай ноччу страшную з'яву, так як зараз вас бачу, а яшчэ да ўсяго можа здасца, што гэта прыходзіць з таго свету пан Р., бацька Гелены, здаецца ў тым самым адзенні, у якім яго паклалі ў дамавіну, мне няўзмогу заснуць, увесь час стаіць мне ўваччу.

Фрона

Гэта сіла ўяўлення, нервовая пакута.

Апякун

Але ж можна запытаць маіх слугаў, аднак жа і яны бачылі.

Собаль

Анягож, пан мае добрых сведкаў, просты люд нічога не разумее, а верыць усяму, і не варта дзівіцца, калі яму і з'явіцца штосьці дзівачнае.

За акном чуваць арфа і спеў.

Фрона

Нейкі арфіст прыйшоў пад акно, як я люблю гучанне гэтага інструменту, і як прыгожа спявае.

Собаль

А ці не дазволіць пан, каб сказаць яму зайсці ў пакой, лепей удасца чуць словы песні.

Апякун

Калі вам падабаецца, няхай сабе зойдзе. — Мацею, прывядзі ў пакой арфіста, няхай нам тут зайграе і заспявае.

Музыка
*(Прайграў колькі грымлівых акордаў і так заспяваў.)*

Енкам труб ды званамі паветра грымела,
І акрыў сумны саван труну, воз і коні.
Я спытаў: — Чыё ў вечнасць вязуць гэта цела,
Што ж ніхто па ягоным не скрушыцца сконе?

— Не бядуе ніхто, — з грамады адказалі, —
Толькі трубы ў журбе, воз і коні ў жалобе.
Крыўдзіў слуг і сірот, ладзіў здрады без жалю,
Гроб усё пад сябе ў прагавітай хваробе.

Апякун

Заспявай што іншае, бо гэтая песня твая трасе ўсе нервы, руйнуе спакой, жахае ўсяго.

Фрона

Аднак праўду казалі, што пакутуеш на нервы. Я жанчына, ды песня гэтая не прыносіць мне ніякой трывогі.

Собаль

Дазволь, пан, каб скончыў песню, мяне цікавіць, якую ён нам праспявае баладу. — Скончы ўсё ж сваю песню.

Музыка
*(спявае далей)*

Плач, багач, бо не возьмеш нічога з сабою,
На зямлі векаваць марыш марныя мары,
Аніўцям, што стаіць блізка смерць за табою,
І енк бедных пякельна раздзьмухаў пажары.

Вакол дома чуваць выццё ўрагану.

Фрона

Што гэта значыць, адкуль гэтыя ветры ўзняліся, якое сумнае выццё дае сябе чуць за сцяною.

Собаль

Ветры павеялі з поля, можа, хмара находзіць.

Апякун

Але досыць ужо гэтай песні, — ах, зірніце, — зірніце, гэтае жудаснае з'явішча стаіць поруч пры арфісце, бачу, бачу яго зараз, якія страшныя ў яго вочы.

Фрона

Зусім нервы разгуляліся, як у шаленстве.

Музыка

Сумныя віхры выюць, гэта яны падпяваюць мне, аднак усё хутка скончыцца.

Спявае далей.

Дзень жахлівы, дзень гневу, суддзя справядлівы
Думкі скрытыя звесціць перад грамадою,
І затрубіць Анёл, і прысуд страхатлівы
Скалане ўсіх, і пойдзе бяда за бядою.

Пры апошнім вершы жудасная бура скаланае ўвесь будынак, вырывае вокны, сярод трывогі і збянтэжанасці Музыка выходзіць з дому.

*Канец першае часткі*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ
### Лета. Сірата выходзіць замуж

Пасля дзесяці гадоў
Музыка зноў наведвае гэтыя краі.

### УСТУП

Музыка і Альма

Музыка

У глухіх падарожжах хадок адмысловы
Ў кнізе лёсу, сабою і некім пачуты,
Я чытаў думкі сумныя й горкія словы,
Паўтараў я аповесцяў розных пакуты.

Па гарах, па абровах праз нетры самоты,
На сіберных вятрах стогны бедных гібелі.
Быў і я там і чуў гукі жудаснай ноты,
Граў, спяваў я, нібы на смяротным вяселлі.

Моцы ўжо не стае мне выносіць пакуты,
Неўспакой мне блукаць, як у нейкай аблудзе.
Ды аповесцяў жаль, смутак песенек люты
Мучыць думкі мае, цісне каменем грудзі.

Продкаў звычаі, мілая родная мова!
Я па роднай зямельцы ўздыхаў без надзеі.
Тут жаданне маё роспач скрушыць нанова,
Між сваімі душа, як і думка, ўдавее.

Думку б угаманіць — свет вірыць гаманою.
У самоце шукаў ціхага супачыну,
Ды ў самоце маўчаць не жадае былое,
І ўпіваецца ў сэрца змяя прыпаміну.

Так, каму трэба гінуць ад злое паводкі,
Неба грозіць таму, хваляй якар зрывае,

Павадырскую зорку затурзанай лодкі
Хтось высока й далёка ў аблоках хавае.

Альма! Буру жыццёвую ўжо не стрываю.
Ты схавалася, як павадырская зорка.
Ў стэпах след твой шукаю ды ў пушчах гукаю —
Толькі рэха ў пустэльні адказвае горка.

Заслужыў я пагарду, заўважаны ліхам,
Грэх мой дух неспакоем цяжарыць сумленне.
Супакоіцца дух мой з астатнім уздыхам,
Скаргі рэхам сканаюць, замоўкне тлумленне.

## Альма

Як бунтуе дух цярпення,
Бліск надзеі гасне ў згадцы.
Сцішся, думка, ў летуценні,
Бы ў пустэльнікавай хатцы.

Не памогуць стогны, скаргі,
Вечны смутак і пакуты.
Хай боль песні, гукі арфы
Будуць, як уздых пачуты.

Хай уздых ляціць па свеце
Як малітва, як трывога,
Там, дзе сонца шчасця свеціць,
Злітавацца просіць Бога.

## Музыка

Ён шчаслівы на свеце, хто рад свайму быту,
Думае пра выгоды ды сон свой шануе,
Цяжка прыпаў да зямлі ён накшталт граніту,
Мохам аброс, не дбае, што бура лютуе.

Хто пачуццём і думкай за неба сягае,
Лютым жыццём да свету прыкуты зацята,
Духам пакутуе, быццам той гнанец з раю,
Бачыць і разумее жыццё злое брата.

Даць бы хацеў я песням узлёт небывалы,
Я б хацеў, каб мой сум зразумець мог свет цэлы,
Я б хацеў разбудзіць абымшэлыя скалы,
Ураганы стрымаць, перуновыя стрэлы.

Альма

Рэчка часу бег мяняе,
Перашкоды рве ў нахлыне.
Сілы чалавек не мае
Плысці супраць быстрай плыні.

Рэчка мчыцца з Боскай згоды
Несутрымная ў разгоне,
З берагоў выходзяць воды,
Нішчаць месты, вёскі, гоні.

Скрозь параза, скрозь трывога —
Ные чалавек сапсуты.
Ды не чуе, што гнеў Бога
Яго кліча на пакуты.

Музыка

Бачыў, што натварыла нябачная сіла,
Змыла часу паводкаю кветкі ў далінах,
Стрэхі ў вёсках паздзерла, палі затапіла,
Гарады ў друзе бачыў, святыні ў руінах.

Альма

Не ўхапіць наступнасць зрокам,
Жыццясвету таямніца
Густа атачона змрокам,
Думцы там не прытуліцца.

Таямніцай атачоны
Чалавек жыве ў аблудзе,
Хочучы сарваць заслоны,
Каб зірнуць, што ёсць, што будзе.

Неспакойны дух бунтуе,
У запале скаргі сее,

Ды не ўцяць таемнасць тую.
Бура морак не развее.

Бачыць лес ды каляіну,
Дзе дарога праўды знікла,
Ды над галавой хмурыну.
Жыць яму ў трывозе звыкла.

Ды хто ў смутку і ў патрэбе
Страх душы малітвай леціць,
Дык яму на ясным небе
Павадырка зорка свеціць.

### Музыка

Праз жыццё ўсё іду праз глухія гушчары,
Праз жыццё ўсё ляжыць мне па цернях дарога,
Праз жыццё ўсё вісяць нада мной злыя хмары,
Прада мной і за мной скрозь туга і трывога.

### Альма

След жыцця заўсёды босы,
І шчаслівы варты жалю.
Лепш спазнай людскія лёсы,
Ўсё спазнаўшы — кінь на шалі.

Зваж на шалях ласку свету,
Годнасць, золата, зіхценне,
Розум свой давер імпэту,
Прах усё, сноў летуценне.

Трапна смерць ва ўсіх цаляе,
Стрэлаў не стрымаюць латы,
Брама кутая, глухая,
Ні вакол муроў салдаты.

І як свет пакіне, стане
Той урадзіць між абраных,
У каго бялее ўбранне,
Свеціцца святлом заранак.

Сіраты світае ўбранне
Выбеленае слязамі,
Маладосць як кветка вяне,
Што спажарыў сквар вятрамі.

Апякун нахабна шкодзіць,
Злы намер свой спешыць смела,
Дух уночы не прыходзіць
І сумленне адранцвела.

З берагоў выходзяць рэкі,
Рэкі слёз як бачыць вока.
Між людзьмі бяда ды здзекі.
Палячу адсюль далёка.

Знікае.

Музыка

Поўна ласкі душа, зрок спагадай чаруе,
Постаць мовіць, чало сее промні наўкола.
Шчасны дзень да хвіліны, дзе толькі гасцюе,
Шчасны той, хто хоць раз у сне бачыў Анёла.

Як у хмарах вясёлка пры бурным разводдзі
Сведчыць свету, што болей патоп не ўшалее,
Так яна дух мой гоіць з нябёсамі ў згодзе,
Гоніць з думак журбу, ўваскрашае надзеі.

Альма! Ты ў маёй песні і ў вершах нядолі.
Ты, як зорка ў блакіце, ў душы свеціш смела.
Я імя тваё ўсім не спяваю ніколі,
Ім жыццё найвышэйшае незразумела.

Не за грэх свой цярплю я, нябёсы святыя,
Што ў самотным блуканні прыгнечана вока,
Сустракаў стэпы дзікія і камяні я,
Думкай бачыў цябе а далёка й высока.

Пасля паўзы.

Ціша слухае дол, густа змрокам запалы.
Ды адкуль весялосць нечакана такая,

Там і тут чую песні, агонь узлятае.
Гэта ж вечар Купалы.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Сірата, Ганна.
Позны вечар.

Ганна

Ах! Паненка, сэрца маё раздзірае гэты твой смутак штодзённы, і што ж, памагаюць гэтыя слёзы? Такі ўжо мусіць быць лёс твой, трэба супакоіцца, можа, Бог міласэрны ўсё на добрае зменіць, будучыні свае ніхто ўгадаць не можа.

Сірата

Ведаю я маю будучыню; слёзы ды пакута, жудасны чалавек, а ў мяне да яго не ляжыць душа, а цяпер яшчэ болей невыносны для мяне бязлітасны апякун, палічыла б за лепшае жыць з працы рук сваіх, чымся быць жонкаю Собаля. Усе быццам змовіліся, каб згубіць мяне.

Ганна

Маеш гэткі вялікі маёнтак, сто хатаў падданцаў, а хочаш з працы рук сваіх шукаць пражытак.

Сірата

Няхай сабе ўсё забяруць, няхай мне дазволяць пайсці ў манастыр, там я найшчаслівейшая буду.

Ганна

Ты адзіная дачка, табе ўвесь маёнтак належыць. А яны якое могуць мець права валодаць чужой уласнасцю?

Сірата

(Абы толькі не мелі права валодаць воляй маёй.)

Ганна

Мама твая перад блізкай смерцю (як зараз памятаю) казала мне ўзяць цябе з ложка і пакласці пры ёй, тады сама паднялася з пасцелі, села і доўга ўзіралася ў тварык твой, кажучы гэтыя словы: — Геленка мая будзе сіроткай няшчаснай. Мы, стоячы блізка каля нашае пані, не маглі ўтрымацца ад слёзаў. — Бог міласэрны, кажам, дасць здароўе пані і шчасце для паненкі. — Не, Ганна, сказала, дні мае ўжо скончыліся, а яна будзе шмат пакутаваць у жыцці сваім, прынамсі хоць ты, Ганна, будзь для яе добрай і вернай, як была заўсягды для мяне. І я тады заліла-ся слязьмі, цалавала ёй ногі, потым яна багаславіла цябе ды зноў аддала мне на рукі, каралеўства ёй нябеснае, добрая была пані, ах! і як збыліся ўсе ейныя словы.

Сірата

Каб хоць у сне бачыць магла рысы твару ейнага! Бацьку прыпамінаю, а маму зусім не памятаю.

Ганна

І як жа памятаць можаш, тры месяцы толькі тады пражыла на гэтым свеце.

Сірата

Сумнае ў сіраты жыццё без бацькі, без мамы, ах бацькі мае, ці чуеце калі ўздыханні ды нараканні мае, ці бачыце слёзы вашае сіраты?

Калі тое сказала, адмыкаюцца дзверы, здань, убраная ўся ў бель, адкрывае з-пад белай хусткі зялёны цярновы вянок і драўляны крыж; кладзе ўсё тое на стале, потым становіцца пасярод пакоя, кладзе рукі на крыж, глядзіць на сірату, узносіць вочы ў неба і зараз жа знікае, Сірата і Ганна стаяць у задуменні.

Ганна

*(пасля кароткага маўчання з слязьмі на вачах)*

Ах! Гэта нашая пані нябожчыца, які мілы твар ейны, як бы я жывую пабачыла. Ах! Геленка, гэта твая мама, яна прыйшла з таго свету, каб благаславіць цябе, аднак якія знакі благаслаўлення, бачу крыж драўляны і цярновы вянок.

Сірата

Мама мая бачыць пакуты і слёзы сіраты сваёй, благаслаўляе мяне крыжам і цярновым вянком, ах! такая значыць воля Найвышэйшага Пана, каб несла крыж мой ды ішла па дарозе жыцця ўсланай цернем.

Бярэ крыж і кленчыць перад абразам Маткі Боскае.

Фрона, Апякун, Собаль

у доме Фроны

Фрона

Такім чынам справа спаміж намі скончана, Сіроцін і Мосар* абодва маёнткі спалучацца ў адзін, цяпер толькі застаецца тое, каб мой брат Собаль быў уладальнікам усяе маёмасці Лаўжанскай і гэта трэба давесці да канца, бо лёс майго брата суседзям дужа вочы коле і ўжо Бог ведае што пачынаюць балабоніць наконт яго; яны б хацелі ўвесь наш план рушыць; Гелене мінула шаснаццаць, ужо і гады ейныя не перашкода, а значыць трэба ўсё гэта давесці да канца.

Апякун

І нават можаш зрабіць гэта без вялікіх клопатаў, паедзем зараз жа да мяне, паклічам ксяндза, дасць шлюб і ўся справа скончана.

Собаль

Адно толькі змушае мяне задумацца і як быццам перашкодаю робіцца, што ведаю, з малечых гадоў не падабаўся я па-

ненцы Гелене, яна нават пагарджала мной, што цяпер яшчэ болей адцураецца ад мяне, як быццам ад якое заразы, нічога не ведаю, якое нашае жыццё потым будзе.

Фрона

Не трэба на гэта звяртаць увагі, у цяперашнім свеце моладзь нашая марыць пра нейкае каханне, пра нейкія палкія пачуцці, а ўсё гэта адно глупства, я першы раз выходзячы замуж ані марыла пра гэтыя пачуцці і раманы, што цяпер так марочаць галовы, болей увагі звяртала на тое, каб мой нарачоны меў нейкія значныя і добрыя сродкі на забеспячэнне патрэбаў ды выгодаў жыцця ды пра гэта кожны разумны чалавек павінен найболей думаць.

Апякун

Як выйдзе замуж Гелена, дык і прыхільнасць знойдзецца, а цяпер ёй яшчэ ветры ў галаве свішчуць.

Собаль

Я прасіў бы пана адразу па шлюбе сказаць паненцы Гелене, каб запісала ўвесь маёнтак на маё імя, прынамсі хоць з гэтага боку буду забяспечаны, што цэлы маёнтак мне будзе належыць, на будучую ейную прыхільнасць не магу разлічваць і не лісліўлю сабе, каб яна калі-небудзь змяніла свае думкі.

Апякун

Што дакляраваў, тое мусіць удацца, на тое маюцца спосабы, у гэтым і сумнявацца непатрэбна, цяпер толькі просьба ехаць да ксяндза ды прывезці яго ў мой дом, адразу і мы туды прыедзем і ўсю справу цалкам скончым.

Собаль

Значыць, зараз еду да ксяндза.

Апякун

Толькі просьба паспяшацца.

## Ноч

Д у х  б а ц ь к і  С і р а т ы  ў постаці старца і  М у з ы к а.

М у з ы к а

Дзе мы? Першы раз бачу я лес гэты дзікі,
Што ўчарнеў брамай пеклаў на сцежцы звярынай.
Там у ценях чуваць мне савіныя крыкі.
Цёмна скрозь, маладзік ахінуўся хмурынай.

Д у х

Маладзік згас і зоркі ўчарніла заслона,
Процьма духаў пякельных упала на долы.
Глянь, агонь на гары расшугаўся шалёна,
Вокал жудасна зданямі скачуць назолы.

М у з ы к а

Полымя апавіў іх ланцуг нетрывалы.
Гэта што значыць?

Д у х

Ведаеш свята Купалы?

М у з ы к а

Колісь люд заблуканы шукаў праўду Бога,
Сёння ў памяць мінуўшчыны гэтае свята.
Толькі што за знявага ўспаміну святога?
Што ж шалеюць праклятыя духі зацята?

Д у х

Засталіся ад лёсу паганскага ляды,
Гэты свет пакахаў ноч вар'яцтва глухую,
Золата набывае праз хітрасць, праз здрады,
Прагне скарбаў заклятых, злых духаў шануе.

Музыка

Прадаюць багачы веру, волю Айчыны,
Бо метал залаты не шкадуе нікога.
Край зрабіўся пустэльняй, люд стогне нявінны,
Слёзы сумных сірот, крыўды ўдоў просяць Бога.

Дух

Бач, кучкуюцца чэрці, хто сыча, хто крача,
Выюць, свішчуць, нібыта ўлюцела навала.
Валіць дым і смала палымнее гарача.
Як на троне, сядзіць на калодзе Купала.

Музыка

Постаць высветліў полыск агню страхавіта.
Нізкі лоб і з яго вытыркаюцца рогі,
Твар паўсцёю зарос, сам Цыклоп той нібыта,
З зверанят розных складзены, капытаногі.

Быццам бы кажаны з брыдкаю жамярою,
Навакол яго духі нячыстыя ўюцца,
На параду пачвары сышліся гурмою,
Нешта шэпчуць, даводзяць, гергечуць, смяюцца.

Дух

Быць бліжэй трэба, стаўшы на горку высока,
Па кустах правядзе нас з табою дарога,
Не сягне туды прагнае д'яблава вока,
Нас заслоніць шчытом ласка шчодрая Бога.
Словы тлуму пазнаеш, пабачыш праявы.
Глянь жа, волат касматы гатоў да расправы.

Ляснік

Поўнач свет ахінае, дубы пастарэлі,
У галінах густых цёмна, што ў падзямеллі.
І між гор, дзе маўчыць зеляніна густая,
Бы ў прадонні якім папараць расцвітае.

Ясны, нязгасны кветкі вабнай жар
Свеціць, аж покуль ноч затуліць твар.
Варта варты кветка тая,
Процьма духаў там лунае.

Хто сарве кветкі жар, наталіць сваё вока
Скарбам золата й срэбра ў падзем'і глыбока.
Людзі ў нетрах лясных, стоеных пудкім змрокам,
Сочаць папараць-кветку ўначы хцівым вокам.
Яснай, нязгаснай кветкі жар аддам,
Хто нас палюбіць, нізка ўкленчыць нам.
Покуль ён жыве ў тым цудзе,
Багачом шчаслівым будзе.

Скарбы хутка разносяць хваробу, сурочу,
Бо заклятыя, кожны з іх гэтаю ноччу
З пададэння выходзіць на вобраз шмат'які.
Выдаюцца нам рыцары, коні, сабакі.
Ды хто скажа слова страшнае чур,
Скарб рассыплецца, як град з-пад віхур.
Хто збярэ град гэты ў млосці,
Не збярэ па свеце косці.

### Хлеўнік

Поўнач легла — ў лесе глуха,
Ў полі песням вогнекрыла.
Чараўніца заклікуха
Валасы параспусціла.

Скочыла на плот высокі,
Пасклікаць кароў паспела,
Міг — і ў вобразе сарокі
Зноў па вёсках паляцела.

Сее шкоду, дзеіць ліха,
Вычварае злыя штукі,
І ліе ў даёнкі ціха
Кроў атрутную гадзюкі.

І каровы сохнуць люта,
І не мае моцы зелле.
У людзей пасля атрута
Разліваецца па целе.

Хохлік

Там і тут пад хісткім змрокам
Заблуканец ля дарогі
Процьму дзіваў ловіць вокам
Поўны страху і трывогі.

Грозна сунуцца пачвары,
Конна на ваўках імчацца
Карлікі чарней за хмары,
Маюць дзіды, каб змагацца.

Перапуджанец мінае
Цені хутка, як у згадцы.
Бачыць — там, дзе глуш лясная,
Бліскае агонь у хатцы.

Лес паслаў, здаецца, шанец.
І шчаслівы ад здзіўлення
Засынае заблуканец
Між карчэўя ды камення.

Раптоўна паміж сатанамі ўсчынаецца гвалт.

Першы сатана

Гляньце, гляньце над гарамі,
Там як вуж агністы ззяе,
Ляля*, Ляля прылятае,
Хутка, хутка будзе з намі.

Другі сатана

Ён, як праваднік, па следзе
За ім Яга ў ступе едзе.

Трэці сатана

А Яга хутчэй штоpазу
Мчыцца ў ступе без адказу,

* Ляля — тое самае, што ў рымлянаў Купідон.

За Ягою без спадніц
Прэцца процьма чараўніц.

Чараўнікі ды чараўніцы грудзяцца ля ўпалымнелай смалы.
Ляля ды Баба Яга набліжаюцца да Купалы.

Баба Яга

І прыйшоў канец вяселлю,
Маладзён быў як у хмелю.
Ды ўнямела маладая.
Стала, як скала глухая.

Быццам смерць яе вітае,
Спалатнела маладая,
Ляля — пан панад панамі
Пяўся марна з кайданамі.

Фрона ўмела спраўдзіць мары —
Узяла ў падмогу чары,
І апекуном вярцела,
І рабіла што хацела.

Ёй, Купала, скарбы ўзваж,
Апякун таксама наш.
Собаль скарб збіраць павінны
У маёнтках сіраціны.

Сірата — яна такая
Дзікая, нас упікае.
Не зміруся я з пакорай,
Кепска ёй, а будзе горай.

Непатрэбная нікому
Будзе выцкавана з дому,
Будуць лахманы адзежай,
І гаркота будзе ежай.

Будзе ў утрапенню жыць,
Яд з слязьмі сваімі піць,
Яд пранікне ў косці, ў жылы,
Будзе, быццам труп з магілы.

Музыка
*(убок)*

Збеглай фурыяй Баба Яга, бы ў каметы,
Раскасмыленая касішча сівая,
Твар у зморшчынах, нос барада падпірае,
На язык, як на шыла, праклёны паўздзеты.
Не магу болей бачыць, страх сэрца сціскае.

Дух

Пераксціся — і знікне праклятая зграя.

Музыка

Хай дух кожны хваліць Бога,
Згінь, навала д'ябла злога.
Ў імя Айца, Сына, Духа.

Агонь упалымнелай смалы ды ўся пякельная зборня знікае.

Музыка
*(пасля паўзы)*

Зніклі цемрыва духі, змрок лашчыць лагчыны.
Вунь чарнеюць лясы, горы ўкрыты кустамі.
Засвяцілася неба, маладзік з аблачыны
Паказаў ясны лоб свой, і зоркі над намі.

Дух

Дык направа хадзем па нязвыклай дарозе,
Месца іншае ўбачым, спатолім здзіўленне.

Музыка

Прыкра горамі йсьці, што ў шыпшыне й трывозе,
Скрозь кусты ядлаўцу, яміны ды каменне.

Дух

Неба выведзе, кіем не гніся жабрачым.
Хто вандруе, спаткацьме ў жыцці перашкоды.

Музыка

І якія ж яшчэ краявіды пабачым,
Можа, горшыя нас напаткаюць прыгоды.

Дух

Чалавек плодам злым труціцца не заўсёды.
Плод жыцця той зрывае, хто слухае Бога.

Музыка

Горкі плод на зямлі бачыць болей дагоды,
Нас вядуць па жыцці вечны смутак, трывога.

Дух

Робяць шчаснымі толькі надзея й цярпенне.

Музыка

З гэтай дзікай пустэльні ці будзе збавенне?

Дух

Пры дарозе касцёл будзе, даль без парканаў,
Гукі модлаў збудзілі маўчанне начное.

Музыка

Незвычайная рэч, чую голас арганаў,
Чую гімны, калі свет ва ўладзе спакою.

Дух

Воля Боская кожную хвілю над намі.

Музыка

Адчынілі касцёл, процьма люду пры браме.

Дух

Паспяшаем і мы да святога парога,
І з усёй грамадой аддамо шану Богу.

Дух і Музыка ўваходзяць у касцёл,
святар перад абразамі звяртаецца да грамады й чытае словы
з Евангелля ад Мацея, раздзел 5.

Дабрашчасныя ўбогія духам, бо іх ёсць
Каралеўства Нябеснае.
Дабрашчасныя тыя, што плачуць,
бо яны суцешацца.
Дабрашчасныя лагодныя, бо яны
ўспадкуюць зямлю.
Дабрашчасныя тыя, хто жадае й прагне
праўды, бо яны спатоляцца.
Дабрашчасныя міласэрныя,
бо яны памілаваны будуць.
Дабрашчасныя чыстыя сэрцам,
бо яны Бога ўбачаць.
Дабрашчасныя міратворцы, бо яны
сынамі Божымі назавуцца.
Дабрашчасныя гнаныя за праўду,
бо іх ёсць Каралеўства Нябеснае.

Пасля прачытання Евангелля знікае святло агнёў і ўся грамада;
толькі засталася на магільніку цёмная адчыненая капліца,
ахінутая ценем старых дрэваў.

Дух

Дзякуй Богу, што шле і гаркоту й смакоту.
Чалавек бачыць лепш лёс свой, часам прыкуты.
Воля Божая з кнігі жыцця пазалоту
Сіраце маёй сцёрла на сум і пакуты.

Шлюбу жах, сірата ўжо ў бяссоннай трывозе,
Ды як сонца пакоіцца па небакраю,
Перад крыжам хай моліцца тут пры дарозе
Ёй сваё блаславенне табой пасылаю.

Крыж святы — знак журбы, мае хай на прыкмеце.
Хай у неба ўзіраецца ў смутку й цярпенні,

Хоць паўдзён будзе ясны па ўсім белым свеце,
Зоркі ўгледзіць усе на нябесным скляпенні.

Дух знікае.

М у з ы к а
*(сам з сабою)*

Зараз бачыў жыццё з неўміручым імпэтам,
Духі ў вечным жыцці не баяцца нічога,
Хоць раздзелены вечным жыццём з гэтым светам,
Сувязь маюць з людзьмі праз малітвы да Бога.

Бачыў страшных пачвараў у за́тхлані й хлудзе,
І вужоў, што ўлілі ў кветкі яд свой пякельны.
На зямлі шчасце ловяць зблуканыя людзі,
І, зрываючы ўцех кветкі, яд п'юць смяртэльны.

Дзіўна вобразы зніклі, як сон неастылы,
Толькі сосны шумяць ды чарнее капліца.
Бачу перад сабою крыжы ды магілы.
А ў душы снам самотным хацелася б сніцца.

Сум як камень гняце, думка светлая вяне.
Ах, ці ж можа блуканец мець ціхую пожыць.
Я на свеце пабачыў цуды наканавання.
Засмучае былосць, будучыня трывожыць.

Забялеўся ўжо ўсход. Падарожжа чакае.
І высока заранка, і зябка світанку.
Люд бяссонны на полі на час не зважае.
Ля агню моладзь ладзіць вясёла гулянку.

## УСХОД СОНЦА

М у з ы к а й вясковы люд.

П е р ш ы с е л я н і н

Добры дзень! Што ты, Музыка, за інструмент нясеш на плячы? Калі ласка, прашу да нашае кампаніі.

Другі селянін

Просім да нас, хоць ужо і сканчаецца час забаваў. Хутка сонца ўзыдзе, аднак жа яшчэ дзяўчаты колькі песенек праспяваюць. А пад музыку лягчэй спявацца будзе.

Музыка

Вясёлыя песні даўно ўжо граць забыўся, а да таго падарожжам прыгнечаны. Дый ноч меў бяссонную.

Першы селянін

Напэўна шукаў папараць-кветку? Шчаслівым толькі даецца яе знайсці.

Музыка

Шчаслівым альбо таксама нешчаслівым.

Трэці селянін

Праўду кажаш, наша паненка сіротка як не мае свае волі, дык і багатая штодня гаруе і плача.

Першы селянін

Навошта пра гэта гукаць і разважаць, як Бог каму назначыў, так і жыць мусіць, а зараз лепей зайграй нам што-якое, яшчэ тут у нас досыць еданіны і пітва, падмацуеш сілы свае падупалыя ад падарожжа і бяссоннай начы.

Другі селянін

А можа, яшчэ і не бачыў, як сонца ўсходзіць перад святым Янам, як прыгожа абліччы прымае розныя.

Трэці селянін

І кожны год не тое самае бывае. Штогод у іншых формах і колерах з'яўляецца агонь на небе.

14 Зак. 909

Музыка

Ужо ўсход сонца недалёка, мушу напрыканцы ўчыніць радасць просьбам вашым.

Музыка туруе спевам, ранак пагодны, сонца паказалася на ўсходзе.

Першы селянін

Час якраз скончыць песні, гляньце, гляньце, ужо сонца ўсходзіць.

Трэці селянін

Няхай толькі як-трохі вышэй уздымецца там над пагоркамі, пабачым нейкі нябесны знак.

Чацверты селянін

Зірніце, які агністы прамень левабоч на небе запаліў аблачыну, чырванее, як жалеза выцягненае з агню.

Пяты селянін

Сонца павялічыла сваё кола, свеціць, як агністая куля, не слепячы вочы белым праменнем, зірніце, зірніце, наўкола кулі гэтае вясёлкавыя абручы штоуразу робяцца большымі, танюткімі, шторазу абсяжысцейшае месца займаюць на небе, зірніце, спалучыліся зноў у адно вялізнае кола і яно наўкола сонца свеціць рознымі колерамі.

Шосты селянін

Сонца рушыла ў чатыры бакі, зніклі вясёлкавыя абручы, ясны прамень, летучы на чатыры бакі, сфармаваў крыж на небе і як быццам увесь свет багаславіў, дзякуй, дзякуй Богу, дачакаемся лепшых ураджаяў і лепшых часоў.

Сёмы селянін

Але ўжо, ужо хутка прыйдзе канец усяму, аблачына бялее, гожа бляднеюць прамяні, вока вытрымаць не можа сонечнага бліску, ужо ўсяму гамон.

Восьмы селянін

Хадзем дадому, трэба хоць як-трохі адпачыць, сёння дзень святога Яна, не пагоніць на працу ні войт, ні аконам, а табе, музыку, дзякуем, што нам весялосці дадаў, пэўна зараз спяшаеш да мястэчка Сіроціна, адсюль яшчэ добрая міля будзе.

Музыка

Іду туды, дзе жыве апякун вашае маладой пані.

Восьмы селянін

Двор ягоны як-трохі бліжэй.

Музыка

Бывайце! І жадаю вам добрага адпачынку з вясёлых забаваў.

Сонца высока, пачынаецца спякота.
Музыка напаткаў Сірату, якая моліцца перад крыжам блізка ля дарогі.

Музыка

Як завяла, збляднела ў цяжкое трывозе,
Боль ёй сэрца і думкі гняце ў ліхалецці,
Перад крыжам укленчыла тут пры дарозе
І самотная ў полі й самотная ў свеце.

Вочы ў неба ўзняла, там Заступца высокі,
Там апірышча знойдзе душа для надзеі.
Так вандроўца ў пустэльні падчас дзённай спёкі
Бачыць, як гадаўё навакола шалее.

Моліць наканаванне слязамі трывожна,
Толькі ў небе гукае сваю абарону.
І, здаецца, душа, уздыхнуўшы набожна,
Як Анёл адляцела да Божага трону.

Пастаю на дарозе я, покуль здзіўленне
Гэты дол зноў убачыць, дзе чахнуць ёй трэба.

Трэба пераказаць бацькава блаславенне,
Па-бацькоўску само блаславіць яе неба.

Скончыўшы модлы,
С і р а т а ўстае, М у з ы к а блізіцца.

Перабіў я душы тваёй з небам размовы.

С і р а т а

Сквар прыспешвае скончыць таемныя словы.

М у з ы к а

Праз мяне бацька шле табе багаславенне.

С і р а т а

У магіле даўно ён, дзе краты карэння.
Я ж без бацькі, без маткі праплакала вочы.

М у з ы к а

Бачыў я й размаўляў з ім якраз сёння ўночы.
Ён казаў: — Хоць яна і ў бяссоннай трывозе,
Ды як сонца пакоціцца па небакраю,
Перад крыжам хай моліцца тут пры дарозе.
Ёй сваё блаславенне з табой пасылаю.

Крыж святы — знак журбы, мае хай на прыкмеце,
Хай у неба ўзіраецца ў смутку й цярпенні.
Хай паўдзён будзе ясны па ўсім белым свеце,
Зоркі ўгледзіць усе на нябесным скляпенні.

С і р а т а

Бачу зорак мільёны... Нібы ў лузе росы...

М у з ы к а

Бласлаўляюць душа бацькава і нябёсы.
Там і прышласць твая, і твая там надзея.

*Канец другой часткі*

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ
## Восень. Вар'яцтва і смерць Сіраты

Пасля пяці гадоў М у з ы к а зноўку наведваецца ў тыя ж самыя краі.

### УСТУП

М у з ы к а і А л ь м а

М у з ы к а

Быццам чорным сукном неба хмары акрылі,
Краскі счахлі — й лугі і палі без аздобы.
Сіверы над труною прыроды завылі,
Зацягнулі вятры ў голлі песню жалобы.

У вандроўцы жыцця, ў днях маіх вератлівых
Не цвіла кветка хвіль залатых для аздобы.
Над труною маіх летуценняў шчаслівых
Я ўжо граю й пяю песню горкай жалобы.

Граў бы йнакш і пяяў, ды пагаслі надзеі,
Толькі спевы ад крыўдаў і енкаў азяблі,
Грудзі ўжо аслабелі, і голас слабее,
Гукі ў арфы не тыя, бо й рукі саслаблі.

Цяжка вытрымаць мне неспакою прынукі,
У змаганні з навалай не бачачы краю,
Змоўкнуць песні і арфы знясіленай гукі,
Сам, як рэха, ў пустэльнай прасторы сканаю.

На чужыне сканаюць і сум і надзеі,
Сівер толькі ўздыхне на маім пахаванні,
Прах блуканца нішчымнай слязой разгавее
Падарожніца хмарка ў сваім вандраванні.

Альма! Згінуў той час, як у першым здзіўленні
Я спаткаўся з паглядам тваім, як з зарокам.

Твар твой, стан твой палоніў маё задуменне
І былосць, і адлегласць акрыў цёплым змрокам.

І былосць, і адлегласць, як восені подых,
Астудзіла, прыцьміла і думкі й жаданні.
І забылася ймя маё ў розных прыгодах —
Ані ўзгадкай, ні словам табе не паўстане.

Альма

Дзень зямны мінае хутка,
Цень кароткі ў развітання.
Сум не гоіць незабудка,
А сама ў расстанні вяне.

Дый былосць — адно ўздыханне,
Сон, які згубіў найменне.
Забыванне, забыванне
Лепш за ўсё ў журботнай змене.

Музыка

Забыццём заглушыць крык душы, думкі духа,
Быць скалою нямою, халоднай, глухою.
Хай усё спаліць сквар, замяце завіруха,
Хай устануць валы ў бурным моры сцяною.

Не магу, як той камень, заснуць у здранцвенні,
Калі сум цісне грудзі і думка ў знясіллі
Над магілай былосці шукае праменні
Хвіль шчаслівых, як скарбаў, што мроі адкрылі.

У глыбінях душы распалю, як надзеі,
Думкі ў смутку паснулыя, хмурыя мроі,
І святлом прамянёў асвячу, абагрэю,
Покуль не заліе іх пакута слязою.

Альма

Думка летуценні ніжа,
Што няшчасце пераможа.
Клятва, сіла чарнакніжжа
Сон былы ўваскросіць можа.

Творыць з кветак веснія светы
У вясёлкавым зіхценні.
Твор недаўгавечны гэты,
Чарадзейных мрояў сненні.

Будзе смутак, нараканне,
Толькі знікне ачмурэнне.
Забыванне, забыванне
Лепш за ўсё ў журботнай змене.

М у з ы к а

Як мне арфу настроіць на іншыя тоны,
Смутак думак заглушыць мне песня якая,
Калі спеў па мінулым, мой спеў улюбёны,
Я жыццё ў гэтай змене забыцца жадаю.

Калі цемра і неба і долы заслала,
Новы спеў распачаць цяжка на суравеі.
З бурай, сцюжай змагацца ўжо сілы замала,
Мне няма дзе спачыць, я не бачу надзеі.

А л ь м а

Не такі й багач шчаслівы.
Зрок здранцвеў, адчуўшы стому.
Ты пабачыў цуды, дзівы,
Што й не сніліся нікому.

Вока слепне, глухне вуха,
Мудры позірк, ён нядрэмны.
Распазнаў ты жыццё духа,
Без'аблічны свет таемны.

Хто ў пакутах чуе крыкі,
Бачыць братніх слёз крыніцы,
Толькі ён душой вялікі
Бачыць веліч таямніцы.

Ён у роспач не ўпадае,
Не пажаліцца ніколі.
Небу ўдзячны гімн складае,
Бачыць ясна веліч долі.

## Музыка

Як уздымецца бура ўдагонку паводцы
І распаліць агонь перуновы аблокі,
Хто да порту прыб'ецца ў растурзаннай лодцы,
Як супроць дзьмуць вятры, зоркі згроб змрок бязвокі.

## Альма

Памятаеш, крыж прарочы,
З дрэва крыж і сквар паўдзённы.
Зірк заплаканы сірочы
У небе ўбачыў зор мільёны.

І калі халодным змрокам
Дол хмурыны засцілаюць,
Там, у небе, перад зрокам
Як бы лямпы зор палаюць.

Лямпы значаць шлях, і з ценяў
Порт прываблівы ўзнікае,
Дзе пасля пакут і церняў
Радасць і спачын чакае.

Сірата душой надзеі
Ў тлуме зор адпачывае.
Цудаў люд не разумее,
Іх вар'яцтвам называе.

Хутка Бог узнагародзіць
І вар'яцтва, і цярпенне,
Вечнае ёй сонца ўсходзіць,
Ясны, вечны дзень збавення.

Шчасце на зямлі развее
Вецер па глухой пустэльні.
А ў пустэльні марнасць тлее,
Чахне прах, як на патэльні.

Скарб апекуна не грэе,
Гроб усё, як быў пры сіле.
Згаслі ў прагнасці надзеі,
Палынець цяпер магіле.

Край пачуцця найсвятога,
Дыяменты слёз спагады,
Бачу тут я рай і Бога,
Пакідаю доле звады.

Альма знікае

М у з ы к а

Знікла дзіўная постаць, замоўклі размовы,
Як Анёл, адляцела далёка, высока.
Уцямнелыя гоні, лес чорны сасновы,
Стуманеныя горы маё пасвіць вока.

Там, далёка, высока мілей час мінае,
Там ясней лепшы свет спавівае вясёлка.
Тут гадуе цярноўе пустэльня глухая,
Бура глушыць мой спеў, тут душы маёй золка.

Альма! Думкі твае поўныя хваласпеву
Херувімы на крылах узносяць да Бога,
А мае пад прыгнётам пакуты і гневу
Ўсхваляваў неспакой, напужала трывога.

У душы не патушыш былосці ўспаміны,
Як атручана сэрца тугою знікнення,
Трэба цуды, каб зірк мой, як зірк сіраціны,
Бачыў зоркі ў захмар'і над портам збавення.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

У вясковай хатцы С і р а т а, Г а н н а, колькі сялянаў і сялянак.

С і р а т а

*(у беднай вясковай апратцы, пазіраючы праз вакно, спявае)*

Лёгка ў небе ўсім клапотам,
Хмаркі лётаюць на волі.
Зоркі, як ягняткі ў полі.
Весялей плыве жыццё там.

Зоркі мне пяшчоцяць вока,
Бедны люд, душа жывая
Ад бяды адпачывае
Там далёка, там высока.

О, калі б я крылы мела,
Ад глухой тугі, ад гора
Не ўцякала б я за мора,
А да зорак паляцела.

Першы селянін

Перад ейнымі вачыма заўсягды якіясьці зоркі свецяць, і зараз бачыць іх, калі яшчэ сонца не зайшло, бедная нашая пані, пяты год пражыла ўжо ў гэтым вар'яцтве й няма ніякой рады ўратаваць яе з гэтага няшчасця.

Другі селянін

Злых людзей на свеце хапае, растуць і злыя ядавітыя травы, злыя людзі ўжываюць зёлкі гэтыя для здзяйснення сваіх намераў, можа й тут штосьці падобнае было, усялякае бывае спаміж панамі з-за карысці горай яшчэ як спаміж простым людам, Фрона й Собаль пануюць, а яна бяднейшая за нас.

Ганна

У дзень замужжа душа маткі багаслвіла яе драўляным крыжам ды цярновым вянком, нясе крыж і йдзе цярністай дарогай, дый маё сэрца смутак раздзірае; гэтулькі гадоў штодня бачу яе сплаканую; і калі ж міласэрнасць Боская суцешыць у гэтым мучэнні (да Сіраты). Цяпер жа яшчэ сонца не зайшло, зоркі ўначы свяціць будуць.

Сірата
*(спявае)*

І вятры не далятаюць
Да святла высокіх зорак,
Патушыць не можа морак —
Вечна, вечна зоркі ззяюць.

На зямлі гаспода ночы.
І ад слёз, што ручаямі
Тут штодня ліюцца самі,
Гаснуць, гаснуць мае вочы.

Ганна

Яшчэ зоркі не свецяць на небе, спыні гэтыя сумныя свае песні, яшчэ будзеш мець досыць часу, шмат іх прапяеш, а зараз пагавары пра сёе-тое з намі.

Сірата
*(устаючы з месца)*

Не маю часу размаўляць з вамі, пайду дадому.

Ганна

Хто ж цябе там спаткае, дома? (Не знойдзеш там кутка, каб адпачыць, твой дом там толькі, дзе ёсць літасцівыя сэрцы.)

Сірата

Пайду дадому, бацька й матка мяне ўжо даўно чакаюць.

Ганна
*(са слязьмі на вачах)*

Бедненькая, што ёй трылузіцца, ніхто там яе не чакае.

Селянін
*(гаспадар дому)*

Ужо дом ёй мроіцца ў галаве, дзе жывуць бацька й матка, дом, у якім кожны чалавек раней ці пазней мусіць пасяліцца, сумная прапаведня, калі хворы ўзгадвае дом, нядоўга яму гасціць на зямлі, бо гэты дом ёсць вечнасць, і яна хутка назаўсягды з намі развітаецца.)

Сірата

Трэба, трэба спяшацца дадому, хутка сонца згасне, хутка будзе вечар.

Першая сялянка

Не шмат жыла на свеце, а шмат пакутавала, ужо хоча адпачыць у гэтым доме, дзе ейная матка і бацька спачываюць.

Ганна

Зараз вецер сіберны павее, неба спахмурнее, а здароўе тваё слабое.

Сірата
*(выходзячы)*

Я здаровая, з вамі расстаюся не надоўга, хутка ўбачымся.

Ганна

Старасць гняце мяне, не магу ісці за ёй, пайшла сама адна, баюся каб не здарылася з ёй чаго страшнага.

Другая сялянка

Ці ж гэта першы раз яна ідзе дзе хоча сама адна? Шмат разоў бачыла, як яна самотная малілася ў полі альбо кленчыла пад крыжам, што стаіць пры дарозе, а хоць месца гэтае досыць далёкае, Бог сцеражэ і ніколі яе не напаткае нейкі сумны выпадак.

Селянін
*(гаспадар дому)*

Не паздаравее яна, гэты стан, у якім яна зараз застаецца, штоbecause глыбіць яе ў большы смутак і ў большае вар'яцтва, апякун ужо на тым свеце цяжка адказаў перад Божым судом дый іншым не будзе лягчэй, выдалі замуж за чалавека, да якога яна не можа мець аніякай прыхільнасці, а ён жаніўся абы выдраць маёнтак, атрымаў тое, чаго прагнуў, пакрыўдзіў бедную сірату, усе пра яе забыліся; нам толькі сэрца баліць, бачачы яе ў гэтых пакутах, бо яшчэ памятаем дабрыню ейных бацькоў, і як былі мы шчаслівымі, калі яны яшчэ жылі на гэтым свеце, кожны з нас адчуваў бацькоўскую апеку, нічога нам у той час не бракавала.

Ганна

Сонца нізка, калі там забавіцца доўга, трэба будзе кагосьці паслаць у двор альбо на гэтае месца, дзе яна мае звычай маліцца перад крыжам.

У двары госці; палаюць дровы на камінку, пакоі асветленыя, Собаль гуляе ў карты, Сірата ўваходзіць.

Фрона

І вось нечаканая постаць увайшла, як бы з'ява якая, ніхто не папярэдзіў пра гэты візіт, пэўна няма жывой душы ў пярэдняй.

Адна з госцяў

Ах! Няшчасная, як жудасна змянілася, збляднела, учарнела.

Фрона

Нідзе ўтрымаць яе няма ніякай рады, Бог ведае дзе швэндаецца ад рання да змяркання.

Другая з госцяў

Ах! Бедная так слаба апранута такой сцюдзёнай парой.

Сірата
*(блізячыся да камінка)*

Як тут добра, як тут цёпла ля камінка, цяпер лясы шумяць, сіберныя вятры разносяць лісце па полі, угары ад усходу да заходу цёмныя хмары, па ўсім жа небе ясна й гожа свецяць зоркі.

Фрона

Не толькі ўначы яна й сярод дня бачыць зоры на небе, з гэтага й пачалося ейнае вар'яцтва, вярзе здубавецця, нідзе спакойнаю быць не можа, ужо жыццё ейнае гняце ўсіх.

Собаль

Ходзіць скрозь дзе ёй загілее, вось і відаць, які там на вёсцы нагляд за ёй, рабі што хочаш, а ўсё марна, дзе няма паслушэн-

ства, вызначыў ёй жытло, наказаў наглядаць за ёй, каб не здарыўся выпадак які з вар'яткай, і вось як яны пра гэта дбаюць.

Сірата

Прыйшла ў дом бацькоў сваіх, не знайшла іх дома, трэба было паспяшацца.

Адна з госцяў

Мрояцца ў галаве бацькі, якіх не ведала, бо ўжо іх даўно няма на свеце.

Сірата

Няма на свеце, вочы не бачаць, вушы не чуюць, сумнае гэта слова няма, паўсюль і заўсягды гучыць няма, што гэта значыць і навошта на свеце гэтае слова няма? Ах! Сумна, сумна, сумна.

Фрона

Сама не разумее, што кажа, здаецца, што ёй нядоўга зоры лічыць на небе.

Сірата

Прыемна грэцца ля камінка, шкада толькі, што гэты агонь не асвятляе, як тут цёмна, маркотна, іх няма.

Другая госця

Цяпер ужо не пра зоры мроіць яна, ёй сумнае трызніцца.

Фрона

Прымясцерылася сабе ля агню й думае тут загасціцца.

Собаль

Даводзяць да шаленства заўсёдныя гэтыя размовы з вар'яткай, прыкра бачыць і слухаць, трэба каб яна вярнулася туды, адкуль прыйшла.

С і р а т а
*(выходзячы)*

Пайду, пайду, ведаю, куды пайду.

А д н а з г о с ц я ў

Няшчасная, пайшла сама адна такой пазной парой.

Г о с ц ь

Яна ведае, дзе йдзе, гледзячы на зоры, трапіць аж да свайго жытла.

Ф р о н а

Нічога з ёй не здарыцца, паўсюль швэндаецца сама адна.

Собаль

Зараз пашлю ў вёску з наказам, каб мелі за ёй пільнае вока, бо для кожнага такі візіт вар'яткі пакідае непрыемнае ўражанне.

## ПРАЯВА

М у з ы к а

Дзе я? Што гэта? Што за дзівосныя змены?
На душы самавіта ад весняй лагоды.
Як прыгожа ўкалёрыўся лес задуменны,
Праз смагарды ў крыніцах памугкваюць воды.

У пагоркаў з вясёлкавых кветак адзенне,
Разлівае ў кустах водар ружа жывая.
З незямною мелодыяй гукаў трымценне.
Лес, здаецца, ўвесь гімны святыя спявае.

Свет яснее тут іншым дзівосным убраннем,
Сіла тут незямная ў жыцця і ў хацення.

Краявідаў мільёны ў праменневым ззянні
Зірк не можа ўхапіць немы ад захаплення.

Тут бясхмарныя кветкі спавіты світаннем,
Зёлкі тут не завянуць ад позірку сонца.
Тут вясёла жыве ўсё Тварцовым дыханнем,
Тут жыццё без канца, тут вясёла бясконца.

Вось і свету шчаслівага йдуць пасяляне,
Нейкі муж пажылы і ў шаноце матрона,
Ля яе маладзічка, ўся ў белым убранні,
І над гожым чалом яе з зорак карона.

Дзе я? Што за праява? Чыя таямніца?
Аглядаю сад райскі, яго пераемнасць,
Ці ўсё бачу на яве? Калі гэта сніцца,
Не хацеў бы вяртацца я зноў у наземнасць.

Ж ы х а р р а ю

Не, не сон гэта ўсё, вынік чутак пачутых.
Час не мае тут сілы зямнога змянення.
Тут збалелай душы, што плыла па пакутах,
Зорка свеціць шчаслівa над портам збавення.

М у з ы к а

Бачыў Сцылы й Харыбды жахлівыя скалы,
Ля пячоры Цыклопаў чуў роспач знікнення,
Шквал бяды маю лодку шпурляў у правалы.
Дык няўжо ж не даплыў я да порту збавення.

Ж ы х а р р а ю

На дзяцей чалавек першы гора ўшалела
Выліў, і заліло вёскі, месты, пустыні.
І на крыллях уявы душа прыляцела,
Каб спачыць трошкі ў лепшай над'земнай краіне.

Там, дзе белым агнём лямпа важка зляцела,
Там, дзе хмары паслаліся туманамі,

Там з над'земных дарог дух вяртаецца ў цела
І па цемры блукае й грыміць кайданамі.

Праява знікае.

**Музыка**
*(самотны)*

Цуды Госпада! Быццам чароўным дыханнем
Захлынула душу сярод райскай краіны.
Ясны дзень там бясконцы й жалобным дыханнем
Не звяшчае гадзіннік аб смерці гадзіны.

Жыхароў незвычайных пабачыў на ўлонні
Райскіх радасцяў, дзе нават смутку вясёла.
Хто яна маладзічка, што ў зорнай кароне,
Твар красы незямной, постаць як у Анёла.

Зорка даўняй надзеі, святло трапяткое
Дасягае юдолі зямлі ў вечным ценю,
Там жыцця свайго скончыўшы ўсе неспакоі,
Знойдзе бедны блуканец спачынак цярпенню.

Пасля паўзы

Ноч чаму і адкуль столькі люду сабрала,
Нехта блізіць агонь, некага нечакана
Смерць спаткала, і нейчае мёртвае цела
Ўжо нясуць на руках а без модлаў каплана
Даведаюся, што гэта значыць.

Колькі **сялянаў** ідуць у маўклівасці з ліхтарамі,
іншыя на руках нясуць мёртвае цела.

**Музыка**
*(да аднаго з гэтае грамады)*

Чыё гэта цела? Мусіла быць нейкая няшчасная, без дапамогі памерла на дарозе.

**Селянін**

Цела сіраты нашае пані, ужо скончыла сумнае сваё жыццё.

М у з ы к а

Гэта маладая пані, што гадоў пяць таму праз інтрыгі злых людзей была аддадзена замуж.

С е л я н і н

Так, інтрыгі злых людзей звялі яе ў магілу, адразу пасля замужжа звар'яцела, заўсягды ёй перад вачыма трылузіліся нейкія зоркі, бесперапынна пра іх казала й спявала, мела таксама звычку адыйсціся ад гэтае вёскі, дзе ёй было прызначана жытлю, каб на полі альбо ў лесе маліцца ў самоце. Гэтага вечара пайшла сама адна ў двор, дзе жылі некалі ейныя бацькі, а цяпер ейны муж, што ў сэрцы Бога не мае, там яна не знайшла сяброў, вяртаючыся пазной парой, прыйшла да крыжа, які стаіць пры дарозе, кленчучы й молячыся скончыла жыццё сваё. Такі лёс нашае няшчаснай пані.

Адыйшоўся.

М у з ы к а

Вось і лёсу зямному прыйшло заканчэнне,
Досыць выліта слёзаў, уволю цярпела,
Скончылася жыццё, скончылася цярпенне,
Як Анёлак, з малітваю ў неба ўзляцела.

Там ёй вечны трыумф, райскае бытаванне,
Там гарыць над чалом з зор карона жывая.
Божа, хто мудры суд Твой уславіць у стане?
Чую, голас дранцвее, гук арфы канае.

*[1845 — 1849]*

## 1. ЮЛІ КОРСАК[1]

*4 жніўня 1837 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Па загаду Пані называю яе сястрою. Згаджаюся ва ўсім з ейнаю воляю, і мая прыхільнасць да яе асобы, няхай Пані сама мяркуе, не будзе пашырацца, але ў невялікім вершы я апішу, што, ад'ехаўшы, адчуваю, памятаючы пра Паню і пра мясціны, дзе быў найшчаслівейшы,

Дзе думкі ляцяць, і калі б я меў сілы
Наведацца з Поўначы ў домік твой мілы,
Між ліп апынуцца мне нейкім бы цудам, —
Анёла пабачыў бы я там між людам.
І, цешачы мары ўспамін карагодам,
Хачу, каб хвіліна цягнулася годам[2].

Я пакінуў Паню і ўсіх прыемных мне асобаў 28 ліпеня і ў той жа дзень заехаў да паноў Стычынскіх. Там, праз колькі хвілін гаворкі, пан запытаўся ў мяне, ці не хачу дзеля ахалоды ў спёку напіцца малака, адгадаўшы маё жаданне. Я быў вельмі ўдзячны яму, думаючы: «якія добрыя людзі жывуць тут, яны ўмеюць адгадваць жаданні ды патрэбы іншых». Увечары прыехаў да Недамёран, а пасля захаду сонца, запаліўшы цыгару, я сеў у паштовую каляску[3] і выехаў на ўсю ноч. Званок нагадваў мне, што ад'язджаю ўсё далей ды далей.

І другую, таксама бяссонную ноч майго падарожжа мае думкі нязменна былі пра Паню. Я з маіх мрояў выбраў два наступныя санеты, якія, прыехаўшы на паштовую станцыю, запісаў алоўкам[4].

(...) Другі санет пра наканаванасць. Колькі разоў казала мне гэтае слова Пані, столькі разоў я адчуваў у сабе нейкую трывогу, і мне здаецца, што яе ў гневе пасылае на нас неба. А гэтаму ні перашкодзіць, ні пазбегнуць мы не ў моцы. Дык горкі досвед навучыў нас паўтараць:[5]

(...) Правініўся, не выканаў волю Пані, не напісаў у сваім лісце нічога цікавага, нічога вясёлага, а толькі тое, што няраз было паўторана вусна, што няраз выклікала слёзы ў мяне на вачах і пра што мне забаронена гаварыць. Мая Пані, нічога мне цяпер жартоўнага, нічога вясёлага не прыходзіць у галаву. Усе пецярбурскія навіны не цікавяць мяне. Памяць ды наканаванасць — толькі гэта займае мае думкі.

Прыехаўшы ў сталіцу, я натрапіў сярод папер на партрэт Пані. Ненаўмысна зрабіў гэта, а забыўшыся, дык няхай Паню не гневаюць мае гэтыя ўчынкі, бо яны для мяне найпрыемнейшыя.

Проша ад мяне пацалаваць ручкі матулі-дабрадзейкі, а сястры паненцы Францішцы[6] засведчыць маё шанаванне.

Застаюся з глыбокай пашанай і з самай шчырай зычлівасцю. Найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 2. ЮЛІ КОРСАК

*3 снежня 1837 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Якая розніца паміж жыццём вясковым і гарадскім! Сястра нудзіцца, што мала суседзяў і рэдка бывае ў вясёлым таварыстве, а я? О, як я задаволены, калі знайду час, каб пабыць аднаму ды, будучы вольным ад маіх абавязкаў, заняцца кніжкаю альбо пяром. Цяпер я пераехаў на новую кватэру, наблізіўся да цэнтра горада, да тых мясцін, дзе маю сваіх вучняў[1]. Мой гаспадар — немец руплівы, добры лекар, маючы вялікія прэтэнзіі да філасофіі, узброіўшыся аргументамі, вечарамі нападае на мяне і часта вольны час, што такі рэдкі ў мяне, гвалтам выдзірае. Дык толькі раніцу маю дзеля сваіх забаў ды дзеля напісання ліста сястры.

Пра навіны нічога не пішу, бо няма нічога такога, што было б годным увагі. Зіма тут марозная, і дзень вельмі кароткі[2].

(...) У сваё апісанне ўвёў меланхалічныя выразы. Не мог без іх. Імі думкі занятыя, а думкі — жыццё душы.

Проша ад мяне пацалаваць ручкі матулі, засведчыць маю пашану сястры ды сказаць старэйшаму брату[3], што шчыра яму зычлівыя чакаюць яго ў сталіцы. Нядаўна пан Серабіновіч[4] і пан Эйнерлінг пыталіся ў мяне пра пана Гаўдэнтыя, ці не маю якое весткі. Я адказаў, што ён вельмі заняты інтарэсам пра падданых і што калі справа дойдзе да сенату, дык пэўна ж прыедзе ў Пецярбург.

Застаюся назаўсёды шчыразычлівым. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 3. ЮЛІ КОРСАК

*4 лютага 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Дасылаю сястры кніжку з малюнкамі ды апісаннем кветак, якія растуць у ваколіцах Пецярбурга. Гэты часопіс мне падабаецца больш, чым якія іншыя, што выходзяць у сталіцы. Змешчаныя тут расліны самыя звычайныя; яны, пэўна, растуць і на руднянскіх палях. Іхнія малюнкі вельмі натуральныя, з апісаннем дзеля чаго кожная кветка можа быць ужыта ды якая карысць ад яе. Буду шчаслівым, калі пацешыць сястру гэты просты ўбор пекнае вясковае Флоры, якая не ведае моды, што пануе ў сталіцах, але кожную вясну прыбрана ў такі цудоўны строй.

Дасылаю таксама абраз анёла. Няхай сястра пабачыць, да якога ўзроўню дасканаласці дайшлі ў Францыі гравюры, а таксама і каларыт іх самы дасканалы. Да ўсяго гэтага ў дзень патронкі 16 лютага прымі, сястра, наступнае маё пажаданне[1]:

(...) О, як бы я хацеў наступным летам быць у Рудні[2]! Але шмат яшчэ часу, і Бог толькі ведае прышласць. Атрымаў колькі лістоў з Масквы ад знаёмых[3], запрашаюць мяне да сябе і абяцаюць шмат, але, шчыра кажучы, не вельмі падабаецца мне тая сталіца.

Матулі-дабрадзейцы проша засведчыць маю самую шчырую пашану.

Застаюся заўсёды неадменным і найзычлівейшым, найніжэйшым слугою

*Я. Баршчэўскі.*

## 4. ЮЛІ КОРСАК

*24 красавіка 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Цяпер сапраўдная ўцеха на вёсцы, цяпер той, хто ўмее цаніць прыгажосць прыроды, можа там захапляцца ўсё новымі і новымі малюнкамі, усё новым і новым пачуццём. Лясы, лугі і воды ў гэты час, здаецца, нагадваюць прыгажосць новага жыцця на зямным шары. Птушкі з выраю вярнуліся ў свае знаёмыя гаі, а людзі, каб цешыцца пекнасцю вясны, супакоіць душу і паправіць здароўе, цяпер уцякаюць са сталічных гарадоў у свае вясковыя ваколіцы. У наступным вершы сястра ўбачыць самае праўдзівае апісанне вясны, якою яна бывае ў сталічным месце[1].

(...) Я яшчэ не цешыўся ні прыгожымі краявідамі палеткаў і лясоў, не дыхаў чыстым вясновым паветрам, аніводнага разу не быў за горадам. На Вялікдзень не мог скарыстаць вольны ад маіх абавязкаў час. Самы пачатак вясны быў незвычайны: падземныя каналы запрудзіліся ад моцных зімовых марозаў лёдам, і вада разлілася па вуліцах так, што ў асобных месцах, а менавіта ў Каломне, — адной і другой, — на тратуарах парабілі кладкі, а вуліцы былі затоплены амаль увесь тыдзень святаў.

Яшчэ не чуў я спеву жаўрука, адно толькі матыль з'явіўся — не ведаю адкуль — за маім акном ды хутка паляцеў, але стаў прычынаю напісання наступнага верша[2].

(...) Не дзіва, што сталічныя жыхары, не зважаючы на тое, што дорага каштуе наняць лецішча ў ваколіцах Пецярбурга, апошняе часам аддаюць. І я з нецярплівасцю чакаю часу, калі прыйдуць вакацыі, ды хоць не вясною (бо ўжо будзе самая сярэдзіна лета), але выеду на адзін месяц на Беларусь. Здароўе маё абавязкова патрабуе гэтага, а да таго ж прыспешвае справа, з-за якое мушу быць у Віленскай губерні[3]. Да сустрэчы, сястра; але да яе яшчэ два месяцы. Цалую ручкі матулі, проша засведчыць маю пашану сястры і братам. Застаюся назаўсёды шчыразычлівым. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі*

P.S. Не так даўно на паравозе, у вагонах, прычэпленых да гэтае машыны, на шляху ад Пецярбурга да Царскага Сяла ўчыніўся пажар. Кандуктар, што кіраваў паравозам, не мог бачыць за сабою агню і няхутка пачуў крык людзей, з-за чаго шмат загінула. Ад хуткасці руху агонь быў такі моцны, што ў кожным вагоне срэбра ў паўпудовыя кавалкі злілося. Прычынаю ж пажару сталася іскра ад цыгары[4].

## 5. ЮЛІ КОРСАК

***6 жніўня 1838 г., Пецярбург***

Другога жніўня прыехаў у сталіцу. Дарога была невыносная: па колькі разоў штодня на працягу майго падарожжа ішоў моцны дождж, дык часта на паштовай станцыі мусіў чакаць больш за пару гадзін, а вымакшы да ніткі, не адважваўся выбірацца ў дарогу падчас непагоднае ночы. А да таго ж я добра ведаю Пецярбург, і няма там нічога, што б прымусіла мяне прыспешваць час падарожжа.

У дзень прыезду ў сталіцу заняўся я сваімі абавязкамі. Няцяжкая праца, хто да яе прызвычаіўся ды калі яшчэ ў чалавека спакойна на душы; а ўвечары, калі я вярнуся дадому на адпачынак, мае думкі ляцяць далёка і толькі там хочуць быць, дзе могуць сустрэць погляд сястры ды пачуць ейную гаворку[1].

(...) Дасылаю сястры адзін асобнік «Пецярбурскага альманаха», выдадзенага ксяндзамі-піярамі[2]. Шмат у ім добрых вершаў, але мне найбольш падабаецца Міцкевіча «Роздум у восеньскую ноч»[3]. Тут відаць, наколькі паэтычнымі здольнасцямі ён перасягнуў іншых.

Матулі-дабрадзейцы і сястры проша засведчыць маё шанаванне. Проша таксама засведчыць мой паклон панам палкоўнікам Буйніцкім[4]. Шкада, што пазнаёміўшыся з імі, так мала іх бачыў. Гэта мілыя людзі, дай Божа, каб усе былі, як яны, з такімі добрымі пачуццямі ды шляхетнымі думкамі. Застаюся назаўсёды шчыразычлівым да шаноўнае сястры.

Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі*

## 6. ЮЛІ КОРСАК

*14 верасня 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Ты пісала мне не так даўно, каб я падрабязна апавядаў пра сябе. Спадзяюся, што лад майго жыцця, мае заняткі, пакуль яшчэ жыву ў сталіцы, не зменяцца. У буднія дні з раніцы да вечара займаюся сваім абавязкам, а ў свята — чытаннем альбо пяром. Цяпер, калі тут у верасні найпрыемнейшае надвор'е, у вольныя ад працы дні, ці то дзеля адпачынку, ці то дзеля баўлення часу, калі сонца схіліцца да вечара, я бяру з сабою якоганебудзь грэцкага паэта і накіроўваюся за горад. Прыемная самота з кніжкаю! Прыемна таксама, перапыніўшы чытанне, акунуцца ў роздум. Не даследую я сваёю думкаю таямніцы натуры ці адлегласць да планет. Прырода не дала мне моцнага духу філасофіі, мае думкі нараджаюцца з пачуцця і гэта заўважыць сястра у наступным вершы[1].

(...) З панам палкоўнікам Буйніцкім бачыўся колькі разоў, шкада толькі, што ён далёка кватэруе, бо хацеў бы бачыць яго часцей.

Прошу засведчыць маё шанаванне ўсім дамашнім і ласкавым знаёмым. Застаюся назаўсёды шчыразычлівым братам.

*Я. Баршчэўскі.*

## 7. ЮЛІ КОРСАК

*24 кастрычніка 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Пан палкоўнік Буйніцкі не так даўно перадаў мне дарагое прывітанне ад сястры, а таксама ад іншых знаёмых. Дабрыня твая заўсёды ў маіх думках. Удзячны я за тваю памяць, а вестка пра тваё здароўе — для мяне самая вялікая прыемнасць. Што датычыць мяне, дык, як заўсёды, жыву ў Пецярбурзе, але тут толькі цела маё прыкута, а не думкі і жаданні. Тэатр жыцця ў сталіцы, праўда, часта выступае з новымі сцэнамі, ды ўсе гэтыя сцэны даўно сталіся для мяне нецікавымі і нуднымі. Цяперашнія доўгія восеньскія вечары праводзяцца за вістам альбо пры жар-

тах з тэатральных вадэвіляў ці пры апавяданні смешных паказак, якімі поўняцца літаратурныя газеты. Тут нікому не прыйдзе ў галаву, што час дарагі. Кожны прыдумвае спосабы, як хутчэй пражыць дзень, не разумеючы таго, што дзень мінулы не вернецца і што ёсць забавы, якія сапраўды годныя прызначэння чалавека, у якіх сэрца знаходзіць уцеху, а душа вышэй узносіцца. Вось густ публікі! Вось агульная асвечанасць сталіцы!

Рэч пэўная, што ўсюды свет з'яўляецца тэатрам, але шмат ёсць такіх сцэнаў, на якія не хацеў бы глядзець. Выдумкам, чалавечай раскошы толькі таму здзіўляешся, што яны каштуюць вялікіх грошай. Кніга таямніц духа і прыроды хоць і не даследавана, хоць нельга яе прачытаць да канца, аднак напісана яна для чалавека. Прыемна, чытаючы яе, здзіўляцца мудрасці Творцы.

Апішу сястры з'яўленне паўночнага ззяння на пецярбурскім даляглядзе, якое бачыў на днях, вяртаючыся пазней, чым звычайна да сябе на кватэру. Гэты дзівосны малюнак, што з'явіўся ледзь не ў самую поўнач, моцна крануў мае пачуцці[1].

(...) Пішу сястры пра тое, што найбольш мяне займае. Ліст — гэта размова без прысутнасці, а таму заўсёды кароткая; у прысутнасці болей пра што знайшлося б сказаць, але не ведаю, ці будзе гэта калі. Хоць памятаю словы: «можа, хутка ўбачымся»[2].

Проша засведчыць маю пашану матулі, сястры, а таксама пані палкоўнікавай[3] і ўсім знаёмым. Застаюся назаўсёды найзычлівейшым братам. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 8. ЮЛІ КОРСАК

*15 лістапада 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Паўтараеш, сястра, у сваіх лістах, што хацела б часцей мець весткі, што я здаровы ды вясёлы. Але гэтыя дзве рэчы не ад нас залежаць: здароўе — ад Бога, а весялосць — ад тэмпераменту альбо ад жыццёвых здарэнняў. Дык на іх трэба глядзець з такой абыякавасцю, як на надвор'е альбо на чысціню неба. Вось цяпер я, уласна, змушаны колькі дзён не выходзіць з дому.

Доўгімі вечарамі сяджу перад агнём і, гледзячы на палаючыя дровы ў печы, наведваю ў думках маіх краіну мінулага ды будучага. І гэтыя мае мроі выкажу сястры ў наступнай баладзе, мяркуючы, што яна пацешыць цябе нудным зімовым часам.

(...)[1] Якую, сястра, маеш думку пра майго Эразма? Пэўна, запал ягоных пачуццяў будзе названы неразважным? Можа, ягоныя жаданні былі неадпаведныя волі Ірэны? Можа, той, чый дух кіруецца пачуццём, траціць свой кошт ды становіцца бязвартасным? Я пра гэта меркаваць не магу.

Сястра піша, што прыемна бавіць час у Панове[2]. Памятаю і я дабрыню сям'і палкоўніка[3] і час свайго кароткага побыту ў іхнім доме.

Проша засведчыць маю пашану ўсім знаёмым.

Застаюся назаўсёды найзычлівейшым братам і найніжэйшым слугою.

*Я. Баршчэўскі.*

## 9. ЮЛІ КОРСАК

*19 снежня 1838 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Успаміны ласкавых маіх знаёмых, апісаныя ў лісце сястры, найдаражэйшыя для мяне, бо ў маркотныя дні жыцця найпрыемней прыгадваць, што ёсць зычлівыя табе. Успаміны тыя ідуць, відаць, ад добрага сэрца, бо не мог я і не ў стане зараз заслужыць іх. Пані саветнікавай Янкоўскай[1] я вельмі ўдзячны, меў бы за шчасце быць у ліку яе знаёмых, калі б для гэтага надарыўся прыемны выпадак.

Сяброўства сястры ў Панове з тою добраю і паважанаю асобаю, ведаю, — самае прыемнае. Дзе адкрытасць, шчырасць, шляхетныя думкі ўпрыгожваюць забавы, там больш міла ідзе час, чым у тлуме народу альбо ў пышных бяссонных балах. Я часта думкаю прысутнічаю там, асабліва ў хвіліны маіх самотных забаваў. Што ж рабіць, калі ўжо наканавана быць мне далёка. Цяпер, прынамсі, каб хоць крыху прабавіць час доўгімі снежаньскімі вечарамі, я напісаў для сястры наступную баладу[2].

(...) чалавеку, што мінулае забывае, а пра будучае не думае, краіна пачуццяў і думак — чужая.

Аднак ужо хутка пачатак Новага года. Жадаю сястры і ўсім маім знаёмым, каб кожны дзень у наступным годзе быў для іх днём шчасця ды ўцехі.

Застаюся назаўсёды шчыразычлівым. Найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

P.S. Дасылаю пані абразок Марыі Парыжскае (годная ўвагі прыгажосць гэтае гравюры), а пану Гаўдэнтыю — кніжкі.

## 10. ЮЛІ КОРСАК

*6 лютага 1839 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Дзень 16-ты гэтага месяца, сястра, — гэта дзень твае патронкі. Дык прымі мае самыя шчырыя пажаданні ў наступным вершы.

(...)[1] Сястрын ліст, пісаны 5 студзеня, я атрымаў 27 дня таго ж месяца. Прычына гэтага — хвароба пана палкоўніка[2]: ён не выходзіў з дому, а я не ведаў пра ягоны прыезд у сталіцу. Пра навіны не пішу — хоць яны і важныя ў свеце — пра вынаходку новых гадзіннікаў ды дагератыпа (г.зн., спосаба малявання сонечным промнем), мяркую, вядома з газет і на Белай Русі.

Проша засведчыць маю пашану ўсім знаёмым.

Застаюся назаўсёды шчыразычлівым. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 11. ЮЛІ КОРСАК

*8 сакавіка 1839 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

У сястрыным лісце ад 6 лютага я сустрэў шмат слоў сапраўднае прыязні; шаную дабрыню твайго сэрца і тую прыхільнасць, якая для мяне — самае дарагое. Бо разважаючы пра гэта часам, хоць і бываю маркотны з-за далёкае адлегласці, але, верачы ў наканаванасць, успамінамі і думкаю лячу ў краіну духа

і там, прыгадваючы тваю дабрыню, шукаю для сябе палёгкі. Памяць пра сястру, яе шчырая прыхільнасць, яе чулыя словы ў лісце сталіся прычынаю нараджэння ў маіх думках наступнае балады[1].

(...) Мяркую, што сястры можа падацца дзіўным тое, што лісты, якія пішу ёй, заўсёды напоўнены вершамі. Што ж мне рабіць? Пэўна, гэта нейкая кепская звычка, бо як толькі хачу пісаць сястры, дык мноства розных ідэй роіцца ў маіх думках. Прагну выказаць усё тое, што існуе ва ўяўленнях мае душы, хоць ні пяро, ні слова не здольны на гэта. Што часам існуе ў пачуццях і ва ўяўленнях чалавека, пачуццё душы, — тая толькі душа зразумее, якая падобнае адчувае.

Матулі, сястры — маё шанаванне, паклон усім знаёмым. Шчыразычлівы і найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 12. ЮЛІ КОРСАК

***8 мая 1839 г., Пецярбург***

Шаноўная сястра!

(...)[1] І думаю я толькі пра падарожжа, з нецярплівасцю чакаю таго часу, калі змагу хоць на колькі тыдняў пакінуць прыкрае жыллё ў сталіцы. Знаёмыя мае, якіх я тут маю, выязджаюць на лецішчы, я ж люблю падарожжы, і, мне здаецца, чым далей ад Пецярбурга, тым прыгажэйшая прырода, лепшая вада і паветра, тым больш прыемней. Але ў гэтым годзе змагу выехаць не раней, як у апошніх днях наступнага месяца альбо напачатку ліпеня. Прычынай таму — публічныя іспыты і асобныя ўрокі.

Сястрын ліст ад 24 красавіка я атрымаў з пошты, і ён спаткаўся, напэўна, у дарозе з лістом, які я адрасаваў у Невель на імя сястры 26 гэтага ж месяца. Пісаў у апошнія дні таму, што кожны дзень чакаў ліста, не ведаючы прычын маўчання. Зычу здароўя і ўсяго добрага. Гэты мой ліст сястра атрымае, пэўна, у Панове, дык панам палкоўнікам Буйніцкім проша засведчыць маё шанаванне і паклон усім знаёмым.

Застаюся праўдзівазычлівым. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 13. ЮЛІ КОРСАК

*2 жніўня 1839 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Дасылаю абяцаную кнігу «Бібліі» — «Новы Запавет». Адна гэтая кніга магла б служыць свету з большай карысцю, чым найаграмаднейшая бібліятэка, калі б толькі людзі хацелі шукаць у ёй праўду; гэтая кніга — крыніца сапраўднае мудрасці, яна вучыць чалавека пазнаваць свае абавязкі перад бліжнім і Богам. О, калі б свет уважліва чытаў яе, дык закончыліся б няшчасці народаў і ганенні. Закон Збавіцеля — гэта адзінае, што можа прынесці мір свету. Я, разважаючы пра веліч гэтага Законадаўцы, з пачуццём згадваў тыя думкі ды занатаваў іх у наступным вершы.

(...)[1] На першай старонцы гэтае кнігі сустрэнеш, сястра, верш Адама Міцкевіча «Arcymistrz»[2]. Выдатна гэты паэт апісаў веліч Стваральніка, гармонію створанага і нячуласць людзей. Думаю пра мэту Стваральніка ды пра волю чалавека і не магу зразумець: ці кіруе светам наканаванасць?

Заканчваю свой ліст. Застаюся шчыразычлівым братам. Проша засведчыць маё шанаванне знаёмым. Найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 14. ЮЛІ КОРСАК

*6 кастрычніка 1839 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Чытаў сястрын ліст з вялікай асалодаю. Міла ў ім апісаны вясёлыя размовы і вясковыя здарэнні мінулага часу. Успамінамі і думкаю сваёю ляцеў я ў ваколіцы Рудні, дзе прырода ў найпрыемнейшым стылі стварыла горы, засадзіла іх дубамі, паказала столькі дарог чыстым рухлівым ручаям. Здаецца, што я вярнуў той мінулы час, калі мы аглядалі лён, пасеяны на неадпаведным месцы, калі шпацыравалі па садзе, дзе ўкусіла мяне, не ведаю за што, адна капрызная пчолка. Не

гневаўся я на тое маленькае стварэнне: джала пчолаў не раніць душу і боль той хутка мінае; шкада, што іх пакрыўдзіў люты мядзведзь.

О, як розніцца гарадское жыццё! Тут зусім іншыя малюнкі, не прыроды, а чалавечае выдумкі. Размовы і забавы тут толькі для таго, каб змарнаваць час ды надаць яму імпэту дзеля хутчэйшага лёту. Тут не нападаюць пчолкі, але затое часта здараюцца выпадкі, калі чалавек чалавека коле джалам гадзіны. І, здаецца, з-за гэтага, сястра, жывучы ў сталіцы, я вельмі люблю самотнасць, а яшчэ больш тую пару года, калі змрочная і халодная прырода не скіроўвае мае думкі на вонкавыя малюнкі. Душа, занятая сабою, больш лунае ва ўяўленнях і часта ляціць у вёску, дзе і восень мае сваю прывабнасць, калі ў лесе аніводная птушка не спявае, а толькі вецер, гудучы ў галінах высокіх дрэў, зрывае ды раскідвае пажоўклую лістоту. Там у ціхую і змрочную ноч, калі ўсё спакойна спіць, што можа перапыніць маўчанне? Часам толькі пракрычыць певень, ашуканы бляскам зіхатлівае зоркі; ён заспявае і, нібыта заўважыўшы памылку, не закончыць сваю песню. Альбо таксама сонны гусак, калі яму прысніцца што ці вецер пабудзіць, падыме галаву з-пад крыла ды адгукнецца, як вартаўнік. Усе падобныя здарэнні — чары прыроды, і заўсёды яны штосьці дадаюць да пачуццяў.

А тут, у сталічным горадзе, май ад кастрычніка адрозніваецца толькі тэмператураю паветра ды яркасцю сонца; крык і гоман люду аднолькавы ў любую пару года; грукат экіпажаў не сціхае ні ўдзень, ні ўночы. Рэдка дзе ўбачыш дрэвы, ды і тыя ў аточаным жалезнымі кратамі садзе. Тут жалезныя краты скоўваюць думкі і размовы людскія, з-за іх гаворка халодная, лаканічная і часта перапыняецца доўгім маўчаннем. Дык усеагульныя і самыя прыемныя забавы тут — віст і бастон. Што да мяне, непрыяцеля картаў, дык не маю ахвоты нават і глядзець на такія забавы. Найчасцей сяджу ўвечары дома; іншы раз наведвае мяне хто-небудзь са знаёмых літаратараў, прыносіць новую кніжку ці рукапіс. Пры гарбаце мы разважаем пра густы і пра літаратуры народаў. Калі-нікалі сам-насам, седзячы дапазна з цыгараю, гляджу ў акно, нібыта з вязніцы, бо бачу толькі сцены гмахаў, коміны ды цемнаватыя жалезныя дахі. Адзін толькі, сястра, прыемны для мяне начны малюнак — неба; калі шумяць весеньскія вятры і ўверсе імкліва ляцяць воблакі, за якімі нікнуць па адной апошнія зоркі, нібыта на марскім дне перлы, якіх то схава-

юць, то зноў пакажуць накатныя хвалі. Часам разважаю пра даўно мінулыя стагоддзі ды, выбіраючы тое, што адпавядае маім думкам, занатоўваю на паперы. Блаславёны той, хто вынайшаў пісьмо — гэты мілы спосаб размовы з сябрамі і з самім сабою; гэта адзінае,што можа аблегчыць цяжар, што ляжыць на сэрцы, бароніць ад меланхоліі ды, часта, ад няшчасця.

У часе гэтых самотных вечароў я пішу аповесць пра тэатр вайны, пра першы напад татараў. Твор можа заняць сем і болей аркушаў. Дасылаю сястры некалькі дзесяткаў радкоў, якімі пачынаецца ўступ да аповесці.

(...)[1] Ты, сястра, пісала, што ў Рудні шмат займаюцца мінералогіяй. Што ж ёсць больш прыемнага, чым даследаванні прыроды? Чароўная яна і на зямлі, і ў небе, у кветках, у дрэвах, і нават ў камянях. І чароўнасць гэтую можна назіраць толькі ў вёсцы, але не ў горадзе. О, няхай дасць Бог хутчэй дачакацца таго часу, калі змагу ў ваколіцах Рудні весці з сястрой найпрыемнейшыя размовы пра гэты прадмет, калі прырода ў найпрыгажэйшым летнім строі. Вось мае жаданні; хутка ляціць Воз чалавечага жыцця, я яму хацеў бы надаць хуткасць маланкі, абы толькі атрымаць хоць кароткую прыемную хвілінку.

Заканчваю свой ліст, зычачы сястры здароўя і шчасця. Матулі-дабрадзейцы прашу засведчыць маё шанаванне, а таксама сястры, братам і Вяльможным Панам палкоўнікам Буйніцкім. Зычлівы брат і найніжэйшы слуга

*Я. Баршчэўскі.*

## 15. ЮЛІ КОРСАК

*21 лістапада 1839 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Вось і маленькі Андзя[1] адляцеў на неба. Яму там лепей ды весялей цяпер. Ён спаткаў там мноства падобных на сябе анёлкаў. Ён свет бачыў толькі здалёк, не разглядзеў яго і не прыняў яго. О, які ён шчаслівы! Не жадаючы кланяцца, як мы, Стаўпам Фартуны і падманлівай надзеі, ён, як бязвінны галубок,

узляцеў да сонца ды знік у ясных промнях. Вось такая пілігрымка людская на гэтай зямлі. Трэба баяцца не толькі відавочнае гáдзіны, але й асцерагацца, каб не наступіць на схаваную ў траве. Дык няма прычыны смуткаваць па ім.

І ў Пецярбурзе цяпер таксама шмат хворых. Ужо колькі маіх знаёмых развіталіся з гэтым светам. Напачатку лістапада пахавалі Юзафа Дружыну, які пакінуў удаву з дзецьмі. Доўгі час ён пакутаваў, дапамагалі, як маглі (бо тут хапае лекараў), але дарэмныя людскія намаганні, калі ўжо каму выбіла гадзіна вечнасці. Рэч звычайная, — вільготны восеньскі час шкодны для людзей. Але цяперашняя восень была сухою ды і халады пакуль яшчэ невялікія. Не перамены надвор'я альбо часу распараджаюцца чалавечым жыццём, а Той, хто кіруе Небам і Зямлёю.

Я да гэтага часу здаровы і, як звычайна, з раніцы да вечара наведваю розныя куткі сталіцы. У прысланым штотыднёвіку[2], чытаючы літаратурнае паведамленне, заўважыш, сястра, што я пры сваім абавязку прыняў на сябе працу па выданню альманаха «Niezabudka». Ён цяпер ужо прайшоў цэнзуру і ўжо ў друкарні Края[3]. Напачатку студзеня, спадзяюся, будзе гатовы. Шмат выкінула цэнзура, а мая аповесць пра нашэсце татараў, пачатак якое я дасылаў сястры, цалкам не дазволена. Пэўна, гэта здзівіць сястру, што я заняўся працаю выдаўца. Ледзь не споўнілася прароцтва пана Гаўдэнтыя, якое — памятаеш, сястра — ён часта паўтараў. Грахі ўсіх мусіў прыняць на сябе; дзякуй Богу, што споведзь была з абсалюцыяй[4] і без пакуты.

О, як праўдзіва параўноўваюць гэты свет з бурлівым морам! Усе, хто плыве па гэтай прасторы, сустракаюць буру Неспакою. Адных губіць пярун з неба, і мы плачам па тых, да каго былі прыхільныя. Іншыя накіроўваюцца на сярэдзіну Акіяна, прагнучы даплысці да якое прыдуманае выспы. Але тут іх падхоплівае вецер ды нясе сярод небяспечных скалаў. Шчаслівы, каго выратуе лёс. Мне, сястра, у час майго неспакойнага плавання там бліпічыць партовая лямпа, дзе я бачу вачыма свае душы ў далёкім вясковым кутку кола шчырых ды прыязных сяброў. Гэтымі доўгімі зімовымі вечарамі, калі ў Рудні бавяцца ў коле дамовым альбо добрых суседзяў, о, каб я мог з'явіцца туды пры першай згадцы пра мяне, — я б стаў перад сястрою, як дух які, ды шмат, шмат пра што сказаў бы ёй. Але гэтае жаданне — толькі мроі самотнае душы.

Дасылаю сястры дзве кніжачкі. Першая — Экартсгаузана[5], але не з ліку тых, што забаронены. Гэтае выданне прызначана для католікаў, бо тут ёсць малітвы да святых і да Прачыстае Маці. Уся кніжка напісана пекным ды ўзнёслым стылем. Другая — «Poezje» Ходзькі[6]. Цудоўныя пераклады з грэцкае мовы і яго ўласныя ўзорныя балады, напісаныя лёгкім і элегантным вершам. Сярод абразкоў, укладзеных у кнігу, — патронка паненкі Францішкі. Прашу ад мяне ахвяраваць ёй.

Застаюся назаўсёды шчыразычлівым братам і найніжэйшым слугою.

*Я. Баршчэўскі.*

Проша кланяцца ўсім знаёмым.

## 16. ЮЛІ КОРСАК

*1 студзеня 1840 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Першы дзень Новага года — гэта пара, калі чалавек міжвольна звяртае ўвагу на мінулае і будучае, бачыць час, які на імклівым воблаку ўвесь свет аблятае, руйнуе, аднаўляе і ўсёй прыродзе штораз новы надае выгляд. Людзі, прыгадваючы мінулае, чытаюць законы, якімі Час і Вырокі кіруюць на зямлі. Звяртаючыся да будучага, яны выглядаюць надзеі ў небе, бо толькі там не бачаць пераменаў: ад стварэння свету тое ж самае ўзыходзіць сонца і той жа месяц круціцца вакол зямнога шара. Шчаслівы той, хто, як філосаф, спалучыў мінулае з будучым, неба з зямлёю ды абыякава пазглядае на ўсё вакол сябе. Я, сястра, не маю такога духу: я акунаюся ў змрочныя думкі, як у наступнай песні «Дума», што сёння гучаць у маёй душы.

(...)[1] Калі стары год заканчваецца, а Новы пачынаецца, людзі танцуюць, радуюцца, нібыта да іх з неба прыляцеў анёл. Я ж, наадварот, акунуўшыся ў змрочныя думкі, апісаў сястры ў гэтай «Думе» пачуцці, з якімі спаткаў госця, што прыляцеў на свет з касою ў руках, і, будучы сынам вечнасці, ён, пэўна, такі ж бязлітасны, як і ягоныя старэйшыя браты. Але шчаслівы чалавек, які ўзняўшы вочы ў неба, убачыць прамень надзеі. Не

заўсёды будзе панаваць тут глухая, халодная і невыносная зіма; сонца павярнулася на лета, з поўдня прыйдзе да нас прыемная вясна і аголеныя шкілеты дрэў апрануцца ў лістоту, лугі — у кветкі, а рэкі, скінуўшы аковы, вольна паплывуць у зялёных берагах.

Я зычу сястры шчаслівае будучыні, ды каб зорка твайго лёсу і надзеі свяціла заўсёды на пагодным небе. Проша таксама засведчыць мае віншаванні і пажаданні матулі-дабрадзейцы, сястры і братам. Панам палкоўнікам Буйніцкім, віншуючы з Новым годам, зычу здароўя і шчасця. Застаюся шчыразычлівым братам.

*Я. Баршчэўскі.*

## 17. ЮЛІ КОРСАК

*11 лютага 1840 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

У дзень твае патронкі зычу ўсяго, што ёсць найдаражэйшым ды найпрыемнейшым у гэтым жыцці. І гэта маё пажаданне — шчырае ды нязменнае да магілы, а можа, і на тым свеце. Бо кажуць, што дабрыня з сяброўствам не маюць канца. Ды толькі рвецца нітка надзеі.

Праз пару тыдняў я буду зноў пісаць сястры, дасылаючы асобнікі альманаха «Niezabudka»[1]. Проша ўсім кланяцца.

Застаюся шчыразычлівым.

*Ян Баршчэўскі.*

## 18. ЮЗАФУ ІГНАТУ КРАШЭЎСКАМУ

*20 лютага 1840 г., Пецярбург*

Вяльможны пане!

Дасылаю асобнік альманаха[2] пану — аднаму з найлепшых пісьменнікаў; не цешу, аднак, сябе надзеяю, што мая кніжачка прыцягне ўвагу пана, як рэцэнзента[3] добрага і здольнага

аціаніць плады ўяўлення. Бо складзена яна толькі з твораў людзей у асноўным маладых, што ўпершыню выступаюць у літаратуры, паслужыць якой — перадусім, збіраннем ды выданнем твораў — было маёй мэтай. Калі ж дасягнуў яе, — дык гэта будзе для мяне і памочнікаў адзінаю ўзнагародаю і заахвочваннем надалей.

Застаюся з праўдзіваю павагаю вяльможнага пана найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 19. ЮЛІ КОРСАК

*22 лютага 1840 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Ужо прайшло два месяцы[1] і я ледзь дачакаўся часу, калі магу напісаць ліст сястры. А прычына гэтаму — альманах, малая кніжачка, але працы пры маім звычайным абавязку я меў аж занадта. Шмат было клопату з цэнзураю і друкарняю: першая — вельмі строгая, а другая — неакуратная. А да таго ж яшчэ наборшчыкі-немцы не ведаюць аніводнага слова папольску, дык з-за гэтага шмат памылак знойдзе сястра, а ў асобных напрыканцовых творах прапушчаны радкі. Гэта прыкрая памылка, ды што рабіць: віна карэктара і мая, бо перад заканчэннем, будучы заняты ўрокамі, цалкам паспадзяваўся на яго.

Цяпер маю шмат цяжкасцяў з рассылкаю, бо адсылаю ў розныя і далёкія краі, а таксама крытыкам пану Грабоўскаму[2] і пану Крашэўскаму[3]. Цікава, якія думкі выкажуць яны пра пецярбурскую «Niezabudka». Для сястры і для пані палкоўнікавае Буйніцкае дасылаю апраўленыя асобнікі альманаха з літарамі на адным — J.K.[4], а на другім — A.B.[5] Напішы мне, сястра, пра здароўе пана палкоўніка Буйніцкага. Проша пана Гаўдэнтыя падрыхтаваць што-кольвечы новага вершам і прозаю дзеля наступнага года[6]. Усім знаёмым — найніжэйшы паклон.

Застаюся шчыразычлівым братам.

*Я. Баршчэўскі.*

## 20. ЮЛІ КОРСАК

*8 сакавіка 1841 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Доўга не пісаў сястры; не хвароба, а таксама і незабыццё было прычынаю гэтага. (Дзякуй Богу, да сённяшняга дня я здаровы.) І мая звычайная праца ды рассеянае жыццё ў сталіцы, бо амаль штодня я ў вялікай кампаніі, — не маглі быць прычынаю неакуратнасці. Я заўсёды памятаю пра добрых людзей, асабліва пра тых, сяброўства з якімі для мяне — самае дарагое.

Не пісаў сястры па прычыне пэўных непрадбачаных непрыемнасцяў. Меў столькі клопатаў і марокі![1] Вось гэта і сталася перашкодай. Цяпер усё мінулася і толькі засталося ў памяці. Расказаў бы пра ўсё гэта сястры, але аркуш паперы не такі шчыры сябра, каб можна было даверыцца яму. О! Ён часам самы вялікі здраднік. Скажу толькі тое, што той самы шчаслівы, хто толькі ў марах глядзіць часам на мора свету; аднак калі хто хоча ў якім-небудзь прадмеце дайсці да жаданае мэты, дык мусіць калечыць ногі аб церні і зазнаць буры.

Дасылаю альманахі на 1841 год па спісе:

Для сястры ў апраўе з залатымі берагамі.

Для п. Буйніцкае, для Леўкадзіі Багамольцавай, Петранэлі Дароўскай у апраўе; кожную гэтую кніжку проша аддаць адпаведна надпісу на самым пачатку.

І для іншых:

паручнікавай Зенавічовай, рэгентавай Керсноўскай, капітанавай Раіне Лесатовічавай, я.в. Славінскаму, я.в. каморніку Брынгу, кс. дэкану Міхевічу, я.в. асэсару Барысовічу, Мазалеўскаму Яну.

Проша засведчыць маё шанаванне ўсім дамашнім. Жадаючы сястры здароўя і шчасця, застаюся найзычлівейшым братам.

*Ян Баршчэўскі.*

## 21. ЮЛІ КОРСАК

*12 чэрвеня 1841 г., Рэжыца*[1]

Шаноўная сястра!

Я выехаў з Рудні 25 чэрвеня, маім фурманам быў стары час, коні беглі адпаведна з рухам людскога жыцця: на гару з вялікай цяжкасцю і з прыпынкамі; стары час падганяў іх пугаю ды крычаў слабым голасам; але затое з гары ніякія сілы не маглі іх стрымаць, яны беглі што мелі моцы праз каменне і канавы, нібы ў прорву якую. Так і ў чалавечым жыцці: цяжка ўзбірацца на гару, дзе жыве шчасце, але, о, як хутка можна ўпасці з вышыні на дол.

Прыехаў я ў Невель. П. Мазалеўскага не застаў дома, дык даў гадзіны дзве адпачыць старому часу ды коням і накіраваўся ў далейшае падарожжа. Звычайная паездка з крыкам пад гару ды лётам з гары. Не даязджаючы вёрст 20 да Полацка, калі коні ляцелі з гары, каляска перакулілася, а я, падаючы на дол, лічыў, што ўжо лячу ў вечнасць. Лежачы на зямлі, я пачуў непадалёку ад сябе лямант свайго фурмана і на практыцы пераканаўся, што ён не крылаты час, а стары Кандраш. Я падняў яго, пасадзіў у каляску і неўзабаве прыехаў у Полацк.

У Полацку не знайшоў пана Рэвута[2], які са свайго маёнтка напісаў прэзідэнту п. Сінкевічу[3], каб абавязкова прывёз мяне ў Мосар. Там у яго сабралася нейкае таварыства абывацеляў. Я не згадзіўся, напісаў яму ліст, паслаў білеты[4] і асобнікі альманаха. У Полацку быў два дні, наведаў бібліятэку духоўнае семінарыі ды зноў накіраваўся ў падарожжа.

Наняў жыдка да Асвеі і ў часе падарожжа шмат гаварыў пра Стары Запавет, пра Талмуд, а часам сядзеў моўчкі, паглыбіўшыся ў свае думкі. У Асвеі я сустрэў шмат абывацеляў, якія сабраліся ў дзень святога Ігната на імяніны графа Шадурскага[5]. Тут пазнаёміўся з некалькімі літаратарамі, а менавіта з трыма братамі Грымалоўскімі[6] і панам Буйніцкім, аўтарам «Вандровак па малых дарогах»[7]. Мы шмат размаўлялі пра літаратуру, і гэтыя паны-літаратары казалі мне, што маюць намер выдаваць беларускі альманах, а выдаўцом будзе пан Буйніцкі[8]. У Асвеі я вельмі прыемна бавіўся тры дні, а пасля выехаў у мястэчка Друя, дзе сустрэў шмат знаёмых, раздаў падпісныя білеты; адтуль паехаў у Рэжыцу. Тут узяў падарожную і сёння паштовымі еду ў Пецярбург.

Шмат дзе пабыў на Беларусі і ў Інфлянтах. Быў у дамах сяброў, але заўсёды ў часе размоў і забаваў Рудня не выходзіла з памяці: там было мне найпрыемней.

Проша кланяцца ўсім дамашнім. Шчыразычлівы брат і найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 22. ЮЛІ КОРСАК

*29 жніўня 1841 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Я пісаў ліст сястры з Рэжыцы 12 жніўня і ў гэты ж дзень пакінуў Інфлянты. Назаўтра ўвечары быў ужо ў Пскове, дзе сустрэў колькі знаёмых, у таварystве якіх абышоў вакол крэпасці. Сцены, мураваныя з дзікага каменя, колісь нездабытыя[1], а цяпер іхнія руіны пачарнелі ад часу і зверху пакрыліся дзікім зеллем. Маркотны яны маюць выгляд, падобныя на магілы, у якіх пахаваны даўнія вякі. Мацней іх час знішчыў, чым выстралы гармат; не абаранілі іх і насыпаныя вакол валы.

З Пскова я выехаў уночы, а раніцаю 15 жніўня быў ужо ў Пецярбурзе. Два тыдні жыву ў сталіцы, блукаю па горадзе, часам увечары наведваю знаёмых, але і дома, і ў гасцях, і ў часе самое размовы я згадваю ў сваіх думках дні, праведзеныя ў Рудні. І становіцца мне маркотна, нібы штосьці страціў. Шчыра кажу сястры: дні забаваў — гэта дарагія перлы ў жыцці нашае душы, страціўшы якія, той тужыць, хто па-сапраўднаму ўмее іх цаніць.

Давіда[2] я не спаткаў у падарожжы і ў Пецярбурзе не знайшоў. Ён ужо ў Варшаве. Добры Ляховіч[3] часта мяне наведвае, будуе розныя праекты наконт «Niezabudki». Альманах мае выходзіць і ў далейшым ды будзе штогод паляпшацца. І не толькі падборам вершаваных ды празаічных твораў, але і аб'ёмам, і іншымі ўнутранымі аздобамі. У кніжку, што маецца выйсці ў 1842 годзе, уключаны гістарычныя апісанні каталіцкіх касцёлаў у Пецярбурзе з літаграфічнымі малюнкамі. Таксама будуць змешчаны партрэты палячак, якія выславіліся ў музыцы. Гэта добрыя планы, але яны патрабуюць выдаткаў, бо трэба звяртацца да адмысловага мастака.

Проша кланяцца пану Гаўдэнтыю. Я асабіста аддаў ягоны ліст пану Серабіновічу; прачытаўшы, ён сказаў мне, што хутка дасць адказ. У Пецярбурзе ў маю адсутнасць атрымалі ліст на пошце ад п. палкоўнікавае Буйніцкае. Проша адаслаць адказ пры нагодзе.

Засвядчаю маё шанаванне ўсім і застаюся найзычлівым братам ды найніжэйшым слугою

*Я. Баршчэўскі.*

P.S. Ліст да палкоўнікавае проша адаслаць у канверце.

## 23. ЮЛІ КОРСАК

*29 снежня 1841 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Ледзь знайшоў час, каб напісаць ліст. Так быў заняты сваім альманахам![1] Рэдагаваў асобныя творы, перапісваў, цэнзура ды іншыя меў клопаты. Цяпер, дзякуй Богу, ён ужо друкуецца і дастаткова паспешна. Альманах на наступны год будзе элегантны. Пан Жукоўскі[2], добры мастак, рупліва заняўся літаграфіяй малюнкаў для асобных аповесцяў ды баладаў. І такіх шэсць карцінак[3] будзе змешчана ў кожнай кніжцы. Таксама і партрэт пані Штырмер[4] да ейнае аповесці.Цяперашні яе твор, здаецца, болей заслугоўвае на ўвагу, чым мінулагодні. У яе аповесці на наступны год — пекныя заўвагі пра жыццё кабеты без кахання[5].

Прашу сястру напісаць падпісчыкам, каб не скупіліся. Я стараюся трапіць да густу самым капрызным жаданням як падборам твораў, так і самой нават знешнасцю альманаха. У наступным годзе напрыканцы студзеня, спадзяюся, ён выйдзе з друку. Прашу толькі дапамогі.

Няхай сястра нагадае пану Гаўдэнтыю, каб другі раз напісаў ліст пану Сварацкаму пра білеты[6]. У якасці доказу таго, што альманах ужо друкуецца, я дасылаю першую карэктуру.

Застаюся найзычлівейшым братам

*Ян Баршчэўскі.*

## 24. ЮЛІ КОРСАК

*29 студзеня 1842 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

У мінулым годзе, будучы ў Рудні, апошні раз бачыў маму[1]. У падарожжы нашага жыцця балесным цернем здаецца чутка пра смерць сяброў. Але для дзяцей смерць бацькоў — самая балесная рана. Ды гэта лёс усіх людзей. Смерць, разрываючы вузел сумеснага на гэтай зямлі жыцця, адным прыносіць вечнасць, а іншым — слёзы ды ўспаміны.

Добра ведаю пра слабое здароўе пані Шпакоўскае. Душэўны неспакой небяспечны для яе, але як гэтага ўнікнуць, калі ўсё чалавечае жыццё — пакуты, хвіліна смеху ды радасці — гэта ружа, пялёсткі якое хутка ападаюць, а церні застаюцца. Так дзеецца на гэтым свеце, і ўсё трэба цярпліва зносіць.

Дзякуй, сястра, за дасланыя грошы. Я атрымаў пятнаццаць срэбраных рублёў ды спіс падпісчыкаў. І не думаў, каб можна было раздаць у Невельскім павеце столькі білетаў. Бачу ў гэтым праўдзівую руплівасць сястры. Немалая то дапамога для альманаха.

Падпісчыкаў прашу пацярпець. Я стараюся прыспешыць як можна, і ўжо чатыры аркушы надрукавана.

Цяпер я вельмі заняты: апрача карэктуры альманаха «Niezabudka»[2], пішу «Нарыс Паўночнае Беларусі» для дзённікаў[3] пана Падбярэскага; да таго ж літаратурныя вечары, на якіх бываю ў асобных рускіх выдаўцоў, ладзяцца так часта ды доўжацца часам да трэцяе гадзіны пасля апоўначы, што становяцца цяжарам.

Шмат пра гэта напісаў бы сястры, але доўгую гісторыю раскажу тады, калі буду мець прыемнасць бачыць сястру, а пакуль проша не забываць шчыразычлівага брата.

*Ян Баршчэўскі.*

P.S. Проша перадаць мой паклон усім, а пану Гаўдэнтыю нагадаць пра Сварацкага.

## 25. ЮЗАФУ ІГНАТУ КРАШЭЎСКАМУ

*10 красавіка 1842 г., Пецярбург*

Пані Штырмер[1] даручыла мне запытаць у пана пра наступнае. Тры месяцы таму яна закончыла новую фантастычную аповесць «Фрэнафагіюш і Фрэналесты» і аддала п. Падбярэскаму[2] ў ягоны «Rocznik Literacki». Урывак з гэтае аповесці п. Падбярэскі мусіў даслаць пану ў ягоны «Athenaeum»[3]; таксама і байку пані Штырмер «Барталамей у хмарах»[4].

Што сталася з гэтымі двума ўрыўкамі? Былі яны дасланы пану, ці не? Гэтага пані Штырмер зусім не ведае і, прагнучы даведацца, абавязала мяне запытаць у пана. А яшчэ прасіла напісаць пану, што ў палове гэтага году пастараецца даслаць у «Athenaeum» сёе-тое з сваіх літаратурных працаў.

Найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 26. ЮЛІ КОРСАК

*29 красавіка 1842 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Занадта позна ў гэтым годзе зацвіла «Niezabudka»[1] — альманах. Доўгаю б атрымалася гісторыя, каб хацеў апісаць прычыны гэтае запозненасці. Адно толькі скажу, што іншы на маім месцы, спыніўшы вайну з людзьмі ды акалічнасцямі, адмовіўся б ад усяго. Таму то ў такім клімаце шмат хто не датрымлівае слова. Не ведаю, што будзе з панам Падбярэскім[2].

Прошa прабачыць, што так доўга не пісаў сястры. Буду ў гэтым годзе на Беларусі, раскажу пра ўсё, дык сястра, пэўна ж, даруе.

Альманахі дасылаю для 15 падпісчыкаў, прозвішчы якіх былі ў спісе, для 3, прозвішчаў якіх не было ў спісе, для сястры адну кніжачку, апраўленую ў саф'ян з залатымі берагамі. Такі ж асобнік і для палкоўнікавае Буйніцкае. Прашу таксама ад мяне паслаць па адным томіку Леакадзіі Багамолец, Францішцы Зброжак, Петранэлі Дароўскай.

Пану Гаўдэнтыю я прывязу колькі асобнікаў, калі буду адведваць гэтым летам ваколіцы Невеля. Усім знаёмым мой паклон. Найзычлівейшы брат

*Ян Баршчэўскі.*

P.S. На адрас Пані дасылаю білеты на альманах на 1843 год. Я вельмі ўдзячны сястры за ейную дапамогу ў гэтым годзе і прашу падтрымаць быт паўночнае «Niezabudki» ў наступным.

## 27. ЮЛІ КОРСАК

*20 верасня 1842 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Доўгае маё маўчанне сталася прычынаю розных плётак, і, мяркую, сястра няраз падумала пра мяне, што я гультаяваты і нядбалы, бо да гэтага часу не напісаў ніводнага ліста. Тут зусім іншая прычына: быў я без правае рукі, як інвалід. А здарылася гэта так. Праз некалькі дзён пасля прыезду ў Пецярбург я лёг спаць у сваёй кватэры, не заўважыўшы, што адчынена акно. Знаходзячыся цэлую ноч ў холадзе, захварэў на страшны раматуз правае рукі. І ледзь-ледзь пазбавіўся ад яго. Цяпер, дзякуй Богу, я здаровы і ўжо пачаў па пятніцах і суботах наведваць літаратурныя вечары. У іншыя ж дні пасля змяркання заўсёды застаюся дома, пішу балады і іншыя вершы для альманаха.

Цяпер у Пецярбурзе сама той час, які найбольш мне падабаецца: дні цёмныя, вятры выюць каля муроў, хвалі вырываюцца з каналаў, гарматы страляюць, палохаючы гаражан, а я, седзячы за столікам у чатырох сценах, мрою аб зданях, чараўніцах і шатанах. Словам, каб хто зазірнуў у маю галаву, дык убачыў бы там страшэнныя жахі.

Аднак не заўсёды гэтыя чорныя думкі ў маіх мроях. Яны толькі для балад. Найпрыемнейшыя ж успаміны — лета ў вёсцы, краявіды лясоў і гор, сяброўскія размовы. Ах, сястра, не магу забыць тых прыгожых, прыемных і незвычайных начэй, калі неба, здавалася, хілілася да зямлі пад цяжарам аграмаднага мора зорак. Шмат успамінаў у маёй душы.

Проша не гневацца на мяне, што так доўга не пісаў. Шчыра кажу, — рука была хвораю, а галава неспакойнаю.

Проша засведчыць маё шанаванне пані палкоўнікавай Буйніцкай, пану Феліксу[1] самы нізкі паклон; паведамляю яму, што кіі ў Пецярбурзе вельмі добра купляюць. Два прадаў па рублю срэбрам. Пана Гаўдэнтыя прашу, каб паспяшаўся даслаць што-небудзь са сваіх вершаваных твораў для альманаха «Niezabudka»[2].

Застаюся найзычлівейшым братам. Найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

## 28. ЮЛІ КОРСАК

*20 снежня 1842 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Быў і яшчэ да гэтага часу такі я заняты, што, каб сястра магла бачыць усе мае заняткі, дык, пэўна б, прызнала, што няма нікога больш цярплівага і больш працавітага за мяне. Шмат напісаў новых і дастаткова вялікіх твораў для «Niezabudki»[1]. Тое, што ідзе ў друк, трэба пісаць з натхненнем. Натхненне ж не прыйдзе, калі думкі разбягаюцца, шукаючы па сталічных кутах вясёлых забаваў. Трэба засяродзіцца на думках, акунуцца ў мроі ды там шукаць свежых кветак, каб і іншым яны маглі быць да густу. Апрача таго, творы іншых аўтараў трэба было, перадусім, прачытаць, сюды-туды схадзіць, клапоцячыся пра падпіску; быць на літаратурных вечарах і часта сядзець да трэцяе гадзіны па апоўначы, слухаючы лухту розных разумнікаў, і гэта нібыта ўжо абавязак. Увесь альманах я сам уласнаю рукою перапісаў, аддаў у цэнзуру; няраз і перад цэнзарам[2] трэба было кланяцца. Цяпер ён ужо ў друку, — і ёсць новая праца.

Не дзеля выхвалення пішу гэта сястры, а дзеля таго толькі, каб мець права на яе прабачэнне, што да гэтага быў нямы ды зніклы, як кінуты ў ваду камень.

Паведамляю, што «Rocznik Literacki» пана Падбярэскага ўжо хутка выйдзе з друку[3]. Прыгожае выданне: выдатныя віньеткі, восем літаграфаваных малюнкаў, тры партрэты. Першы — пані Штырмер; каля партрэта ў кругах намаляваны сцэны з яе аповесці «Фрэнафагіюш»[4]. Другі — пана Анацэвіча; ён калісь быў прафесарам у Віленскім універсітэце і выдаў у двух томіках польскую гісторыю[5]. Да артыкула пра Беларусь далу-

чаны мой партрэт. Пан Жукоўскі намаляваў мяне ў нейкім рамантычным стылі. Я стаю ля ракі Нява, у капелюшы, засяроджаны ў думках, абапёршыся на прыбярэжны граніт; перада мною ўзносяцца вежы сталіцы. Пэўна, гэты сюжэт ён запазычыў з майго апісання Беларусі[6], дзе я згадваю, што мае думкі часта адлятаюць ад берагоў Нявы да роднае зямлі, дзе столькі мілых успамінаў. А партрэт п. Штырмер непадобны, Анацэвіча — мала, а мой — занадта прыхарошаны і таксама мала падобны, бо ўсіх ён маляваў па памяці.

Проша, сястра, паведаміць падпісчыкам на «Rocznik Literacki», п.Мазалеўскаму, Радзевічу, Падвінскаму і пану Міхалу Дамброве, што калі дашлюць грошы, то абавязкова адразу пасля Новага года атрымаюць кніжкі. Таксама проша нагадаць пра маю «Niezabudke», калі што сабралася.

Віншую сястру з прычаканымі святамі, Новым годам і жадаю ўсяго добрага. О, дай Божа, што лепшае! Што да мяне, дык нібы які чорны дух, што з вятрамі ляціць з поўначы, заўсёды з маркотным сваім спевам уліваецца ў мае думкі. І цяпер нават, калі пішу сястры, не ведаю адкуль, нейкая меланхолія ўблытваецца ў пачуцці. Напішы мне, — будзе весялей.

Пані палкоўнікавай Буйніцкай проша засведчыць маё шанаванне, а таксама і ўсім дамашнім. Пан Гаўдэнты не даслаў твораў дзеля «Niezabudki». Што ж рабіць, я ведаю ягоныя абставіны. Застаюся назаўсёды шчырым і неадменным.

*Ян Баршчэўскі.*

P.S. Пані Леакадзія Багамольцава прыехала ў Пецярбург і стараецца пра месца. Цяжкая ноша — служба. Дай, Божа, шчасця.

## 29. ЮЛІ КОРСАК

*10 верасня 1843 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Я выехаў з Невеля ў Полацк 1 жніўня. Конь плёўся ціхім крокам як з гары, так і пад гару; і ні прымус, ні ласка, ні авёс не маглі схіліць яго бегчы хутчэй. Праехаў вёрст пятнаццаць. І ў дарозе, і ў карчме мяне перасцерагалі, што за Краснаполлем[1] у

лясах на падарожных нападаюць ліхадзеі. Не вельмі мне хацелася сустракацца з імі, бо быў узброены толькі ракітавым кіем і Пегас пана Фелікса не здатны ні да ўцёкаў, ні да пагоні. Заўважыў блізу дарогі траіх, але, дзякуй Богу, былі яны пачцівыя і хутка схаваліся ў лес.

У Полацку я забавіўся два дні; пазнаёміўся з многімі настаўнікамі тутэйшае гімназіі. Асобныя з іх чыталі мне свае літаратурныя вопыты вершам і прозаю. Слухаў іх з вялікім цярпеннем.

Быў я і ў Экіманіі, але не пабачыўся з маршалкам Беліковічам[2], бо ён перад гэтым выехаў у Віцебск; не сустрэўся таксама і са сваім супрацоўнікам[3] панам Рэвутам. Адзін толькі настаўнік малявання п. Міньят[4] хоць часткова ўзнагародзіў працу мае пілігрымкі: намаляваў алоўкам краявід Полацка з-за Дзвіны і мужчынскі ды жаночы строі тутэйшага простага люду.

Даручэнне п. Гліцэрыі я выканаў, асабіста быў у Спасе, аддаў ліст, паўгадзіны размаўляў з імі пра смутны іх лёс і, зычачы ім трымацца да канца, вярнуўся ў Полацк[5]. Назаўтра ранкам, наняўшы жыда, выехаў у Асвею.

У Асвеі кожны сустракаў мяне як даўно знаёмага. Гэты дом, здаецца, яшчэ квітнее гасціннасцю ды ветлівасцю даўніх польскіх паноў. Тут я прыемна бавіўся дні тры. Раздаў білетаў болей, чым у Невелі і ў Полацку. А яшчэ далі мне пару коней аж да самага Пецярбурга.

Аднак жа не адразу з Асвеі накіраваўся ў сталіцу. Захацелася наведаць асобныя цікавыя мясціны ў Інфлянтах. Сярод іншых краявідаў найбольш мне спадабалася гара Вальтэрберг непадалёку ад Пушы ў маёнтках графаў Шадурскіх. На ейнай вяршыні і цяпер узвышаюцца руіны нейкага даўняга замка. Фурман-латыш апавядаў мне цуды пра гэтыя руіны, пра зачараванную панну, якая мае там пры сабе гадзіну ды сабаку. Напісаць бы цэлую аповесць — доўгая атрымалася гісторыя.

У Рэжыцы шчасліва сустрэў тых, каго хацеў бачыць. Пераначаваў тут толькі ноч, бо спяшаўся ў Пецярбург. Васемнаццатага жніўня быў я ўжо ў сталіцы. Тут нязменна кепскае надвор'е, дажджы і вецер — сапраўдная восень, хмурныя дні. Я, седзячы за столікам, слухаю шум ветру, гляджу праз акно на змрочнае неба, прыгадваю сваё мінулае падарожжа, ясныя дні, добрых людзей, з якімі міла правёў час. Засвядчаю мой паклон п. Гліцэрыі, пану Феліксу кланяюся і, проша, няхай ён не гне-

ваецца, што яшчэ не выканаў ягоную камісію[6]. Цяпер я вельмі заняты «Niezabudkę», карэспандэнцыяй, а вечарамі — аповесцямі[7].

Асэсару Ючкевічу найніжэйшы паклон. Я люблю гэтага чалавека, бо ён мае праўдзіва шляхетную душу. Таксама і іншым знаёмым засвядчаю маё шанаванне.

Дасылаю крытыку на «Псіхею», надрукаваную ў гэтым нумары «Tygodnika». Проша перадаць пану Гаўдэнтыю, хоць яна і не будзе яму прыемнаю, але пра гэта прасіў п. Штырмер[8]. Застаюся найзычлівейшым братам.

*Ян Баршчэўскі.*

## 30. ЮЛІ КОРСАК

*6 сакавіка 1844 г., Пецярбург*

Шаноўная сястра!

Майму маўчанню такі доўгі час было шмат прычынаў, апісаць якія немагчыма і мала дня, каб патлумачыць. Да таго ж «Niezabudka»[1], хоць і малая кніжачка, але колькі працы ды клопату вымагае! Кожны твор мушу прачытаць ды перапісаць, бо цэнзар капрызны, не любіць дробнага і нечытэльнага почырку. А яшчэ мусіў дадаць вершам і прозаю сёе-тое з уласных маіх фантазій. Усё гэта патрабавала адзіноты ды поўнага паглыблення ў самім сабе. Для Падбярэскага[2], для Крашэўскага[3] ды для іншых выдаўцоў[4] мусіў сёе-тое напісаць. Стасункі з маімі супрацоўнікамі, збіранне падпіскі нязменна забірала ў мяне час, які належаў больш прыемным заняткам. Але, дзякуй Богу, усё тое закончылася, і мая «Niezabudka» ўжо ў друку ды хутка зацвіце. Калі ёсць якія падпісчыкі, проша даслаць спіс.

У гэтым годзе, як абяцаў калісь, напачатку мая адведаю Беларусь.

Застаюся назаўсёды шчыразычлівым. Найніжэйшы слуга

*Ян Баршчэўскі.*

Аляксандр Гроза

## НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

### З аповесці пра Яна Баршчэўскага

Завіруха была жахлівая; сумёты снегу занясл дом і ўсе забудовы. У такі час і думкі няма, каб з пакояў высунуцца ці каб госць які паказаўся. Нібы дзеля кантрасту з навакольнаю прыродаю я ўсеўся каля добра напаленае печы і пачаў чытаць кнігу пра падарожжы па трапічных краінах[1]. Ды тут паведамілі, што нейкі вандроўнік хоча бачыць мяне.

Я выйшаў на калідор і ўбачыў зусім задубелага ад марозу чалавека, які прамовіў да мяне:

— Дазволь, пане, пагрэцца ды адпачыць у тваім доме.

— Калі ласка, — адказваю. — Няхай коней завядуць на стайню, лёкаяў — на кухню, а пана прашу ў маю канцылярыю.

— Мае коні, мае людзі і я, — кажа вандроўнік, сумна ўсміхаючыся, — гэтая тройца ў адной маёй асобе; пілігрымнічаю на паравай машыне, а гэта на пары ног, якія разам з сабою маю гонар пану рэкамендаваць. Вялікую пашану робіш мне, пане, запрашаючы ў сваю канцылярыю, я лічу за лепшае ісці на кухню: люблю вялікі агонь і размовы з лёкаямі, люблю цёплае піва з грэнкамі, бо ў святое памяці айцоў полацкіх езуітаў піва заўсёды было добрае. Дык папрашу бутэльку піва, акраец хлеба, то й добра буду прывечаны.

Я згадзіўся з гэтым архісціплым жаданнем і вярнуўся да свае печы; а мой госць накіраваўся на кухню.

Трэці дзень як завіруха не сунімалася. Пра свайго госця, што не трапляў на мае вочы, я амаль забыўся.

— Што гэта ты за дзівака прыгрэў? — спытала ў мяне жонка. — Нікога з лёкаяў даклікацца не магу: сядзяць усе ў кухні ды слухаюць лухту, што ён ім меле.

Я тым часам разам з Гумбальтам узыходзіў на вяршыню Чымбароса, але трэба было адкласці гэтую вандроўку ды самому ісці на кухню. Пайшоў, захутаўшыся ў воўчае футра і, хоць там сабраліся амаль усе лёкаі, ніхто не заўважыў майго прыходу. Яны збіліся каля печы, дзе ў кутку, прыклаўшы вуха да падлогі, ляжаў пан Севярын (так мой госць назваў сябе) ды казаў:

— Пяць дзён будуць яшчэ марозы, а пасля — дождж і вясна.

Ён змоўк і ўсе маўчалі. У шчыліне пяць разоў азваўся цвыркун.

— Чуеце? — запытаў ён. — Выразна цвыркнуў пяць разоў, дык пяць дзён будуць яшчэ марозы, пасля адліга і цёплая прыгожая вясна.

Ён падняўся, а лёкаі, заўважыўшы мяне, пачалі выходзіць за дзверы. Я застаўся з кухарам, кухоннай абслугаю і панам Севярынам.

— Скажы мне, пане, дзе ты набыў такога метэаралагічнага досведу і што за цікавыя рэчы апавядаеш маім людзям, якіх немагчыма даклікацца.

— Добрыя ў цябе людзі, пане, — адказвае ён. — Я сею зярняты, якімі мяне Пан Бог надарыў, а падаюць яны, здаецца, не на бясплодную раллю. Так, напрыклад, вучыў іх цяпер па цвырканню цвыркуна адгадваць надвор'е. Чалавек з-за свае ўлюбёнасці ў самога сябе, з-за думкі, што ён — цэнтр сусвету, а ўсе жывёлы павінны вакол яго круціцца, што ён робіць ласку, калі каго з іх сабе на спажытак выбера. Чалавек з-за гэтае пыхлівасці страціў сувязь з прыродаю, аслеп ды аглух. Нягледзячы на ўсё гэта, ён яшчэ цалкам не пазбавіўся дарагіх першасных дароў і мог бы вярнуць іх сабе, калі б стаў іншы. Чыстае сузіральнае жыццё адчыняе сэрца і вочы ды ўводзіць чалавека ў духоўны свет. Бачыш, пане, у куце гэтага павука?

— Бачу, — адказваю.

— Што ён робіць?

— Снуе сваю сетку.

— Сетку на мухі?

— Вядома!

— Э-эх! Калі б ты столькі пражыў у сяброўстве з павуком, колькі я, зразумеў бы, што ён не толькі пра мухаў думае. Павук — гэта мудры філосаф. Ён снуе сваю разумную сетку, а сетка — гэта ягонае пісьмо, гэта гісторыя ягоных пачуццяў, ура-

жанняў, успамінаў. Усміхаешся, пане, што я павуціну пісьмом называю? Нібыта дзеля таго, каб занатаваць нашыя думкі, абавязкова патрэбны гусінае пяро і атрамант! А inkassy [2] ці ж пяром занатоўвалі сваю гісторыю? Не, яны яе па-павучынаму вязалі на шнурках. Вязалі грубыя думкі на грубых шнурках. А павук прамяністую думку снуе ў сваёй далікатнай сетцы! І калі муха хоча яе парваць, дык ён яе так сваёю разумнаю сеткаю агорне, што змучаная дарэмнымі намаганнямі, яна ўрэшце страціць галаву, як і кожны дурань, які наважыцца ўблытацца ў справы мудраца. Промні павучынае сеткі адпавядаюць промням ягонае душы; ён сягае імі далёка, можа, далей за чалавека. Што павук адчувае і бачыць, таго чалавек ніколі адчуваць і бачыць не будзе: я прачытаў адно павучынае пісьмо.

Падкухар Ясік, што круціў парася на ражне, так заслухаўся, што прыпаліў парасячы бок. Пачаў яго кухар лаяць, а я, каб папярэдзіць надалей такія здарэнні, запрасіў пана Севярына ў маю канцылярыю.

Дзіўны чалавек! Ён не пажадаў назваць сваё прозвішча: «Клічце мяне Севярынам альбо панам Севярынам; адкуль і куды іду — навошта вам гэта ведаць». Відавочна, ён не меў, як гаворыцца, шурупа ў галаве. Незвычайнаю была ў яго антыпатыя да мухаў. Цёпла ў пакоі, адна няшчасная мушка паказалася на печы, дык ён датуль за ёю ганяўся, пакуль не забіў. Пабачыў маіх Людвіга і Марылю ды прыкіпеў да іх усёю душою: трое дзяцей, толькі адно з сівымі валасамі.

Высокі, тонкі, з прыўзнятымі плячыма і згорбленаю спіною, з доўгім бледным тварам, аграмадным носам, маленькімі вочкамі, неадпаведнаю росту галоўкаю. Дзеці яго вельмі палюбілі: ён будаваў ім з картаў выдатныя палацы, мяўкаў, як кот. А яшчэ тысячамі апавядаў казкі, але ў кожнай з іх мусілі дзейнічаць мухі, восы, матылі. Прабавіўшыся цэлы дзень з дзецьмі, вечарам ён станавіўся іншым чалавекам — суровым, сур'ёзным, глыбокадумным, набожным; рабіў заўвагі аб жыцці і прызначэнні чалавека, пра матэрыяльны і духоўны свет. Веды — менавіта ў прыродазнаўчых навуках — выяўляў шырокія. Відавочна, гэты чалавек размінуўся са сваім прызначэннем: ішоў у адно месца, а прыйшоў у другое.

Свяціла сонца, быў прыгожы пагодны дзень. У гасцёўні на сталі з'явілася некалькі мух, пан Севярын з дзецьмі пачалі ганяцца за імі. Скончылася тым, што Людвіг разбіў лоб ад рог фартэп'яна, а Марыля ўпала з крэсла. Маці забрала дзяцей у свой пакой, а пан Севярын у фанабэрыі вярнуўся ў канцылярыю. Сядзець аднаму яму было сумна, дык мусіў даць слова, што перастане ваяваць з мухамі.

Спраўдзілася яго прароцтва: было пяць дзён марозаў, цяпер — адліга і сапраўды паказвала на вясну. Пахадзіўшы па дзядзінцы, мы з ім зайшлі ў кухню.

— Праўду пан казаў, — азваўся кухар. — Было пяць дзён марозу і — хто ведае — можа, прыйдзе вясна.

— Я, мой каханы, заўсёды кажу праўду. Абавязкова будзек вясна. Я вясну так адчуваю, так бачу, як журавы, як дзікія гусі, як усе пералётныя птушкі. І мяне блізкая вясна прыгнала да вас. О! Я заўсёды кажу праўду, а самую вялікую тады, калі даводжу вам, што Пан Бог усё бачыць  і чуе, што Ён пасадзіў паўсюль сваіх дазорцаў, каб паведамлялі яму пра самы малы рух чалавека, пра ягоныя нават пачуцці і думкі. Вось гэты, напрыклад, павук: хіба не занатоўвае ён вашых учынкаў? Гэты цвыркун: хіба не апавядае, што бачыў, што чуў? А цвыркуна пачуе жаўрук, які ляціць на неба і ў вуха самога Бога ўсё-ўсё выспеўвае.

Чалавек з чалавекам могуць паразумецъ пры дапамозе мовы, а ці ж уся прырода нямая? Э-эх! Не, яна прамаўляе пра сябе і пра свайго знішчальніка, пра свайго ворага — чалавека. Адкажыце мне: што такое гамонка дурных галак, як не паўтор гарадскіх размоваў? А стракатанне сарокі? Ці не балбатня гэта якое местачкоўкі? А вуханне савы? Ці не казанне гэта пэўнага філосафа? Калі б вы пражылі столькі, колькі я, у лясах, дык вы б разумелі мову птушак так, як і я яе разумею. Але ж у птушак жыццё простае, няшмат пра што ёсць гаварыць, дык пра што яны гамоняць? Паверце мне: нябачнаму духу апавядаюць пра чалавека, што бачылі ды чулі. А гэты звон жамяры, калі прыгрэе палудзённае сонца... Ды я жамяру цярпець не магу, хоць быў час, калі яе любіў больш за ўсё.

Мы б зноў мелі прыпаленую смажаніну, каб я не забраў пана Севярына з сабою.

Вясна! Прыйшла вясна, прыляцелі буслы, гледзячы на якіх, пан Севярын сказаў:

— Калі б вы ўмелі назіраць за птушкамі, — шмат цікавых рэчаў даведаліся. Старажытныя людзі былі больш кемлівыя, чым мы. Але і цяпер, калі пабудзеш сярод вандроўных народаў, даведаешся, што ў іх звяры — а, перадусім, птушкі — гэта тэлеграфы, пошта. Яны па іх лёце, па крыку шмат чаго могуць прадбачыць. Атыла пасля трохгадовае аблогі збіраўся адступіць ад Аквілеі[3], але калі заўважыў, як гэты горад пакідаюць буслы, закрычаў: «Наканавана гэтаму гораду быць у руінах, і буслы гэтае наканаванне ўжо зразумелі». Ён рушыў, здабыў і зруйнаваў Аквілею.

Якое мілае надвор’е, свеціць сонца, цёплы ветрык асушае зямлю. Мы выйшлі ў сад, дзеці бегалі па траве, а я пачаў агля-

дацъ прышчэпы. Тут пачуў пранізлівы голас пана Севярына, які, убачыўшы ля падмурка дома чырвоных жучкоў і забіваючы іх, крычаў:

— Га! Чырвоныя д`яблы, вы ўжо і сюды трапілі! Хочаце ўжо і ў гэтым ціхім дамку парушыць спакой ды знішчыць шчасце! Чаму, пане, — звярнуўся ён да мяне, — абыякава пазіраеш на тое, што дзеецца каля вашага дому? Стаіш склаўшы рукі, а гэтыя няпрошаныя госці паселяцца ў тваім доме, узбунтуюць супраць цябе тваіх дзяцей. Ох! Бедны прэзыдэнт быў спакойны, абыякавы, а я — найлепшы ягоны прыяцель — дапамог ягоным ворагам, загубіў ягонае каханае дзіця.

Ён схапіўся за галаву і бегаў, смеючыся, па сцежках; бегалі за ім дзеці, але я спыніў іх і доўга са шкадаваннем глядзеў на гэтага нешчаслівуца...

Вечарам выйшлі мы з ім на праходку. За брамаю ля дарогі ён знайшоў нежывога жука, узяў яго ў рукі, пачаў ківаць галавою, і слёзы паліліся ў яго з вачэй.

— О! Пачцівы жук! — прамовіў ён. — Вось і твая чарга прыйшла, вось ужо і не сыйсціся нам у тваім кабінеце, які ты сваёю працаю і навукаю ўпрыгожваў ды ўзбагачаў. Толькі пад зямлёю, у кабінеце смерці, дзе чарвяк, вывучаючы анатомію, рыхтуе шкілет за шкілетам. Перад кім жа я пахвалюся сваёю працаю ды навукаю? Каму перакажу багацце сваіх думак? Прамень веры, запалены табою ў маёй душы, свяціў мне ў цямрэчы жыцця. Святло твае навукі ўвяло мяне ў таямніцы прыроды. І я жыў з Богам і прыродаю, як вучыў ты, як казаў ты.

Усеўшыся на мурагу, ён прасіў, каб і я сеў ля яго; і не зводзячы вачэй з нежывога жука, так апавядаў далей:

— Ксёндз Фульгенты — разумны прафесар і пачцівы чалавек — любіў моладзь, і яна сімпатызавала яму. Быў ён малога росту, меў чорныя валасы, размаўляў, як гудзеў; а з тае прычыны, што выкладаў нам натуральную гісторыю ды збіраў жамяру, — мы называлі яго жуком. Любілі мы ўсе ксяндза Жука. Не абцяжарваў ён нас тэрміналогіяй, але апавядаючы пра цуды Божыя, вучыў у кожнай істоце адгадваць думку Стваральніка. Прыводзячы факты звярынага інстынкту, ён шмат каму з нас адкрыў вочы, і думкамі, і высновамі паказаў шырокае поле. Усё жывое — адчувае, калі адчувае — мусіць пакутаваць, але нашто гэтыя пакуты? Ці не дзеля таго, каб мы лепей пазналі жыццё? О, не! Дзеля таго, каб верылі, што ёсць іншае жыццё, лепшае за жыццё матэрыяльнае, дзе пакутаў не будзе.

— Рэвэрандысімо[4],— запытаў яго раз адзін з маіх калегаў. — Рэвэрандысімо, ты нязменна нагадваеш нам, што кожная навука — гэта шчасце для чалавека, які займаецца ёю, і дабрадзей-

ства дзеля чалавецтва. Цікава, якое мне будзе шчасце, калі даследую ўсіх жукоў ды мухаў, і якое можа быць з гэтага дабрадзейства чалавецтву?

— О, мой каханы! — адказаў ксёндз Жук. — Ты гаворыш, як той араты, што сее збожжа і бачыць астранома, які праз тэлескоп назірае за небам. «Калі б я не здабыў яму хлеба, — кажа араты, — дык ён, гледзячы на свае зоркі, памёр бы з голаду». Але ж развіццё астраноміі выклікала развіццё навігацыі, павялічыўся гандаль і сельскагаспадарчыя прадукты прынеслі аратаму аграмадны прыбытак. Аднак араты не разумее таго, што астраном, які вылічае становішча зорак, знаходзіць ягонай прадукцыі бяспечны і найбліжэйшы гандлёвы шлях.

Простыя, як ты, мой каханы, людзі, бачачы толькі тое, што ім недалёкі розум кажа, не могуць ацаніць ні вучоных, ні іхнія заслугі. Дык і нядзіва, бо ведаюць яны толькі матэрыяльны свет, а духоўны свет, свет вышэйшы яны не разумеюць. Мудрэц за сваім сталом ў глыбіні свайго кабінета бывае за адну хвіліну болей зробіць, чым усе аратыя і рамеснікі ўсіх стагоддзяў. Той, хто першы прыдумаў выкарыстаць пару як рухаючую сілу, нязмерна павялічыў нашую моц, мільёны волатаў даў на паслугі. Хоць знаёмства з адною галіною прыродазнаўства і не творыць навуку, аднак жа, калі б (як кажаш) даследаваў усіх мухаў ды жукоў, дык ужо быў бы вялікім чалавекам, бо ведаў бы адну частку Божага стварэння, спасціг бы адзін з праменьчыкаў Божае мудрасці. Не абыдзеш зямнога шара ва ўсе часы і ва ўсіх кліматах, дык ані ты, аніводзін чалавек не даследуе нават усіх мухаў ды жукоў.

Пакаленне перадае свае працы пакаленню; тыя працы і высновы часам хіба што далёкія нашчадкі выкарыстоўваюць; такім чынам развіваліся навукі. Калісьці і з даследаванняў над жамярою ўзнікне пэўная вялікая ды карысная для чалавецтва навука. Яшчэ грэкі займаліся асобнымі ўласцівасцямі бурштыну, але толькі ў наш час глыбей пачалі даследаваць электрычнасць і з ужывання якое, бадай, ці не атрымаем найкарыснейшыя вынікі.

Жамярынае каралеўства — гэта, відаць, пераход матэрыяльнага свету ў духоўны. Ва ўсім гэтым відзе велічыня адзінкі здрабляецца і пераменяецца ў зборную велічыню; урэшце яна знікае з вачэй, расплываецца ў хвалях паветра і пра сваё існаванне нагадвае нам толькі звонам, нібы апошнім развітаннем з матэрыяльным светам. У класе чатырохногіх слон, самы вялікі памерамі, мае найбольш звярынага розуму; мураш, невылічальна меншы за слана, таксама мае дасканалую будову і дасканалы звярыны розум; толькі прыгледзься да ўнутранае

будовы ягонага мурашніка, падумай пра ягоную мудрасць пры любым здарэнні, дык назавеш слана варварам.

Калі б ты, мой каханы, пачаў даследаваць нават тое ж жамярынае каралеўства, дык павер мне, што хутка выкінуў бы з галавы ўсё пустое і стаў бы ўрэшце сталым чалавекам. Прыродазнаўчыя навукі людзям, якія займаюцца імі, нязменна нагадваюць пра першапрычыннасць Бога ў свеце, а абавязковаю апекаю над кожнаю істотаю расчульваюць, надаюць шляхетнасці сэрцу. Вялікія натуралісты былі самымі высакароднымі людзьмі. Дастаткова прыгадаць Лінеуша[5], Буфона[6],Банета[7]. А калі і ты станеш чулым, пачцівым чалавекам, дык ужо гэтым твае мухі ды жукі зробяць чалавецтву вялікую паслугу.

Прамова ксяндза Жука зрабіла на мяне моцнае ўражанне. Пацалаваўшы яму руку, я папрасіў, каб дазволіў мне працаваць пад ягоным кіраўніцтвам. Ён абняў мяне як бацька і загадаў штодзённа прыходзіць у ягоны кабінет.

Кабінет натуральнае гісторыі быў у нас яшчэ вельмі бедны — аніводнае калекцыі жамяры, дык я вырашыў паклапаціцца пра гэта.

Напачатку я меў шматлікіх памочнікаў, але спакваля пачалі яны нудзіцца, губляць цярпенне, урэшце — застаўся я адзін. З сачком у руках, з вылітаю воскам шуфлядкаю пад пахаю я лётаў па палях, лугах, лясах, часам маркотны і задумлівы, часам легкаважны і вясёлы; калі-нікалі ґробся ў гноі, сметніках, брудзе, сяды-тады лазіў па дрэвах, а калі знаходзіў штосьці новае, чаго і сам ксёндз-прафесар не ведаў, — як я радаваўся.

Мае таварышы, жартуючы з мяне, празвалі мяне мухаловам, а я адпаведна іхнім кепскім звычкам і схільнасцям падбіраў мянушкі з жамярынага каралеўства. І вось гэты зрабіўся палявым конікам, гэты — вусенем, гэты — аваднём, гэты — асою і г.д. Меў я крыху досціпу, пісаў сякія-такія вершы, напрыклад,эпіграмы на палявога коніка, на авадня, на асу ды іншых. Усе ведалі, да каго гэта дастасуецца, смяяліся, вучылі мае эпіграмы на памяць. Урэшце прыйшло да таго, што ўвесь клас, дзе я вучыўся, разам з настаўнікам ператварыўся ў калекцыю жамяры.

Жаданне дастасоўваць чалавечыя характары да жамяры перайшло ў мяне ў азарт. Толькі я каго ўбачу, зараз жа шукаю ягонае падабенства сярод мае жамяры. Меў я ў сваіх шуфлядках усіх знаёмых з эпіграмамі, з паказкамі пра іх. Гэта надзвычай бавіла мяне, няраз па колькі гадзінаў размаўляў сам з сабою, смяяўся сам сабе.

Аднойчы, выходзячы з касцёла, я ўбачыў дачку прэзідэнта... Яе прыгажосць зрабіла на мяне надзвычайнае ўражанне. Ад-

разу ж пачаў шукаць у сваіх шуфлядках сярод найпякнейшых матылёў падобнага на яе. Але дарэмна. «Быць не можа, — казаў сам сабе, — каб прырода, стварыўшы такую прыгажосць у адным каралеўстве, не стварыла адпаведніка ў другім; мусіць быць, і нават у гэтай жа мясцовасці!» І я лётаў па лугах, палях, лясах, ды марна. Ідэал цудоўнае дзяўчыны застаўся толькі ў маёй душы, а на зямлі, апрача яе, нічога такога прыгожага не было.

Раз, калі змучаны доўгаю дарэмнаю вандроўкаю, маркотны вяртаўся дадому, спаткаў мяне дзядуля, якога мы называлі Драўляным Дзядком*. Ён, зірнуўшы на мяне, загукаў: «Нешчаслівы хлопча! Ты будзеш выгнаны з раю тваіх мрояў, пойдзеш цярністаю дарогаю, а твая жамяра ў вобліку страшыдлаў будзе гнацца за табою!» Скажы, калі ласка, адкуль у тае драўлянае галавы такая мудрасць?! Адгадала да ёты! Ох! Колькі ж я нацярпеўся!

Пачало змяркацца.

— Трэба нам вяртацца дадому, — прамовіў я.

— Зараз, зараз, — адказвае пан Севярын. — Вось толькі пахаваю майго настаўніка.

Ён выкапаў дол, пахаваў у ім жука, памаліўся нейкі час, пасля падняўся. Вярталіся мы моўчкі.

* * *

Бачачы, што я завіхаюся на пчольніку, прыйшоў да мяне пан Севярын і пачаў дапамагаць парадамі. Пасля працы мы ўселіся пад каштанамі, і ён сказаў.

— Ах! Якога сціплага шчасця прагнуў я ў дзяцінстве, але здзейсніцца гэтаму волі Божае не было. Я думаў, што пасля доўгага, у карыснай працы жыцця пайду ў які зацішны куток і, разважаючы пра Бога ды славячы Яго, правяду там рэшту маіх дзён. Пад разложыстым дубам альбо ліпаю пабудую сабе паводле старога славянскага звычаю хату з вялікім камінам, у якім бы ўсю зіму не затухаў агонь, з высокім дахам, пад якім бы вілі гнёзды галубы, ластаўкі. Побач будзе пчольнік, у нізіне — сажалка, над домам на ліпе — буслянка. Біблія, Жыціі святых — уся бібліятэка. Летам працуючы на пчольніку, узімку робячы з

* Пра гэтага Драўлянага Дзядка чытай апавяданні п. Баршчэўскага (заўвага аўтара).

свайго воску свечкі для касцёла ды чытаючы свае кнігі, я буду жыць спакойна, а можа, і шчасліва. Але праклялі мяне мурашы, дык і сціплыя мае мары не здзейсніліся.

Не знаходзячы аніводнага такога, як яна, матыля, я пачаў прасіць Бога, каб дазволіў мне ўбачыць яе яшчэ раз. Прыйшло мне ў галаву даставаць з мурашнікаў бурштын і, даволі многа яго назбіраўшы, я занёс той бурштын у якасці ахвяры ў касцёл*...

Дзіўным чынам здзейсніліся мае жаданні. Два сыны прэзідэнта знаходзіліся ў канвікце[8]. Забіраючы іх на вакацыі, бацька запрасіў з сабою ксяндза Жука, а той заявіў, што без мяне не паедзе, бо я неабходны яму для ягоных энтамалагічных даследаванняў.

І вось я паехаў да прэзідэнта — пабачыў, пазнаёміўся з самаю прыгожаю з усіх прыгожых.

Наглядзеўшыся ў часе абеду і вячэры на паненку Эму, я бег шукаць сярод дзікае прыгожае прыроды пацехі для свайго сэрца. Мясцовасць тая — як і шматлікія іншыя на Беларусі ды Інфлянтах — мела ў сабе нешта дзіўна-маркотнае і прыгожае адначасова. Спрадвечны хваёвы бор раскінуўся вакол вялікага чыстага, як люстэрка, возера; ён, дзякуючы руплівасці прэзідэнта і ягоных продкаў, нагадваў пышны парк; упрыгожаныя зялёнымі каронамі стаялі магутныя дрэвы -мачты і вялі вечную гамонку з ветрам. Глухі шум бору злучаўся са спакойным шумам возера ды гучаў у маёй душы таямніча і дзіўна. Я любіў прыслухоўвацца да яго цэлымі гадзінамі, а часам і цэлымі днямі. Няраз адплыўшы ў рыбацкім чаўне далёка ад берагу, склаўшы вёслы і здаўшыся на волю хваляў, я гайдаўся па гэтым акіяне, а неба было нада мною і пада мною, а мая душа ў райскім захапленні была гатова да найчысцейшых, найшляхотнейшых учынкаў; слёзы цяклі ў мяне з вачэй, і мне прыемна было далучыць іх да празрыстае вады возера. Такі шчаслівы стан — і чаму ж ён доўжыся так мала?! Больш ніколі і нідзе ён не хацеў вярнуцца да мяне.

У прэзідэнцкіх вёсках стаяла войска, кавалерыя, гусары ў чырвоных мундзірах. Адзін з іх убіўся ў дом прэзідэнта і, ветліва прыняты, стаўся штодзённым госцем. У гэты час прыехаў з Вільні настаўнік танцаў Дзявоні. З дапамогаю суседзяў склалі чатыры пары і пачалася навука кантрадансаў[9]. У гэты склад уваходзіў і пан гусар, але праз колькі ўрокаў пану паручніку бацька адмовіў ад дому, а мяне прасіў, каб заняў ягонае месца.

---

* У мурашніках у хваёвых лясах знаходзіцца брылёчкі жывіцы, што колерам і пахам вельмі нагадвае бурштын (заўвага аўтара).

Мая нязграбная постаць ды насмешкі іншых танцораў абуджалі ў Эмы пагарду. Я перапрашаўся, запэўніваў, што без майго жадання прымушаюць мяне да танца, што я зараз нават выеду з іхняга дому, калі яна жадае гэтага. Глянуўшы на мяне звысоку ды змераўшы вачыма, яна пасля нейкага вагання прамовіла:

— Скачы сабе, васан, мне ўсё роўна.

І пачаў я выламваць сабе ногі ды разгінаць спіну; але калі б спыніўся на тым, што паказваў настаўнік, дык быў больш, чым смешны, і ўвесь кантраданс не ўдаўся б. Скакаць на вачах сур'ёзнага ксяндза-прафесара не выпадала, дык прыгадаўшы, што сланоў у Рыме вучылі для гульняў удзень, уночы ж яны самі паўтаралі дзённую навуку, я, пайшоўшы ў глыбіню лесу, скакаў на жоўтым пяску пад хвояю ці ялінаю колькі хапала сілаў...

Колісь я прагнуў быць, як святыя мужы, пустэльнікам і, абраўшы за ўзор Марыю Егіпецкую, што 40 гадоў пражыла ў пустыні, накіраваўся ў Біржанскія лясы.* У той час гэтыя лясы ледзь кранала сякера; злучаючыся з Марынхаускімі лясамі, яны ўтваралі аграмадную пушчу, якая падыходзіць да возера Любань, што на старых геаграфічных картах завецца mare Lubanicum. Спушчаная з возера, частка вады адкрыла шырокія берагі, на якіх пачалася моцная вегетацыя: там нашыя звычайныя травы растуць да нябачанае вышыні, кветкі ды зёлкі ўзнімаюцца высока ўгору. На возера ляцяць хмары дзікіх качак, гусей, лебедзяў, на балоты — чароды журавоў, турухтанаў, бакасоў. Магутная пушча засланяе ад чалавечага вока гэтыя паветраныя плямёны і яны весела ды бяспечна пачуваюць сябе на волі. Якая там вясною гамана, якое жыццё! Бо гэты банкет прырода дае дзеля пачосткі сваіх згаладнелых далёкіх гасцей. Рыбы выходзяць на водмель, лясныя і водныя гады поўзаюць між невысокімі травамі; ракападобныя і чарвякі вылазяць з зямлі; адно жыццё ідзе на аджыўленне другому, — і гэта ў часе юрлівага шалу, у часе новага амаладжэння маці-прыроды. Тут не трэба Одзіна[10], каб пачуць, як растуць травы; не паспееш азірнуцца, — а ўжо ўсё ўзнялося, травы схавалі турухтанаў і журавоў, чароты засланілі дзікіх гусей і лебедзяў, па-над травою буяюць ружовыя, жоўтыя, белыя кветкі, па-над чаротам гайдаюцца іхнія палевыя султаны.

Тут пачынаецца шум, гул, спевы іншага каралеўства: узнімаюцца хмары размаітай жамяры: ад цудоўных барваў матыля аж да мікраскапічнае мушкі. Усё, што хавалася ў кары і

---

* У Віцебскай губерні ў Люцынскім павеце (заўвага аўтара).

шчылінах дрэў. У зямлі, балоце лучыцца ў адну хмару, спявае, ззяючы на сонцы крыламі. Але маладое птаства выцягвае свае жоўтыя дзюбы, просіць корму, — бацькі багата яго прыносяць, і, ачышчаны, супакойваецца паветраны свет...

А ў лясах кожнае дрэва — гэта асобны маленькі свет. Між каранёў жыве вуж, у спарахнелай сярэдзіне — куніца, вышэй скача вавёрка, яшчэ вышэй, на галінах — гнёзды розных птушак, а на самай верхавіне — крук, альбо бусел, альбо чапля, альбо арол заснавалі сваю сталіцу. Лічынкі жамяры — гэтыя вечныя гравёры нябачных вокам малюнкаў — адны туляцца пад карою, іншыя вісяць на лістоце. І ўсё гэтае каралеўства жыве ў згодзе, не шкодзячы адзін аднаму, не сварачыся, а нават баронячыся разам. Раз сава заняла буслянку, пад якою былі ластаўчыны гнёзды, — што скажаце? — шанавала грамадзянства і жыццё старых жыхароў. Каб вы ведалі, якія сцэны я назіраў шмат разоў, дык прызналі б за звярамі нешта большае, чым інстынкт.

Каралеўства, якое я, так скажу, прыняў пад сваё кіраўніцтва, не было аднастайным ці нецікавым. Бо што ні крок, што ні мясціна, то іншыя жыхары, іншыя звычаі ды парадкі. У багністых зараслях сарна гадавала сваіх казлянят, жыў дзік са сваёю свіннёю і падсвінкамі; у глухіх ярах, зацемненых густым зялёным піхтавым мурам, свяціла вачыма рысь, і мядзведзь рабіў на зіму сухую бярлогу. На лугавінах пасвіліся ласі, а ў пэўных, нібы на адмеранай адлегласці мясцінах знаходзіліся жамярыныя гарады, мурашнікі, — працавітыя, прыстойныя рэспублікі. Што і казаць пра пчаліныя борці, якія сям-там рабіў чалавек, а большасць яны самі сабе знаходзілі ды ўпарадкоўвалі.

На пагорку ў дзікіх нетрах я заўважыў дуб-волат, нібы прабацьку ўсяе пушчы. Вакол яго было чыста прыбрана, а пад ім стаяла ў драўляных місках розная ежа, мёд; на галіне вісеў белы ручнік. Гэта жыхары тых ваколіцаў — латышы, нягледзячы на столькі вякоў хрысціянства, яшчэ не маглі адрачыся ад свае даўняе рэлігіі ды прыносілі ахвяры лясным багам.

Калі ўбачылі, што я нікому нічога кепскага не чыню, перасталі мяне палохацца птушкі, звяры. Але маючы перакананне, што мала не чыніць кепскага, а каб жыць у згодзе з сабою, трэба рабіць дабро, — я стараўся прыдумаць, як зрабіць каму якую паслугу. Першы зручны выпадак дала мне сарна. Яна ішла з казлянятамі, пераскокваючы цераз вымытыя дажджом ямы. Адно з казлянят трапіла ў яму і аніяк не магло вылезці. Крычала беднае казляня, крычала матка. Пачуўшы гэты крык, я прыйшоў і вызваліў казляня. Матка здаля пазірала

мне ў вочы, а калі я адпусціў ейнае дзіця, яна прыбегла і пачала лізаць мне ў руку.

Раз патрапіў на мядзведзя, які ламаў галлё на бярлогу. Маючы з усяго інструмента толькі невялікую сякеру, я пачаў секчы галлё ды сцягваць яго да мядзведзя. Ён глянуў на мяне і здагадаўся, што я дапамагаю яму. Калі падалося мне, што мы прыгатавалі дастаткова матэрыялу, я, засунуўшы сякеру за пас, рушыў у сваю дарогу. Тут пачуўся тупат: бяжыць мой мядзведзь і ў пысе нясе соты з мёдам. Я спыніўся, а ён, паклаўшы перада мною мёд, вярнуўся назад. Увесну, калі ўжо растаў снег і балотныя лугавіны пакрыліся кветкамі, я нарваў зёлкаў, якія завуць казяльцамі, што так шукаюць вясною мядзведзі, і вялікі пук прынёс да бярлогі. Я прыйшоў у час, калі мой мішка прачынаўся са свайго зімовага сну. Ён адкрыў вочы і, убачыўшы прынесеную страву, замыкаў, падышоў да мяне і паклаў лапу на маё плячо. З таго часу мы моцна сябравалі.

Ці мурашу, ці птушцы, ці каму іншаму, калі мог зрабіць што добрае, — рабіў і адчуваў, як расла ў маім сэрцы любоў да ўсяе прыроды. О! Чалавек прызначана панаваць у прыродзе, бо мае сэрца, здольнае да ўсеагульнай любові.

Напачатку я шкадаваў, што не маю з сабою ні інструментаў, ні кніг-дапаможнікаў. Пазней заўважыў: яны мне зусім не патрэбны, бо я прыйшоў жыць з прыродаю, а не збіраць з яе ўзоры. З шумам дзівоснага лесу, з шумам аграмаднага возера я маліўся да Тройцы, маліўся, як мяне навучыла мая святая вера...

# КАМЕНТАРЫІ

Як сведчаць сучаснікі, літаратурнай творчасцю Ян Багушэўскі займаўся з юначых гадоў. Але ў друку вершы паэта з'явіліся толькі ў 1840 г. (альманах «Niezabudka»). Увогуле, 40-я гг. — гэта зорны час Я. Багушэўскага: ледзь не штогод у перыёдыцы альбо асобнымі выданнямі выходзяць ягоныя творы.

Пасля смерці паэта доўгі час ягонае імя амаль не згадваецца ў літаратуразнаўчых працах, а ягоная літаратурная спадчына не перавыдаецца. І толькі ў другім дзесяцігоддзі нашага стагоддзя Рамуальд Зямкевіч надрукаваў беларускамоўныя вершы Я. Баршчэўскага; затым Wit. F. (пэўна, нехта з сваякоў Вацлава Федаровіча, віцебскага краязнаўцы і аматара даўніны) змясціў у альманаху «Z okolic Dźwiny» (Віцебск, 1912) два польскамоўныя вершы паэта. А яшчэ праз некалькі год Янка Станкевіч ды Язэп Лёсік пераклалі і выдалі шэраг аповесцяў з «Шляхціца Завальні». Максім Гарэцкі і Уладыслаў Дзяржынскі ўключалі творы Я. Баршчэўскага ў свае хрэстаматыі па беларускай літаратуры. У 30 — 60-я гг. з прычыны панавання ў беларускім літаратуразнаўстве вульгарна-сацыялагічных тэндэнцый даследаванне, вывучэнне і перавыданне твораў Я. Баршчэўскага не вялося. (Выключэнне — праца Н. Перкіна пра пісьменніка, выдадзеная ў 1980 г. у кнізе «Абсягі думкі».) І толькі напрыканцы 60-х гг. Адам Мальдзіс пачаў «рэабілітацыю» літаратурнае спадчыны Я. Баршчэўскага. А ў 1971 г. С.Х. Александровіч, А.А. Лойка і В.П. Рагойша змясцілі шэраг твораў паэта ў хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя».

У 1990 г. выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет кнігу Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантас-

тычных апавяданнях», куды апрача аднайменнага твора ўвайшла і аповесць «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта».

Цяперашняе выданне — найбольш поўнае: друкуюцца ўсе буйныя празаічныя творы Я. Баршчэўскага, уся беларускамоўная паэзія, значная частка яго польскамоўнай паэтычнай спадчыны, ацалелая карэспандэнцыя.

## ВЕРШЫ

### *Дзеванька (с. 31)*

Верш упершыню надрукаваны ў альманаху Р. Падбярэскага «Rocznik Literacki» (т.1, 1843) як народная песня з нотамі Антона Абрамовіча. Праз паўтара года ў артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (1844) Р. Падбярэскі ўжо сцвярджаў, што «Дзеванька» — гэта твор Я. Баршчэўскага, напісаны ў 1808 г. 18-гадовым паэтам, закаханым у панну Максімавічанку. Падставай для такога сцвярджэння, трэба думаць, былі аповяды самога Я. Баршчэўскага пра сваё юнацтва.

### *Гарэліца(с. 32)*

Першая публікацыя — у альманаху «Rocznik Literacky» разам з «Дзеванькай» і народнай песняю «Зязюля». У гэтым жа 1843 г. «Гарэліца» друкавалася яшчэ раз у паклёпніцкім артыкуле П. Кушына «Гецыки» («Москвитянин», 1843, т. 8) і здзекліка называлася «национальной песенькой». Адрозненні варыянтаў даволі значныя:

Гарэліца, гарэліца, да ты весялуха,
Брала мяне цераз усю ночку сукруха.
Ці лёгка ж мне было цярпець цераз усю ночку:
Відзеў я сабе ува сне парожную бочку.
Пагляджу я на вуліцу — панава каляска...
Як папаліся мне ў рукі штохвіцык і фляшка.
Заюкаю, заюкаю дай запаклікаю:
Хвала Богу, што даждаўся, вот тут папіваю.
Ай пабедная галоўка, дзе мне тут падзецца?
Як даведаецца жонка — са злосці апражэцца!
Як прыйду ў сваю я хатку — тут жонцы вяроўка,
А вот з панам разбірацца гэта віць ня лоўка...
Перад панам мужыку чым будзе атвеціць?
Едыную маю свінку — і тая палеціць...

— Ай, паночак, — буду казаць, — цяпер мае гора,
Сена касіў, сена грабіў цэлы дзень учора...
А пан мяне паслухае і міласць пакажа,
Яшчэ хлопцу румку водкі паднесць мне прыкажа...

У 1887 г. П.В. Шэйн выдаў «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края», дзе пад нумарам 651 змешчана песня — яшчэ адзін варыянт «Гарэліцы» Я. Баршчэўскага:

Гарэлачка мая весялуха!
Усю ночку брала мяне скруха:
Як не відзеў я цябе,
Было ж то цяжка мне.
А цяпер жа папалася
Ў мае рукі фляшка:
Вот тут то прыугойкну,
Вот тут то прыплёсну,
Задам жа я плясуху!
Будзе, будзе гарэлачка,
Будзе ў маім бруху!
Прыйду дамоў — жонцы вяроўка,
І з панам разабрацца
Не будзе мне лоўка.
— Ай, паночак, маё гора!
Касіў пожню і гроб сена
Цэлы дзень учора.
І пан за гэта мне нічога,
І ласку сваю мне пакажа,
І хлопцу келіх гарэлкі
Даць прыкажа.
І тут я прыугойкну,
І тут я прыплёсну,
Задам жа плясуху!
Будзе, будзе гарэлачка,
Будзе ў маім бруху!

*Размова хлопаў (с. 33)*

Варыянт паэмы Я. Баршчэўскага, знойдзены ў следчай справе пра бунт крошынскіх сялян, на нашу думку, больш блізкі да аўтарскага, бо варыянт, апублікаваны Р. Падбярэскім (гл. артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі»), мусіў праходзіць цэнзуру, дык аўтар альбо выдавец маглі ўнесці адпаведныя змены, прыхаваць рэчыпаспалітаўскі патрыятызм паэта. (А тое, што Я. Баршчэўскі быў прыхільнікам аднаўлення Рэчы Паспалітае, — не выклікае сумнення.) Да таго ж, варыянт перапісаны Паўлюком Багрымам самы ранні — 1828 года.

16 Зак. 909

У друку першая згадка пра паэму Я. Баршчэўскага з'явілася ў кнізе А. Рыпінскага «Białoruś...» (Парыж, 1840). Літаратар-эмігрант прысвяціў твору невялічкі раздзел:

*ПАЭМА*

*« — Калі прапусьціш хоць дзень,*
*Дадуць, як у берэсьцень!..»*

***Вось змест, ці рэзюмэ (extrat), таго ўяўлення пра паншчыну, якое мае пра яе беларускі селянін: «прапусці хоць адзін дзень, — кажуць, — дык усыплюць табе — колькі ўлезе».***

***Сама іхняя назва паншчыны — «прыгон», ад слова «прыганяць» (прымушаць, гнаць, прыгнятаць), даводзіць, што яны не надта ахвотна ідуць на працу.***

***Берасцянём яны называюць стары разбіты гаршчок, звязаны ці, хутчэй, аплецены бярозаваю карою, альбо лыкам.***

***Вядома, што посуд, зроблены з гліны і добра апалены ў печы, пакуль новы і цэлы, звініць, калі пастукаеш па ім пальцам альбо чым іншым. Так яго, уласна, купляючы, выпрабоўваюць гаспадыні. А як толькі ён паколецца, дык ужо не варты нічога і ніякага гуку больш не выдасць — служыць не для варыва ды смажэння, а каб ссыпаць у яго якое збожжа, уліваць густы цягучы мёд, смалу, дзёгаць і іншыя нявадкія рэчавы.***

***Нямы стан паколатага, а пасля звязанага гаршка даў паэту дзівосную метафару.***

***Я працытую тут два ўрыўкі з вялікае паэмы, якую перадаюць у нас з вуснаў у вусны па ўсёй Беларусі і якую ведаюць у нас пад назвай «Бунт сялян супраць аканома». Гэтай паэме я хачу прысвяціць увесь гэты раздзел.***

***Я не ведаў яе ўсю на памяць ніколі, бо была вялікая. Міла было б мне пазнаёміць чытача з ёю, бо яна сапраўды пацешная. То прывяду хоць невялічкі ўрывак, што захаваўся ў маёй памяці, адначасова просячы суайчыннікаў, што засталіся ў краі, каб не выпусцілі з поля зроку гэтага важнага для нашае літаратуры помніка. Ён накшталт тае казацкае «Энеіды», вядомае ўсім у пацешным перакладзе:***

*Эней був паробок моторны,*
*І хлопец хоць куды козак! і г.д.*

***Ды больш важны, бо нацыянальны!***

***Разбэшчанае ў 1812 годзе маскоўскае сялянства цар Аляксандр сваімі пастановамі заахвочваў страляць, як вераб'ёў, замерзлых у полі французаў; гэтым крыху заразіліся ў асобных мясцовасцях і нашы пачцівыя мужыкі. І адны і другія так было падахвоціліся да злачынстваў, што лёгка маглі забіць дзе-небудзь пры сустрэчы пана альбо цішком прыдушыць ягонага аканома.***

*Прыгаданая паэма апісвае падобную іхнюю змову, што пачынаецца так:*

*Водка крэпка, мера спора, —*
*Будзем піць — забудзем гора!*
*Пойдзем ад хаты да хаты,*
*Ці хто голы, ці багаты;*
*А як нам будзе весяло —*
*Сабярэцца ўсё сяло...*

*Тут, калі яны так раяцца, сабраўшыся ў карчме, п'юць, чубяцца, б'юцца, — з'яўляецца аканом. Ша! Усе, як у школе, калі зойдзе настаўнік, хто як можа ўцякаюць. У паэме гэта апісваецца так:*

*Цыццы, братцы,ураднік надходзіць!*
*А Дзям'ян Грышку за хахол водзіць.*
*Як расхадзіўся Пракоп*
*Ды Мінку па мордзе — хроп!*
*Відзіць Мінка, што тут худа,*
*Абярнуўся туды, сюда.*
*Бедный наўцёкі дзярэць,*
*А куды відзіць, туды бярэць!.. і г.д.*

*Спадзяюся, што кампазіцыя і вобразнасць дастаткова пацешныя?!*

Урыўкі з паэмы Я. Баршчэўскага, надрукаваныя Р. Падбярэскім, і радкі з яе, змешчаныя ў «Памятной книжке Витебской губернии на 1864 год» А. М. Семянтоўскага, розняцца ідэйнай накіраванасцю. У А. М. Семянтоўскага твор стаў не толькі антыпанскім, але і антыпольскім:

Калі французская сіла
К нам за Дзвіну наступіла,
Як зачало панову карціць:
Як бы Польшчу вараціць!
Аднак сядзелі ціха,
Аж устала бальшое ліха:
Наехала французаў повен наш двор.
— Нутко, братцы, будзем дзелаць збор!
У двары клеці паразбівалі,
Панову нашых у лес загналі,
А нас вялелі пазбіраць,
Штоб гарэлку піць і браць...
А чаму ж і баб не пазвалі?
Калі гуляць, так гуляць,
Будзем і мы паноў рабаваць!
Дробную шляхту паабдзіраем,
Дай к чорту папраганяем!
Досыць нас бізуном сеч,
Цяпер і мы будзем іх печ.

Цяпер наша пара жыць, гуляць,
А аканомаў у саху запрагаць!

А вось радкі паэмы, якія захаваліся ў памяці А. Рыпінскага, сталі своеасаблівым звяном, што «далучае» да твора Я. Баршчэўскага апісанне гулянкі сялян у панскім маёнтку; гэтае апісанне захавалася ў «Гецыках» П. Кушына, у фальклорных матэрыялах П.В. Шэйна, а таксама ў «Белорусских песнях, собранных И.И. Носовичем» («Записки императорского русского географического общества. По отделению этнографии.» Т.5. Спб., 1873):

Гэй, каб нам быць весялей!
Гэй, каб нам быць пасмялей!
Пойдзем, братцы, ў кабачок,
Вып'ем гарэлкі кручок.
Водка крэпка, мера спора,
Будзем піць — забудзем гора.
Братцы, як у добры год,
Завядзём тут карагод.
Пойдзем ад хаты да хаты,
Ці галыш хто, ці багаты;
Калі будзе весяло,
К нам збярэцца ўсё сяло.
Карп, як па калядзе з мехам,
Грошай альбо збожжа, смехам
Сабярэ, так будзе лад,
Будзем піць гарэлку ў рад.
Пілі бацькі і дзяды,
І мы ступім у іх сляды:
Яны гора не знавалі,
Гарэлку добра сцябалі.
Чалом, Грышка! Чалом, Дзёма!
Чалом, Кузьма! Заві Пахома!
Чаго яшчэ будзем чакаць?
Пара гарэлку піць, скакаць.
Памаўчы лепш, не сварыся,
З намі ідзі скакаць, Марыся!
Замаўчы й ты, Селівон!
Не замоўчыш, пойдзеш вон!
Дзядзька сядзіць, піпку курыць,
П'е гарэлку, вачмі жмурыць,
А дзядзіна не ўважае,
Цалкам чарачкі глытае.
Саўка скача, піша, пыша,
Умарыўся, ледзьве дыша,
Барыс — строгі целялёг,
Упіўшыся, пад лаўку лёг.

Селівон з Барыса шкеліць,
П'е гарэлку, лухту меліць,
За язык ў малік злавіў,
Аж лбом дзверы адчыніў.
Хвядос за вуглом казлы дзярэ,
А Мікіта носам арэ.
Ці ім чэрці надавалі?
Знаць, што мерку перабралі!
Нападаючы на Варку,
Хведар зацявае сварку.
Няхай жа ён не звініць,
Калі ў вуху зазвініць.
Усе з сабою ў драку сцялісь,
Сваe хахлы дзяліць узялісь.
На ліха вось тут аканом
Ўляцеў, награнуў з бізуном.
« — Табе, мужык, сваволіць досыць!
Свярбіць, знаць, тая ***, перцу просіць!»
Разсыпалісь усе нашы розна,
Куды папала, куды можна.
Адзін схаваўся быў пад стол,
Яго аконам — за хахол.

*Да Юлі (с. 35)*

Варыянт верша змешчаны ў лісце да Юлі Корсак ад 9.9.1837 г. Упершыню на польскай мове друкаваўся ў альманаху «Niezabudka» (T.I. 1840). Тры ягоныя страфы ўключаны аўтарам у раздзел «Полацак» з другога томіка «Шляхціца Завальні».

*Смутак (с. 36)*

Больш поўны варыянт верша змешчаны ў лісце да Юлі Корсак ад 3.12.1837 г. Упершыню на польскай мове друкаваўся ў альманаху «Niezabudka» (T.III. 1842). 1839 г., пададзены ў альманаху як дата напісання верша, трэба лічыць памылкаю.

*Падарожжа (с. 36)*

Варыянт верша змешчаны ў лісце да Юлі Корсак ад 8.5.1839 г. Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.III. 1842).

*Матчын наказ (с. 38)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.I. 1840).

*Санет для В. П. Буйніцкай (с. 40)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.І. 1840). Прысвечаны Аўстэрберце Буйніцкай, якая жыла ў маёнтку Панова на Невельшчыне.

*Пачаноўская гара (с. 40)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.ІІ. 1841).

*Да Станіслава Юр'евіча (с. 42)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.ІІІ. 1842).
* Звестак пра Станіслава Юр'евіча ў нас няма.

*Да Іяганы А...віч (с. 44)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.ІІІ. 1842).
[1] Іягана А...віч — відаць, дачка беларускага кампазітара Антона Абрамовіча.

*Да моладзі (с. 45)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.ІІІ. 1842).

*Браткі (с. 46)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.IV. 1843).

*Зачараваны край (с. 47)*

Упершыню на польскай мове без подпісу друкаваўся ў альманаху «Niezabudka» (Т.IV. 1843). Аўтарства Я. Баршчэўскага даводзіць У. Дубоўка (гл.: «Salus populi»//Полымя. 1994. № 5).

*Санеты (с. 49)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (Т.V. 1844).

## БАЛАДЫ

*Русалка-спакусніца (с. 55)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.II. 1841).

*Дзве бярозы (с. 59)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.III. 1842).
[1] Газа — гатунак лёгкае тканіны.

*Роспач (с.64)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.III. 1842).

*Курганы (с. 69)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.III. 1842).

*Зарослае возера (с. 74)*

Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka» (T.IV. 1843).

## ПРОЗА

### *ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ, АБО БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ*

Надрукаваўшы балады, заснаваныя на беларускім фальклоры, Я. Баршчэўскі прыцягнуў увагу тагачаснае крытыкі да свае творчасці. Яму настойліва раяць не пісаць больш вершаваных твораў, а перадаваць пачутыя легенды і паданні прозаю. Так у Я. Баршчэўскага з'явілася задума расказаць пра свой край, сваю Беларусь, каб абудзіць беларускае нацыянальнае жыццё. «Шляхціц Завальня» выходзіў невялікімі томікамі ў 1844-1846 гг. (Дазвол цэнзуры на першы томік — 8 верасня 1844 г., на другі — 22 лістапада 1844 года, на трэці — 3 ліпеня 1845 г., на чацвёрты — 22 сакавіка 1846 г.)

*Колькі слоў ад аўтара (с. 81)*

[1] Выйшлі чатыры томікі. Відаць, Я. Баршчэўскі меркаваў уключыць у «Шляхціца Завальню» іншую колькасць раздзелаў, але з-за нейкіх (магчыма, фінансавых) прычынаў пазней давялося скараціць аб'ём; альбо гэтую ж колькасць раздзелаў планавалася раздзяліць на

шэсць томікаў. Аднак гаварыць пра незавершанасць кнігі няма падстаў.

*Нарыс Паўночнае Беларусі (с. 82)*

[1] Маюцца на ўвазе войны Егіпта з Турцыяй 1831—1833 і 1839—1840 гг. Францыя ў гэтых сутыкненнях падтрымлівала Егіпет.

[2] У 1832 г. у Англіі была праведзена парламенцкая рэформа. Неўзабаве ў краіне разгарнуўся так званы чартысцкі рух за наданне палітычных правоў працоўнаму народу і дэмакратызацыю парламенцкае сістэмы.

[3] Размова ідзе пра першую «опіумную» англа-кітайскую вайну 1840—1842 гг.

[4] У 1837 г. з'явілася першая чыгунка ў Расіі (Пецярбург — Царскае Сяло). У гэты час інтэнсіўна вялося будаўніцтва чыгунак на Захадзе.

[5] У 1839 г. французскі мастак Луі Дагер (1789—1851) вынайшаў фатаграфію (дагератыпію).

[6] У кнізе «Россия: Полное географическое описание нашего Отечества» (Спб., 1905. Т.9. С.450), дзе пададзена гэтае ж паданне, курган называецца «Княжая Магіла».

[7] У «Niezabudce» на 1841 г. змешчаны балады «Русалка-спакусніца» і «Дзявочая крыніца», а на 1842 г. — «Дзве бярозы» і »Курганы».

[8] Слова «жыд» не мела ў той час зневажальнага значэння.

[9] Музыка, музыкі — гэтак даўней называліся ў беларускіх вёсках танцы.

[10] Паводле каталіцкага календара; у праваслаўных — паводле старога стылю. Розніца ў XIX ст. складала 12 дзён.

[11] У Пецярбурзе Я. Баршчэўскі жыў, відавочна, з 1817 да 1847 г.

[12] Гэты нарыс друкаваўся таксама асобна ў альманаху «Rocznik Literacki», т.I, 1843 г. і ў перакладзе Л. Кавеліна на рускую мову ў газеце «Иллюстрация», т. II, 1846 г., № 10.

*Шляхціц Завальня (с. 89)*

[1] Шляхціц на загродзе — дробны шляхціц, які меў невялікі маёнтак з абгароджанай сядзібаю.

[2] Квестар — манах, які збірае ахвяраванні на кляштар.

[3] Уліс — Адысей.

[4] Прэфект — загадчык, інспектар або настаўнік рэлігіі ў школе.

[5] Пачатак беларускае «Каляды для малых дзетак», папулярнага твора XVIII ст., які гучаў так:

Розкаю дух святы дзетачкі біць радзіт,
Розкаю бінамне здоров не завадзіт;
Розка папужае розум да галовы;
Учыт пісьма; а бароніт злой мовы;

Розка родзічам паслушнымі чыніт;
Розка выпушчает а учыт латыні;
Розкаю хоць б'е, не паломіт косці;
Дзетак гамует ат ўсякай злосці...
На малых добра розка беразовая,
А старым карбач, або насека дубовая.
Звязда дзеткам тую каляду дае,
Прето ж ей за нюю нех жадзен не лае.

*Апавяданне першае.*
*Пра чарнакніжніка і пра цмока,*
*што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем (с. 94)*

[1] Масонам.

[2] Арандатара. Арандатарамі называліся ў той час і габраі, якія атрымлівалі дазвол на гандаль гарэлкаю з панскіх бровараў. Слова ўжываецца тут у гэтым значэнні.

[3] Маецца на ўвазе старажытная беларуская калядная гульня «Жаніцьба Цярэшкі».

[4] Юбілеі рымска-каталіцкая царква адзначае праз кожныя 25 гадоў ад нараджэння Ісуса Хрыста. Юхавічы — сёння вёска ў Расонскім р-не.

*Апавяданне другое.*
*Зухаватыя ўчынкі (с. 110)*

[1] Пасля 12 ліпеня паводле новага стылю.

[2] «Вясельную песню сіраціне» выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці Валяр'ян і Юльян Грымалоўскія («Вершаваныя творы», Пецярбург, 1837), а таксама Аляксандр Гроза (паэма «Марына»). Р. Падбярэскі цытуе яе ў сваім артыкуле «Беларускае вяселле» ў газеце «Иллюстрация» (1848. Т.6. № 1).

*Апавяданне трэцяе.*
*Вужовая карона (с. 121)*

[1] У кнізе па-рознаму даецца напісанне гэтага прозвішча, але, бясспрэчна, паходзіць яно ад вёскі Марогі (сённяшнія Мурагі), малое радзімы Я. Баршчэўскага.

*Полацак (с. 140)*

[1] Мясцовасць навокал Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (збярогся часткова) і Спаса-Ефрасіннеўскае царквы, помніка XII ст., пабudаванага дойлідам Іаанам па замове Ефрасінні Полацкае.

[2] Не збярогся. Знаходзіўся на Ксавер'еўскіх могілках.

[3] Пісьменнік мае на ўвазе апошнюю адбудову храма св. Сафіі пасля яго разбурэння ў час Паўночнае вайны (1710). Базыльянскі ордэн

(брацтва св. Васіля Вялікага) быў уніяцкім. Пасля скасавання царскімі ўладамі царкоўнае уніі на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага (1839) ордэн быў распушчаны, а Сафійскі сабор перадалі праваслаўным.

[4] Час незваротны (лац.).

[5] — Божа, з чаго ж мы пачнём?
— Са знаку святога крыжа.
— Што ёсць знак святога крыжа?
— Ёсць абарона цела і душы.
— Дык зробім знак святога крыжа!
— Дык зробім! (лац.)

[6] Выдаўцом першых трох томікаў «Шляхціца Завальні» быў Ян (Іван Фёдаравіч) Эйнерлінг — літаратар, педагог, выдавец. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі ў канвікце, г. зн., платным пансіёне, куды заможныя гараджане (у тым ліку і расіяне) аддавалі сваіх дзяцей. У 30-я гг. XIX ст. напісаў і выдаў шэраг падручнікаў французкае мовы і геаграфіі. У 1842—1843 гг. «по высочайшему повелению» выдаў у трох кнігах дванаццацітомную «Историю государства Российского» М. М. Карамзіна, ахвяруючы свой уласны капітал (больш за 100 тыс. руб.).

[7] Строфы з верша Я. Баршчэўскага «Да Юлі», цалкам змешчанага ў альманаху «Niezabudka» на 1840 г.

*Рыбак Родзька (с. 143)*

[1] Трытон — у грэцкай міфалогіі марскі бог, сын Пасейдона і аднае з нерэід Амфітрыты. Трытонамі таксама называюць марскія істоты, што трубяць у ракавіны, суправаджаючы Амфітрыту і Пасейдона.

[2] Нептун — бог мора ў старажытнарымскай міфалогіі; у старажытнагрэцкай міфалогіі — Пасейдон. Амфітрыта — у грэцкай міфалогіі адна з нерэід, багіня мора, дачка Нерэя і Дарыды, жонка Пасейдона.

[3] 6 студзеня.

[4] Старшы ксёндз у парафіі. Тое самае, што і пробашч.

[5] Беларускія паданні пра гэтае возера выкарыстаў Аляксандр Гроза ў паэме «Глухое возера».

[6] Страфа з уніяцкага гімна «О мой Божа, веру Табе».

*Сляпы Францішак (с. 163)*

[1] Прок — цар Альбы-Лонгі.

[2] Амулій, у рымскай міфалогіі цар Альбы-Лонгі. Пазбавіўшы трону і выгнаўшы свайго старэйшага брата Нумітора, пасвяціў ягоную дачку Рэю Сільвію ў вясталкі, каб яна не мела дзяцей.

[3] Рэя Сільвія, вясталка, у рымскай міфалогіі маці Ромула і Рэма, дачка цара Альбы-Лонгі Нумітора. Вясталак — жрыц багіні святога агню Весты — выбіралі з дзяўчатак 6–10 гадоў; яны павінны былі захоўваць цноту на працягу 30 гадоў.

[4] Фаўстул, пастух, разам са сваёй жонкаю Аккай Ларэнціяй выхаваў Ромула і Рэма.

[5] Інфлянты — прыбалтыйскае княства, якое з XII ст. знаходзілася ў залежнасці ад Полацка. У XIII ст. захоплена крыжакамі, а ў час Лівонскае вайны — войскам Івана Жахлівага. Па Ям-Запольскай мірнай дамове (1582) частка Інфлянтаў (Дзвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі і Дрысенскі паветы) увайшлі ў склад Рэчы Паспалітае. Цэнтрам Інфлянтаў быў Дзвінск (сёння Даўгаўпілс). Асноўнае насельніцтва — беларусы і латышы.

*Апавяданне шостае. Плачка (с. 165)*

[1] Больш вядомая як уніяцкі гімн «О мой Божа, веру Табе».

[2] Гэта грошы Вялікага княства Літоўскага, пра што сведчыць герб Пагоня. Што да выяваў каралёў, дык ад Крэўскае (1385) і да Люблінскае (1569) уніі на польскім троне сядзелі (з невялікімі перапынкамі) вялікія князі літоўскія; пасля Люблінскае уніі кароль Рэчы Паспалітае быў аднначасова каралём польскім і вялікім князем літоўскім.

[3] Самая дробная манета ў грашовай сістэме Вялікага Княства Літоўскага. 40 пенязяў складалі адзін грош. У Польшчы пенязю адпавядаў пенёндз. Словы «пенязь», «пенязі» у Вялікім Княстве Літоўскім першапачаткова азначалі грошы (параўнай «пенёндз», «пенёндзы» ў Польшчы).

[4] Манахаў.

*Бура (с. 176)*

[1] Камісар кіраваў некалькімі маёнткамі ў буйнога землеўласніка; яму падпарадкоўваліся кіраўнікі асобных маёнткаў — аканомы.

[2] Талер — грашовая адзінка; у Вялікім Княстве Літоўскім быў роўны капе (60 грошам).

*Арганісты з Расонаў (с. 181)*

[1] Слава Ісусу Хрысту (лац.).

[2] Аплатка — невялічкі праснак, зроблены з вады і мукі; у рымска-каталіцкай і уніяцкай цэрквах ім пасля споведзі прычашчаюцца вернікі.

[3] Філосаф — г. зн., студэнт класа філасофіі езуіцкае акадэміі; гэта быў шосты, перадапошні клас. Вышэй — толькі клас багаслоўя.

[4] «Пра мастацтва паэзіі» (лац.).

[5] «Кожны згодзіцца з тым, што прыемнае — разам з карысным» (лац.).

[6] Марнасць марнасцяў (лац.).

*Апавяданне сёмае. Вогненныя духі (с. 183)*

[1] Віно весяліць сэрца! (лац.).

[2] Страфа з оды Ф. Д. Князьніна «Анакрэонтык да князя Адама Чартарыскага».

*Куцця (с. 195)*

[1] Клаўберг Ігнат Себасцьян (1753—1817) — таленавіты гравёр па медзі. З 1796 г. у Расіі, прафесар Пецярбурскае акадэміі мастацтваў. Выканаў шэраг партрэтаў расійскіх саноўнікаў, табліцы для атласаў, а таксама абразы і абразкі для езуітаў.

*Думкі самотніка (с. 197)*

[1] У Пецярбурзе.

*Апавяданне дзесятае.*
*Валасы, якія крычаць на галаве (с. 220)*

[1] Да пачатку 40-х гг. XIX ст. на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, якое было з 1772 да 1795 гг. далучана да Расійскае імперыі, дзейнічала не расійскае, а старое мясцовае заканадаўства, паводле якога чыноўнікаў на іх пасады не прызначалі, а выбіралі на шляхецкіх сойміках.

## *ДРАЎЛЯНЫ ДЗЯДОК І КАБЕТА ІНСЕКТА (с. 283)*

Першая частка (раздзелы «Што здарылася з Драўляным Дзядком» і «Кабета Інсекта») гэтае аповесці Я. Баршчэўскага была надрукавана ў пятым томіку альманаха «Niczabudka» на 1844 г. яшчэ да з’яўлення «Шляхціца Завальні». Другая частка — у восьмым томіку альманаха Казіміра Буйніцкага «Rubon» на 1847 г. ужо пасля выхаду «Шляхціца Завальні».

[1] Klauber svulpsit — Клаўбер напісаў па замове (ці Клаўбер пісаў па жаданню) ад лац. абрэвіятуры s(i) vul(tis) (scri)psit (ці s(i) vul(t) (scri)psit).

[2] Лаёла Ігнат (1491—1556) — дробны іспанскі шляхціц, што заснаваў ордэн езуітаў. Выбраны ў 1541 г. пажыццёва генералам ордэна, які быў апірышчам Контррэфармацыі.

[3] Баболя Андрэй (1591—1657) — манах ордэна езуітаў. Вызначыўся сваёй рэлігійнаю дзейнасцю ў Бабруйску і Пінску. Падчас вайны ў 1657 г. быў замардаваны казакамі.

[4] Ксаверый Францішак (пам. у 1552) — пакутнік і святы каталіцкае царквы, адзін з першых місіянераў езуіцкага ордэна ў Азіі.

[5] У другой частцы аповесці замест крыптаніма З... пададзена поўнае прозвішча гаспадара — пан Зямельскі.

[6] У 1820 г. царскія ўлады забаранілі дзейнасць езуітаў у Расіі.

[7] Фактар — пасрэднік, ад лац. factor — той, хто выконвае.

[8] Гэтая частка аповесці закончана ў 1843 г. Змяшчаючы яе ў альманаху»Niezabudka» (т.5 на 1844 г.), Я. Баршчэўскі абяцаў працяг у наступным томе.

[9] Першая страфа «Ранішняе песні» Ф. Карпінскага.

[10] Феакрыт (канец IV ст. — I-я пал. III ст. да н.э.) — старажытнагрэцкі паэт, заснавальнік жанру ідыліі.Асобныя яго творы перакладаў С. Шымановіч.

[11] Геснер Саламон (1730—1788) — швейцарскі паэт і мастак. Пісаў на нямецкай мове. Аўтар зборнікаў «Ідыліі» ў прозе (1756) і «Вершы» (1762).

[12] Шымановіч Сымон (1558—1629) — польскі паэт-гуманіст. У гісторыю польскае літаратуры ўвайшоў як стваральнік цыкла «Ідыліі» (1614).

[13] Напрыканцы аповесці пазначана: «Працяг у наступным нумары».

## *ДУША НЕ Ў СВАІМ ЦЕЛЕ (с. 317)*

Упершыню надрукавана на польскай мове ў кнізе : Proza i wierszy. Kijów, 1849. Cz.1.

[1] Валынь — гістарычная частка Вялікага Княства Літоўскага. Сваю назву атрымала ад г. Валынь, якога сёння няма. Уключае ў сябе беларускае і ўкраінскае Палессе.

[2] Цуднаў — сёння гэта ўкраінскі горад Чуднаў.

[3] Падолле — гістарычная частка Вялікага Княства Літоўскага, гвалтоўна далучаная ў 1569 г. да Польшчы. Ахоплівае тэрыторыю сучаснае Украіны па рэках Днестр і Паўднёвы Буг.

[4] Паводле тагачаснае перыёдыкі эпідэмія халеры на Валыні лютавала таксама ў 1848 г. А г. зн., што Франц Савіч, які жыў у той час там (мястэчка Янушпаль) ды ратаваў людзей ад пошасці, памёр у 1848, а не ў 1845 г., як сцвярджаецца ў нашым літаратуразнаўстве.

[5] Умань — горад на Украіне, дзе ў 1786 г. казацкія атрады Гонты і Жалезняка выразалі ўсё насельніцтва.

[6] Трамбецкі Станіслаў (1739—1812) — прыдворны паэт апошняга караля Рэчы Паспалітае Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пісаў

байкі, сатыры, оды, паэмы, панегірыкі. Адзін з самых славутых яго- ных твораў — «Сафіеўка».

[7] Тракцір — карчма. У Адэсе, пэўна, ужо ўсталяваліся расійскія найменні.

[8] Залескі Юзаф Багдан (1802—1886) — польскамоўны паэт-раман- тык, для якога Украіна і ейны люд сталі прадметам любові і настальгіі.

[9] Мальчэўскі Антон (1793—1826) — польскамоўны паэт-раман- тык. Паходзіў з Валыні. Аўтар выдадзенае ў 1825 г. паэмы «Марыя», названай ў падтытуле «ўкраінскаю аповесцю».

[10] Гашчынскі Севярын (1801—1876) — польскамоўны паэт-раман- тык. Родам з Украіны. Самы славуты ягоны твор — паэма «Канёўскі замак», у якой апавядаецца пра часы гайдамаччыны.

[11] Падура Тамаш (1801—1871) — польскамоўны і ўкраінскамоўны паэт. Вывучаў і выкарыстоўваў у сваёй творчасці ўкраінскі фальклор.

[12] Піятроўскі Канстанцін — польскамоўны паэт і перакладчык. Аўтар выдадзенага ў 1836 г. у Бярдзічаве зборніка вершаваных тво- раў. Добры сябра Я. Баршчэўскага.

[13] Трантоўскі Браніслаў Фердынанд (1808—1869) — папулярны тагачасны філосаф. У сваіх творах выказваў ідэі месіянізму.

[14] Быхавец Юзаф (1778—1845) — філосаф і літаратар. У сваіх пра- цах развіваў вучэнне Канта ў духу антрапалагічнага ідэалізму.

[15] Бохвіц Фларыян (1794—1856) — філосаф. Выступаў з крыты- каю матэрыялізму і антырэлігійных настрояў. Свае творы выдаваў у Вільні.

## ДРАМАТУРГІЯ

### *ЖЫЦЦЁ СІРАТЫ (с. 337)*

Упершыню на польскай мове ў кнізе: Proza i wiersze. Kijów, 1849. Cz. 1.

[1] Мястэчка Сіроціна і маёнткі Мосар і Лоўжа — сёння вёскі ў Шумілінскім раёне. Мосар у сярэдзіне XIX стагоддзя належаў бела- рускаму польскамоўнаму літаратару Вінцэнту Газдава-Рэвуту, сябру Яна Баршчэўскага.

# ЛІСТЫ

Карэспандэнцыя Я. Баршчэўскага друкуецца ўпершыню. Лісты да Ю. І. Крашэўскага захоўваюцца ў Ягелонскай бібліятэцы (Кракаў). Сігнатура $6456^{IV}$. Арк. 65-66 адв. Выкарыстаны Т. С. Грабоўскім у артыкуле «З польска-беларускага памежжа» (Księga pamiątkowa ku czci Stanisława Pigonia. Kraków, 1961), дзе пададзена і факсіміле аднаго з іх.

Лісты да Юлі Корсак — уласнасць Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Сігнатура КП 7324. Паходзяць са збораў Вацлава Федаровіча. Упершыню былі выкарыстаны Wit. F. у зборніку «Z okolic Dźwiny» (Віцебск, 1912). У 20-х гг. краязнавец Даніла Васілеўскі ў сваіх публікацыях у часопісах «Аршанскі маладняк» (1925. № 2), «Полымя» (1925. № 5), «Маладняк» (1928. № 1) пазнаёміў літаратурную грамадскасць са зместам 31 ліста Я. Баршчэўскага. Напачатку 80-х гг. Генадзь Кахадоўскі працаваў з 28 лістамі («Маладосць». 1984. № 10). Наша публікацыя лістоў да Юлі Корсак сталася магчымай дзякуючы дазволу і спрыянню дырэктара Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Акуневіч В. І., загадчыцы Віцебскага музея літаратуры Казловай С. М., а таксама старэйшага выкладчыка Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Таранеўскага В. У.

*1. Юлі Корсак (с. 405)*

[1] Д. Васілеўскі лічыў, што Юля — гэта другая жонка Гаўдэнтыя Шапялевіча, а ейнае дзявочае прозвішча — Корсак. Гэтую думку падтрымаў і Г. Каханоўскі, дадаўшы, што «ладу ў сям'і было няшмат, і муж едзе ў Пецярбург, піша свае манерныя вершы ў стылі класіцызму». На самай справе жонку Гаўдэнтыя звалі Юля (праўда, не Адамаўна, а Іванаўна), але Я. Баршчэўскі пісаў лісты не да яе, а да сястры свайго сябра, якую таксама звалі Юля. Звестак пра яе мужа, ягоны лёс у нас няма. Але напрыканцы 30-х і ў 40-х гг. ён, відаць, не жыў у маёнтку Рудня.

[2] Гэты верш у крыху змененым выглядзе і пад назваю «Для Элізы Л...» будзе змешчаны ў другім томіку «Niezabudki» (1841).

[3] У Я. Баршчэўскага: *цележку*.

[4] Апушчаны санет Я. Баршчэўскага «Успаміны ў дарозе».

[5] Апушчаны санет Я. Баршчэўскага «Наканаванасць», які ў крыху змененым выглядзе і пад назваю «Пакута» будзе надрукаваны ў трэцім томіку «Niezabudki» (1842).

[6] Францішкі Шапялевіч няма ў пераліку ўладальнікаў маёнтка Рудня ў інвентары за 1847 г. Верагодна, выйшаўшы замуж, яна, відаць, ужо жыла ў іншым месцы.

*2. Юлі Корсак (с. 406)*

[1] Дакладна вядома, што ў 1839-1841 гг. Я. Баршчэўскі жыў у Пецярбурзе ў доме купчыхі Касаткінай №14 па вуліцы Кананерскай.

[2] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Доўгімі начамі маркотны снежань...», які без дзвюх строфаў і пад тытулам «Смутак» будзе надрукаваны ў трэцім томіку «Niezabudki» (1842).

[3] Маецца на ўвазе Гаўдэнтый Шапялевіч.

[4] Гаворка пра Сербіновіча Канстанціна Сцяпанавіча (1796-1874), кандыдата Полацкае езуіцкае акадэміі (1809-1817). З 1818 г. працуе ў Пецярбурзе, спачатку ў Замежнай калегіі, пасля — у Міністэрстве народнае асветы. З 1836 г. служыць у Св. Сінодзе, займаючы розныя кіраўнічыя пасады, а таксама рэдагуе «Журнал Министерства народного просвещения».

*3. Юлі Корсак (с. 407)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Калі Усемагутны Бог...», які з нязначнымі зменамі будзе надрукаваны ў першым томіку «Niezabudki» (1840) пад тытулам «У дзень імянін Юзі О...» (Józi O...).

[2] Маёнтак Рудня знаходзіўся за дваццаць вёрст ад Невеля на рэчцы Ізоча.Язафат і Юзэфа Лазарэвічы-Шапялевічы (бацькі Гаўдэнтыя, Фелікса, Юлі і Францішкі) купілі яго ў 1813 г. Складаўся з фальварка і пяці вёсак: Пабоіна, Масеева, Макарцова, Лісейкава і Васількі. Усяе зямлі — прыкладна 700 дзесяцін (пазней засталося толькі 300), блізу 120 прыгонных душ (16 сем'яў). У 1847 г. уладальнікамі Рудні былі: Фелікс Шапялевіч, Юля Корсак, Юля Шапялевіч (удава Гаўдэнтыя) і яе дзеці.

[3] Пра сувязі Я. Баршчэўскага з маскоўскімі беларусамі сёння бліжэй невядома.

*4. Юлі Корсак (с. 408)*

[1] Апушчаны твор Я. Баршчэўскага «Сонца з аселіцы неба блакітнай...», частку якога паэт выкарыстае дзеля верша «Вясна ў сталіцы» («Niezabudka». Т. IV. 1843).

[2] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Сярод места, матыль, вясною сагрэты...»

[3] Г. Каханоўскі згадваў пра сувязі Я. Баршчэўскага з літаратарам з Віленшчыны Аляксандрам Здановічам («Адчыніся, таямніца часу». Мн., 1984).

[4] Пра гэта здарэнне гл. таксама ў газеце «Звязда», 1987, 22 снежня.

*5. Юлі Корсак (с. 409)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Дапазна ў самотным роздуме...»

[2] Гаворка пра «Noworocznik Literacki», выдадзены ў 1838 г. у Пецярбурзе кс. А. Красінскім.

[3] Я. Баршчэўскі памыляецца. Гэта верш польскага сябра А. Міцкевіча Стафана Гарчынскага з ягонага парыжскага зборніка.

[4] Гаворка пра падпалкоўніка Юзафа Буйніцкага і ягоную жонку Аўсэрберту, якія мелі маёнтак Ігнаполле з фальваркамі Крапіўна і Панова ў Невельскім павеце.

*6. Юлі Корсак (с. 410)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Спіць мора, уласканае незразумелаю сілаю...»

*7. Юлі Корсак (с. 410)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Паўночнае ззянне», частка якога надрукавана ў чацвёртым томіку «Niezabudki» (1843).

[2] Словы падкрэслены Я. Баршчэўскім.

[3] Аўстэрберце Буйніцкай.

*8. Юлі Корсак (с. 411)*

[1] Апушчана балада Я. Баршчэўскага, якая пад тытулам «Фантазія» будзе змешчана ў першым томіку «Niezabudki»(1840).

[2] У фальварку Панова Буйніцкія пабудавалі новы дом, у якім і жылі.

[3] У Буйніцкіх гадаваўся сын Юзаф, якому Я. Баршчэўскі прысвяціў верш «Малому Буйніцкаму», напісаны ў Панове ў 1839 г., а надрукаваны ў пятым томіку «Niezabudki»(1844).

*9. Юлі Корсак (с. 412)*

[1] Гаворка пра Марыю Янкоўскую, жонку надворнага саветніка Міхала Янкоўскага. Янкоўскія мелі маёнтак Заіванне ў Невельскім павеце. З роду Янкоўскіх паходзіла жонка Людвіка Штырмера Элеанора.

[2] Страчана частка ліста, у тым ліку і невядомая сёння балада.

*10. Юлі Корсак (с. 413)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Зычэнне».

[2] Відаць, Юзафа Буйніцкага.

*11. Юлі Корсак (с. 413)*

[1] Апушчана балада Я. Баршчэўскага «Цэлесціна», якая пад тытулам «Ніна. Фантазія» будзе надрукавана ў чацвёртым толіку «Niezabudki» (1843).

*12. Юлі Корсак (с. 414)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Як у падарожжы час вясёлы», які пад назваю «Падарожжа» будзе змешчаны ў трэцім томіку «Niezabudki» (1842).

*13. Юлі Корсак (с. 415)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Нябесныя духі», упершыню надрукаваны ў зборніку «Z okolic Dźwiny» (Віцебск, 1912).

[2] Невядома, ці тут ідзе гаворка пра рукапісную копію славутага міцкевічаўскага верша, упершыню надрукаванага ў 1836 г., ці пра невядомую літаратуразнаўцам публікацыю твора.

*14. Юлі Корсак (с. 415)*

[1] Апушчаны ўступ «Ноч» да вершаванае аповесці Я. Баршчэўскага. Твор гэты паэт меркаваў надрукаваць у першым томіку «Niezabudki», але цэнзар Г. Дукшта-Душынскі зняў яго (гл. наступны ліст). Пазней пад назваю «Фантазія. З часоў першага нашэсця татараў» ён будзе змешчаны ў трэцім томіку «Niezabudki» (1842).

*15. Юлі Корсак (с. 417)*

[1] Маецца на ўвазе сын Гаўдэнтыя і Юлі Шапялевічаў. Дзяцей у сям'і было шмат: Юльян, Ігнат, Міхал, Стафан, Радзіслаў, Юзэфа, Ядвіга, Валерыя. Старэйшы Юльян (нар. у 1829 г.) да 1864 г. служыў у Віцебскай губернскай управе сакратаром 3-га аддзелу. Меў чын тытулярнага саветніка.

[2] Гаворка пра газету «Tygodnik Petersburski», у № 84 за 1839 г. якога аб'яўлялася падпіска на альманах «Niezabudka».

[3] Караль Край у 1816-1853 гг. меў у Пецярбурзе друкарню, дзе ўбачылі свет творы А. Міцкевіча, выданні Р. Падбярэскага, пяць томікаў «Niezabudki» і першыя тры томікі «Шляхціца Завальні» Я. Баршчэўскага ды інш.

[4] Абсалюцыя — адпушчэнне грахоў.

[5] Экартсгаўзан — папулярны тагачасны філосаф-містык, які ў сваіх працах разглядаў містычны бок хрысціянскае навукі.

[6] Зборнік «Poezje» Аляксандра Ходзькі (1804—1891), выдадзены ў Пецярбурзе ў 1829 г., змяшчаў шэраг балад, заснаваных на беларускім фальклоры.

*16. Юлі Корсак (с. 419)*

[1] Апушчаны верш Я. Баршчэўскага «Дума».

*17. Юлі Корсак (с. 420)*

[1] Першы томік альманаха выйшаў у лютым 1840 г., а ў № 21 «Tygodnika Petersburskiego» Тамаш Буцельскі з Масквы змясціў на «Niezabudkę» рэцэнзію, напісаную 1 сакавіка.

*18. Юзафу Ігнату Крашэўскаму (с. 420)*

[1] Крашэўскі Юзаф Ігнат (1812—1887) — польскамоўны літаратар. Доўгі час быў звязаны з Беларуссю ды Украінаю, дзе ягоныя творы карысталіся аграмаднаю папулярнасцю.

[2] Маецца на ўвазе першы томік альманаха «Niezabudka» на 1840 г.

[3] Пасылаючы альманах Ю.І. Крашэўскаму, які ў той час ледзь не ў кожным нумары газеты «Tygodnik Petersburski» змяшчаў свае рэцэнзіі ды артыкулы, Я. Баршчэўскі пэўна ж спадзяваўся пачуць добрае слова ад «лепшага польскамоўнага літаратара ў краі». І сапраўды, праз месяц Ю.І. Крашэўскі напісаў рэцэнзію на «Niezabudkę» ды надрукаваў яе ў «Tygodniku Petersburskim» (1840. № 29).

*19. Юлі Корсак (с. 421)*

[1] Відаць, два тыдні (гл. папярэдні ліст).

[2] Міхал Грабоўскі, наколькі вядома, не надрукаваў аніякага водгуку на першы томік «Niezabudki».

[3] Гл. першы ліст Я. Баршчэўскага да Ю.І. Крашэўскага.

[4] Юля Корсак.

[5] Аўстэрберта Буйніцкая.

[6] У другім томіку «Niezabudki» надрукаваны адзін верш Г. Шапялевіча «Адно слоўца».

*20. Юлі Корсак (с. 422)*

[1] Гаворка пра другі томік «Niezabudki», які выйшаў з друку ў лютым 1841 г.

*21. Юлі Корсак (с. 423)*

[1] Рэжыца — сёння Рэзэкнэ ў Латвіі. Дата памылковая, трэба — «12 жніўня 1841 г.» (гл. наступны ліст).

[2] Маецца на ўвазе В. Газдава-Рэвут (каля 1815 — да 1883) — беларускі польскамоўны літаратар. Друкаваў свае творы ў «Niezabudce», «Roczniku Literackim», «Rubonie». У ягоны маёнтак Мосор наведваліся шматлікія літаратары краю: Т. Лада-Заблоцкі, Р. Падбярэскі ды інш.

[3] Пачатковая літара прозвішча напісана невыразна. Мажліва, трэба чытаць — Лінкевічу. Тытул прэзідэнта ў Вялікім княстве Літоўскім насіў кіраўнік горада, бургамістар.

[4] Выдавец звычайна дасылаў білеты — падпісныя карткі — сваім знаёмым, якія збіралі падпіску.

[5] Шадурскі Ігнат — буйны землеўласнік. Меў маёнткі ў дрысенскім (у тым ліку маёнтак Асвея), Дынабурскім і Рэжыцкім паветах.

[6] Браты Гымалоўскія — Валяр'ян, Клеменс, Юльян — беларускія літаратары першае паловы XIX ст. У 1837 г. У Пецярбурзе выдалі трохтомнік «Вершаваныя творы трох братоў Гымалоўскіх, Валяр'яна, Клеменса, Юльяна, беларусаў», дзе шырока пададзена беларуская тэматыка, матывы беларускага фальклору. Паводле сведчання А. Грозы, Гымалоўскія «хочуць свой беларускі дыялект вывесці з усеагульнага забыцця», каб пакласці «кутні камень новае, славянскага роду літаратуры».

[7] Казімір Буйніцкі (1788—1878) — польскамоўны пісьменнік, выдавец альманаха «Rubon». Жыў у маёнтку Дагда Дынабургскага пав. Віцебскае губ.

[8] Задума ажыццявілася. З 1842 г. пачаў выходзіць альманах «Rubon».

*22. Юлі Корсак (с. 424)*

[1] Маецца на ўвазе няўдалая аблога Стафанам Баторыем Пскова ў 1581 г.

[2] Гаворка пра Вінцэнта Давіда (1816—1897) — польскага паэта, аднаго з ініцыятараў выдання «Niezabudki». У 1837—1841 гг. Вучыўся ў Пецярбурскім універсітэце.

[3] Гаворка пра Станіслава Аўгуста Ляяховіча польскамоўнага паэта, перакладчыка, археолага. Супрацоўнічаў у «Tygodniku Petersburskim» і рэдагаваў «Niezabudkę».

*23. Юлі Корсак (с. 425)*

[1] Гаворка пра трэці томік альманаха «Niezabudka».

[2] Жукоўскі Рудольф (1814—1886) — беларускі мастак, графік, жывапісец, сябар Т. Шаўчэнкі. Удзельнічаў таксама ў афармленні іншых выданняў Я. Падбярэскага.

[3] Так у Я. Баршчэўскага.

[4] Доўгі час літаратурная грамадскасць лічыла Элеанору аўтарам твораў, якія напісаў Людвік Штырмер. У трэцім томіку «Niezabudki» змешчана ягоная аповесць «Урыўкі з дзённіка арыгінальна выхаванае кабеты».

[5] Словы падкрэслены Я. Баршчэўскім.

[6] Сварацкі-Сварык Павел, выхаванец Полацкае езуіцкае акадэміі, у 20-я гг. XIX ст. служыў у Пецярбурзе разам з К. С. Сербіновічам і Г. Шапялевічам. Дзе жыў у 30—40-я гг. — невядома.

*24. Юлі Корсак (с. 426)*

[1] 27 жніўня 1842 г. У Пецярбурзе Я. Баршчэўскі напісаў верш «Для Юзэфы Шапялевіч. Памяці яе матулі», надрукаваны ў «Niezabudce» на 1843 г.

[2] Гаворка пра трэці томік альманаха.

[3] Маецца на ўвазе «Rocznik Literacki» на 1843 г.

*25. Юзафу Ігнату Крашэўскаму (с. 427)*

[1] Пад імем свае жонкі Элеаноры выступаў у літаратуры палкоўнік Генеральнага штаба расійскае арміі Людвік Штырмер (1809—1886). З сям'ёй Штырмераў Я. Баршчэўскі падтрымліваў добрыя сяброўскія адносіны. Першыя аповесці Людвіка надрукаваны ў альманаху «Niezabudka».

[2] Падбярэскі Рамуальд (1812—1856) — выдатны дзеяч беларускага руху 40-х гг. XIX ст. Быў ініцыятарам абуджэння літаратурных сілаў на Беларусі. Ягонаму пяру належыць першы нарыс гісторыі беларускае літаратуры «Беларусь і Ян Баршчэўскі». Змяшчаў у выдаваных ім альманахах разнастайныя беларускія матэрыялы.

[3] Ю.І. Крашэўскі з 1841 г. выдаваў літаратурна-гістарычны часопіс «Athenaeum». На працягу 11 гадоў выйшла 66 нумароў.

[4] Р. Падбярэскі надрукаваў гэтыя творы ў сваім «Roczniku Literackim» (1843. Т.1), а аповесць «Фрэнафагіюш і Фрэналесты», адрэдагаваўшы без дазволу аўтара, выдаў яшчэ і асобна, далучыўшы 30 ілюстрацый.

*26. Юлі Корсак (с. 427)*

[1] Маецца на ўвазе трэці томік альманаха.

[2] У Пецярбурзе хадзілі чуткі, што Р. Падбярэскі, атрымаўшы грошы ад падпісчыкаў, не збіраецца выдаваць свой «Rocznik Literacki».

*27. Юлі Корсак (с. 428)*

[1] Брат Гаўдэнтыя, Юлі, Францішкі. У «Памятной книжке Витебской губернии на 1878 год» пазначаны як уладальнік маёнтка Рудня.

[2] У чацвёртым томіку альманаха змешчаны два творы Г. Шапялевіча: урывак з паэмы «Псіхея» і верш «Рубон». Але яны, відаць (гл. наступны ліст), былі дасланы ці перададзены Я. Баршчэўскаму раней.

*28. Юлі Корсак (с. 429)*

[1] У чацвёртым томіку «Niezabudki» Я. Баршчэўскі змясціў 14 сваіх твораў, у тым ліку балады «Зарослае возера», «Рыбак», «Помста».

[2] Цэнзарам чатырох томікаў «Niezabudki» (апрача першага) быў П.І. Гаеўскі, яшчэ адзін выхаванец Полацкае езуіцкае акадэміі, сябра Г. Шапялевіча, К.С. Сербіновіча, П. Сварацкага-Сварыка. Пазней — дырэктар дэпартамента народнае асветы. Закончыў службу ў чыне сапраўднага тайнага саветніка.

[3] «Rocznik Literacki» выйшаў з друку толькі ў красавіку 1843 г., бо, па словах Р. Падбярэскага, «віньеткі з Парыжа ... прыплылі позна», хоць, як бачым, ужо ў снежні 1842 г. Я. Баршчэўскі бачыў гэтыя віньеткі.

[4] Гл. таксама другі ліст Я. Баршчэўскага да Ю.І. Крашэўскага.

[5] Анацэвіч Ігнат (1780—1845) — гісторык, прафесар (з 1827 г.) Віленскага універсітэта. З 1834 г. працаваў у Пецярбурзе, даследаваў вывезеныя з Беларусі архівы. Вывучаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага.

[6] Маецца на ўвазе «Нарыс Паўночнае Беларусі», упершыню надрукаваны ў альманаху «Rocznik Literacki» (1843).

*29. Юлі Корсак (с. 430)*

[1] Краснаполле — сёння вёска ў Расонскім раёне.

[2] Белікавіч Людвік — маршалак Полацкага павета. У 30-я гг. спрабаваў арганізаваць грамадзян Беларусі на барацьбу супраць гвалтоўнага скасавання царызмам Уніі. Уладальнік маёнтка Экімань.

[3] В. Газдава-Рэвут, апрача таго, што друкаваў свае творы ў «Niezabudce», яшчэ і актыўна дапамагаў распаўсюджваць альманах.

[4] Міньят — настаўнік Полацкае гімназіі. Зусім верагодна, што менавіта гэты малюнак краявіду Полацка Р. Падбярэскі выдаў асобна ў Пецярбурзе.

[5] Гаворка пра манахаў-базыльянаў Полацкага Спаскага кляштару, якіх І. Сямашка прымушаў адрачыся ад уніі, а яны мужна трымаліся ўсе гады пасля Полацкага Сабору 1839 г. Гліцэрыя — гаспадыня Шапялевічаў у Рудні.

[6] Відаць, гаворка пра пэўныя камерцыйныя інтарэсы.

[7] Маецца на ўвазе пяты томік альманаха, а таксама праца над празаічнымі творамі — «Драўляным Дзядком і кабетаю Інсектаю» ды «Шляхціцам Завальняю».

[8] У «Лістах з Палесся» («Tygodnik Petersburski». 1843. № 68) Людвік Штырмер (пад псеўданімам Гервазы Бомба) даволі крытычна ацаніў вартасці паэмы Г. Шапялевіча «Псіхея».

### *30. Юлі Корсак (с. 432)*

[1] Гаворка пра пяты томік альманаха.

[2] У «Roczniku Literackim» (1844. Т.2) змешчаны «Успаміны пра наведванне роднага краю».

[3] Ю.І. Крашэўскі надрукаваў у «Athenaeum» (1844. Т.1) апавяданне «Пра чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем».

[4] Гаворка пра Зянона Фіша, выдаўца «Zwiazdy». У гэтым альманаху змешчаны два вершы Я. Баршчэўскага.

## ДАДАТАК

### *Аляксандр Гроза*
### *Нечаканы госць.*
### *З аповесці пра Яна Баршчэўскага (с. 435)*

Аповесць А. Грозы «Нечаканы госць» напісана напачатку 50-х гг. XIX ст. і надрукавана ў 1855 г. У аснову твора, як паказваюць факты, пакладзены аповеды Я. Баршчэўскага пра сваё юнацтва, пра вучобу ў езуітаў. Пісьменнікі не маглі не сустракацца: Цуднаў, дзе ў маёнтку графіні Ю. Ржавускай правёў свае апошнія гады жыцця Я. Баршчэўскі, і маёнтак Салагубаўка ля Бярдзічава, дзе жыў А. Гроза, знаходзяцца побач. (Як, дарэчы, і мястэчка Янушполь — апошні прыстанак Франца Савіча). Зрэшты А. Гроза і не хаваў, што сюжэт аповесці звязаны з Я. Баршчэўскім і ягонымі творамі. Пра

гэта няраз у «Нечаканым госці» згадвае аўтар. Невыпадкова, думаецца, і шматлікія супадзенні перапетый лёсу галоўнага героя «Нечаканага госця» Севярына і Я. Баршчэўскага. Так, яны абодва паходзяць з беднае шляхты, абодва мусяць зарабляць на жыццё рэпетытарствам, абодва ў калегіі, а пасля акадэміі езуітаў выславіліся як паэты. Ну і вядома, у сувязі з каханнем Севярына згадваецца Максімавічанка Я. Баршчэўскага ды прысвечаны ёй верш «Дзеванька». З іншых невыпадковых супадзенняў адзначым толькі апісанне ў «Шляхціцы Завальні» падзей 1812 г. і апісанне сутычкі пад Кляс-ціцамі ў «Нечаканым госці»: Севярын, як і Я. Баршчэўскі, перачэквае бой расійскіх ды французскіх войскаў на «пясчаным беразе Дрысы». Такім чынам, аповесць А. Грозы «Нечаканы госць» можна лічыць творам пра юначыя гады Я. Баршчэўскага.

[1] Гаворка ідзе, як відаць, пра адну з прац Гумбальта Фрыдэрыка Аляксандра (1769—1859) — славутага нямецкага падарожніка і даследчыка прыроды.

[2] Інкасы — тытул манархаў старажытнае цывілізацыі на тэрыторыі Перу.

[3] Аквілея — горад у краіне венетаў (сучасная Італія). З 181 г. рымская калонія. У 452 г. Атыла з войскам гунаў дашчэнту разбурыў яго.

[4] Reverendissime (лац.) — прывялебны.

[5] Лінеуш Карл (1707—1778) — шведскі натураліст, батанік і заолаг.

[6] Буфон Людвік (1707—1788) — славуты французскі натураліст і літаратар.

[7] Банет Тэафіл (1620—1689) — швейцарскі лекар і вучоны.

[8] Канвікт — закрытая вучэбна-выхаваўчая ўстанова пры кляштары.

[9] Кантраданс — танец накшталт кадрылі з мноствам разнастайных фігураў, якія падзяляліся на шэсць частак. Выконваўся чатырма, шасцю, васьмю і болей парамі.

[10] Часткі кантраданса.

[11] Одзін — галоўны бог у скандынаўскай міфалогіі.

# ЗМЕСТ



## ВЕРШЫ



## БАЛАДЫ

## ПРОЗА

## ДРАМАТУРГІЯ



## ЛІСТЫ

*Пераклад М. Хаустовіча*

**Баршчэўскі Я.**

Б26 Выбраныя творы /Укладанне, прадмова і каментарыі М. Хаустовіча — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1998. 480 с., [4] л. іл.

ISBN 985-6318-26-2.

У кнігу ўвайшлі ўсе асноўныя творы аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага. Упершыню чытач мае магчымасць пазнаёміцца з усімі жанрамі творчасці гэтага выдатнага, яшчэ недастаткова вядомага шырокім колам грамадскасці, беларускага пісьменніка першай паловы XIX стагоддзя.

Гэта — сёмы па ліку том «Беларускага кнігазбору».

**УДК 882.6-8**
**ББК 84 (4Бен) 5**

*Кніга надрукавана на паперы,*
*пастаўленай ЗАТ «Аскадпэйпер».*
*Тэл. (017) 213-32-14*

*МФ «Беларускі кнігазбор» выказвае шчырую падзяку*
*прадпрыемству «Рытм» (ген. дырэктар М.Віткоўскі),*
*фірмам*
*«MOTOROLA» (кіраўнік В. Ленчык),*
*«Прырода» (ген. дырэктар Л. Гулевіч)*
*за дапамогу ў выданні гэтай кнігі.*

*Шчыра дзякуем таксама*
*Патэнтнаму бюро Алены Бяляевай*
*(тэл./факс (017) 222-30-08)*
*за рэгістрацыю таварнага знака*
*і назвы «Беларускі кнігазбор»*

Літаратурна-мастацкае выданне

ЯН БАРШЧЭЎСКІ

Выбраныя творы

Рэдактары В. А. Жуковіч, І. У. Саламевіч
Мастак М. Р. Казлоў
Тэхнічны рэдактар Н. Я. Гарбар
Карэктар М. А. Паддубская
Вёрстка А. А. Глекава

Падпісана да друку 17.06.1998 г.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 25,20+0,35 укл. Ум. фарб. адб. 26,46.
Тыраж 7000 асобнікаў. Зак. № 909.

Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор»
220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.1997 г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

# БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

*Выйшлі з друку кнігі серыі:*

ЯН ЧАЧОТ
Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ
Выбраныя творы

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ
Зборнік

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА
Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ
Зборнік

# БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

*Рыхтуюцца да друку:*

КУЗЬМА ЧОРНЫ
Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН
Выбраныя творы

ЛІТАРАТУРА СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ
Зборнік

ЯЎХІМ КАРСКІ
Беларусы

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
Творы, дакументы

ЦЁТКА (АЛАІЗА ПАШКЕВІЧ)
Выбраныя творы

*Не прамарудзьце з набыццём тамоў «Беларускага кнігазбору» — тыраж іх абмежаваны!*